# Змітрок Бядуля

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ



Рэдактар тома

І. Я. Навуменка

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі

Забродскай С. В.

# Змітрок Бядуля

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ

### ТОМ
### ДРУГІ

*

### ВЕРШЫ Ў ПРОЗЕ
### ЛІРЫЧНЫЯ ІМПРЭСІІ
### АПАВЯДАННІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

# ВЕРШЫ Ў ПРОЗЕ
# ЛІРЫЧНЫЯ ІМПРЭСІІ

## ПЯЮЦЬ НАЧЛЕЖНІКІ...

...Пяюць начлежнікі...

Слоў не разбярэш — надта закацістая песня, але зірнеш, адкуль плыве яна, і ўбачыш чырвоны слуп з чорнай каронай над лесам — гэта вогнішча начлежнікаў...

...Пяюць начлежнікі...

Зычная, маркотная песня лунае да неба, аж да зорак... Гэта стогн загнанага жыцця, жальба крывавай працы, споведзь доўгай нядолі, капанне веры пад ударамі цяжкай крыўды...

...Пяюць начлежнікі...

Якая моцная падмога ідзе ад цябе, шчырая святая песня!.. Нудным і вясёлым часам ты заглядаеш у нашы душы! Ты лечыш наша беспатольнае гора, ты аблягчаеш нашу працу, ты абціраеш кроў і пот, даеш надзею і моц і, малюючы шэрае жыццё, цешыш надзеяй на лепшае. Чуе цябе душа наша, і радуецца, і лунае разам з табой да светлага неба...

...Пяюць начлежнікі...

Шчыры напевы іх і поўны задумы, як цёмнае неба, каторае навісла над імі; як белыя туманы над рэчкай атуляюць яны душу тваю, і на клік гэтай песні звіняць струны твайго сэрца, а ў вачах слёзы блішчаць...

...Пяюць начлежнікі...

## МІНІЯЦЮРЫ

### I

### У ЧАСЕ ЗМЯРКАННЯ

У часе змяркання, калі ў маёй каморцы ўбогай, паміж хваль згусцеўшых ценей, пачывае таемны спакой... У часе змяркання, калі па ўсёй вёсцы гатуюць вячэру і кабеты

старанна прыхіляюць галовы да чорнага чалесніку і пільнуюць, каб страва не набегла...

У часе змяркання, калі на запыленым аконцы памірае апошні прамень зары вячэрняй, а недалёка на ганку хлопец на гармоніцы грае — устаюць, аджываюць успаміны мае, быццам анёлы белыя...

Бачу я пару маркотных вачэй, каторыя чаруюць мяне сваёй сумнасцю, сваёй сілай незвычайнай...

Адбіткі мінуўшчыны падымаюцца ў маім сэрцы, як крывыя крыжы на ціхіх магілках...

Ці толькі сны маладосці кіруюць чуткай душою маёй? Ці толькі цалаваць мне пустыя, пакрытыя пылам вазы, у каторых калісь-то ружовыя кветкі цвілі? Не адклікнецца мовай жывой пабітая скрыпка...

Не памаладзее старое сэрца... толькі ўспаміны мае не старэюць...

А каб у смутку сваім асалоду знайсці, я пабягу на абшырны дзядзінец паслухаць, як хлопец на жалейцы нешта ціхімі тонамі іграе. Я пабачу, як месяц сіяе над вёскай, як шэпча за рэчкай хмызняк, і сярод пахучай глухой ночы я знайду даўно жаданае забыццё...

## II

## ЛЯ КРОСЕН

Распусціўшы па мармурных плячах свае шаўковыя даўгія валасы, пяючы маркотную старасвецкую песню, сядзела дзяўчынка ля кросен і ткала.

І ткала белымі рукамі сваімі белы кужаль, і пазіралі яе вочы праз маленькую шыбіну не на вольху, каторая ківалася блізка, не на азярод высокі на гумне, а на сцежачку вузкую.

Ёй маркотна было — чакала яна, мо хто пяройдзе па сцежцы, мо хто песню яе пачуе сярод ночы і прыстане, каб украдкам паслухаць...

Тым часам месяц пранік праз аконца і пазіраў на дзяўчынку, на белы кужаль. Нейкім чароўным малюнкам пазалаціў ён усю ўбогую закураную хацінку...

Змоўкла дзяўчынка, бо здалося ёй, што яна сядзіць у зачараваным залатым хораме, аб каторым сівая бабулька ў вечар зімовы баяла...

Шырока расплюснуліся яе бліскучыя дзіўныя вочы, і выглядала яна быццам святы вобраз кемнага маляра...

## III

## НЕ ПЯЧЫ ГЭТАК, СОНЕЙКА!

«Не пячы гэтак, сонейка, на ўзгорку! Даўжэй лажыся цень, ад бярэзніку да самага поля, дзе я жну ярыну і ногі аб іржаннё калечу!» — гэтак не гаварыла, а толькі думала маладая ўдава, нахіленая над каласамі з сярпом у мазолістых руках.

— Гэй ты! — злосна і груба крыкнуў над яе вухам паганяты, каторы стаяў над падзённіцамі.— Чаго марудзіш?

Яна праўда няспрытна пачала жаць, бо задумалася.

Задумалася яна аб дзіцяці сваім:

«Недзе дома Яначка плача. Адзін, бедненькі, застаўся на цалюсенькі дзень з адной сухой сасулачкай... Мо з калыскі вываліўся, мо плача галодненькі?..» І давай зноў шчыра працаваць, бо здалося ёй, што хутчэй дзень пройдзе, працуючы хутка...

— Во, глядзіце,— загаманілі другія падзённіцы,— бачылі, яна нас падганяе, напэўна, ёй дзесятку падбаўкі далі!..

Не чула маладая ўдава злосных гутарак жней, нават не чула, як з гарачкі парэзала руку сваю сярпом... толькі як серп на крушню палажыла — ды пачала снапы звязваць, здзівілася: чаму гэта снапы чырвоныя зрабіліся? Чаму пышы васілёчкаў крывёй напоўнены?..

— Гэта ж ты руку парэзала! — крыкнулі ёй спуджаныя жнеі...

## IV

## СТАРЫ ПАСТАР

З вялікай торбай на плячах, з доўгай пугай у руках стаяў стары пастар на дзікім балоце і грэўся ля вогнішча. Сумна выглядалі пажоўклыя высокія стагі на лузе.

Пазіраў кудлаты пастар на далёкі гушчар за рэчкай, на далёкую горку, на каторай стаяла белая пустка старасвецкіх панскіх харомаў.

Пазіраў ён на блакітную закураную далеч, каторая, як велізарная шаўковая карона, абхапіла вярхоўкі пажоўклага лесу...

Стаяў стары пастар, як дуб, што пахінуўся да самай ракі.

Супакоен быў ён, здаецца, яму вядомы былі ўсе пытанні жыцця...

Вось схамянуўся ён, тупнуў нагой, ажно вада порснула з мокрага атопка, і чуць-чуць не сцебануў пугай малога хлапца, каторы ўзяў вялікую трубу бяроставую і хацеў затрубіць.

— Гэй ты, жэўжык! Табе яшчэ толькі на свісцёлцы свістаць, а трубу мне дай!

І кемна стары прылажыўся вуснамі да вузкага канца трубы, выпрастаўся і задзьмухаў.

Воклічы з усіх бакоў панясліся сумныя, працяглыя, зычныя... Каровы перасталі шчыпаць траву і ўставіліся вачамі на пастара.

«Што ён, ачмурэў? Здаецца,— думалі яны,— гэта ж яшчэ сонейка высока!» Але як не пачулі на крыжах сваіх пугі спрытных хлапцоў, то зноў хапіліся за яду.

— Эх, жэўжык, свішчы пакуль што на свісцёлцы лазовай! — сказаў пастар з усмешкай і, паставіўшы на месца трубу, абцёр пот з твару рукавом сваёй бравэркі...

## V

## ЗДАЛОСЯ МНЕ, ШТО СТРУНЫ НЕЙКІЯ РВАЛІСЯ...

Здалося мне, што струны нейкія рваліся, а кожная струна свой асобны тон выдавала, а тоны лучыліся ў адно цэлае і выйшла песня...

Здалося мне, што кожная хваля жыцця абагаціла новай ранай сэрца маё і ўсе раны склеіліся ў адно нешта балючае...

О, дзеўча, асцерагайся даторкнуцца ка мне кволай ручкай сваёй, бо нядоля пакрыла мяне сваёй горкай атрутай, гора заваражыла душу маю...

Пазіраючы на цёмны хмызняк, каторы нямыя малітвы шле ў неба, жудасныя казкі бае, пытаюся:

— Ці-ткі паўнюткую чарку горкага жыцця вып'ю да дна?

...Я ўстану раней доднікa, яшчэ вароты скрыпець не будуць, яшчэ скаціна на выгане не будзе, яшчэ вогнішча начлежнікаў за магілкамі на лагчыне не пагасне.

У расе сярэбранай памыюся, у рэчку люстэрную пагляджу на маладосць сваю ды пабягу далёка за вёску ў бор высокі, жудасны. Сяду на корч адзін-адным і пачну думу глыбокую думаці.

Аратай старэнькі будзе сцежачкай ехаць, зачне дапытвацца: «Чаго марнееш, хлопча, чаго замаркоціўся?»

— Ой, паслухай мяне, ратайка: боль мая, як саха твая! Грудзі мае, як ралля твая! Гора горкае мяне замучыла. Сам не знаю, не ведаю, чаму маркотнасць мае жыве і жалю сэрцу дадае!..

Не зразумеў мяне ратайка. Сцебануў пугай коней і паехаў. Затое зняў ён цяжар з душы маёй сваёй зычнай старасвецкай песняй. А маладосць мая стала кветкай.

Кветкай кволаю, каторая вяне, гібне ад сухавею... Страшэнна вые сухавей і пяском сівых галубочкаў засыпае, дождж на вёску наганяе...

А ў вёсцы ў курнай хацінцы за прасніцай сядзіць мая маці старэнькая. Не плача, не енча даражэнькая. Бо ўсе слёзы выплакала, усе енкі высыпала... Толькі ніткі нешта рвуцца, пальцы старыя не служаць.

Яе сэрца нешта чуе, і яна ўсё сумуе:

— Дзе ж сыночак родненькі? Дзе ж каласочак кволенькі? Нячыстая сіла яго закруціла, дзяўчынка яго падманула. Ой, пайду, пайду да знахара! Апошняе палатно аддам яму, хай варожыць ён, хай моліцца, хай у кнігах чорных вычытвае, каб сыночак вярнуўся да маці старай, паміраючай.

## ШАПТАЎ ЧАРОТ

Шаптаў чарот пад высокім дубам у шырокай затоцы ракі.

Дзікая качка кружылася над дубам.

Месяца не было, але была відная ноч...

І стары рыбак паехаў па абшырнай глыбокай плёсе, на чоўне-душагубцы, венцер паставіць.

Быццам маліўся высокі цёмны бор, і сумна было на дзікім балоце.

Развёў я вялікае вогнішча на самым беразе ракі...

Як залатыя пчолы, як песні маладосці, падняліся, лунаючы ўвысь, іскры... і гаслі адна за другой разам з маімі ўспамінамі светлай, шчаслівай маладосці.

Сумна было на дзікім балоце — і захацелася мне пець вясёлую песню, вольную песню. Але з таго часу, як мілая мая дзяўчына лягла ў халодную магілу, я перастаў пець...

І захацелася мне плакаць — але нешта каменем станула ў маім горле... Нейкім агнём пакрыліся мае вочы, і слёзы не пацяклі...

І шаптаў чарот нямым голасам сваім, нямы голас магілы абхапіў мяне, і я задрыжэў...

Месяца не было, але была відная ноч.

І сумна было на дзікім балоце, пад абшарам нямога блакітнага неба...

## РАЛЛЯ

Яшчэ сярод гушчароў ляжаў закарэлы снег, яшчэ свежыя лужыны лёдам ценькім пакрыліся, але вясна жыватворная ўжо запанавала над вёскай. Цёпла грэла сонейка, і пачалі пукацца маладыя бярозкі. У першы раз пасля доўгай сцюдзёнай зімы выбраўся малады аратай на свой шнур.

Паражагнаўся, яшчэ раз агледзеў новыя нарогі і схінуўся над сахой.

Як роўныя доўгія струны ляглі адна за другой чорныя барозны... Запахла свежым тлустым чарназёмам...

Ралля мяккімі грудкамі сваімі заблішчала сярод крушняў, на абшырнай даліне.

Дзе-нідзе бялелі сярод раллі леташнія карэнні траў.

Апусціліся вароны з старога дуба і пачалі зважны агляд раллі.

З крыкам прывалюхалі гусі.

Ажыла ралля...

Заківаўся, зашаптаў высокі дуб... Закалацілася сэрца аратая, абхапіў ён мазолістымі рукамі сваімі абсмалены пень на мяжы, і неяк само вырвалася з грудзей яго:

— Зямелька, матка наша!

Ніжэй апусціўся ён і пацалаваў свежую зямлю.

## РАТАЙ

**(Казка па Мультатулі)**

Звышку паліла сонейка. Кожны стараўся хавацца ў халадочку і выпіць крынічнай вады пад узгоркам, толькі ратай працаваў на полі да поту, выводзячы баразну за баразной.

Пад елкай ля крушні стаяў панскі паганяты і грымеў на яго: «Барзджэй! Не гультай! Толькі дармовыя грошы бярэш!»

— Ах, божухна! — уздыхнуў ратай-падзённік.— Як я хацеў бы быць прыганятым! Во каму добра!

І бог зрабіў гэтак.

Паважна, фанабэрыста хадзіў ён па мяжы, і турыў, і лаяў бедных ратаяў-падзённікаў.

Але прыехаў сам пан, і паганятаму прыйшлося перад ім знімаць шапку і кланяцца ў тры пагібелі.

— Ой, божухна! — уздыхнуў ён.— Я б хацеў зрабіцца панам! Во хто лоўка жыве!

І бог споўніў яго жаданне.

Быццам пава хадзіў ён у сваіх багатых пакоях. Усе кланяліся яму з пашанай ды ў вялікім страху чакалі яго ласкі. Поўныя свірны збожжа ажно аруды дубовыя ламалі і шмат золата абяцаліся даць яму.

«Ну што ж? — падумаў ён.— Каб не гэтыя зярняты, я бы панам не быў і нават з голаду памёр. Зярняты вартней усяго на свеце!»

І захацелася яму зрабіцца зярнятамі.

І бог паслухаў яго.

Зрабіўся ён жытнімі зярнятамі.

Набраў сейбіт поўную севалку жыта і выйшаў сеяць на мяккай раллі. За колькі дзён пусціліся залацістыя каліўцы ўверх і беленькія карэньчыкі ўніз пад зямлёй. Шаўковая рунь усю зімку праспала пад пакрыццём сярэбранага снегу, а летам вырасла, як лес, прыгожае каласістае жыта. Зямля выгадавала яго, як добрая матка — дзіцятка сваё.

«Нічога я не быў бы варт, каб не зямелька родная,— падумаў ён.— Ой, божухна! Я хацеў бы стацца зямлёй! У ёй уся сіла!»

Зрабіўся ён зямлёй. На тлусты пахучы чарназём аж люба было глядзець — проста сэрца весялілася!

Раніцай прыйшоў рупны селянін на поле, пералсагнаўся, запрог у саху кабылу і давай араць свой шнур, захопліваючы слаі ўсё глыбей і глыбей, быццам хацеў ён раскрыць самае сэрца зямлі сваёй...

І даўнейшы ратай зямелькі цяпер ізноў стаў думаць: «Што зямля без ратая? Без яго працы яна сама хлеба не дасць. Самае важнае і лепшае — гэта ратай!»

І стаў ён прасіць бога, каб зноў зрабіцца ратаем.

І бог ізноў зрабіў яго ратаем, якім ён спярша быў.

## ТОЛЬКІ ШТО БЯРОЗКА ПУКАЦЦА ПАЧАЛА...

Толькі што бярозка пукацца пачала вясной, толькі што пачуліся над ёй сярэбраныя званочкі жаваранкаў, як пастух засунуў сякеру за пояс, закінуў доўбню на плечы і пайшоў за пустку ў малады бярэзнік, выбраў самую гладкую, маладую і стромкую бярозку, крыкнуў «гэ!», размахнуўся і рассек яе вышэй пояса...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Быццам слёзы маладой дзяўчынкі, быццам светлая раса на кволых пралесках раніцай, буйнымі кроплямі пацёк сакавік белага, як сыр, мяса бярозкі...

Ай! Што робіш, пастух, нашто губіш жыццё маладое?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І гэтага мала — яшчэ шчырэй крыкнуў ён «гэ!», яшчэ шырэй размахнуўся і ёмка ўехаў сякерай у самае сэрца бярозкі...

Задрыжэлі яе цененькія галіны, задрыжэла яна ўся з макаўкі пад небам да карэнняў пад мохам зялёным...

Пацяклі з самага затоенага стрыжня ручайкі салодкай жыжкі па белай кары да бруднай зямлі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прылажыўся пастух вуснамі к ране, пачаў смактаць з нейкай дзікай смагласцю, нібы ваўкалак кроў чалавеччу...

Ай! Што робіш, пастух, нашто губіш жыццё маладое?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І гэтага мала — скінуў пастух свой залатаны кажух, ускарабкаўся спрытна на бярозку, выняў з-за падпярэжыны востры нож — і давай зрэзваць на венікі сочныя, мяккія, кволыя галіны бярозкі і пагубіў жыццё маладое...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А ён сам, як той камень бяздушны,— не дбае, не рупіць сумленне... і памерла маладая бярозка без пары... Высахла, засталася паміж таварак сваіх, нібы ацярэблены дрынголь... Не пяялі болей жаваранкі над ёй, бо драцяныя веткі вельмі калоліся.

Не ківалася яна, як другія, ад лёгкага ветру, бо як косць ацвярдзела, толькі калі ўжо моцны сухавей штурхануў яе, яна з нейкім енкам, быццам бабуля на пяколку, стагнала, енчыла і чуць-чуць прыхілілася... Прыхілілася да светлай лужыны на лагчыне і яшчэ мацней скрыпнула з крывавай крыўдай у другі бок, бо ўбачыла ў люстэрнай вадзе голы шкілет свой і анямела ад пераляку...

# АБРАЗКІ

## ПЛАЧ ПРАЛЕСКАЎ

Плакалі пралескі, дзеці вясны...

— Гэта раса на кволых пялёстках! — пяяў жаўранак і кружыўся над імі...

Фарбаваныя небам, узгадаваныя сонейкам, яны на чорнай зямлі не хацелі пеaccess нават ад маладзіка да ветаха вясенняга месяца... плакалі ды плакалі... Месцамі па лагчынах лядок стаяў, месцамі траўкі зазеляняліся...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Новыя нарогі панёс на плячах араты ад каваля; дзяцюк ахвотна быкоў накарміў. Палала зарніца над бярэзнікам. У вёсцы з закураных каміноў круціўся ўверх, быццам кудзеля, белы дым — гаспадыні сняданне рыхтавалі. Выйшла дзяўчына першы раз босая ў чыстае поле; убачыла, як пралескі слёзы льюць, ды сама заплакала.

— Ой, мяне за нямілага замуж выдаюць!

— Ой, пагубіла я леты маладыя свае!..

Абхапіла рукамі бярозку маладую ды абамлела разам з ёй...

А вакол плакалі пралескі, дзеці вясны...

## ПРЫТУЛІСЯ КА МНЕ

Прытуліся ка мне, дзяўчынка каханая! — бо сонейка заходзіць, бо цені гусцеюць, і каля млына над возерам устае, быццам белая воўна, пахучы туман...

А мо і праўда, што ў розных там замчышчах крыштальных ваююць паміж сабой рыцары дня з рыцарамі ночы?

А мо і праўда, што на пурпурных хмарках ручайкамі льецца чырвоная кроў?

А мо і праўда, што ў цёмным хмызе русалкі з доўгімі валасамі пяюць цяпер песні захаду?

Нешта казачнае бачу я ў багатых колерах неба...

Нешта таемнае варожыць мне вячэрняя зорка...

Сэрца маё пераглумачыць сабе ўсе гэтыя дзіўныя малюнкі.

Цені кладуцца над вёскай, цені гусцеюць на капюшыне за пусткай, і неяк робіцца сумна-сумна... Цямней і вялізней становяцца вочы твае, і душа мая тоне ў глыбокім моры іх ззяння.

У гэты самы час тку я са смутку свайго карону для шаўковых валасоў тваіх... Здаецца, ляцім з табою дзесьці далёка-далёка за рэчкай, за хмызняком...

Заскрыпелі варотамі касцы, зачырванелася вогнішча на пасецы...

...Прытуліся ка мне, дзяўчынка каханая...

## НУДА МАЯ

Як дзяцел асіну, дзяўбе мае кволыя грудзі няўпыннае гора...

Ці-ткі праўда, што душа мая загачана, нібы заваліўшаяся старая студня?..

Ці-ткі праўда, што светлая новая крынічка не знойдзецца ўжо для мяне?..

Я пакіну вёску родную, уцяку ад людзей; я апынуся далёка за балотамі ў старым цёмным-цёмным лесе. Выберу сабе дуплаваты дуб і давай жыць у ім!..

Хай ветры, быццам веялкай мякіну ад дабра, выветраць нуду з сэрца майго. Хай буралломы грымяць над галавой маёй, мо забуду боль страшны свой. Але нічога не паможа! Нібы смоўж да апенькі, прырасла ка мне нуда мая — яна гадавала мяне, яна і памрэ са мною!..

## ВЕЧАРАМ

Я сягоння хачу быць адным...

Зарніца пагасла над нямым-нямым ельнікам... Над высокім азяродам падняўся маладзік, нібы ценькая карупа. Павячэралі ўсе ў вёсцы і ляглі спаць; толькі адзін шчыры запознены араты яшчэ крочыць з поля; ціха і працягла са-

пе ён, змардаваны. Нізка апусцілі галовы галодныя быкі, ідучы мерным шагам. Пылу не падымаюць яны, бо раса прыціснула пясок на гасцінцы...

Я сягоння хачу быць адным і ўсё роўна не магу...

Дробным макам абсыпалі душу маю чорныя думы і не даюць супакою.

Я не магу быць адным...

Скора певень аб поўначы запяе, я лягу на ўзгорак ля крушні, але не засну: пачну на зорках варажыць да самай раніцы аб судзьбіне маёй...

## ЯК ПАМРУ...

Як памру, хай асінавы кол у курган мой доўбняй дубовай загоняць, бо душа мая людзям па вёсках супакою не дасць. Яна будзе шаптаць ім па начах аб нездавольнасці, аб сумнасці недасціглага далёкага свету. Людзі замарнеюць, не пазнаюць, з чаго марнеюць яны... Нешта захочацца ім — не даведаюцца, чаго ім хочацца... Пастух раней як заўсёды ў трубу затрубіць. Гаспадар малаціць пойдзе без пары... Бабуля будзе чакаць цуда якога-то, на паўночнае неба пазіраючы...

І душа мая не супакоіцца, пакуль расінкі па кветках не заплачуць, пакуль пажарышча ўсходу не зачырванее над борам... Пакуль людзі святла сонца не ўбачуць...

## ПАСТУШКА

Нібы ціхія старасвецкія псалмы, імшара нешта гаворыць.

Па сіўцу за панскім гарохам пасуцца гусі. Ледзь відаць здалёку хата палясоўшчыка.

«Эх! — думае маленькая пастушка, трымаючы лазовы дубец у руках.— Кіну гусей, хвароба іх не возьме! Пабягу дахаты зацiркі сербануць: надта есці хочацца...»

Але пабаялася.

Сонца пякло яе — галодную, смаглую. Абаперлася яна на сукаваты плот і быццам самлела... Тым часам гусі ўва-

браліся ў гарох. Накруціўся на тое ліха палясоўшчык, бацька яе, і, убачыўшы гэтую штуку, сцебануў малую дачку раз-другі дзягай сваёй сырамятнай. Дзяўчынка нават не заплакала, толькі заспяшалася і выгнала гусей з гароху і ўжо болей аб ядзе не думала...

— Найлепшае лякарства гэтым дармаедам! — крыкнуў палясоўшчык, адышоўшыся.

Прыйшлося маленькай пастушцы чакаць ужо позняга вечара... Хай раней панскія гусі пад'ядуць!.. Яе зацірка і вечарам не ўцячэ... на кірмаш яе не панясуць прадаваць...

## НЕ БЯЖЫ ЗА КВЕТКАЙ...

Не бяжы за кветкай сіненькай, што на дрыгве расце. Не перадавайся думам сваім маладым і гарачым. Не пазірай доўга на маладую прыгожую дзяўчынку, бо без пары загінеш! Занімашто прападзеш, хлопча!

Гаспадарка твая апусціцца; не будзе нават чаго да мякіны прымяшаць на хлеб. Як непрытомны, будзеш ты брысці па гасцінцу, і ўся вёска цябе на смех падыме, пальцамі нячыстымі аж у вочы тыкаючы.

Толькі жалейку слухаць ахвотнікам станеш; заўсёды рвацца будзеш на зоркі глядзець... Багаццем тваім будуць — вялікія боль у душы, горкія слёзы ў вачах... Але што выйдзе з гэтага?.. Равеснікі твае доднікамі будуць малаціць дабро тваё торпу за торпай, а ў цябе зуб аб зуб замалоціць. Равеснікі твае будуць сядзець у хатах тынкаваных, а праз тваю бравэрку дзіравую вецер халодны будзе свістаць...

...Не бяжы за кветкай сіненькай, што на дрыгве расце...

## БЯССОННАСЦЬ

Маці ўжо вугалле выгарнула з ямкі на чалеснік, раздзьмухала, запаліла лучыну і села за прасніцу, а я яшчэ нават не заснуў. Цёмна была доўгая восеньская ноч. У млыне за возерам блішчэў агонь, і чуваць было, як у канцы вёскі шумела малатарня. Я накінуў кажух на плечы і вый-

шаў з хаты. У блізкім фальварку загаўкалі сабакі, як пачулі мяне. Брыў я па вуліцы, чапляўся часта за мокрыя кусты. Гэтак дабраўся я да манежа, дзе жыта малацілі; спрытна і складна ішла праца ў таку, вясёлымі і здаровымі выглядалі твары...

У гэты самы час успомніліся мне словы: «У поце твару твайго будзеш ты есці хлеб свой!»

Во калі толькі чалавек можа быць шчаслівым на зямлі!..

## А МОЖА, І ПРАЎДА?..

А можа, і праўда, што пурпур над зарасляй рассыпае нейкая таемная багіня хмар?

А можа, і праўда, што кожную кветачку анёл фарбуе і салоўка песціць?

А можа, і праўда, што сэрца маё нейкая парваная струна, каторай калісь-то крануліся кволыя пальцы дзяўчыны прыгожай?..

А можа, і праўда, што жыццё маё, гэта нейкая цудная мара паўночы, каторая знікне, чуць толькі першы певень запяе?..

А можа, і праўда, што ў пажарышчы тваіх ясных вачэй палаюць замчышчы нейкіх старасвецкіх казак, каторыя варожаць салодкім шопатам сваім?..

Лес маўчыць і нічога не кажа; чарот у завадзі шуміць ды гэтаксама мала чаго гаворыць. Зоркі на мігі сваю гутарку вядуць...

## ЗАХАВАЮ НУДУ СВАЮ...

У чачоткавую шчыльную скрыню захаваю нуду сваю, закіну ў глыбокую затоку і сам зраблюся чыстым, як той снег, каторы яшчэ да зямлі не даляцеў. Пушчуся пад самае яснае сонейка, каторае абхопе мяне сваімі гарачымі касамі, і я зажыву, нібы кветка пад даглядам свядомага садоўніка. Я буду бачыць, як сонейка ўзыходзіць над борам, як вярбіна шаптункі свае з чаротам вядзе, як салоўка над пан-

скай сажалкай пяе, досыць з мяне. Нібы ралля расой, душа мая абмыецца светлымі думкамі, і жыццё маё пойдзе, як тая сцежка, па стромкай гары ўвысь.

## МАЦІ

Доўга брыў я па чужых людзях, далёка ад роднай вёскі сваёй. Доўга не бачыў я знаёмых і блізкіх мне людзей, не чуў родных сумных песень...

Нацярпеўшыся, заўсёды адзінокі ў цяжкай працы сваёй, я ўздыхаць нават саромеўся, бо чужыя людзі асмяялі мяне з ног да галавы. Не то што з парванай бравэркі маёй жартавалі, але і з праўдзівай душы маёй...

Я цярпеў і маўчаў.

Як цяжарная гіра, хіліла крывавая крыўда мой крыж; мозг у касцях маіх высах. Нешта смактала кроў маю, і чуў я нейкі голас таемны ў поўначы:

— Маці старая кліча цябе, чакае пестуна свайго. Па начах не спіць ды ўсё плача: чаму ты аб яе забыўся? Чаму ты яе пакінуў? Тваё поле не арана, благія суседзі каменнямі закінулі межы твае. Нават цыганоў ахвота не прабірае пераначаваць у пустцы тваёй...

— Хадзі!.. Маці старая заве цябе дамоў у родны куток... Яна слязамі сваімі абмые твае крывавыя раны... Сівымі валасамі прыкрые апухшыя ногі твае і прытуліць цябе...

Вырваўся месяц з-за блакітнай хмаркі, і яшчэ сумней зрабілася мне...

Павесіў я торбу на плечы, тужэй аперазаўся, убіў новы цвік у свой новы кій і павярнуўся тварам схудалым да роднага краю... Разлезлі атопкі мае, ногі мае аб вострыя камені калечыліся...

Але кожны кавалак дарогі ўліваў нейкую жудасную асалоду ў душу няшчасную маю, бо з кожным часам блізіўся я да сонейка майго, да маці маёй, да ўбогай вёскі, дзе я радзіўся...

І пагоды і непагоды панавалі пад небам...

Зайшло сонейка, ды ізноў узышло. Іграў пастух у трубу, дамоў жывёлу гонячы і ў поле гонячы...

Вось, дзякаваць богу, знаёмы шырокі гасцінец... Вось тая самая бярозка ля крушні, той самы ўзгорак, дзе жвір капалі, той самы хмызняк ля выгану.

Людзі едуць з поля — мяне не пазнаюць. Кажу: «Дзень добры!» — маўчаць.

Нейкім агнём напоўнілася душа мая, нешта спёрлася ў горле, і вочы туманам пакрыліся, убачыўшы рабункі ў гаспадарцы маёй. Дзікі крык зарэзанага вырваўся з грудзей маіх, і ў непрытомнасці абхапіў я дрыжачымі рукамі стары, абросшы мохам крыж, каторы ўжо безлічоныя годы стаіць на ўзгорку сярод вёскі...

Яшчэ як я малым хлопцам гусей пасціў у аднэй зрэбкай кашулі, быў ён ужо гэткі стары. Цяпер на старасці лет толькі ён адзін прымае мяне, нібы дзіцянё сваё... Яшчэ бліжэй прытуліўся я да яго, анямелы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ой, вялікая ахвяра людскога беспатольнага гора!.. Толькі ты плаціў каханнем за крыўду і здзек!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На шмат крыжах ужо мучылася сэрца маё акрываўленае... Шмат разоў душа мая поўнай смагай піла горкі напітак атручанай несправядлівасці...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шмат магілак выкапаў я ў грудзях сваіх для невыпаўненых маладых жаданняў і цяпер без нічога астаўся...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Доўга я плакаў пад старым крыжам у роднай убогай вёсцы, пакуль ужо і людзям надаела стаяць і дзівавацца, і сабакам брахаць надаела...

## ЦІ Я ВІНАВАТ?..

Думы, дзеці душы маёй, мне супакою не даюць.

Ці ўжо пад гэткай планетай дзяцюк нарадзіўся?..

Ці мо я сам вінават у нядбаласці сваёй?..

Саху я ў рукі не бяру; сякера вышчарбілася, нават і лучыны нашчапаць ахвоты нямашака. Суседзі смяюцца, што мазалёў як бы не было на руках маіх.

От пазіраў бы, як сонейка на балоце заходзіць і стагі залоціць... Як канюх плача над яварам... Цягаўся б начамі па хвойніку, апусціўшы галаву на грудзі, заламаўшы

рукі на плечы... Заўсёды ад маладзіка да ветаха гэтак рабіў бы...

Ці я вінават, што неяк люблю пазіраць, як жудасны лес моўчкі калышыцца пад ззяннем зорак паўночных?.. Ці я вінават, што люблю на чаўне па шырокім плёсе плыць... Над маёй галавой дзікая качка кружыцца, і салодкі смутак напаўняе душу маю, нібы келіх чыстай крынічнай вадою... Ці я вінават?..

## НАД САЖАЛКАЙ

Толькі што маладзік узышоў, і купаўся ён у сярэбраных хвалях, нібы шчупак... Быццам мармуровыя белыя авечкі, выглядалі хмары наўкола... Смачна спала вёска пасля цяжкай працы летняга дня. Косы навостраныя, кляпаныя віселі пад стрэхамі, прырыхтаваныя на заўтра... Толькі высокая вярбіна, над сажалкай расхіленая, аднадзінюсенька не спала...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бліжэй падышла яна да сажалкі і цуда ўбачыла ў гладзі люстранай вады: купаўся там анёл з распушчанымі шаўковымі валасамі. Над галавой яго быў залаты маладзік. На грудзях blішчэлі дыяментавыя пацеркі зорак. Плоткі маленькія плылі вакол, пазіраючы яму ў ясныя блакітныя вочы...

Не разумела дзяўчынка вясковая, што яна гэты воблік свой бачыць у вадзе, і зашаптала малітву — тую самую, каторую калісьці стары дзед вучыў яе... Гэтак стаяла яна здзіўленая, пакуль густы туман усё атуліў,— і ваду, і высокі чарот, і белыя кветкі з блакітнымі каптурыкамі, і доўгія пляцёнкі траў вадзяных.

## З АПОШНІМІ ПРАМЕННЯМІ

Па ўзгорку, па крушні, ззяюць апошнія прамені сонейка вясенняга...

Здаецца, шмат лучын над імшарай паліцца...

Здаецца, белыя, як снег, абрусы вісяць на высокіх азя-

родах пад небам абшырным... Здаецца, увышку, у разнаколерным моры, плаваюць сівыя рыбакі і з пурпурных невадоў высыпаюць у чоўны залатых шчупакоў...

Цямнее. Зоркі паказваюцца над вёскай. Вароты скрыпяць. Па дзядзінцах бабы дояць кароў, хлопцы адзяваюць цёплыя кажухі і выбіраюцца на начлег...

Ой, злавіў бы я на выгане самага найлепшага жарабца старасты багатага, разбіў бы каменем путы жалезныя, не закілзаў бы яго, а ўскочыў бы і пусціў пабрыкваць па абшырным полі, бо тутака, дома, усё клінам сышлося для мяне, бо тутака я сабе месца не знайду...

За рэчкай, там, за хмызняком, мой мілы друг жыве...

Пакармі, дзеўча, сабак атрутай смяртэльнаю, каб я мог без шуму дастацца к табе, каб бацькі твае злосныя не пачулі...

Я маю гасцінец для цябе — спадніцу шаўковую, белымі карункамі абшытую, чырвонымі фальбоначкамі пакрытую...

На ганку, пад густою рабінай, без слоў шмат чаго скажаш мне, ласкай сваёй ашчаслівіш сэрца маё і сваім шопатам здымеш нуду з душы маёй, быццам сярпом вострым ярыну густую...

## ДАЛЁКІЯ АГАНЬКІ

Сярод густой цемры паўночнай, сярод бесканечна налёгшых ценей, калі нельга ўбачыць, дзе вёска, дзе хмыза, а дзе чыстае поле,— блудзіў змардаваны небарака і ўбачыў здалёку дрыжачыя аганькі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Акрыляецца душа яго новай надзеяй, асвечваюцца вочы яго новым светам, забывае ён боль апухшых, пакалечаных ног, хатулёк на схіленых плячах робіцца лёгкім — ён ідзе толькі ў адзін бок: да гэтых далёкіх залатацудных аганёчкаў, каторыя, быццам зваліўшыеся зоркі, нешта баюць яму, абвараджваюць...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ідзе ён — ніколі не можа дабрацца да іх... Здаецца, вось-вось ужо блізка, хоць рукой падаць, аглядаецца: ані троху

бліжэй не дабраўся да іх... Твар яго потам халодным пакрываецца, млеюць рукі і ногі, а ён далей ідзе, доўга ідзе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не можа перакапацца, што ён ніколі не дабярэцца да іх... Ідзе — і весялей яму, соладка яму, хоць ногі не служаць, але ідзе ўсю доўгую, доўгую цёмную ноч...

А калі ўжо анёлы пачынаюць пяяць песню раніцы светлай, а калі ўжо палаючая зорка пачынае гарэць за рэчкай над борам, замардаваны чалавек ужо ляжыць на халодным камені, развесіўшы рукі абамлелыя ўніз...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Далёкія аганёчкі нават не сняцца яму ўжо, бо сэрца навекі біцца перастала і вочы навекі заплюснуліся...

## ЗАГАДКА

Вытапталі мы сабе месца сярод высокай травы на лузе ля ракі і селі, нібы ў шатры. Млела блізка рэчка сярод цішы летняй ночы, і праменні месяца залацілі нямы чарот...

Маўчала яна... Толькі сэрца маё не маўчала. Неяк мне хацелася нешта казаць ёй, але я не ведаў што.

— Загадай загадку! — выпаліў я раптам ні з таго ні з сяго.

Зірнула яна на мяне, а ў гэты самы момант месяц зірнуў на яе. Шаўковымі хвалямі былі распушчаны валасы па плячах. Ад іх ляглі па твары паўцені, і вочы глыбокімі зрабіліся, а яна зрабілася таемнай — здаецца, любіла і не любіла, жартавала і не жартавала, не то клікала да сябе, не то адганяла... І я не мог разгадаць...

Нямела ноч. Чорныя вольхі драмалі. Адны зоркі гаслі, і другія запаліліся.

Я не ведаў, ці мне ў пейкім забыцці, быццам мармуровую багіню, цалаваць, ці ж па гордасці адвярнуцца ад яе ды захаваць у сэрцы маладое, шчырае пачуццё...

Яна загадала загадку...

## ЛЯ ВАПЕННАЙ ГАРЫ

У дзікія горы пайду я, дзе гаротнікі ўвесь доўгі гарачы дзень без аддухі вапну капаюць...

Шпарка рухаюцца іх чорныя, мазолістыя рукі. Не выпростваючы спіны свае па колькі гадзін, яны рыдлёўкамі падкідаюць цяжкое каменне, нібы пярынкі...

Простыя вельмі людзі яны: верацъ наваг у нячыстую сілу ды, шчыра молячыся, незвычайнага цуда чакаюць... Адзін лахматы сівы вапельнік жудасныя казкі баіць перад сном, ажно палохаецца грамада ўся і туліцца бліжэй адзін к аднаму...

Добрыя людзі яны! Апошні кавалак хлеба аддаюць жабраку на дарозе...

Іду я да іх шэрай гадзінай, калі ля вялікай печы ў яме, дзе вапна паліцца, сядзіць дачка сівога вапельніка і гатуе вячэру. Цямней робіцца навокал, сумней становіцца расцяроб, ахоплены цёмнымі ценямі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чаму я палюбіў гэтую вясковую дзяўчыну? А яна,— нібы тая бярозка сярод поля,— як тая крынічка пад узгоркам, чыста яе сэрца... Быццам лічаныя, з'яўляюцца зоркі... падобныя да вачэй дзяўчыны...

## КВЕТКА

Апусцілася вясна на зямельку, сонейка падагрэла грудзі зямельчыны, і за выганам на мяжы кветка радзілася. Ноччу чыстая раса купала яе ды няньчыла; з блізкай вярбіны салоўка ёй алелуя пяяў; удзень праменні сонейка фарбавалі яе ды грэлі. Зрабілася кветка нейкай дзіўнай цацачкай сваімі разнаколернымі ляпёсткамі (пялёсткамі).

Нагнаўся араты быкамі сваімі, затуманіў люльку сваю і зараз бруднымі атопкамі гыц на кволую кветку, на дзіцянё блакітнага неба...

І быццам не было яе на мяжы ля выгана...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чалавеча! На манер песні здатнее мне гаварыць з табою. Ці дагадаўся ты, што гэта толькі малюнак паўночных думак тваіх?.. сон душы тваёй?.. калі твая душа пасля гуку

мінуўшага дня заплавала ў хвалях яснага супакою, калі зажадала яна нешта таемнага, незвычайнага, і, быццам кветка, быццам голуб белы, над ёй святочнасць запанавала, ты зямной бруднай карыснасцю сваёй затаптаў, знішчыў тыя кволыя расліны неба, і быццам не радзілася кветка ў душы тваёй...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чалавеча! Шкада мне цябе...

## НІБЫ РУПНЫ АРАТЫ...

Нібы рупны араты, выходжу я раніцай на дзядзінец яшчэ як сам бог спіць, здаецца...

Пад белым морам туману дрыжыць густы хвойнік на лагчыне. Над рэчкай месяц бляднее. Галавешкі начлежнага вогнішча яшчэ смалюцца пад сухім карчом. Бярэзнік ахоплен чырвоным морам усходняй зарніцы. Вароны пачалі крычаць і крыліцца над зялёнай елкай. Канюшына смачна запахла, і ў вёсцы вароты заскрыпелі...

Пасля бяссоннай начы, калі ў нейкай непрытомнай гарачцы мучыцца чалавек, і, быццам калючыя шышкі, думы абхапілі яго сэрца,— вельмі прыемна дачакаць усходу сонейка... жадаеш цеплаты яго і, пасылаючы на ўзгорку шчырую малітву дню, скідаеш, як непатрэбныя атопкі, думы начныя...

## СНІЛАСЯ МНЕ КАЗКА...

Снілася мне казка імшары кудравай...

Белы туман абхапіў рэчку, а цені паламанага плота мataліся па расістай мяжы...

На белым камені, пад дубам дуплаватым, сядзела дзяўчынка. Пяяць ёй хацелася, але заплакала...

— Не хадзіла б на вечарніцы, не ўбачыла б таго дзецюка з шаўковымі валасамі, і болю не мела б, і маркотнасці не знала б...

А цяперака свет ёй нямілы, сонейка не грэе.

Хадзіла па знахарах — не памагло. Зеллем паілі — не памагло.

Сядзе за прасніцай — ніткі рвуцца. Пачне аладкі пячы — смалюцца. Пойдзе кароўку даіць — дайніцу пераверне.

На белым камені, пад дубам дуплаватым, сядзела яна і сама сабе гаварыла:

— Куплю сабе каптур белы, смяртэльны, злажу накрыж рукі і на могілкі пайду... лягу на жоўты пясок ды болей не ўстану, бо свет божы не мілы мне, бо жыць болей не хочацца...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цямней зрабілася поўнач, бялей зрабіўся туман...

Снілася мне казка імшары кудравай...

## АРАТЫ

Была цёплая вясна. Над свежай раллёй кружыўся жаўранак і пяяў. Баразна за баразной лажылася пад сахой змардаванага аратая. Гарачы пот капаў з твару яго.

Тпрукнуў худой кабылцы і затуманіў люльку. Як затуманіў люльку, захацелася прылегчы. Лёг аратай на свежую мяккую раллю, быццам на падушку. Не вытрымаў ды заснуў.

Ой, не спі, малойча, разгарачаны на голай зямлі! Маці зямелька да сябе цягне бедных людзей. Сям'ю асіроціш!

Смачна спаў аратай, і страшэнныя сны сніліся яму — усе нябожчыкі і цені падмагільныя...

Прачнуўся ён з цяжарам у галаве, з колькай у левым баку. Але дзеля таго ж ён яшчэ фанабэрыўся ды араў да вечара.

Эй, малойча! Зямліца цябе цягне да сябе... сям'ю асіроціш!

На старых могілках узявіўся новы курганок жоўтага пяску.

Лёг у магілу сырую без пары аратай малады, нібы дуб падсечаны...

Кружыўся жаўранак над свежай раллёй пад блакітным небам...

## У ДОСВІТКУ

Я запалю лучыну ў досвітку і засяду за стол дубовы пад абразамі, бо сон мяне не бярэ і я толькі бакі пабіў аб голы тапчан...

Быццам разгневаны рой пчол, думы апанавалі мяне... Але нічога не зробіш — у сэрцы маім радзіліся яны, душа мая гадавала іх.

За акном рабіна ківаецца, і перад усходам цямней яшчэ робіцца на дзядзінцу.

На блізкім двары асвер заскрыпеў — напэўна, суседка толькі што скінула каромыслы з плеч: ёй трэба дайніцу вымыць і кароў даіць. Потым пабудзіць яна хлопца, і ён пагоніць карову на расцяроб, сам назапасіўшыся харчамі...

Бярэцца пад дзень. Святлее. Людзі за працу хапаюцца. Толькі я адзін не ведаю, за што ўзяцца.

Як толькі вырас я з сваёй зрэбнай кашулі, майму сэрцу цесна зрабілася ў грудзях і душы ў целе. Здаецца, лётаў бы вышэй гаю зялёнага, далей рэчкі блакітнай, туды, дзе сонейка ўзыходзіць, дзе фарбай пурпурнай яно хмаркі фарбуе. Здаецца, ахапіў бы ўвесь свет божы і зліўся ў адно з ветрам лёгкім, каб нешта цікавае, патрэбнае казаць убогім вёскам, каторыя, нібы апенькі на пасецы, рассеяны па ўсяму вялікаму абшару беларускіх раўнін і балот...

## ВОСЕННЮ

Яна сядзела на старым плоце з бярозавых парканін і пазірала на пажоўклы блізкі алешнік.

Асенні дзень удаўся сонечны, пекны, нейкія відзімыя чары панавалі ў паміраючай натуры... Смутак шчаміў грудзі. Даражэй стала лета, пазіраючы на сухія пянёчкі завяўшых кветак. Над грэбляй старага млына бурчэла вада, а ў гэтым шуме чулася песня русалак і плач старасвецкай музыкі. На стромкім беразе рэчак блішчэлі жоўтыя румянкі; яны былі яшчэ свежыя, пахучыя і хараством цешылі дзяўчыну.

У блізкай вёсцы гудзелі малатарні... Людзі прырыхтавалі на зіму харчы сабе і жывёле. Бульбу ўжо выбралі, ярыну пажалі. На белым іржышчы стаяла быдла з апушчанымі галовамі. Побач на мяжы дыміўся аганёк, вакруг яго

ёрзалі пастухі і пастушкі і кідалі з аднэй рукі ў другую печаныя гарачыя бульбіны.

Бачыла ўсё гэта дзяўчына ды задумалася. У светлых вачах яе адбіваўся блакіт асенняга неба; ціхія ўздыханні рваліся з яе грудзей. Непадалёк шаптаў ёй панскі сад:

— Яшчэ шмат разоў прад вачамі тваімі зацвітуць кветкі ды зноў завянуць... Але смутак смалой прырос да яе душы...

## НАШТО МНЕ...

Нашто мне мазгі круціць, якім аршынам мераць свой верш, якім гэблем гладзіць кожнае слова сваёй песні, калі сэрца перапоўнена, калі ў жылах кроў вельмі кіпіць і неяк само гаворыцца, само пяецца?

Пытайцеся ветра, ці мае ён мяжу, пытайцеся рэчкі, ці мае наказ яна — колькі вады пераліць з аднаго месца ў другое...

Кожнае слова маё — шчыры ўспамін убогай вёскі. Кожны радок маёй песні — малюнак перажыванняў гаротнага, простага беларуса. Хата мая не пад шнур будавалася, жыта маё прадаецца без вагі і меры — дабра свайго я нікому не шкадую...

## ЯК МУРАШКІ...

Як мурашкі корч, думы абхапілі душу маю, і я не магу заснуць, хоць даўно першыя пеўні прапялі. Грудзі мае прарыты нездавольнасцю, нібы гумно кратамі. Духу не хватае так далей трываць...

Крыкну на ўсю вёску ад болю — хай прачнецца гарапашны люд, хай перапужаецца. А я тым часам пабягу ў лес да старых карчоў, да вялікіх вываратнікаў. Дачакаюся там буралому; навальніца ўдара, засмаліць пярун, і маланкі пакрыюць неба чырвонымі крыжамі...

Асвяціцца на момант поле ды зноў пацямнее... Заціхне на момант бура ды зноў зашуміць...

## НЕ ПАЗІРАЙ НА МЯНЕ...

Не пазірай на мяне вачамі гэткімі бліскучымі, бо заглыбока пранікаюць яны ў маю душу і паляць мяне невядомым агнём...

Не прасі, каб я табе што-колечы гаварыў, бо ўсю праўду выллю перад табой і святасць наша згубіць сваю красу і прыме звычайную будзённую вопратку. Лепей будзем хаваць нашы казкі, наш яснацвет маладосці і назаўтра, каб святліца кахання нашага пустой не засталася. Будзем моўчкі слухаць, што нам зоркі пяюць, будзем моўчкі пазіраць, як русалкі за хмызняком танцуюць...

## АБ ЁЙ

Тады, як хачу вырвацца з заржавеўшых ланцугоў бесцікаўнага жыцця, я думаю аб ёй. Я магу ў думках да таго дайсці, каб тыя ўспаміны старадаўнія ясна аджылі перада мною. Тады жыццё маё малюецца мне сном, а сон — яваю... Гэта — хвілі, поўныя асалоды...

Не ўцякай ад мяне, цудная мара паўночная! Яшчэ поўнач не стукнула, яшчэ пеўні ў вёсцы не прапялі.

Я думаю аб ёй.

Я пазіраю на неба, а мо і яна ў гэту самую хвілю пазірае на неба і нашы блікі, пушчаныя ўдалеч, спаткаюцца на зорцы бліскучай...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бачу я родную вёску, бачу я на магільніку свежы ўзгорак — крыжы нібы спуджаныя стаяць вакруг... Гэткая маладая!..

Я сную паміж папарацей, пакрытых халоднай расой, і падаю вобземлю на магілку... цалую халодны пясок...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Астарэў я без пары, валасы мае выліналі, вочы прытухлі, крыж схіліўся, голас ахрып... Але ў гэтай парванай рэзгіне жыве маладое сэрца.

Толькі песні маюць уладарнасць над жыццём... Толькі дзеля казак трэба жыць на свеце...

## У ЗАВАРОЖАНЫХ КАЗКАХ

У заварожаных казках і снах купаецца жыццё — маладое маё. Я шлю мае напевы блакітнаму небу сонечнаму...

Усё ажывае пад сонейкам.

У парнасці зялёнага гаю чуцен пах кветак і сасновай растопленай смалы. Ціха палуднуе аратай пад высокім дубам на мяжы. Бикі зыгуюць, а за імі ганяецца хлопец з доўгай пугай у руках... Усё пакрыта залатым пылам сонечных праменняў.

Калі неба гэтакае яснае, дык што табе яшчэ трэба, чалавеча?..

Калі птушкі гэтак пяюць над алешнікам, дык чаго ты нудзішся?

Весяліся разам з кветкамі канюшыны, завадзі песні з крынічкай, і шчасліў будзеш...

## НА ГАЙ ВЫСОКІ...

На гай высокі я вочы свае падымаю, і сэрца кволае нешта ў блакітнага неба пытаецца... Цесна робіцца ў грудзях ад таго, што я адказу дачакацца не магу...

Ці гэтак я і апошні раз закрыю вочы свае, нічога не дачакаўшыся?

Я ў кусочкі паламлю саху сваю, быкоў сваіх на волю пушчу, кіну добрым суседзям морг свой камяністы і пайду брысці на дзікае балота — далёка ад людзей.

Ля завадзі, сярод чароту, сяджу я схілены ў тры пагібелі і не ўстану, не пайду, пакуль не зразумею самы лад жыцця людскога, як мае быць...

## НЕ ШУМІ...

Не шумі, човен, па явару, не пужай качак маладзенькіх, не псуй кветак белых з маленькімі гладышыкамі, з зялёнымі каптурыкамі...

Я дабяруся да самага плёсу шырокага, дзе на высокім беразе дзве бярозкі разам зрасліся, спляліся галінкамі

сваімі, толькі сякера вострая разлучыць іх... Часам сярод іх пахучых галін салоўка пяе адвечную песню кахання, і трэлі яго нясуцца па ўсім лузе абшырным...

Начамі не спіць адзінокі палясоўшчык, чуючы гэтыя песні. Ён сядзіць на прызбе ўбогай хацінкі сваёй, і добрыя вочы яго слязамі напаўняюцца...

Вершаліны бору асветлены месяцам, а ў доле на папараці дрыжаць іх велізарныя цені...

## СПАТКАННЕ

З кошыкам у руках я спаткаў яе на дзядзінцу і нібы заварожаны з таго часу зрабіўся.

Кажы мне, дзеўча, хто цябе надзяліў гэткімі чарамі? Чаму я ўсё думаю аб табе?.. Які бог жыве ў душы тваёй? Напэўна, ты самае пекнае стварэнне на зямлі.

Быццам дзед веялкай мякіну вытрасае з аўса, гэтаксама ты мае думы чорныя вытрасаеш ды ў панскі лес адсылаеш.

Усё жыццё сваё табе ахвярую; будзь ты ўладарніцай душы маёй, царыцай песень маіх!..

Сонейка ўсходзіць над борам, ці заходзіць над возерам, я ў цудных фарбах неба бачу цябе, каханая!..

## ШЧАСЦЕ НЕ Ў ЗОЛАЦЕ

Мыла дзяўчынка бялізну кужэльную ў крыніцы. Стаяла яна на кладцы, закасаўшы рукавы з вышыўкамі, распусціўшы валасы русыя, пяючы песні дзявочыя.

Ехаў гасцінцам багаты паніч, ехаў, ды застанавіўся — відаць, дзяўчынка спадабалася яму. І давай ён гэткую гутарку весці:

— Я маю зямлі сем валок, стады мае багатыя, коні мае дарагія, парабкі мае адзін у адзін, як тыя дубы на ўзгорку. Пайдзі за мяне замуж, дзяўчынка!

— Ой, не пайду замуж за цябе: не трэба мне золата, серабра, не трэба багатага молайца. Я кахала аднаго — ка-

хаць буду; цалавала аднаго — цалаваць буду. Ён у цябе парабкам служыць, па мне заўсёды тужыць...

Кланяўся пан нізка да зямлі — не памагло.

Кленчыў, як той жабрак пад акном,— не памагло.

Ой, шчасце не ў золаце, паны!

## ЯЕ ДУША

Яе шчырая душа ўвайшла ў сваю кемнасць, нібы канаўка ў рэчку... Новы ўзор выткала яна:

маладыя пралескі расцвіталі ў разарваным сэрцы, катарае было абведзена вянком бярозавых лісткоў. Вакол вянка блішчэлі на блакіце шоўку залатыя кроплі слёз... Здавалася, што гэта адсвечваецца ў сажалцы вячэрняе неба, засеянае залатымі зоркамі... Здавалася, што плыве гэты ўзор ды нешта дзіўнае баіць аб вёсцы і полі абшырным...

— Або-о-о! — здзівіліся ўсе.— Вось залатыя рукі ў Агаты!

І нейкім незямным шчасцем ззялі вочы маладой дзяўчыны...

## ЖАЛЬБА

Яна не галасіла, не плакала, а толькі ціхутка прычытвала:

— Не пабаюся гневу панскага!

— Не пабаюся нямой поўначы!

— Не пабаюся лесу цёмнага!

— Пабягу абарваная, галодная ў родную бедную вёску. Міну я братаву хату, міну вялікі выган, зайду на магільнік сумны да маці-нябожчыцы. Павалюся вобземлю на жоўты пясок, прытулюся гарачай галавой да халоднага крыжа, тварам урыюся ў мяккі курган, каб бліжэй было да труны матчынай...

— А ты, матачка, а ты, родная, забірай к сабе сірату сваю! Сірату сваю пакрыўджаную, адзінокую, няшчасную!.. Ой, дзеля чаго я радзілася на свет?..

...Яна не галасіла, не плакала, а толькі ціхутка прычытвала...

## ЗА ТКАНІНАЙ

Слязамі мачу я шаўковыя тканіны панскія; кожны новы ўзор новым уздыхам спатыкаю. З кожным новым днём новай хваробаю хварэю... Затое тканіна на кроснах даўжэе, труба на вальку таўсцее... Балючы крыж мой хіліцца — затое ўзоры мае пякнеюць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не падыходзь блізка да аконца, маці мая бедная, бо пан убачыць ды злымі сабакамі зацкуе!.. Не пазірай у панской праз вялікую шыбіну, бо спужаешся — не пазнаеш дачку сваю родную...

Ой, загубіла я леты маладыя свае, пастарэла без пары.
Абшчыпалі мяне, як той гарох пры дарозе.
Даўгія валасы мае ад пакуты выліпялі.
Ясныя вочы мае ад бяссонніцы аслеплі.
Гучны голас мой ахрып, плачучы ў поўначы.

Усё нуджуся я па вёсцы роднай, пытаюся ў стрэчнага-папярэчнага:

— Як бацькі мае маюцца? Як сёстры і брацікі гадуюцца?

Не знала я, не ведала, што зямелька сырая ўсіх іх забрала, толькі аднюсенькая маці засталася, нібы адзінокі асмалены корч на жудаснай пасецы... Асталася гаравадь, бедаваць па дачушцы сваёй!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Пачакай мяне, матачка, за садам вялікім — я вынесу табе полудзень свой, бо ўсё роўна есці не магу. А калі ты гэтаксама есці не можаш, то пакладзі ў торбу ды старому жабраку занясі, хай есць на здароўе, хай богу памоліцца за мяне!..

— Гэтаксама, матачка, аддам я табе з галавы хустку маю,— шынкару прадасі, купіш васковую свечку ды ў царкву занясеш: самому папу ў рукі аддасі — выкуп за душу маю грэшную. Залаты крыж за мяне пацалуеш, бо я скора памру: усё нябожчыкі мне сняцца, усё крыжы ў вачах кружацца... Але хай смерць хутчэй прыйдзе, і мне лягчэй будзе...

Гэтаксама, матачка, прашу цябе — загадай дзяўчатам маладым, равесніцам маім, хай на начлезе аба мне маркотныя песні складаюць, хай дзецюкі іх з плачам пяюць!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ідзі, ідзі, матачка мая, бо зязюля закукавала, і мне трэба лічыць, не колькі гадоў, а колькі дзён мне жыць яшчэ засталося...

## НА ПРАШЧАННІ

Яна яшчэ зусім малая дзяўчынка; нядаўна адарвалі пястунку ад матчынага хвартуха...

Маці енчыла, плакала, у бацькі рукі цалавала — не памагло. Яшчэ ў прыдатак гэтак піхнуў старую, ажно яна паваліласяна вострае каменне ды чуць устала, акрываўленая. У вялікі горад бацька выправіў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прашчай навекі, маці родная!

Прашчай навекі, вёсачка ўбогая!

Не буду болей раніцай па расе ў грыбы хадзіць. Не буду болей з мамачкай цыбульку палоць ды кароўку рабенькую даіць у дайніцу белую. Не буду на дажынках гуляць ды вясёлыя песні з жнеямі пяяць... Не буду болей з роднымі жыць ды разам куццю есці.

У горад нявольны паехала далёка ад гаю зялёнага, далёка ад рэчкі на лузе. Маю маладосць людзі благія скарыстаюць, засохну я, нібы кветка, вырваная з мяжы...

## ЧЫРВОНАЯ КАЗКА

— Гарыць! Уставайце! Гарыць!..

У вёсцы зрабілася відна сярод асенняй цёмнай ночы; свет гэты вырваўся з аднэй хаты, а дах гэтай хаты быў пакрыты чырвоным кажухом, а кажух той жыве... дрыжыць...

— Браты, ратуйце!..— енча гаспадар, і здаецца, танцуе ён увакруг сваёй хаты, як шалёны. Народ цягае з акон, дзвярэй дабро ўсялякае: кублы, мяхі, адзежу...

— А божа мой! А бо-о-о!!!

Твары ачырванелі... вочы бліскучыя зрабіліся... Бегае народ...

— Ратуйце! Ратуйце!..

Нясуць вёдры з вадой, стараюцца і... дыхнуць не ўспелі — як зашумеў вецер, як закрахтаў... Чырвоныя птушкі пусціліся з гарашчай хаты на ўсю вёску...

— Гвалт!.. Рат...

Падурэлі людзі, акамянелі людзі... Забегалі, прытоптываючы на адным месцы, нібы авечкі між ваўкоў. Кожны пабег да свайго двара. Хутка асвяціўся блізкі чорны бор і абшар палёў нейкім жудасным святлом. Высока падняло галаву чырвонае пужала, надта высока... горкі чорны дым абвярцеў, абкруціў яе сваімі лейцамі...

— Ай-ай-ай-ай!!!

Загрымела, затрашчала... Людзі махаюць рукамі... людзі нешта гавораць... А ўвакруг агонь... святочны агонь... у ім хто-та пяе, у ім хто-та бушуе, як п'яны.

Даўно абрушылася першая хата, ды ўжо над другімі саламянымі стрэхамі ўюцца, носяцца птушкі, змеі, пчолы... усе чырвоныя... чырвоныя... усе страшныя... страшныя...

— Айей-айей! айей-айей!..

Шум народа зліўся з гукам і трэскам будынкаў, з рагатаннем гумён, азяродаў, стагоў саломы.

Людзі гэта? — Не! — Слупы бяздушныя, бяссільныя. Адна пудлівасць скавала іх, і яны крануцца не могуць... Усё ж яшчэ змагаюцца з агнём — выцягваюць з хат хто што можа. З агнём змагаюцца? — Не! Не! — З нейкай нячыстай сілай... У той сіле шмат агнёвых языкоў; яна клякоча языкамі сваімі... Яна пераскаківае з аднаго двара ў другі ў госці, аглядае, абмывае ўсе куткі і шчыліны...

— Гу-гу-гу-гу!..

Гэта агонь ад радасці крычыць... Гэта народ стогне, што праца яго крывавая з ветрам уходзе... Гэта нейкая сусветная мара ад бога выйшла... Усе дрыжаць, як ад марозу... Усе ўжо чуюць на плячах сваіх жабрацкія торбы...

Коціцца дым па чорнай хмызе, а ў вёсцы ўжо нічога няма. Толькі велізарныя галавешкі ды скурчаныя звугленыя косці жывёлы ў вачах муцяць, а печы з сваімі комінамі быццам шкілеты выглядаюць...

Бабы енчылі, як на хаўтурах, а воддаль, на цёмным агародзе, валялася нешта шэрае, бруднае — няшчасныя астаткі.

Настала халодная туманная раніца...

# ДАЛЬ

Над гаем, пад велізарным абшарам блакіту, вісела даль. У ёй была дзіўная гармонія далікатных тонаў і таемных мар, у ёй была нейкая незямная маркотнасць...

Лес маўчаў і не маўчаў, пужаў і не пужаў. Сярод яго жудаснай глушы шапталіся не то жывыя, не то мёртвыя цені.

Даль прыцягвала да сябе сваёй недасціглаю таемнасцю, а калі вочы ўжо вельмі глыбока ўрэзаліся ў яе сінія хвалі, яна яшчэ далей адплывала назад, хаваючыся за лесам. Яна жадала раніць душы чуткіх людзей, каторыя шукалі ў ёй развязкі балючага сэрца.

Даль гаварыла. Яе мова была песня без слоў, і толькі чуткае вуха магло лавіць яе перарыўнае шаптанне.

...Напоў адвярнуўшыся, апіраючыся на белую падушку, ляжала кволая дзяўчынка і праз шчыліну апушчанай фіранкі глытала гэту даль. Слабы і працяглы былі ўздыханні дзяўчынкі. Грудзі яе высока падымаліся і апускаліся пад белай кашуляй. Твар яе быў бледны, з хвараблівай фарбай сухотніцы, але шырока раскрытыя вочы пілі гэту даль. Ад прыкрыўшага даль змяркання зрэнкі яе расшырыліся, як у перапуджанай лані... Жыць, жыць! Хацелася ім.

Ужо колькі тыдняў будзе, як дзяўчынка не здужае злезці з пасцелі, і, як птушка, завarожаная змяёй, яна была заваражана гэтай даллю, каторая лучыла яе са светам, з якім дзяўчынка была звязана нявідзімымі ніткамі. Здавалася ёй, што даль прыняла нейкі вобраз, каторы зліўся з яе душой, як хваля з морам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэта было з пачатку вясны, калі зямля толькі яшчэ адчыніла свае жыватворныя скрыткі, калі неба яснела пад блакітнымі ўсмешкамі непрарыўных блескаў, калі ў снах месячных ночак наліваліся сокам бярозкі, распускаліся лісткі, унізе, каля іх, як маленькія дзеткі, раскручваліся кволыя пралескі. Гэта было з пачатку вясны, калі ўладарнасць смерці знішчылася, а вясёлае пекнае жыццё загарнула ўсё пад сябе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І хварэла дзяўчынка. Струны яе нерасцвіўшага жыцця рваліся адна за адной. Злічаны былі яе дні... Яе думкі былі саўсім дзіцячыя, адчувалі жыццё, як блакіт неба, чыста было яе сэрца, каторае не ведала яшчэ кахання, хаця

пітосьці гарачае тулілася ў грудзях яе, у вачах панаваў таемны спеў маладосці...

— Што гэта? Што гэта? — пыталася яна самой сябе, і страшэнны плач вырваўся з грудзей, і горла сашчаміў атручаны жвірняк...

Доўга пасля яна кашляла, а каплі крыві, каторую выплёвывала яна на пасцельку, выглядалі, нібы суніцы на снягу...

Пазірала ўдаль...

Ой, увесь век, не крануўшыся з месца, яна бы гэтак хацела глядзець удаль!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Колькі багатага жыцця ў гэтай далі ў часе сонечнага дня, калі яна прасвечваецца чыстая, нібы раса на чароце! Калі праменні сонейка прасвечваюць яе, калі лес аджывае ў вясёлых зыках, і цені надта кароткія, і ад растопленай сасновай смалы кружыцца галава...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

О божа, толькі б сонейка бачыць, і досыць!..

Толькі б піць жывы гул паветра, і досыць!..

Маленькім матыльком ляцець і жыць!..

А жыццё яе рвалася... Даль абхапіла даль... Залатыя стужкі начнога ззяння абчэпалі даль, лес і ўвесь божы свет.

Мізэрная дзяўчынка рванулася да акна. Залатымі зоркамі было абсыпана неба вясенняе. Цудныя хмаркі віселі пад скляпеннем неба...

Вось плаваюць у блакітна-ружовай сажалцы белыя лебедзі. На чырвонай лагчыне ля чорнага алтара стаіць высокі манах у шаўковай расе і моліцца... Хутка з'явіліся сівыя страшыдлы і прыкрылі ўсе мары... абраз перамяніўся.

Чорнай посцілкай нябожчыка прыкрыт лес... У той лес упала залатая зорачка з акраіны неба...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чаго ж ты гэтак плачаш, чароўная скрыпка?.. Чаго ж ты ўспамінаеш аб жыцці ў гэтакіх жудасных колерах?.. Чаго ж ты вымучыла яшчэ некалькі капель крыві ў хворай дзяўчынкі?

...Дзяўчынка знядужаная ўпала на падушку...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Месяц вырваўся з-за хмар, зірнуў у акно. Яшчэ болей прасвечны, быццам фарфоравы, зрабіўся твар дзяўчынкі. Пад брывамі ляжалі густыя цені, і ў цемнаце здавалася,

што вочы пазіраюць з нейкай бяздоннай глыбі... У іх радзіліся і памерлі цудоўныя казкі вясны...

— Жыць! Жыць! — падымала яна крык, але ёй гэта здавалася, бо чуць-чуць толькі краталіся яе вусны, грудкі яе вахтаваліся; бесталкоўна раскіданы былі на белай кашулі яе доўгія валасы... Затрапяталася, як падсечаная бярозка, і выпрасталася. Не то іспуд, не то здзіўленне асталося на яе твары...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Таемна, як само жыццё, пазірала даль і маўчала. Пні бяроз бялелі, а галіны зелянелі... Над пахучым бэзам раздаўся першы свіст салоўкі. Зямелька вясенняя малілася!

У гэты самы час рыдэль магільшчыка вікідваў уверх камы жоўтага пяску — капалі магілку для памёршай без пары дзяўчынкі!

## БЕЗ СПОВЕДЗІ

— Бабулька памірае!

— Бабулька памірае! — шапталі перапуджаныя дзеткі, ёрзаючыся на высокім тапчане над загарадкай, дзе авечкі зімавалі.

— Бабулька памірае! — і паказвалі ценькімі пальчыкамі на цёмны пяколак. А ў гэты самы момант варушылася на пяколку нешта ў шэрых брудных анучах — гэта была хворая бабулька; стагнаць яна ўжо не мела сілы, толькі час ад часу высоўвала сваю пахудалую і пажоўклую руку з-падануч, быццам сухі яловы сук.

Гаспадар запрог гнядую кабылу і паехаў за дзесяць вёрст у мястэчка па папа. Маці спала, не раздзеўшыся, на ложку, толькі дзеткі ціха шапталіся. Газніца кідала слабыя праменні святла на цёмныя, закураныя сцены і столь убогай хаты.

Цяжка было бабульцы і ўздыхнуць, не тое што крануць рукой альбо нагой. Затое, у момант супакойнага і доўгага канання, думкі яе вельмі акуратна працавалі:

— Што? Трэ-э памерці, не выкруцішся, і хочацца нават, бо нямашака чаго шкадаваць... Але бадай ці прыедзе поп... А трэба ж было б, каб ён стаяў пры мне!.. Трэ-э было б выспавядацца... трэ-э было б!..

Не грахі толькі свае хацела яна высказаць на гэты раз, але ўсё жыццё сваё...

— Не грахі? — пытаецца бабулька ў самае сябе.— Ай-ай-ай! Калі ўсё жыццё маё грэшнае... уся я грэшная і паміж грахоў жыву я!..

Не можа аддзяліць бабулька сваіх грахоў ад тых, што чужыя людзі грашылі рознымі здзекамі над ёй. Палохаецца бабулька чагосьці невядомага, аграмаднага... Не ведае яна — ці скананне скорае пужае яе, ці дагэтуль пройдзены шлях жыцця. Нібы паміж нейкіх няясных рамак малюецца перад ёй уся яе нецікавая, сумная мінуўшчына... Стаіць перад вачамі яе той час, калі яна маленькай сіроткай жыла ў аднаго сярдзітага-сярдзітага пана... Разумеецца, малыя здзекваліся над ёй — і вярхом ездзілі, і шчыпалі, і рвалі, і чаго толькі не выраблялі! Памятае яна і маладога паніча, каторы мучыў яе на выгане, як пасля выдалі яе гвалтам замуж за бязносага п'яніцу, фурмана Мікіту, каторы ёй бязлітасна заўсёды косці ламаў... Памятае яна добра і холад, і голад, і ўсё...

— Ай, ай, ай! каб жа цяпер поп! — яна б тут усе грахі выказала яму.

І думала яна, што ўсё жыццё яе было ёй вялікім грэхам, бо цярпела яна шмат: ночы недасыпала, днём недаядала, у крывавай працы яна дзяцей сваіх чуць выхавала...

— Доўгі грэшны шлях жыцця... Жудасна!.. Ай, каб поп быў!.. — І нешта цёмнае, слізкае, пустое ахапіла яе. Быццам паляцела яна ўніз, у нейкую глыбокую бяздонную яміну...

Ціха зрабілася ў хаце. Цені ад газніцы дрыжэлі па закураных сценах. Дзеткі, перапуджаныя мяцеліцай, каторая гудзела на двары, сціснуліся ў адну кучку і нават шаптацца перасталі. Высунутая пажоўклая рука бабулькі ўжо не дрыжэла, бо бабулька, не дачакаўшыся папа, памерла без споведзі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ёсць розныя героі ў жыцці. Ёсць гэткія, якія паміраюць за свайго далёкага бога ў небе, з верай, што яны там, у раю, будуць весяліцца. Ёсць гэткія, што канчаюць жыццё на вайне з уцехай, што ўся краіна будзе іх шкадаваць ды гэткія высокія помнікі паставіць ім, што ўсялякі ўбачыць бліскучыя медалі і крыжыкі на шырокіх грудзях. Ёсць гэткія, што з безгранічным фанатызмам гінуць за сваю ідэю на шыбеніцы пад тысячу лаянак ворагаў, але сваімі вы-

лупленымі ад болю вачамі пазіраюць яны ў вочы сваіх блізкіх таварышаў, каторыя моц дадаюць, тлумачачы: не пужайцеся, вы будзеце жыць у сэрцах нашых, будзеце ахвярамі ідэй нашых... зробім вас багамі...

Усе гэткія героі маюць яшчэ пры жыцці сваю адплату, якая аблягчае іх апошнія хвілі, нібы цень шырокай пальмы путнікаў у пустыні. Але самы найтрагічнейшы гераізм — гэта адвечнае цярпенне, калі чалавек у гэтакім запудзе знаходзіцца, што ён — прыгнечаны, пакрыўджаны,— пераканаецца, быццам, напэўна, самы горшы ў жыцці... У іх то, напэўна, нямашака агульнай карыснай смагі ўяўлення свайго «я», як у першых герояў. У натуры простага сына пануе толькі адна кароткая філасофія: «Гэтак трэба!»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ну! — буркнуў гаспадар, як сеў у сані і выехаў па вуліцу праз вароты.— Ну-у-у-у! — крыкнуў ён шчырэй, сцебануўшы раз-другі гнядую сваю, каторая — праўду кажучы — мала ўвагі звяртала на гэта. Але ён сцябаў яе толькі дзеля храбрасці, бо агледзеў, што мяцеліца пачынаецца.

— Эт, яшчэ папалам з бядою! — марматаў ён, азіраючыся па баках,— дарога вядомая!

Праехаў вёску. На чыстым полі мяцеліца мацней загудзела. Але не без споведзі ж выпраўляць старую маці на той свет!.. Трэба папа прывезці!.. Праехаў ён вярсту, другую паміж хмызнякоў і бярознікаў і нічагусенькі! Толькі вось дарога накіравалася на ўзгорак, потым уніз, у чыстае поле і, божухна ты мой,— як завярнула, як загудзела, ажно цёмна ў вачах зрабілася!..

— Або-о-о!

— Гэй! — раптам крыкнуў ён моцна, хаця і сам не чуў свайго голасу, бо вецер моцна гудзеў у вушах. Гнядая чуць ногі выцягвала з глыбокага снегу. Выскачыў ён з саней, каб гнядой лягчэй было, але ўсё роўна не ведаў ён, куды павярнуцца, давай цярабіць патыліцу... — Хоць ты тут гінь — ані туды, ані сюды! Што тутака рабіць?

Кабыла спынілася; павіслая ніжняя губа яе яшчэ ніжэй апусцілася і яна нават сапці ўжо не магла. Толькі бачыў гаспадар, як пара добрых слязлівых вачэй кабылы пазірае на яго з нейкім смуткам...

Папрабаваў за павадок пацягнуць — не ідзе! Біць ён яе ўжо не мог,— проста сумленне не дазваляла.

— Матачка боская!.. Цёмна-цёмна, а снегу верне і верне без канца!

Не ведае ён, што ўжо рабіць. Некалькі хвілін азіраўся па баках, убачыў, што гнядая яго ўся белая зрабілася і ён сам увесь пад тоўстым пластам снегу і стаіць па калені ў снягу... Тут ён ужо крыху збіўся з панталыку, але не спужаўся, як яму здавалася, толькі прахапіла яго ўсяго гарачка нейкая. Здавалася яму, быццам шапка на галаве падымаецца, быццам ён нейкі цяжкі зрабіўся... Рвануўся ён з гарачкі ў санкі, наваленыя снегам, аслабеў ды лёг.

— Мусіць, пamру тут,— падумаў ён,— нічога не зробіш; мусіць, гэтак трэба! Толькі дрэнна, што без споведзі, няхай яго немач!

Зірнуў ён на гнядую сваю — ужо амаль уся ў снягу... І ўспомнілася яму, калі гадоў пятнаццаць таму назад кабыла яшчэ зусім маладая была. Гу-у-у! якая гэта была рухавая кабыла. Вёз ён на ёй раз дровы з лесу, ажно тыц! — едзе пан на чацвёрцы. Дарога была вузкая, размінуцца не было як, дык фурман панскі перш-наперш сцебануў яму пугай у вока, ажно вока пакалечыў, на барыш воз абярнуў у канаву, і хоць ты тут згінь!.. Успомніў ён яшчэ шмат здарэнняў з жыцця свайго, дык усё жыццё чорнае гэткае, няхай яго немач!.. Здаецца яму, што нешта хацеў бы сказаць каму-небудзь хоць зараз...

— Ой, грахі, грахі! — перарваў ён думкі свае і ўспомніў ён карчму, шынкара, сваю галодную заўсёды сямейку, пабітую жонку. Вось галава робіцца яшчэ цяжэйшай, рукі і ногі млеюць і спаць хочацца. Перад тым яшчэ, як ён заснуў, вочы яго пазіралі на хрыбет кабылы.

— Напэўна, гнядая ўжо адубела,— падумаў ён: — без споведзі і мне памерці прыйдзецца... — і заснуў навекі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтаксама канчае жыццё сваё дзікая кветка на страшэннай дрыгве сваёй, ніколі не ўбачыўшы сонейка...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Завіруха ўгаманілася. Выплыў з-пад хмары ясны месяц, і гладкая бесканечная паляна выглядала, быццам асыпаная дыяментамі...



## ЗЯМЛЯ

Зямля...

Вялікі, бязмерны абшар зямлі адкрываецца воку майму.

Я падымаюся вышэй і вышэй на нейкіх скрыдлах, з дзівам разглядаю велізарнае ўладарства зямлі...

Як у казцы, нясуцца прада мной шыры гэтай зямлі, каторыя і ідуць лясамі, нівамі, лугамі, далінамі, месцамі паханымі, мяккімі, нібы пух, шнурамі і месцамі камяністымі шэрымі глыбамі...

Як у казцы, нясуцца прада мной поры года: святая зялёная вясна, гарачае залатое лета, сытная багатая восень, бліскучая здаровая зіма...

І мяняюцца фарбы, і мяняюцца віды...

Усё жыве, усё рухаецца... шуміць...

Зямля! Маці наша! Чуецца заўсёды і ўсюды тваё цёплае, жыватворнае дыханне, каторае мёдам па жылах разліваецца...

Усе мы дзеці твае: і расліна, і жывёла, і чалавек...

Усіх ты нас родзіш, усе мы жывём на табе, усіх ты нас ізноў прымаеш...

І хто карэннямі сваімі глыбей у зямлю стараецца ўлезці, у таго галава чуць не да самага сонейка даходзіць, у таго шчасце ракой-морам расшыраецца...

*

Дорага кожнаму чалавеку зямля родная, каторая дала яму жыццё і гадавала яго, яго бацьку, і дзеда, і прашчура, і ўвесь народ свой... Ой, як дорага!

Ён ёй малітвы гаворыць, ён ёй песні пяе разам з птушкамі, з лесам, з ручайком...

Як поўныя зярняты на тлустай раллі, у душы кожнага разрастаецца міласць да краю свайго, і так найдаражэйшы скарб, як гняздо шчасця, перадаецца ад пакалення ў пакаленне...

*

Часам гэтак чалавек зямлі сваёй гаворыць:

— Зямля, родная! Трымай мяне крапчэй, дай мне жыццё! Заступіся за мяне!..

Буйным віхрам нясецца вораг і хоча вырваць мяне з самымі карэннямі...

— Зямля! Што мне рабіць? — плача ён, як дзіця да маткі сваёй.

І зямля тады гэтак адказвае яму:

— Болей брацтва паміж сабой і меней страху. Міласць твая да мяне будзе ратункам тваім... Стой на сваім месцы адважна і будзеш вечна жыць ва мне, як той лазовы куст, каторага як бы ні адсякалі, а ён усё разрастаецца...

*

Тут устае цэлы край, як адзін чалавек, і ідзе на смерць, на мукі за зямлю — за край свой родны з вялікай і жалезнай, страшнай адвагай...

І сыціцца зямля крывёй чалавека, і сеецца касцьмі яго, дзе baroznамі служаць курганы магільныя.

Самае апошняе слова чалавека пры кананні:

— Зямелька, матка родная! Самы найдаражэйшы скарб свой, жыццё сваё аддаю табе!

І чалавек адваёвывае зямлю сваю, жыццё сваё, край свой...

## АКОРДЫ МОРА

Мора!..

Якая бязмернасць!.. Які абшар!.. Колькі зычных песень аб табе складалі!.. Мора!.. Душа мая ў палоне, у гуду тваім грозным, а сэрца, як дзіця да маткі-радзіцелькі, рвецца ў шырокія абоймы твае...

Малады рыбалоў пазірае арлінымі вачамі сваімі на неба, шукаючы хмары небяспечнай, бурнай; ён варожыць, ці можна выбрацца з гнязда-затокі на абшырнае мора. Ён кемлівым вокам сваім як бы нашчупвае далі няясныя, дзе неба да мора даходзіць, і адвага родзіцца ў душы яго. Грудзі яго калышуцца ад свежасці марской, кроў гарачая пераліваецца ў жылах, вочы гарэць, і буйная радасць ахоплівае яго ўсяго... «Мора!..» — вырываецца слова з яго грудзей. Колькі сілы і шчасця, маладосці ёсць у гэтым слове!..— Мора!.. Ён тут радзіўся чуць не сярод самых хваль у хаціне беднай, ён сабе і магілу знойдзе ў сівых грудзях хваль...

Часамі мора бурыцца-шуміць. Уся затока дрыжыць; тады і яго хацінка ўся ў кроплях пеністых зіхаціцца... Маці

моліцца перад бажніцай у страху вялікім, а радасць рыбалова яшчэ болей павялічваецца... Нібы чайка жвавая, рвецца ён да хваль узбунтаваных і раз'юшаных... «Мора!» — кажуць адно імя тваё яго вусны, і гэта выходзіць шчырай малітвай-песняй грознаму богу марскому... Калі часамі аб моцныя грудзі малайца ўдараецца смутак вялікі сваім крыллем чорным, калі ахоплівае яго душу атрута кахання няшчаснага, калі ён бачыць, што яго галубку мілую абдымае, цалуе другі,— ён шукае забыцця непрытомнага ў самай сэрцавіне мора і ціхамірыцца яго боль...

*

У гэтую восень старыя рыбаловы шмат здання і страхоцця бачылі на моры вачамі сваімі. Аб гэтым яны расказвалі, бажыліся і палохаліся выехаць у чыстае мора.

Неба было шэрае, хмурнае, мора аддыхала, як бы чакаючы буры-гульні. Ніхто цяпер не адважыўся б выехаць на чаўне рыбацкім. А маладога рыбалова пацягнула яшчэ болей... Ён не мог устрымацца: адвязаў човен свой і выбраўся з затокі на абшырнае мора. Нехта як бы клікаў яго туды, нешта цягнула сілай вялікай і невядомай... Ён ужо ад'ехаўся досыць далёка ад роднага берага. Мора злёгку зыбацца пачало. Неба пацямнела.

— Гу-гу-гу-гу-у-у-у! — раздаўся падвоены працяглы звон...— Г-г-гм-м-м! — паняслося рыканне таемнага звера...

Ой, хутка запеніцца мора і пачне ў гульні непрытомнай скокі свае ладзіць!.. Хвалі, як раз'юшаныя, велізарныя, казачныя коні, на дыбкі да самых воблакаў падскочуць!.. Закіпіць, загарыць чорная страшная бяздоннасць, нібы пекла шалёнае!.. Страшыдлы, дзеці глыбокага дна марскога, павылазяць уверх з самай нізіны і навострацць клыкі, ахвяр чакаючы!.. Запяе мора песню сваю грымотную, пабедную і заглушыць увесь свет! Хмары алавяныя ўніз апусцяцца, горы вадзяныя ўверх падымуцца, і ўсяму канец...

Ты, рыбалоў малады, толькі на смерць выехаў цяпер на начоўках сваіх...

— А-а-а-а! — сапе нехта вельмі велізарны.— Ці гэта ён змарыўся? Не! — гэта бура пайшла сабе калыхаць мора, на забаву пайшла... Пацямнела, човен закалыхаўся, як трэсачка, то падымаючыся на самы карак хвалі высокай, то апускаючыся ў самы ніз яміны глыбокай. Гульня-бура пачалася. Што знача і найвялікшы адважнік перад гэтай

сілай! Самае асвоенае вуха рыбалова глушыцца ад гэткага дзікага крыку.

Жмурыць вочы свае рыбалоў малады... Над ім хвалі, пад ім хвалі, вакруг хвалі. Болей маці не ўбачыць яго... Ён прадсмертна выспаведаўся ў сэрцы сваім і ўжо гатоў... Супакоен...

Але што гэта бачыць ён здалёк на цёмным абшары? Караблі! Божухна, во дзе яму ратунак будзе! Во дзе! Велізарныя караблі падплылі бліжэй... Тарчаць вакруг цёмныя жорлы гарматаў... Вада робіцца чырвоная... Караблі яшчэ бліжэй падплываюць да яго... Робіцца ціха; бура хутка зусім заснула. Углядаецца ён у караблі і дзіву даецца, чаму гэтак ціха... углядаецца... і крык вялікага страху і жудасці вырываецца з яго грудзей: а на пакладзінах караблёў ляжаць цэлыя груды мерцвякоў з вытарашчанымі вачамі... Ён жагнаецца... Караблі далей паплылі, але мора асталося чырвоным, і хмары пад небам зрабіліся чырвоныя, і ўсё пачырванела... У адным месцы процьма адкрылася і вылез адтуль бог мора, высокі, з доўгай зялёнай барадой, падобнай да ўспененых хваль. Яго акружылі русалкі. Вочы бога маланкі сыпалі ад злосці вялікай, русалкі ажно дрыжэлі ад страху, косы свае расплятаючы...

— Залішне ахвяр! Што мне з імі рабіць? — злуецца бог мора.— Што? Месца няма для іх, ахвярнік мора перапоўнены ўжо!

З-пад хваль павылазілі тым часам страшныя грамадзіны бяздоння. Вочы іх смагай дзікай блішчэлі, ляпы разявіліся ад вялікага голаду...

— Яшчэ дайце! Яшчэ,— хрыпелі яны,— мы галодны! Граніц няма голаду нашаму! — І выстаўлялі ўверх касматыя рукі з закручанымі кіпцямі... Мора закіпела, як велізарны кацёл... Усё заварушылася ў дзікім карагодзе... Нешта равела хрыплым, магільным голасам... Пасля ўсё збялела, сціхла і спусціўся з высот белы анёл. Ён трымаў у руках сваіх залатую міску, дзе ляжала жывое сэрца чалавека і трапяталася... Крылом сваім анёл сеяў вакруг па хвалях кроплі нейкай дзіўнай белі, ад каторай усё рабілася бела, ажно сляпіла беллю сваёй, але сэрца гэтак моцна білася ў місцы залатой, што кроплі крыві пырскалі з яго і расплываліся чырвонымі кругамі, нібы аграмадныя зоры, фарбавалі бель...

Тым часам у абшары заплакаў пехта плачам вялікім: «Ой, баліць мне, баліць! Ажно выгаварыць няма як! Ніколі гэткага болю не было на свеце, ніколі... Хто гэта акрывавіў

увесь свет? Чаму паднябесная ўся стогнамі напоўнена? Чаму?»

І рвуцца з нейчых грудзей пытанні балючыя: «Чаму цяжару не здымаюць з кволых грудзей чалавека? Чаму не зрываюць плеўку слепаты з вачэй яго? Чаму дзікі звер руйнавання ў сэрцы яго раз'юшыўся? Чаму помста бязжаласная яго сцягам зрабілася? Чаму не разрываюць крывавых кайданоў на руках яго? Чаму кіпіць у душы яго вялікі гнеў?» І галосіць жаласна нехта па ўсім абшары вялікім.

— Яшчэ і яшчэ! — просяць з процьмы страшыдлы.— Мы — галодны, галодны!

Мора супакоілася. Хваля данесла маладога рыбалова да самага берага, да рук матчыных... Спаў ён у сне адвечным. Маці рукі ламала, галасіла над ім, нібы чайка на моры... А мора нікому таемных казак сваіх не гаварыла, толькі часамі, як вельмі ўжо разгульвалася, яно атуляла белымі брызгамі рыбацкую хацінку і выла, як непрытомнае...

## АКОРДЫ

Занадта ты любіш, дзяцюк!..

Калі ўгледзеў у садзе тую мармурную багіню, то сэрца запылала... вочы заблішчэлі...

Ты гатоў малітвы і песні шаптаць у ног прыгожай дзевы, ой гатоў! Як той сын старадаўняй Элады ўсё роўна.

Занадта ты любіш, дзяцюк!..

Гарыць душа твая, гатова ў попел рассыпацца на сваім уласным агні...

А паўночнай гадзіне пад срэбраным адсветам месяца крадзешся ты праз высокі паркан у сад...

Табе хочацца яшчэ раз зірнуць, яшчэ раз...

І вока насыціцца не можа, і сэрца біцца не перастае ў абамлеласці сваёй...

*

Ці гэта сваю душу штукар пераліў у мармур халодны?

Ці ён толькі разгадаў загадку нямога каменя, загадку адвечнага сфінкса?

Ці нейкую затоеную сілу асвабадзіла рука яго з цеснай каменнай магілы?

Не! Тут створана нешта новае, прыгожае, вялікае; прыгажэй ранічнай зарніцы, прыгажэй жывой душы чалавека, прыгажэй і болей абшырнага нябеснага прастору, болей адвечных русалачных казак, болей ціхай бярозкі над рэчкай...

Юнак вачэй сваіх не зводзіць...
Яна стаіць маладая, прыгожая.

Паўцені атуляюць яе стройнае цела. Яна вабіць і заве к сабе. Хочацца туліцца да яе ў забыцці, хочацца жыццё ёй аддаць.

— Гэта песня крыві маладой! — кажуць кніжнікі.

Хай сабе гэтак, але «кроў — душа чалавека», казаў калісь-то адзін з вялікіх пракрокаў Усходу.

*

Раса абсыпала ўвесь сад: і дрэвы, і кветкі. За сажалкай салавей пяе. Зоркі гарадь. Месяц за хмаркі сівыя схаваўся. Азалаціліся зубатыя хмары. Яны выглядаюць, як грамадныя мармурныя глыбы, каторыя завіслі ў паветры... Геній-разьбяр здолеў бы багаты скарб хараства стварыць з гэтых глыб... Закляць у іх легкакрылыя моманты красуючай маладосці і даць ім аблічча адвечнасці...

*

З месца свайго яшчэ не скрануўся дзяцюк. Анямеў ён у хвалях казак паўночных... Заваражыла яго душу нешта вялікае, сільнае...

О дух, вялікі творчы дух, каторы жыве ў душы чалавека, скажы мне: дзе ты радзіўся? Дзе ты ўзрасціўся?

Ты бяссмерцен, як тая зара, што пылае на ўсходзе...

Ты дужы, як той пярун паднябесны!

Тое вялікае шчасце, што ты нам даеш, ап'яняе, як хмельны мёд.

Дзеля цябе варта пазнаць жыццё зямное, асвечанае сонейкам...

*

Цені радзеюць. Дзьмухнуў ветрык раніцы.
Захавай у сэрцы сваім той лік хараства і ідзі адгэтуль.
Занадта ты чулы, дзяцюк!

Пазіраеш на яе і бляднееш, як снег на полі, і чырванееш, як пурпур на ўсходзе.

З першымі праменнямі сонейка юнак выбраўся з саду задумлёны, сумны, з апушчанай галавой...

*

Як Праметэй, каторы ўкраў агонь у завідных багоў, таксама ўкраў нешта юнак у багіні, і сэрца яго асуджана на мукі вечныя...

Грудзі яго раздзірае арол, і вампіры магільныя п'юць яго кроў — і ён супакою не мае...

І прыкован ён к шэрай скале буднага жыцця людскога...

*

Куды ты рваўся? Чаго табе хацелася? Ты гнаўся за сваімі уласнымі марамі? Ты сонечныя зайчыкі запазухай хаваў? Ты мора выпіць хацеў? Ты зоры пералічыць задумаў? Пры чым жа ты астаўся, юначэ?..

*

Ён сам сябе грыз, і нічога не памагло.
Ён сам сябе труціў, і нічога не выйшла.
І ўкаранелы боль спадабаўся яму...
І муку адвечную ён палюбіў...

# АПАВЯДАННІ

## МАЛІТВА МАЛОГА ГАБРУСІКА

— А ведаеш што, сынок?— казаў Ігнат свайму маленькаму Габрусіку.— Рыхтуйся! Абувай новыя лапці, бо паедзем на імшу! Няхай сягоння Настуля ганяе ў полі — патрапіць ужо; а мы з табой, каток, у царкву паедзем.

Гэта было ў нядзелю раніцай. Бацькі Габрусіка жылі далёка ад мястэчка, ладны кавалак ад вёскі, на адзіноце, над рэчкай, ля цёмнага лесу. Ігнат служыў палясоўшчыкам у блізкага пана і цалюсенькія дні швэндаўся па лесе са стрэльбай на плячах. Маці хадзіла ў двор на падзённую работу; сястрыца Настуля аставалася няньчыць маленькага Міхаську, а Габрусік з торбачкай на плячах пасвіў на балоце ды па асоцы бурую кароўку, цялушку, парасё і пяток гусей.

Надта ўсцешыўся Габрусік: ніколі ён яшчэ не быў нідзе. Пад'еўшы аладкаў, насёрбаўшыся заціркі, надзеў ён новую кашулю, бацькоўскую суконную камізэльку, новыя лапці з белымі анучамі і паехаў з бацькам на худой кабылцы ў мястэчка.

Новым і дзіўным паказалася яму на дарозе ўсё: і вялікая вёска, дзе дзецюкі ігралі на гармоніцы, дурэючы з дзяўчатамі, і шырокія вуліцы мястэчка з вялікімі хатамі, і народ, каторы кішэў на рынку. Але ён маўчаў, вытарашчыўшы вочы, быццам дзікі звярок.

— Пастой! — кажа яму бацька, тпрукаючы кабылу.— Пайду куплю абаранкаў!..— І, выняўшы з-за пазухі капшук з махоркай, дастаў адтуль некалькі медзякоў і купіў у жыдоўкі абаранкаў для Габрусіка, але той і не думаў іх есці...

Вось і царква... Яны ўжо стаяць у сярэдзіне, і дзіўна блішчаць Габрусёвы вочы. Бачыць ён: поп у рызе, шытай золатам, стаіць на амбоне і пяе... Шмат аганькоў свецiць, як зоркі ў небе, а людзі без шапак стаяць і шэпчуцца, быццам вецер у бары... Звіняць званы над вялікай брамай, як бы грымоты ў час страшэннай навальніцы на лузе.

Маўчыць Габрусік — маліцца не можа ён: ніхто яго не вучыў; але ў яго маладым сэрцы ўжо даўно бог жыве... Даўно душа Габрусіка моліцца яму без слоў...

Помніць ён, як канаў стары дзядуля, Антон, з шырока расплюснутымі вачамі; угледзеўся ён, як хавалі на могілках старога, і пазнаў, што ёсць бог на свеце...

Помніць ён, як радзіўся на свет яго маленькі брацітка, Міхаська, і быццам зірнуў на бога...

Бывала, раніцай, калі яшчэ ўсход чырвоным морам калыхаўся над сонным лесам, птушкі пялі над рэчкай, а вецер шаптаўся ў кустах і калыхаў залатыя хвалі на панскім жыце,— тады нешта яго быццам рукамі хапала, і ён пускаўся бегчы, падбрыкваючы, або клаў у губу пальцы і так моцна свіснуў, ажно сам пасля пужаўся зычных отклікаў шырокай і прасторнай ваколіцы...

О, ён пазнаў, што бог над зямлёй пануе! Душой прачуў...

Моляцца людзі, і старыя, і маладыя, і бедныя, і багатыя — усе з паднятымі да неба вачамі... Моліцца і бацька яго, а Габрусік і не чуе, як абаранкі высыпаюцца ў яго з рук глядзіць ва ўсе бакі і маўчыць.

— Та-та, тата! — кажа ён раптам... Бацька не чуе.

— Та-а-та, не вы-т-трымаю!..

Ігнат штоўхае яго ў бок, каб ён маўчаў, і моліцца ізноў.

Людзі апускаюцца на калені, хінуцца ўсе ў адзін бок, як кветкі да сонца....

— Та-а-тачка! Свіс-ну!..

Ігнат ізноў штоўхае яго ў бок і злосна кажа: «Ціха!»

Гул ідзе ў царкве... Габрусік на ўсіх і на ўсё пазірае вялікімі сінімі вачамі, а белая, як лён, галоўка яго не кратаецца, не ківаецца, як у ўсіх.

Ціш у царкве...

Украдкам, каб бацька не ўбачыў, улажыў Габрусік па два пальцы кожнай рукі ў губы, і... зычны, закацісты свіст раздаўся пад высокім скляпеннем царквы...

Перапужаліся людзі; поп перастаў маліцца.

— Што гэта? Хто гэта?!

Але Габрусік ужо даўно сарваў лапцёнкі з ног і барзджэй кінуўся наўцёкі дамоў...

А хрысціяне і не дагадаліся, што гэта была першая шчырая малітва малога Габрусіка ў царкве...

# ТАТА

— Тата... татачка...

А ён шалёны... а ўсе пузганцы, галапупцы вясковыя, бегаюць за ім і крычаць: «Шалёны, шалёны!»

Мала гэтага — аплёвываюць, ахарківаюць яго...

Мала гэтага — каменнямі і гразёй закідываюць плечы, грудзі, твар...

І смяюцца, смяюцца...

А ён ходзіць і маўчыць...

Не адвернецца, не плача, нават не ўцякае; ходзіць і маўчыць...

А я рвуся да яго — абняць, цалаваць пакрыўджанага, бяздольнага...

На каго бог, на таго і людзі!

Чуваць гоман дзяцей: шалёны! шалёны!

— Тата, татачка!..

— Агатка, дурная! Чаго ж плачаш, чаго енчыш? — кажуць мне.

— Адыдзіце! — крычу,— благія вы!..— Што я, каменная або ён мне не бацька, ці што?..

Усе яго б'юць — усе! Не тое што чужыя — нават маці, сёстры і браты, дзеці яго — родныя дзеці... бо ён шалёны, бо ён маўчыць...

А мяне завуць дурной за тое, што я яго шкадую — шалёнага...

Помню, як яшчэ тата здаровы быў, і тады маці крычала на яго і біла, кажучы, што ён не поп і не халоп: не здацен ні да якой работы. Ён і тады маўчаў.

Змалку служыў ён за фурмана ў адной пані, а болей ніколі нічога не рабіў. Рукі яго не мелі складу ні да якой работы і былі белыя, далікатныя... Сам быў ён спакойны — ні з кім не вадзіўся, не тое што біцца. Гарэлкі не піў нават і тады, калі меў грошы. Але паня тая памерла, і ён астаўся без работы. Біўся, біўся, бедны, як рыба аб лёд, і нічога не выйшла — у фурманы болей не папаў. Зямелькі сваёй не было. Прыйшлося матцы адной працаваць на дзяцей і на яго, дык яна яго — давай біць!.. Біла, біла, пакуль раз паленам гэтак уклеіла па галаве, што ён застагнаў і паваліўся. Хварэў пасля гэтага доўга і стаўся шалёным... Першыя часы быў надта злосны. Пачаў бушаваць, кідаўся да маткі, але яна яго ізноў супакоіла...

Перастаў ён з таго часу з людзьмі гаварыць. Не гаворыць, не плача, не смяецца, быццам унутры душы яго жы-

ве таемны сакрэт... Ён нікога не крыўдзіць, а яго ўсе, бо ён — шалёны...

Тата... татачка!..

На мяне ён неяк інакш, як на другіх, пазірае... Толькі з маіх рук бярэ кавалак хлеба, а болей ні ў кога не бярэ...

— Не адыходзь, татачка! Які ты ёсць — я люблю цябе!.. Я яшчэ болей люблю!..

І цалую яго белыя тонкія рукі. Дрыжаць яны ў яго, як гладзіць мае валасы... А з яго сініх добрых вачэй коцяцца слёзы, аграмадныя, як арэхі... Толькі пры мне ён плача...

І ён адыходзіць... далёка, далёка, у сумную імшару, што за рэчкай... у страшную імшару, якой я надта баюся, адыходзіць ён надоўга, да зімы... Як ён жыве там, не ведаю. Жывуць жа неяк звяры, птушкі і ўсялякія стварэнні вольныя...

Затое я марнею ўсё лета... не сплю ноччу ды ўсё думаю, думаю... усё паглядаю ды паглядаю ў аконца — на цёмную, страшную імшару, што за рэчкай. А над высокім лесам устае зарніца, быццам чырвонае, крывавае поле... На тым полі сіняй істужкай цягнецца сцежка, па той сцежцы ходзіць нехта ў белым... Гэта — Хрыстос. А за ім — татка мой. І трымае мой татка вялікі, вялікі крыж на сваіх плячах...

— Добрая ў мяне Агатка!..— чую я голас таты. Хоць далёка ён, але чую... Салодкі голас, як у скрыпцы...

— Татачка! — крычу я і... адкрываю вочы.

Гэта я заснула ў аконцы, пазіраючы на імшару, што за рэчкай.

Праходзіць лета. Прыходзяць халады, сцюдзёныя дажджы...

Ноч. Не спіцца. Бярэцца пад дзень.

— Тат-ка... татачка, дзе ты цяпер?

Зоркі гараць у сінім небе. У хаце ціха.

Маці ўжо пайшла ў двор на падзённую работу — бульбу выбіраць. Я адна. Браты і сёстры ўсе па людзях: хто за пастуха, хто за няньку. Толькі я, хворая, мізэрная, з мамкай жыву. Яна ўсё крычыць на мяне, што я пайшла якраз у бацьку! Сумна адной мне...

Нехта нясмела скробае шыбіну пры тапчане, дзе я сплю... Божа мой! Гэта ж татка!.. Абдзёрты, абарваны — дрыжыць ад холаду, як асінавы ліст. Я барджэй лапці на ногі, кажух на плечы і выбягаю.

— Татачка! Добры! Мілы! Ідзі ў хату!..

А ён стаіць і маўчыць.

— Татачка, у хату пойдзем!

— Баюся!.. — чуць шэпчуць яго сінія вусны.— Я баюся!..

Не ідзе, хоць ты гвалт падымі!..

— Бяры кажух, лапці!

Маўчыць... Галаву да сцяны прытуліў... Я да яго — рукі халодныя, твар халодны, увесь ён халодны і дрыжыць, тоненькі, слабенькі...

— Татачка, пойдзем у хату! — і я яго трасу.

— Добрая ты ў мяне, Агатка!..— кажа ён.

Вочы расплюснуў — вялікія, сінія, бліскучыя — і пазірае на зоркі ў небе.

Ён такі сцюдзёны, а слёзы гарачыя, як распушчанае волава, падаюць на мае рукі...

Не дрыжыць нешта татка ад сцюжы; глядзіць на неба і быццам прыслухоўваецца, што бог да яго гаворыць...

Белы іней патрушыў яго скалмачаныя доўгія валасы. Галава пахінулася ўбок. Якраз святы, што на абразе...

— Татка... татачка!.. Я пайду з табой у імшару, у сівую, як бабуля, імшару!

На той імшары іней бялее, як белы вывернуты кажух...

— Шалёны вярнуўся! — чую я гоман некалькіх галасоў. Адвярнулася паглядзець, хто там, а халодны труп майго бацькі пакаціўся на мёрзлую, цвёрдую прызбу...

## ТУЛЯГІ

— Бадай цябе трасца, бадай цябе! — буркнуў Арцём і паставіў апарожненую ўжо пляшку ад гарэлкі на стол.

— Ё-о-о чаго з'есці? — вышэй крыкнуў ён п'яным голасам, адвярнуўшыся да згорбленай, забітай горам жонкі, каторая капалася каля прыпечку.

— Эй, ліха, кратайся,— бо калі трэсну! — і яго кулак ужо засвістаў у яе над вухам, як ластаўка над сваім гняздом.

Арцёміха здаўна ўжо прывыкла да яго лупцоўкі, дык і не старалася б нават выкруціцца, але ў гэты самы момант з шырокага ложка пачуўся слабы, тоненькі галасок: «Піць, мамачка, піць!..»

Арцёміха падбегла да ложка, а тым часам Арцём бразнуў дзвярамі і выйшаў.

— Даю, Ганулька, даю! — Арцёміха шмыг у сенцы з конаўкай па ваду.

Гануля была дзяўчынка гадоў трынаццаці, стройненькая, пекненькая і ўжо каторы год служыла ў аднаго багатага гаспадара, бо бацькі яе чуць самі, дзед з бабай, кутам прахаваліся,— і то яна ім кожны год на каляды грошы аддавала. Цешыліся яны сваёй дачкой, але прылучылася няшчасце. Восенню пры малацьбе Ганулька прастудзілася і захварэла. Адвязлі яе дамоў да бацькоў. Прывялі старога знахара; даў ён ёй нейкія галачкі з хлеба, зелле; купілі ліманаду і пірага ў Соркі,— але нічога не памагала. Кажа яна, што ўнутры нешта паліць і ўсё піць хочацца. Уся яна высахла, як лучына, а вочы, быццам вугалі, гараць. Бывае часам, што з гарачкі яна выкідвае ўсялякія штукі і непрытомна гаворыць.

Сягоння яна толькі цяжка стогне, лежачы на сенніку... А праз брудны кавалак шыбіны, перакрыжаванай лучынкамі, прасвечваюцца праменні сонейка, і мнагаколерны пыл тоўстым слупам даходзіць аж да бледнага твару Ганулькі... Пазірае яна на залатыя праменні, і слёзы коцяцца з вачэй... Вось пачала абамлеўшымі ад смагі вуснамі нешта шаптаць ціха, слаба... Маці прыслухаецца, але не можа пачуць нічога.

Шэпт усё слабей ды слабей... Гэтаксама шэпча і скрыпка, калі музыка адымае ўжо смычок ад струн.

Змоўкла Ганулька...

Маці датаркнулася да яе, ажно яна ўжо сцюдзёная, як лёд. Арцёміха не плакала, не галасіла, толькі слаба крыкнула: «ай!» — яна ўжо выплакала за свой век усе свае слёзы.

Гэта ведаюць старыя могілкі за вёскай. Гэта ведаюць там разнарослыя крыжы і крыжыкі яе дзяцей: Юзя ўтапіўся, Марылю кабыла забіла, Аагатку яна сама прыспала на ложку. Сцёпка так памёр ад нейкага безгалоўя — мала ж ёсць напасцей у няшчасных, бедных вёсках?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як нарыхтаваная машына, Арцёміха цяпер рабіла ўсё без цікавасці, чула, як на хаўтурах бабы цешылі яе, ківаючы галовамі, смаркаючыся ў хусткі ды прыгаварваючы проста з мосту:

— А ты ж бедная, Арцёміха!

— А ты ж не вытрымаеш, Арцёміха!

— А як жа ты будзеш жыць, Арцёміха!

— А ей-ей, Арцёміха, матачка!

І шмат нагаварылі гэтакіх слоў, што аж вушы вянулі. Чула Арцёміха, як на хаўтурах шаптункі вялі, што гарэлкі мала, што закусак скупа, што таго-сяго не хапае, але не цікавілася, як бы не пра яе казапа...

Ачнулася яна толькі тады, як вынеслі дамавіну, як засталася адна, бо знядужала сама пайсці...

Азірнулася...

І давай сухімі слязамі плакаць і прыгаварваць нараспеў.

— А я ж цябе насіла пад сэрцам!

— А я ж цябе гадавала, няньчыла, слёзкі выцірала, карміла, адзявала...

— Хадзіла на падзённую і аб табе ўсё думала... купляла хустачкі чырвоненькія...

— Няхай жа бы ты жыла, і я б табе палатна наткала, я ж ужо кросны прыгатавала...

— А я б сама падставіла плечы, каб бацька мяне біў, а не цябе...

І, як галубка падстрэленая, білася, кідалася старая Арцёміха.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзіўнай робіцца душа чалавека ў горы. Чароўным робіцца слова балючага сэрца, даходзіць яно да найвышэйшага хараства і чыстаты, становіцца ўладарным над людзьмі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Плакала старая Арцёміха сухімі слязамі і быццам пяяла:

— Зямля-зямелька родненькая!

— А ты ж ужо навекі прыкрыла сцюдзёнымі грудкамі Ганульку маю...

— А ты яе навекі-навекі схавала ад сонейка!..

— Ніколі яна ўжо не адчыніць вочкі ясныя — ніколі-ніколі!..

— Ніколі галасочак яе не зазвініць — ніколі-ніколі!..

— Хай каршуны кіпцямі рвуць мае грудзі старыя!..

— Хай сабакі глымзаюць маё сэрца непатрэбнае!..

Зноў заенчыла «ай» і змоўкла. Увайшоў Арцём і ціха сеў. Галагуцкі певень ускочыў на ложак, дзе ўперад ляжала Ганулька.

— Кі-ш-ш-ш! Кі-ш-ш-ш! — і не вытрываў...

— А бадай цябе трасца, бадай цябе! — крыкнуў ён і дзіка азірнуўся на цёмны кут ля печы.

Крыкнуў ён не на бабу сваю, як заўсёды, але на самога сябе. І то не. Крыкнуў ён на свой страшэнны боль, каторы, як бы кляшчамі, абхапіў яго ўсяго...

— Бадай цябе трасца, бадай цябе!..— і паваліўся на мокры гліняны памост і плакаў, як малое дзіцяпё...

## ГАРМОНІК ПЛАКАЎ

Гармонік плакаў...

Месяц толькі што ўзышоў над млынам. Блакітныя цені накрылі старую грэблю, возера, высокі чарот і пакрыўленую хату мельніка. Чуць-чуць зыбаліся чорныя галіны валікай вольхі... Людзі вячэралі ды адпачывалі пасля цяжкай працы летняга гарачага дня.

Гармонік плакаў...

На абшырным дзяцінцы каля паркана сядзеў дзяцюк без шапкі, у белай кашулі навыпуск, расхрыстаўшыся на грудзях, ды граў на гармоніку нейкую маркотную песню, такую маркотную, што здавалася, блізкі пахучы бярэзнік млеў і перарываў свае шаптункі... Гарачая жыжка поту капала з твару дзецюка, бо ён-ткі зазухаваўся і горача, у такт музыцы, і галавой трос, і нагамі дрыгаў, і плячамі варушыў, і ўвесь хінуўся ўніз; то выпінаў крэпкія грудзі, то з пагардай, як бусел, выцягваў загарэлую ад сонца шыю ды ўсё шырэй расцягіваў рукамі мех гармоніка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На ганку сваёй хаткі, як крук, апусціўшы галаву, сядзеў мельнік «Крывы Саўка», як клікалі яго вясковыя, а побач яго кудлаты сабака.

Крывы Саўка быў яшчэ малады дзяцюк, але надта брыдкі: твар рабы, як мухамор, вочкі маленькія, як у мышкі, а ў прыдатак яшчэ аднаклубы і падхрамываў.

Ніхто цяпер гэтак, як ён, не прыслухоўваўся да песні гармоніка... Журба па каханай дзяўчыне гэтак церабіла яго маладое сэрца, што дзіўна было. Любоў рабіла яго чуткім, любоў, як вясенняя зарніца, гарэла ў яго душы ды панавала над ёй...

Меў няшчасце Крывы Саўка палюбіць маладую дачку

свайго суседа, а для гэткага калекі, як ён, палюбіць — няшчасце вялікае...

І замарнеў чалавек без сну і без яды... Перад вачыма толькі адзін вобраз маладзенькай Ганулькі, і нешта ўсё смокчыць яго сэрца да крыві...

Чуе Крывы Саўка вокліч сваёй вялікай болі ў гармоніку, і працяглы стогн вырываецца ў яго:

...Толькі на слёзы бог мне вочы даў?..

...Толькі на боль ён мне грудзі даў?..

...На які чорт жыць на свеце гэткаму адзінокаму?..

Але каб Крывы Саўка ў гэты самы час паглядзеў, якія рахманыя, добрыя вочы кудлаты сабака на яго выставіў, як ён віляў хвастом і гэтак жаласна пішчаў, то ён бы не думаў, што ён гэткі адзінокі. Кудлаты сабака надта добра зразумеў боль свайго гаспадара.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У глыбі люстэрнага возера купаўся залаты круглы месяц. Гармонік даўно змоўк, бо дзяцюк той паехаў на начлег. Сумнай зрабілася ноч. Толькі адзін Крывы Саўка нават не крануўся з свайго месца... У гэты самы час думы, як грыбы, раслі ў яго сэрцы і з яго сухіх вуснаў часта вырывалася: цьфу! Каб цябе немач, каб цябе!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Амаль не кожны чалавек мае сваё характэрнае слаўцо. Здаецца, адно слова, але не адно значэнне мае яно: трэба прыкмеціць, якім тонам вырываецца гэтае слова, калі ён гаворыць ад нуды, калі ад радасці, калі ад злосці і г. д.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Цьфу! Каб цябе немач, каб цябе!..

— Ці-ткі Гануля не ведае, што я яе гэтак люблю?

О, яна ведае!

І ўспомніў ён, як адзін раз яна была ў яго на падзённай рабоце і жала жыта. Ён тады тайком пазіраў на яе круглыя белыя плечы, доўга пазіраў, пакуль яна гэтак усхапілася, быццам пчала ёй у плечы ўкусіла... і як зірнула яму ў вочы, дык аж дрыжака прабегла ў яго...

З таго часу яна ўцякае ад яго і надта яго баіцца.

Цьфу! Каб цябе немач, каб цябе...

І думы, як грыбы, павырастаюць у яго сэрцы; а над усімі думамі ўсё Гануля, як сонейка над светам стаіць, усё Гануля.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось здаецца яму, што ў возеры нехта баўтыхаецца і крычыць.

— Яна... Божа мой, яна! — І ён пялёх з грэблі ў ваду... Выратаваў. Яна гэтак дзякуе, плача, а ён яе цалуе. О, як яму добра!..

— Цьфу! Каб цябе немач, каб цябе! — і брыкнуў сабаку ў бок за тое, што адагнаў яго фальшывыя мары, за тое, што жаласна забрахаў, пазіраючы яму ў вочы, у самую душу...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Да лесу схіліўся месяц. Зоркі гараць у небе, і здаецца яму, што гэта ўсё Ганулькі вочы на яго пазіраюць... вочы... вочы...

— О, Ганулька! Мілая! Сонейка маё! Адзін толькі раз вачамі яснымі з ласкай зірні на мяне!.. Скажы мне, што рабіць? Загадай! Я родную вёску падпалю! Я свайго старога бацьку зарэжу! Павешуся сам!

І корчыцца ён, і стогне, як ад нейкай страшэннай хваробы...

Сабака ліжа яго акалечаныя ногі.

Цьфу! Каб цябе немач, каб цябе!

...Чаму ж тады не прыйшла.

Як я цябе клікаў...

Запялі ў лагчыне начлежнікі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Доўга, доўга пазірае сабака ў вочы Крывому Саўку, доўга, доўга... Акамянеў мельнік.

— Гэтак, мусіць, і я на Ганулю пазіраю, як сабака на мяне?!

І кінуўся ён да сабакі, абхапіў дрыжачымі рукамі сваімі яго і пачаў цалаваць у морду, у вочы, і гарачыя слёзы яго пакрылі лахматую галаву сабакі, як расой...

## СОН АНУПРЭЯ

Лёгка зрабілася на сэрцы старому рыбаку Анупрэю, бо ён ухітрыўся цішком ад жонкі перагнаць на гарэлку колькі залатовак ды пераліць у глотку гэтак шпарка, ажно галава ходырам пайшла. Дзеля гэтага ён смялей, як заўсёды, адправіўся нанач на балота паставіць венцяры на шчасце.

Праўда, зыбаўся ён у чаўне ад выпіўкі, як тонкая бярэзіна ад ветру, але нічагусенькі: уладзіў ён усё як мае быць і вылез на бераг.

На высокім пагодку, каля пня, перавярнуў ён свой човен, разлажыў вялікае вогнішча са старых карчоў, накрыўся кажухом і лёг.

Не чуў ён, як у блізкай пасецы завылі маладыя ваўчаты, як зашаптаў жудасны бор над сумнай адзінокай пусткай, не бачыў, як кругом яго, быццам запаленыя серчыкі, поўзалі купальскія чарвячкі: ён храпеў на ўсе застаўкі.

Сон падобен да смерці, але АнуПрэю толькі снілася, што ён памёр. Адпялі яго. Жонка галасіла як мае быць, хаўтуры ўладзіла па-людску, не паскупіла ні выпіўкі, ні закускі. Пахавалі яго, быццам пана якога, ў глыбокую яму, засыпалі пяском, і — квіта, пане Мікіта!..

Не паспелі яшчэ людзі і з могілак сысці, як прыляцелі крылатыя белыя анёлы, падхапілі яго, як лёгкую саломінку, і панеслі на суд да самага бога.

Бачыць ён — бог сядзіць на высокім пасадзе, пры ім стаяць усе святыя, а кругом на цыпачках ходзяць пісары і падпіскі, якраз як у воласці.

— Вось ён! — сказалі анёлы і падвялі Анупрэя бліжэй да бога. Ажно лапаткі ў Анупрэя задрыжэлі, як калісь-то перад земскім. Жартачкі!

— Прачытайце мне, што ён за чалавек? — сказаў бог.

Ходырам пайшла ўся каманда пісарчукоў рыцца па шафах і сталах; рылі, рылі і знайшлі.— Ёсць! — І адзін спрытны грэмзака падаў паважнаму, сур'ёзнаму сакратару тонкі сшытак. Спужаўся Анупрэй, думаў ён, што вось, на безгалоўе, падаткі ў яго будуць спаганяць, бо якраз гэткія паперыны, бывала, ураднік валок з сабой, як за падаткамі прыязджаў, але барзджэй усхапіўся, што гэта ж ён ужо нябожчык, і супакоіўся...

— Чытай! — загадаў бог.

І пачаў пісар чытаць з самага пачатку, як калісь-то Анупрэй быў яшчэ пастушком у благога гаспадара, як гаспадар яму косці цёр...

Слухаў, слухаў Анупрэй і дзіву даўся: — спанатрыўтакі ўсё! Хацеў ён сказаць, але ў час стрымаўся.

Ціха было ў небе, усе прыслухаліся, як пісар чытаў:

«...І быў Анупрэй заўсёды спакойны, паслухмяны, не краў, не сварыўся. Усе яго крыўдзілі, а ён маўчаў... Чужы хлапец краў яблыкі з панскага саду — лупцавалі Анупрэя... Самыя цяжкія работы загадвалі рабіць Анупрэю...

Анупрэю на палудзень хлеба не давалі, Анупрэй вячэру прапусціў, Анупрэй маўчаў, калі яму балела. Не пажаліўся ён і тады, як хатка яго згарэла... Ніхто не ведаў, калі яго сямейка душылася посным шчаўём без хлеба... У каго каня ўкралі — у Анупрэя. У каго кароўка здохла — у Анупрэя. У каго воўк авечак пабіў — у Анупрэя... Каго ў воласць на работу выправілі — Анупрэя. Дрэнна жылося яму, а ён нават баяўся самому богу пажаліцца на гаротнае жыццё сваё... Баяўся, бо благія людзі надта напужалі яго... баяўся, бо ўсе з яго смяяліся і ён думаў, што і ў бога ён горшы за ўсіх... Не плакаў ніколі: я горшы за ўсіх — думаў ён... Таптали твар яго гразнымі ботамі, здзекваліся над ім... Часам кроў з вачэй лілася, сэрца было ранена, твар скрыўлены быў ад страшэннай болі, а ён маўчаў, бо што ж,— думаў ён сабе,— ці я маю вартасць якую, каб мяне шанавалі?.. І да апошняй мінуты ён аб сваёй крыўдзе нікому слаўца не сказаў і гэтак богу душу аддаў...»

Змоўк пісар.

— Сынок мой! — прашаптаў бог, і шэпт той чуцен быў з аднаго канца свету да другога канца, і добрыя вочы божыя напоўніліся слязамі.

— Сынок!..— прагаварыў ён гэтак жаласна, што нават сам Анупрэй чуць не заплакаў з жалю...

Усе святыя плакалі, а пісары і пісарчукі тыя то ўжо даўно ў рукавы смаркаліся.

І лёгка зрабілася Анупрэю на душы, нават лягчэй, чым тады, калі ён раз дасыта абаранкаў наеўся...

— Першае месца паміж святых займаеш, Анупрэй!..— сказаў бог.— Скажы, Анупрэйка, чаго яшчэ хочаш, дамо!

Анупрэй толькі патыліцу чухаў. Неяк ён усё сваё жыццё маўчаў, ажно язык яго зрабіўся быццам пяціпудовая вага...

— Кажы, кажы! Не бойся! — казаў бог.

— Дзякую, божухна, за ўсё! — асмеліўся адказаць Анупрэй.— Але калі ўжо гэтак, дык загадай Сорцы, каб яна кожную раніцу давала мне чарку гарэлкі і селядзец!..

Апусціў галаву бог. Спахмурнелі святыя.

— Ці ты здурнеў?..

— Ці ты ачмуцеў?..

Шапталі яму пісары і падпіскі. А чэрці ў пекле, пад ісподам, страшэнна рагаталі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прачнуўся Анупрэй з пераляку з туманам у мазгах ад

учарашняй выпіўкі. Вогнішча даўно пагасла. Над высокай сасной закаркалі вароны, і недзе далёка ў вёсцы забрахалі сабакі.

Анупрэй пацягнуўся раз, другі і, устаўшы, спіхнуў човен у ваду і паехаў вытрасаць венцяры.

## ПЯЦЬ ЛЫЖАК ЗАЦІРКІ

— Агата! Агата!

— Ну, чаго глотку дзярэш?

— Скора зацірка згатуецца?

— Маеш часу пачакаць трохі, не панясу прадаваць на кірмаш!

Яшчэ не паспела яна адказаць свайму Антосю, які ляжаў на пяколку і стагнаў,— не то ад болю, не то ад голаду,— як з усіх бакоў апанавалі яе дзеці — немаведама, хлопчыкі ці дзяўчынкі, бо яны былі адзеты ўсе ў доўгія да пят кашулькі... Запішчэлі яны ўсе ў адзін голас:

— Мамка зацільку гатуе!

І давай скакаць вакол маці і цягнуць за фартух і спадніцу, як галодныя ваўчаняты.

— Мамка, мне дасі!

— Мамка, мне дасі!

І блішчэлі іх галодныя вочы ад радасці...

— Ці-і-ха, каб вы скіслі! — крыкнула Агата.— Згатаваць не даюць, хоць ты тут на кавалкі рассыпайся! — і адагнала іх вілачнікам ад прыпечка...

Гэта было вясной, якраз у тую пару, калі галадуха пануе па вёсках, калі няма чым і муху накарміць. Апошні запас выйшаў, хоць зубамі ляпай; шчаўя яшчэ нямашака... Горкае цяпер жыццё ў хворага Антося. Ён сам рабіць не можа. Адна толькі жонка працуе на яго і дзяцей.

Учора ёй, Агаце, пашанцавала. Яна выенчыла ў суседа фунт мукі на зацірку.

Вось і гатуе яна для сямейкі снеданне... У цёмнай малой хатцы вялікае свята...

Пазіраў Антось на прыпечак і ціха бурчэў. Ён ведаў, што цяпер Агата валадарніца.

Пазіралі дзеткі з-пад цёмнага тапчана на вясёлы агеньчык у печы і шушукаліся.

Агата ўсё падлівала вады і мяшала зацірку вялікай лыжкай. Нарэшце паставіла на стол.

— Гатова! — крыкнуў весела Антось і давай карабкацца з пяколка.

— Гатова! Гатова! — запішчэлі дзеткі і скакалі, як зайчыкі, да стала, дзе ўжо стаяла вялікая паліўная міска, у якую Агата пераліла зацірку з гаршчка. Густы пахучы пар клубіўся над міскай і павялічваў галодны апетыт шчаслівай у гэты момант сям'і.

*

Шчасце не мае сваёй асобнай меркі для ўсіх людзей на свеце, але кожны чалавек мае сваю асобную мерку да шчасця і свой асобны погляд на самое шчасце...

*

І шчаслівая сямейка хваталася за лыжкі.

— Ай! Ай! — запішчэлі дзеткі.

Антось вылупіў вочы і моўчкі давіўся гарачай зацыркай.

— А каб вас ліханька не ўзяло. Я ж вам казала — не хапайце, бо гарачая! — лаяла іх Агата.

Пазіралі, пазіралі яны на гарачую зацірку і не вытрывалі — зноў давай есці... Ажно слёзы каціліся з вачэй. Не з'елі яшчэ і трэцяй часткі, як у хату ўвайшла суседка Сцёпчыха.

— Дзень добры!

— Дзень добры!

— Хлеб ды соль!

— Дзе тут хлеб,— зацірку ядзім, просім на снеданне! — кажа Агата.

— Ого! На зацірку і я ахвотніца! — адказала Сцёпчыха, і яе галодныя вочы заблішчэлі. Узяла лыжку і спрытна падсела да міскі...

Спахмурнеў Антось і толькі ніжэй апусціў галаву.

— Нам і самім мала,— падумаў ён.

З'ела Сцёпчыха адну лыжку і ўзялася за другую.

— О, каб цябе! — хацеў сказаць Антось і ледзь стрымаўся. Дзеткі таксама пачулі небяспеку, і скоса пазіраючы на Сцёпчыху, спрытна запрацавалі лыжкамі...

— Тры! — чуць не крыкнуў Антось, як Сцёпчыха зачэрпнула лыжкай у трэці раз.

— Ратуйце! Ратуйце! — ледзь не плакаў ён, як яна апусціла лыжку ў міску ў чацвёрты раз. А як з'ела пятую, то ўжо міска была пустая...

— Разбойніца! — крыкнуў Антось на сваю Агатку, як ужо Сцёпчыха падзякавала і пайшла.— Разбойніца...

— Ці я вінавата, што яна гэткая свіння! — лямантавала Агата.

І папсулася свята беднай сямейкі. Спахмурнелі твары. Кожны думаў: «О-го! Каб лепей я з'еў гэтыя пяць лыжак заціркі...»

*

Няшчасце не мае сваёй асобнай меркі для ўсіх людзей на свеце, але кожны чалавек мае сваю асобную мерку да няшчасця і свой асобны пагляд на самое няшчасце.

## ГОРА ЎДАВЫ СЫМОНІХІ

Удаву Сымоніху ўсе завуць ведзьмай за тое, што яна шэпча і шэпча.

Хто ні ўвайшоў бы ў яе курную хату, яна злосна зірне і давай марматаць: «Соль табе ў вочы, перац табе ў нос!» — гэтак тры разы, а мо і шэсць. А кажа яна так, бо баіцца ўроку, хаця на яе ніхто надта не ўглядаецца, бо яна, як брахуны нашыя кажуць, крыху гарбатая, нос, як цыбуля, а пальцы, як тыя граблі, пакручаныя. У хаце гэтаксама багацце не надта вялікае: эт! — стаіць аблезлы куфар, крывабокі стол, чорны тапчан ды яшчэ шмаццё якое. Але затое адна-аднюсенькая скацінка ёсцека ў хаце, і Сымоніха вельмі баіцца: а часам чужое вока зірне на пестуна яе, дык мо зашкодзіць — трасца яго ведае!

А скацінка тая — свінчо.

І стаіць яно ў загарадцы каля самага ложка: відаць, надта любіць яна свінчо сваё.

Штогод, як толькі збярэцца ў Сымоніхі колькі залатовак, яна ўвязвае іх у хусцінку і выпраўляецца ў мястэчка на рынак купіць свінчо.

Шмат часу перад гэтым яна ўсім суседзям дурыць галавы, апавядаючы, якое яна сабе свінчо выбера: дзе будуць латачкі чорныя, дзе рудыя і які будзе лычык — бе-

ленькі або чорненькі, капытцы гэтаксама. Выбера яна якраз такое, якое ўздумае яшчэ дома, як брахуны нашыя кажуць. Але, як толькі пад пазухай дамоў занясе свінчо, як дзіцянё якое, дык ужо ні з кім не гавора: «А трасца яго ведае, а можа, зашкодзіць!..»

Яна нават у твары перамяняецца: вочы гараць, а сама зухаватай робіцца.

І песціць, і няньчыць яна свінчо сваё — усім надзіва: і малако купляе, і мукі, і хлеба, нават абаранкаў, як брахуны нашыя кажуць. Сама есці не будзе — хай свінчу застанецца. На заработкі рэдка ходзіць: часу няма, трэба гадунца даглядаць. Штодзень свінчо амаль не на палец таўсцее, робіцца проста як панскае: вымытае, чыстае, амаль не як сама пані з двара, як брахуны нашыя кажуць.

А пасля, перад калядамі, як скрабе і чысціць на гародзе Сымоніха свінчо сваё, дык яна толькі цешыцца і думае, што, бадай, шынкар Мендаль, гэты кручаны рамень, і то не палічыў бы, колькі яна разоў за ўвесь час выгаварыла: «Соль табе ў вочы, перац табе ў нос!»

Але сёлета... і цяпер у грудзях калоціцца, як успомню. Сёлета Сымоніха выкарміла гэткага лоўкага парсюка, што ўсім надзіва; яна яшчэ і цяпер кажа, што першы раз на яе вяку, бадай, удаўся такі... Але на тое ліха ўвайшоў нейкі чужы чалавек. Нешта ў Сымоніхі ўнутры адарвалася, як яна толькі зірнула на яго: барада казліная, вочы страшныя — каб яго зямля не насіла, лайдачугу гэткага!.. Яна яму — «соль у вочы, перац у нос» — амаль не разоў дваццаць і трыццаць пераказала, а ён — давай углядацца на парсюка, як воўк, давай углядацца... Парсюк толькі: хірк, хірк і... змоўк.

Выйшаў чалавек, і ў гэтую самую хвіліну парсюк есці перастаў.

Сымоніха паклікала знахара — ён шаптаў, шаптаў, курыў, курыў, даваў зелля ўсякага, стараўся-ткі, і — праўду сказаць — парсюк уночы — хірк, хірк і... даўся.

Плакала, енчыла Сымоніха, як па нябожчыку (па Сымону гэтак не плакала). Таткам звала, нават цалавала, як брахуны нашыя кажуць, але што ж — прапала!

Затое колькі лаянкі высыпалася на таго чалавека, -а-ей-ей, страх успомніць! Хаця пасля, як яна разрэзала, дзеля цікавасці, парсюка ды знайшла вялікі цвік у вантробах, то ўсхапянулася ды ўспомніла, што сама бачыла гэты цвік на прыпечку і, мусіць, сама неяк у гаршчочак укінула, але вінават дзеля таго ж той чалавек, каб яго зямля не

насіла, гэткага лайдачугу! Ён як зірнуў — дык... Але нашто калантырыць доўга — за адзін дзень пастарэла Сымоніха на дзесяць год. Страх на яе глядзець: дагары нагамі ўсё жыццё яе перавярнулася...

Прайшло ўжо больш паўгода, свінча Сымоніха не купляе — дзе ёй: надта слаба стала, і так жыць ёй не трэба пасля гэтага гора.

Але і пры смерці марматне: «Соль табе ў вочы, перац табе ў нос!» — як брахуны нашыя кажуць.

## ЗЛОДЗЕЙ

Невядома было, ці ўжо зайшло сонца ці не, бо густыя хмары агарнулі ўсё неба, і цемра абхапіла абшар палёў пад касагорам.

Была нейкая парнасць, як перад дажджом. Па камяністай дарозе скрыпелі вазы з снапамі. Людзі са спешкай вазілі на гумны жыта з поля.

Чутно было, як на азяродах гаманілі ды крычалі: «вышэй падавалку!» або — «сноп развязаўся, каб цябе-е!» ці «не варонь там, падла здохлая!»

У Кастуся не паспелі звезці ў гумно ўсё жыта, і на полі асталося некалькі дзесяткаў мэндлікаў.

Кастусь рана павячэраў і пайшоў на поле, лёг пад касагорам і давай пыпкаць люльку.

Доўга пазіраў ён на вогнішча начлежнікаў, якое свяцілася з блізкай пасекі.

— Заснуць не даюць, каб яны папруцянелі, каб яны! — буркнуў Кастусь і перавярнуўся на другі бок.

А песні сапраўды сыпаліся з усіх бакоў, з дарогі, дзе жнеі ішлі з дажынак, з панскага фальварка, з пасекі, дзе былі начлежнікі, а з вёскі яшчэ ў прыдатак гармонік і жалейка...

Круціўся, вярцеўся Кастусь і не мог заснуць.

— Хоць ты тут лопні — усё роўна не заснеш! — зазлаваўся ён і плюнуў, абціраючы цыбук палой кажуха, і тым самым часам раздумваў: «Што ж, хай пяюць: яшчэ нават лепей, а можа, якраз на безгалоўе накруціцца хто снапы красці, а я буду спаць. Мала іх ёсць у нашай вёсцы, гэтых лайдакоў, абарванцаў, як, напрыклад, Лікапор, каб яго зямля не насіла, каб яго!»

Кастусь прысеў, апіраючыся аб вялікую крушню каменняў, што была каля мяжы. Хоць цёпла было, але дзеля таго ж раса прабрала яго, і ён шчырэй абкруціў грудзі залапленым кажухом.

Яшчэ больш пацямнела, але затое ясней малявалася далёкае вогнішча. Парнасць, быццам з печы, сыпалася на ўвесь абшар сярод летняй ночы.

Нячутна было ўжо скрыпу вазоў, ні вокліча на гуменцах, але затое яшчэ звычней раздаваліся песні, смехі і жарты ва ўсёй ваколіцы.

— Чорт іх ведае,— дзіваваўся Кастусь,— цалюсенькі гэтакі дзень працавалі і цяперака яшчэ розная дур у галаве ім!

Але, цмокнуўшы разоў пяток свой цыбук, ён растлумачыў сабе, што — «няхай!»...

— Вось і птушкі пяюць, і рыба гуляе, і конікі вясёла скачуць, няхай сабе людзі вытвараюць нешта падобнае да гэтага! Відаць, ім патрэбна пяяць — вось і пяюць.

Не паспеў ён дакончыць сваіх думак, ды склеіць іх у адно складнае цэлае, як нехта ў блізкім высокім бульбоўніку шаснуў, крадучыся да мэндлікаў.

Бачыць Кастусь здалёк, маўчыць, чакае. Той накінуўся на снапы — і давай сярпом спрытна абразаць каласы ды сыпаць у мяшок. Насыпаў поўны мех і давай памалу, спакойна, быццам у сваім свірне, закідаць на плечы.

Кастусь падскочыў да яго, схапіў моцна за каўнер і крыкнуў грамавым голасам:

— Сто-ой!

— А бра-а-тачка! — праенчыў злодзей, стаўшы на месцы, як слуп. Мех адваліўся на бок.

Па голасу Кастусь пазнаў Лікапора, суседа свайго.

— Дык вунь якія рабункі робіш? Не спадзяваўся я ад блізкага суседа гэтага,— з крыўдай у голасе прагаварыў Кастусь і спакойна ўзяўся выкрасаць агонь.

Ліканор стаяў абалвянелы і не думаў уцякаць.

Жыў ён кутам на канцы вёскі ў вельмі старой хаце, якая ўехала ў зямлю, а з усіх бакоў падтрымлівалі яе рознафасонныя падпоры. Меў ён пяток дзяцей і крыклівую бабу. Яна заўсёды крычала на яго, што ён гультай, набіты дурань, здароўе мае за пяцёх быкоў, а не можа ні капейкі зарабіць. Вот вычысціць калі комін у Мэндэля, звяжа яму некалькі венікаў, і той з ласкі сваёй дасць фунт хлеба.

Кастусь выкрасаў агонь, затуманіў люльку і з цікавасцю спакойна пазіраў на Ліканора.

Ліканор таксама быў спакоен, але не цікавіўся глядзець на Кастуся, толькі чухаў кудлатую патыліцу ад турботы: гэткая няўдача выпала на яго долю...

— Ліканор! — казаў Кастусь.

Ліканор, відаць, нешта глыбокае і цікавае раздумваў, бо не чуў, што да яго кажуць.

— Ліканор! — крапчэй крыкнуў Кастусь.

— Гэ! — адазваўся Ліканор.

— Эх, эх! Як табе не сорамна: гэткі здаравенны мужчына і не хочаш справядліва хлеб сабе зарабляць! Эх, Ліканор! Дзіва мне, чаму твая баба табе дагэтуль рэбры не пераламала: гэткі здаравяка! Якое сумленне ў цябе?

Ліканор нічога не адказаў і давай азірацца асалавелымі вачамі на свае велізарныя лапы, на ўсю дубовую сваю фігуру і, здаецца, сам дзівіўся, чаму не зарабляе справядліва на хлеб.

Кастусь пачаў з яшчэ большай ахвотай сыпаць словы, любаваўся ўласным голасам:

— А ты б пайшоў на падзённую ў двор, да купцоў у лес або так на заработкі якія — і сям'я твая не галадала б і сам сыт быў бы. Нябось красці то трапляеш, на гэта табе даў бог розум!

— Каб жа ж...— марматнуў пад нос Ліканор і зноў замоўк. Павесіў рукі і стаяў нязграбна, як страшыдла, што курэй пужае з аўса.

— Што «каб жа ж»? — ухапіўся Кастусь за гэтыя словы, як за нешта цікавае,— што «каб жа ж», га? Во, загаварыў-ткі, загаварыў, дундыль маляваны!

Ліканор усміхаўся ды так расчыніў тоўстыя губы, нібы хацеў праглынуць усю ваколіцу.

— Гавары, гавары, што «каб жа ж»? — зноў пытаўся горача Кастусь.

— Гам-м-м, каб жа я меў розум, як красці, дык ты б не злавіў мяне, казаў той!

Ліканор, ажывіўшыся на момант, змоўк, і зноў дубовым зрабіўся.

— І-і-і-ш, каб цябе трасца! — загрымеў ва ўсё горла Кастусь.— Красці то ты ахвотнік! На гэта не лянішся! Ды вось я цябе навучу, як трэба быць злодзеем!

Ён плюнуў тры разы ў свой касцісты кулак, у прыдатак, дзеля ёмкасці, крыкнуў «гэ-э-э-э!» і замахнуўся над тварам Ліканора.

Ліканор выкруціўся з-пад яго кулака і, як малое дзіця, праенчыў:

— А бра-а-тачка...

Голас быў такі жаласны, што Кастусь стрымаўся.

— Ну, дык не будзеш болей красці?

Ліканор маўчаў. Выглядаў вялізарнай гнілой бручкай.

— Ліканор!

— Гэ-э-э!

— Не будзеш красці? Абяцаеш мне?

— Не! — ціха адказаў Ліканор і пачаў зяваць: надаела прыкрая гутарка.

— Што «не»? — зноў падхапіў Кастусь.

— Не... не абяцаю, казаў той! — буркнуў пад нос Ліканор.

— Га-га-га!

Кастусь не вытрываў, зарагатаў ад гэткай Ліканаравай шчырасці. «Го! го! го!» — адклікнуўся нехта з бору і з блізкай пусткі.

— Дык, значыць, будзеш красці?!

— М-мгу! — заківаў Ліканор галавой і парухавеў, убачыўшы вясёласць Кастуся.

— А што будзе, калі я другі раз злаўлю цябе ды звязанага пацягну ў воласць?

— А, братачка, не зловіш, як бы то... буду асцярожна красці!

Кастусь яшчэ крапчэй зарагатаў. Яшчэ гучней раздалося па лесе і пустцы «го! го! го!».

Ліканор агледзеўся раз, другі, спрытна схапіў мех, закінуў лёгка на плечы — і давай ходу.

— Ах ты, шэльма! — не надта злосна крыкнуў Кастусь ды перагарадзіў яму дарогу.

— А, братачка! — зноў жаласна заенчыў Ліканор.— Нешта ёкнула ў сэрцы Кастуся, ён успомніў высахшую, заўсёды галодную Ліканорыху і абарваных дзетак.

— Бяры, няхай цябе чэрці бяруць! Але абяцаеш мне, прынамсі, што другі раз у мяне не будзеш красці?

— Не! — цвёрда адказаў Ліканор.

— Што не?

— Не абяцаю! — адказаў Ліканор, махаючы галавой ад аднаго пляча да другога, і крануў аднэй нагой, каб ісці.

— Стой! Стой! — затрымаў яго зноў Кастусь.— Памятай, калі злаўлю другі раз, то ўжо жывога не выпушчу!

— Эт...— адказаў коратка Ліканор з нейкай пэўнасцю і, лёгка перакінуўшы мех з правага пляча на левае, пайшоў.

Кастусь выняў капшук і давай напіхаць люльку. Тым

часам неба выяснілася. Месяц быў гэткі ясны, што нават здалёк можна было ўгледзіць, як па дарозе шпарка ішоў Ліканор з вялікім мехам на плячах. На мяжы кратаўся побач яго доўгі цень.

— Ды няхай яго трасца, гэтакага... Які ён акуратны, не фальшывы чалавек! — сказаў Кастусь, шчыра плюнуўшы пасля таго, як зноў затуманіў сваю люльку. Ён лёг над крушняй з нейкай лёгкасцю на душы.

## ВЯЛІКІ ПОСТ

— І, дадаўшы, браце, чалавеку зусім мала трэба! — сказаў стары Лявон глухаватаму Сцёпку.

— Га-а? — пытаўся Сцёпка.

— Чалавеку зу-сім ма-ла трэ-эб-а-а! — крапчэй паўтарыў яму Лявон.— От! Кавалачак хлеба, крыху солі, і до!

— Што ж ты, браце?! — з усмешкай здзівіўся Сцёпка.— Занадта ты ўжо пераліваеш з пустога ды ў парожняе!..

Сцёпка і Лявон былі жабракамі. Сцёпка гэткім радзіўся, Лявон гэткім зрабіўся. Сцёпка, як большая частка жабракоў, быў чалавекам вельмі прагавітым, ніякага стыда не меў, кланяючыся пад вокнамі ды ў дзвярах. Часам, калі яму не далі або, калі што далі, не падабалася, дык ён лаяўся, і гэткім тонам, быццам даўгі спаганяў. Лявон толькі пару гадоў як жабраком зрабіўся. Гэта было тады, як яго сына на вайну забралі і ён там загінуў. Бацька стары, адзін астаўшыся, зарабляць ужо не мог, бо выгараваўся за ўвесь свой век і зусім аслабеў.

Тарас Канцавы, каторы лічыў Лявона за нейкага сваяка, пазволіў яму жыць у сваёй лазні, каторая стаяла ў канцы гарода.

Па хатах Лявон жабраваць не хадзіў і торбамі нават не абзапасіўся, не ляніўся ён, але скарэй памёр бы з голаду, чым пад чужымі вокнамі хлеба прасіць...

Затое вясковыя кабеты часам самі прыносілі яму і страву, і хлеб. Праўда, горкі гэта быў хлеб для Лявона, але што зробіш: трэба жыць!..

Прасіў ён шчыра смерці ў бога, але душа як наўмысна трымалася ў целе, быццам той корч на дзірване. Стараўся ён толькі чым менеі ужываць людской помачы, і гэтак чакаў ён раніцай вечара, а вечарам раніцы...

Хаця канкурэнты, нават і ў жабрацтве, унікаюць адзін другога, але Сцёпка, пераканаўшыся, што Лявон яму не вялікі канкурэнт і падносак, можна сказаць, не падбівае, бо зусім мала хлеба псуе, то нават і любіў час ад часу зайсціся да Лявона ў лазню. Ён сабе тут адпачываў, нацягаўшыся па акалічных вёсках, і, як паважаны гаспадар, раскладаў свае торбы і шчыра смяяўся над «святым дурачком» Лявонам, за тое, што той пастаянна маліўся.

Праўда, маліўся Лявон болей, чым карміўся. Тыя нямногія малітвы, каторыя ён знаў, шчыра паўтараў мо па сто разоў у дзень...

Штотыдзень Лявон, з нейкай ціхай радасцю ў вачах, хваліўся Сцёпку сваімі адкрыццямі:

— Братачка! Я дазнаў, што можна толькі адным хлебам жыць без жыдкай стравы...

— Братачка! Я дазнаў, што можна жыць еўшы адзін раз у два, а нават у тры дні...— хваліўся ён, як малое дзіцянё.

— А ўсё ж менш чужога ўжываеш! — уздыхнуўшы глыбока, заўсёды ён канчаў пасля гэткіх разгавораў.

Сцёпка толькі смяяўся ў рукаў.

Дайшло гэта ў Лявона да нейкай асобнай кемнасці, зрабіўся як непрытомны, разгарачаны. Увесь высах, як шчэпка; яшчэ болей пабялелі яго белыя валасы, яшчэ болей ускалмаціліся, яшчэ болей падаўжэлі. У бліскучых вачах пылаў таемны агонь здаволення і асалоды ад заўсёдашніх адкрыццяў і ад цікавасці яшчэ больш адкрыць...

Жадаў ён знайсці спосаб, каб зусім не трэба было есці...

«Эт! — думаў ён.— Жыў бы я тады адзін-адным, без ніякай людской помачы, вады бы толькі сабе не шкадаваў, што ж, гэтай стравы лёгка дастаць!..» — І яшчэ болей заблішчэлі яго вочы.

*

Вялікая сіла ў вачах; у іх, як у люстры, адбіваецца душа і думкі чалавека, у іх ёсць нейкая асобная гутарка, асобная ўлада, каторай яны заваражываюць другіх... За іх у часе кахання ідзе чалавек на смерць, дабіваючыся свайго жадання. Зразумела, што чым душа чалавека мацней, тым мацней гіпноз вачэй яго. Кажуць, жылі калісь у пустыні такія святыя, каторыя сваімі вачамі лютых звяроў абвараждвалі...

*

Бабы, каторыя захадзілі праведаць Лявона, началі гаварыць, што ён святы:

— Нічога не есць, а заўсёды моліцца, і неяк дзіўна вочы яго пазіраюць!..

І з усіх акалічных вёсак пасыпаліся да яго хворыя людзі, розныя калекі і прасілі, каб ён за іх маліўся, а ён з ахвотай за ўсіх богу маліўся.

— Больш за ўсё ад нячыстай сілы памагае! — гаварылі з верай вясковыя людзі. Яны не ведалі, што гэта памагала шчырая вера.

Прыйшоў вялікі пост. Тут пачуўся Лявон не князем, не царом, але вышэй іх... Тут ужо сам бог казаў, што пасціць трэба. І пазіраў ён на ўсіх людзей, каторыя пастоў баяліся, не як на грэшных, але як на вельмі нешчаслівых, далёкіх ад раю і бога; хутчэй лічыў ён сябе грэшнікам за тое, што не мог ім вытлумачыць сэнс гэтай вялікай рэчы... Сам ён цэлымі днямі нават не піў... Шчаслівейшага чалавека ад Лявона ў гэты час, бадай, ці можна было знайсці на зямлі.

Ого! — без людской помачы абыходзіўся ўжо са два тыдні! Жыў ён толькі адной вадой.

Яшчэ болей загаварылі аб ім у вёсцы. Некаторыя вясковыя бабы бажыліся, што бачылі ўначы, як над самай лазняй блішчэла вялікая зорка. Расказвалі, што на вясну мае выйсці аднекуль многагаловы змей, каб людзей глуміць, і што Лявон прызначан ад бога, каб забіць таго змея. Усе чакалі дзіўных і страшных здарэнняў, звязанных з святым жыццём Лявона, і слава яго расходзілася. Адбою не было ад людзей, што ішлі да святога. Ажно Лявон і сам пачаў верыць сабе.

«Што ж,— думаў ён,— не мая, а божа моц!..»

Але пачаў ён неяк слабець, ужо чуць-чуць краталіся яго вусны, як ён маліўся. І ён такі болей думаў малітвы свае, чым гаварыў іх. Малітвы яго цяпер былі зусім іншыя, як тыя, што людзі маліліся заўсёды і як ён сам дагэтуль маліўся.

«Што ж,— думаў ён,— тое, што ў сэрцы маім, мне трэба казаць богу, а не тое незразумелае, як мяне людзі навучылі...»

З палочка свайго ён ужо не мог злезці, хоць і хацелася яму, бо быў у апошнім адкрыцці сваім: ён пераканаўся, што можна абысціся зусім без яды. І ў грудзях весялілася сэрца яго, і незямным шчасцем блішчэлі яго вочы.

— Можна будзе жыць зусім без людской помачы!..

А ў воласці загаварылі аб ім і так, і гэтак, — людзі сыпяць да яго, як пчолы да мёду.

— Ці не сацыяліст? — усхапіўся пісар.

— Дальбог, сацыяліст! — грымнуў сябе старанна і стукнуў пальцам у лоб.

Дзынь-дзынь-дзынь... пачулі ў вёсцы, і не так дзівіліся, як перапужаліся, убачыўшы сваё начальства.

— Падаткі, даўгі спаганяць якія? Скулле іх ведае!...

А начальства праехала вёску і проста да лазні ідзе.

Увайшлі. Убачылі: ляжыць на саломе, на закураным палочку, белы, ссохшы на шчэпку чалавек... Здаецца, спіць, бо мухі абляпілі ўвесь твар і ён не чуе, а здаецца, не спіць, бо вочы неяк шырока расплюснуты і быццам усміхаюцца...

— Гэй! — крыкнуў пісар,— уставай!

— Гэй! — крыкнуў старшына,— уста-а-ва-ай!

Не зварухнуўся.

Падышлі бліжэй, і адзін з іх схапіў у ахапку старца і адскочыў, бо ў руках яго затроссе сцюдзёны, як лёд, труп Лявона...

Шчаслівая ўсмешка асталася на твары яго, відаць, у часе ціхага канання радаваўся ён, што пасля свайго апошняга адкрыцця яму ўжо болей не трэба будзе людской помачы чакаць...

## АШЧАСЛІВІЛА

Дылі, дылі дудка<br>Саламяна будка,<br>А ў тэй будцы<br>Чэрці вядуцца.

*(Народная)*

Вёска Жаброўшчына ляжыць у адным з самых глухіх куткоў Беларусі. Гэта гняздо ўсіх жабракоў нашай ваколіцы. Тут вядзецца іхняя адукацыя і фабрыкуюцца жабракі для ўсяе ваколіцы. Здаўна жывуць яны тутака сваім асобным жыццём і больш нічым не займаюцца. «Што ж, і гэта праца!» — як яны самі кажуць. Хаткі ў Жаброўшчыне страшэнныя, падгніўшыя, крывыя, з сукаватымі падпоркамі і выглядаюць, быццам сівыя жабрачкі, абвешаныя старымі торбамі. Здаецца, «дай! дай!» стогнуць яны ўсякаму рэдкаму падарожнаму.

— Дай! дай! — плача там вецер паміж сухастоек на пагорку. Само неба мае там колер мутнага бяльмістага вока сляпога жабрака.

Людзі там маюць іншы фасон, іншую фастацыю, чым усюды: розныя храмыя, крывыя, сляпыя, нямыя; калекі на ўсялякія лады, калекцыя розных калек, якія толькі могуць быць на свеце.

Кажуць, што большая частка іх нават родзіцца гэткімі. Кажуць, хто мае ў іх большае калецтва, той і фанабэрыцца гэтым і болей шчасліў бывае.

— Калецтва — наша саха і барана! — кажуць самі жаброўцы.

Дзяцей сваіх яны ў хаце, перад выхадам у свет, навучаюць, як жабраваць, якім голасам, якімі спосабамі, як жаліцца кемна, як выставіць іншым сваё калецтва. Некаторыя з іх робяць гэта з вялікім штукарствам.

Часам знаходзяць у Жаброўшчыне закапаны ў зямлі гладыш з грашамі — чартоўскім спосабам запрацаваны яны і чорту лысаму застаюцца.

Вось у Жаброўшчыне вялікае свята: бязносая дурнаватая Магдуля выходзіць замуж за сляпога Сідаронка і народ разгульвае.

Дайшло да таго, што некаторыя кульгавыя выпрасталі ногі, некаторыя нямыя гаварыць пачалі; проста з панталыку збіліся. Скора кончылася гульня, і жыццё зноў пайшло сваім першым чарадом.

Жаброўцы зноў распусціліся, рассяяліся па вёсках, хто скокам, хто бокам; хто каго на каламажцы, як бязногага, павёз, хто са сляпым пацягнуўся — і жаласлівыя кабеты енкі і стогны пачулі.

— Дайце, родненькія! Дайце, даражэнькія! Дайце калеку галоднаму, халоднаму! Дайце! Дайце!

І даюць.

Кабеціна перажагнаецца і апошняе яйцо, якое трымала, каб мыла ў краме купіць за яго, аддае; дае ратай коўш жыта, потам крывавым запрацаваны, бо сабе ўсё роўна мала... «Гэтак трэба рабіць»,— думае ён, абціраючы слёзы...

Пусцілася дурнаватая Магдуля са сляпым Сідаронкам, дзед з бабай, разам — і якая шчаслівая пара гэта была! На плячах торбы чуць не трэскаліся — гэтак перапоўнены яны былі; анучкі з вузламі розных медзякоў, як вярыгі, абціснулі іх грудзі пад кашулямі.

Яны толькі абгаварвалі ды высмейвалі суседзяў сваіх: той кленчыць, быццам у трубу дзьмухае, а гэты смешна

пацеры гаворыць; тая ажно лаецца, калі ёй не дадуць, а гэты зусім саромецца прасіць, асалапень той!

І гэтак каратталі яны вольныя ад «працы» хвіліны. Найболей смяяліся яны з аднарукага дзецюка Тодара. Малец мае гэткі талент і пайшоў у пастухі! Ці не мог ён, як бацькі яго, торбу надзець ды пайсці ў свет жабраваць?

— Золата назбіраў бы; вось дурань — у людзі выйсці не хоча...

Магдуля з Сідаронкам пачалі выклікаць зайздрасць у сваіх суседзяў: яны зрабіліся самымі найшчаслівейшымі ў Жаброўшчыне. Ніхто не мог так жаласна енчыць і пяяць Лазара, як Сідаронак; ніхто не мог так манточыць пад вокнамі ды прычытваць, як Магдуля. Самы найгоршы павінен быў даць ім што-колечы... Але «не ўсягды, як на дзяды», бо шчасце — не палец, у рукі не возьмеш. Вырвалася яно ад іх на час.

Справа была вось якая: радзіла Магдуля дачку, і, здаецца, гэта яшчэ лепей, чым добра: будзе памочніца пад старасць. Але як глянула Магдуля першы раз на дачку сваю, дык абамлела на месцы; зірнула другі раз, абмацала яе, абнюхала з усіх бакоў, заламала рукі ды горка заплакала:

— А Езус! А божухна родненькі! Няшчасную дачку радзіла я на свет!.. Што мне рабіць з ёю? Ой, не вытрымаю!.. Якое вялікае гора для маці: ручкі цэлыя, ножкі цэлыя!..

Яна голасна прычытвала, перахіляючыся на сенніку над дачушкай, якая плюскалася ў начоўках, дзе бабка Марыся купала яе.

— Ніякага калецтва! — стагнала Магдуля.— Хай бы яна хоць у бацьку пайшла ды сляпой радзілася. А то з чаго яна будзе хлеб есці? А Езус, божухна родненькі!..

Пачалі яе суседзі ўцяшаць:

— Магда, годзе табе калатырыць. Ну, перастань. Яшчэ невядома, можа, яна глухая ці нямая. Гэта дрэнь, што вочы, як тыя гузікі тырчаць, а ручкі і ножкі здаровенькія! Эт, будзе яна хлеб зарабляць мо лепей ад нас ды яшчэ бацькам пад старасць паможа — годзе безгалоўе і дурнату нейкую плясці.

Магдуля не ўнімалася:

— Што ж, матчына сэрца не з жалеза! Нашаму брату, жабраку, калі не маеш напаказ калецтва нейкага, дык ніхто халоднай вады не дасць.

— О-ей,— пачалі зноў суседкі,— ёсць чаго шкадаваць! Яна і без жабрацтва карміцца будзе!

— Не! Не! Не! — ажно зачырванеўшыся, замахала рукамі Магдуля.— Не хачу ды не хачу! Хай жабруе, як бацькі і дзяды яе. Так якая-сякая праца не заўсёды-то людзям і патрэбна, а жабраваць заўсёды жабруюць!

Змоўклі кабеты, бо ў душы яны думалі, што яна праўду кажа. Пагутарылі яшчэ крыху і разышліся па хатах. Гэта было пад вечар. Сідаронак хоць і быў сляпы, але ў хаце сваёй добра ведаў кожны кут і куточак. Цяперака ён падаў вячэраць жонцы і, сам пад'еўшы, выйшаў на двор пагутарыць з суседзямі.

«Ат,— думаў ён,— дачушка мяне некалі будзе вадзіць па людзях і лагодненька!»

Аб тым, што яна будзе пасля яго смерці рабіць, ён і не падумаў.

У хаце асталася Магдуля з дачкой. Спярша стагнала яна, лежачы на сенніку, пасля паставіла вячэру на зэдаль і давай уздыхаць:

— Няшчасная! Няшчасная!

Праз маленькую брудную шыбіну часам відаць было, як па небе плылі хмары, шэрыя і разарваныя, быццам скуматы парванай торбы жабрацкай. Але скора неба крыху праяснілася, бо хмары пераплылі і залаты бліскучы месяц вынырнуў і глянуў у аконца, абсыпаючы ўсё ў хаце дыяментавым пылам... Цішыню перарывалі толькі глыбокія ўздохі Магдулі. Быццам непрытомная, устала яна з ложка, выняла з ануч дачку і давай зноў азіраць яе. Месяц асвячаў голае дзіцё, якое трапятала ручкамі і ножкамі на руках маці.

— Якія вялікія вочы! — шаптала Магдуля, пужліва пазіраючы ёй у вочы, якія ў праменнях месяца блішчэлі, быццам пара маладзенькіх пралесачак...

— Як глядзіць! Як глядзіць! — бурчала Магдуля.

Палажыла дачку на ложак і сама пайшла шарыць і шукаць па сценах.

— Чуць знайшла.

Яна трымала нешта бліскучае паміж пальцаў. Зноў узяла дачку на рукі і паднесла к свету да самага аконца. Яшчэ болей заблішчалі вялікія вочы маленькай Магдулінай дачушкі. Здаецца, здзіўлена яны ўглядаліся на красу свайго першага вечара.

Але вось Магдуля пачала нешта ёй спрытна ў тварык саваць; дзіцянё пачало плакаць працяжным слабым галас-

ком. Магдуля засаплася, панесла яго скора на ложак, кажучы:

— Ашчаслівіла цябе, дачушка мая, даражэнькая мая! Ашчаслівіла!

Яна асляпіла вочы дачкі іголкай...

## МАЛЫЯ ДРЫВАСЕКІ

Зімовы дзень блішчыць тысяччу агнёў.

Люты мароз. Снег пад нагамі скрыпіць, як жывы.

Бор атулены ў белую пушыстую світку. Ён стаіць задуменны, як сівы дзед.

Грукат дрывасекаў разлягаецца водгаласкамі па ваколіцы.

Трах-трах! Трах-трах!

Яшчэ здалёк можна было прыкмеціць, як блішчыць пад сонцам піла, а абапал матулі-хвоі мітусяцца, як мурашкі, двое маленькіх хлапчукоў.

Яны махаюць рукамі гэтак шпарка, што іх падраныя лахманы расхрыстваюцца і адкрываюць голае цела... Піла ўсё глыбей ды глыбей уядаецца ў сэрца хвоі і... тра-а-ах! — плазам упала шурпатае дрэва. З-пад снежнага куродыму ўзняўся працяглы стогн паваленага дрэва-асілка.

Малыя дрывасекі — браты. Старшаму — Цішку — дзесяць гадоў, меншаму — Халімону — восем.

Іх бацька — кульгавы Цыпрук — сам працаваць не мог.

Выпраўляў кульгавы Цыпрук хлопчыкаў да купца ў лес на заработкі. Гэтым кармілася сям'я.

Трудна жылося малым дрывасекам.

— Добра, што хоць на полудзень маем па кавалку хлеба...

Паваліўшы некалькі хвой, хлопчыкі ўзяліся шчыра грызці сухі хлеб. Вочы іх заіскрыліся, шчокі расчырванеліся...

— Ого, есці, ого!.. Якая радасць!..

Яшчэ не скончылі яны палуднаваць, як узнялася завея, мяцеліца. Застагнаў, закрахтаў хвойнік. Пачаў кружыцца снег. Быццам белыя коні, уздыбіліся гурбы...

Усе дрывасекі разбегліся хутка дамоў, а Цішка з Халімонам баяліся, каб бацька не наракаў, што зарана прыйшлі з лесу... Селі пад вялікай хвояй, прытуліліся адзін да аднаго і дрыжэлі...

— Баюся! — усхліпваў меншы, Халімон.

— Во, дурань, чаго баяцца?! — супакойваў яго большы, Цішка.— Зараз дамоў пойдзем.

— Дамоў пойдзем! — шаптаў Халімон.

Яны пайшлі.

Стагнаў і палохаў бор, але хлопчыкі так-сяк ішлі, а на чыстым полі нічога не відаць было. Гурбы снегу, нібы белыя мядзведзі, качаліся на прасторы, дыхалі холадам ды сыпалі цвёрдым шротам у вочы...

Хадзілі-хадзілі, брылі-брылі, але куды — і самі не ведалі...

Змарыліся. Агарнула ноч. Снег дайшоў вышэй пояса.

— Ляжам! — сказаў меншы, Халімон.

— Ляжам! — сказаў большы, Цішка.

І леглі. Моцна-моцна прытуліліся адзін да аднаго.

Зрабілася так цёпла...

І здаецца ім — сядзяць яны за сталом... Маці радуецца, што прыйшлі... Корміць іх цёплым праснаком... Бацька пазірае на іх добрымі вачамі і лагодна ківае галавой. Пад'елі і пaляглі на палок каля печы... Котка лашчыцца да іх, і яны радасна заснулі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У поўнач усцішылася мяцеліца.

Вынырнуў з-за хмар чырвоны месяц. Вакол яго мігацеліся зоркі і пазіралі весела на белую зямлю.

Толькі на трэці дзень адкапалі замёрзшых малых дрывасекаў.

## СЦЁПКА

Ранюсенька-рана. Яшчэ нават сам бог спіць, як людзі кажуць. Сцёпка сядзіць на пасецы, так-сяк атуліўшыся ў сваю дзіравую кажаронку, і грэецца пры вогнішчы, то падкідваючы смаляк на агонь, то падсуваючыся сам, як тая качарэжка, на пераменкі, то адным бокам, то другім. Побач стаіць, апусціўшы галаву ўніз, яго худая галодная кабыла і не думае траву грызці. Праўду кажучы, там такі травы скупа было, бо толькі што началася вясна, толькі што зышоў снег, а ў нізкіх лагчынах яшчэ ляжаў прыкарэлы да зямлі.

Яшчэ для самых рупных гаспадароў зарана было вы-

пускаць каня на начлег, але, як відаць, Сцёпка быў рупней рупных, бо ўся страха была ўжо сарвана на сечку, заработкі гэтаксама невялікія былі, калі плаціць па пяцьдзесят капеек за аблізаны пудзік сена. На пазыку, два пуды за пуд, гэтаксама болей ніхто не дае: ён ужо досыць набраўся. Праўда, усе смяяліся, што ён у рукавіцах цягае каня на пасеку, але Сцёпка, сашчаміўшы зубы, маўчаў. Бурчэў ён толькі па дарозе:

— Чорт яе ведае! Днём сонейка гэтак грэла, гэтак жаваранкі пялі над азяродам, а цяпер зноў марозік узяўся!..

Прывёў кабылу і нават не спутаўшы пусціў на пашу, а сам развёў вогнішча, пагрэўся крыху і заснуў, скорчыўшыся ў тры пагібелі ля агня.

На раніцы, як мароз пакрапчэў, Сцёпа прачнуўся і страшэнна дрыжэў ад холаду. Барзджэй паправіў ён вогнішча і давай грэцца.

Не бачыў ён нават, што кажух яго смаліцца, і не цікавіўся зірнуць, што кабыла яго парабляе. Ужо пагрэўшыся, агледзіўся ён, што кабыла стаіць насупраць яго, апусціўшы галаву, галодная, ажно бок у бок уехаўся...

Сціснулася сэрца Сцёпкі ад нейкага болю яшчэ горш, таму што сам вінен, што дажыўся да гэткіх парадкаў. Паўвалокі зямлі, здаецца, можна было жыць прыпяваючы, а ў яго ніколі не то што хлеба — нават бульбы нямашака...

І ўспомніў ён сваю жонку, заўсёды пакрыўджаную ім лаянкамі, і цярплівую, і маўчлівую, каторая толькі з нейкім страхам пазірае на яго, як ён выцягвае з-за пазухі шкалік за шкалікам і лье сабе ў глотку.

— Хто гэта пракляў мяне? Хто напусціў нячыстую сілу на маю бедную галаву? Чаму атруцілася гэтак жыццё маё? Ці я не за дзесяцярых працую, калі толькі дарываюся да працы?.. Усе дзівуюцца, скуль у мяне бярэцца сіла гэткая? А колькі яе выбілі з мяне — чуць не ўсе рэбры пераламаны, твар у адных шрамах. Затое жонка, бедная, марнеець з дзецьмі, сухотка галодных прабірае, божухна, божухна!..

— Каб я гэта мог талкоўна жыць, але, відаць, пад гэткай планетай на свет радзіўся — цягам цягне мяне сівуха ў яму глыбокую... Адрывае мяне ад працы і гвалтам адбірае апошнюю рэзгіню сена з пуні, апошні кубел дабра з хаты.

— Ці-ткі гэтак і акончыцца жыццё маё? — пытаецца Сцёпка ў самога сябе і, задумаўшыся, устаўляецца мутнымі вачыма ў блізкі альхоўнік.

Хутка прайшлі прад яго вачыма кавалкі шэрага жыцця: як ні біўся быццам рыба аб лёд, як ні стараўся, і заўсёды прыйшлося галадаць у канцы канцоў усёй сям'ёй, як тым ваўкам у калядніцу, або ўсю сваю працу, усе заработкі пераліваў ён у сваю бяздонную глотку...

Пачаў будаваць хату і не кончыў,— сенцы непакрытыя асталіся, і сенцы пагнілі. Нават новыя нарогі, каторыя купіў заўчора,— прадаў учора на выпіўку... Кароўку апошнюю на падаткі аддаў... У прыдатку яго старшы хлапец Янка ў лесе нагу пакалечыў, а цяперака ляжыць на тапчане і стогне.

Задрыжаў Сцёпка... Жудасць прабрала яго ўсяго... пачаў ён злаваць сам на сябе і на ўвесь свет... Горача зрабілася яму ў грудзях, быццам вугалі там унутры гарэлі, як заўсёды, калі ён гатоў быў аддаць апошнюю сваю кашулю на выпіўку. Вочы яго заблішчэлі агнём, калі ён мазнуў:

— Эт! Ужо гэтулькі разоў заракаўся, і не памагае!..

Тут падняўся ён са свайго месца і хутка пайшоў да вёскі.

Ужэ шарэць пачало. Зоркі ніклі адна за другой.

Месяц пахіліўся ніжэй да лесу, і праменні яго блішчэлі на замерзшых лужынах, быццам срэбная тканіна.

У нейкай гарачцы Сцёпка стаяў на месцы, каля старога млына, як успомніў ён аб сваёй кабыле і адвярнуўся назад, ажно кабыла ідзе за ім шаг за шагам, быццам сабака які.

«Яна ўжо сваёй пойлачкі з аўсом просіць, бедная!» — падумаў ён і яшчэ хутчэй пайшоў.

Дзе-нідзе ўжо ў вёсцы скрыпелі вароты. Стары Міхась нёс рэзгіню саломы і сказаў яму «дзень добры», а Сцёпка нават не адказаў яму, бо, як злодзей, краўся да сваёй хаты, каб выцягнуць апошнія два пуды жыта, каторыя прыхтаваў учора ў млын завезці на хлеб змалоць.

Як злодзей, адчыніў ён ціха вароты ў сваё гумно, завёў галодную, дрыжачую ад холаду кабылу ў хлеў, а сам на цыпачках павярнуўся да хаты. Чуць прыхіліўся, падняўшы клямку, і адчыніў ён памаленьку. Пара, быццам туман, папёрла з сярэдзіны стаўбом і абдала яго цеплатой. Ужо пасвятлела, і праз цэлую шыбіну, не абклееную паперай, пранікалі праменні ранняга сонца.

Азірнуўся Сцёпка па баках: жонка супакойна спіць на ложку, прытуліўшы да сваіх грудзей галодную Агатку. На другім ложку храпяць разнарослыя дзеткі; на тапчане

стогне пакалечаны Янка, а на пяколку ляжыць старая маці.

Сцёпка крыху прысеў, скінуў рукавіцы і кажух ды падышоў на цыпачках да стала, дзе стаяў пад ім мех з жытам. Прыціснуў ён мех да грудзей, паставіў на тапчан, пасля на стол і ўзяў на плечы. Тутка прачнулася на пяколку маці і пытае:

— Хто там?

— Я! Я! — адказаў Сцёпка і барзджэй выйшаў з хаты з мяхом на плячах...

Скора старая пабудзіла Сцёпчыху, бо трэба было згатаваць зацірку і бульбу і адправіць гаспадара на возку ў лес. Толькі здзівіла яе, што Сцёпка з начлегу не вярнуўся. Снеданне гатова, сонейка падымаецца вышэй, гаспадары ў вёсцы ўжо прыладзілі калёсы і паехалі ў лес, а Сцёпкі няма яшчэ.

— Ён ужо быў у хаце сягоння,— кажа старая,— і мех жыта ў млын панёс.

— А матухна боская! — усхапілася Сцёпчыха,— мех жыта панёс?..— і, як непрытомная, задрыжэла ўсім целам,— гэта ж ён да шынкаркі на гарэлку занёс, напэўна...— І давай рукі ламаць, галасіць і прычытаць.— Гэта ж я сама чуць вымантачыла ў суседа два пудзікі жытца, на адработак летам!

Вялікае гора пакрыла ўвесь яе высахшы твар, траслася яна як асінавы ліст.

— А дзеткі мае, авечачкі мае, што ж гэта будзем мы рабіць цяперака, прыйдзецца адной бульбай душыцца нам!..

— А скора і бульбы не будзе,— падхапіла старая.

Пахмурнелі дзеці ў хаце, але маўчалі і тапталіся на адным месцы, як праўдзівыя авечкі.

— Баюся, тата будзе біць мяне! — пачаў падхліпваць малы Юрачка.

І заплакала Сцёпчыха горкімі слязьмі...

— Што мне рабіць?! Жывой у труну хіба лезці — шкада дзетак маленькіх... ён іх пераб'е, п'яны, як кураняткаў кволенькіх... а хто заступіцца за іх?..

— Не, што будзе не будзе? — не вытрываю! На гэты раз маўчаць не буду! Я пабягу да карчмарыхі і дам яму качаргой па галаве! Хай раз канец будзе! — І схапіла Сцёпчыха качаргу з качарэжніка і як шалёная пабегла з хаты.

— Ён цябе заб'е, насмерць заб'е! — крычала за ёй ста-

руха з усёй сілы, але Сцёпчыха і не чула нават, пабегла ў другі канец вёскі да суседа-карчмара. Дзеці грамадой выскачылі на вуліцу і пабеглі за ёй, крычачы:

— А мамачка, а мамачка!..

Скора ў вёсцы падняўся такі гвалт, ажно страшна зрабілася, і старая, каторая асталася ў хаце з малой Агаткай, толькі жагналася са страху і шаптала пацеры.

Скора гоман яшчэ большы зрабіўся, і на вуліцы паказалася вялікая грамада людзей. Адны вялі пад рукі акрываўленую непрытомную Сцёпчыху, каторая сланялася і гатова была пасці сярод вуліцы, а кругом яе, як папуджаныя вераб'і, пішчалі яе дзеткі.

Другія вялі Сцёпку, каторы рваўся з рук і крычаў:

— Пусціце мяне! Я павешуся! Я яе, гадзіну, зарэжу, а потым павешуся! За што яна мяне грызе, гадзіна! Ну, захацеў і прадаў жыта на гарэлку, а хто мне забароніць? Я гаспадар! Я хачу гэтак! Я не чужую, а сваю кроў п'ю і буду піць, пакуль не высмакчу апошнюю каплю з грудзей! Во, во! З гэтых грудзей!..— Вырваўшы адну руку, стучаў са ўсёй моцы сябе ў грудзі.— Я кроў сваю п'ю!..— паўтарыў ён ахрыплым голасам.

— Трымайце яго, трымайце, людзі добрыя! — крычалі перапуджаныя бабы.— Бо ён заб'е яе і дзетак перадушыць!

— Я ўсё роўна жыць не буду! — равеў Сцёпка.— Ой, гора ты паганае, ой, душы ты мяне! — і давай галавой аб сцяну біць, ажно ўсім суседзям жудасна зрабілася.

— Праклянцце божа! — шапталі яны, жагнаючыся.

## ЛІСТ

Зімовы вечарок. З усіх комінаў вясковых хат валіць дым густаблакітнымі клубамі, каторыя, падымаючыся вышэй, зліваюцца ў нейкую залацістую кудзелю і знікаюць за гаем. З маленькіх аконцаў міргаюць вясёлыя аганькі, асвечваючы прыпечкі і баб, каторыя гатуюць вячэру. Уся вёска Глухаўшчына ляжыць пад адной гурбай снегу, быццам казачнае мармурнае замчышча... У гэтым снегу, нібы кратамі, месцамі разрыты сцежкі да хлявоў, загуменняў або так — ад суседа да суседа. Вельмі ціха, але вось з-пад сівой пушчы за ўзгоркамі пачуўся зычны скрып санак, по-

тым паказалася фурманка, і з яе раздаваліся па ўсяму беламу абшару голасныя, п'яныя спевы:

Гарні, гарні бульбачку,
Груцу, кашу, чорны хлеб!
Гарні, гарні...

Але тут пявака перакуліўся дагары нагамі з санкамі разам і апынуўся ўвесь у снягу, як у белым пуху, аправіўся, вылаяўся шчыра ды другую песню запяяў.

— Мусі, ужо Лявон цялё сваё прапіў! — кажуць глухаўцы, пачуўшы гэтыя воглaсы.— Бо лішне вясёлы з кірмаша дахаты едзе!

Толькі адна Лявоніха, жонка яго, зусім забылася, што ён цялё з сабой на кірмаш забраў. Яна стаіць, прытуліўшыся к старому плятню, і нецярпліва чакае свайго Лявона. Яна яго гвалтам выправіла ў мястэчка зняць з пошты ліст ад іх старшага сына Міхася, каторага здалі сёлета ў салдаты. Гэта першы ліст яго са службы... Праўда, ужо, дзякаваць богу, шэсць тыдняў, як Міхаська служыць, але як сам неграматны, дык пакуль дапросіцца каго-небудзь напісаць, шмат часу праходзіць. Гэтак раздумвае Лявоніха, расчыняючы зараней вароты на двор, каб Лявону не трэба было астанавіцца. Вось сэрца яе моцна закалацілася... прыехаў!.. Пачаў Лявон кіраваць на двор і ўп'яна зачапіўся за падваротню і вырваў акрутню з аглоблі.

— Дай мне ліст скарэй,— выпаліла Лявоніха.

— Дам табе, сцерва, гэтак, ажно ты заскавычыш у мяне! — гукнуў на ўсю вёску Лявон.

Яна задрыжэла як асінавы ліст і ўсхапілася, што ён напэўна п'яны... Але сэрца маці не вытрывала, і яна пачала ізноў енчыць:

— Лявонька, родненькі, дай ліст!

— Адыдзі, падла! — крыкнуў ён і гэтак моцна штурхнуў яе, ажно яна кульгікнула на тры аршына ў снег. Паднялася, атрэслася, вочы яе злосна заблішчэлі — сама яна пабялела, як чысты кужаль, і наскочыла на яго з дзікім крыкам зарэзанай:

— Ліст дай мне, галаварэз паганы!

Тут Лявон, хоць і п'яны, не так спужаўся, як здзівіўся, у першы раз у сваім жыцці ўбачыўшы сваю жонку гэткай злоснай, і, адсупоніўшы каня, апусціў рукі.

— Ліст дай мне! — схапіла яна яго за каўнер. На двары ўжо сабралася хэўра вясковых гаспадароў і смяялася. Лявон пачаў чухацца.

— Спужаўся! — зарагатаў народ.

— Я спужаўся?! — разгарачыўся Лявон, — я спуж...— Не ўспеў ён выгаварыць гэтае слова, як Лявоніха страшэнна заплакала.

— Ліст дай мне! — ажно душылася яна словамі.

— Юда, дай мне ліст майго сына! Роднага майго Міхаські...

— А каб цябе сто чарцей! — забурчэў пад нос Лявон, крыху памякчэўшы, і, левай рукой трымаючы за аброць кабылу, давай правай рыцца за пазухай. Высыпаў абаранкі, каторыя галапупцы яго адразу падхапілі з радасным піскам, а тым часам Лявоніха стаіць і дрыжыць ад нецярплівасці, як непрытомная, нават не прыкмеціла, што меншак яе, Габрусёк, стаіць босы на снягу і грызе абаранак. Вытрас Лявон свой капшук з махоркай і другі раз вылаяўся, выняў селядцы і палажыў на кашэль з сенам, потым глыбей папароўся і выцягнуў з-за пазухі для Лявоніхі адзіны скарб — ліст ад Міхася, упэцканы ў селядцы. Лявоніха ад нецярплівасці прыхілілася тварам аж да пазухі яго.

— На, паганая скура! На! На! — тыцкаў ёй у зубы Лявон не так лістом, як кулаком, ажно і кулак свой і ліст крывёй афарбаваў...

Лявоніха ні слоўца не сказала на гэта, прыціснула моцна да грудзей сваіх ліст і пабегла з радасцю ў хату.

— Здарова! — пахвалілі адны з хэўры.

— Здаравенна! — падхапілі другія.

— Хай баба ведае сваё месца! — адказаў на гэта Лявон і заліхвацка запяяў:

...Гарні, гарні бульбачку,
Груцу, кашу, чорны хлеб.

А тым часам Лявоніха падляцела да прыпечка, засунула галаву ў самы чалеснік, дзе блішчэлі галавешкі, і давай разглядаць ліст.

— Ой, у крыві...— схапілася яна,— нешта нядобрае... ці не з вайны прыйшоў ліст гэты?..— Тутака яна задумалася і ўзялася адной рукой за вусны і пачула, што ўпэцкала пальцы ў нешта мокрае і цёплае, зірнула на пальцы, ажно яны ў крыві...

— А няхай яго, няхай яго, майго мужыка! Гэта ж я напрасна спудзілася... дрэнь: ён мне зубы пабіў! — Забыўшы болю, давай ізноў разглядаць ліст з усіх бакоў... Разарвала канверт і выняла вялікі аркуш паперы, запісаны вялікімі лапатымі літарамі.

— А божухна! — усхапілася Лявоніха,— гэта ж ніводнага граматнага няма ў вёсцы!.. Што ж мне рабіць?..— Хапілася яна за сваю распаленую галаву і давай грызці канец сваёй паркальнай хусткі.

Доўга думаць не далі ёй, бо Лявон, упарадкаваўшы каня, увайшоў у хату і крыкнуў: «Дай вячэру!» Лявонісе ўжо крыху палягчэла хоць з таго, што яна сабе ліст пад хустку падлажыла, і падала Лявону вячэраць.

Глухаўцы былі вельмі цікавы народ да розных навінак, што на свеце дзеецца, казаў той, і, сабраўшыся грамадой у Лявонавай хаце, сталі дапытвацца, што ён там піша, брахмель той Міхась, што ён там баіць?

— Гэй, Сцяпчонак,— крыкнуў Арцём крывы рosламу дзецюку,— збегай у млын па лысага Хомку, ён прачытае!

— Хомка, гэта кручаны рамень! — адазваўся кульгавы Язэп, вынімаючы табакерку.

— Дзядок, дай панюхаць, дай панюхаць,— запішчалі дзеці.

— На-а-а! — з пагардай адкрываючы табакерку, падаваў Язэп кожнаму хлапчуку шчапотку табакі. Хлопчыкі набраўшы ў нос табакі, пачалі чхаць на ўсю хату.

— Іш, вы! Задалі дыхту! — засмяяўся Язэп, а за ім усе ў хаце.

Не смяялася толькі адна Лявоніха, яна то вымала ліст з-за хусткі, то зноў хавала, пазіраючы ўвесь час у акно, мо ідзе ўжо мельнік.

— Ды досыць табе ўжо цацкацца з лістом! Нібы абраз святы ў руках трымае! — пачаў стыдзіць яе Лявон.

— Мая справа! Ад майго сына! Ад майго Міхаські! — ажно прычытваць нараспеў пачала Лявоніха і пацалавала ліст...

— Фэ! Сцерва дохлая! — буркнуў Лявон і адвярнуўся.

— Ідзе! — крыкнула тым часам Лявоніха,— мельнік ідзе!..

І не паспеў ён яшчэ сказаць «добры вечар» і навітацца з гаспадарамі, як Лявоніха ўсунула ліст у рукі, кажучы:

— Першы ліст ад майго сына, ад салдата.

Мельнік сеў памалу на лаву, затуманіў люльку супакойна, надзеў свае алавяныя акуляры на нос, абкруціўшы ніткі кругом галавы. Адно шкельца гэтых акуляраў было паломана і абкручана дротам так, што правае вока выглядала, быццам чорным крыжыкам пакрытае.

— Дзядзечка, чытаў! — не ўстрымалася Лявоніха і ўжо канцом фартуха давай выціраць слёзы з вачэй. А мель-

нік яшчэ ўсё не чытаў, а разглядаў, нават разнюхіваў гэты ліст.

— Запэцканы, замазаны,— шапярнуў ён сабе пад нос.

— Усё па парадку чытай! — падхапілі ўсе.

— Па парадку,— а як жа ж,— адказаў мельнік і, старанна высмаркаўшыся, узяўся перш-наперш за канверт.

...«Пісьмо ў дзярэўню Глухаўшчыну Галадайскай воласці!.. губерні, перадаць у рукі Лявону Антонавічу Вай-до».

— А бадай кадукцы! Як нехта там крэмзаў,— усё роўна як малаціў,— сказаў мельнік апасля таго, як ён бокам-скокам, па складах прачытаў адрас. Лявоніха глытала кожнае яго слова, як смачныя аладкі. Суседзі з павагай пазіралі на мельніка, а Лявон барабаніў пальцам па стале і бурчэў:

— Што ж, ён там напэўна грошы просіць!

— Як табе не сорамна! — стыдзіў яго крывы Язэп,— мала ён у цябе працаваў? Напэўна, прапіваць лепей?

Але мельнік ужо далей пачаў чытаць, і ўсе змоўклі, як пры станавым.

...«Пасылаю ні-жай-шы паклон свой і сар-дэчнае пач-ценні-е свайму ба-цюш-ке да-ра-го-му Ля-ля-ля».

— А няхай яго кадукцы! Вось загнуў нейкі круцель, ніяк не разбярэш! — крутнуў галавой мельнік.

— Лявону! Мне! — падхапіў сам Лявон,— збіўся ты з панталыку на старасці, дзядзька! Не ведаеш, як мяне завуць?

— Але тут закручана, што і чорт іх не разбярэ,— апраўдваўся мельнік,— каб іх качаргой скруціла, даў бог!

І зноў пачаў чытаць:

...«Лявону».

— Ага! Лявону Антонавічу,— скорагаворкай казаў ён, нягледзячы на літары, і ехаў як па смале далей,—...«ні-жай-шае маё пач-це-ніе ма-ей да-ра-гой мацеры Аг-ра-фе-не Міхайлаўне з сардэч-ным паклонам».

Тутака ўжо Лявоніха не вытрымала і загаласіла на ўсю хату:

— А сынок мой! А родненькі!

А мельнік працаваў далей, на лбе ў яго выступіў пот, а вочы пудліва пазіралі на вялікі аркуш паперы, спісаны з абодвух бакоў...

...«Прашу вас, ба-цюш-ка, з нізкім паклонам...»

Тут Лявон паважна пачаў гладзіць сваю кліпаформную рудую бараду, прыслухаючыся.

— Чорт, як далікатнеюць людзі ў Піцеры! — з зайздрасцю казаў крывы Язэп,— усё з нізкім паклонам ды з сардэчным ніжайшым! Ужо не вясковая тая цемната наша!

Мельнік тым часам, прылаўчыўшыся да сваёй непрыемнай працы, ехаў далей пальцамі па літарах, усё роўна як бараной.

Усім у вёсцы былі нізкія «паклоны» і «желаніе ў дзелах сваіх», усе былі здаволены, што ён не прапусціў ніводнага чалавека.

— І далікатны гэткі зрабіўся — усё «вы» ды «вы»,— талкавалі глухаўцы. Як прыйшлося да Ядвісі Адамішкі, дык там было насаджана гэтулькі «ніжайшых» і «сардэчных», ажно яна, як бурак, зачырванелася, а калі ўсе пачалі жартаваць, што ён яе пакіне, бо не тутэйшыя вечарынкі ў Піцеры, дык яна тыц у дзверы з плачам, а Лявоніха за ёй уцяшаць.

— Нічагутка! Добрая гаспадыня будзе ў Міхася,— шапталіся глухаўскія кабеты каля тапчана.

Позна кончылі чытаць ліст. Людзі паталкавалі ды разышліся. У хаце ўжо ўсе спакойна спалі, толькі адна Лявоніха заснуць не магла. Ліст свайго Міхася яна ўвесь час трымала пры сваім твары ды цалавала ў цемнаце, як святы абраз...

— Божухна, божухна! Чаму гэтак у грудзях шчаміць? Гэтулькі часу прабудзе ён тамака!.. Будуць яго муштраваць, гаротнага. Не ведаю, ці ўбачуся я з ім калі-небудзь... Напэўна, у сырой магілцы косці мае ўжо высахнуць да таго часу, бо сохну я, сохну... П'яніца мой ані мяне не шкадуе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І слёзы каціліся з добрых блакітных вачэй на худы твар, а з твару на цвёрды сяннік... Усе ў хаце смачна спалі, толькі адна Лявоніха не заснула, трымаючы ліст свайго салдата ў абамлеўшых руках...

## ЗЛОСЦЬ

Сымон лічыўся найбольшым бедаком у вёсцы. Дзе калі якое гора навернецца, заўсёды трапіць на Сымона: то бык нагу выкруціў, то пуня згарэла, то бульба пагніла, то тое, то сёе, яго ніякая кара з неба ніколі не міне.

Зрабіўся Сымон чарней чарназёму: ходзіць пануры, як

воўк у чыстым полі, і толькі шукае на кім злосць спаганяць...

Быццам вужаку, носіць ён у грудзях вялікую, страшэнную злосць. Яна, як порах, паліць яго, варушыць вострымі калючкамі ўнутры і супакою не дае.

У яго намутнелых ад бясплоднай працы мазгах кратаюцца цяжкія, як шрот, думкі:

— Абабраў, аграбіў мяне нехта... Нейкае ліха мне жыць не дае... Ты на гару, а чорт за нагу...

І не канчае ён, бо страшэнная злосць душыць горла, вочы туманяцца і наліваюцца крывёй...

— Хто ачмуціў мяне? Хто абкруціў мяне?

І азіраецца Сымон кругом сябе, смутны, благі... Азіраецца і бачыць сваю жонку: высокую, тонкую і худую кабету з запаўшымі грудзьмі, з бледным, падобным да воску, тварам, у парванай вопратцы. У аднэй руцэ трымае яна маленькага Юзіка, які дрыгае голымі, сінімі ад холаду ножкамі і цягнецца беднымі вуснячкамі да пустых грудзей маці...

Азіраецца Сымон на жонку і дзікім робіцца...

— Во хто вінават! Яна гультайка! Заўсёды толькі з дзяцьмі займаецца!..

І ён спаганяе сваю злосць... б'е жонку...

Б'е штодзень, знаходзіць нейкую прыдзірку, і яму быццам лягчэй робіцца.

Сымоніха не бароніцца, не крычыць. Сама падстаўляе плечы і толькі часамі ціха, слабым, хворым голасам кажа:

— Сымонка! Што ты робіш? Гэта ж грэх! Што ж з мяне выб'еш?

І маўчыць, толькі мацней заціскае бледныя вусны, вочы робяцца вялікія-вялікія... смутныя... смутныя...

Яна прывыкла. Ніколі не плача. Ціха нясе сваю пакуту.

— А мо і сапраўды я вінавата? — думае яна часамі. Можа, я недагледзела, можа, мала рупілася, калі кароўка, наша карміцелька, здохла... Мо і сапраўды я вінавата?

Сымоніха падстаўляе плечы:

— Хай б'е. Па гэтым жыць буду...

І лупцуе яе Сымон часта, шчыра...

Часта-густа Сымон п'е, але ніколі не п'янее. Гарэлка не мае сілы над ім... Толькі робіцца яшчэ смутней, яшчэ страшней, пальцы скручваюцца ў кулакі чорныя, грамадныя...

— Хто мяне грабіць, хто мозг касцей маіх выймае?

І, быццам раз'юшаны бугай, шпарка бяжыць біць сваю жонку...

І б'е...

А кабета маўчыць, занадта маўчыць, быццам сапраўды вінавата.

Сохне Сымоніха, як той завяўшы каласок, як тая растаптаная кветка на мяжы... Сохне... кашляе... слабее. Плечы хіляцца ніжэй, на сэрцы млосна, абліваецца халодным потам, ды сама не ведае, што з ёй робіцца...

— Што з цябе будзе? — пачынаюць суседзі ёй гаварыць,— ты ж без пары ў дамавіну ляжаш? На каго ты дзетак сваіх, сіротак, пакінеш? Хто іх гадаваць, даглядаць будзе? Яны, маленькія, пагінуць без цябе! Глядзі, ён жа цябе біццём у сухоты ўвагнаў! Чаму ж ты на яго ў воласць не пажалішся?

А Сымоніха маўчыць.

А калі суседкі лішне ёй дапякаць пачнуць, то яна ім у адказ кажа, што не чужы, а свой мужык б'е, а калі бог судзіў, то яна жыць будзе — і годзе!

Тым часам Сымон не ўнімаўся: біў штодзень; кабета сохла ўсё болей і болей. Сілы ападалі. Загультаілася ды на работу ў поле выйсці не магла, апанела — злегла ў ложак.

— Сымонка! Золатца маё! — казала яна ў непрытомнасці перад смерцю.— Чаму мяне не б'еш? Мо лепей бы гаспадарка пайшла? — і аграмадныя, як пацеркі, слёзы заблішчэлі на яе вачах у апошні раз...

— Ой, аграбілі мяне! — заплакаў-загаласіў ашалелы Сымон, зазлаваўся, сціснуў кулакі свае, азірнуўся дзіка кругом, але не было ўжо каго біць...

Пры нябожчыцы матцы сваёй папуджаныя, мізэрныя, абарваныя стаялі сіроткі і дрыжэлі моўчкі, бо плакаць баяліся, каб татка не біў...

*

Пахавалі Сымоніху. Якія там хаўтуры ўладзіў Сымон, то ўладзіў, але ў хатцы зрабілася смутна і пуста без гаспадыні. Паглядзеў Сымон на дзетак-сіротак — і сэрца яго мо першы раз у жыцці запчаміў жаль, вялікі жаль...

— Божа мой! За што гэта я жонку сваю ў магілу ўвагнаў? Чаму агарнула мяне такая злосць?

У яго вачах застыгла балючае пытанне.

## НА КАЛЯДЫ К СЫНУ

Хмаркі насіліся над лесам.

Розныя па колеру і фасону яны часта ахаплялі вялікую частку неба і тварылі багатыя малюнкі к таемным казкам сталетняга лесу.

Удзень былі яны светла-пурпурныя, а ўночы залаціліся месяцам.

Чаго-чаго ў іх не было!

Цэлыя гарады з дзіўнымі замчышчамі, горы, выспы, азёры, агнёвыя звяры, працэсіі святых у белых вопратках, незлічоныя легіёны ваякаў на конях...

Унізе лес гаварыў свае адвечныя гутаркі... Часам ён маліўся ціха-ціха, і толькі нейкі гук, нібы вокліч далёкага звону, даносіўся з чорнай глыбіні лясной далі...

Часам бываў ён немы, гэтак мёртва немы і спакойны, як бы прыслухоўваўся да нейкіх таемных падземных спеваў.

На хмаркі і на лес часта любіла пазіраць старая ўдава Тэкля, жонка нябожчыка Цыпрука, палясоўшчыка пана Шчубальскага.

Жыла Тэкля адна ў старой хатцы, на пагорку ля лесу, хадзіла на падзённую, бокам-скокам, туды-сюды і неяк гадавалася.

Пан не выгнаў яе з гэтай разваленай хаты, хаця пасля смерці Цыпрука наняў новага палясоўшчыка, але таму пабудаваў і новую хату.

Тэкля любіла хадзіць па суседзях — вельмі гутарлівая баба была, але і любіла сядзець адна на прызбе і думаць сваю думку.

Яна любіла пазіраць на стары лес і на сівыя хмаркі доўга-доўга, і старыя вочы прыкрываў смутак: успаміны старадаўнія, як цені, лезлі ў яе душу, праляцеўшыя гады маляваліся ёй ясна, жыва, быццам перад вачамі бачыць яна ўсё... Надта шкадаваць пройдзены час няма чаго — помніць яшчэ і цяпер пабоі і лаянкі п'янага Цыпрука.

Затое адну пацеху мае яна, якая гоіць раны, адна надзея,— гэтаядыны сын яе, Лаўручок. Во хто сядзіць у яе грудзях, як верабей у цёплым гняздзе...

Любіла яна сядзець на прызбе, пазіраць старымі вачамі на цёмны лес, на адвечныя хмаркі.

Усё жыццё яна была загнана ўсімі, і калі нават бывалі хвілі радасці, то вочы не пакідалі выразу вечнага смутку.

Думала яна аб сыне сваім, які жыве ў вялікім горадзе, думала і цешылася...

Жыве ён сабе там панам, як людзі кажуць...

Лаўручок яе, быўшы яшчэ хлопчыкам гадоў дзесяці, спадабаўся вельмі пану Шчубальскаму за прыгожы від і спрытны розум. Бяздзетны пан забраў яго к сабе, адзяваў па-панску і, падвучыўшы крыху, аддаў пасля ў горад вучыцца.

У лістах да пана часамі ўспамінаў ён сваіх бацькоў. З радасці і ўцехі яны проста не ведалі, што рабіць...

Жартачкі — гэткага ўдалага сына маюць! Першы раз як ён на каляды прыехаў з гораду да пана, дык яго бацькі зараз жа прыляцелі на панскі двор і доўга адстойвалі ў кухні, пакуль сынок з'явіўся к ім. Шчасцю іх канца не было, як угледзелі яго ў чорных суконных вопратках з бліскучымі гузікамі,— якраз асэсар! Праўда, калі маці кінулася да яго абыймаць і цалаваць, дык ён засаромеўся крыху і адсунуўся ўбок...

— Апанеў! — казала потым маці,— і далікатным зрабіўся і гаворыць па-панску!..

«Эт! — гаварыў бацька,— думаеш што, ды і ён панам будзе!.. Глядзі, як ён ужо смяецца з нашай гутаркі ды з нас. Гэта мне не надта падабаецца...»

Маці не звяртала ўвагі на гэта. Слепа радавалася, фанабэрылася перад суседзямі. Скора паны зусім выехалі адгэтуль. З таго часу яны ўжо болей не бачылі свайго Лаўручка...

Тым часам Лаўрук вучыўся далей, як скончыў гімназію, пан выправіў яго на адукацыю ва універсітэт.

Бацькам сваім ён ніколі нічога не пісаў, але пан, аддаўшы ў арэнду двор, усё ж такі сам прыязджаў штогод даведацца і расказваў ім, што Лаўрук вучыцца ў адвакаты.

Цешылася маці:

— Во будзе падмога на старасць!

Цыпрук на гэта ёй часта гаварыў:

— Эт, дурная ты авечка. Яго падмогу сарока хвастом замяце. Чакай ад яго пад старасць пацехі, як ад рабой сучкі яек!

— Замаўчы ўжо! Стары, як малы!

— А ты, брат, баба, зусім дурная авечка! Ці ты не бачыш, што твой Лаўручок зусім чужым зрабіўся для нас з таго часу, як папаў пад панскую апеку. Нешта не цешыць ён мяне...

Цыпрук памёр.

Старая Тэкля засталася адна, і тады яшчэ болей запанавала ў душы яе цяга да сына. Гэта быў увесь яе скарб. Матчына сэрца адкрыла ўсе таемнікі свайго кахання.

Заўсёды, калі была яна адна, думала аб сыне. Суседкам гаварыла, што сынок такі і гэткі, хваліла яго.

Смачна ёй была сухая скарынка хлеба, а без хлеба таксама было добра...

«Эт,— думала яна,— дык што ж там... абы толькі хацела, дык у Лаўручка свайго вунь як зажыла б!.. Абы толькі захацела!»

— Эх, Тэкля, Тэкля! — гаварылі ёй часта суседкі,— паехала б да сына ў горад! Ці табе гэтак і век свой дажываць! Ты ж адна, як корч той на пасецы!

— Не бяда! — адказвала яна,— абы толькі захацела! Мой Лаўручок гэткі багаты, як людзі кажуць, што бадай багацей за самога пана Шчубальскага! Абы толькі захацела!

Прайшло яшчэ пару гадоў. Зрабілася Тэкля сухой, нізенькай, згорбленай бабулькай, зморшчанай, як той грыб.

— Вось дурная! — казалі людзі,— мае гэткага багатага сына, а сама бадзяецца невядома як і дзе!

Падышлі каляды. Увесь абшар быў пакрыты снегам... Вёскі занесены гурбамі, быццам казачныя замчышчы... А лес зрабіўся сівым і паважным.

— Апошнія каляды: зусім ужо я слабенькая...

Не хацелася ёй аднэй застацца ў пустцы каля лесу і пад выццё ваўкоў куццю ладзіць.

І давай, быццам гарачыя вуголлі, закрытыя попелам, выгартаць з сэрца наверх свае захаваныя жаданні, сваю глыбокую веру ў даражэнькага сына...

— Давай,— думае,— дабяруся ўжо да яго... бадай ці дацягну да вясны... Шмат дакучаць яму не буду, бо дзе яму там клапаціцца аба мне і шкада ж яго...

— Пайду да сына! — разнясла яна назаўтра па ўсёй ваколіцы, і гэтак намалола ім рознай гутаркі, што проста ўсіх суседзяў зайздрасць прабрала: жартачкі, гэткага сына мае! Ён там у судах цэлы асэсар, паперы піша і ўвесь свет проста дагары нагамі круціць.

Ускінула Тэкля хатулачку на плечы, пару лапцей на запас узяла, развіталася з бабамі і пусцілася ў дарогу. Да гораду было міль шэсць.

Выбралася раніцай на снежнае поле.

— Кажуць, ён там ажаніўся з багатай паненкай. Напэўна, унукі-жэўжыкі ёсць.

На зморшчаным твары ззяла шчаслівая ўсмешка.

Яна адвярнула таўстую хустку ад вачэй, каб разглядзець, ці шмат ужо дарогі прайшла.

— Ага! і не думала. Ногі самі нясуць мяне, як бы трыццаць гадоў таму назад, і марозу не баюся!

І яшчэ з большым імпэтам няслі яе старыя ногі да роднага сына на каляды...

І шчасце яе расло... Вось дзе жаданне сэрца яе споўніцца! Вось калі зажыве яна, як сыр у смятане!

— Глупства, што часамі нябожчык Цыпрук гаварыў... Як гэта ён мяне не прыме? Я ж — яго матка!.. Я ж яго гадавала і карміла... Ён жа — уся пацеха мая.

Кончыўся дзень. Тэкля начавала ў незнаёмай вёсцы. Добрыя людзі накармілі яе і абагрэлі. Яна ўсім расказвала, што ідзе на каляды да сына, і гэткім тонам, гэткай шчаслівай гутаркай, ажно сяляне з нейкай асобнай павагай пазіралі на яе ды пачалі прасіць, каб яна там у сына за іх заступы прасіла ў судах...

Ранюсенька яна зноў кранулася ў дарогу. Скрыпеў снег пад нагамі. Белыя абшары палёў драмалі пад супакоем нямой цішы...

Рэдка-рэдка калі дзе на хвоі закаркае варона ды, падымаючыся ўверх, страсяне з галін вялікія ком'і снегу...

Рэдка-рэдка калі фурманка пакажацца з лесу. Сярмяжнік занукае на кабылку на розныя лады, упрэцца ў аглаблю, натужыцца — і ні з месца. Воз з бярвеннем цяжкі.

Рэдка-рэдка калі званочак зазвоніць, і панскія санкі віхрам панясуцца па нямым белым гасцінцу...

Тэкля ідзе ды ідзе...

Млеюць старыя ногі... Атопкі, як калоды, зрабіліся цяжкія і цвёрдыя. Нічога — горад блізка.

Ужо здалёк відаць вежы цэркваў і касцёлаў, якія золатам у небе адліваюцца... Вось і муры рознафасонныя... Вось і гоман горада даходзіць да яе вушэй... Хутка ўжо спраўдзіцца яе апошняе жаданне... У старых вачах бліснуў радасны аганёк...

— Нічога, у сына адпачну. Старыя косці выпрастаю!.. Вось пачаліся цёмныя вуліцы шумнага, як бы ашалелага, горада... Тут ужо Тэкля збілася з толку. Не ведала, куды павярнуцца, у каго дапытвацца. Людзі спяшаюць, піргаюць. Рамізнік ледзь не пераехаў яе. Страшна...

Адважылася яна папытацца аднаго, другога, дзе тут яе сын жыве? Ён тут «аблакатам»... Лаўруком завецца.

Хто пажартаваў ды паглядзеў на яе, як на дурную... Хто адвярнуўся ды пайшоў сваёй дарогай, а хто з жалю торкаў ёй у руку капеечку... Гэткім чынам нехта давёў яе да гарадавога.

Той пачаў распытвацца і, ніякага толку не дабіўшыся, павёў яе ва ўчастак. Там яна пераначавала, галодная і змерзлая. Назаўтра, даведаўшыся, хто гэта яе сын, адвялі да яго.

Стукалася, стукалася яна ў дзверы, пакуль нехта адчыніў, высунуўся напалову, паглядзеў на яе і крыкнуў:

— Ідзі, ідзі! канца няма жабракам гэтым!

— Пусцеце... Я да сына свайго іду, да Лаўрука!

— Да Лаўрука?! да сына?! да Лаўрэнція Кіпрыянавіча?!

— Ага! ага! Я маці яго.

Той змерыў яе з ног да галавы, пакуль яна расказвала, што яна з вёскі да Лаўрука на каляды прыйшла, і з усмешкай пусціў у кухню.

Тут сабраліся слугі і давай шушукацца і распытвацца.

Тым часам адчыніліся дзверы з другой стараны ды ўвайшоў малады пан у чорным сурдуце...

— Лаўручок мой! Сынок! — як непрытомная, кінулася да яго Тэкля...

— Роднен...

Ён раптам пачырванеў, паглядзеў на слуг ды хрыпла крыкнуў:

— Чаму вы пускаеце ў пакой розных жабрачак шалёных?!

— Ідзі! ідзі! — звярнуўся ён да яе глуха, адрывіста,— ідзі, старушка! Я цябе... не знаю...

— А сынок мой, а Лаўручок ты мой! Маткі сваёй не пазнаеш?! Гэта ж...

Ён бразнуў дзвярамі і пайшоў у пакоі...

Той самы лёкай выправадзіў яе за дзверы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як зышла з маляваных сходаў, як апынулася па шумным тратуары каля варот, яна сама не памятала... Ачухалася толькі тады, калі той самы лёкай яшчэ раз выйшаў да яе і торкнуў ёй у скурчаныя ад холаду пальцы нейкія бумажкі...

— Ад пана!..

Яна нават не чула, як з яе акалелых пальцаў выпаў гасцінец роднага, доўгажаданага сына. Некалькі трохрублёвых прыліплі да макраватага тратуара...

## ВЕЛІКОДНЫЯ ЯЙКІ

— Гаспадар ты мой, гаспадар ты мой! — гаварыла Мікіціха з крыўдай у голасе да свайго васьмігадовага сына Сцяпана.— Табе ў галаве цацачкі, конікі, чалавечкі, сабачкі, дрэўцы і іншыя трасцы. Апрача гэтага безгалоўя, нічога ведаць не хочаш. Невядома, як твой тата гаротны тамака на вайне, ці жыў яшчэ, ці здароў, а ты ў хаце дурнотамі бавішся. Лепей трушанкі для Падласкі натрос бы ці саломы ў хляве падаслаў бы, а то кароўка бедная стаіць у гнаі, як у сажалцы ўсё роўна. Гаспадар ты мой, гаспадар ты мой! — кончыла жаласліва Мікіціха свае прычытанні. Але ўбачыўшы, што ўсё роўна нічога не памагае, бо Сцяпан не перастае пэцкацца вугольчыкамі, цяжка ўздыхнула і зноў узялася за працу.

Мікітава сям'я была самая бедная ў вёсцы Запушніках. Хатка яго была хоць новенькая, бо Мікіта нядаўна яе збудаваў, але, як пайшоў на вайну, дык і пакінуў яе недаканчанай: без падлогі і без паловы даху. Узімку Мікіціха вельмі нацярпелася холаду, а яе адзіны сынок, Сцяпанка, аб гэтым не дбаў. Ён увесь час займаўся і займаецца пэцканінай, дзеля якой нямала нацярпеўся ўжо за кароткае жыццё.

Проза жыцця з паэзіяй не можа ўжыцца разам у гаротнай сялянскай хатцы. Паміж іх адбываюцца пастаянна балючыя сутычкі. Гэтыя дзве супраціўніцы чалавечага характару рэдка ўступаюць месца адна аднэй, і чалавек, які радзіўся пад апекай муз, вельмі шмат церпіць ад акружаючых абставін. Яго ўсе выкпіваюць, лічаць недарэкай. Яго слёзы паліваюцца гразёю-балотам, на яго стогны адказваюць быдлячым рогатам, аплёўваюць лепшыя яго парывы.

У вёсцы Запушніках хлопчык быў вядомы пад клічкаю «Сцяпанка Пяцкун», дзеля таго, што меў прывычку ўсё пэцкаць вугольчыкамі. Гэта цяга да малярства з'явілася ў яго ад чатырох гадоў. Амаль не ўсе сцены і платы ў вёсцы размалёваны яго рукой. Там можна бачыць конікаў, людзей, сабачак, хаткі, лясы, крыжыкі і іншыя штучкі. Калі часам хто з гаспадароў лавіў яго пры гэтай рабоце, дык дзёр яго за вушы, не шкадуючы. За гэта самае білі яго пастаянна і бацькі, бо і яны «мелі бога ў сэрцы».

Сцяпанка быў вялікім мучанікам свайго малярства. Каб хацелі людзі злажыць новы каляндар мучанікаў, дык, пэўна, Сцяпанка папаў бы туды адным з першых. А чым

болей адвучвалі яго ад гэтай цягі, тым болей ён да яе рваўся. Ён знаходзіў каменьчыкі, травы, якімі можна было маляваць, а калі не меў што пэцкаць, дык далоні свае пэцкаў. Не маляваў ён толькі тады, калі тата яму гэтак рукі паабіваў, што хлопчык імі і крануць не мог... Ён хадзіў тады пануры і злы, ні з кім не гаварыў.

Усе ў вёсцы лічылі Сцяпанку дурным. А Мікіта з жонкай жаліліся на яго.

Суседзі цешылі іх:

— Яшчэ немаведама, што з яго выйдзе: мо, як падрасце дык прыйдзе да розуму.

Як хлапцу мінула сем гадоў, яго паслалі ў школу. Там ён меў спачатку вельмі шчаслівыя хвіліны.

Радасць для Сцяпанкі была бязмерная: настаўнік выдаў яму кніжку з людзьмі, звярамі і рознымі іншымі цікавымі малюнкамі, а бацька купіў яму ў мястэчку паперу і атрамант з ручкай для пісаніны. Тут хлапцу адчыніўся цэлы скарб малюнкаў і фарбаў...

Як вярнуўся дахаты са школы, дык за адзін вечар паспеў размаляваць усю паперу і кніжку, пры гэтым выліў увесь атрамант.

Назаўтра, як настаўнік гэта ўгледзеў, дык выдзер яго добра за нос, за вушы і за чупрыну, і ў дадатак паставіў голымі каленямі на жарству. Пасля такой строгай кары настаўнік выдаў яму новую кніжку і паперу, будучы пэўным, што хлапец болей гэткіх выкрутасаў рабіць не будзе.

Праз пару дзён паўтарылася тое самае. Сцяпанка Пяцкун меў кару ад настаўніка і бацькоў. Пасля гэтага пекла хварэў некалькі тыдняў. Вучыцца ён перастаў. К вясне аддалі яго за пастуха. Але ён патрапіў і там авантуры рабіць. Пагнаў раз стада ў поле, сеў на крушні і давай алоўкам маляваць, а скаціна тым часам улезла ў шкоду. Гаспадар за гэта самае добра яго пачаставаў пугай і прагнаў.

Бадзяўся Сцяпанка Пяцкун цэлае лета вольны, як птушка. Цягаўся цёнгле па лясах-палях адзін-адзінюткі, захоплены заўсёды сваімі марамі-думкамі. А марамі-думкамі яго былі фарбы, без якіх ён не мог жыць. Фарбы былі для яго недасціглай таемнасцю, хаця ён іх бачыў усюды: у дрымотным лесе, у хмарках, на блакітным небе, у зорках, на кветках, у сажалцы і ў сваіх сініх глыбокіх вачах, якія пазіралі на яго з вады, куды ён часам углядаўся, як у люстэрка.

Канца няма фарбам на свеце. Яны заварожвалі яго на захад і ўсход сонца. Любаваўся ён імі на ніве з за-

лацістымі каласамі, калі прамені сонца пераліваліся на хвалях жыта пад ветрыкам. Вабіла яго пажоўклая грэчка на ўзгорку, авёс у лагчыне, сенажаць, далёкія хаткі, асенні лес, імглістая даль. Фарбы яму гаварылі свае казкі, спявалі свае песні...

Хлопчык жмурыў вочы і паміж сваіх пальцаў глядзеў на абшар. Пры гэтым яму здавалася, што ён трымае ў руцэ вялікую карціну, ім самім намалёваную. Яму здавалася, што цэлы свет — гэта злучэнне розных фарбаў: усё збудавана з фарбаў — неба, зямля, жывыя істоты, вада і паветра. Толькі трэба ўмець перадаць гэтыя фарбы на паперы.

А колькі фарбаў няўлоўных на тварах людскіх! Вельмі захаплялі яны хлопчыка. Ён часам наўмысне злаваў сваю матку, каб глянуць, як блішчаць яе гнеўныя вочы, як моршчыцца яе твар, якія складкі пераліваюцца ў светаценях на яе вопратках, калі яна з імпэтам пускаецца за ім удагонку, каб даць лупцоўку.

Уночы, як клаўся спаць, дык таксама думаў аб фарбах. І ўсё вакольнае да апошніх драбніц жыва стаяла ў яго мазгах. Ён іх добра бачыў у памяці, і, здаецца, каб толькі меў чым, дык адразу ўсё б намаляваў...

Часта-густа хадзіў ён да сваёй цёткі Тэклі глядзець на «святыя» абразы, якімі былі багаты чорныя сцены яе хаткі, бо ў бацькаўскай хаце быў толькі адзін абраз, які даўно счарнеў ад дыму і копаці, што нічога на ім відаць не было.

Цётка Тэкля была вельмі набожная кабета, і кожны раз, быўшы на кірмашы ў мястэчку, яна купляла сабе розныя вялікія і малыя абразы. На сценах яе хаткі красаваліся «святыя» з беленькімі авечкамі. Юры на белым кані забівае змея. Было некалькі «матак божых» з маленькім Язусікам, вакол іх — анёлчыкі. Былі цары ўсяго свету, малюнкі кітайскай вайны і розныя іншыя.

У Сцяпанкі Пяцкуна разбягаліся вочы, гледзячы на гэтае багацце. Цётка Тэкля заўсёды выганяла яго з хаты, баючыся, каб не сцягнуў што, бо цётка прымячала, што ён глядзіць на абразы, як воўк на авечак. Хлопчык не мог сабе нажыць ніводнага малюнку.

Прыехаў раз да іх у госці дзядзька салдат. Гэты дзядзька падарыў Сцяпанку бляшаную пушачку ад ваксы да ботаў. На гэтай пушачцы быў намалёваны маленькі, чорненькі чалавечак, які трымае ў руках шчотку, а пры чалавечку — бот, у тры разы большы за самога чалавечка.

Трохі пакасурыўся было Сцяпанка на гэты цуд мастацтва, але тое, што гэта штучка зрабілася яго ўласнасцю, асляпіла яму вочы, затуманіла розум, і яму пачало здавацца, што нічога пякнейшага няма.

— Вось калі можна будзе мне навучыцца добра чалавека намаляваць і бот! — думаў ён.

Чалавек-хохлік і бот-волат вельмі цешылі яго. Чалавек мог бы схавацца ўвесь у боце, што нават і шапкі не відаць было б.

Пабег шчаслівы Сцяпанка ў ток са сваёй пушачкай, ад якой вачэй адарваць не мог. Цешыла яго вельмі тое, што гэтага скарбу ўжо ніхто ад яго не адбярэ.

Сеў хлопчык на старой драбе і давай пазіраць на маленькага чалавечка з вялізарным ботам. Пільна пазіраў, нібы гіпнатызаваць хацеў гэтага чалавечка, але чалавечак гіпнатызаваў яго.

Чалавечак быў для яго нейкім светлым гасцём нязведаных краёў, які з'явіўся, каб апавядаць аб усіх таемнасцях фарбаў; ён прынёс Сцяпанку тое праўдзівае шчасце, якое не купляецца ні за якія багацці на свеце.

Ён зрабіў такое ўражанне на душу малога хлопчыка, што Сцяпанка аж спавядацца перад ім пачаў: успомніў усе грахі свае, як бацькам прыкрасці рабіў, як вугольчыкам усё пэцкаў — усе, усе маленькія грашкі, якія, нібы дротам, калолі Сцяпанку ў самае сэрца. «Я новым чалавекам зраблюся», думаў ён. «Але вось прыйдзецца разлучыцца некалі з гэтым чалавечкам», думаў ён пры гэтым, «памерці прыйдзецца на старасці лет». І такі жаль агарнуў Сцяпанку дзеля таго, што ён, Сцяпанка, не вечны, не бяссмертны, ажно слёзы пасыпаліся з яго вачэй. Але тут туман нейкі атуліў яго, галава закружылася, і чалавек на пушачцы вырас у вялікага чалавека. А бот зрабіўся вялізарны, як хата, а пушачка ў самае неба ўпёрлася. Страх напаў на хлопчыка.

— Не пужайся,— пачаў гаварыць чалавек з пушачкі да Сцяпанкі Пяцкуна,— я ўжо даўно хацеў прыйсці да цябе, бо надта цябе шкадую і люблю. Хадзі во ў бот — гэта мой палац. Там я табе шмат аб чым скажу.

Чалавек увёў Сцяпанку ў свой палац.

Чаго толькі Сцяпанка там не ўбачыў! Якія ўбраныя пакоі, усё роўна, як у папі багатай, што жыве ў блізкім фальварку ля вёскі Запушнікаў. Якія лямпы, люстэркі, столікі, крэслы, цацкі, статуі, абразы, золата, серабро, да-

рагія рознакалёрныя тканіны. Хлопчык глядзіць, і вока насыціцца не можа.

Чалавек водзіць яго па ўсіх пакоях, паказвае свае бязмерныя багацці і тлумачыць. Шчотка ў руках чалавека — не шчотка, а скрыня з рознымі фарбамі: і залатыя, і срэбныя, і сінія, і зялёныя, і блакітныя, і чырвоныя — нават такія, што Сцяпанка не ведае, як іх называць. Усё на свеце імі можна маляваць! Чалавек даў яму пэндзлік і пачаў вучыць маляваць. Сцяпанка з радасцю замалёўваў сцены вялізарных пакояў і цешыўся з сваёй работы. Птушачкі, дрэвы і людзі выходзілі ў яго, як жывыя. Вочы былі сінія, губы чырвоныя, вопраткі ў розных колерах з залатымі гузікамі, як у дзядзькі салдата. А неба, а месячык, а возера, а дзераўцы, а кветкі — ды і не злічыш!

Чалавек яго пахваліў і казаў:

— Не бойся, дзіцятка, што ўсе цябе так крыўдзяць і смяюцца з тваёй пэцканіны. Я заўсёды буду з табою! Хай сабе ўсе дурнем цябе завуць, але ты разумней за іх усіх. Во, маеш сабе гэту скрынку з фарбамі і ведай, што гэта тваё найвялікшае шчасце ў жыцці, ведай, што гэта...

Чалавек не дакончыў гаварыць. Палац рухацца пачаў. Грымоты загрымелі, і хлапец прачнуўся ад матчыных крыкаў:

— Ах, ты паганец! зноў цацкі! Ні да бога, ні да людзей ты ў мяне!

Хлапцу перарвалі такі прыемны сон і аднялі ў яго пушачку. Слоў не стае. Найвялікшыя раны ў чалавечай душы загойваюцца, зарастаюць і забываюцца, але гэтай болі Сцяпанка, мабыць, да смерці сваёй не забудзе...

А раз у год бывалі ў Сцяпанкі светлыя хвіліны — на вялікдзень, калі яму дазвалялі яйкі фарбаваць. На гэту работу яму куплялі ў мястэчку фарбы на цэлы пятак. І ён па-майстэрску размалёўваў яйкі цэркаўкамі, званіцамі, анёлкамі і крыжамі, ажно людзі дзівіліся.

Толькі сёлета маці казала, што ніводнай капеечкі Пяцкуну на фарбы не дасць. Сэрца хлопчыка зашчаміў вялікі боль.

— Матанька! родная! злітуйся! дай хоць адну капеечку на фарбы...

Як скала, як жалеза, было матчына сэрца:

— Хвароба табе, а не фарбы, гаспадар ты мой! Во ідзе вясна, тата твой мо і не жыве ўжо, а ў тваёй галаве толькі цацкі. Каб ты лепей бедаваў аб тым, хто сёлета ў нас поле араць будзе, хто шнур засее. Эх, ты, гаспадар!

Сцяпанка сумна пазіраў праз акно на мутныя хмаркі. Прыйшоў вялікдзень, і з воласці прынеслі ліст, што Мікіта, бацька Сцяпанкі, ужо забіты.

Мікіціха плакала-галасіла на ўсю вёску аб чалавеку сваім, праклінаючы долю ўдовіну.

Цешылі яе суседкі тым, што не яна адна такая нешчаслівая, што тысячы такіх ёсцека цяпер.

Людзі абяцалі памагчы ў гаспадарцы — гэта яе не цешыла.

— Каб яшчэ сын людскі быў, падрос бы і гаспадарыў, замест нябожчыка, а то з кожным годам растуць разам з ім і цацкі ў яго галаве.

Вельмі жаласна было Сцяпанку тое, што тата згінуў на вайне, аднак дзіця не ўцяміла добра гэтага гора і яму балела ў душы горш ад таго, што фарбаў няма на вялікдзень, каб яйкі афарбаваць...

Настаў вялікдзень. Пайшоў Сцяпанка з іншымі хлапчукамі ў валачобнікі на ўсю ноч. На яго долю выпала некалькі яек.

Хлапцу ўдалося выцягнуць з кубла бацькаву фатаграфію, якую Мікіта прыслаў з войска. Ён пабег з ёю ціханька ў ток.

Праз некалькі гадзін вярнуўся ў хату з намалёванымі яйкамі. Як толькі маці ўгледзела яйкі, дык успляснула рукамі ад дзіва: на ўсіх яйках быў намалёваны нябожчык Мікіта і выглядаў ён усё роўна як жывы. Быў ён намалёваны чырвонай фарбай.

— Дзе ты, гаспадар ты мой, чырвоную фарбу дастаў? — грымнула Мікіціха на сына, які ўвесь час хаваў рукі за плечы.— Пакажы, пакажы, гаспадар ты мой, што ты ў руках сваіх там трымаеш? — Пры гэтым Мікіціха схваціла яго за рукі і ўбачыла, што пальцы ў Сцяпанкі былі анучкамі завернуты. Яна хутка сарвала анучкі і чуць не абамлела ад неспадзеўкі — пальцы былі запэцканы крывёй...

— Што ты гэта зрабіў, гіцлю?! Што ты зрабіў! — крычала яна не сваім голасам.

— Мне фарбы патрэбны былі,— апраўдваўся Сцяпанка.— А пальцы — мае. Я над імі гаспадар!

— Назолу прыслаў бог на маю галованьку бедную! — заламала рукі Мікіціха.

Разнеслася чутка па ўсёй вёсцы, што вельмі дзіўна размаляваў Сцяпанка Пяцкун велікодныя яйкі. Людзі

прыходзілі глядзець, пазнавалі на яйках нябожчыка Мікіту і дзівіліся.

Пайшла казка па ўсёй ваколіцы аб той фарбе, якой Сцяпанка яйкі размаляваў, байка вырасла ў цуд. Апавядалі бабы адна аднэй, быццам хлопчык, каб дастаць чырвоную фарбу, адрэзаў сабе руку, упусціў кроў у начоўкі, а пасля ўзяў палец адрэзанай рукі і маляваў велікодныя яйкі.

Не абышлося тут і без нячыстай сілы. І людзі з нейкай трывогай пачалі гаварыць пра Сцяпанку.

— Гэта — антыхрыст! — казалі адны з разумнікаў вясковых.

— Гэта — святы, гэта — багамаз! — казалі другія.

Тым часам чутка аб дзіўных велікодных яйках дайшла і да братоў-студэнтаў з блізкай вёскі.

Студэнты зацікавіліся і таксама прыйшлі паглядзець. Доўга разглядалі яны сцены, размалёваныя вуголлямі, і шапталіся паміж сабой. Малюнкі на сценах ім яшчэ больш падабаліся, чымся малюнкі на яйках.

Пры гэтым Мікіціха з жалем расказала ім, як Сцяпанка яе замучыў сваімі малюнкамі і які ён нікчэмны хлапец.

Сцяпанка Пяцкун стаяў, як вінаваты, з апушчанай галоўкай.

Студэнты забралі хлопчыка з сабой і падарылі яму прыгожую скрыначку з рознымі фарбамі. Яны абяцалі яго вучыць і ў горад забраць, кажучы пры гэтым, што з яго выйдзе вялікі чалавек.

Бясконца радасны вярнуўся Сцяпанка дахаты. Увесь час думаў, якая можа быць карысць ад «вялікага чалавека». І ўспомніў ён, што ў вёсцы ў іх быў калісьці вельмі вялікі чалавек, вышэй ростам ад усіх у вёсцы, рыбалоў Міхась. Але той быў яшчэ большы п'яніца і задзёра, і ніхто яго не любіў.

Не спадабалася Сцяпанку быць «вялікім чалавекам» — доля Міхася-рыбалова яго не вабіла.

— Лепей буду маленькім,— думаў ён,— але каб паехаць у горад вучыцца.

Вярнуўся хлопчык дахаты, і маці ў яго спыталася, што панічы яму гаварылі.

Сцяпанка спачатку саромеўся, а потым сказаў:

— Я буду некалі вялікім чалавекам!

— Эх, эх! — засмяялася Мікіціха,— навіну казалі разумнікі канапляныя! А я табе кажу, што калі будзеш займацца цацкамі, дык не дарасцеш да вялікага чала-

века і не будзеш гаспадаром, бо з голаду памрэш! А пакуль што ідзі есці, мой «вялікі чалавек», бо ўжо другі дзень, як не бачыла — ці еў ты што-колечы...

А ці будзе некалі Сцяпанка вялікім чалавекам, ці заззяе над ім зорка светлая — не ведаем. Гэта залежыць ад таго, як далейшы лёс яго жыцця пакіруецца.

## УМАРЫЎСЯ

— Умарыўся...

Гэта ён скарэй падумаў, чымся выгаварыў.

— Умарыўся...

Кожная частка яго змучанага працаю цела паўтарала гэтае слова. Досыць было глянуць на яго мутныя, затуманеныя вочы, на яго сагнутую, як бы папалам перабітую паясніцу, на яго павольныя рухі; досыць было пачуць яго цяжкія стогны — і кожны мог здагадацца, што чалавек умарыўся.

— Умарыўся...

Тут ужо яму самому здавалася, што крыкнуў на ўсё поле. Ён выгаварыў гэтае слова глуха, хрыпла, хворым, старэчым голасам...

Закашляў і, глыбей урэзаўшыся сахой у зямлю, спыніў каня.

Сам адышоў на мяжу, сеў на крушні, зірнуў на вялікі абшар перад сабою і задумаўся.

Сядзеў доўга.

— Годзе! — сказаў ён самому сабе,— няма чаго валаводы валаводзіць, магу сказаць — годзе! Выгадаваў дзяцей, дачок усіх добра замуж павыдаваў, сыны — гаспадары рупныя і баяцца мяне яшчэ цяперака, як дзеці малыя! Ой, трымаў я іх дагэтуль у сваіх абцугах! Ой, кіраваў я гаспадаркай! Няма чаго валаводы валаводзіць, быў хлеб, было і да хлеба...

Стары агляну ўся па баках, абцёр рот рукавом і задыміў люлькай.

— І жалеза іржа з'ядае. І камень не вечны. Адчуваю, што сілы мяне пакідаюць.

Ён выглядаў, як дуплаваты, струхлелы дуб, які вось-вось зваліцца з вялікім грукатам. Усё ж такі былая сіла яшчэ дае сябе знаць.

— Прыйдзецца лейцы выпусціць з рук. Няма чаго валаводы валаводзіць; сыны мае — Янук і Міхалка — гарапашныя, абыдуцца і без мяне! Няхай ужо мае старыя косці грэюцца на пяколку ў цяпле! Эт! не грэх ужо мне, старому, пад кажухом пазней паляжаць!

Халодны пот пакрыў яго твар. Рукі павіслі.

— Няма чаго валаводы валаводзіць! Як толькі пачынаю памятаць сябе, не глуміў я дарэмна хлеб на свеце — гнуў карак, рукі мазоліў... Меншага брата няньчыў, калі маці часу не мела; пасля ў пастухі пайшоў, пасля парабкам служыў. Вось так увесь свой век...

Ён злосна плюнуў.

— Цьфу! Згінь ты, люты вораг мой, старасць паганая! Змагаўся я з табою, але ўрэшце паддаюся — годзе!

Зноў паспакайнеў. Пачаў ціха разважаць:

— Няхай ужо Янук з Міхалкам самі гаспадараць... Трэ будзе без крыўды падзяліць гаспадарку, а я застануся жыць у старшага — у Янука. Ён такі паслухмяны, спакойны, падатлівы. Але... не! — Буду лепей жыць у малодшага — у Міхалкі. У Янука жонка — ведзьма... Эт! неяк будзе! Няма чаго валаводы валаводзіць!

Сумна глянуў на каня, што стаяў, апусціўшы ўніз галаву, і падняўся з свайго месца.

— Як вол да доўбні! Але нічым не паможаш. Не я першы, не я апошні!

Выпраг каня. Пацягнуўся дахаты.

Назаўтра ўжо ўся вёска ведала, што стары Габрусь «выпусціў лейцы» і выбіраецца з сынамі ў воласць дзяліць зямлю. Габрусь лічыўся ў цэлай ваколіцы прыкладным, здатным гаспадаром, якога дзеці не толькі баяцца і паважаюць, але і слухаюць, не п'юць і не марнуюць гаспадаркі.

Янук і Міхалка, пачуўшы ад старога, што ён болей сам працаваць не будзе, скідае з плеч гэты цяжар і дзеліць гаспадарку, зрабіліся яшчэ болей паслухмянымі.

— І даўно б, татка, так зрабіў! Або-о-о, ці мы самі не справімся! Годзе табе працаваць: мы будзем цябе слухаць, як і дагэтуль!

Нявесткі на такі самы лад заспявалі.

У воласці Янук і Міхалка крыху касурыліся адзін на аднаго — вядома ж, пры дзяльбе. Стары Габрусь патрапіў усё ўладзіць як найлепей, і яны здаволеныя прыехалі дахаты. Вымералі вяроўкамі зямлю, паўбівалі калкі, раздзялілі будынкі, і ўсё пайшло, як на мазаных калёсах.

Ад першага дня пасля дзяльбы стары Габрусь сядзеў на прызбе ды люльку смактаў.

— Адпачываю! Першы раз за гэтулькі гадоў працы... Ой, як добра! — казаў ён, адчуўшы лёгкасць у касцях.

— Адпачываю! — тлумачыў ён суседзям.— Няма чаго валаводы валаводзіць, за плячамі сыноў магу цяпер адсапнуцца.

Але стары Габрусь, усё жыццё прывыкшы тупацца, не мог доўга выседзець без работы: нуда напала.

— Не, нягожна гэтак! — тлумачыў ён сам сабе,— на адпачынак хопіць яшчэ часу! У-у-га-а! У магіле чалавек адпачывае незлічоныя гады... бясконца спіць... Жывому ж чалавеку трэ нешта рабіць... Вядома, не пайду я з сахой навыперадкі з сынамі, не стану пракосы ганяць з імі ў перагонкі, але баранаваць, сена грэбці — гэта рукам маім толькі на здароўе пойдзе!

І стары Габрусь зноў узяўся за работу. Павесялеў. Павесялелі разам з ім і яго сын Янук з жонкай...

Як бы там спачатку ні сыпаліся абяцанкі-цацанкі, што на старым бацьку і валасочка ніхто не зачэпіць, што старога бацьку на руках насіць будуць, але ўсё ж такі хутка пачалі скардзіцца: чалавек пальцам аб палец не ўдарыць, а калі што-небудзь робіць, дык як той верабей лапкай...

— Дармаед! — закралася таемная думка ў сына.

— Дармаед! — казала нявестка ціхутка па вёсцы.— Стары нічога не робіць, ды есць за пяць маладых!..

— Няма чаго валаводы валаводзіць, стары ўсё роўна як малы,— падумаў Габрусь, як узяўся за тыя лёгкія работы, што рабіў яшчэ хлапчуком: сена грэбці, баранаваць, вяровачкі віць, трушанку трасці...

І Габрусь далей давай думаць:

— Чалавечае жыццё ўсё роўна як адзін паварот каляса: спіца знізу ўзнімаецца ўгару і зноў апускаецца ўніз. І квіта, дзядзька Мікіта. Было — і няма...

*

Далей-болей — і звыкся стары Габрусь са сваім новым становішчам — на «адпачынку» ў сыноў. Прывыклі і дзеці. Яны адчулі, што зрабіліся гаспадарамі. Хоць стары бацька яшчэ працаваў, як умеў, але яны пачалі пазіраць на яго, як на лішняга. Габрусь яшчэ пробаваў так-сяк адбрыквацца, але скора спазнаў, што не туды заехаў...

Сыны перасталі яго баяцца і паважаць, а нявесткі ў вочы «дармаедам» і «гультаём» называлі...

Прапала! Гэтак трэба! Відаць, іначай быць не можа!..

І пачалася шэрая, неспагадная, адзінокая старасць... Габрусь зноў адчуў, што змарыўся...

Змарылася сэрца старое... Змарыліся думкі... Старога Габруся пачала ўгнятаць незаслужаная крыўда ад дзяцей. Ён слабеў — штодзень болей і болей... Пачаў сам з сабою гаварыць, бурчэць. Злаваўся на ўвесь свет і сам на сябе...

Сыны адсылалі адзін да аднаго, як шкодную, непатрэбную рэч... перакідваліся ім, як дзіцячай качалкай.

Колькі разоў прыходзілася яму чуць ад сваіх азвярэлых нявестак: «Чаму стары гэткі жывушчы? Здаецца, пара ўжо на другі бок у дамавіне перавярнуцца...»

Стары Габрусь толькі трос лысай галавой...

*

Гэтак прайшлі два гады.

Крыўда ад сваіх хатніх штораз часцей спатыкала старога Габруся...

— Не магу гэтак! Не магу! — гаварыў ён сам з сабою,— няма чаго валаводы валаводзіць, дажыўся...

*

Усе ў хаце спалі, і ніхто не чуў, як дзед злез з печы, нацягнуў на ногі боты, світку, як насунуў вялікую зрэбную торбу на плечы, узяў кій у рукі, нешта пашаптаў на кут і выйшаў з хаты...

Будзь шчаслівa, хатка мая родная! Кожнае бярвенца тваё хіліла мой крыж уніз... Састарылася ты разам са мной... Цябе яшчэ падправяць, падбудуюць, а мае старыя косці зараз зусім рассыплюцца!

— Будзь шчаслівы, куток мой мілы, дзе жыў я з малых дзён!

— Бывайце здаровы, неспагадныя дзеткі мае! Я пайду ад вас...

— Ой, змарыўся тут! Няма чаго валаводы валаводзіць. Мо і сапраўды жыву подаўга, як тая старадрэвіна...

— Калі гэтак, дык пайду жабраваць... Добрыя людзі будуць карміць, адзяваць і дазволяць хоць на адну ночку

галаву старую прытуліць... Затое будзе спакайней на душы. Яны ж людзі чужыя. На іх крыўдзіцца не стану.

Мутныя слёзы цяклі па яго твары. Ён адвярнуўся ў другі бок і пайшоў камяністай дарогай... Выціраў вочы цвёрдымі касцістымі рукамі, з якіх старадаўнія мазалі і не думалі сысці, да самых касцей уеліся.

Цемра глынула яго. І ён, як бы ўцякаючы ад ворага, сунуўся далей і далей...

— Умарыўся!.. Жыццё перажыць — не поле перайсці з сахой...

Стары Габрусь дабраўся да цёмнага борку і скора схаваўся паміж хваін...

## СПАТКАННЕ

*(Бязмерны абшар. Шлях асвячаецца далёкімі пажарышчамі. Грымяць гарматы. Ідзе, згорбіўшыся ў тры пагібелі, дзядуля — Стары год. Стаіць яму на спатканні стромкі малады дзяцюк — Новы год.)*

Стары год. Вось, як той кажа, і канчаю жыццё сваё! Глыбокія раны пакрылі ўсё цела маё... вочы мае асleплі ад слёз крывавых... дыхнуць не магу ад безупынных стагнанняў, валасы мае выліпялі, вушы аглухлі ад грымотаў смерці... О, як я рад, што час супачынку падыходзіць, бо нялюба мне жыць было!..

Новы год. Дзень добры, дзядулька! А які ж ты страшны! Ці гэтак дрэнна жыць на свеце?

Стары. Так, так, кепскія часы, сынку мой!

Новы. Як ты цярпеў, відаць; я бачу ў цябе сляды вялікіх пакут... бязмернага гора!..

Стары. Але, але, сынку мой, ніколі свет не бачыў гэткіх рабункаў, як пры мне!..

Новы. Як я палохаюся!.. Што ж мне трэба будзе рабіць?

Стары. Пайсці далей па гэтаму старому шляху...

Новы. А што мяне чакае?

Стары. Шмат, сынку, пытацца любіш. Сам пабачыш.

Новы. Як я палохаюся!

Стары. Эт, глупства! Тое, што прайшло,— ужо няма, а што павінна быць — усё роўна будзе!

Н о в ы. А хто мой шлях будзе асвячаць?

С т а р ы. На ўсходзе неба ёсць ясная зорка,— яна заўсёды ўсім братам нашым на сам пачатак дарогу паказвае.

Н о в ы *(усцешыўшыся)*. Зорка, кажаш? На ўсходзе?!

С т а р ы. Але! Яна калісьці вяла волхваў да крыніцы дабраты вялікай.

Н о в ы. Што гэта — «вялікая дабрата»?

С т а р ы. Сам я гэтага не бачыў, але кажуць, што гэта — шчасце людское, што гэта — сонца жыцця.

Н о в ы. А зорка давяла волхваў да таго сонца жыцця?

С т а р ы. Яны ў сне толькі бачылі гэта, але...

Н о в ы *(устрывожана)*. Што — «але»?

С т а р ы. Але і цяпер яшчэ шукаюць...

Н о в ы. А хто гэтыя волхвы?

С т а р ы. Гэта — людзі, каторыя галовамі сваімі ўпіраюцца ў самае неба, а ступнямі капаюцца глыбока ў зямлі. Вакруг іх ззяюць праменні думак вялікіх, а ў іх сэрцах шыпяць тыя старадаўнія змеі грахаводства. Ніколі не могуць яны падзяліць паміж сабою багатага скарбу зямлі... Робяцца яны тымі пасынкамі Адама, каторыя прабіваюць сабе дарогу ў жыцці клыкамі і кіпцямі...

Н о в ы. О! Якое гэта будзе маё жыццё!.. *(Аглядаецца цікаўным вокам вакруг.)*

С т а р ы. Твой пачатак, як мой канец...

Н о в ы. А далей?

С т а р ы  г о д. ?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Удалі, на ўсходзе неба, заззяла зорка. Анёлы белакрылыя пяюць малітвы-песні. Новы год атуляецца туманам неразгаданых варожбаў. Вочы яго арліныя пазіраюць на ззяючую зорку і чытаюць вялікія таемнасці быцця.

## ЧАРАЎНІК

— На пяколку ў роднай хаце цяпер куды выгадней было б,— казаў свайму суседу стары Баханчук, злазячы з санак і з болем выціскаючы пальцамі правай рукі ледзяныя сасулькі з вусоў,— старыя костачкі мае ўжо досыць вымярзалі дагэтуль.

— О-ей-ей! Жыццё ты, жыццё! — застагнаў яму ў адказ сусед Тодар,— аддухі захацеў чалавек! Не-е-е, братачка, не трэба дармо жаваць хлеб на зямлі.

І суседзі пакурвалі люлькі. Па гасцінцы ўдаўжкі цягнуўся цэлы абоз фурманак, штук з пятнаццаць. Усё: і коні, і людзі, і санкі-кары, што былі прыгатоўлены для возкі калод з лесу да ракі, былі пакрыты белым налётам мяккага пухкага снегу. Навокал усё, як зачараванае, ляжала пад белай коўдрай: і даліны, і ўзгоркі, і лес; як бы нейкая белая казка, што вецер разнёс па ўсіх ваколіцах. Усё, як бы сумысля, прыціхла, каб прыслухоўвацца да лёгкага шолаху снегу, што плыве на заільдзянелых палях, да гуду глухой мяцеліцы, што часамі, як бы ўмарыўшыся, прыціхала, а пасля ізноў, яшчэ з большым імпэтам, пачынала сваю нудную манатонную музыку.

Дарога была завеяна, і вясковыя калматыя худыя конікі памалу выцягвалі ногі са снегу, сумна павесіўшы галовы ўніз. Ціха ішоў кожны гаспадар за сваімі карамі, якія былі напакаваны пухцерамі сена і мяшкамі аўса. У некаторых на санях нешта сядзела жывое, абхутанае ў дзіравыя кажухі і суконныя світкі. Гэта былі памочнікі-хлапчукі, якіх бацькі ўзялі з сабою на падмогу.

Ехалі сяляне на заработкі на колькі месяцаў. Іх наняў лясны купец. Ехаць прыйшлося колькі дзён да таго лесу, а надта ганяць конікаў яны шкадавалі, бо ведалі, што ім, жывёлам гаротным, яшчэ хопіць нацягацца цяжкіх калод праз усю зіму... Вазакі паміж сабою гутарылі мала, толькі часамі, калі хто выкрасаў агонь, то другія падыходзілі задыміць люльку ды падкпівалі пры гэтым з чыйго-небудзь каня, напрыклад: «Твой, Тодарка, лысы рысак як бы кульгае крыху» альбо: «Глядзі, акрутня зараз перарвецца». І гэткім парадкам кожны варочаўся зноў да сваёй кары.

Стаяла ўвесь дзень сівая імгла. Часам снег сыпаўся часценькі, дробненькі, як з-пад рэшата мука ў добрай гаспадыні. Не відаць было, дзе канчаецца лес ці поле і дзе пачынаецца неба.

Часамі на момант снег пераставаў сыпаць зверху; тады ўсё: і абшар палёў, і лес, і неба, і фурманкі вызначаліся кожнае асобна, белае на белым, нібы фігуры на мармуры. Усюды ляжала таемная павага зімовай цішы... І коні, і людзі цёплым дыханнем вытваралі цэлыя хмары белай пары і краталіся ўсё далей і далей... Гледзячы здалёку, здавалася, што яны так адвечна кратаюцца, не памятаючы пачатку дарогі і не спадзеючыся канца...

Болей усіх зухаваўся стары Баханчук. Нешта ў яго было не ўсё так, як трэба; то хадзіць за фурманкай было трудна, то лысы яго адсупоніцца, то нейкія думкі невясёлыя апануюць, то ў грудзях падпірала і ў вачах муцілася. Наогул сягоння было яму нешта не па сябе. Ён сеў нарэшце на сані, укапаўся ў сена на хвілінку задрамаць. Прыплюшчыў вочы, глядзеў на дугу, што як бы ў самае неба ўехала. Хутка мяцеліца пачала курыць у самыя вочы. Ён масціўся, масціўся, каб сесці як-колечы плячамі к ветру, але вецер, як сумысля, круціўся са ўсіх бакоў, пакуль Баханчук усё ж такі ўхітрыўся прытуліцца тварам да сена, раней атросшы з таго месца снег. Нарэшце ён трохі сагрэўся і задрамаў. У сне зрабілася яму цяжка, як бы хто душыў яго. Доўга марматаў сабе нешта пад нос, хацеў прачнуцца, ды не мог. Здаецца, каб хто пабудзіў яго цяпер, дык той бы вялікую ласку зрабіў; але вось коні павярнулі на пагорак, і ад штурхання ў аднэй ухабіне ён адразу прачнуўся. Хацеў падняцца і прайсціся, але слабасць абхапіла, галава кружылася, ён адкінуўся назад на санях. Пробваў другі раз падняцца і сам здзівіўся такой сваёй слабасці: у грудзях калола, галава гарэла.

— Нейкая немач напала... Тодар, а Тодар! — глухім голасам загаманіў Баханчук да суседа.

— А што?

— Нешта нядужыцца мне; галава, як шротам, напоўнена; унутры млосна, а такая слабасць прабірае, што ратуначку няма.

— Перамёрз, відаць, ці мо жонка перад выездам салам перакарміла.

— Не ведаю. Каб не саграшыць, я не шкадуючы пад'еў... Але і мароз, хоць ты лысых лічы!

— Кепска! — казаў Тодар.

— Кепска! — згадзіўся Баханчук.— Мо і палепшае, во і Млынцы недалёка. Там хіба заначуем.

— Выспішся ў цяпле — і як рукой адбярэ!

Тодар паведаміў іншых вазакоў. Падышлі да Баханчука яшчэ некаторыя, і ўсе ў адзін голас казалі, што гэта глупства, а калі што якое, дык нічога не параіш! І паехалі.

Баханчуку не палягчэла.

На полі пачаліся змрокі. Але разам са змрокамі паказаўся агоньчык, а за ім цэлы рой аганькоў. Яны клікалі да сябе ў хату, да цёплага прыпечка, да стала — на гарачую вячэру... Запахла дымам і вёскай. Забрахалі сабакі. Людзі ўехалі ў вёску і спыніліся ў карчмара Юдаля. Управі-

лі ўсе фурманкі ў вялікую стадолу, выпраглі коней, распарадкавалі, далі корму і, узяўшы кожны свой клумак, увайшлі ў хату. Баханчук сам увайсці не мог, дык яго прыйшлося пад рукі ўнясці. Перш-наперш далі яму выпіць чарку гарэлкі, ад чаго ўсё ж такі Баханчуку не палягчэла.

Людзі павячэралі, напаілі коней, далі ім аўса і ляглі спаць. Лёг і Баханчук. Назаўтра, раніцай, падняліся яны зноў у дарогу, а Баханчук ні з месца.

— Браточкі, родненькія, не паеду! — загаварыў ён.— Чую, што смертухна мая надыходзіць.

Думалі-думалі людзі, што тут рабіць, і дадумаліся пакінуць яго тут, у вёсцы, у аднэй беднай адзінокай кабеціны, Зосі, жыўшай на самым канцы вёскі. Зося згадзілася даглядаць Баханчука, але з гэткай умовай: калі ён выздаравее, то заплаціць ёй некалькі рублёў, а калі памрэ, то яна па-людску хаўтуры ўладзіць, а за працу сабе забярэ яго кажух. Капя і кары забраў з сабою яго сваяк.

Астаўся Баханчук у Зосі. Яна шчыра яго паіла зёлкамі. Стары ўсё слабеў ды слабеў, сумна пазіраў на цёмныя куткі ўбогай хаткі, абсыпанай вялікай гурбай снегу. Цяжка было яму на душы, што прыйшлося паміраць сярод чужых людзей. Цэлы тыдзень праляжаў так на валаску ад смерці, а на сёмы дзень пад вечар сканаў.

На хаўтуры, болей як пры жыцці, пачалі збірацца людзі, бо хаўтуры Зося ўладзіла не шкадуючы. Чалавек пакінуў некалькі рублёў, а яна была баба сумленная і шмат карыстаць не хацела. Пры нябожчыку на зэдліку гарэлі дзве свечкі, а побач на стале ладзіліся памінкі.

Янка-сталяр габляваў на тапчане сасновую дамавіну. Людзі сядзелі за сталом з набожнай мінай, пялі песні, запівалі гарэлкай і закусвалі тым-сім, ізноў пялі, выпівалі і закусвалі. Зося сядзела на пяколку, падпірала хударую бараду касцістым кулаком і тужыла-бедавала над чалавечым жыццём, над немінучым людскім горам.

Доўга думала яна аб гэтым пад шапярлівы гуд галасоў сялян ды пад сумна-працяжную хаўтурную песню... Свечкі напоўнілі хатку бледным дрыжачым паўсвятлом. На закураных сценах цені людзей як бы распаўзаліся ад цеплаты, і ўсё гэта так вабіла да сну, што Зося, не спаўшы цэлы тыдзень, заплюшчыла вочы і задрамала. Усё ж яна не перастала час ад часу пазіраць на жоўты твар нябожчыка.

Але тут... Ці гэта яна спала, ці не спала? Здалося ёй, што нябожчык расплюснуў вочы ды глянуў на яе... Дры-

жака прабрала... Спаць ужо ёй болей адхацелася... Ціха паражагналася і давай зноў глядзець на нябожчыка. Што гэта?! Ці ж можа быць! Нябожчык крануў рукой... У беднай кабеціны валасы дуба сталі на галаве. Сэрца так закалацілася, што дыханне спёрлася і нехаця вырваўся з яе грудзей стогн...

— Што гэта? Зося, што ты тамака? — усхапіліся некаторыя з-за стала.

Чуць жывая Зося злезла з пяколка і шопатам расказала сялянам усё, што яна бачыла.

— Эт, глупства! Гэта табе здавалася; ужо да канца свету не кране ён ні рукой, ні нагой...

Пасмяяліся з яе і ўзяліся ізноў за сваё... Яна вярнулася на пяколак, не пакідаючы час ад часу пазіраць з апаскай у бок нябожчыка. Некаторыя з болей палахлівых каля стала таксама спотайку пачалі аглядацца на яго.

Не прайшло і дзесяці хвілін, і ўся хата як бы здрыганулася ад крыку. Некалькі людзей з імпэтам крыкнула: «а-ей». Некаторыя аслупянелі, некаторыя крычалі: «Ён аджыў! аджыў!» Усе бачылі, як нябожчык расплюснуў і заплюснуў вочы і крануў рукой. Здавацца ўсім не магло...

— Ён — чараўнік! Чараўнік! — як зарэзаны крыкнуў з вялікім страхам самы старшы, Грыгор, а Янка-сталяр ухапіўся за тапор, які тарчаў у сцяне.

— Прыкончым яго! Прыкончым! — крыкнулі ўсе і рынуліся да нябожчыка. Нябожчык падняўся з свайго месца і спрытна загасіў свечкі...

— Ратуйце! Ратуйце! — заравелі ўсе дзіка і, як непрытомныя, штурхаючы адзін аднаго, ледзь жывыя выбраліся з хаты і моцна запёрлі за сабой дзверы...

— Людзі добрыя,— пачаў маліць-прасіць нябожчык,— я жывы, не бойцеся, я вам нічога кепскага не зраблю!

— Чараўнік! Чараўнік! — крычалі ўсе на вуліцы, не слухаючы яго.

На крык зляцелася ўся вёска і давай раіцца, што тут рабіць. Хто казаў ехаць за папом, каб ён выгнаў «нячыстую сілу», хто раіў асінавай доўбняй забіць яго, а хто хацеў хату падпаліць з ім разам, каб і костачак яго не асталося.

— А браточкі мае, родненькія! — пачаў за дзвярамі енчыць «чараўнік»,— не пужайцеся мяне! Я гэтакі, як і вы, чалавек. Бойцеся губіць душу хрысціянскую!..

— Не слухайце, не слухайце яго! — крычалі з натоўпу,— гэта нячысцік шуры-муры свае разводзіць!..

«Чараўнік» пачаў барабаніць у дзверы, драпаць рукамі па дрэве...

— Пу-у-у-усьці-і-це! Што вы задумалі! Дурнота напала на вас!

Людзі і слухаць не хацелі.

Яшчэ з большым стараннем драпаўся за дзвярамі «чараўнік».

— Родненькія мае! Даражэнькія мае! Гэта ж я, такі чалавек, як і вы. Што вы ўва мне ўгледзілі? Хто на вас дур напусціў? Пашкадуйце сямейку маю...

— Брэшаш, дух паганы! Брэшаш! — крыкнуў хтосьці злосна.— Мы цябе не выпусцім!

— Я не памёр,— пачаў зноў «чараўнік», і голас яго хрыпеў ужо, як тупая піла.— Я ўсё чуў, што вы рабілі, толькі крануць не мог ні рукой, ні нагой, ні брывёй міргануць, ні слоўца выгаварыць... Пашкадуйце! Душу чалавечую не губіце!..

— Хіцёр, ой хіцёр ты, вырадак пякельны!..

Шапярлівым голасам прыдушанага, ледзь жывы, яшчэ болей жаласна заенчыў «чараўнік».

— Ці ў вас жальбы ніякай нямашака? Што вы гэта сабе задумалі?.. Кроў людская ляжа на вас...

— Ну, досыць, досыць ужо, нячысцік, музыку сваю разводзіць...

За дзвярамі «чараўнік» яшчэ рухаўся і слаба стагнаў... Бабы плакалі. Сяляне не ведалі, што рабіць...

— Падпаліць хату трэба — і квіта!

Згадзіліся на гэта ўсе.

Зося бедная рукі заламала і пачала енчыць, што яна без кутка астанецца, што яе загубяць. Ніхто яе не слухаў. Раптам усе пачулі, як шыбіны бразнулі ў акне.

— Уцёк! Уцёк!

Людзі ўбачылі, як у адных панчохах і без кажуха пабег «чараўнік».

Ніхто і не думаў гнацца за ім: гэткага адважніка не знайшлося.

Месяц асвяціў белы абшар палёў. Снег заблішчаў дарагімі каменнямі... Здалёку ясна была відаць, як «чараўнік» даляцеў да лесу і хутка счэз у густым бары, у белым царстве шэрані і цішы...

І павялічыўся яшчэ болей страх у людзей...

— Во хто па начах будзе нас цяпер пужаць і мучыць!

Моўчкі, з асцярогай паглядаючы па баках, людзі па-

цягнуліся дамоў. Мяцеліца круціла ўсю ноч. Вецер выў у комінах на розныя галасы.

Назаўтра знайшлі «чараўніка» за борам на могілках, прытуленага да елкі, адубелага і цвёрдага, як кавалак лёду. Над яго трупам вецер выў з вялікай жальбай і скардзіўся на вясковую цемнату.

## ЛЕТАПІСЦЫ

Душная цёмная ноч.

Міронава сям'я спіць у пуні на свежым сене. Не спіцца толькі двум: старому дзеду Мірону і яго васьмігадоваму ўнуку Андрэю. Дзед думае цяпер, як ухітрыцца найцішэй выйсці з пуні, каб нявестка не пачула, ды напісаць ліст сыну ў Амерыку. Андрэйка трымае ў руках лазовую свісцёлку, якую днём скруціў яму дзед, і ціхутка свішча. Усе смачна спяць пасля працы на сенакосе, як пасля кірмашу ўсё роўна. Дзед аглядаецца па баках ды асцярожна падымаецца з свайго месца.

— Андрэйка! — нецярпліва шэпча дзед. Андрэйка ўжо ведаў, што дзед заве яго ў хату ліст пісаць. Ён хутка падняўся на ногі і спрытна падскочыў да дзеда. Дзед узяў яго за руку і палажыў сабе палец на губу з таемным відам; Андрэйка добра зразумеў, што гэта значыць: «ані-мур-мур» — трэба маўчаць, як вады ў рот набраўшы.

Гэткім чынам дабраліся яны да варот пуні. Дзед адчыніў іх гэтак спрытна, што вароты і не рыпнулі. Два змоўнікі выйшлі на падворак.

Тут зноў калацілася сэрца дзеда — усё перашкоды розныя, каб іх заломам заламалі! То Жучка, каб яе немач, забурчыць,— могуць пачуць у пуні і гвалт нарабіць. То гэты падшывалец, Андрэйка, не можа вытрымаць — прабірае яго спакуса гэтак свіснуць, каб аж рэхі пакаціліся з усіх старон, каб аж ліха на веніку прыляцела.

Дзед адабраў у яго свісцёлку і палажыў сабе за пазуху...

З выглядам найвялікшых злачынцаў яны ўвайшлі ў хату.

— Дзядок, свісцёлку дай.

— Толькі, Андрэйка, нямоцна, бо ўсіх чарцей разбудзіш,— прасіў дзед і аддаў свісцёлку.

Андрэйка пачаў упацёмку скакаць і свістаць.

Дзед хутка запаліў лучыпку і выняў з-пад абразоў у куце аркуш паперы, што ўдзень дастаў у мястэчку за венікі.

— Ну, цяпер, каток ты мой,— казаў дзед да Андрэйкі,— аддасі мне свісцёлку на той час, пакуль ліст напішаш, а пасля я табе яе вярну. Бярыся, як Халімон за бога, казаў той!

Андрэйка нічога на гэта не адказаў, толькі з нейкай смагай свіснуў у апошні раз шчыра і працягла; старанна выцер свісцёлку аб свае штонікі і аддаў дзеду. Сам ён дастаў з палічкі чарніла, ручку з пяром. Масціўся, масціўся Андрэйка на тапчане ля стала і ніякім чынам не мог сесці так, каб можна было пісаць. Як на ліха, тапчан быў нізкі, стол высокі, так што, сеўшы пісаць, Андрэйка чуць носам даставаў да стала.

— Хіба носам пісаць! — пажартаваў Андрэйка.

Дзед нічога не адказаў, торкнуў лучыну ў чорную шчыліну ля акна, выйшаў, сур'ёзны, у сенцы, прывалок начоўкі і палажыў на тапчан, каб Андрэйку вышэй было сядзець. І то было нізка — Андрэйка даставаў да стала толькі барадой.

— Хіба барадою пісаць! — зноў пажартаваў Андрэйка.

Дзед нічога і цяпер не сказаў і яшчэ болей сур'ёзны падышоў да прыпечка, выняў з-пад чалеснікаў абсмаленую засланку і палажыў на начоўкі. Андрэйка сеў на засланку.

— Цяперака, дзядок, будзе добра! — казаў ён, мацаючы рукамі засланку і пэцкаючы іх у сажу. Ён замахаў пад сталом закарэлымі чорнымі ножкамі і ўпёрся каленам у стол.

Ва ўсіх яго рухах выяўлялася таемнасць вялікай змовы. Відаць было, што ад гэтага ён меў нямала прыемнасці. Ён узяў пяро ў рукі, і на яго твары выразілася вучонасць. Успомнілася яму, як ён колькі разоў падпісваўся за нясграматных на павестках, што дзесятнік прыносіў з воласці. Ён рукою тады выводзіў гэтак, круціў так, і выходзіла: «Андрэй Адамаў Вайда».

Андрэйка ўсунуў ручку ў чарніла, забыўся яе атрэсці і перш-наперш абліў паперу чарнілам, зрабіўшы чорную пляміну, велічынёю з медны пятак. У школе гэта называецца «булка». Стары настаўнік за такія булкі так моцна цягне за вуха, нібы пугу ўе, а вучань на ўсе лады крычыць:

— А-а-ай! А-а-ай!..

Дзед думаў, што такі чорны кругляк на паперы ро-

біцца дзеля фасону. Ён узяў лучыну ў рукі і бліжэй засвяціў перад Андрэйкам. Андрэйка падняў белую галоўку і заўважыў дзеду:

— Дым у вочы лезе. Пісаць не магу.

Дзед адсунуў лучыну.

— Ну? — запытаўся Андрэйка.

Гэта значыла:

— Скажы, дзядок, што трэба пісаць?

Але хутка Андрэйка ўспомніў, што салдат Мацей, які ўсім лісты піша, умее гэта рабіць надта хітра і ніколі не пытаецца, як пачынаць, салдат Мацей заўсёды сам пачынае:

«За дубовым сталом пішу залатым пяром міласціваму гасудару з нізкім паклонам, жалая ўспеху ў дзялах вашых»...

Андрэйка выпучыў вочы, высунуў язык, засоп носам і пачаў старанна выводзіць літары. Ён іх маляваць хацеў надзіва, але яны выходзілі ў яго вельмі нязграбныя. Рука, умазаная ў сажу, пакідала сляды на паперы: сцяжынкі і ручаінкі.

Рухалася пяро па паперы, як цяжкі воз па старой грэблі.

І вось ён скончыў «пачатак» пісьма вельмі задаволены. Гэта будзе прыемная неспадзеўка для дзеда.

— Нос! Нос! — закрычаў дзед так устрывожаны, як бы хата загарэлася.— Сапсуеш паперу!

Андрэйка ледзь выратаваў ад бяды новы аркуш паперы.

— Прачытай, што ты там накрэмзаў, пісар ты мой,— не выцерпеў дзед.— Паглядзім, з якога ты поля ягадка, з якога гнязда птушка.

Андрэйка пачаў чытаць па складах: «За ду-бо-вым сталом пі-шу за-ла-тым пя-ром» — і гэтак далей. Дзеду гэта паказалася лепей, чым добра. Ён сам быў ахвотнік да мудрых гутарак; ён любіў часам задаць, усыпаць, адгабляваць такое ядранае слоўца, ажно сусед вочы казеліў, як бы хрэну налыпаўся. Дзеда лічылі за вялікага разумніка па ўсёй ваколіцы. Андрэйка быў вельмі ўзрадаваны, што дзеду спадабалася, і ён папрасіў у дзеда свісцёлку.

— Не, не дам цяпер. Не лезь смалой!

— Да-а-ай! — прасіў Андрэйка.

— Не! не дам!

— Хоць разок свісну!

І яны абое глянулі адзін аднаму ў вочы.

— Дай...
— Не дам...
— Пісаць не буду...
Дзед занепакоіўся:
— Адзін раз, кажаш? Ой, глядзі, каб гэты раз не напсаваў увесь сказ!
— Дальбог, разок толькі!
Андрэйка заёрзаў на месцы і зрабіў шчырыя вочы.
Дзед даў свісцёлку. Хлопец упіўся ў яе прагнымі губамі. Свіснуў раз, не вытрымаў — і свіснуў яшчэ раз. Забрахала Жучка на двары.
Дзед устрывожыўся.
Андрэйка вярнуў дзеду свісцёлку.
— Ах ты, верабей! — прабраў яго дзед.— Я ж казаў, што цяпер няможна! Яшчэ паспееш з козамі на торг!
Дзед схаваў свісцёлку, паправіў лучынку, прыгатаваў другую і задумаўся. Андрэйка тым часам утаропіўся вачамі ў цені на закураных сценах. Дзед зрабіўся вялікі-вялікі, і ледзь не паўхаты зацямніў. А ў яго, Андрэйкі, цень галавы на сцяне быў з цэбар. Гэта яго вельмі цешыла. І вось ён пачаў адной рукой рабіць казюлькі. Цень на сцяне ад яго рукі нагадваў казліную галаву.
— Каза, каза, дай малака! М-м-э-э-э! — замэкаў паказлінаму Андрэйка.
Дзед усхапіўся з сваіх думак.
А думаў ён аб усіх крыўдах, што нявестка рабіла яму за ўвесь час, а болей за ўсё за апошнія тры гады, што яго сын, Адам, жыве ў Амерыцы. Гоніць яго злая нявестка, як сабаку, з хаты... Есці не дае... Штурхане часам...
— Пішы, каласок ты мой, пішы! — кажа ён да Андрэйкі.— Так пішы: «Сынок ты мой родненькі! Ці я табе не бацька? Ці я не будаваў гэту хату? Ці я не гаспадарыў тут? Яшчэ во якія мазалі на руках маіх...»
Дзед падымае рукі ўверх і ценям на сцяне паказвае свае мазалі.
Голас яго дрыжыць, слабее. Андрэйка прыхіліўся да стала, цяжка сапе і выводзіць буйныя, нязграбныя літары.
Дзед папраўляе лучыну, глядзіць на сцяну і гаворыць: «Адам, сынок ты мой! Скажы, за што такая старасць паганая мая? За што гэткая кара? Як гэта кажуць! б'юць і плакаць не даюць... А чаму?»
Дзед робіцца гнеўным за гэту незаслужаную крыўду. Яго вочы пазіраюць у невідочную даль. Дзед спакойна чакае адказу на слова «чаму?». І зноў дыктуе:

«Учора Аўдоцця, жонка твая, гадзіна, пачала, казаў той»...

— Пачакай! — крычыць Андрэйка,— я яшчэ там не скончыў пісаць тое!..

Дзед асадзіўся назад, як закелзаны конь, якога паціснулі за лейцы ў другі бок.

— А што ты там, каласок ты мой, напісаў? — запытаўся ён.— Дай паслухаем і патыліцу пачухаем.

— Ці я табе не бацька...— чытае павольна Андрэйка.— Як далей, дзядок, ты казаў?

Але дзед ужо забыўся, што раней дыктаваў, а тут яму хочацца выгаварыцца, выліць тое, што накіпела на душы. Ён чуе, што павінен гэта рабіць хоць перад кім-небудзь. Тады можа палягчэе...

— Ага! ага! — пачынае ён далей.— Во, за язык як бы хто пацягнуў. Дзяры лыкі, калі дзяруцца.

«А ўчора нявестка так піргнула мяне ад стала, ажно старыя костачкі мае чуць не рассыпаліся... Яна называла мяне гультаём... Як гэта кажуць, быў конь ды з'ездзіўся... А тапчан гэты я майстраваў. А стол гэты хто рабіў, калі не я?.. Куды ні кінь — усё мой клін».

Дзед закашляўся. Доўга трымаўся за грудзі.

«Што мне рабіць? Хіба торбу надзець і пайсці жабраваць? Не па Юрку, шапка, казаў той... Ды торбы не маю... Ой, жыццё ты маё горкае, бы палын! А вось, не хочучы, наўмысне жыву... Ты на гару, а чорт за нагу... Чаму ты, божухна, смерць-збавіцельку мне не шлеш? Такое жыццё мне, як цяжкія жорны на спіне. Калі топішся, то за брытву хопішся, казаў той...»

Дзед зноў закашляўся...

— Якую долю чалавек хоча? Га? Гэта ж баламуцтва — прасіць на сваю галаву пагібель... А я вось прашу, шчыра прашу...

З яго мутных вачэй пацяклі слёзы...

Дзеду, адчуўшы слёзы на сваім высахшым твары, зрабілася вельмі шкада самога сябе. Ён заплакаў ціха, глухім голасам, сарамліва, нібы нешта ўкраў у сябе самога, і мямліў бяззубым ротам, як бы хлёбнуўшы гарачай вады...

Гэтак прайшло колькі хвілін. Дзеду палягчэла. Як бы тое цвёрдае і калючае, што стаяла ражном у горле, прайшло ў нутро. Ён закурыў люльку, паправіў лучыну і прысеў на тапчан.

Андрэйка збіўся з панталыку. Спаць яму хацелася і не мог ён парадкам у дзеда дабіцца, што пісаць?

— Дык кажы, дзядок, што пісаць?

— Пішы, каток, пішы! — строга сказаў дзед.

«Кажуць людзі: у людзей пытай і свой розум май. А гаспадарку яна, ведзьма, вядзе, дык толькі крый ты божа! Як гэта кажуць: сабакам сена касіць».

Дзед пачаў на пальцах лічыць:

«Буланка здохла. Кароўка чуць ногі валочыць. Сена пагніло. Калі я ёй што кажу, дык яна толькі адгіркваецца. Хоць ты перад ёю макам рассыпайся — не памагае!.. А я тытуну не магу дастаць... А ці ўбачымся мы ўжо з табою?.. Далей вочы — лягчэй сэрцу, казаў той... Я ўсё слабею, сынок ты мой... Зямля-матуля да сябе цягне... Хто мне вочы прыплюсніць? А хто хаўтуры па-людску ладзіць будзе? А хто свечку паставіць за душу маю грэшную? А круці не круці — ад смерці не выкруцішся...»

Дзед змоўк. Трос лысай галавой. Матылёк кружыўся над палаючай лучынай. Андрэйка залюбаваўся на яго. Палажыў ручку, і давай лавіць матылька.

Злавіў Андрэйка матылька, але той спрытна выслізнуў паміж яго пальцаў, пакінуўшы на іх слізкі пылок. Андрэй болей не гнаўся за ім, і матылёк пачаў зноў рабіць кругі над агнём. Андрэйка пазіраў на яго доўга-доўга, пакуль вочы не затуманіліся. Разнаколерныя кругі мітусіліся над дзедам. Андрэй заплюшчыў вочы. Дзед зрабіўся маленечкім. Усё злілося-сплылося разам і... хлопчык заснуў, зрабіўшы другую, яшчэ большую, чорную «булку» на паперы.

Доўга думаў дзед. Але каб хто спытаўся ў яго, аб чым ён думае, дык дзед не ведаў бы, што адказаць. Усё ў думках яго перамяшалася, як бы хто там віламі жалезнымі перавярнуў усё дагары нагамі... У старых грудзях нешта балела, нешта шчаміла...

— Заяц мне дарогу перабег,— казаў дзед і заківаў галавой.— Здаецца, я нікому нічога кепскага на свеце не зрабіў... Не капціў неба, не псаваў хлеб, казаў той. Пішы, Андрэйка, пішы!

Андрэйка яшчэ мацней захроп. Котка вылезла з-пад прыпечка. Нясмела і ціха падышла да стала, скокнула на тапчан і, бліснуўшы вачамі, прытулілася да Андрэйкі.

«І ці ты на мяне забыўся, сынок? — крыўдна махаў дзед левай рукой.— Ніколі капейкі якой не прышлеш, а яна мне назарэз цяпер патрэбна».

— Пішы, Андрэйка, пішы, каласок!

Не бачыць дзед, што Андрэйка даўно ўжо спіць.

— Ці ты мне не сын? Ці я не бацька табе? Здаецца, не надта чужыя...

Але хутка нацягнутая струнка жальбы лопнула.— Ён успомніў, што сын прасіў пісаць аб усім, што тут робіцца на вёсцы. Дзед увайшоў у звычайны лад жыцця, дзе смутак чаргуецца са шчырым смехам.

«Эт, глупства! — махнуў дзед рукой,— што з таго, калі стары Арцём лепей жыве? Эт! Не кажы «гоп», пакуль не пераскочыш. А Мікіцёнак учора каня купіў у Даўгінаве, але кульгавы, падла, і Мікіцёнак усунуў сорак рублёў цыгану, чорту лысаму. Абадралі, як Сідараву казу. Тадора сёлета памерла. Сёмка Халімона Бурага на вечарынцы гэтак галаву пабіў, што праз тры дні паехаў да Абрама на піва; і бацька яго гэткі самы рызыкант быў: які чорт Хомка — такая яго жонка... А я ўжо смак гарэлкі забыўся: не каштаваў бадай тры гады... Ніхто мяне не частуе: дзіця не плача, матка не дагадаецца, казаў той».

— Пішы, Андрэйка, пішы!

«Ніхто старога не шкадуе; здаецца, хлебануў бы чарачку, як расу свежую, і размяклі б мае костачкі старыя, кроў пацяплела б... І ўлетку ў кажусе цягаюся, бо мне холадна, мароз з касцей ідзе. А кажух ужо згніў на маім гарбу. Як гэта кажуць: не купіў бацька шапку — няхай вушы мерзнуць».

Навіны сыпаліся з вуснаў дзеда, як пацеркі з парванай ніткі.

«А наш Жучка ўжо гэтак, як калісьці, не брэша — нейкую хрыпку дастаў. Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ўбокі, казаў той».

— Пішы, Андрэйка, пішы!

«Галагуцкі певень доўга хварэў, але-ткі жыве на радасць. Як гэта кажуць: як шанцуе, тады і Халімон танцуе...»

Ад мудрасці сваёй дзед павесялеў і ўвайшоў у свой стос.

«А Наста выдала замуж Марылю за мурзатага Максіма. Мо памятаеш таго хлапца, які заўсёды разявіўшыся хадзіў, як сабака, што мух ловіць?»

— Пішы, Андрэйка, пішы!

«Няхай і мая кватэрка будзе, казаў той... І Мацеева жонка, гэта жаба карэлая, сёлета заха...»

Але тут дзед раптам змоўк, бо лучына пагасла.

— Андрэй! Андрэй! Куды запалкі палажыў?

— Га? — усхапіўся Андрэйка.— Абаранкаў купіш мне на капейку?

— Куплю, куплю, каласочак мой, а як жа гэта кажуць, узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.

Андрэйка зноў заснуў. Яму снілася, што дзед прынёс яму абаранкі з карчмы. Ён, Андрэйка, іх начапіў на вяровачку і пабег па вёсцы, пабрыкваючы, з песняй:

Гоп-гоп! І-га-га!
На буланцы ездзіць Янка.
Паўтараста рублёў санкі,
Пяцьдзесят рублёў дуга,
А кабыла — паўрубля!
Гоп-гоп! І-га-га!

Дзед пайшоў напоцемку ў сенцы шукаць, дзе яйкі ляжаць, каб назаўтра ў мястэчка паплясціся прадаць. Доўга пасля шукаў ён запалкі і страшэнна лаяўся, знайшоўшы іх у сябе за пазухай.

Ён разбудзіў Андрэйку, і яны пайшлі спаць на сена. Пры гэтым дзед мармытаў:

— Што ж! Вышэй пят не падскочыш! Заўтра дапішам пісьмо...

## НА СТАЯНЦЫ

Асенняе неба было ясна. Зоркі, нібы вочы жывыя, мігацелі ў высокім абшары і з цікавасцю пазіралі ўніз, на дробны хвойнік, што стаяў на ўзгорку, і на вялікую паляну, дзе кучкамі сядзелі салдаты. Месцамі стаялі і ляжалі стрэльбы. Месцамі блішчэлі аганёчкі, а пры іх на разасланых шынялях ляжалі торбы з сухарамі, кацялкі і другія рэчы. Гурток барадачоў з запасных сядзеў асабняком на каменнях, звесіўшы ногі ў сухую канаву, і ціха гаманіў.

— Ага! — усхапіўся раптам з свайго месца невысокі шыракаплечы чалавек з чорнай бародкай, каторага звалі Габрусь.— Ага! — і давай рыцца трывожна ў кішэнях сваіх.

— Што — «ага»? — спыталіся ў яго з цікавасцю таварышы.

— Знайшоў! — крыкнуў узрадаваны Габрусь, не звяртаючы ўвагі на іх пытанне.

— Што знайшоў? — з яшчэ большай цікавасцю спыталіся ў яго суседзі.

— Н-н-н-а-а! — тыцнуў Габрусь скомканы канверт таварышу,— во, ліст атрымаў з дому. Начальства падало і ліст, і тры рублі; цяперака толькі магу даведацца, што там напісана. Чытай, Мацей, ты ж граматны!

Той, каго звалі Мацеем, дастаў ліст з канверта і давай чытаць:

«Дарагому радзіцелю Гаўрыле Сталючонку!

Гэта піша сын твой, Казюк,— мы, дзякаваць богу, жывы і здаровы, чаго і табе жадаем ад госпада бога. Матка дыктуе мне плачучы, а я пішу. Паведамляю, што з поля ўсё сабралі — памог Сцёпка Вайдзёнак. Малаціць таксама суседзі абяцаліся талакой. Трысцёнак так і застаўся на зімку недаканчаны. Бычка лысага прадалі ўчора за пяць рублёў, дык за два рублі купілі мыла, круп і солі, а рэшту, тры рублі, табе, татачка, шлём. Купіш богу свечку за саракоўку, а за рэшту — булачкі сабе. Нізка кланяецца табе цётка Аўдоцця. Яшчэ нізка кланяецца табе дзядзіна Антоля, яна штодзень, разам з намі з ўсімі за цябе богу моліцца, каб ты скоранька вярнуўся да нас жывенькі і здаровенькі. Яшчэ нізка кланяецца...»

Гэта «нізка кланяецца» прыйшлося чытаць доўга, бо амаль не ўся вёска, кожны паасобку, нізка кланялася Габрусю.

Але чыталіся гэтыя паклоны вельмі церпяліва, сур'ёзна, і відаць было, што кожны, хто нізка кланяўся, так і вызываў у думках прыемныя ўспаміны і знаёмыя вобразы.

«Зоська малая заўсёды пытаецца: «Дзе тата?» — «На кірмаш паехаў»,—кажам. Дзед раніцай злазіць з пяколка, адзявае кажух і выпускае быкоў на пашу, кожны раз з жалем вялікім прыпамінаючы гнядога коніка нашага, што таксама на вайну пайшоў. Дай бог скора ўбачыцца з табою, татачка! А матка ўсё сядзіць ды плача, сядзіць ды плача.

Пісаў твой сын і руку прылажыў. Казюк».

За ўвесь час, што чыталі ліст, усе апусцілі галовы і рабіліся сур'ёзныя, як бы слухаючы казанне ў царкве... Кожнаму прад вачамі стануў яго родны куток і сямейка. Як скончылі чытаць, усе пасумнелі і не ведалі, з чаго пачаць гутарку. Пазіралі на «сітка» зорак сярод неба і варажылі каторая цяпер можа быць гадзіна.

— Эт! — махнуў рукой Габрусь,— «плакаў, плакаў — усё бог адзінакаў; пачаў пяяць — стаў бог даваць». Бярыся, Халімон, за гармонік!

Халімон, самы малодшы паміж іх, дзяцюк гадоў дваццаці пяці, нядоўга чакаючы, пакапаўся ў сваёй торбе і вы-

нуў гармонік, сеў на шынель, паставіў гармонік на калені і давай пальцамі перабіраць галасы. Людзі акружылі яго цясней, прыйшло яшчэ некалькі чалавек, і адразу павесялела...

— Што вам сыграць,— спытаўся Халімон,— глухінскую ці хомінскую польку?

Увесь гурток людзей быў з аднэй воласці, дзе кожная вёска на вечарынках і вяселлях грала сваю асобную польку.

— Глу-у-ухінскую! — папрасілі глухінскія людзі.

Тут Халімону зрабілася як бы «не дома, не замужам» — не ведаў ён, каму ўгадзіць.

— І глухінскую, і хомінскую,— параіў быўшы тут жыд Мэндэль: будзе «і нашым, і вашым».— А разумны ж ты, Мэндэлька,— няхай цябе кадукцы! — ажно дзівіўся Халімон з добрай рады Мэндэля.

— Дзіва што разумны, калі і раненага нашага фельдфебеля ўхітрыўся вынесці на плячах пад цэлым градам куль,— адазваўся Габрусь.

— Глупства! — махнуў Мэндэль рукой, як бы саромеўся.

— А ты, Халімон: раз, два, тры! Лідэр, лідэр, лі! — закамандаваў Габрусь строгім голасам ваеннага. Халімон засыпаў адну польку, другую, і народ ажывіўся мігам. Хтосьці дастаў пачак махоркі, і Габрусёў ліст з дому пайшоў у вялікі пажытак: усе круцілі з яго папяросы. Сам Габрусь закурыў люльку, хаця ўсе смяяліся з яго, што ён яшчэ замалады да люлькі. Пасля гэтага людзям зусім палягчэла на душы, і ўсе загадалі Халімону сыграць «Лявоніху». Халімон падняўся з свайго месца і давай граць стаячком, вельмі стараючыся. Зазухаваўся, адбіваючы такт правай нагой, і, як бы дзёўбаючы, уткнуўшыся носам у мех гармоніка, ківаў галавой у розныя бакі, ажно шапка зляцела. Усе загарачыліся, зарухаліся, забыліся ўсяго на свеце і жыва пусціліся ў скокі...

«Лявоніху» скакалі надзіва. Але дома заўсёды прывыклі яны, апрача музыкі і скокаў, яшчэ складаць пры гэтым песні і сыпаць вострымі слоўцамі, дык вось пачалася і тут жывая цікавая работа — складанне агульнымі стараннямі песняў:

Першы пачаў Габрусь:

Эх, і ну ж, мой кумок!
Эх, і ну ж, каласок!
Пойдзем ска...

— Ды пастой жа, пастой! — перапыніў яго другі,— трэба ваеннае цяперашняе выдумаць! І той зацягнуў:

Самалёт крывалупы
Натрушыў порах у крупы...

І давай азірацца, каб хто на падмогу явіўся, бо не ведаў, як скончыць:

А вораг не ведаў,
Узяў ды паснедаў,—

зухавата падхапіў трэці і задзёр галаву, як певень.

Людзі скакалі, як непрытомныя, і ўсё пялі гэта самае.

— Ну, Мэндэлька, ты ж не хавайся, што ведаеш панямецку! — прычапіўся хтосьці да Мэндэля і дабавіў пры гэтым:

Хаптас, таптас, ву із дайнэ,
Хаптас, таптас, ву із майнэ...

А Мэндэль не меў спрыту песень складаць і маўчаў. Народ падхапіў і новы кавалак на зубы, як нешта вельмі смешнае, і радасці канца не было, здаецца... Кожнаму хацелася чым болей смешных слоў прычапіць да сваіх песень, і вось, знайшоўся адзін, што ведаў колькі слоў не то па-жыдоўску, ці то па-нямецку, і, аглядаючы ўсіх як бы з вышку, грымнуў з пагардным відам:

Шалахвосты, балабосты,
Ой, вос, зохстэ, ой, вос зохстэ!

— Гого-го-го! — зарагатаў адзін.

— Гу-гу! — смяяўся другі.

— Гі-гі-гі! — хапаўся за бокі трэці.

І кожны паўтарыў гэта на свой лад, гэтак нагамі прытопваючы, ажно зямля дрыжэла.

Тым часам імпэт рос усё болей і болей; кожнаму жадалася штосьці сказаць і смешнае, і новае, каб усіх да самых касцей разабрала. І давай падбіраць словы і прыдумваць новыя песні. Пачаў Халімон:

Гэй, жыла-была папеначка,
Гэй, жыла-была гарэлачка.
Вось занадта загуляла
І без споведзі сканала.
Без папа яе хавалі
І малітвы не чыталі.
Там, у пекле, загуляла,
Песню п'яна запяяла:
«Ой, шкада мне рэстаранчыкаў!

Ой, шкада мне хуліганчыкаў!
Перакінуся я ў піва
І...»

Тут складальшчык збіўся з панталыку і не ведаў, як далей казаць. Другі «востры язык» зноў пачаў падшукваць словы: «піва, крыва, жыва, дзіва».

Перакіну-ся я ў піва —
Зноў пайду гуляць надзіва!..»

— кончыў Халімон.

Але вось пачуўся нейкі трывожны гуд пад небам. Усе адразу змоўклі і з увагай сталі пазіраць уверх, прытрымліваючы рукамі шапкі. Усе ясна бачылі як бы велізарную кішку — нямецкі самалёт.

— Каб ён прапаў! — сказаў хтосьці.

— Нямецкі! — адазваліся ўсе ў адзін голас. Колькі чалавек выпаліла ў яго, але ён залунаў высока над хвойнікам і хутка схаваўся з вачэй.

З блізкай лагчыны падняўся месцамі халодны туман. На небе не было ніводнай хмаркі, і зоркі былі гэткія буйныя, ясныя, жывыя, што здавалася, во, во загавораць. Людзі начамі масцяцца на сваіх шынелях, каб троху задрамаць. Зрабілася ўсё цішэй і цішэй, толькі чуваць было, як непадалёку хадзілі паставыя, і відаць было, як стрэльбы тырчэлі з зямлі, выглядаючы густымі тычкамі па размежаваных каморнікам шнурах. Гурток барадатых таксама прылёг на адпачынак блізка адзін каля другога, і гутарка іх яшчэ доўга не спынялася.

На раніцу зрабілася холадна; людзі дрыжэлі ўсім целам і громка ляскалі зубамі. Хто мачыў у вадзе сухар і грыз, хто курыў, хто, анучы свае на ботах разлажыўшы, ветрыў і скакаў босы па халоднай зямлі. Над хвойнікам насілася з непрыемным крыкам стада варон. Неба пакрылася мутнымі хмарамі, пачаў сыпаць дробны густы дожджык, настала шэрая, нудная асенняя раніца... Усе хутка выстраіліся па камандзе і пайшлі ў хвойнік.

— Заяц! Заяц! — крыкнуў хтосьці. Усе ўбачылі зайца на сцежцы і пачалі ў яго паліць.

— Вось будзе абед ротнаму нашаму! — сказаў задаволены Габрусь, каторы ўжо паспеў падняць нежывога зайца.

Выйшлі з хвойніку і астанавіліся. Убачылі здалёк ворага. Закамандавалі паліць ды хавацца за хвойкамі і ў лагчынках. Пасыпаўся агонь. Кулі загудзелі, бы пчолы... Праца пайшла звычайным ладам...

Барадаты Габрусь выскачыў з сваёй заховы-вываратні і паляцеў на адкрыты агонь.

— Куды ты? Куды ты? — крычалі суседзі. Але ён нічога не адказаў і рабіў сваё.

Некалькі чалавек ужо звалілася каля Габруся — хто маўчаў, а хто дзікім голасам крычаў ад болі... Хутка вярнуўся Габрусь з люлькай у руках.

— Няхай яго немач,— гарачыўся ён,— чуць люлькі не згубіў.

Людзі нехаця засмяяліся.

— А калі засядзе куля ў лабаціне тваёй, куды люлька твая дзенецца? — не вытрымаў стаяўшы блізка Халімон.

— Ну дык што ж? — здзіўлена адказаў Гарбусь.— Свой чалавек забярэ: люлька добрая, грошы каштавала!..

Недачуў Халімон апошніх слоў Габруся, бо, як сноп, хутка паваліўся. А Габрусь тым часам старанна схаваў люльку у кішэнь, спакойна ўзяў стрэльбу на прыцэл і пачаў «працаваць»...

## ДЗЕ КАНЕЦ СВЕТУ?

Даль была туманна-празрыстая, аббрызганая з берагоў пазалотаю сонейка. Месцамі край неба падпіралі шчарбатыя хвойнікі. Месцамі ўзгорак у самае неба ўпіраўся. Дзенідзе палосы далі, істужка за істужкаю, кайма за каймою, сшывалі неба з зямлёю. Нібы тканіны былі раскіданы радамі паміж небам і зямлёю дзеля таго, каб яны бяліліся на сонейку. Пачынаючы ад бору, яны былі спачатку цёмныя, потым сівелі і лёгкім, ледзь прыкметным дымком зліваліся з блакітам...

Янка, малы сямігадовы хлопчык, пасвіў гусей на выгане ля рэчкі і пазіраў навокал здзіўленымі васільковымі вачамі. На кожным кроку бачыў ён дзівы-дзіўныя:

— ...З-з-м! з-з-м! Глядзі, Янка,— кажа залатая пчолка з кветкі канюшыны,— які велізарны абшар зямлі, канцакраю няма. А колькі тэтых кветак з салодкімі, зацукраванымі збаночкамі! Ой, вялік свет...

— ...С-с-с! колькі каласоў, братоў родных, вакол мяне,— шэпча жытні колас Янку,— ліку няма...

— ...Чалом! чалом! чалом, Яначка,— пяе жаўранак над галавою пастушка.— Ой, як высока неба над намі, каб ты ведаў...

Янка шмат чаго бачыць, чуе і ведае. Равеснікі смяюцца з яго — ён заўсёды адзін, як дзікі ваўчок. Ні з кім у коніκі не гуляе. Хаваецца ад усіх... Гэта нядобра. Вочы ў яго часам смутныя... Ён сумуе тады, калі па шырокім гасцінцы едуць падарожнікі. Яны паказваюцца з аднаго краю нябёс чорнымі жучкамі, большаюць, большаюць, пакуль зробяцца вялікімі, як Янкаў бацька. Чуе Янка ляск пугі, бачыць успацелых коней.

Здалёк-здалёк едуць падарожнікі. Янка вельмі зацікаўлена ўглядаецца ў іх. Цікавіць гутарка, вопратка, коні, каламагі.

І дзівіцца маленькі Янка і надзівіцца не можа...

Уздоўж, у даль дарогі едуць падарожнікі. Скрыпяць і грукаюць калёсы. Цішэюць-цішэюць. Меншаюць-меншаюць. І коні, і людзі робяцца тымі самымі маленькімі жучкамі, якімі былі спачатку. Вось-вось схаваюцца за пагорак на самым краі неба... Няма ўжо іх — згінулі-зніклі...

І зноў жоўтая дарога апусцела-анямела... Улёгся пыл залацістымі плямінамі... А ціш такая сярод летняга дня, што здаецца — увесь свет заснуў.

А Янка дзівіцца. Канца-мяжы няма дзівам яго неадступным:

— Скуль гэтыя падарожнікі, што прыехалі з «канца зямлі»?

— Куды яны паехалі, згінуўшы на другім «канцы зямлі»?

Пільна-пільна ўглядаецца Янка ў маўклівую істужку залацістай дарогі — нічога зразумець не можа.

Дарога мяккімі дыванамі залацістага пяску цягнецца ўздоўж, перарэзваецца ўпоперак, вузлавата пляцецца ў розныя стораны на паверхні зямлі, нібы маршчыны на твары бабулі.

— Старая-старэнькая зямля наша,— думае Янка,— а жыве-жыве... Ды яшчэ якімі маладымі галасамі часта яго, Янку, дражніць.

Помніць ён, як аднаго разу з маткай у грыбы пайшоў. Загуляўся тады каля капца пры муравейніку і згубіў матку. Спужаўся і падняў крык на ўвесь лес:

— Матка, дзе ты?

— Матка, дзе ты? — дражніла яго зямля з усіх бакоў: з бярэзніку, з бору, з пусткі.

Ён у смех — зямля ў смех. Ён у плач — зямля ў плач.

Але больш за ўсё цікавіць яго дарога, бо па ёй людзі прыходзяць немаведама адкуль і ідуць немаведама куды...

То пакажацца сляпы жабрак-лірнік з хлопчыкам-павадыром. То на кірмаш едзе шмат народу.

І Янка бачыць і адчувае несупынны рух жыцця.

Гусі ідуць у шкоду, а Янка, разявіўшыся, пазірае на бязмежную дарогу, поўную незразумелых, цікавых рэчаў, абвеяную вабнымі з'явамі.

Шмат разоў меў Янка ад бацькі гарачую лупцоўку за тое, што гусей у шкоду пускае.

— Дзе канец свету?

Янка думае цэлымі днямі, тыднямі, месяцамі і даведацца не можа.

— Дзе канец свету?

— І бабка Аўдоцця гэтага не ведае. А дзядзька Арцём робіць толькі тое, што смяецца з яго запытанняў.

— Бацька то пэўна знае, але ў яго боязна дапытвацца: яшчэ, чаго добрага, раззлуецца. Бацька вечна працуе, часу не мае.

— Сам, сам пазнаю. Розумам уласным даведаюся.

Прыслухоўваецца да страшных дзядоўскіх казак. Болей за ўсіх дрыжыць Янка ад страху, калі апавядаюць пра людаедаў і разбойнікаў. Слёзы самі коцяцца з яго вачэй пры жаласлівых песнях начлежнікаў. Сэрца маленькае выскачыць хоча з грудзей. Аднак тут жа ён набіраецца адвагі — як вырасце, усіх людаедаў і разбойнікаў знішчыць?

— Дзе канец свету?

— Пэўна, сонейка ведае,— думае Янка. А сонейка — яго першы сябар.

І ўлетку, і ўзімку, і ўвосені, і на вясну Янка ад усходу да захаду любіць пазіраць на сонца.

Жмурыць вочы на сонейка і чуе, што вялікая радасць расце ў яго сэрцы.

Сонейка — добры, шчыры вартаўнік таго абшару зямлі, што ведае Янка. Сярод лета сонца ўзыходзіць вельмі рана з правага краю гары, залоціць вяршаліны альхоўніку пад гарою ля рэчкі, а заходзіць яно вельмі позна з левага краю гэтай самай гары і таксама залоціць вяршаліны дрэў. Сонца робіць тады ледзь не цэлы круг над тым абшарам зямлі, што ведае Янка.

Увосені сонца падымаецца ўжо з бярэзніку і заходзіць у цёмны бор. Яно дзеліць увесь круг толькі напалавіну.

Узімку сонца ўзыходзіць вельмі позна над дарогай на краі неба і заходзіць вельмі рана ў лагчыну. Яно абхоплівае зусім малы кавалак неба.

— Пэўна, ўзімку холадна сонейку,— думае Янка.

А на вясну, як пачынае цяплець, сонца зноў даўжэй спацыруе па небе. Яно часам вельмі хораша хмаркі фарбуе. Янка наглядзецца не можа. Чаго-чаго не бачыш тады ў небе,— і розныя замчышчы з белага і ружовага мрамару, і цэлыя стады невядомых звяроў, і велізарныя вогнішчы, і чырвоныя рэчкі...

Сонца ведае, дзе канец свету,— перaканаўся Янка аднаго разу пад вечар. Маці строга сказала — нікуды далёка ад гусей не адыходзіць, але раз назаўсёды трэба дабрацца да канца свету. Трэба дабрацца вось туды, дзе сонейка начуе за лесам, вось туды, куды знікаюць з зямлі падарожнікі...

Хлопчык зірнуў на гусей, што гагаталі ў сухой канаве на выгане. Глянуў на вёску: мо хто з сваіх на вуліцу выйшаў. Усюды было ціха і пуста. Цішыня на захадзе сонейка.

А сонца чырвоным пажарышчам стаяла за гарой і вабіла і звала да сябе малога Янку.

Янка пусціўся бягом.

Бег, бег дарогай; насустрач бярозка, дзе сонца павінна было зайсці ўніз. Бач — аж сонца адскочыла далей ад сівой крушні. Яшчэ ніжэй спусцілася, апіраецца там круглым бокам аб зялёны дуб.

Нядоўга думаючы, хлопчык з усіх ног пусціўся далей. Надта хочацца зірнуць, дзе сонца заходзіць...

А яно ад яго далей уцякае...

Янка змарыўся, спацеў, але імкнецца ўперад супроць сонца, супроць таго вялікага пажарышча, якім яно запаліла неба...

Новыя далі адкрыліся вачам Янкі, новыя лагчыны, новыя ўзгоркі, новыя лясы, новыя дарогі, дарожкі і сцежачкі, простыя і крывыя, ва ўсе бакі...

— Стой! — крычыць ён сонцу, крыху ўстрывожаны, бо бацьку ўспомніў, успомніў тую кару, якую будзе ён мець ад бацькі, бо, пэўна, гусі ў жыце.

— Стой! — дражніць яго зямля з лесу, з-пад гары — з усіх старон.

— Стой!

А Янка бяжыць з імпэтам уперад. Вочы гараць. Ён хоча ведаць:

— Дзе канец свету?

Сонца зайшло... Змрокі паплылі па лагчынах... Сівы туман узнімаецца над рэчкай. Паказаліся зоркі ў небе, замігалі аганькі на зямлі.

— Дзе канец свету?

— Пэўна, ў кнігах аб гэтым напісана,— падумаў Янка.— Увосені ў школу пайду, вучыцца буду і аб усім, аб усім даведаюся.

## БУСЛЫ

— Буслы прыляцелі! Відаць, ужо і сапраўды вясна,— казалі хомінцы,— во, прынамсі, павесялее ў нас!

Буслы былі — сям'я вапеннікаў, каторыя ўжо гадоў з дзесяць кожную вясну прыходзілі ў Хоміно на ўсё лета капаць вапну.

Выглядалі яны і праўда як буслы: высокія, даўганогія, здаровыя, як дубы тыя.

Бацька зваўся Міхайла. Сярэдніх гадоў, з калматымі валасамі, з доўгай, як воранне крыло, чорнай барадой; хадзіў у даўгаполай, падперазанай лыкам сярмязі, заўсёды з люлькай, быццам прыросшай да зубоў, і выглядаў нібы строгі старасвецкі патрыярх.

Старшы — гадоў пад дваццаць — сын яго Сёмка — здаровы, прыгожы, як кроў з малаком, стройны, як топаль, амаль не на галаву і бацьку перарос. Малодшы сын — Габрусь, хоць падростак яшчэ — гадоў трынаццаць, а і таго выгнала ўжо без меры ўгару; адна толькі жонка Міхайлы была невялічкай, як той грыбок, зморшчаная кабетка.

Буслы — людзі былі працавітыя, ды і жылі хоць не багата, але, відаць было, і не бедна.

Прыход Буслоў ажыўляў не толькі глухую вёску, а нават усю ваколіцу. Іх любілі: хлопцы і дзяўчаты, наймаючыся капаць вапну, мелі добрыя заработкі; хто меў каня — зарабляў фурманкамі, развозячы вапну, а да таго з Бусламі не страх было пайсці на кірмаш і загуляць: да бойкі ішлі яны адважна і ахвотна, як у танец, ды за сваіх стаялі гарой.

Вапенная гара была з вярсту ад вёскі; там — каля вапеннай печы — Буслы пабудавалі сабе шалаш і жылі ў ім да позняй восені.

Сёлета вапеннікі прыйшлі ў нядзелю, дык хомінская моладзь, маючы свабодны час, выбралася туды грамадой пагаманіць аб заработках на будучыню і распытацца, што на свеце чутно.

Здалёку — каля вапеннай печы — відаць быў ужо агонь,

каторы вясёла бухаў угару. Хоць яшчэ было крыху марозна, але аджываючая рунь і блакітныя пралескі цешылі вока. Падышоўшы да вогнішча, каля каторага на тоўстай калодзе сядзеў Сёмка і выігрываў на ўсялякія тоны на гармоніцы, хлопцы і дзяўчаты шчыра і радасна віталіся і перакідваліся слоўцамі з госцем. З шалаша чутна была піскліваая лаянка Міхайлавай жонкі, а ён, як той мядзведзь, толькі час ад часу адгыркваўся: на тваю галаву! на тваю галаву, гадзіннік пракляты!

Гадзіннікам называў Міхайла сваю жонку дзеля таго, што яна акуратна тры разы ў дзень — аб адной і той самай пары — чы было за што, чы не — лаяла свайго мужа. Па часе лаянкі Міхайла ведаў, калі пара ісці на работу, калі палуднаваць, калі вячэраць.

— Каб ты ўгару глядзеў, ды сонца не бачыў! Каб твае вецер ногі калыхаў,— чытала дальш Міхайліха.

— На тваю галаву,— буркнуў Міхайла яшчэ раз і, смешна махаючы сваімі доўгімі рукамі, выйшаў з шалаша.

— Добры вечар, дабрадзеі мае! — гукнуў Міхайла ўсёй сабраўшайся грамадзе.— А ведаеце, браткі, гадзіннік мой стаў псавацца нешта: ахрыпла мая баба і нават лаяцца не можа ўжо па-людску; а бывала, такую музыку завядзе, ажно рэха коціцца. Старасць — не радасць. Ну, што чутно ў вас, дабрадзеі мае? — вітаючыся, спытаўся Міхайла.

— А што ў нас пачуеш? — адазваўся адзін.— Ад ліха ціха, а дабра не чуваць, казаў той.

— Дзякаваць богу, што хоць ад ліха ціха,— адказаў Міхайла, гладзячы бараду.— А як у вас сена? чы таксама па чатыры злоты пуд? — дапытваў Бусел.

— Было, але цяпер патаннела. Авечкі, свінні — цырэбяцца ўжо цэлы дзень на выгане, каней гэтаксама павыгналі на пашу, валоў толькі рабочых падкормліваць прыходзіцца сенам,— адказаў адзін.

Сёмка тым часам пазіраў на дзяўчат, каторыя шушукаліся ды хіхікалі.

— Зайграй што-колечы, Сёмка,— папрасіла адна з дзяўчат.

— Бач яе! чаго захацела! — адазваўся Сёмка, усміхаючыся, і быццам няўмысля ўпусціў гармонік на калені.

Вогнішча разгарэлася, стала ярчэй палаць, і яшчэ больш пацяплела. Каля агню круціліся малодшы брат Сёмкі і іхні калматы сабака Разбой.

— Зайграй, Сёмка, зайграй,— прычапілася тая самая дзяўчына.

— Лепш я табе нешта запяю і то на вушка, каб ніхто не пачуў,— адазваўся куртаты Тарас, знаны брахун, і, падсунуўшыся да дзяўчыны, ужо разінуўся, але ўсе дзяўчаты, як тыя гусі, накінуліся на Тараса і адпіхнулі яго.

— Вось сарокі гэтыя! Да іх і не прыступішся: адна за другую і вочы гатовы табе павыдзіраць,— паджартоўваў Сёмка.

— Але ж! Лепей не чапаць ліха, пакуль спіць,— згадзіўся Тарас.

— Давайце, хлопцы, лепш гульню якую прыдумаем! — адазваўся адзін падростак.

— Мо дужацца?

— Дужацца! Дужацца! — падхапілі ўсе хлопцы.

— Э-э, лепш паскакалі б крыху,— адазвалася чарнавалосая дзеўка.

— Наскакалася хіба ты досыць за свой век — будзе з цябе,— укусіў Тарас.

Тым часам хлопцы ўжо выбралі раўнейшы пляц бліжэй к агню і пара за парай пачалі прабаваць сілы. Спачатку барацьба ішла спакойна, перакідваліся слоўцамі, жартамі, але ўскорасці хлопцы разгарачыліся.

— Нагі не падстаўляй — гэта падвох! — крычаў адзін.

— А ты, Мікіцёнак, не кусайся, гад: тут не сабачыя табе гульні! — адазваўся другі.

Хлопцы сапелі і храпелі, як кавальскія мяхі. З некаторых чупрын ажно пара ішла. Адзін толькі Сёмка быў спакойны, як чалавек, каторы знае сваю вартасць. Перадужаў ён усіх, а на ім і знаку няма.

— Давайце ў пярэцяжкі,— крыкнуў адзін ■ сапуноў.

— У пярэцяжкі! У пярэцяжкі! — гукнулі ўсе.

Пярэцяжкі ладзяцца на гэткі манер: выбіраюць ёмкую палку, два хлопца садзяцца на зямлі — адзін проціў другога, выпрастовываюць ногі, кладуць палку паміж ног ды, упіраючыся ў яе падошвамі, пачынаюць рукамі цягнуць палку кожны ў свой бок, і, вядома,— дужэйшы перацягне.

Сёмка і тут усіх перацягнуў.

— Вось дуж! — з зайздрасцю казалі хлопцы.

Дзеўкі падкпівалі са сваіх хлопцаў.

Міхайла праз увесь час гульні стаяў здалёк і моўчкі любаваўся сваім сынам, але ўрэшце і ён не вытрываў і гэтаксама падсунуўся бліжэй. Відаць, і стары быў ласы на гэткія штукі.

— Ну, хто ж тут дужэйшы з вас, хлопцы? — спытаў Міхайла.

— Вядома хто: дзе ж нам раўняцца да твайго Сёмкі? Хлопец — як той дуб усё роўна.

— Вось як?! — здаволены ўсміхнуўся Міхайла.— Ну, мае дабрадзеі, а хто са мной — старыком — паспрабуе сілы?

Усе зірнулі на рослую фігуру гэтага мядзведзя, ды моўчкі адсунуліся ўбок.

— Дык вы — вось як? — уздзівіўся Міхайла.— А так хацелася б успомніць маладыя гады і старыя косці свае выпрастаць. Ну што ж зробіш: калі ганьбуеце вы, дык мо родны сын не паганьбуе. Сёмка! Давай, брат!

— Што ж, татка, давай,— спакойна адазваўся сын.

— Го-го-го! — зарагаталі ў адзін дух усе.— Вось калі бацька з сынам пацягаюцца,— і абступілі іх ўвокал.

Тым часам Міхайла з Сёмкам селі ў пярэцяжкі, але нічога не выйшла: ні той, ні другі не падаўся.

— Калі гэтак,— сказаў Міхайла, ужо разгарачаны,— дык давай, сынку, у дужкі.

— Давай,— адказаў Сёмка і скінуў жакетку.

Усе пачалі гэтак рагатаць, што ажно Разбой забрахаў; вылецела і Міхальчыха з шалаша паглядзець, што тут робіцца.

— Ой, ой, ой! — загаласіла яна.— Бацька з сынам! Стары — як малы. Звар'яцелі! А каб вы падушыліся.

Зважна, спакойна сышліся бацька з сынам.

— Толькі без хітрыкаў,— паважна сказаў Міхайла.

— Пэўна што без хітрыкаў,— адказаў Сёмка, адвярнуўшыся крыху тварам ад бацькавай барады.

І два веліканы абхапілі адзін другога сваімі жалезнымі рукамі.

Хлопцы падкінулі сучкоў на вогнішча, каб відней было.

А тым часам гэтыя асілкі, паднімаючы адзін другога, стараліся бразнуць праціўніка аб зямлю; але гэта не ўдавалася: ногі — быццам ураслі ў зямлю. Тады ўпёрліся грудзьмі гэтак цесна — як бы зрасліся разам і круціліся, быццам на таптаку.

— Во, во! Стары яго паваліць!

— Во, во! Ён ужо даецца!

— Не дай пудлу, Сёмка! — крычалі хлопцы.

А ў бацькі з сынам ажно косці хрусцелі. Наваліўшыся адзін на другога, яны, здавалася, жэбры хацелі б паламаць. Страшны нават былі цені, што побач варушыліся. Былі моманты, што яны, абшчэміўшыся, быццам застылі; быццам штосьці шэпталіся. Кожны, відаць, прыдумваў спрыт, рых-

таваўся — як зваліць адзін другога. Пот з твараў іх — цурком ішоў. Вочы дзіка гарэлі. Жылы — як вяроўкі нацягнуліся. Гледзячы на іх, усім зрабілася жудасна.

— Бач, што Буслы вырабляюць: бацька з сынам! — дзівіліся хлопцы.

А тыя Буслы, здавалася, задушыць хацелі адзін другога.

— Ды будзе ўжо вам, хрышчоныя! — адазваліся дзяўчаты.

— Г-э-э-э, г-э-э-э! — стагналі Буслы.

— Во! Во! — крыкнулі ўсе разам.

Міхайла прыгнуў Сёмку да зямлі. Той ужо чуць і рукі не распластаў; але вось ногі яго зноў, як сталёвыя спружыны, выпрасталіся, а сам ён падскочыў угару, быццам яго хто знізу гарачымі вуглямі падпёк. Як маланку спаліць — Сёмка абхапіў бацьку, прыціснуў да сябе, падняў яго ўгару і бразнуў з усёй сілы на зямлю.

Хлопцы і дзяўчаты змоўклі. Толькі вугальчыкі трашчалі на вогнішчы. Сёмка кінуўся да ляжачага бацькі, падняў яго і пацалаваў у руку. У вачах хлопца блішчэлі і радасць, і жаль. А стары Бусел, пагладзіўшы сына па калматай чупрыне, адазваўся:

— Не гневаюся, сынку, не гневаюся. Вам — моладзі — трэба церабіць сабе дарожку і сілай, і працай.

## МЯДЗВЕДЗЬ

На небе толькі што ўзышла паўночная зорка. Ледзьледзь вызначаюцца чорнымі асілкамі высокія стагі. На пагорку, ля самага броду рэчкі, Мацей Тадэўчык — стары рыбак і паляўнічы — сядзіць на перавернутым чаўне пры слаба тлеючым вогнішчы і дыміць люлькай. Побач ляжыць на карчы яго стрэльба-дубальтоўка.

Мацей расставіў нанач венцяры ў затоках, а сам астаўся вартаваць, каб ніхто з блізкіх вёсак іх не вытрас, як часамі падшывальцы любілі рабіць.

Ля ног рыбака сядзіць калматая, чорная сучка Мурза — яго друг і таварыш заўсёды і ўсюды. Часам яна настарожваецца, утаропіць вострую морду ў бок скарбовага цёмнага лесу, што стаіць на другім баку рэчкі, буркне,

піскне, прытуліцца цясней да калеп гаспадара і зноў замоўкне, нюхаючы пільна вільготнае паветра.

Ціхая і мёртвая асенняя ноч. Цемра густымі пластамі ляжыць на балоце і як бы душыць усё. Нехта за рудаўкай па купінах дрыгвы хоча галасна запець, але як бы захлёбваецца, і толькі буль-бу-у-ух чуваць па баках. Няясныя зыкі заміраюць у цемры...

Часамі птушка запішчыць жаласлівым голасам. Часамі затрашчыць нешта ў бары, заскрыпіць хвоя аб хвою. Гэта вецер прачынаецца і вандруе па лесе...

У паветры адчуваецца халодная вільгаць. Дождж — не дождж, а нешта вострае і калючае, дробнае і густое.

Мурза ўсё пільней аглядаецца па баках, усё рупней нюхае паветра, гіркае і непакоіцца.

— Што гэта робіцца з табою сёнейка? Хай цябе немач, хай цябе! — кажа Тадэўчык да Мурзы і плюе ўбок. Ладзіцца заснуць пад кажухом, але нешта сон не бярэ. Трывога сабакі перадаецца і яму.

— Хай цябе немач, хай цябе!

Тадэўчык устае, папраўляе вогнішча, напіхае зноў тытуну у люльку і дзівіцца:

— Ліха ведае! Здаецца, ўжо гадоў сорак, з самага маленства, начую тутака і заўсёды сплю, як пасля кірмашу, а сёнейка нешта не тое... Сабака, каб яго немач, чуе штосьці!

Тадэўчык апасліва азіраецца па баках, лыпіць вочы ў цемру, моршчыць лоб, а нічога ўгледзець не можа. Ён бярэ дубальтоўку, старанна выдувае куркі, вымае з раменнай сумкі пістоны, надзявае і не выпускае ўжо дубальтоўкі з рук. Мурза пры гэтым падбірае пад сябе хвост, апускае галаву і жаласліва вые.

У самым вясёлым месцы, калі часам дзе на падворку сярод белага дня сабака ні з таго ні з сяго пачынае выць, нейкая жудасць нападае на чалавека. А тут, у глушы, у Тадэўчыка ажно мурашкі заёрзалі па скуры.

— Ну, ціха, ліха! Якая трасца цябе бярэ? — просіцца ён у сабакі і гладзіць яго па натапоршчанай шэрсці. Сабака на момант цішэе, і Тадэўчыку робіцца лягчэй.

Вецер узмацнеў. Хмары засланілі ўсё неба. Пачаў сыпаць дробны густы дождж. Усё злілося ў адно — і стагі, і дрэвы, і прастор. Нічога не відаць. Як у студні ўсё роўна. Круг цемры ўсё цясней і цясней абхоплівае вогнішча. Глухамань ночы трывожыць.

— А мо лепей было б сягоння на печы спаць, як Наста,

жонка мая, раіла, а то няхай яе немач, няхай яе!.. А ўсё гаворадь, што мядзведзь ходзіць па нашай ваколіцы. Збіраюцца нават аблаву рабіць.

Думаў Тадэўчык пайсці цяпер дахаты, але спыніўся. Яму здавалася, што, калі толькі зварухнецца з месца, хтосьці кінецца на яго.

Гэтак прайшло яшчэ з гадзіну. Урэшце Тадэўчык пачаў злавацца сам на сябе, шолаху і трэску ў кустах баіцца. Сорам... Тым часам з супроцьлеглага берага рэчкі, ля броду, яўна пачуліся цяжкія крокі... Сэрца Тадэўчыка абмерла. Мурза падскочыла да берага і пачала голасна брахаць, а Тадэўчык, сціснуўшы дубальтоўку ў руках, крыкнуў не сваім голасам:

— Хто там?

У адказ — толькі цяжкае сапенне ў вадзе.

— Мядзведзь! — прахрыпеў Тадэўчык і адскочыў ад агню, каб лепей было з цемры ўглядацца ў звера і цэліцца ў яго з дубальтоўкі.

Мурза заскавытала і кінулася назад да Тадэўчыка.

Сапенне наблізілася. У Тадэўчыка шапка на галаве падымаецца. Ён коліць вачамі цемру, ды нічога не бачыць. Ён акамянеў ад страху і не можа крануцца з месца. Голас яго асекся.

Тым часам мядзведзь напіўся вады, выйшаў на бераг і на задніх лапах, як старая баба ў перавернутым кажусе, накіраваўся да вогнішча...

Калі Тадэўчык угледзеў, што мядзведзь ідзе на задніх лапах, як чалавек, перавальваючыся пры гэтым з адной нагі на другую, страх яго крыху зменшыўся з прычыны такога падабенства да чалавека. Ён адсапнуўся і ўжо мог крануць рукой і нагой. Сабака пішчаў на розныя лады. Мядзведзь наступіў нагамі на агонь, атросся і пачаў таптаць вогнішча. Яно задыміла і пачало гаснуць.

— Ратуй, божа,— сказаў Тадэўчык у думках, прыцэліўся і націснуў курок.

— Асечка! Порах, мабыць, мокры, каб яго немач, каб яго!

Прыціснуў пальцамі другі курок, і нічога не выйшла. Пістоны ляпнулі, а набоі засталіся...

Пачуўшы ляпанне стрэльбы, мядзведзь з гнеўным мармытаннем рынуўся на Тадэўчыка.

Вырваў з рук чалавека стрэльбу, зламаў папалам, адкінуў убок і абхапіў пярэднімі лапамі Тадэўчыка, як добры сябар, які хоча кума пацалаваць... Тут Мурза асмеліла-

ся ды з гучным гаўканнем накінулася на мядзведзя і давай рваць яго зубамі за заднія ногі. Мядзведзь курчыўся ад болю, паваліў Тадэўчыка і кінуўся на сучку. Яна пусцілася наўцёкі. Тадэўчык ачухаўся, звыкся трохі са страхам, і мазгі яго хутка запрацавалі:

— Уцякаць трэба не на грэблю, але ў зыбуху, у тыя кусты, дзе ў замаразках бабы журавіны збіраюць. Там мядзведзь мяне не дагоніць.

Ускочыў на ногі — і наўцёкі, але мядзведзь пусціўся за ім ўдагонку... Хаця Тадэўчык бег хутка, не аглядваючыся, але пачуў праз колькі хвілін за сваімі плячамі цяжкае дыханне звера.

Лапа, цяжкая і вострая, уелася ў паясніцу і зноў паваліла яго...

Мядзведзь стараўся дабрацца лапай да яго твару і горла, але чалавек урыўся галавой у мяккую зямлю. Тым часам Мурза насела на карак мядзведзя і ўгрызлася зубамі глыбока ў яго мяса. Мядзведзь ад болю моцна зароў і зноў пакінуў чалавека. Ён стараўся сцягнуць Мурзу са свайго карку. Трос галавой, круціўся ва ўсе бакі, увіхаўся, а сабака грыз яго не на жарт.

Тадэўчык пачуў, што на плячах у яго мокра, але, не звярнуўшы на гэта ўвагі, з усіх сіл ускочыў на ногі і пабег да кустоў.

Хмары сплылі з небасхілу. Паказаўся мутначырвоны месяц і слаба асвяціў абшар балота.

Мядзведзь скінуў Мурзу з сябе і зноў, з яшчэ большым імпэтам, пагнаўся за чалавекам. Тадэўчык спрытна пераскокваў з адной купіны на другую па дрыгвяных рудаўках, а мядзведзь ззаду чабохтаўся таксама досыць вёртка, але Мурза не давала яму спакою — рвала за ногі, за бакі. Тадэўчык, не чуючы болю, не аглядаючыся, імчаўся ўсё далей і далей. Гэткім чынам выбраўся ён з кустоў на поле. Ён чуў голас Мурзы далёка за сабою.

На чыстым полі ён падняў гвалт. Ад вёскі было не надта далёка, і хутка па ўсёй ваколіцы пачалі брахаць сабакі.

Тадэўчык выбраўся на гасцінец, увесь у крыві і гразі, крычаў не сваім голасам.

— Людцы, ратуйце!

Вясковыя ляцелі да яго з крыкамі: «Хто гэта?», «Што гэта?»

Яны думалі, што канакрад папаўся.

— Мядзведзь! — крыкнуў Тадэўчык і страціў прытомнасць.

Назаўтра людзі знайшлі ля рэчкі сляды мядзведзя, знайшлі паламаную папалам дубальтоўку, але Мурза прапала.

Тадэўчык доўга лячыўся ад ран на руках і плячах, ачуняў і зноў начаваў адзін на балоце і ставіў нанач венцяры ў затоках. Толькі добрага сабакі не мог сабе нажыць.

Кожны раз, апавядаючы аб тым, як сабака абараніў яго ад мядзведзя, ён стагнаў па ім, як па роднаму сыну.

## ПАНАС НА НЕБЕ

### (Паводле народнай казкі)

Памёр стары Панас.

Яго цела пахавалі на могілках, а душа, як усе людскія душы, жаўранкам на неба паляцела.

Панас, папаўшы ў незнаёмае месца, пачаў азірацца па баках і скора ўцяміў, як і што: «Эт, язык да Кіева давядзе! Хто пытае, той не блудзіць». І давай у стрэчных-папярэчных дапытвацца:

— А дзе ж тут, пане-дабрадзеі, дарога ў рай?

Скрыдлатыя анёлы казелілі вочы на простую душачку, а ўсё ж ткі паказвалі дарогу ў рай, пэўныя, што тут ніякіх хітрыкаў няма; а калі чалавек смалой у вочы лезе, дык гэта не хаханькі якія.

Бокам-скокам, і — Панас дабраўся да райскай брамы.

— Гэй! — крыкнуў Панас знадворку,— пусці, дзядзька, у рай!

— А хто гэта там горла дзярэ? — адазваўся ключар Пятро з другога боку.

— Гэта я!

— А хто ты?

— Ну, я ж! Адчыні, дзядзька, браму!

— Бач ты, які спрытны! А што ты там на зямлі рабіў? Будзь ласкаў сказаць!

Тут Панасу троху моташна зрабілася. Успомніў ён, як аднаго разу перад папом шапкі не зняў. Успомніў, як маці яго памерла, дык ён не скора крыж на магіле ставіў, пакуль яму не ўдалося ўкрасці сасну з панскага лесу. І яшчэ шмат чаго прыпамінаў ён і пачаў чухаць патыліцу.

— Як цябе завуць? — запытаўся ключар Пятро і высу-

нуўся трохі з-за брамы, аглядаючы Панаса з галавы да ног.

— Панас... — палахліва, як перадураднікам стоячы, адказвае Панас і апускае вочы.

— Маліўся? — сур'ёзна пытаецца далей Пятро.

— Часамі,— бармоча Панас, азіраючыся па баках, як бы ратунку шукаючы.

— Чаму «часамі»? — строга крычыць Пятро.

— Бо, ведаеш, паночку, бо... бо... я... не ўмею... — душыўся Панас словамі, як бы гарачыя клёцкі глытаючы.

— Ага, значыць, неакуратна маліўся,— адчаканьвае кожнае слова, як асэсар, Пятро.— А выпіваў акуратна? А жонку біў? А за гаспадаркай ніколі не глядзеў?

Нібы шротам засыпаў яго Пятро пытаннямі. Панас так корчыўся, нібы яго сцябалі крапівой.

— Ідзі ў пекла! — сказаў Пятро ды ўжо хацеў зачыніць браму.

Панас, угледзеўшы гэткую штуку, цмокнуў у руку Пятру і давай маліць-прасіць, як ён добра навучыўся на зямлі перад старой паняй, калі яго кабылу забіралі ў хлеў за патраву:

— А я ж невучоны... а я ж простае, цёмнае мужычдо...

Ён застагнаў-заенчыў на ўсё неба:

— Ці ж я вінаваты, калі не ведаў, як жыць на свеце?.. Ці ж я вінаваты, калі не...

— Ну, годзе! Годзе! — перабіў яго прачытанні Пятро і, з усмешкай гледзячы на Панаса, гладзіў сваю сівую бараду.— Добра, Панас, мо пойдзеш у рай, бо, ведама, ты невучоны. Але вось такая рэч — не пушчу цябе ў рай, покуль не навучышся хоць крыху грамаце. Прынамсі, будзеш сядзець там і паперы чытаць. А то прыкра, калі ты на ўсіх святых дурной варонай глядзець будзеш і ніхто голасу твайго не пачуе.

Панасу зрабілася нясмачна на душы.

«Ліха ведае! Гэта лёгка сказаць: навучыцца грамаце! Мой Габрусь пяць зім вучыўся і чуць па складах чытае. А мне, старому дыдлу, дзе тут уцяміць?»

Ажно мурашкі заёрзалі па яго спіне.

Тым часам Пятро, зачыніўшы вароты, падаў яму кантычку, па якой загадаў вучыцца.

Панас ткнуў кніжку за пазуху і папёр куды вочы глядзяць, маркотна апусціўшы галаў. Ён нават і надзею страціў папасці ў рай. Яму здавалася, што куды лягчэй галавой уніз хадзіць, чымся навучыцца грамаце. Але «як топішся,

то за брытву хопішся» — кажуць людзі. І бедны Панас, не маючы жаданага ратунку, расчыніў кантычку і, як той бусел, скоса зірнуў на незразумелыя літары. Ой, як не хацелася яму папасці на цымус у пекла! «Купіў — не купіў, а патаргаваць можна»,— бадрыў ён сам сябе і сеў на камень сярод гасцінца. Утаропіў вочы ў кантычку і давай у стрэчнага-папярэчнага дапытвацца:

— Паночку, родненькі, што гэта за літара? А што азначае гэтае кручэнне? А як чытаецца гэта дуга? А як выгарваецца гэта мудронная сякерка? А як гэта ўсё разам выходзіць?

Як анёлы ні спяшаліся па сваіх справах, але бачачы, што чалавек проста са скуры вылазіць, што пот цурком льецца з лысіны, дык кожны ахвотна тлумачыў яму.

Там не такія благія, як на зямлі.

Панас спачатку бэкаў-мэкаў, а праз тыдзень які ўжо нічога сабе чытаў. Праз два тыдні Панас так налаўчыўся, што патрапіў бы чытаць псалтыр на добрых хаўтурах пры чарцы гарэлкі. На зямлі яго пахавалі без папа, і дзяк не чытаў, бо жонка яго не мела чым за гэта заплаціць. Ад шчаслівай усмешкі Панас разявіўся чуць не на ўсё неба.

Ён смела пайшоў да святога Пятра.

— Гэй! — крыкнуў Панас з аднаго боку брамы.

— Хто там? — запытаўся з другога боку Пятро.

— Я! Панас!

— А што? Навучыўся?

— Навучыўся!

— Папрабуй чытаць!

Пятро зарыпаў брамай і выйшаў паслухаць.

Панас кашлянуў раз-другі, расчыніў зашмальцаваную кантычку і з павагай, нібы ксёндз на амбоне, пачаў чытаць.

Пятро ківаў галавой і дзівіўся.

— А што,— кажа Панас,— добра?

— Гм... добра... Цяпер, Панаска, ідзі смела ў... пекла.

— Што?!

Панас падсунуў правае вуха. Яму здалося, што недачуў.

— У пекла ідзі! — гнеўна крыкнуў Пятро.— Бач, які ты невучоны, якое ты «цёмнае мужычча»! Вось і тваё апраўданне нікчэмнае. Чалавеку трэба толькі хацець. Бач, як хутка ты навучыўся чытаць, калі прыступілі, як той кажа, нажом да горла! Нябось, каб хацеў, дык бы на зямлі шмат чаго добрага зрабіў. А цяпер вон у пякельніцу, душа гультайская! Не мазоль мне вачэй, лайдацюга!

Панас ад дзіва і страху гэтак лупы разявіў, што чуць

усё неба не глынуў. Але паляшук з панталыку не лёгка збіваецца. Не паспеў Пятро зачыніць браму, як Панас крыкнуў смела:

— Пачакай!

За гэты час, што Панас бакі абіваў на небе, ён асвоіўся, нібы на сваім сенакосе.

— Чаго ты?! — выставіў на яго Пятро строгія сівыя вочы.

— «Чаго ты»! — перадражніў яго Панас,— ці ж можна гэтак?

— Што — «ці ж можна гэтак»?

— Думаеш, палешука ўлегцы возьмеш? Ці ж можна гэтак смяяцца над старым земляробам? Сказаў бы адразу: што каб хацеў, дык усё б патрапіў зрабіць на зямлі. Я б тады не спрачаўся. Што ж, альбо рыбка, альбо пiпка! А то кантычку тыкае ў рукі: на! вучыся! Колькі поту мне каштавала гэтая мая адукацыя. Ці ж мне заплаціш за працу, калі і паломанай дыткі на небе няма? Што мне цяпер рабіць?

Пашкадаваў яго Пятро:

— Ідзі, шальмец, у рай. Радачкі з табою не дасі...

Зажыў Панас у раі як сыр у смятане. Пільна чытаў ён кантычкі, прыслужваў, падаваў люлькі святым. Але праз колькі часу ён там занудзіўся. Паляшук прывык да працы, без яе яму трудна жыць. Падмазаўся ён зноў да ключара Пятра:

— Давай-ка, дзядзька, памагу табе каля брамы тупацца, а то аднаму, мабыць, цяжка.

Пятро згадзіўся.

І зрабіўся Панас памочнікам ключара пры браме раю. Калі душа якая ў браму стукалася, дык Пятро толькі ключ паверне, а Панас адчыняў вароты. Пятро гляне, ці варта ў рай пускаць, а Панас тым часам высуне лысіну, глядзіць, мо знаёмага спаткае. Часта гутарыў ён гэткім чынам з сваімі аднасяльчанамі, дапытваўся навін, і нічагусенькі. Паляшук усюды ў вус не дзьме.

Аднаго разу высунуў ён таксама галаву між варот, каб зірнуць, дзе што дзеецца, і пры гэтым уздрыгануўся, як бы яго хто ўкусіў.

— Божухна! Каго гэта я бачу? Гэта ж — Тэкля! Жонка мая! Яна! Вочы не падманулі...

Пятро шмат яе не дапытваўся, бо ведаў, якая яна была пакутніца пры Панасе на зямлі, ды адразу ўпусціў у рай.

— А! І ты тут ёсць! — грымнула Тэкля, угледзеўшы

Панаса.— Ну і неспадзеўкі! Ці не заблудзілася я? Бо тваё месца ў пекле...

— Божанька, а мне цяпер рай горш пекла стане! — застагнаў Панас і з вялікага імпэту пераскочыў высокі паркан і наўцёкі.

— Панас! Панас! — клікаў яго Пятро.— Вярніся!

*

Панас пёр на ўсе застаўкі. Ён ужо добра ведаў усе завулкі і глухія куткі на небе, знайшоў ён яшчэ вандроўцаў-палешукоў і зрабіўся іх павадыром.

Раздзяліў ім Панас неба на шнуры і загадаў працаваць. Гэтак працуюць і па сягонняшні дзень. І сапраўды ім весела жывецца. Якое жыта там расце, якія лясы шумяць, дык толькі дзівіся!

Панас даўно кінуў сваю старую Тэклю, бо яна яму яшчэ на зямлі досыць абрыдла, і ўзяў ён сабе дзвюх жонак. Толькі няхай вас гэта не дзівіць, людзі добрыя,— на небе можна мець шмат жонак, бо ў другі раз ужо ў магілу не ўвагоняць.

Панасавы жанкі, як усе бабы на свеце, вельмі цікаўныя — хочацца ведаць, дзе што робіцца.

Высуне адна галоўку сваю на зямлю, усміхнецца, вочкі ззяюць...

— Сонейка ўзышло! — кажуць людзі на зямлі. Радуюцца вясковыя і лёгка, і весела робіцца ім на душы.

— Чаго ты? Куды вочы лупаеш? Мо баранавалока маладога ўгледзела? — злуецца Панас на жонку сваю. Як ірване за валасы ў другі бок, як пачне пытляваць, дык, бедная, ад болю аж зачырванеецца.

Другая жонка, хаваючыся ад гнеўнага мужа, таксама — тыц свой твар на зямлю, не менш цікаўная за першую.

— Месячык свеціць,— кажуць людзі,— пара на начлег!

Смутна глядзіць на зямельку Панасава жонка і прыслухоўваецца, як мізэрны хлопчык на жалейцы грае ля рэчкі.

— А, каб цябе,— злуецца Панас,— сорам. Я табе пакажу, распусніца, як на хлопцаў зрэнкі казеліць!

Як грукне ёй у плечы, дык, бедная, аж паваліцца і валасамі даўгімі твар пекны затуліць.

І плачуць Панасавыя жанкі, а людзі на зямлі думаюць, што гэта дождж.

У Панасавай гасподзе руппыя бабы ўсю ноч кудзелі прадуць пры лучынах.

— Зоркі гараць,— кажуць людзі на зямлі.

Часам Панас пачынае агонь выбіваць да люлькі ў таку, дзе парабкі цапамі жыта малоцяць.

— Пярун б'е. Маланка паліць,— кажуць людзі на зямлі.

А млын там ёсць вялікі, вялікі! Меле і меле. Ад завозу проста і адбою няма.

А як пачне мельнік муку з барады вытрасаць, дык усё неба запыліць.

— Снег падае! — кажуць людзі на зямлі.

Борух там карчму залажыў на гасцінцы. Пайшлі гандлі, кірмашы, заработкі — проста не нахваліцца!

Болей усяго гандлююць там дурнямі. Гэты гандаль усюды ходкі. Вы спытаецеся — нашто грошы? Як жа жыць без іх, калі як карчмару, таксама, не раўнуючы, і папу яны патрэбны. Без іх ані кроку. Нават і на неба выбрацца з пустымі кішэнямі трудна: не будуць званіць, не будуць спяваць псалмоў, не будуць маліцца за грэшную душу.

Адно толькі палешукоў на небе непакоіць: лік хадакоў ад зямлі павялічваецца не па днях, а па гадзінах. Як ні расстаўляюць вартаўнікоў на граніцах, як ні строга з пашпартамі, а ўсё ж такі не могуць упільнаваць. Надта спрытны народ на зямлі: круць-верць — ніхто не агледзіцца, а ён ужо на небе... А там — рабі з ім што хочаш: не ідзе назад, хоць ты яго доўбняй.

## ДУДАР

**(Апавяданне старога дзеда)**

Ой чачу, ой чачу,
Гарэлачку я хачу!
*(Народная)*

Спачатку, дзеткі мае, здалося мне, што старыя часы раптам устром галавой варочаюцца да нас: вось, знакам тым, цяперака няма вінаполек — і калісьці таксама не было вінаполек. Але тутака трапілі якраз пальцам у вока. «Не заўсяды, як на дзяды», дзеткі мае! Эхэ-хэ, «што было, тое травой зарасло». Знакам тым, я іщчэ добра памятаю

тыя дзянькі, калі з Рагазіны вазілі пузатыя бочкі «ачышчанай», калі па дошках талакой качалі гэтыя самыя бочкі на высокі ганак Лейзаравай карчмы. Вось тады бываў гармідар заўсёды! Не кідалі піць, пакуль не паваляліся снапамі пад стол. «Бірка», знакам тым, ажно рабела ад значкоў. Кожны значок, дзеткі мае, азначаў медную чарку Лейзара. Э-хэ-хэ, былі рокі, калі паны браліся ў бокі. А які з мяне музыка быў у тых гадах, дык толькі дзяржыся! Бывала, калі зайграю на дудзе «лявоніху», дык людзі ажно хадыром хадзілі! Гэткія выкрутасы выраблялі, што гіцаль іх ведае! Дасцё веры — жалезныя падкоўкі растоптвалі за адну вечарынку,— во што, знакам тым! Хоцькі-няхоцькі, і бязногі, здаецца, патрапіў бы сказаць, калі я іграў «Лявоніху», «Брычка» ці «Юрку». Не тое, што цяперашняя «борацкая» ці «крамянецкая» полька: фыц! мыц! Эт, плюнуць і то не варта.

Дык вось, дзеткі мае, адзін раз перад калядамі выправіў мяне Лейзар у Рагазіну па гарэлку. Наста мая дала мне на дарогу ёмкі кавалак свежага сала з парсюка, што нядаўна закалолі на свята, усунула ў торбу цёплы праснак. Знакам тым, усяго было досыць. На ўсялякі выпадак узяў я і дуду [illegible] сабою. Запас бяды не чыніць. Я меў храпку дуду заўсёды пры сабе трымаць. Уладзіўся як мае быць з гарэлкаю і паехаў сабе вечарком назад, аглядаючыся па баках, мо дзе воўк накруціцца на тое ліха, бо ў тую зіму цягаліся яны цэлымі ганнямі. Канянё было ў мяне хоць дужае, але гультаяватае — ідзе сабе памалу і, хоць ты зарэж яго, не пабяжыць. Знакам тым, мне страшэнна абрыдла. А тут мароз, хоць ты лысых лічы! Нешта кародзіць унутры — захацелася выпіць. Але як дастаць «трунку» гэстага? Галава мая была не без розуму. Зараз мільганула думка, што можна выкалупаць у бочцы дзюрачку дротам ад люлькі; і я ўзяўся за работу, як Халімон за бога ўсё роўна. Хутка я такі дагадаўся, што мой сідар даўся: выкруціў дротам адну і другую дзюрачку на славу. Дастаў з саней саломіну, усунуў у дзюрачку і давай смактаць, як тое дзіцянё сасульку. Ці дасцё веры — адразу пачуў гэткі смак, нібы хто мёдам мазануў па душы маёй!.. Тут ужо я рад быў, што конь ідзе гэтак памалу. На грэблі, ля высокага мосту, акрутня парвалася, і я тпрукнуў каню. Тутака, знакам тым, я забыўся аб марозе, аб ваўках, аб усім на свеце, разлажыў свой клумак па бочцы, як у сваёй хаце на багатую куццю усё роўна, і давай мяняць саломіну за саломінай. Месячык так свяціў, што нават малюсенькую дзю-

рачку ў бочцы, нібы слядок той ад мухі, і то бачыў яснюсенька, дзеткі мае.

Хутка мне так весела зрабілася, што я зацягнуў калядную песню:

Рана, рана куры папелі,—
Святы вечар!

Выняў дуду і зайграў. Ці доўга я іграў, ці коратка — не памятаю, але воддаль задзынкалі званкі. Я спыніўся паглядзець, хто гэта едзе. Ажно з другой стараны па дарозе смаліць на чацвёрцы паніч, фурман у залатых гузіках, ляскоча доўгай пугай: жа-а-ах! Дрыжака па спіне прабірае. Пад'ехаўшы блізка, чацвёрка стоп, паніч ка мне. Я трохі, знакам тым, спужаўся. «Вось табе на! — думаю,— адразу раскажа Лейзару аб усім». Я спрытна заткнуў дзюрачку ў бочцы мяккім хлебам, і квіта, пане Мікіта! Мая хата з краю, я нічога не знаю! Зняў шапку, пакланіўся панічу; стаю, чухаю патыліцу.

— Чаму, дурню, не іграеш? — кажа паніч.

Я маўчу.

— Чаму не іграеш, дурню? — крычыць ён у другі раз.

Тут ужо ніякай радачкі не дасі. Я ўзяўся за дуду і засыпаў «Лявоніху». Пан пахваліў. Пахлопаў па плячах і кажа: «Лоўка іграеш, дурню!».

— Ведаеш што,— пачаў ён далей,— паедзем ка мне, зайграеш там ігрышча, хай цябе качкі!

— Дык як жа ж я, панічок, пакіну канягу і бочку, знакам тым? — кажу я.

— Мой фурман застанецца тут, а мы з табою, дурню, паедзем на маёй чацвёрцы,— Лейзар і не даведаецца. Запражэш на раніцу майго каня, і як «га», бочка будзе на месцы. А за музыку дам табе пяць рублёў.

Квапункі вялікія: ад Лейзара шэсць залатовак і пяць рублёў паніча, дык якраз маёй жонцы на чаравікі ды яшчэ на хустку на свята, ды яшчэ хвост мне на гаспадарку. А тут яшчэ хочацца паказаць, што ўлегцы не ўзяць мяне, знакам тым,— і на панскіх ігрышчах граю. Вось я згадзіўся. Фурман панскі застаўся бочку вартаваць, а я з панічом смарганулі на ўсе застаўкі. Платы і дрэвы ажно мігацелі ў вачах. Паніч даў мне доўгую пугу ў рукі, а я толькі — смаргуль! Ажно люба, як ляскоча.

Прыехалі мы ўрэшце да панскіх палацаў. Узяў я дуду пад паху, і паніч увёў мяне ў тыя пакоі. А там паўнюсенька гасцей: панічоў, паненак, старых і маладых. Я здур-

маніўся. Колькі свечак, колькі лямпаў, а божухна! А падлога маляваная, гладкая, слізкая, я проста на нагах стаяць не магу,— усё слізгаюся. Каб не падтрымлівалі мяне лёкаі нейкія, знакам тым, дык я кульгіцнуў бы дагары нагамі. А то смех, рогат. Гі-гі-гі! — пішчаць паненкі ценькімі галасочкамі. Го-го-го! — смяюцца панічы. Ядуць і п'юць гэткія стравы, што я проста не ведаю, як гэта называецца.

Загадалі мне іграць: я і «лявоніху», я і «бычка», я і «юрку». А яны скачуць, а яны выдаюць! Гіцаль іх бяры! Нат і наскія так не патрапяць. Але неяк пальцы мае пачалі дубець. Я і пачаў даваць пудлы ў музыцы.

— А яму холадна! — засмяяліся ўсе.— Ну, дык выбірай сабе паненку.

— Не жартуйце,— кажу,— над бедным!

— Не! не! выбірай! выбірай, якую толькі хочаш — ажэнім!

Зірк я скоса на тыя паненкі. А яны так круць-муць каля мяне, і так глянуць, і гэтак усміхнуцца, што ў цябе ажно сэрца калаціцца пачынае, і гарачка нейкая ўсяго прабірае. А тыя ахвоты паддаюць. Я забыўся пра сваю Насту з чырвоным носам, адважыўся, выбраў сабе кругленькую, гладкую паненачку і кажу:

— Гэта хай будзе мая!

— Я — твая! Я — твая! — піскнула яна гэткім салодкім галасочкам, што я і дуду выпусціў з рук. «Ці я? ці не я? — думаю,— неяк не верыцца».

— Пацалуй ты маю ручку! — кажа яна.

Каб гэтак, знакам тым, казала мая Наста, дык я піхнуў бы яе ад сябе, што яна б увідзела бацьку з таго свету, а тут я раскіс — і давай цалаваць і яшчэ і яшчэ! Ніколі я смаку гэткага не чуў: ад яе нейкай парфумай і цукеркамі аддае, ажно галава кружыцца.

— Кінь дуду, пойдзем у мой пакой: там цяплей,— кажа яна,— а тут холадна!

Як непрытомны, пайшоў я за ёю, прыцмокваючы языком ад смаку, але тут я слізгануўся. Я спалохаўся. Зірк сюды, зірк туды. Дзе панскія пакоі? Дзе мая паненачка? Нічагусенькі няма!.. Я стаю пад мастом на лёдзе, аднэй нагой у праломцы... увесь упэцканы... Цьфу паганшчына! Дуда — парваная, знакам тым, ляжыць воддаль. Цьфу, гіцаль! Я вылез на гасцінец. Канянё маё стаіць, апусціўшы вушы, нібы нічога не ведае. Бочка ляжыць на санях. Я паправіў акрутню, абцёрся снегам, сплюнуў, знакам тым, тры разы і паехаў дахаты.

— Эхэ-хэ, дзеткі мае! колькі дзён пасля мне проста млосна рабілася ад пастаяннага плювання,— было нясмачна, як бы мыш глынуўшы. Завялікая была выпіўка!

## ТУГА СТАРОГА МІХАЙЛЫ

Шэпты... Лясныя шэпты, чаму вас не чутна? Чаму вы анямелі?

Вочы пазіраюць вакол, шукаюць удалі, мо дзе высокай сцяною цямнее бор, мо дзе ў зелені бялее бярэзнік...

Пуста... Сумна...

На маўклівых далінах адны жылістыя карчы... Там, дзе былі гаі, жаўцее жвіровы пясок. Рэчка высахла...

Ціха... жудасна...

Шэпты... Лясныя шэпты, дзе вы?

Калісьці жылі ў гэтай ваколіцы лясныя шэпты. Высечаны лясы, знішчаны бязжаласна людскімі рукамі да апошняга дрэва... Як лысая галава старога дзеда, выглядае зямля. Вока доўга блукае па абшары, шукае дробнага гайку на пагорку, гаварлівага альхоўніку ў даліне. Дарэмна. Неба зліваецца з зямлёю. Зямля туліцца да неба. Хаткі ўбогай вёскі здалёк нагадваюць кучы каменняў.

*

Праз акенца сваёй хацінкі пазірае стары Міхайла, углядаецца ўдаль слепаватымі вачамі. Старанна прыслухоўваецца. Нібы чуе гукі лесу. Жальба агартае старое сэрца. Лясныя шэпты ажываюць у яго душы. Стары Міхайла доўга моўчкі сядзіць. Шкада яму лесу, як роднага сына. Міхайла з дзіцячых год зжыўся з ім. Ён прывык да ляснога шуму, нібы дзіцё да матчынай калыханкі.

*

Гоманы... Людскія гоманы, чаму вас не чутна? Чаму вы анямелі?

Дзе вясёлыя дзецюкі? Дзе рупныя, працавітыя людзі?..

Па вёсках ціха і сумна. Вечарынак, гульняў няма... Пакінулі сыны бацькоў старых. Пакінулі бацькі дзяцей ма-

лых. Усе здаровыя і здатныя пайшлі на вайну. Цар загадаў. А калі вернуцца — невядома...

І замарнела жыццё.

Часам па гасцінцы да валасці можна прыкмеціць некалькі згорбленых фігур. Памалу рухаюцца яны наперад. Паміж іх і стары Міхайла. Усе яны ідуць у воласць даведацца, што чуваць з вайны, мо ёсць вестка якая ад сына, ад мужа, ад бацькі... У воласці суседзям чытаюць лісты ад сваіх. Хто піша з пазіцыі, хто з больніцы — паранены, а хто — з палону. Аб некаторых ёсць весткі, што яны ўжо доўга жыць загадалі сваім родным, а самі памёрлі «смертью героев» на полі бітвы «за царя и отечество».

Хто плача пры гэтых навінах, а ў каго слёзы ў сэрцы застылі...

Амаль што ўсе даведаліся аб сваіх. Адзін стары Міхайла нічагусенькі даведацца не можа... Пайшлі ад яго ўсе тры сыны. Пайшлі — і ніякай весткі ад іх няма...

*

І чакае стары Міхайла вестак ад сыноў... Не есць, не п'е, усё чакае. Спаць перастаў. Праца з рук валіцца. Маўкліва пазірае ён на шырокі гасцінец.

...Сыноў віхор панёс. Сыноў мора глынула...

І чакае стары Міхайла хоць ад аднаго з іх навінкі якой — высах, згорбіўся. Што з сынамі ні здарылася б — ці жывуць, ці не жывуць — а ўсё ж лягчэй было б, каб праўду даведаўся...

Ні слыху, ні дыху...

І часта кандыбае стары Міхайла ў воласць і надакучае прыставаннямі да кожнага стрэчнага-папярэчнага: мо хто ведае, ды казаць не хоча... Просіцца, зямлю цалуе, каб яму ўсю праўдачку выказалі — ці сыноў ужо маці-зямліца забрала, ці яшчэ не...

А вестак як не было, так і няма.

І сіднем сядзіць стары Міхайла адзін-адным у хатцы. Ваўкі пад вокнамі выюць... Мяцеліцы круцяць. Віхор страху знёс. Гурбы снегу навярнула на падворку, і няма нават як дабрацца да дзеда. Ён у снежнай турме. І тужыць стары Міхайла па родных сынах...

І сніць стары Міхайла благія сны. І знакі благія бачыць ён. То курыца запяе. То люлька з губ выпадае. То заяц дарогу пераскочыць. То жанчыну з пустымі вёдрамі спаткае...

— Напэўна, груганы даўно парассеялі костачкі сыноў маіх па чыстым полі...

*

Перастаў стары Міхайла ў воласць хадзіць, у суседзяў дапытвацца... І не хоча нават у вёсцы з людзьмі бачыцца. Рэдка калі з хаты выходзіць.

Суседзі маюць сваю ўласную бяду. Яны зусім забыліся аб ім. Як бы на свеце не было Міхайлы.

Ён тужыць моўчкі па лесе, што згінуў навакол, стогне па родных сынах, што весткі аб сабе не даюць.

Лесу ўжо ён не ўбачыць болей на роднай зямлі, а кроў сыноў недзе сыціць-корміць чужую глебу...

І старога Міхайлу апаноўвае вялікі гнеў.

— Згінь ты, прападзі, цар-бацюшка! — думае ён.— Завошта якое сіроціш ты старых бацькоў? За якое ліха ўсе мы пропадам прападаем?

*

І пайшоў стары Міхайла да суседзяў.

— Трэба склікаць сход,— гаворыць ён ім.— Трэба паслаць цару-бацюшку просьбу, так напісаную:

«Вярні нам, цар-бацюшка, сыноў нашых. Не хочам вайны. За што беднаму чалавеку вайну ваяваць? За што бедных людзей забіваць? Бо хто вернецца з вайны — бедным, як раней, застанецца».

І староста ў воласць данос падаў:

— Бунтуе народ стары Міхайла.

І валасны старшына данос падаў ураднiку:

— Бунтуе народ стары Міхайла.

І ўраднік данос падаў станавому прыставу:

— Бунтуе народ стары Міхайла.

Панаехалі ў вёску стражнікі царскія, са стрэльбамі, з нагайкамі. І старшына валасны быў з імі, і ўраднік, і прыстаў.

Забралі старога Міхайлу. Рукі і ногі вяроўкамі абкруцілі, па спіне нагайкамі білі, стрэльбамі палохалі ды гаварылі:

— Хто твае спадручнікі, хто твае дапаможнікі? Хто цябе бунтаваць народ вучыў?

І тлумачыў стары Міхайла:

— Мае спадружнікі — думкі-птушачкі. Мае дапаможнікі — лютасць царская. Народ бунтаваць навучыла мяне гора бацькавае. Я — сейбіт стары. Супроць цара-бацюшкі

гнеў сеяў у сэрцах людскіх. А гэта не грэх. Памяніце мае словы, людцы. Народ усё роўна цара скіне, бо кроў народная — не вада дажджавая.

І старога Міхайлу пасадзілі ў царскі астрог. Глядзіць стары Міхайла праз краты жалезныя на птушак вольных і кажа ім:

— Ляціце, птушачкі, туды, куды сыноў маіх пагналі, і прынясіце мне вестачку аб іх.

Слухае стары Міхайла песні ветру і кажа:

— Ляці, вецер родны, на крыллях лёгкіх туды, да сыноў маіх, і прынясі мне вестачку аб іх.

І чакае Міхайла дзень. І чакае Міхайла два дні, тры дні. Ніякіх вестак няма. Не есць Міхайла, не п'е. Усё аб сынах сваіх тужыць.

*

І сніцца старому Міхайлу адзін дзіўнюсенькі сон.

Сонечны летні дзень. Перад яго вачамі пасекі. На іх ляжаць бярвенні, з якіх цячэ жывіца, нібы мёд. Бярвенні, як прабуджаныя асілкі, падымаюцца з моху і становяцца кожны на сваё ранейшае месца. Галіны ў адзін міг адрастаюць. Расісты папаратнік блішчыць ля ручая. Воддаль, пад стромкімі бярозамі, мухаморы растуць цэлымі сямейкамі. У небе жаўранкі пяюць. Зайчык скача з адной купіны на другую. А лес гэткі харошы, гэткі прыгожы, што проста цягам цягне да сябе старога Міхайлу. Ідзе Міхайла да лесу, выстаўляючы рукі наперад. Хоча Міхайла забрацца ў цянёк-халадок, ды сіл не хапае. Ідзе ён і... раптам прачынаецца.

І сніцца старому Міхайлу другі дзіўнюсенькі сон.

Перад яго вачамі зялёны луг. Ён стаіць ля рэчкі на грэблі і чакае сыноў сваіх з кірмашу. Вось чуе званок Антонавай жаробкі, знаёмую песню Цыпрука Рабога: «Як паехаў сын Данілы»... Вось цягнуцца шнурам фурманка за фурманкай. Едуць суседзі. Усе ў святочных світках. Бабы ў новых каптурах з белымі карункамі. Дзяўчаты ў чырвоных хустках з макавымі кветкамі. Дзяцюкі ў вышываных кашулях навыпуск. Дзіва! Колькі панакуплялі абаранкаў, пірагоў, пасудзіны рознай. Дзеці дзьмуць у паліўныя конікі. Дзірачкі пальчыкамі перабіраюць. Усе яму кажуць:

— Дзень добры, дзядзька Міхайла!

— Дзень добры! Дзень добры!

І дзівіць яго, чаму так шмат народу едзе, а сыноў яшчэ няма... Пачынае калаціцца яго сэрца. Каго б аб сынах ні пытаўся, ніхто не ведае...

— Дзе сыны мае?

Ён тарошіць вочы ў даль балотную лугоў.

— Дзе сыны мае?

І сніцца старому Міхайлу трэці дзіўнюсенькі сон.

Пажар — не пажар. Грымоты — не грымоты. Хмары — не хмары. Што ж гэта? Дарогай ідзе вялікая грамада народу — са стрэльбамі, з гарматамі. Усе яны гнеўныя, і ўсе яны вясёлыя. Песні спяваюць. Стары Міхайла вострыць вушы. Прыслухоўваецца. Знаёмыя галасы.

— Сыны мае! Сыночкі...

Наперадзе грамады ідуць яго сыны — у салдацкіх шынялях, барадатыя, абветраныя, але вясёлыя-вясёлыя...

Стары Міхайла прасцірае рукі:

— Сыны мае... Сыны мае...

— Татка... Татка... Цара скінулі... Народ волю здабыў... Волю...

— Стрэльбу мне... Стрэльбу! — просіць стары Міхайла.— Пойдзем біць царскіх прыслужнікаў. Выпусцім на волю добрых людзей з турмы.

— Пойдзем! Пойдзем! — даюць каманду сыны старога Міхайлы.

— Пойдзем! Пойдзем! — падхоплівае народ.

І радасць расце ў грудзях старога Міхайлы, як начлежны касцёр на балоце. Сэрца не вытрымлівае такой радасці.

Калі раніцай прыйшлі браць на дапрос старога Міхайлу, ён ляжаў на турэмным сенніку на каменным памосце, і на яго твары застыў выраз вялікага шчасця.

Гэта быў яго апошні сон.

## НА СЁМУХУ

Пайдзем, дзеванькі,
На лугі-лужочкі
Завіваць вяночкі.
*(Народная)*

Зялёныя святкі. Вясна ў поўнай красе сваёй. Чаромха цвіце і вабіць вока бел-пуховымі краскамі. У зялёненькім бярэзнічку пясняр-салоўка на розныя лады трэлі дзіўныя

выводзіць. Гарацашныя сяляне прыбіраюць свае хаткі асвенценымі траўкамі, маладымі бярозкамі і пахучымі кветкамі.

Красныя дзеванькі выходзяць на зялёны луг з вянкамі на русых галованьках, вядуць карагоды ды голасна пяюць:

Тапчыце траўку, ламайце траўку!
Пайшла траўка богу жаліцца:
Божа, божа! Мяне дзеўкі стапталі,
Дужа, дужа яны скакалі...

Адказ бога:

— Табе, трава, заўсёды пара,
Краспым жэ дзеванькам
Адна пара, адна часінка...

Вось у гэтай сімвалічнай народнай песні выяўляецца адвечны сум-туга чалавека аб сваім хвілёвым жыцці, як у той мятлічкі слабенькай, проціў несмяротнасці акружаючай натуры.

Чалавеку «адна пара», а траўцы «заўсёды пара». Дзеля гэтага ў вясне жыццё чалавека, пад веснавым гарачым сонейкам трэба жывіцца ў шчырым зліянні з полем і лугам, трэба весяліцца ў адпачынку сваім пасля працы ў полі, калі ўсё засеяна, уладжана да сёмухі.

Трэба песні пяяць!

Толькі сёлета занадта шмат працы для астаўшыхся пры гаспадарцы сваёй... і, бадай што, ці хопіць часу адпачыць і ці захочацца павесяліцца...

*

Святкі ў нас сёлета не зялёныя, а чырвоныя. Бо кроў і агонь афарбавалі наш край многапакутны. Атрута смерці пакалечыла жыццё горкаю палынь-травою...

Не траўкі, а людзі пайшлі богу жаліцца:

— Божа, божа! Нас стапталі!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Толькі кожны народ паасобку цешыцца цяперака адным: гэта вялікае гора служыць аграмадным пратэстам проці цяперашніх парадкаў жыцця.

Усе пераканаюцца, што непрыхільнасці-нязгоды паміж народамі і нацыямі кіруюць да зверства, да страты чалавечага аблічча, да агульных згуб.

І гэта вялікая вайна павучыць усе народы жыць у згодзе і брацтве...

І запануе на зямлі адвечны веснавы дзень зялёных святкаў...

І ўсе народы з вянкамі шчырай еднасці на галовах сваіх будуць разам святкаваць і песні пяяць пад праменнямі жыватворнага сонейка-шчасця!

## З ДАРОГІ

Нарэшце папрашчаўся я са сваімі дарагімі таварышамі, яшчэ раз зірнуў на запыленыя муры, на шэрыя вуліцы вялікага горада, і ўжо перад самым выездам ажна нейк шкада мне яго зрабілася... З жальбай успомніў і мой заваленны паперамі стол у рэдакцыі, стук друкарскіх машын і свежанькія, пахнучыя яшчэ мокрай фарбай газеты. Успомнілася мне, з якой ахвотай я выехаў у гэты самы горад тры гады таму назад, які запас надзеі і сілы да працы нёс я з сабою. І шмат разгадаў я ў сценах гэтага горада загадак неразгаданых раней, і пазнаў я вялікія таемнасці вабных перажыванняў. Як у мядовым хмялю купаўся я, сын ціхай вёскі, у гучным шалёным віры мора людавога. А цяперака выйшла такое нешта,— што я неспадзявана рад вырвацца на некалькі тыдняў у вёску, каб зірнуць на незапыленае фабрычным дымам сонца, пакупацца ў вадзе чыстай, пагуляць месячнымі ночкамі па палях, лугах, сярод шопатных хваль пахучага густога жыта... І пастарацца там на які час забыць аб усім, што дзеецца цяпер на цэлым свеце...

*

— Насільшчык! Гэй, насільшчык! Зараз трэці званок! Хутчэй! — лямантуе кабеціна, лётаючы як не свая па платформе і шукаючы свайго прыслужніка.

Людзі іргаюцца, таўкуцца. У каго локці сталёвыя, плечы дубовыя і заядласць быдлячая, той, як асілак, пабеданосна цярэбіць сабе шлях у вагон. А хто мізэрней і далікатней, той ззаду астанецца. Я быў адным з сярэдніх, каторых агульная хваля людзей захапіла з сабою, як трэскі, і — бокам-скокам, сапучы на ўсе застаўкі, упёрся ў дзве-

ры вагона. Зірнуў я па баках: крык, піск, тузаніна, гармідар.

Поезд тарганууся раз — нібы засвярбелі яму бакі ад доўгай стаянкі, а, бедны, не мае чым пацерабіцца,— тарганууся другі раз і крануўся з свайго месца. Паехаў. Клубы густога дыму луналі побач, і патроху адкрываліся вачам цудныя прадмесці горада Вільні. Горы, узгоркі, а на іх — белыя і чырвоныя камяніцы розных фасонаў. Яшчэ некалькі мінут — і адкрылася над абшарам чыстае, светлае, сонечнае неба... Тут толькі вока маё насыцілася і грудзі мае свабодна ўздыхнулі, хоць і парыўся я ў душным цесным вагоне (адчыніць вокны няможна было).

*

Так і пахне вайной на кожным кроку! — у паяздах яшчэ болей, як у горадзе. Бо горад — гэта як велізарная губка, каторая набухае ад вільгаці, пухне, але зверху яна такая самая, чысценькая, і нічога не спазнаеш. А ў вагонах не тое: тут людзі ран сваіх не хаваюць адны ад адных і сораму, скрытнасці няма,— шчыра расказваюць адзін аднаму, скуль і куды, як і што; наракаюць, жалюцца, жартуюць прыслухоўваюцца, дзівяцца, прачуляюцца, пацяшаюць адзін аднаго і робяцца хутка блізкімі, даверчывымі... Ажно, гледзячы збоку, здаецца, што гэта адна родная сям'я, а не далёкія паміж сабой людзі, каторыя мо першы і апошні раз у жыцці ўбачыліся выпадкам у гэтай клетцы...

*

— Раскуд-раскуд-раскуд-раскуд-раскудравая галава! — пяе ранены салдацік, лежучы на верхняй полцы. Голас яго неўпапад пераходзіць ад сярэбранага дрыжачага тэнарка да густога басу. Усе пазіраюць з павагай — не так на яго, як на белы бінт на яго правай руцэ.

— Куды ты, зямляча, едзеш?.. — пытаецца ў яго бабулька з жальбай у голасе.

Салдацік падымаецца з лаўкі, высоўвае загарэлы твар уніз і кажа, жартуючы:

— На клёцкі гарачыя да немцаў!

— Го! го! го! — смяецца барадаты чаркес з другой полкі,— клоцкі кажэт! Раз пакушат Ванька, і шмэрт! Кло-оцкі! Го-го-го!

Бабулька ківае галоўкай і дзівуецца сумнымі вачамі.

— Ляжаў я, бабуленька, у бальніцы,— далей ахвотна гаворыць салдацік,— а цяперака выправілі зноў.

— А-я-яй! — дзівуецца бабулька, пазіраючы на ўсіх,— бачылі! — Адвярнулася бабулька да сівога дзеда, што сядзеў побач, і шапнула яму нешта на вуха. Дзед пачаў капацца ў сваёй торбе.

— Мо абаранкаў хочаш, казаў той? — пытаецца дзед у салдаціка.

— А дайце! — кажа салдацік і выставіў да дзеда левую здаровую руку. Дзед падаў яму цэлую связку смургонскіх абаранкаў. Салдацік падзякаваў, і хутка пачулася яго шчырае громкае хрумканне.

— А ты скуль будзеш, дзядок? — спытаўся салдацік у дзеда.

— А мы вось, каласок, казаў той, былі з жонкай у «дзярэўні» Вілні, бо наш Пётра пісаў, што ён там хворы ляжыць. Але пакуль мы прыехалі, казаў той, яго ўжо выправілі ў другі горад. Так мы і не ўбачылі яго, казаў той! — кончыў дзед з крыўдай у голасе, а баба паднесла сваю хустачку да вачэй...

*

Непадалёку сядзела яшчэ адна пара сівенькіх сухенькіх старычкоў. У новых лапціках, у белых, як снег, святочных анучах на ценькіх, як палачкі, нагах старычкі гэтыя выглядалі вельмі забаўна — нібы тыя зробленыя пастушкай з моху і ануч дзядкі-лялячкі на пацеху.

Туліліся старыкі адно да аднаго і дрыжалі.

— А божа ж мой! Або-о-о! — сапеў дзед.

— А матачка святая! — мармытала бабулька.

Яны былі вельмі змарыўшыся. Ім толькі што ўдалося знайсці месца, дзе сесці і куды хатомкі свае палажыць. Спачатку яны доўга маўчалі, пазіраючы на ўсіх пужлівымі, мутнымі вачыма. Але, як трохі адсапнуліся, яны гэтак гутарыць пачалі, ажно меру перахапілі.

Папэдлуг іхняй гутаркі, яны былі літвінамі з-пад Коўны. Ехалі яны цяперака да сваёй дачкі ў Мінск.

Гэты забаўны дзядулька яшчэ болей ажывіўся, калі ўгледзеў у мяне маю люлячку, гэтак яна яму спадабалася, што ён нагвалт прычапіўся ка мне, каб я яму яе прадаў.

Дзед узяў маю люльку ў свае зморшчаныя рукі і давай тыцкаць ёю бабцы сваёй у сумныя вочы:

— Во, бачыш, маці, бачыш! Гэта дрэва ані смаліцца

ўсярэдзіне, ані смуродзіць і гэткая лёгенечкая! Божа ж мой!

— Стары — як малы! — вылаяла яго бабулька ды і адвярнула свой носік-бульбачку ў другі бок.

— Эх, паніч! — звярнуўся ён зноў да мяне,— прадай мне сваю люлячку! Прадай! А божа ж мой! — маліўся ён, ажно вочы яго закрыліся.

Я і так, я і гэтак — ён не аддае. Пакуль вымусіў мяне хоць даць яму з яе пакурыць. І дзядок так гладзіў маю люльку, гэтак цешыўся з яе, ажно ўсе рогат паднялі.

Раптам пры новай станцыі падняўся гоман і стогны нейкія пачуліся.

— Раненый! Ранены ідзе! — шапталіся ўвакруг.

Паказаўся салдат, які чуць трымаўся на нагах ад слабасці, з абверчаным хусткай тварам.

Хутка далі яму месца дзе сесці, і акружылі з усіх бакоў цікавыя, гатовыя да падмогі жаласнікі. Нейкія кабеціны прынеслі яму цукеркаў, булачкі.

І пачаў ваяка ранены расказваць усім пра жудасці вайны, у якіх бітвах ён быў, што рабіў, што бачыў, ажно страх прабіраў нас ад яго слоў. Расказваў, як глаз яму выбілі, вуха адрэзалі, чэрап разбілі, бок расквасілі,— адным словам, цэлай костачкі ў шматпакутным герою не асталося. Гаварыў ён аб тым, што зноў рвецца ў бой, хоць начальства не пускае пакуль што.

Тым часам пад'ехалі да апошняй станцыі, дзе мне трэба было злезці, і я ўзяўся за свае пажыткі. Раптам вырваўся «ранены ваяка» з вялікай хэўры сваіх шчырых прыхільнікаў, падскочыў спрытна да мяне і давай мне памагаць. Мне нялоўка зрабілася, што гэткі ранены будзе цягаць мой пакунак. Я пачаў аднеквацца, дзякуючы за далікатнасць, але нічога не памагло. Урэпіўся ён у мой чамадан і пацягнуў, кажучы, што і яму трэба злезці. Усе вытарашчылі злосна вочы на мяне за тое, што я забіраю у іх гэткі дарагі скарб, а мы тым часам выйшлі на вакзал. Пад'ехалі на звозчыку да мясцечка і заехаліся ў гасцініцу. Выйшаў я трохі пашвэндацца, пакуль падалі гарбату. Вярнуўшыся ў пакой, дзіву даўся: сядзіць ля стала вусаты прыгожы юнак і ўсміхаецца, гледзячы на мяне. Я чуць пазнаў «раненага ваяку».

Аказваецца, што ён заўсёды пры пераездах грае ролю раненага салдата, хусткай твар свой абвязвае. І з гэтай прычыны дастае заўсёды лепшае месца, дармовыя харчы, розныя падарункі і пашану.

Як здольны артыст, не без пагардасці кончыў ён мне сваё тлумачэнне і сеў са мной за стол піць гарбату, не прыкмеціўшы нават маёй кіслай, незадаволенай міны.

Хутка прыехала па мяне фурманка з роднай вёскі, і я з лёгкім сэрцам, пасля папаскі, паехаў дамоў.

Вечарэла. Дробны гаёк, каля ўзгорку, млеў пад блакітным небам. Абапал, ля самай дарогі, шаптала свае малітвы густое жыта... Здалёку бліпчэла рэчка. Над ёй залунаў месяц аграмадны, чырвоны, і здалося мне спачатку, што гэта цэлае пажарышча ўсплывае на фоне нябесных абшараў... Зоркі ясней загараліся, і дзесьці пад самым лесам мільгануў агоньчык начлежнікаў...

*

О, Бацькаўшчына, Бацькаўшчына! Ці будзеш ты мне гэтак, як раней, баіць свае ціхія, сумныя казкі? Ці прымеш мяне зноў, як матка-радзіцелька, у абыймы свае? Ці пачую старасвецкія, поўныя жыцця песні твае?..

Пакутніца Беларусь! Скажы мне, што прынясе з сабою гэты новы, дзіўны час і ў твой глухі куток?..

Нешта зашчаміла мае грудзі...

— Дурны! Баба! — вылаяў я сам сябе ў сэрцы сваім і давай аглядацца ўдаль: пяскі, узгоркі, пагніўшыя бярозавыя платы, крутні-курганы, абросшыя мохам, ціхія магілкі...

Ля грэблі ў густой траве цвіркунчыкі звіняць. У рудаўках квохчуць жабы, і мне здаецца, што гэта балотны бог гнілое дрэва пілуе ў дрыгве пад сітнікам.

— Хутка прыедзем дамоў! — кажа мой фурман і пачынае весела пяяць ні з таго ні з сяго:

І піць будзем,
І гуляць будзем,
А як прыйдзе смерць —
Паміраць будзем!..

Убачыўшы здалёку хаткі нашай вёскі, я выскачыў з калёс і пайшоў пехатой.

А зямелька родная вітала мяне і туліла да сябе, як сына свайго...

# ЯК У БІБЛІІ

Ехаў Сымон з кірмашу дахаты, і раптам — стоп машына: кабыла занаравілася — не ідзе, ды і годзе!

Часам яна рабілася ў яго вельмі капрызнай і без меры ўпартай.

Сымон пачаў яе ўгаварваць добрымі, лагоднымі словамі — і так, і гэтак (на словы ён быў вялікі майстар). А яна хоць бы што! Ні з месца, як бы не да яе гавораць.

— Добра,— кажа Сымон.— Ведаю я тваю хваробу, ведаю і лякарства.

І Сымон, доўга не думаючы, злез з калёс, падышоў да плота, выламаў парканіну, вярнуўся да воза і пачаў біць кабылу. Так шчыра і моцна біў, аж сам змарыўся. А чым болей біў, тым болей яшчэ біць хацелася. Ён чуў у гэтым нейкі асобны смак і вялікае задавальненне. Ён спаганяў злосць.

Кабыле ён плаціў за крыўды, што меў і ад жонкі благой, ад пана ганебнага, ад суседзяў-хціўцаў і ад свету ўсяго. Усё стаяла перад яго вачыма жывюсенька. А ён толькі скрыгатаў зубамі і махаў парканінай над крыжам кабылы з такім імпэтам, што аж гудзела і свістала ў паветры.

Кабыла ад такой кары яшчэ болей зафанабэрылася, яшчэ болей узбунтавалася ды забрыкала заднімі нагамі. А бунт, сваім чынам, мае вялікую сілу — чым болей бунтуешся, тым яшчэ болей бунтавацца хочацца; ды калі яшчэ за гэта б'юць, дык тады бунт — адно толькі збавенне і ўцеха. Хочацца, каб цябе білі дзеля таго толькі, каб бунтавацца, бунтавацца без канца і меры — хай лопаюцца, хай трэскаюцца.

Аднак, урэшце, кабыла не выцерпела і голасам чалавечым загаварыла, як калісьці асліха Валаама.

Ды тут камень загаварыў бы, не толькі жывёліна!

— За што ты мяне б'еш, за што? — пачала кабыла.— Добры з цябе гаспадар! Ці не надрывалася я ў цябе пад самымі цяжкімі вазамі? Ці не я заворвала ў цябе твой камяністы шнур? Ці не ты на мне ездзіў з кірмашу, ліхі, як чорт, і п'яны, як свіння? Ці не я выстойвала цэлымі гадзінамі, галодная і халодная, ля карчмы, цябе чакаючы, а потым да самых варот тваёй гасподы цябе, як калоду, цягала? Усе рэбры мае ты паламаў, толькі скура ды косці асталіся... Не! Я болей не магу так! Нізашто на свеце не дазволю, каб ты здзекваўся нада мною! Дзе тваё сумленне, няўдзячны чалавек?

Кабыла душылася сваімі словамі. Вочы яе памутнелі і наліліся крывёю. Ніжняя губа апусцілася ўніз. Крывавая пена пакрыла яе ўсю... Бакі былі моцна сцягнуты з голаду, а хрыбет і рэбры тарчэлі, вострыя і сухія...

Сымон вылупіў вочы і не ведаў, што адказаць. Нешта ўзбудзілася ў яго душы такое, што страсянула яго з ног да галавы. Чалавек як бы прачнуўся ад доўгага сну нядбаласці і абібоцтва. Пытанні за пытаннямі, як цэлы рой аваднёў, пачалі кружыцца ў яго мазгах: «Мо праўда, я сам ва ўсім вінават, а не людзі? Чаму я заўсёды іншых віню ў сваім горы? Чаму я такі дзікі, цёмны, злосны і дурны? Ці ж я не мог жыць так, як суседзі? Чаму я раблю тое, ды не сёе? Чаму з мяне ўсе смяюцца? Сымон такі, сякі і гэтакі — кажуць людзі. Чаму я вінавачу заўсёды таго, хто не вінават?»

Пытанні проста тоўпіліся ў яго атуманенай галаве.

— Што рабіць ды што рабіць?

Ён развёў рукамі ў вялікай роспачы.

А кабыла пры гэтым паваліласся на ўсе чатыры нагі свае і плакала-галасіла так моцна, што худое цела яе страшэнна траслося. Потым яна сціхла, не маючы болей сіл плакаць і стагнаць.

У Сымона ад вялікага жалю ажно ў грудзях нешта каменем спёрлася, што ён дыхаць не мог.

«Бедная пакутніца»,— падумаў ён, будучы пэўны, што кабыла ўжо здыхае.

І тут новы страх яго агарнуў:

«Што ж буду я цяпер рабіць у гаспадарцы без апорыгарапашніцы? Якая б ні была кабыла, а ўсё ж такі яна ўжо гадоў мо з дзесяць як шчыра мне служыць, безупынна працуе... Я ж прападу без яе, занівошта прападу...»

Яшчэ горшае, чым раней, жыццё малявалася яму. Лепей як лепей, а горай заўсёды можа быць.

— Во дзе прыйшла пагібель на маю бедную галованьку!

Чорныя, як ноч, думкі апанавалі Сымона. Ён тапіўся ў іх, як у глыбокім возеры.

— Што будзе ды што будзе?

Але як топішся, дык за брытву хопішся — паратунак мільгануў і яму:

— О, каб цябе трасца! Зусім забыўся, што скура ад кабылы нечага варта. Гэта ж будуць боты — ды яшчэ якія! А то ўсё жыццё ў нейкіх атопках цягаюся!

На чалавека напала вялікая радасць — урэшце ён абуе

боты. Зробіцца добрым гаспадаром і будзе мазаць боты ў кожную нядзелю добрым бярозавым дзёгцем. А як трэба будзе ісці на кірмаш, дык ён іх ускіне на плечы і пойдзе-пойдзе... Эга! Гэткая пара ботаў — не жартачкі якія! Яны, бадай, вартней каня: і вадзіцца не трэба з імі, і карміць не трэба, і наравіцца не будуць, і нукаць, і тпрукаць на іх не прыйдзецца — ускінуў на плечы і валяй куды вочы глядзяць... Ляці арлом! Свет вольны! Ідзі, куды сабе хочаш. Боты — гэта не тое што лапці!

Тут такая вялікая радасць агарнула Сымона, ажно ён сам дзівіцца пачаў: на якога ражна людзі жаляцца на сваё гора? Які чорт іх бярэ? І свет не такі кепскі, як здаецца спачатку, і жыць можна, ды не абы-як — толькі б ахвота была!

— Мабыць, у людзей ахвоты няма добра жыць на свеце,— цвёрда і ясна вытлумачыў сабе Сымон заблытанае жыццёвае пытанне.

— Дурні ўсе! — строга асудзіў Сымон увесь людскі род.

У яго самога з'явілася раптам вялікая гордасць: ён адзін зразумеў, як трэба жыць, ён адзін ведае, дзе сабака зарыты...

Як матылі пад летнім сонцам, пырхалі яго думкі, бліскучыя і светлыя. Чалавек павярнуў аглоблямі ў другі бок і проста шчаслівым зрабіўся.

Ад вялікага шчасця Сымон таўхануў кабылу ў бок нагою. Кабыла раптам зноў ажыла, ускочыла на ногі, вырвалася з аглабель і стала дуба. З воч яе сыпаліся маланкі. Грыва калматая натапоршчылася. Хвост трубой падняўся, і яна, як страшны звер, кінулася на яго...

Сымон крыкнуў ад страху і прачнуўся.

Сымоніха малаціла зграбна і спрытна качаргою па яго карку і голасна лаялася на ўсю вёску. Тут толькі Сымон успомніў, што на кірмашы выпіў лішнюю чарку і, едучы дахаты, крыху задрамаў.

Ён ляжаў на возе ля варот, а кабыла стаяла спакойна, апусціўшы галаву, гледзячы тупымі слязлівымі вачыма ў зямлю і, як нямы сведка, чуць-чуць кратала ніжняй павіслай губой...

## ЮЛЬКА

У малецькай дзесяцімесячнай Юлькі «Ма» (мама) была самай найвялікшай апорай на цэлым свеце, бо свет без падтрымання — чужая і нічога нявартая рэч.

«Ма» вельмі падтрымлівала Юльку. Яна давала сваёй дачцэ «гам» (есці). «Гам», як кожнаму вядома, не абы-што: без есцікі і піці чалавек не можа жыці. І Юлька мела сваю хатку на грудзях у маткі.

Апрача яды, Юлька мела ад «Ма» і духоўныя харчы — вясёлыя і смутныя песні над калыскай. Гэтыя песні Юлька ніколі не забудзе...

Маці патроху тлумачыла Юльцы велізарную кнігу жыцця — гэту мудрую рэч, якую чытаеш-чытаеш і ніколі да канца не даходзіш.

Кніга жыцця нудная і часам жудасная. Шчаслівы той чалавек, хто ў шчырай прыязні да іншых людзей акружаны іхняй увагаю да сябе, забываецца аб гэтай праклятай кнізе...

Юлька не пакрыўджана. Маці толькі аб ёй і клапоціцца. Добрая «Ма» гатова ўсім жыццём ахвяраваць за сваю дачурку. У адплату за гэта некалі і Юлька будзе такой жа добрай маткай.

Усё акружаючае маленькую Юльку, як жывыя і нежывыя рэчы — дзеці, кіцька, цюця, стол, падушка і люля — былі яе «лялі». Яна мела з імі частыя стычкі: усё прабавала на «гам». У гэтым выяўлялася ўся яе зацікаўленасць і практычнасць у жыцці.

Есці, есці і яшчэ раз есці.

Калі было ўспадобу — губкі яе складваліся ў жывую кветку-ўсмешку; калі не, дык яе нездаволенасць вызначалася плачам.

Яна плакала шчыра і доўга, усім целам, усёй істотай. Боўтала пры гэтым ручкамі і ножкамі.

Кожны раз пры такіх драмах і трагедыях «Ма» супакойвала Юльку сваімі грудзьмі.

«Ма» была найсмачнейшая за ўсе «лялі» на свеце. А смак Юлька мела добры.

Жывому чалавеку за печкай доўга не ўсядзець, і Юлька таксама не раз рабіла «гайда»-вандроўкі з хаткі роднай на шырокі свет — на дзядзінец. Кожны раз яна пры гэтым жмурыла вочкі, хвалявалася, лавіла ручкамі паветра і з'есці хацела будынкі, дрэвы, сонца — увесь свет, які і сталаму чалавеку лёгка ў рукі не даецца. Але тым болей

хацелася Юльцы дастаць талерачку з неба. Мяцежныя жаданні напаўнялі яе сэрца. Цяжка прыходзілася тады маці. Без гісторый і плачу тут абыходзіцца не магло. Такія рэчы звычайна канчаліся выкупам, які павінен быў быць багаты: смачная сусолачка з цукрам, шкляная качалачка, бліскучая паперка, абручок. Наогул, самыя найцікавейшыя скарбы-цацы на свеце ляжалі пад ножкамі Юлькі. Цацкі рабілі «дзін-дзін-дзін, там-та-ра-рам!». Імі маці варажыла Юльчына сэрца. Цацкамі, хаця іншага фасону, людзі і забаўляюцца да самай смерці. Толькі дарослыя людзі дастаюць гэтыя цацкі без матчынай дапамогі.

Але Юлька без маці — чалавек не зусім незалежны. Яна ў гэтым магла пераканацца тады, як маці пры жніве пакінула яе ў кошыку на падушачцы адну на мяжы.

Быў цёплы сонечны дзянёк. Паўднёвае зацішша панавала ўсюды. «З-з-з-м!» — гудзелі мушкі над Юльчынай галоўкай. Часам мятлічка гладзіла скрыдлачкамі яе кволыя шчочкі. Часам птушачка вілася над яе кошыкам. Траўка шчыкатала... Юлька лавіла рукамі направа і налева. Гатова была з'есці ўсё, што не давалася на «гам». Пры ёй сядзеў добры вартаўнік і таварыш з хаты роднай — кот. Гэта яе супакойвала тады, калі яна ўспамінала аб мамцы. Але вось кот пабег кудысь за птушкай цікаваць. Юлька адна-аднюсенька засталася...

Яна жмурыла вочы на сонца і пры гэтым успомніла што «Ма», паказваючы на агонь у печцы, кажа «зю-зю!». Хацела Юлька таксама сказаць «зю», але ад вялікай стараннасці і натугі пацягнулася ўсім целам у адзін бокды — кульгіць з кошыкам у баразну.

Што было потым?

Цёмна ў вачах зрабілася, як бы ў бяздонную procьму паляцела. Яна першы раз у жыцці, у вялікім страху і роспачы, крыкнула: «ма-ма»!

Маці пачула толькі тады, калі Юлька ўжо аж пасінела ад плачу, упэцканая ў пяску.

Гэта была яе першая спроба жыць у адзіноцтве без апоры.

Прайшло яшчэ некалькі месяцаў.

Юлька ўжо гаворыць: «та-та», «ма-ма», «кіць-ка», «цюця», «ца-ца», «ля-ля» і г. д. Веды яе павялічваюцца з кожным днём. Яе ручкі ўжо не хапаюцца за ўсё, што вочкі бачаць. Вугаль яна ўжо ні за якія хаханькі ў губкі не бярэ, а хлеб з цукрам — чаму не? — Ого! Яна ўжо разумее, што — добра, што — блага...

А прывычка, паганая прывычка, губіць не толькі адзінага чалавека, але ўвесь свет...

Прывычка да матчынага малака каштавала Юльцы шмат слёз, шмат шчырага гора. Многа ночаў недасыпала таты, як матка яе адвучала ад грудзей, пасыпаючы іх перцам. І бадай да дваццаці год яшчэ будзе Юлька спрасонку пальчык свой сасаць, а да самай смерці ў час пярэпалаху крычаць «мама».

Але ў жыцці нічога адвечнага няма, усё мяняецца. Юлька гэта, каб толькі хацела, дык даведалася б з сваёй практыкі: яна ўжо на руках і нагах поўзае па хаце пад сталом, разам з курмі, катом. Яна ёрзае, вандруе па кутках, шукаючы працы. А працы гэтай хоць адбаўляй: гладыш з малаком дагары пераверне, лужыцу кашулькай вымажа, лыжкай аб падлогу забарабаніць. Што і гаварыць — працы шмат, дый досыць сур'ёзнай працы; каб, здаецца, дваццаць рук мела Юлька — і то было б мала.

Чалавек без руху і работы нудзіцца, марнее, кажуць філосафы,— гэта ёсць бясспрэчная праўда. Вось пытайцеся ў Юлькі, бо яна ўжо разумная досыць. Маці яе адукуе:

— Рабі аладачкі, Юлька.

Юлька плёскае ручкамі.

— Дзе божанька?

Юлька пальчыкам паказвае на абраз.

— Як кароўка мычыць?

— М м-у-у-у!

— Як авечка кажа?

— М-м-э-э-э!

— Як тата злуецца?

Юлька сціскае кулачкі, робіць гнеўныя вочкі ды кажа з імпэтам: «г-э-э!»

Пасля гэтага яна глядзіць на ўсіх вачамі Аляксандра Македонскага. Жартачкі — яна ўвесь свет перамагла.

У нагароду маці бярэ яе на рукі, туліць да сябе і цалуе. Без нагароды ніхто нічога не робіць, апрача вялікіх самаахвярнікаў-ідэалістаў, якіх скептыкі не хваляць. Цалуючы Юльку, маці раптам пачынае злавацца, кажучы: «фэ, смаркатая!» — і пры гэтым бярэцца фартухом выціраць Юльчын носік. Юлька не даецца і пачынае горка плакаць.

Нос — гэта самае слабае месца ў Юлькі. Шмат горкіх мінут ён ёй каштуе. І такая, здаецца, драбніца — нос! Аж смешна, але ў гэтым і ўся трагедыя, што часам дробненькі камарык звальвае з ног магутнага льва.

У хаце — вялікая радасць.

Тата толькі што пехатой з кірмашу вярнуўся, дый то падышоў да стала, дзе бабка і мама паставілі Юльку і вучаць хадзіць.

Юлька стаіць на стале, разняўшы ручкі для раўнавагі. Вочкі спалоханы. Добра бабцы смяяцца, а каб яе паставілі на канаце, нацягнутым на двух слупах і сказалі б — «танцуй». Нябось, тады не смяялася б.

— Ма-ма! — просіцца Юлька ў вялікім страху.

— Ка мне! ка мне! — выстаўляючы рукі, энергічна кажа мама.

А Юльцы яе малюсенькія ножкі здаюцца стопудовымі вагамі. Адвагі няма, і цяжка — ой, як цяжка рабіць першы, сталы крок у жыцці! Адважыцца трудна на гэта і сталаму чалавеку.

Але, бачачы, што шэсць зацікаўленых уважных вачэй глядзяць на яе, дык у яе душы будзіцца разам і герой, і артыстка. Яна адважылася і...

— Раз! два! — лічаць трое сталых людзей крокі маленечкай.

Плясь! — Юлька гоцнулася аб стол, вачамі ратунку просячы.

Не паспелі яе падтрымаць у цяжкую хвіліну шэсць моцных, сталых рук — эх, людзі!..

З гэтых двух першых крокаў маці з бабкай радуюцца і нацешыцца не могуць.

— Вось пацеха! — з дакорам кажа бацька.— Папрабавалі б злічыць, колькі крокаў я сягоння махануў на кірмаш ды з кірмашу,— вёрст сорак, здаецца, а вы ані слова аб гэтым...

Упарты дух чалавечы, хоць лобам, а сцяну праб'е: праз тры дні Юлька ўжо хадзіла па падлозе, як муштраваны ваяка-пяхотнік, а праз тыдзень так круцілася матцы пад ногі, што тэй гэты фокус нават абрыд. Яна гнала ад сябе Юльку, як ката, кажучы: «апсік!».

Юльцы гэта вельмі падабалася, і яна мамцы мяўкала, як кот — «мяў! мяў!».

Яшчэ троху падрасла Юлька.

Яна ўжо ў сукенцы паркалёвай, не маленькая: тры гады! Як матылёк, круціцца, мітусіцца ў агародзе сярод чырвонага маку.

Ей вельмі смачна рабіць тое, чаго няможна. Маці мае дзеля гэтага вялікія клопаты. Калі скажа Юльцы не пэцкаць спаднічкі, дык якраз прыйдзе запэцканая ў гразь з

ног да галавы. Скажа ёй не чапаць макаў — наскубе поўныя жмені. Скажа ёй:

— Юлька, ідзі спаць!

— Не хацу!

— Не ідзі спаць!

— Пайду!

— Гуляй сабе!

— Не хацу!

— Не гуляй!

— Буду гуляць!

Аднак шайтан праціўнасці не заўсёды пануе над ёй. Часам яна бывае ласкавенькай, добранькай і міленькай — як бабка ёй казкі поначы апавядае.

Шчырым срэбным хохатам смяецца яна тады, як лютага воўка забіваюць, калі людаедзіха-вядзьмарка памірае.

Горкімі слязамі плача, калі воўк шэры з'ядае Чырвоную Шапачку.

Пры гэтых казках блакітныя вочкі яе блішчаць, як зоркі або кветкі ў кроплях светлай расіцы.

А па начах сняцца ёй дзіўныя сны.

Ці разумее Юлька шчасце сваё? — хіба не. Хутчэй яна разумее сваё гора, калі які-колечы дзіцячы капрыз не выконваецца.

І хочацца ёй быць вялікай і разумнай, як бабка. Пачынае з лічбаў — з матэматыкі:

— Раз! два! тры! — лічыць яна па пальцах і задумваецца.

— Раз! два! тры! пяць! дваццаць! сто! — ажно ў пот кідае. Далей не ідзе.

Хоць матэматыка грунт усяму на свеце, але Юлька на гэтым «грунце» яшчэ слаба трымаецца.

Ці не можна жыць без нудных лічбаў? Юлька досыць весела жыве без іх. Назбірае кветак — васількоў. Разложыць іх на камені. Адна кветка — мамка, другая — бацька, трэцяя — бабка, чацвёртая — цюцька. А камень — хата. І пачынаецца будняя аповесць чалавечага жыцця: кветкі гаспадараць на камені, аж люба глянуць.

У печы топіцца. Маці аладкі пячэ. Бабка кароўку доіць. Тата хамут ладзіць. Цюцька брэша. Поўная дынаміка жыцця. Юлька мае работы па горла — за ўсіх гаварыць, за ўсіх работу рабіць, зухавацца. Маленькі малюначак жыцця звычайна канчаецца катастрофай — хатка-камень ляціць у рэчку, а людзі-кветкі стоптаны Юльчынымі нагамі.

Яна не плача над руінамі. Яна — як сам біблійны боггасподзь. Зруйнавала адзін свет і з хаосу творыць другі.

Яна, Юлька — маці. Пры ёй дачушка — лялечка.

І няньчыць, і песціць, і галубіць Юлька дзіця сваё роднае. Часам, як строгая маці, розгай сцёбае дачушку-лялечку. Пры гэтым прыгаварвае:

— А не рві маку! А не пэцкай спадніцы! А слухай, што матка табе кажа, ты, такая і сякая!

Малюе жыццё, як мастак, як раманіст, як драматург, як акцёр.

— Хто пякней,— пытаюцца ў Юлькі,— ты ці мамка?

Юлька думае.

І мамку яна крыўдзіць не хоча, але ўжо сама маленькая кабета і мае свой форс і гонар:

— Я пякней!

— Ах ты нягодніца! — нібы-то злуецца мама.

— Хто пякней, ты ці лялька?

Доўга думае Юлька.

Змаганне расце ў яе маленькай душы. Але матчына сэрца гатова ўсім ахвяраваць дзеля любага дзіцяці свайго, а Юлька як-ніяк, хоць ёй усяго толькі пяць гадоў, а ўсё ж такі маці, бо дачку-ляльку мае.

— Лялька пякней!

Бачыце? — Душа яе вялікая: пачуццё маткі ўзгадавана ў яе сэрцы крывёй і малаком ранейшай маткі.

У Юлькі матчына самаахвярнасць жыве поўным жыццём, хаця імя свайго яшчэ выгаварваць не можа. Замест «Юлька», кажа «Юйка». За гэта бацька на яе злуецца, часам гнеўна кажа:

— Юлька!

— Га!

— Хадзі ка мне!

Яна падыходзіць.

— Кажы — Юлька!

— Юйка!

— Кажы — Юль-ка!

— Юй-ка!

— Ах ты, паганая! Вучыся па-людску гаварыць!

— Не хацу!

— Дык не вучыся!

— Хацу вуціцца!

— Ну, дык глядзі на мяне!

Юлька глядзіць на яго.

— Добра глядзі.

Юлька добра глядзіць.

— Рабі губамі гэтак, як я, і кажы — Юль! Юль!

Юлька робіць губамі гэтак, як ён і кажа:

— Юй! Юй! Юй!

— Го! Го! Го! — смяецца бацька.

— Гы! Гы! Гы! — плача дачушка.

І гэта пайшло ў забыццё.

Яна ўжо так чыста гаворыць, што і бацьку пераваструла — звініць, як званочак. Малоціць языком, як цэпам усё роўна. І не дзіва, бо яна ўжо ходзіць у школу, у тую вялікую школу навукі, дзе ўсё пачынаецца з «А, Б».

Тут для Юлькі адчынены новы свет пазнання добрага і благога.

Забурліла глыбокая крыніца жыцця, дзе шчасце і гора перамешаны, дзе пануе вялікая неразбярыха: адна і тая самая рэч аднаму чалавеку здаецца шчасцем, другому — горам...

Пальцы ў Юлькі ў атраманце. Гэта адзнака стараннасці, цярплівасці, мудрасці і працы. Яна піша і малюе так многа, што аж паперы не хапае. І прыходзіцца ёй сваю вялікую здольнасць на ўласным твары паказваць — запэцканы нос, шчочкі і нават вочы.

Гэта, разумеецца, вельмі кепска, але што зробіш! Калі Юлька яшчэ такая малюсенькая — ёй усяго шэсць гадоў. Яна яшчэ часта пальчык у губкі кладзе і моцна трымаецца за матчын фартух.

Як пойдзе яе далейшае жыццё?

Чытайце велізарныя кнігі, мудрыя раманы. Тады даведаецеся.

## БОНДАР

### 1

Стары Даніла славіўся на цэлую ваколіцу сваімі вырабамі: вёдрамі, начоўкамі, цабэркамі і лыжкамі, якія выходзілі з яго рук моцныя, гладкія і вельмі зграбныя. Ён іх прадаваў на ўсіх кірмашах. У яго іх ахвотна куплялі ўсюды, і ён жыў з жонкай прыпяваючы.

Дзяцей у іх не было, гарэлкі ён не піў, так што «залатыя рукі», як казалі аб ім суседзі, кармілі яго даволі шчодра. А «залатыя рукі» не настолькі цікавілі іх гаспа-

дара Данілу тымі залатоўкамі і рублямі, што яны яму давалі, як здатнасцю і кемнасцю.

Мэтай яго жыцця былі не заработкі, а праца сама па сабе, той любімы час працы, які дае праўдзівае шчасце майстру.

Кожную пасудзіну паасобку ён рабіў натхнёна ад пачатку да канца. Майструючы, ён не думаў ні аб чым іншым, як аб сваёй рабоце. Забываў аб ядзе, аб сне. Нікому, апрача жонкі, не можна было глядзець, як ён майструе. Суседзі гэта ведалі і не заходзілі ў яго хату, каб не перашкаджаць. А калі хто, не ведаючы, заходзіў да яго ў час работы, дык стары Даніла пакідаў працу і з нецярплівасцю чакаў мінуты, калі той выйдзе. А калі хто доўга заседжваўся, дык гаспадар выходзіў з цярплівасці і прасіў не перашкаджаць і не дурыць галаву рознымі байкамі. Выходзіла так, што ён міжволі выганяў людзей з сваёй хаты.

Людзі трохі злаваліся на яго за недалікатнасць, але прывыклі, і ніхто яго не чапаў. І Даніла так правёў усё жыццё,— год за годам, адзін дзесятак за другім,— аж да сівізны.

Нельга сказаць, каб Даніла нудзіўся пры рабоце. Яго жыццё было поўна для яго цікавасці. Жонка Аўдоцця ўсім простым, добрым і падатлівым сэрцам наскрозь была пранята майстэрствам Данілы. Як адгалосак, як цень свайго мужа, яна жыла яго жыццём, радавалася яго радасцямі, гаравала яго горам; падабалася ёй тое, што яму было даспадобы, і ганьбіла тое, што ён не любіў. Ён быў як бы сонцам, а яна — планетай, якая кружылася вакол сонца.

Даніла лічыў сваю жонку адзінай разумніцай на ўсю ваколіцу, бо яна яго добра разумела. А суседзей ён лічыў нічога невартымі, неразумнымі. Ён глядзеў на іх, як на няўдалыя цабэркі з крывых, нязграбных клёпак, або як на шурпатыя драўляныя лыжкі, што рабіў яго канкурэнт-партач Макар.

Аб розных справах сваёй працы ён раіўся толькі з жонкай. Яе ацэнка была для яго вельмі дарага.

Іранічна глядзеў бондар на суседзей. Ён глядзеў на іх звышку, нібы ведае вельмі важную, вялікую таемнасць, якую ім недаступна ведаць. Ён ведае, але цвёрда хавае гэты скарб, бо суседзі яшчэ не дараслі. Ён не радаваўся іхняму няведанню. Наадварот, усёй душою хоча, каб людзі зразумелі, але яны няздольны зразумець і будуць бяз-

літасна яго выкпіваць, калі б толькі ён аб гэтым пачаў гаварыць.

І ён песціў у сваім сэрцы агромную радасць творчасці. Ён бы жадаў выказаць вяскоўцам, як трэба кемна вастрыць начынні-інструменты, як трэба разумным вокам выбіраць дрэва на клёпкі, на дны, на начоўкі, як зграбна можна гэтыя пасудзіны рабіць. Ён бы ім апавядаў аб тым, як ён дадумаўся да розных паляпшэнняў у бондарскай рабоце, дзе ён выкрыў сваю форму, свой спосаб. Ён бы паведаміў аб тым, як захопліваюць чалавека нязмерная радасць і шчырае шчасце, калі ён бачыць, што рукі яго твораць адну пекнату.

Шмат аб чым хацеў гаварыць людзям стары бондар, але ён нёс пакуту маўчання з пакорай у сэрцы. Гэта яго мучыла, але ён усё роўна не патрапіў бы выказаць словамі сваіх пачуццяў і сам толькі туманна разумеў прычыны сваіх імкненняў.

## II

Зімовая ноч. У вёсцы цёмна, усюды спяць. Толькі ў маленькай хатцы на канцы вёскі мігае агеньчык. Лучына дыміць і чадзіць. Непрывычнаму чалавеку было б кепска пры гэтым асвятленні, а прывычнаму — лепей і не трэба. І вось пры лучыне пільна і клапатліва тупаюць два чалавекі — бондар Даніла і яго жонка Аўдоцця.

Даніла рыхтуецца да новай цікавай працы.

Сама пані з двара заказала ў яго начоўкі, цабры, вёдры і некалькі лыжак. Трэба доўга рыхтавацца. Адразу, проста з моста, не прымешся за такую работу. Трэба адкінуць, як шалупіну, усе жыццёвыя будні — сон і яду, аб чым Аўдоцця і не адважвалася яму напамінаць, бо ён мусіць увайсці ў свой незвычайны стос: забыцца аб усім навакольным і ў цішы начной, калі грукату-стукату няма, думаць і думаць, меркаваць і меркаваць, маляваць сабе ў галаве гэтыя пасудзіны, нібы ён іх ужо бачыць гатовенькія; абмазгоўваць, як прыняцца за работу, якія матэрыялы ўжыць, якімі інструментамі рабіць, каб выйшла як найлепш, як найпякней, як найскладней, каб урэшце пані ўцяміла, што ён за чалавек, які таланны, убачыўшы багатыя Данілавы думкі ў постацях драўляных пасудзін.

Трэба так працаваць, каб рук і плеч не чуць, каб сэрца млела, каб пот цурком ліўся.

Па блеску яго вачэй, па маршчынах на яго лбе Аўдоцця пазнае, што «пачалося». Яна ціха пазірае на мужа. Цяпер лішняга слова яму казаць нельга.

Даніла выбірае гэблі, скоблі, разцы, нажы, далаты, сякеры і сякеркі, гладзіць і мацае іх рукамі, пільна да іх прыглядаецца, адкідае злосна адзін інструмент, зноў за яго бярэцца, сумняваецца, разважае, нюхае жалеза, прыцмоквае губамі,ківае галавой і нешта мармыча сабе пад нос.

Аўдоцця мяняе лучыну за лучынай, абшароўвае, абламвае вуголлі і ўсімі сіламі стараецца трымаць «вечны агонь» у адной меры. Яна сапе, уздыхае, кашляе. Дым лезе ў вочы, у горла, але яна маўчыць. Яна захоплена жаданнямі Данілы. Пры сваім нецікавым абавязку яна пазірае на мужа і дзівіцца на «залатыя рукі».

Цуд пачынаецца.

Бондар вострыць інструменты. На першы погляд здаецца, што гэта рэч вельмі простая і звычайная. Але так здаецца людзям, якія нічога цікавага ведаць не хочуць. Шліфоўка інструментаў — рэч і не простая і не звычайная. Трэба ведаць, які брусок — ці цвёрды, ці мяккі, ці гладкі, ці крупчаты — падходзіць да кожнага начыння. Трэба ведаць, як трымаць брусок, колькі разоў і як плюнуць на яго. Трэба цяміць, як шараваць — ці наўскос, ці проста, ці памалу, ці хутка, ці моцна прыціскаць, ці памаленьку, каб было акурат у меру. Кожнае начынне мае свае капрызы, свае вымаганні, якія майстар павінен памятаць, як свае пяць пальцаў. Потым глянец — з глянцам пачынаецца новая, цікавая гісторыя. Крывавым потам плаціць бондар за гэтую гісторыю. Ён патрабуе, каб інструмент блішчэў і пераліваўся ў розныя колеры, як люстэрка, як празрыстая вада. І ён наводзіць глянец. Потым кладзе свае інструменты ў рад на варштат. Бярэцца ўбокі і дзівіцца на іх, як на любых дзяцей. Адыходзіць. Глядзіць здалёк. Расшырыць вочы. Сажмурыць. Зноў падыходзіць. Хіліцца над інструментамі, нібы хоча іх цалаваць. Пачынае на іх дзьмухаць, хукаць. Блеск на сталі атуляецца слоем сівога туману. Потым туман патроху пачынае сыходзіць, нагадвае колер перламутра і хутка знікае. І зноў інструменты блішчаць, як неба ў яркі дзень.

Даніла здаволены.

У яго рабоце ёсць вялікі вопыт. Вопыт набываецца доўгімі гадамі, руплівасцю, цярплівасцю, трываласцю і замілаваннем да сваёй працы.

Не толькі Даніла, але і Аўдоцця гэта разумее вельмі добра. І яна не даецца дзіву, што муж возіцца некалькі гадзін са шліфоўкай інструментаў.

А як жа іначай!

Пры гэтым муха не павінна гудзець, мыш не павінна скрабці, ды, наогул, ніхто з жывых істот не мае права перашкаджаць майстру.

Строгі закон Данілы добра ведае Аўдоцця. За ўсё жыццё яна вышкалілася. Ёй здаецца, што нават вецер цішэе ў той час, як Даніла майструе, дрэвы на гародзе не шумяць і птушкі не пяюць. Аўдоцця не дзівіцца. Іначай быць не можа. У мужа — вялікая сіла.

## III

Пакончана з інструментамі: навостраны, як брытвы, адпаліраваны, як люстэркі.

Бондар падбірае матэрыял — калодкі, палены і дошкі, што ў вялікім запасе ляжыць у яго хаце.

З ім побач клапоціцца і Аўдоцця.

А чым далей, тым работа вымагае больш кемлівасці, больш адказнасці, становіцца цяжэй і мудрэй і, разам з гэтым, усё прыямней.

Аўдоцця без тлумачэння разумее.

Ім абодвум кружыць галовы вялікае здарэнне: пані пажадала мець у сваёй гаспадарцы хвалёную работу «залатых рук» Данілы.

Во хто яго ўрэшце зразумее і ацэніць!

А гэта ўжо не мужыцкага роду асоба, а з таго гатунку людзей, што ўсё ведаюць...

Даніла ззяў. Памаладзеў. Парухавеў. Тое, да чаго ён рваўся ўсё жыццё, само насустрач ідзе. Во каму ён пакажа свой таемны скарб — пані, вялікай пані, з вялікага двара! Дзеля гэтага варта была безупынная праца дзесяткаў год, пры якой ён рваўся кудысьці, каб адкрыць людзям свой уласны новы свет.

Шчырая радасць грэла і Аўдоццю.

Ці ж можна словамі перадаць, як Даніла падбіраў клён, бярозу, дуб, асіну на цабэркі, вёдры, начоўкі і лыжкі, арэшнік на абручы з сваіх лепшых запасаў?

Ці ж можна апавядаць аб тым, як ён пераглядаў, перамацваў рукамі, пробаваў на язык палены, дошкі і звы-

чайныя кавалкі дрэва, як ён іх сушыў, як з імі няньчыўся, каб стварыць з іх новае хараство, каб у іх душу пераліць.

Ці ж можна казаць аб тым, як ён бачыў мастацкім вокам старога майстра ў нямых кавалках дрэва гаварлівыя, пявучыя, вабныя сваёй зграбнасцю і грацыяй начоўкі, вядзёркі і лыжкі?

Ці ж можна адмаляваць пры гэтым жывую ігру яго твара, выразныя рухі яго цела, як ён усё разважаў і туды і сюды, і ў добры і ў кепскі бок, нібы закладваў фундамент вялікаму гораду?

Даніла гарэў на сваім уласным агні. Даніла лез усё вышэй і вышэй па невідочнай лесвіцы.

## IV

І расла яго творчасць, нібы казка, што прыняла раптам формы праўдзівасці.

Гэта былі не вёдры, не начоўкі, не лыжкі, а дзіўны сонпекных форм. Гэта былі ажыццёўленыя мары Данілавага сэрца. Гэта было тое, дзеля чаго варта і жыць, і пакутваць...

Звычайнае, простае вока бачыла б у гэтых пасудзінах звычайныя і простыя рэчы. Звычайнае вока лічыла б дзяцінствам урачыстае свята Данілавага сэрца. Звычайнае вока часта глядзіць на золата і думае, што гэта камень. Звычайнае вока не захапляецца парывамі вялікай душы, не бліщчыць агнём шчырага падзякавання вялікаму майстру.

У пані з двара незвычайнае вока. Яна ўгледзіць дарагі скарб там, дзе ён папраўдзе ёсць.

Так, прынамсі, думаў Даніла, а з ім, разумеецца, і яго жонка Аўдоцця, калі яны на малых саначках везлі ў двор пані бялюткія, як малако, як пена марская, гучныя, як шкло, пасудзіны. Яны былі зграбныя, лёгкія, як бы жывыя: вось-вось у паветра ўзнімуцца. Вось-вось зайграюць, як скрыпкі. Пад яркім зімовым сонцам яны пераліваліся рознымі колерамі, нібы крыштальныя.

Штохвіліну Даніла і Аўдоцця спыняліся і здзьмухвалі снежныя пылінкі з новых пасудзін. Кожную пасудзіну Даніла пробаваў рукамі на звон. Яна выдавала свой асабісты голас. Лёгка было падабраць з іх новы, па-свойму цікавы, музычны інструмент, на якім можна было б іг-

рацць шчырыя, чулыя песні шчырага і чулага сэрца бондара Данілы...

Нашто тут патрэбны струны, ноты, пышныя абставіны багатых салонаў, калі ўсё прыгожае відаць і ў прастаце і шчырасці?

Захацеў чалавек, і сам сабе ўладзіў свята-гульню. І сонца на яго тады па-новаму глядзіць, і камень, і дрэва яму песні пяюць.

Даніла туліў да грудзей пасудзіну і любаваўся:

— Якое моцнае вядро! як камень, як жалеза: хоць ты гарматы па ім вазі! Вунь, бач, жонка, як я стану на гэтае вядро нагамі, і ліха яго не возьме.

Даніла паставіў на снег вядро і намерыўся наступіць на яго нагою.

— Што ты робіш? — крыкнула спалоханая Аўдоцця.

— Я не баюся — стану,— бо моцнае! — заартачыўся Даніла.

— Няможна...— у роспачы застагнала Аўдоцця.

— А вось папрабую! — настойваў Даніла.

— Ты вар'ят! — заламала рукі Аўдоцця.

— Го-го-го! — зарагатаў Даніла.— Я ж гэта толькі пажартаваў. Ты думала, што сапраўды стану? Эх, баба дурненькая! Го-го-го!

І смяяўся ён шчыра, як дзіця.

Аўдоцця маўчала. Яна не магла прыйсці ў сябе ад перажытага страху.

Гэткім чынам яны прывезлі пасудзіны ў двор да пані. Тут радасць бондара вырасла да таго, ажно дух захоплівала. Сэрца стукала так моцна, што Даніла сам пужацца пачаў. На валаску паміж жыццём і смерцю знаходзіцца тое, за што ты ўвесь свой век гараваў...

А вясёлая сям'я вераб'ёў клапацілася каля стайні, білася-дралася паміж сабою, фанабэрылася, хохлілася і несупынна шчабятала плёткі-байкі. А снег блішчаў, вочы сляпіў.

Вясёлы быў свет, апрануты ў пухкі, снежны кажух, і весела было бондару Данілу.

— Зараз пачую прысуд пані,— думаў ён.— Яна правільна ацэніць, бо не такая варона дурная, як нашы мужыкі.

І пані вырасла ў яго думках вельмі высока. Яна надзене на яго чало вянок славы.

Аўдоцця чытала ўсё гэта на яго твары і не менш за яго хвалявалася.

На дзядзінцы ля паніных пакояў пад самым ганкам санкі спыніліся. Тут наляцела, як саранча, цэлая плойма вераб'ёў. Яны пачалі кружыцца, як заварожаныя, над бялюткімі пасудзінамі.

Ці іх вабіў пах свежага дрэва, ці мо былі захоплены пекнатой пасудзіны — хто іх ведае! Толькі яны кружыліся над саначкамі ўсё ніжэй і ніжэй і нешта гаварылі-шчабяталі паміж сабою на вясёлай, зычнай мове птушак.

Спачатку Даніла цешыўся з гэтых малых прыхільнікаў яго таленту, любаваўся імі, а потым, о... не паспеў ён і охнуць, як адзін верабей, хітрун і падшывалец, апаганіў чысценькі, бялюткі цабэрак.

Крыкнуць не маглі ні Даніла, ні Аўдоцця. Яны акамянелі. Малы шальмец так нахабна выкпіў чыстыя пачуцці гэтых людзей, што яны сцерлі б яго ў пылок, калі б ён не ўзняўся на самую высокую вежу панскага палаца.

Доўга скрабаў Даніла цабэрак вострым сцызорыкам і не прыкмеціў, як падышла да яго эканомка і загадала адвезці пасудзіны на кухню.

О, як закалацілася яго сэрца...

## V

Як ашпараныя, выскачылі з панінай кухні Даніла і Аўдоцця. Пані нават не зацікавілася глянуць на пекную работу Данілы. Заплаціла не таргуючыся, і гэтым справа скончылася. Грошы ён кінуў ля ганку, выйшаўшы на двор. Употайку ад яго іх падняла Аўдоцця.

Пані, сама гэтага не разумеючы, бязлітасна плюнула чалавеку ў самую душу, зрабіла яму такую рану, якая ніколі не загоіцца. Крыўда была бязмежна балючая, неспадзяваная, хацелася яму валасы сівыя рваць на галаве і выць. Яго скінулі з гары ў глыбокую яму.

Усю дарогу, ідучы назад у вёску, ён сваёй жонцы ні слова не сказаў. Ішлі яны, як з пахавання. Даніла пахаваў найлепшую частку сваёй душы. Памерлі яго мары, якімі ён цешыўся ўсё жыццё.

Сонца засумавала разам з ім. Поле снежнае непрытульным зрабілася. Хвоі пад сівымі зімовымі шапкамі шапацелі аб вялікім Данілавым горы. Увесь яркі абшар пакрыла жалоба...

Ці зразумеюць людзі Данілу? Не! Будуць кепікі строіць з яго, дурнем абзавуць.

Як вярнуліся Даніла з жонкай дахаты, дык паваліўся на кучу белых стружак ля свайго варштата. Жонка не прабавала яго ўцяшаць. Тая самая роспач вісела і над ёю. Слёзы, гарачыя і буйныя, капалі з яе вачэй на гліняную падлогу...

Пасля гэтага здарэння Даніла стаў маўклівы і пануры. Бондарства ён закінуў. Інструменты яго паіржавелі, бо ў хаце ён рэдка калі бываў — валяўся цэлымі днямі п'яны ў карчме пад сталом. Бедная Аўдоцця цярпела і голад, і холад, але пераносіла ўсё моўчкі і нікому не жалілася.

А як прывезлі суседзі з карчмы нежывога Данілу, дык яна таксама голасу не падняла, толькі ціхутка плакала.

А як людзі змайстравалі труну, шурпатую і нязграбную, і як палажылі Данілу ў гэту труну, тады толькі ўспомніла яна «залатыя рукі» нябожчыка. Якім бы вокам Даніла глянуў на гэтую непрыгожую труну?

Яе сэрца прабраў вялікі жаль па дарагім чалавеку. І яе гора пачало выліваацца ў прыгожыя словы сумных прычытанняў.

Аўдоцця павалілася вобземлю і пачала галасіць, даючы волю свайму гору. Ніхто не мог яе супакоіць. Суседкі слухалі, слёзы выціралі і дзівіліся, адкуль такі гладкі язык у заўсёды маўклівай Аўдоцці.

— Калі б каго-колечы з нашых Даніла навучыў, той добрым словам успамінаў бы, як бацьку роднага шанаваў. А то ад пані з двара пахвальбы чакаў. Не туды заехаў!

Так гаварылі суседзі.

Хутка за сваім старым памерла і Аўдоцця. Па ёй ніхто не галасіў, бо была адна-адзінокая, без сваякоў і без родных.

## ЛЯВОНІХА І СЫМОНІХА

Лявоніха і Сымоніха — гэта дзве блізкія суседкі, дзве вясковыя ягадкі. Жывуць яны побач, пасярод вёскі, хата супроць хаты. Хаты іхнія старэнькія, маленькія, закураныя і нахіленыя адна да аднэй; нібы зацікаўлена, пільна ўглядаецца адна на адну, пазірае акно на акно, дах на дах, комін на комін, адны аднымі любуюцца і налюбавацца не могуць.

З акна сваёй хаткі глядзіць Лявоніха на хатку Сымоніхі, хоча даведацца, што там дзеецца-робіцца, што Сымоніха на сняданне ладзіць, якія бліны пячэ, чым падмазвае іх, які фартух сягоння надзела, ці весела, аб чым гутарыць з Сымонам сваім і аб чым думае яна. Лявоніха супакоіцца не можа. Страшэнна ведаць хоча, аб усім гэтым. Выцягвае шыю, настарожвае вушы, праз пабітую шыбіну ўцягвае носам паветра — мо што-колечы слухам ці нюхам пачуе...

А Сымоніха ў сваёй хаце робіць тое самае ад пачатку да канца. Як і суседка, хоча ўсё знаць-ведаць, што робіцца ў Лявоніхі, з не меншай зацікаўленасцю, чым Лявоніха.

Лявоніха з Сымоніхай не могуць доўга здавальняцца толькі нямым пазіраннем праз затуманеныя акенцы сваіх хатак, і кожная з іх ловіць зрэнкамі кожны рух суседкі. Не прапускаецца найкарацейшая гамонка, чуць прыметны шум і рып дзвярэй або стук вілачніка. І вось суседкі, як бы раней згаварыўшыся, спотайку соўваюцца з сваіх хат.

Лявоніха на пальчыках падыходзіць да дзвярэй. Не чутно, як падымае клямку і як высувае напалавіну сваю галаву. І вось з заміраннем сэрца Лявоніха бліснула адным вокам у бок дзвярэй Сымонавай хаты, так бліснула туды вокам, нібы нажом пракалоць хацела дзверы Сымонавай хаты, каб разок хоць глянуць, што там робіцца.

Але, як толькі зірнула, дык, як апараная варам, адскочыла назад і стукнула дзвярамі. Пры гэтым стукнулі дзверы і Сымонавай хаты, бо Сымоніха рабіла тое самае; яны ўгледзелі адна адну ў імгненне вока, у адных і тых самых позах, з аднымі і тымі самымі выразамі зацікаўленасці ў вачах. Пры гэтым яны зрабіліся страшэнна падобнымі адна да аднэй. Кожнай здавалася, што яна толькі глянула ў люстэрка.

Троху адсопшыся, яны зноў прыняліся за сваю работу. Урэшце, абедзве, не вытрывалі, выйшлі з сваіх хат, нібы на надвор'е паглядзець і курэй паклікаць.

— Ціп-ціп-ціп-ціп! — кажа Лявоніха.

— Ціп-ціп-ціп-ціп! — кажа Сымоніха.

І голас у іх адзін і той самы — троху пісклявы, троху з хрыпоткай, троху салодкі і троху горкі, троху лагодны і троху сварлівы.

— А дзе ж мае куры дзеліся, каб іх каршун? — кажа Лявоніха.

— А дзе ж мой певень прапаў, каб ён здох? — кажа Сымоніха.

Пры гэтым яны паглядаюць адна на адну няшчырымі, маслянымі вачамі. Хітрасць і фальш відаць у кожным іх руху, у кожным павароце. А болей усяго гэта відаць у іх гутарках. Гэта хітрасць даходзіць да смяхоты, да нейкага асаблівага выразу шчырасці. Кожная з іх ведае думкі другой лепей, чымся свае ўласныя.

Страляючы вачамі адна ў адну, Сымоніха з Лявоніхай патроху пачынаюць гутарку, як бы наладжваючы скрыпкі. Мова іх на першы погляд здаецца самай простай і бязвіннай, як дзіцячая гутарка. Але яна і не простая і не бязвінная. Каб зразумець глыбокі сэнс гэтай мовы, патрэбен добры тлумач — іначай чалавек не пачуе праўдзівага смаку.

— Дзень добры, Сымоніха! — кажа Лявоніха.

Гэта значыць: галавой уніз, паскудніца!

— Добры дзень, Лявоніха! — кажа Сымоніха.

Гэта значыць: згінь ты, прападзі, падла старая!

— А даўненька мы не бачыліся, суседачка.

Гэта значыць: дай бог, каб цябе, пагапіцу, ужо болей ніхто ніколі не пабачыў.

— А во, іду даведацца, як ты маешся, міленькая.

Гэта значыць: чаму так доўга ліха цябе яшчэ не забрала, шэльма?

Пры гэтым суседкі дробнымі і пэўнымі крокамі падыходзяць адна да аднэй, не спыняючы гутаркі. Нібы войска на войска наступае.

— Эт,— кажа Лявоніха цукровым голасам,— жывугадуюся, як гарох той пры дарозе, кратаюся як-колечы. А што чуваць у цябе, кумачка-любачка?

Гэта значыць: трасца табе ў бок, ліха тваёй матары! Прыйшла ты, сарока, выведаць, што ў хаце маёй робіцца — скулле даведаешся, не дачакаешся!

— Эт,— кажа Сымоніха мядовым галаском,— дабра не чуваць і ад ліха не ціха. Ой, бедная мая галовачка! Ой, жыццё маё палынь-травіцаю зарасло! Прыяцельніцы можна троху пажаліцца ды паскардзіцца.

Гэта значыць: каб ты не дажыла, не дачакалася, пакуль я буду табе хваліцца, нячыстая душа, сваім багаццем. Працую і жыву. Бог і рубельчыкам, і тым, і сім не абмінае — я не такая крывуля, як ты!

Бабы робяць кіслыя твары, кожная на свой лад. Гэтыя

фізіяноміі вельмі розняцца адна ад аднэй і надта падобны. Яны гавораць і мімікай.

Постаць Лявоніхі кажа без слоў, але выразна:

— З чым прыйшла, з тым і пойдзеш скрозь зямлю.

Выгляд Сымоніхі кажа без слоў, але досыць зразумела:

— Трэскайся, лопайся, але ты ў мяне шышка невялікая!

І добрыя суседкі далей гавораць:

— Скажы, любанька, Сымон твой перастаў піць? Ён рукамі болей да цябе не соваецца? — пытаецца Лявоніха, і вочы яе робяцца рахманыя і жаласлівыя.

Гэта значыць: думаеш, гадзіна, не ведаю, што ён тваю скуру лупіць і ўдзень і ўночы? Але ты, здыхляціна, і гэткага мужыка не варта!

— Ха-ха-ха, золатца маё,— смяецца весела Сымоніха,— дзякаваць божаньку, як толькі знахар даў мне лякарства, дык рукой адняло — другім чалавекам Сымон зрабіўся; цяпер у мяне не жыццё, а проста рай.

Гэта значыць: хоць пукайся, ліхаманка, хоць трэскайся на кавалкі, хоць макам рассыпайся, не буду табе на радасць жаліцца, што ў мяне бакі як цапамі пабітыя ад жалезных кулакоў Сымона. Каб ты запрапасцілася разам з ім!

Лявоніха бярэцца рукамі за твар Сымоніхі, углядаецца ёй у вочы, ківае галавой, ды кажа:

— А праўду кажаш, дальбог, праўду! Ты цяпер куды лепей нават выглядаеш. Ты зрабілася, як тая макавачка чырвоненькая! А круглая-круглая, аж зайздрасць бярэ!

Гэта значыць: агіда ты! Прыгажэйшую за цябе ў труну кладуць. Ой, добранька ведаю жыццё тваё пякельнае! Ад мяне, гадаўка, не ўтоішся! Не на такую натрапіла!

Сымоніха гладзіць Лявоніху і кажа:

— Няма чаго богу грашыць, неяк кратаемся.

Гэта значыць: халера ты! Каб ты ўгару глядзела ды сонца не бачыла! Каб цябе скруціла ў тры пагібелі! Нашто сыплеш мне соль на раны?

— Ніхто ў нашым сяле гэтак дружна не жыве, як мы з табою! — здзіўлена і натхнёна кажа Лявоніха.

— Ды як жа іначай, сэрца маё, як іначай, даражэнькая! — трапляе ёй у тон Сымоніха.

Гэта усё значыць: няпраўда! мана! фальш!

— Хадзі ка мне, зязюлечка, у хату! Пагаворым аб тым ды аб сім,— кажа Лявоніха.

Гэта значыць: каб ты на парозе маім ногі свае палама-

ла, нячыстая душа! Каб ты галаву скруціла на ганку маім!

— Во, гвалтам цягне ў хату,— кажа Сымоніха.— Дзякую, сястрычка, ды ідзем у маю хату,— і мы людзі хрышчоныя!

Гэта значыць: калі ніхто не ведае, як хто абедае, дык я даведаюся, бо ўлегцы мяне не возьмеш!

— Заходзь ка мне! — кажа Лявоніха.

— Ды ты ідзі ка мне! — упіраецца Сымоніха.

Лявоніха нагвалт хоча зайсці да Сымоніхі, а Сымоніха — да Лявоніхі.

Доўга цягне Лявоніха суседку да сябе ў хату — тая ўпіраецца і не ідзе.

Доўга цягне Сымоніха суседку ў сваю хату — тая не хоча, ды годзе.

Урэшце, моцна нацягнутыя струны не вытрываюць і лопаюцца з такім моцным трэскам, што трэск гэты творыць новую музыку. Суседкі пераходзяць ад няшчырасці да шчырасці:

— Як?! — кажа Лявоніха,— ты ганьбуеш маёй хатай?! — і вочы яе прымаюць свой праўдзівы выгляд — злосны, зняважлівы.

— Як?! — кажа Сымоніха,— ты пагарджаеш маім кутком?! — і вачамі пазірае яна на суседку так гнеўна, як бы яе з'есці хоча.

Слова за слова — і з іх пасінелых вуснаў — разам са слінай пачынаюць сыпацца такія адборныя і ядраныя слоўцы, як пацеркі, як зорачкі, як жалезны боб, як горкі перац. І тут ужо тлумач непатрэбны, бо кожнаму і так добра зразумела.

— Ты — сякая, ты — такая! — крычыць Лявоніха.

— Ты — такая, ты — сякая! — грыміць Сымоніха.

— Шэльма! — лаецца Лявоніха.

— Гадаўка,— дражніцца Сымоніха.

— Шэльма! шэльма!! шэльма!!!

— Гадаўка! гадаўка!! гадаўка!!!

Адна адну проста заклінае гэтымі брыдкімі словамі. Але болей ім слоў ужо не хапае, і яны ад слоў пераходзяць да рук:

— Во!

— На!

І дзве фігі, як дубовыя сукі, выходзяць на сцэну.

Фіга Сымоніхі пападае проста ў нос Лявонісе, а фіга Лявоніхі — акурат у нос Сымонісе. Але не ад фігаў пача-

лося і не фігамі канчаецца гэта гісторыя. Пачынаецца новая праца звычайнымі кулакамі, а потым парканінамі, потым давай качаць адна адну па зямлі і рваць за доўгія валасы. Ды ёсць у іх розныя спосабы калатні — усіх і не пералічыш адразу.

На крыкі і ляманты збягаецца ўся вёска.

Сымон з Лявонам стаяць каля сваіх хат ды толькі смяюцца. Вось гэты смех памагае раз'юшаным бабам, як халодная вада. Пачуўшы смех сваіх мужыкоў, яны спыняюць калатню, ускакваюць з зямлі, і кожная злосна кідаецца на свайго мужа за тое, што гад, не толькі не памагае ў гэткай бядзе, каб выйсці з гонарам, ды яшчэ смяецца з пакрыўджанай жонкі.

Пасля гэтага суседкі цэлы дзень кожная на сваім двары крычаць адна аднэй такія словы і вытвараюць такія штукі, якіх людзі добрыя не ведаюць і свет не бачыў...

Пасля гэтага пару дзён суседкі зусім не цікавяцца адна аднэй — не прыслухоўваюцца і ў вокны не паглядаюць.

А ў нядзелю ідуць разам на кірмаш, як ні ў чым не бывала, і дружба ў іх яшчэ болей павялічваецца.

Пасля кірмашу пачынаецца ў іх уся гісторыя з самага пачатку, перайначаная на новы лад — дзе дабаўляецца, дзе адбаўляецца — свяжуткая, навюсенькая гісторыя, як бы толькі радзілася яна на свет.

Гэтак ідзе тыдзень за тыднем, месяц за месяцам, год за годам, акуратна, як па загаду звышку.

І трэба прызнацца, што Сымоніха з Лявоніхай маюць вялікі спрыт прыдумваць на кожны раз новыя прычыны за што цалавацца і за што біцца, робячы гэтым прыемнасць і самім сабе і добрым людзям.

## ДВАНАЦЦАЦІГОДНІКІ

Ужо болей за сто год, як воддаль тракту, на пагорку, стаяла вёска Такароўшчына. Вёска невялікая — сяліб каля дваццаці. Але яна вызначалася ва ўсёй ваколіцы сваім багаццем. Хаты зграбныя, высокія, чыстыя, пакрытыя не саломай, як у суседніх вёсках, а дранiцамі. Кожная хата мела на сваім дзядзінцы добрую, чыстую студню; пры кожнай сялібе быў добры агарод, садок, а воддаль шырыліся

палосы тлустага, чарназёмнага поля, а далей — высокі панскі лес, а за лесам — балота, а за балотам — сплаўная рэчка Слізянка.

Такароўшчына славілася на ўсю ваколіцу найлепшым збожжам — чыстым і ядраным, найлепшай жывёлінай і добрымі тканінамі. Гэтыя тавары такароўцы вазілі прадаваць на кірмашы ў ваколічныя мястэчкі або гандляры прыязджалі да іх у вёску купляць.

Заўсёды ўвосені, калі з поля ўжо ўсё было сабрана, калі кірмашы па мястэчках ажыўляліся і ўсюды гаргэкала саранча гандляроў,— за такароўскія тавары тварыліся цэлыя авантуры, скандалы і гісторыі: кожнае мястэчка вастрыла зубы на такароўскія вырабы. Кожны гандляр прыцмокваў губамі, успамінаючы Такароўшчыну. Аб Такароўшчыне гаварылася ва ўсіх крамах, шпіталях і сінагогах. За Такароўшчыну пачыналіся ў часы малітваў спрэчкі, сваркі, а часамі нават і бойкі. Пэйсы і бароды лунайі ў паветры, як павуціна на платах і дрэвах на асеннім шляху.

І было за што: кожнаму гандляру хацелася здабыць такароўскія тавары. Задобрываў ён такароўцаў рознымі гасцінцамі і гарэлкай. А такароўцы харахорыліся, як гусакі: фанабэрыя іх расла, як на дражджах; гонар квітнеў, як бэз у маі; і павага да сябе ў такароўскіх гаспадароў расла ў грудзях сялянскіх так шпарка, ажно не тоўпілася, і на ўсе запытанні ў скаканні вакол іх і заглядванні са смагай у самыя зрэнкі такароўцы адказвалі няяснымі і нявызначанымі «г-м-м», «пабачым», «памацуем», «пагутарым», «паспеем», «прыедзеце да нас» і іншымі такімі слоўцамі, якія хмеляць, вабяць, абяцаюць і не абяцаюць, якія спаць не даюць па начах местачковым гандлярам.

І вось гандляры пускаліся навыперадкі ў Такароўшчыну ў асеннія дажджлівыя раніцы і нават па начах. Кожны з іх хацеў быць першым, кожны хацеў сабе загарнуць смятану такароўскай працы і заўсёды канчалася тым, што ў адну любую раніцу ў Такароўшчыне пачынаўся такі шум, такі гармідар, ажно з ваколічных блізкіх вёсак прыбягалі сюды, як на пажар. Гэта, як наўмысне, усе гандляры з'язджаліся разам, і каля кожнай хаты стаялі пяць-шэсць фурманак. Тут зноў бароды і пэйсы ляцелі, як птушкі, па вуліцы, і сінякі на тварах цвілі, як васількі.

Такія катавасіі звычайна канчаліся «хэрымам». Гэта значыць, што ўсе гандляры згаварваліся паміж сабой і зусім не куплялі тавараў у такароўцаў у вёсцы, а пастанаўлялі так, што ў якое мястэчка, да якога гандляра такаровец

сам павязе свой тавар — той без перашкод купляў у яго за пэўную цану, вызначаную «хэрымным» кагалам.

Тут у такароўцаў гонарападаў на некалькі квінтаў уніз, і яны самі вазілі тавар да тых, хто ім болей спадабаўся і хто лепей угашчаў. Гэтак у іх вялося спрадвеку. Яны шчыра працавалі, добра жылі і ад іх людзі яшчэ лепей зараблялі.

Так ішло пакаленне за пакаленнем. Старыя паміралі, маладыя старэлі, а малыя падрасталі. Было ўсё спакойна, добра і ішло, як па заведзенаму добраму загарку.

Суседнія вёскі зайздросцілі ім за багацце, не любілі іх, стараліся ўсялякімі штукамі такароўцам дапякаць.

А разбурыць супакой душы такароўца было надта лёгка. Было адно чарадзейнае слова, ад якога такаровец дрыжэў, нібы ўбачыўшы перад сабой страхоцце: ён, пачуўшы гэтае слова, чырванеў, бляднеў, дрыжэў і адсоўваўся назад, як ад пука запаленай саломы. А слова гэтае было зусім простае, звычайнае: «кутнік».

І, здаецца, смех адзін бярэ — назваць заможнага гаспадара з Такароўшчыны «кутнікам». Але калі які малы жэўжык-пастух часам, калі ўзбураны такаровец забярэ ў хлеў яго карову з поля за патраву, крыкне на дарослага, як дуб, асілка з Такароўшчыны «кутнік», дык той адразу нямеў, язык прыклейваўся да губы і — «ні бэ, ні мэ, ні кукарэку» — асілак слабеў і не ведаў, што рабіць, ажно жаль было глядзець на яго. Такаровец выглядаў, як жывы труп, і толькі салопаў асалавелымі вачамі.

У чым была сіла слова «кутнік»?

А вось у чым.

Зямля Такароўшчыны належала не да сялян, а да блізкага пана Магдановіча, багатыя маёнткі якога рассыпаны па ўсім павеце і займаюць, бадай, дзесятую часць усяго павету. Калісьці ў яго прадзеда ляжаў дзікі пустыр зямлі без усялякага ўжывання, і вось гэты пустыр ён аддаў у арэнду на дванаццаць гадоў некалькім сялянам, якія збудавалі там хаткі і пачалі гаспадарыць. Людзі былі рупныя і працавітыя, дык вось праз некалькі гадоў яны абрабілі гэту зямлю вельмі добра і зажылі, што называецца, багата. Вёска расла з кожным годам — дарасла ажно да дваццаці хат. Панасадзілі сады, забуяла поле і гэты пустыр зрабіўся раем, не горшым за любы з маёнткаў пана Магдановіча.

Кожныя дванаццаць гадоў яны аднаўлялі кантракт, штогод плацілі акуратна арэнду і жылі прыпяваючы, за-

бываючы аб тым, што гэтую зямлю пан Магдановіч у іх можа адняць у кожным канчатку злыбеднага дванаццацігодніка.

У кожным дванаццатым годзе такароўцы хмурнелі, непакоіліся, стараліся скакаць перад панам Магдановічам на ўсе лады і задобрываць яго рознымі падарункамі і работай: талакой вазілі яму бярвенне з лесу, талакой касілі яму балота і заворвалі вярстовыя шнуры ў маёнтку; бабы дарма жалі яму поле, мужыкі вазілі снапы ў панскае гуменішча і да позняй восені малацілі яго збожжа.

У такім годзе ў іх саміх заўсёды гаспадарка была запушчана, і ў гандляроў было заціпша, без «хэрымаў» і без боек. Да гэтага і пан, і такароўцы так прывыклі, як да вялікадня, як да рэкрутаў, як да хаўтураў, і без усялякіх неахвот або напамінанняў так рабілася ў кожным дванаццацігодніку.

Гэты год заўсёды лічыўся страшным судам для такароўцаў. Яны ў гэтым годзе рабіліся набожнымі, святкавалі ўсе святы, пасцілі ўсе пасты, хадзілі і ездзілі за дзесяць вёрст у царкву маліцца ў кожную нядзелю, і за добрыя грошы поп служыў добрую імшу аб тым, каб бог-гасподзь уміласцівіў сэрца пана Магдановіча, каб пан не артачыўся і падпісаў надалей кантракт.

Кожны раз цёмная грозная хмара з Такароўскага неба мінала лагодна, сонца ззяла зноў: пан без усялякіх закавычкаў падпісваў кантракт яшчэ на дванаццаць гадоў. Жыццё такароўцаў уваходзіла ў сваю звычайную каляю. Яны забываліся, што іхні дабрабыт стаіць, як гмах на пяску або на вулкане, і з ранейшым закаханнем ратаяў да сваёй зямелькі, аблітай іхнім потам і крывёю, яны браліся за працу. Яны стараліся не думаць аб тым, што яны — толькі арандатары або «кутнікі-дванаццацігоднікі». Адвечная рана, якая перадавалася ім з пакалення ў пакаленне, на час зрасталася.

Іначай і быць не магло. Бо іхняе жыццё на зямлі пана Магдановіча цягнулася, як доўгая, лагодная песня, дзе кожная страфа мела дванаццаць радкоў, і толькі апошняе слова дванаццатага радка было бурлівае, трывожнае, якое хапала за сэрца...

Іначай і быць не магло. Бо ўжо болей ста гадоў, як яны тут жывуць. Ужо разы тры-чатыры будынкі нанова перабудоўваліся за гэты час. Ужо тры-чатыры разы мяняліся гаспадары, мяняліся паны ад бацькоў да сыноў. У іх ёсць

нават свой магільнічак на пагорку, дзе над пагніўшымі, абросшымі шэрым мохам крыжамі шумяць матулі-елкі.

Іначай і быць не магло. Бо, здаецца, тыя самыя салоўкі, жаваранкі і вераб'і, што спявалі песні калісьці іх дзядам, калі тыя гнулі свой карак над сахой на роднай глебе, пяюць і цяпер старадаўнія песні. Тое самае сонейка свеціць ім удзень, тыя самыя зоркі і месячык мігацяцца ўночы; тыя самыя песні пяюць іхнія жнеі на полі і начлежнікі на расцяробе...

Іначай і быць не магло. Бо сэрцы і думкі іхнія ўраслі ў гэты кавалак зямлі, што завецца Такароўшчынай, глыбокімі карэннямі. А вочы, здаецца, аслеплі б без гэтых садочкаў, без гэтага поля і без сіне-блакітных далей, якія акружаюць з усіх бакоў Такароўшчыну.

Такароўцы забываліся аб тым, што яны арандатары. Часам, каб збіць іх гонар, зайздрослівыя суседзі аб гэтым ім калі-нікалі напаміналі. Пачуўшы слова «кутнік», такаровец хадзіў цэлы тыдзень маўклівы і, як хворы баран, матаў буйнай галавой...

Слова «кутнік» калола такароўцу мазгі і спіну, як вострая шпілька, псавала яму настрой, як бы ў час шлюбу хтосьці зацягнуў хаўтурную псалму.

Зайздрослівыя суседзі з гэтага часта-густа карысталіся і паказвалі такароўцу, дзе ракі зімуюць...

І гэтае слова «кутнік» таксама пераходзіла з пакалення ў пакаленне, як хлеб, без якога абысціся ніяк нельга.

Такім чынам, плыло жыццё такароўцаў цэлыя дванаццаць дванаццацігоднікаў, пакуль маёнтак перайшоў да новага наследніка, які пачаў заводзіць у сваіх маёнтках новыя парадкі.

І вось тое, чаго такароўцы пужаліся болей ста год паддрад — ад дзядоў да ўнукаў і праўнукаў — насунулася раптам на іх, як воўк на дарозе ў калядніцу на адзінокага падарожніка. Новаму пану спадабаўся гэты добры, абраблены мужыцкімі рукамі абшар зямлі: ён задумаў далучыць Такароўшчыну да самага блізкага свайго маёнтка...

Кантракта надалей ён не падпісаў.

Такароўцы спахмурнелі не на жарт. Малілі-прасілі пана, падбаўлялі арэнды ўдвойчы, утройчы, у чатыры разы. Пан заартачыўся. Нічога не памагло.

«Выбірайцеся адгэтуль!» — быў адзін яго адказ.

Што тут рабіць, дый што тут рабіць?

Непрытомныя, счарнелыя, як галавешкі, лёталі такароўцы ад мястэчка да мястэчка да сваіх купцоў на раду-

паратунак. Заварушылася ўся ваколіца ад гэтага гвалту. Шумелі-гаманілі гандляры, суседзі перасталі іх клікаць «кутнікамі», пічыра шкадавалі і раілі не выбірацца з сваіх сяліб ні за якія грошы. Гэткім чынам пражылі яны год без усялякага кантракта і без арэнды, бо пан не хацеў браць грошай. Пачаліся суды, якія з павета перайшлі ў губерню.

Ад судоў у такароўцаў запусцілася гаспадарка: распрадавалі яны апошнія здабыткі, каб плаціць адвакатам, зрабіліся беднякамі. Суд цягнуўся два гады. Выйграў пан. Хоцькі-няхоцькі, прыйшлося выбрацца з роднага гнязда. Бабы галасілі-прычытвалі, прашчаючыся з роднай зямелькай. Вочы ў сялян былі наліты крывёй, як яны свае апошнія манаткі клалі на вазы, выязджаючы з Такароўшчыны. Разбрыліся яны па ўсёй ваколіцы, хто за запашніка, хто за парабка, а некаторыя нават ў горад выехалі.

Праз некалькі дзён, калі ўжо вёска стаяла пустая і сваёй цішынёй наводзіла жуту на людзей, у адну ноч пажарышча зафарбавала неба. Усе будынкі ў Такароўшчыне дашчэнту згарэлі; згарэлі нават і сады. Ад быўшай багатай і вясёлай вёскі засталіся толькі чорныя печкі і падмуроўкі.

Пан Магдановіч добра ведаў, што гэта работа былых такароўцаў, але ён па «дабраце» сваёй маўчаў, бо лесу ў яго было досыць і, апрача таго, ён баяўся, каб сяляне са злосці не падпалілі яго маёнткаў.

Ад першай славы такароўцаў і знаку не засталося. Яны хутка з гэтага павета ўсе выбраліся. Толькі, як жывы сведка мінуўшчыны, адзін стары дзед Лявон застаўся тут. Калі ўся сям'я яго сядзела ўжо на возе і кленчыла-ўпрашвала дзеда сесці з імі і «ехаць у свет», ён упёрся і нізашто не хацеў ехаць.

— Я тут радзіўся, я тут і памру!

— Ды як жа ты будзеш жыць адзін? — плакалі яго дзеці, унукі.

— Буду жыць, колькі мне палажана,— казаў ён.

І вось дзед Лявон застаўся тут. Гэта быў мужык гадоў семдзесят, высокі, лысы, сухі, з маленькай сівой бародкай, троху згорблены, але яшчэ моцны, жылісты і вытрывалы. Адзін з слаўнага роду такароўскіх старадрэвін, якога праца ад зары да зары на полі выгадавала і загартавала яго сілы як бы на векі вечныя. Ён ледзь не шэсць дванаццацігоднікаў тут выжыў.

Быў ён пасля разбурэння Такароўшчыны ў суседняй

вёсцы ў аднаго гаспадара, які прыпяў яго ў сваю хату з шчырым сэрцам і шанаваў, як роднага бацьку. А Лявон, не любіўшы есці дармовы хлеб і жыць злажыўшы рукі, працаваў у гаспадара лепей яшчэ за маладога і быў, як скарб у хаце. Праз год пры Лявоне гаспадарка ў таго чалавека значна папраўілася.

— Відаць, рука Такароўца зроблена не з гэткай гліны, як нашыя рукі! — гаварылі суседзі з зайздрасцю.

Кожны з іх меў бы за вялікае шчасце прыняць да сябе старога Лявона.

Адно толькі было з ім у хаце прыкра: ён з кожным месяцам рабіўся ўсё болей і болей маўклівым і суровым. Здавалася, што ён на ўсіх злуецца. Моўчкі выходзіў на работу, без гутаркі працаваў, ціха еў, без малітвы клаўся спаць. Ніколі нельга было ад яго пачуць слова аб сваіх, якія выехалі ў далёкі свет, ці аб Такароўшчыне, што ляжала перад яго вачамі. А калі хто пры ім пачынаў гаварыць аб Такароўшчыне, дык ён адразу выходзіў з хаты. Пры ім ужо стараліся аб гэтым не ўспамінаць.

Так прайшоў цэлы год.

І дзіва — Лявон за гэты год пакрапчэў, спіна выпрасталася, вочы бліпгчэлі. Ён нібы памаладзеў. Невядомая сіла крапіла яго, маладзіла. Людзі ажно пужацца пачалі Лявона, называлі яго ціха «чараўніком».

Пачаўся раптам мор на жывёлу.

У аднаго гаспадара воўк каня зарэзаў на начлезе — вінавацілі Лявона. Град поле пабіў — вінавацілі Лявона. У суседа раптам сын, малады і здаровы дзяцюк, занядужаў і высах, як трэска.

— Лявонавы штукі,— гаварылі людзі.

А гаспадар, у якога Лявон жыў, усё багацеў ды багацеў...

Усе гэтыя «прыметы» кіравалі сялянскія думкі на тое, што Лявон — чараўнік. Кожны так думаў, але баяўся гаварыць, каб, чаго добрага, Лявон «ліха яму не нарабіў за доўгі язык».

Вёска, дзе жыў Лявон, хацела як колечы вызваліцца ад яго, але не ведала як.

На другі год раптам, у адзін светлы дзянёк, Лявон зусім змяніўся, зрабіўся іншым чалавекам, як бы ад яго адышлі «злыя чары»: пачаў гаварыць з людзьмі. Сышла суровасць з твару. Ён павесялеў і зрабіўся такім гутарлівым, ажно зноў задзівіў людзей. Цэлымі днямі гаворыць і гаворыць — і толькі аб Такароўшчыне: аб тым, як жыў раней у

сваёй хаце, як яго бацька гаспадарку там ладзіў, якія ў яго былі шнуры, якая жывёліна, які сад і г. д. Таксама ён вельмі прыхільна і прыязна адносіўся да тых, хто яму гаварыў аб Такароўшчыне, аб гвалце і крыўдзе маладога пана Магдановіча.

— Цэлы год туга ела мяне,— тлумачыў ён сялянам.— Я хацеў усімі сіламі забыць аб сваёй гаспадарцы, аб Такароўшчыне. Нейкая злосць трымала мой язык у жалезных шчэмках, і я не мог слова казаць добрым людзям. Я ведаю, усе мяне пужацца пачалі, але гэта ўжо мінула. Крэпак быў бацька мой, да ста гадоў жыў, вечны ўспамін яго душы. І я вось чую, што і мае сілы пачалі цяпер крэпнуць. А то, бывала, кожныя дванаццаць гадоў такі страх, што пан не падпіша надалей кантракта, гнуў маю спіну ў тры пагібелі. Кантракт быў цяжкай хваробай усіх нашых такароўцаў. Цяпер гэтая хвароба мінула.

Дзед смяяўся.

Павесялелі разам з ім і вясковыя. Трывога, якую ён сеяў паміж іх сваёй суровай маўклівасцю, мінула, і жыццё іхняе пайшло зноў звычайным шляхам. Калі ў каго з іх здаралася няшчасце ў гаспадарцы, дык ужо Лявона ў гэтым не вінавацілі.

Разам з пераменай у Лявонавай натуры ўчынілася яшчэ другая прыгода. Цэлы год ён ні разу не быў на зямлі былой Такароўшчыны, стараўся ў той бок не глядзець, а цяпер пачаў бываць там штодня. Кожны дзень аглядаў сваё папялішча.

Бывала, у самы гарачы час працы, як бы ўспомніўшы нешта вельмі пільнае, кіне работу і шпаркім крокам пойдзе ў Такароўшчыну. Абыходзіць усе падмуроўкі, мацае рукамі разваленыя печы і ідзе адтуль да падмуроўкі сваёй хаты. Тут ён стаіць доўга і нешта мармоча сабе пад нос. Пры гэтым у яго постаці робіцца перамена. Старэе адразу на дзесяць год. Гора вырастае ў адзін міг: галава апускаецца ніжэй, вочы тухнуць, і старыя хрыплыя ўздыханні напамінаюць гуд пілы, якая рэжа мяккі гніляк. Так стаіць ён адзін, як шэры корч, з гадзіну. Потым падыходзіць да печы, гаспадарчым вокам аглядае яе з усіх бакоў. А калі дзе цагліна вывалілася, падымае і асцярожна кладзе на тое пустое месца ў печы, скуль яна вывалілася. Абыходзіць печ некалькі разоў, потым сядае і паглядае ў падпечча, раптам ускочыць, абмацае рукой чалеснік, кіўне галавой і выпрастаецца. Зноў маладзее на дзесяць год. Ідзе ў вёску.

Так праходзіць дзень за днём. Сяляне да гэтага прывыклі. Тлумачаць:

— Беднага Лявона цягам цягне да месца старой гаспадаркі. Не можа забыць.

Здарылася так, што пасля трох гадоў зацішша ў Такароўшчыне, дзе зямля без будынкаў была, як асірацелая, і наводзіла жудасць сваімі комінамі, там зноў закіпела жыццё. На доўгіх карах пачалі з навакольных вёсак вазіць туды бярвенне. Запахла свежым дрэвам і сасновай смалой. Цэлымі днямі стукалі сякеры і гудзелі пілы. Працавала шмат людзей. Адразу ставілі некалькі будынкаў: ток, пуню, хлеў, хату для парабкаў, хату для гаспадара, якая будавалася на панскі манер — з часаных бярвенняў, з нямецкімі вугламі, з адмысловымі ганкамі і вялікімі вокнамі.

Наняўся туды на работу і стары Лявон. Ён адразу звярнуў на сябе ўвагу галоўнага майстра сваёй кемнасцю і стараннасцю. А здароўе ў яго было такое, што ўсе проста дзівіліся. Бывала, падыме сам такое бервяно, што і малады не патрапіў бы падняць. А якія вясёлыя байкі ён баяў пры гэтым, ажно ўсе рабочыя покатам са смеху каціліся. Дзеда Лявона любілі ўсе: і сам пан, і майстар, і работнікі. Гарэлку піў ён болей за ўсіх. Любіў пасля выпіўкі дужацца з маладымі, і як толькі абхопіць каго-колечы сваімі жылістымі рукамі, дык той толькі задыхаўся і адразу — гульгіць, як сноп.

Работа пачалася вясной.

Лявон, як толькі паступіў на работу, пабудаваў сабе з аполкаў будку каля печы сваёй былой хаты і жыў там адзін. За гэта і работнікі пры будоўлях і суседзі з ваколіцы называлі яго «дамавіком». Ён на гэта не злаваўся, так уцягнуўся і прывык да гэтай мянушкі, што калі часам звалі яго імем «Лявон», дык не адклікаўся.

Разам з будынкамі ішла работа і на полі. Навезлі шмат жывёлы, коней, валоў, кароў, авечак і птаства.

Аралі, сеялі, касілі, жалі, і ўсё было звезена ў новыя будынкі. Тут ужо відаць было, што не мазолістая рука панурага гаротніка-ратая будавала для сябе гняздо, дзе памалу сам гаспадар на сваім коніку возіць бярвенні, майструе курную хацінку, праз год з'яўляецца пуня, потым ток, і кожная здабытая жывёліна — вялікая падзея ў яго шэрым жыцці. Не. Тут будавалася гняздо багатыра. Як залаты дождж, сыпаліся дукаты. Пан сам пальцам аб палец не кранууў, а дзесяткі людзей, найміты-нявольнікі, за яго працавалі. Як у казцы, усё зрабілася адразу. Як

«га», гатоў быў рай на зямлі. За адно лета паспелі нават сажалку выкапаць пад пагоркам, агароднік-немец пасадзіў павялікі сад, абапал дарогі да гаспадарчага дома былі пасаджаны прысады — маладыя таполі. Высокі, новы, афарбаваны крыж з масянжовым панам Езусам красаваўся на дарозе да новага фальварка, як шчыры вартаўнік багатырскага гнязда. І маладыя прысады выглядалі таксама, як шарэнга малайцоў, якія вартавалі новы хутар, што красаваўся сваімі бялюткімі, высокімі, зграбнымі будынкамі, дзе ўсё было зроблена з багатай рукі — і пекна, і моцна, і выгодна. А ў гумнішчы было поўна збожжа. Пахла свежым сенам, кветкамі, якія былі клапатлівай рукой пасаджаны каля ганку аксамітнымі клумбамі-дыванамі. А заводнае стада пасвілася ў лагчыне. Кожная штука выглядала, як лялька, як намаляваная. Новы фальварак выглядаў паміж вакольных вёсак, як багата прыбраная каралеўна, акружоная вясковымі бабамі-прыслужніцамі. І само неба, само сонца іначай глядзела на новы фальварак, чымся на вакольныя вёскі: першаму светла ўсміхаліся, а на апошнія хмурыліся або іх зусім не прыкмячалі.

Адна толькі фігура пана Езуса на новым пышным крыжы выглядала небагата ў сваім багацці. Здавалася, што ўзялі жабрака з-пад цвінтара, надзелі яму карону на галаву і назвалі царом, а ён тым часам выстаўляе руку, кланяецца і просіць капеечку, кажучы пры гэтым: «Я — самы просты з простых. Я — самы бедны з бедных. Я — самы добры з добрых. А палацы будавалі, на гэтым полі працавалі, гэтыя жывёліны даглядалі мае браты — бедныя мужычкі. Бойцеся бога. Як найбольш спакоры. Багатыя маюць радасць у кароткім жыцці на зямлі, а бедныя на векі вечныя на небе. Бедныя будуць на тым свеце ў раі, а багатыя — у пекле. Шкадуйце багатых і будзьце паслухмяны».

Ад папялішча Такароўшчыны і пуху і духу не засталося. Новы фальварак пан назваў Магданоўшчынай. Загадаў ачысціць зямлю з-пад лому, цаглін і смецця і заараць на зіму.

Вось пасля таго, як знік апошні след былой гаспадаркі Лявона, дзед зноў зрабіўся маўклівым і суровым і перабраўся ў тую хату, да таго самага мужыка, дзе ён раней жыў.

І зноў перарабіўся з «дамавіка» на «чараўніка». І ўсе яго зноў пачалі пужацца. Ад былых слядоў яго любай зя-

мелькі засталіся толькі адны старыя могілкі, якія пан не адважыўся знішчыць.

Гэтыя могілкі яшчэ лучылі душу старога Лявона з сваім мінулым, якое ніколі не вернецца. Нібы стары крыж, выглядаў ён паміж крыжамі, дзе па асенніх начах выстайваў па некалькі гадзін... Але думкі яго былі глыбока захаваныя і цёмныя, як дажджлівая асенняя доўгая ноч, як нямая ціхасць магілы.

Тым часам восень рабілася ўсё болей гнеўнай. Пачаліся халады, маразлівыя ночы. Мокры снег, ад якога зямля парабілася топкай і гразкай, і цёмныя лужыны стаялі на рудым іржанні.

Але толькі для бедакоў-гаротнікаў гэты час вее непрытульнасцю і нудою, ад чаго месца себе знайсці цяжка. Для багатых — адна прыемнасць. У асеннія доўгія ночы пачынаюцца балі, гульні і розныя вясёлыя забавы. Віно льецца ракой. Найлепшая яда навалена гарамі па пекна прыбраных сталах. Пары кружацца ў вальсах. Музыка вабіць сваёй кволасцю і далікатнасцю. Галовы хмялеюць, а губы, як жывыя макі, цягнуцца да пацалункаў. Вочы блішчаць пад паваЛокай туману, як у сумуючых анёлаў на малюнках.

Вось гэтакім чынам краталіся асеннія ночы і ў новым хутары Магданоўшчыне. Гуляць можна смела, баяцца няма чаго: на дварэ пільнуюць панскі супакой злосныя сабакі-ваўкадавы; людзі са стрэльбамі — верныя слугі-вартаўнікі. Можна гуляць.

У адну ноч, у самым разгары панскай гульні, раптам пачалася завіруха, як бы ў часе Неранскага або Бальтасарскага піру: роўна а поўначы ў адну хвілю полымя абхапіла ўсе новыя будынкі, і цьма навокал асвяцілася жудасным, колеру крыві, вогнішчам. Загудзеў моцны вецер, і агонь разрастаўся. У адну гадзіну агністы аграмадны язык так лізануў новы хутар Магданоўшчыну, што ад яго засталіся такія самыя знакі, як ад былой вёскі Такароўшчыны. Усё згарэла — і дабро, і жывёлы. Чуць людзі паспелі выратавацца. Не дапільнавалі ні злосныя сабакі, ні панскія найміты.

Назаўтра Лявон, нібы пастарэўшы за ноч на дваццаць гадоў, згорблены, слабы і хілы дзядуля, пайшоў да пана Магдановіча і прызнаўся, што гэта ён падпаліў фальварак.

Лявон сказаў слабым дрыжачым голасам:

— Вось усе гэтыя апошнія гады злосць на цябе трыма-

ла мае сілы. Як пакусліваю гадзіну, я грэў у сваіх грудзях пякельную помсту на пана за тое, што ты знішчыў нашыя, крывёй і потам здабытыя гаспадаркі. Во гэтымі каравымі рукамі я яшчэ хацеў задушыць пана, але ўстрымаўся: не хацеў паганіць свае чэсныя мазолістыя рукі панскай нячыстай крывёю...

А як людзі скручвалі вяроўкамі рукі і ногі старога Лявона, ён не бараніўся, толькі нешта неразборліва мармытаў сабе пад нос. З старых мутных вачэй капалі слёзы.

## СОРАМ

### I

Ігналю не спалася. Кідаўся з боку на бок, круціўся пад дзіравым кажухом, як непрытомны, і не мог заснуць. Думкі блыталіся ў галаве сярод цішы ночы і, як куслівыя авадні, не давалі чалавеку супакою. Ігналя ляжаў і стараўся міпрыпамінаць, якую гэта асабістую непрыемнасць ён у мінулы дзень перажыў, якую злыбеду, што вось душыць яго і цяпер, і давай, як па кнізе, чытаць хроніку пройдзенага дня ад самага рання.

Жонка, хмурая і злосная, круцілася каля прыпечка, хацела зварыць штосьці на снеданне і нічога не зварыла, бо пачалася заўсягдашняя лаянка. Яна яго, Ігналю, прабірала, як заўсёды, за яго абібоцтва і нядбаласць у гаспадарцы. Гэта раз. Потым яна так разгарачылася, ажно засапела, як кавальскія мяхі, пачырванела, вочы наліліся крывёй, і яна, адзічэлая, схваціла вілачнік і кінулася на яго. Ён, нічога не кажучы, выскачыў з хаты, як ашпараны варам. Гэта два. Потым ён швэндаўся па вёсцы, не маючы, дзе дзецца. Людзі з яго смяяліся, што ён баіцца жонкі, як агню. Яна яго лупцуе, апрача таго, абманвае яго з Цыпруком, з якім часта валачэцца ў лес. Гэта тры. Ад гэтых кпінак людскіх яму вельмі прыкра рабілася: ён злаваўся на ўвесь свет і на самога сябе, але, сцяўшы зубы, маўчаў і не адгаркваўся на прыкрыя вострыя слоўцы суседзяў. Яму сорамна было за свой чалавечы гонар, за сваю нікчэмнасць і няздатнасць.

— Чаму я такі? — думаў Ігналя.— Людзі і не больш зямлі за мяне маюць, а лепш жывуць. У іх хаты агледжаны, скаціна ў парадку; ёсць і харчы для сябе і корму для жывёлы, а ў мяне вецер свішча па ўсіх вуглах. Чаму так?

І сорамна яму зрабілася: гэткія рукі, гэткія ногі і такая ж галава ў яго, як ва ўсіх, але ў яго нічога не выходзіць. Яму не шанцуе. І здалося яму, што ўвесь свет смяецца з яго: усё, што ён бачыць вакол сябе: неба, сасонкі на гародзе і закарэлы снег на вуліцы — кпяць з яго, глядзяць на яго тысяччу вачамі, гэткімі кплівымі, як у Цыпрука, які жыве з яго, Ігналёвай, жонкай. Кпяць з яго моўчкі, пастаянна кпяць дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам. А ён? Ён, як асалавелы, глядзіць на ўвесь свет ад самага маленства. Работаваліцца з рук, і ўсё ў хаце псуецца, марнуецца з таго часу, калі стары бацька памёр. І нібыта нават жаданняў няма ў яго душы да старання. І нібы спрасоння глядзіць ён на цэлы свет, і, нават, злосць яго не бярэ на Цыпрука за тое, што той жыве з яго, Ігналёвай, жонкай.

Ігналя зазлаваўся на самога сябе за тое, што ў яго злосці не было на іншых людзей. Злавацца на самога сябе ён яшчэ час ад часу мог.

Сціснуў кулакі, насупіў бровы, зморшчыў лоб у гармонік і марматаў сабе пад нос:

— Ліха на мяне! Ліха на мяне! Ліха на мяне!

Марматанне мацнела з кожным разам. Ён стаў сярод вуліцы. Цела напружылася, ногі цвёрда стаялі, укапаўшыся ў снег, ён іх так моцна выпрастаў, ажно жылы забалелі і дыханне ў грудзях сперлася. Але доўга не мог вытрымаць гэткай натугі: пачаў і целам, і думкамі слабець, як спружына, якая, пасля націску, адпускаецца назад. І марматанне яго з кожнай хвіляй зноў слабела.

— Ліха на мяне! Ліха на мяне! Ліха на мяне! — шаптаў ён усё цішэй і працяжней, нібы калёсы, якія коцяцца самі пасля вялікага разгону, і імпэт іх слабее з кожнай хвіляй.

— Го-го-го! — пачуў ён рогат вакол сябе.— Глядзіце, добрыя людзі! Ігналя звар'яцеў, дальбог, звар'яцеў!

Тут Ігналя схваціўся, як бы ад цяжкага сну, азірнуўся,— ажно вакол яго стаіць грамада людзей. І якія ў іх кплівыя вочы, усмешліва-здаволеныя твары... ажно ў яго грудзях нешта хруснула ад болю; увесь ён пакрыўся потам не то ад крыўды, не то ад сораму — і наўцёкі!

Ён уцёк ад вясёлай кампаніі, якая нешта шумела, гал-

дзела і смяялася. Не прыслухоўваўся да людской гутаркі: страшна было прыслухоўвацца. Ён уцякаў, як ад пошасці, як ад дзікіх звяроў. Уцякаўшы, не чуў пад сабою ног. Нібы ў паветры насіўся. Ачухаўся толькі ў сваім хлеве. Ён стаяў прыпёрты да сцяны і моцна сапеў. І было ў яго душы тады гэткае адчуванне, нібы яго аплюхалі слізкай цеплаватай жыжкай, нібы ён задыхаецца ад гэтай жыжкі: яна папала яму ў рот, у нос, у вушы і абляпіла ўскалмачаныя валасы.

Яшчэ цяпер, уночы, успамінаючы аб гэтым ў сваёй хаце, яму робіцца моташна і нешта ссе ў грудзях.

Потым ён троху супакоіўся. Стоячы ў хлеве з паўгадзіны, ён пачаў азірацца па баках. Цемнавата было ў хлеве. Павуціна плялася ад бэлькі да бэлькі, а праз шчыліны прабіваліся сонечныя праменні, якія залацістымі пасамі прарэзвалі змрок. У загарадцы збоку стаяла рабая худая кароўка. Моўчкі жавала сваю жвачку, стоячы ля пустой загарадкі ў рэдкім гнаі. Час ад часу карова жаласліва мычэла з голаду, адварачвала галаву і пазірала на яго з дакорам. І нібы слёзы стаялі ў яе рахманых вачах.

Нешта кальнула тады Ігналю ўнутры:

— Нават і саламяная сечка скончылася...

З другога боку ў хлеўчуку стаяла пярэднімі нагамі ніжэй, а заднімі вышэй старая лысая кабыла. Колькі разоў яму жонка гаварыла падраўняць гной у хлеве, а ён усё адкладваў. Колькі разоў уночы кабыла закідвалася і чуць не задушвалася, а ён не звяртаў увагі. Кабыла стаяла, апусціўшы галаву, і нібы глядзела ў нейкую глыбокую працьму, куды збіралася скокнуць. Вочы яе былі мутныя. Кабыла думала сваю цёмную, цяжкую думу. Ігналю здавалася, што ў цішы яна зараз загаворa да яго аб сваім галадзе. Падышоў да кабылы і пачаў яе гладзіць па сухіх выпуклых рэбрах. Але яна не прыняла яго ласкі, падняла голаў, навастрыла вушы і давай сцёбаць хвастом па баках, як бы адганяючы заядлую муху. Ігналя на яе неззлаваўся за непрыхільнасць да яго, толькі яшчэ больш жаль яго агарнуў. Нешта сашчамілася ў грудзях, нешта гарачым комам стала ў горле; ён імпэтна абхваціў голаў кабылы кравымі рукамі і заплакаў. Лягчэй зрабілася; абяцаў кабыле надалей быць добрым гаспадаром, каб ёй, гаротніцы, болей галадаць не прыходзілася.

## II

Як спыніўся Ігналя пры гэтым апошнім успаміне мінулага дня, дык ужо аб нічым іншым думаць не мог. Галодная кабыла і кароўка не выходзілі з галавы.

— Што яны, бедныя жывёліны, вінаваты ў тым, што я такі нікчэмны чалавек? За што ім галадаць?

Гэта ж не людзі, яны жаліцца і прасіць яды не стануць. Маўчаць і маўчаць, і глядзяць галоднымі, мутнымі вачамі вакол сябе...

Іхняя маўчанка яшчэ болей разварушыла Ігналю. Каб яны гаварылі так, як яго жонка вечна меле языком, дык тады мо б гэта яго не абышло. А то маўчаць. Яму здавалася, што каб яны хацелі, дык і загаварылі б, ды яшчэ якой мовай! Кожнае слова рэзала б яго сэрца, як нажом, калола б, як ражон, толькі вось шкадуюць яго, Ігналю... І чатыры гаварлівыя без слоў вочы яго маўклівых двух жывёлін так і глядзелі на яго з усіх цёмных шчылін убогай, пустой хаткі... Ігналя плюшчыў вочы, кутаўся пад кажухом. Тады галодныя вочы жывёлін, як бліскучыя арэхі, як срэбныя слівы, лезлі да яго пад кажух, датыкаліся лба і сваім холадам гарачылі яго цела, сваёй гарачкай кідалі яго ў дрыжаку, барабанілі ў мозг, як буйны, гарачы вуглёвы град. Ігналя стагнаў, корчыўся, халодным потам абліваўся, але, нарэшце, не вытрымаў, ускочыў са свайго ложка.

Упоцемках ён ціхенька абуў лапці, накінуў кажух на плечы, надзеў шапку на галаву і, прыслухоўваючыся да здаровага, роўнага храпення сваёй жонкі, выйшаў з хаты. У сенцах узяў пусты мяшок, які ляжаў на кубле, і высунуўся на двор.

Было за поўнач. На двары стаяла імгла. Шэры снег аддаваў пахам прадвясенняй вільготы і свежым гноем. Ігналя некалькі хвілін стаяў, як бы разважаючы аб нечым, потым цвёрдым крокам падышоў да хлява і стаў ля варот.

— Што робяць жывёлы?

Рыкнула карова і заіржала кабыла: пачулі свайго гаспадара ля варот. Гэта кранула такія струны Ігналёва сэрца, ажно ён, як вар'ят, схваціўся за галаву. Вялікая рашучасць выявілася ва ўсім целе, ва ўсіх рухах. Ён цвёрда і смела выйшаў на вуліцу, размахваючы рукамі. Азірнуўся па баках і пайшоў уздоўж вуліцы да канца вёскі.

— Я тут не вінават,— разважаў ён сам з сабою:— не мне карысць з гэтага. Усё роўна карова не дае малака, а на слабой і старой кабыле нават у лес па дровы не паедзеш.

Але не магу далей цярпець... Толькі ў каго? У якога гаспадара ўкрасці мяшок сена?.. Ды не красці, а проста так вазьму, а ўлетку, у час сенакосу, уночы, каб не ведаў ніхто, аднясу назад да яго копнаў, і дзела будзе шыта і крыта, і сумленне будзе чыстае. Толькі да каго ісці? Пайду да Марціна. Яго сенакос за рэчкай мяжуецца з маім логам. Адкіну яму летам пару ахапкаў сена,— і нічагуткі. Так пазычаць у каго-колечы ўдзень, дык ужо ніхто не дасць. Учора адмовіліся. А жывёліны цэлыя суткі галодныя стаяць.

Ігналя хлюпаўся ў сваіх атопках сярод вуліцы, дзе ў глыбокіх калдобінах стаялі лужыны. Потым ён пайшоў агародам нацянькі, не разважаючы нават аб тым, што сляды застануцца свежыя і яўныя ў гладкім снезе...

Дзесьці забрахаў сабака, заспяваў певень. Жудасна зрабілася Ігналю і не па сабе. Ён прыстанавіўся, прытаіўся і пачаў пільна азірацца вакол.

— А ўсё ж такі я іду ўкрасці... першы раз у жыцці...

Холад агарнуў чалавека.

...Эт! Нічога не зробіш.

Як усё супакоілася, ён пацягнуўся далей. Трапіў адразу да пуні Марціна, якая стаяла на гумне, далёка ад хаты і хлявоў. На варотах вісеў маленькі замочак. Тут ужо Ігналя ні аб чым не думаў, нават не агляянуўся па баках. Пакруціў замок туды-сюды, і слабы замок, які бараніў дабро толькі ад сумленных людзей і вісеў так сабе, на пострах, адламаўся.

Ігналя нават не спадзяваўся, што так лёгка гэта яму ўдасца. Ён пачаў адчыняць вароты, каб не рыпелі. Ён аж язык выставіў ад унутранай натугі. Яму трэба было адкрыць такую шчыліну, каб толькі цела яго праціснулася. Гэта рабілася ў яго так асцярожна і ціха, як бы ён нападаў на спячага чалавека, каб зарэзаць яго. Ён сам дзівіўся, што нічога не чутна — не скрыпяць вароты Марцінавай пуні, якія, як яму вядома, заўсёды заводзяць сваю музыку. Вароты нібы анямелі, і шчыліна шырэла і шырэла цёмным ценем, нібы адчыняўся змрочны дол магілы...

Ігналя ўлез у пуню і памалу зачыніў за сабою вароты. Зусім цёмна было вакол. Мядовы пах мурожнага сена пранік у нос,— такі моцны пах, што проста казытаў у горле. Ад прыемнага паху ён ажно вочы заплюшчыў. Так даўно ў сваёй пуні Ігналя не чуў гэтага паху, што ён здаўся чалавеку яшчэ болей прыемным, болей смачным, чым заўсёды.

Ігналя кінуў мех на зямлю і даваў шарыць рукамі: натknuўся на сена. Яму здалося, што зараз сам возьмецца есці гэтае сена — і сапраўды ўзяў у губу некалькі калівaў і пачаў жаваць. Потым схваціўся, што не для сябе бярэ, а для жывёліны: плюнуў і выпрастаўся. Тут ён успомніў, што кінуў мех на зямлю. Запаліў запалку, знайшоў мех, плюнуў у руку, загасіў у сліне запалку і ўрэпіўся зубамі ў край меха, прытрымліваючы яго левай рукой, а правай пачаў пхаць сена ў мех. Рухі ў яго рабіліся пры гэтым хуткія і старанныя. Сена шастала пад яго рукамі... Гэты шаст аддаваўся ў яго вушах вельмі прыкра. Ён стараўся як найхутчэй напхаць мех, шаст сухога сена пры гэтым павялічыўся, глушыў мазгі. Здавалася, што сена жывое і сіплівым голасам шэпча:

— Не чапай мяне, бо я чужое, чужое, чужое...

У Ігналя сэрца забарабаніла.

Раптам ён пачуў галасы. Людскія галасы непадалёку ад гасцінца. Ці мо здавалася? Ігналя перастаў працаваць і пачаў прыслухоўвацца. Сэрца так стукала, што ён думаў, нібы гэта нечыя ногі тупаюць каля пуні. Але вось яўна і выразна пачуў гутарку двух людзей. Дзівіліся яны, што ў Марцінавай пуні вось бліснуў агонь і раптам згас.

— Так позна гаспадар не мог капацца ў пуні.

— Або злодзей, або нечысць нейкая.

Ігналя нават пазнаў, чые галасы. Гэта суседзі: Арцём з Міхалкам. Яны якраз, як прыпомніў ён, пайшлі сягоння на кірмаш у мястэчка і вось варочаліся дахаты. Ён застыў на месцы ад спалоху. Зуб аб зуб заляпаў. Калені задрыжэлі. Як бы прырос да зямлі. Не мог крануцца з месца.

А галасы раслі і раслі. Людзі падыходзілі бліжэй...

— Прапаў я, злітуйся, божанька!..

Кінуўся непрытомны ў сена каля сцяны і давай зарывацца, шэпчучы: «Ліха на мяне!» Зарыўся ў сене і ўсё шчыльней заплюшчваў вочы: ён сніць нешта страшнае. Зараз сон міне...

## III

Тым часам Арцём і Міхалка падышлі да пуні. Ігналя добра чуў. Ён у гэты момант прасіў у думках сваіх бога, каб учыніў над ім цуд: каб ён, Ігналя, зрабіўся маленечкі, як муха, як рабачок, як пылінaчка, каб мог улезці ў

шчыліну сцяны і схавацца так, каб яго і сам чорт знайсці не мог.

— Хто тут? — крыкнулі Арцём і Міхалка, скрыпнулі варотамі і ўвайшлі ў пуню. Яны запалілі запалку і пачалі азірацца.

— Ці не ўцёк, гад, бо яго не відаць,— казаў Арцём, запаліўшы другую запалку.

Яны палілі запалку за запалкай, злаваліся, што запалкі псуюць і пальцы смаляць, пакуль не знайшлі мех, напалову напханы сенам, і каля сцяны — шапку.

— Гэта ж Ігналева шапка! — крыкнулі яны ў адзін голас,— Ігналева шапка!

Ігналева шапка была вядома па ўсёй ваколіцы. Яна, калісьці, як яе насіў яшчэ Ігналеў бацька, Макар, была баранкавая, але ад доўгіх гадоў аблезла, зашмальцавалася, як бы дзёгцем абмазаная, і да гэтага яшчэ ўся парвалася, і вата вылазіла наверх шматамі. Па ўсёй ваколіцы, калі хацелі каго колечы вылаяць, дык гаварылі: «аблуплены, як Ігналева шапка», «страціў фасон, як Ігналева шапка», «вымазаўся, як Ігналева шапка», або: «француза ў нашай вёсцы помняць толькі двое: сталетні дзед Тодар і Ігналева шапка». Шапка карысталася вялікай славай.

— Ну, шапка, дзе твая галава? — крыкнуў Арцём.

— Ігналя, дзе ты? — крычаў Міхалка.— А д'ябал яго ведае, дзе ён тут схаваўся.

— Вось ён які спрытны! — сказаў Арцём.

Міхалка вылаяўся брыдкім словам і крыкнуў:

— Вылазь, злодзей, а то жывога не выпусцім! Не хватала яшчэ, каб злодзеі завяліся ў нашай вёсцы.

— Ліха на мяне! Ліха на мяне! — бурчэла нешта з-пад сена, нібы само сена гэта гаварыла, або нейкі злы гуменнік, які тут сядзіць. У сене заварушылася. Паказаліся Ігналёвыя атопкі, ногі. Ігналя, стогнучы і мармочучы, вылез.

Сена выплюнула непрыстойнага свайго ворага, радзіла чалавека. Ігналя стаяў перад суседзямі.

— А, суседзі, а родненькія, пашкадуйце! — залямантаваў ён.— Дальбог, у першы раз...

— Ды ты, чалавеча, шапку забыўся. На, маеш сваё дабро! — сказаў Арцём.

Ён так моцна насунуў шапку на галаву Ігналі, што той аж падсеў, сагнуўся.

— Ну, ідзем у хату! Жыва! — крыкнуў Міхалка. Вывелі Ігналю з пуні.

— Пашкадуйце! — плакаў і стагнаў Ігналя.

— Злодзея шкадаваць не трэба! — зашыпеў злосна Арцём.

— Во і замок зламаў! — сказаў Міхалка і падаў замок, які ляжаў ля варот.

— Гэй, зладзюга!

Міхалка ўдарыў Ігналю замком пад бок.

— Мы табе пакажам!

Ігналя застагнаў. Рукі ў яго павіслі, як анучы. Ён ішоў па сцежцы паміж Арцёмам і Міхалкам, як арыштант.

— Хлюп! Хлюп! — гаварылі яго мокрыя дзіравыя атопкі: скардзіліся на гаспадара свайго, што павёў іх па кепскай дарозе. А ў Ігналі думкі блыталіся, як спуджаныя птушкі, кіраваліся да адной мэты. Ён пачуў у душы сорам, такі вялікі, страшны сорам, ажно млосна рабілася, у вачах зялёныя кругі стаялі. Незвычайнай штукі зажадалася яму: каб адчынілася зямля і каб яго, Ігналю, жывога глынула, каб ён болей свету-сонца не бачыў. Або няхай лесвіца спусціцца з неба ўніз да самых ног яго. Ён бы тады карабкаўся ўверх па гэтай лесвіцы вышэй за воблакі, вышэй за зоркі. Карабкаўся б угару, угару... Так усё жыццё, усю адвечнасць і біўся б галавой аб лесвіцу, каб заглушыць адно прыкрае слова, якое звінела ў яго вушах.

«Злодзей».

Ён прасіў літасці, каб вецер-буралом развеяў яго, Ігналю, у пясок, у попел, каб ад яго не засталося ніводнай костачкі, ні валасочка...

Захоплены гэтымі думкамі, ён не прымеціў, як яго ўвялі ў Марцінаву хату. Нічога не зразумеў, не бачыў, што вакол яго голасна гаварылася і рабілася. Ні дзеля яго падняўся такі гармідар. Ачухаўся толькі тады, як у хаце запалілі газніцу.

Прачнуліся ўсе хатнія і пачалі з дзівам і злосцю аглядаць Ігналю, нібы бачылі яго ў першы раз. І вочы, і нос, і твар, і постаць яго былі для ўсіх незнаёмыя. Увесь выгляд яго змяніўся. Валасы скалмачаныя, у сене. Да парваных вопратак прыстала космамі сена. Ён напамінаў калматага дамавіка, лесуна або вадзяніка, якіх калісьці малявалі ў казках.

Зусім не Ігналя. Не той ціхі, маўклівы, нязграбны і неадважны чалавек, які ніколі ў сваім жыцці і муху не зачапіў. Гэты ўчынак адкінуў яго ад людзей на вялікую далечыню, на бязмерную глыбіню, адрозніў яго ад іх.

«Злодзей» — насілася страшнае слова вакол яго.

«Злодзей» — гаварылі ўсе на розныя лады — гнеўна, з крыўдай, з жалем, кпліва і голасна, і шопатна.

«Злодзей, злодзей, злодзей» — чуваць была дзікая музыка.

«Злодзей» — вісела ў паветры нямое гадлівае слова. Яно агністым знакам прыстала да яго постаці і ніколі, ніколі не адстане... Людзі не забудуць... Будуць расказваць па ўсёй ваколіцы, на ўсе лады, з рознымі дадаткамі, з гучнымі дамаляваннямі, з прыкрай брахнёю. Будуць апавядаць у будні дзень, у святочны, на кірмашах, на сходах. Будуць усе дзівіцца, ківаць галовамі, смяяцца, шкадаваць, гневацца. Ігналю нідзе праходу не дадуць. Куды б ён ні пайшоў — усюды будуць на яго пальцамі тыкаць, паказваць:

«Во — злодзей, злодзей...»

Вакол яго будзе відушчы смаляваны арэол надмернага сораму, якога не змыеш ні ў якай вадзіцы. Ніякія дактары лекамі, ніякія варажбіты замовамі не адымуць у яго гэтага сораму.

Ігналя будзе ўцякаць ад свайго смяртэльнага ворага — сораму, а сорам гэты будзе заўсёды, як цень, як кажанныя скрыдлы, тырчэць за яго плячамі... Як Ігналя пусціцца наўцёкі, дык сорам загародзіць яму дарогу, вышчарыць зубы, зарагоча, як нячысцік, і скажа:

«Я тут! Я з табою, не вырвешся ад маіх лап!»

І гэтак да смерці... А калі Ігналя памрэ, дык сорам яго ўсё роўна жыць будзе. Сінім аганьком будзе вартаваць яго магілу. На Ігналевых хаўтурах будуць аб гэтым гаварыць. Унукам і праўнукам будуць расказваць. Гэты сорам застанецца на ўвесь яго род.

Добрая памятка забываецца, а кепская — ніколі, ніколі.

Такога кшталту думкі, толькі ў заблытанай форме — няясныя і путаныя — таўкліся ў гэты час у галаве Ігналі. Ніколі ў жыцці гэтак мозг яго не працаваў, як цяпер. А яго вусны шапталі пры гэтым бесперастанку:

«Ліха на мяне! Ліха на мяне! Ліха на мяне!»

Гэтыя словы яшчэ болей злавалі людзей у Марцінавай хаце.

## IV

Урачыста падвялі Ігналю да стала. Паставілі яго, як драўляную нежывую фігуру з апушчанай уніз галавой. Урачыста палажылі паламаны замок на стол, пасля чаго расселіся з нейкай павагай і цырамоніяй. Урачыстасць і цырамонія перад страшным судом над Ігналем.

— Г-м-м! — сказаў Арцём,— даравацъ нельга.

— Г-м-м! — сказаў Міхалка,— трэба яго судзіць.

— Гэта ж першы раз, пані дабрадзееньку,— вытлумачыў сам гаспадар Марцін,— можа, падаруем, га?

Мяккая, добрая нотка чулася ў гэтым «га» з запытаннем. Злосць у Марціна адпала.

— Дараваць! Дараваць! — загаварылі ўсе хатнія.

Арцём з Міхалкам заартачыліся.

— Ты баішся, каб са злосці Ігналя потым цябе не падпаліў? — запытаўся Арцём.

— Думаеш, што ён потым табе адамсціць? — казаў Міхалка.

— Не, пане дабрадзееньку, нічога не думаю. Але вось гэта ж першы раз. Ён болей чужога чапаць не будзе. Падаруем, га?

— Га, га,— перадразніў Арцём.— Ды ты, Марцін, дурны, як цацярук! Вось дзеля гэтага, што ў першы раз, дык і дараваць нельга. Калі цяпер пакараем, дык ён дзесятаму закажа не красці, а падаруем, дык выгадуем новага злодзея на пагібель нашай ваколіцы. Пачаў з сена, а потым коней будзе выводзіць з нашых хлявоў.

— Нельга, нельга дараваць сукінаму сыну! Гэта ж асмяюць нас усе! Гэта ж крымінал! — гарачыўся Міхалка.— Гэта ж потым яшчэ нас да суду пацягнуць, як даведаюцца! Гэта ж быў крадзеж са ўзломам. Гэта ж ён во — замок паламаў!

Ад злосці Міхалка моцна стукнуў кулаком аб стол. Замок падскочыў і зазвінеў: адазваўся.

— А праўда, пане дабрадзееньку, праўда! — згадзіўся Марцін.— Гэта ж са ўзломам. Чаму ты гэта зрабіў са ўзломам, Ігналя, га?

Мудронае «са ўзломам» пераканала раптам і Марціна ў вялікай праступнасці Ігналі, якая ніякім чынам не можа быць падаравана. Яму ўспомніліся розныя суды за зладзействы ў ваколіцы, на якіх за «ўзлом» строга каралі астрогам! Калі бываў «узлом», дык земскі начальнік надта

рэдка змякчаў гэты «ўзлом» звычайным хабарам і лапоўкай. Хабар павінен быў быць шчодрым.

— Са ўзломам...— паўтарыў Марцін і ад малой злосці перайшоў у вялікі гнеў.— Што ж ты гэта нарабіў, Ігналя? Скажы, пане дабрадзееньку, га? Што нарабіў? Злодзей ты! Злодзей са ўзломам! Зладзюга-а-а...

Марцін стукнуў кулаком аб стол. Замок зноў адазваўся гнеўным звонам.

Кожны раз, як кулак удараўся аб стол, агонь газніцы дрыжэў, мільгаў; дрыжэлі цені на сценах: уся хата гневіцца на злодзея.

Вочы ўсіх утаропіліся, упіліся ў «зладзюгу». У кожнага ў душы адбіваўся асабісты страшны вобраз яго. Не Ігналя, а нейкі звер — не звер, а людаед — не людаед. Нешта надзвычайна нялюдскае і агіднае.

Ігналя і шаптаць перастаў. Яшчэ ніжэй апусціў галаву, акамянеў, адубеў.

Настрой у людзей быў падняты не на яго карысць.

— Зладзюга, пане дабрадзееньку, што ж ты нарабіў? — гарачыўся Марцін.— Глядзі во, на замок глядзі...

Марцін тыцкаў яму замком у твар.

— Глядзі.

І тое, што Ігналя ні разу не глянуў на замок, Марціна яшчэ горш злавала. Ён пачаў кулаком правай рукі падымаць знізу ўверх за бараду голаў Ігналі, левай рукой тыцкаў замком у самыя вочы.

— Глядзі!

Ігналя так моцна ўціскаў галаву ўніз, ажно зубы ў яго скрыпець пачалі, твар крывёй наліўся. Аднак жа Марцін зарвануў яго голаў уверх. Ігналя пачаў коса круціць зажмуранымі вачамі па баках, зрэнкі яго пачалі іскры сыпаць, як у дзікага затраўленага звера. Страшным зрабіўся...

— Не гаварыць з ім, не дурачыцца, а звязаць ды ў воласць адправіць! — грымнуў Арцём.

— Вязаць! Вязаць! Во, гэта — дзела! — згадзіўся Міхалка.

— Наста, дай лейцы сюды! — захрыпеў Марцін.

— Ідзі сам бяры! — сказала яго жонка Наста.

Дзеці ад страху пахаваліся па кутах.

Марцін выйшаў у сенцы. Прынёс адтуль лейцы, валок іх па зямлі, як даўгую вужаку. Трое разгарачаных людзей падышлі з імпэтам вязаць чалавека, які ледзь жывы стаяў ля сцяны. Адвялі Ігналю на сярэдзіну хаты і

сталі вакол яго. Ніхто з іх гэткай работай ніколі не займаўся. Не ведалі, як яго вязаць. На гора, яны і звязанага чалавека ніколі не бачылі, толькі чулі, што злодзея трэба вязаць.

Марцін трохі зморшчыў лоб і глянуў у кут наверх, дзе ў яго віселі «святыя» абразы. Ён успомніў пра бога ў гэтую хвіліну, успомніў, як «сына божага» вялі на Галгофу звязанага. Вось у куце вісіць абраз: легіянеры рымскія вядуць звязанага Хрыста, а за ім натоўп дзікіх людзей бяжыць. Мадэль ёсць! У бога рукі вісяць на голых баках, а вяроўка абкручана вакол некалькі разоў.

«Во, як трэба вязаць, пане дабрадзееньку!» — падумаў Марцін. Сарваў з Ігналі кажух і пачаў абкручваць яго вяроўкай. Ён некалькі разоў абыходзіў вакруг Ігналі.

Гэта рассмяшыла Арцёма і Міхалку.

— Кінь, Марцін... І так не ўцячэ,— казаў Міхалка.

— Мы яго лепей сваім судом,— адсцёбаем гэтымі лейцамі, і годзе. Ён болей красці не будзе.

## V

— Сваім судом... лепей сваім судом, братцы...— замармытаў раптам сам Ігналя замагільным голасам.

— Што ж, пане дабрадзееньку, няхай будзе сваім судом! — згадзіўся Марцін і пачаў адкручваць вяроўку, дзеля чаго яму прыходзілася зноў прайсці свой танец вакол Ігналі, але ў адваротны бок.

Тут толькі «суддзі» дзівіліся, чаму яны не пачалі з гэтага. Здаецца, рэч такая простая: злавіў злодзея — бі і не шкадуй.

— Лажыся! — закамандаваў Марцін,— і, пане дабрадзееньку, кашулю падымі: трэба «па-настаяшчаму». А вы, хлопцы, будзеце яго трымаць за рукі і за ногі.

Ігналя слухмяна лёг на падлогу тварам уніз і падняў кашулю. Арцём і Міхалка ўзяліся яго трымаць за рукі і за ногі. А Марцін падняў лейцы...

Ігналя ляжаў на зямлі. Жоўтай плямай вызначаліся яго худыя голыя плечы і паясніца, якая мела на сабе цёмны, брудны след ад пояса вакол усяго цела. Дрыжэла голае цела чалавека. Кожную жылку перабіралі дрыжыкі.

— Хутчэй, хутчэй! Раз, два, тры! — закамандавалі ў адзін голас Арцём і Міхалка.

Марцін пачаў «караць»...

І чым болей ён біў, тым болей яшчэ біць хацелася. Ігналя ціха войкаў. Жонка і дзеці Марціна плакалі, прычыталі.

Жонка Марціна ледзь адарвала мужа ад Ігналі. Арцём і Міхалка таксама адскочылі ўбок, бо Марцініха абліла іх халоднай вадой.

Хутка ўсе ачухаліся. Ім было сорамна, нялоўка глядзець адзін на аднаго. Да Марціна звярнулася яго звычайная дабрата.

— Ну, пане дабрадзеенька,— звярнуўся ён да Ігналі газвычайным голасам без злосці,— шкада мне тваіх галодных жывёлін; яны ж не вінаваты, што ў іх кепскі гаспадар. Мех сена ты занясі дахаты. Увосень аддасі.

Ужо неба пачало шарэць, як Ігналя валок дахаты ёмка напханы сенам мех. Гарачка пранікла ўсё яго цела. Нейкі салона-горкі пах прыстаў да яго носа. Ён уцягваў у сябе свежае паветра вільготнага прадвясенняга снегу, круціў галавой, хацеў адтрасці ад сябе гэты прыкры пах — і не мог. Ён ні аб чым не думаў, толькі вялікі гнеў панаваў у яго душы на самаго сябе.

— Ліха на мяне! Ліха на мяне!

Не чуў, як ногі глыбока ступалі на калдобінах, як хлюпалі парваныя атопкі. Не бачыў, як сена сыпалася ва ўсе бакі, пакідаючы за сабою па Ігналевых слядах адзнакі вечнага вялікага сораму.

Чым бліжэй Ігналя падыходзіў да сваёй хаты, тым рухі яго рабіліся цяжэйшыя, тым марудней ён ступаў, тым мацней сапеў пад цяжарам сваім.

— Ліха на мяне!

Кінуў раптам мех з сенам у лужыну, прытаптаў нагою і пайшоў паволі дахаты з пустымі рукамі...

## ПАНСКІ ДУХ

### (Быль)

Прысады цягнуліся ад маёнтка да самай вёскі. Два шэрагі шумлівых старасвецкіх ліп былі жывым ланцугом, які пачынаўся ад панскіх пышных палацаў і канчаўся ля шэрай убогай вёскі.

Крэўнасць паміж вёскай і маёнткам была вялікая: і

маёнтак і вёска называліся Зырачанамі — памятка ад старых паноў Зырачанскіх, род якіх цягнецца ад самага патопу, герб якіх красаваўся пекнай разьбой ва ўсіх старых пакоях панскіх палацаў.

Панскі дух лунаў над усёй ваколіцай...

Панскі бізун і мужычая спіна вякамі ўмацоўвалі «крэўнасць» паміж панам і мужыком.

Рамантычнае «калісьці» пакінула свае сляды да самай рэвалюцыі: лепшыя землі, лепшыя лугі і ўсе лясы засталіся пасля паншчыны ў памешчыкаў. Мужыку прыходзілася знімаць шапку перад панам і кленчыць, каб пан дазволіў яму сухастоечку вырубіць на дровы або карову пасвіць у панскім лесе.

Крэўнасць паміж вёскай і маёнткам была моцная. Яна выяўлялася ў кожнай драбніцы жыцця і перадавалася з пакалення ў пакаленне, ад дзядоў да ўнукаў. Перадавалася гэта «крэўнасць» праз вялікую векавую нянавісць паміж панам і селянінам. Смяртэльная нянавісць кіпела ў кожнай кроплі крыві гэтых двух родаў...

Шумелі старыя каравыя ліпы, угляданіся ўніз на сляды мужычых лапцей і панскіх лакіровак і ківалі вершалінамі, як бы хаваючы вялікую таямніцу, чакаючы нечаканага.

І таемнае «нечаканае» прыйшло. Настала воля. Паны ўцяклі, але застаўся ў Зырачанах «панскі дух»,— як гаварылі сяляне,— засталося пачуццё «крэўнасці» паміж панамі і мужыком на кожным кроку, на кожнай лапінцы зямлі.

Шумелі старыя панскія прысады, трывожна шушукаліся, чуючы захаваную небяспеку.

Грамада зырачанскіх сялян ішла ў маёнтак. Глухі шум гнеўных галасоў палохаў ліпавыя прысады. Цёпканне лапцей па лужынах трывожыла цішыню...

Грамада мінула прысады, кінулася ў маёнтак. Грозныя гукі мужчынскіх і жаночых галасоў даносіліся ў прысады з панскіх палацаў. Трэск дзвярэй, дзынканне шкла, рогат і гнеўныя крыкі плылі адтуль, дзе красаваўся герб паноў Зырачанскіх.

Успацелы, засопшыся, бледны, без шапкі спяшыў да маёнтка фельчар Зяблік. Смешна перавальваючыся з боку на бок, ён паглядаў на палацы з трывогай. Кожную мінуту яму здавалася, што во-во зараз успыхне чырвань пажару, зараз выбухне полымя, зараз узнімецца ўгару чорны слуп едкага дыму.

Фельчара праняла жаласць. Вабны сон яго жыцця знікаў разам з панамі. Хоць фельчар родам быў селянін, але ад самых малых год марыў стаць панам. Усё панскае было яму дарага і міла. Жыва ўспомніў, як маладая пані надоечы верхам на кані ўцякла ў суседні маёнтак, успомніў яе зграбную постаць, тонкія рукі, якія спрытна кілзалі стаенніка. Не мог фельчар мірыцца з тым, што такая ўкраса Зырачан ужо болей не вернецца. Ён быў упэўнены, што пані вернецца назад.

Пакуль ён даляцеў да маёнтка, ужо людзі былі там. Хтосьці барабаніў рукамі па раялі, хто трымаў у руках партрэты польскіх каралёў у цяжкіх залачоных рамах, а хто калом вокны павыбіваў. На падворку былі навалены кучы вопратак, пасудзін, скураной і плюшавай мэблі, сталы, кнігі і розныя бліскучыя рэчы.

— Не чапаць адгэтуль нічога! — ахрыплымі галасамі крычалі старыя дзяды.

— Не трэба нам гэтага панскага духу!

І старадаўняя нянавісць, выгадаваная вякамі гнёту і здзеку, гарэла цяпер у сялянскіх вачах вялікім гневам.

— Не чапаць адгэтуль нічога, а то галовы пашчапаем!

— Усё спалім! — крычалі старэйшыя.

— Ды шкада нішчыць, лепей забярэм сабе!

— Няможна, няможна! Мы не грабежнікі!

— Кнігі, кнігі возьмем. Дзяцей па іх вучыць будзем...

— Не трэба нам панскіх кніг... Там панскі дух... Па іх дзяцей нашых вучыць няможна. Усё, усё спалім разам з палацамі!

— Шкада гэткія пекныя палацы нішчыць...

— Усё агнём пусцім, каб пылу і праху не засталося ад паганых сцен. Тут катавалі нашых дзядоў. Тут кроў наша лілася пад панскім бізуном...

Пачаліся сваркі, лаянкі.

Адны шкадавалі без толку нішчыць дабро, а другія налягалі, каб і звання не пакінуць ад «панскага духу».

Фельчар Зяблік, адданы раб паноў Зырачанскіх, стаяў здалёк, баючыся блізка падысці да раз'яраных мужыкоў, і думаў:

— Ой, будзе ім ад пані! Ой, будзе!

Фельчар дрыжэў ад страху і не рад быў, што сюды папаў.

...Не ўдасца выратаваць маёнтак...

На гумне загарэлася старая драўляная пуня. Бухнуў вялікі агонь... Хтосьці абкладваў саломай старыя палацы...

Атраду чырвонаармейцаў удалося патушыць пажар, удалося ўгаварыць сялян, каб разышліся па хатах.

Цяпер на тым самым месцы пабудавана для вясковых дзяцей добрая школа.

Рады сяляне, што ім тады перашкодзілі пусціць маёнтак агнём. Панскага духу, якога сяляне так баяліся, там цяпер няма.

Ліпавыя прысады і цяпер растуць.

Фельчар Зяблік, які пайшоў у бандыты — паліць вясковыя хаты, недзе загінуў разам з панскім духам.

## НА ЗАЧАРОВАНЫХ ГОНЯХ

На зачарованых гонях, нібы тры адвечныя вартаўніцы, шушукалася тройца зграбных стромкіх хвоек. Нібы карагодніцы, якія во-во пусцяцца ў скокі, хвойкі рухалі зялёнымі пругкімі рукамі-лапкамі.

Вілаватымі ланцугамі-карэннямі хвойкі былі прыняволены некім да гоняў. Хтосьці паставіў іх тут глядзець за тым, што чыніцца вакол.

Загартаваная двухклыковая саха грызла зачарованыя гоні з году ў год, пераварачвала лусты-скібы чарназёму. Смаглай, жывой звярыною з дрэва і жалеза саха ўядалася глыбока ў глебу.

Нуканне і тпруканне аратая, лясканне драцянкі па абручах-скабінах калматай кабылкі сыпаліся на глебу невідочным насеннем. Як шрот аб бляху, дзынкалі гукі мужыцкія аб чорныя барозны, аб сухія равочкі.

Земляроб пры гэтым гнуўся і крактаў. Во-во прыпадзе грудзьмі да гоняў. Во-во зрасцецца з чарназёмам. Во-во і кабылка распластаецца-расцягнецца ракам па барознах на ўсіх чатырох нагах. Глеба іх глыне — і знаку не застанецца...

Вялікай прагнасцю дыхала глеба. Яна любіла, калі над ёю рыпалі-хрусцелі косці, калі мускулы рабіліся цвёрдымі, як дубовыя сукі, і пругкімі, як сталёвыя спружыны. Яна любіла, калі гарачая жыжа поту бруднымі ручаінкамі разыходзілася па глыбокіх зморшчынах загарэлага твару. Яна любіла, калі шышкі-мазалі глебнага колеру цёрліся-шараваліся, як брускі, і фарбаваліся крывёй.

Глеба гадавала шчырае замілаванне да сялянскай болі, натужнасці і асілкасці...

Зрашатаваная агнёвымі шыламі сонечных праменняў, глеба выціскала паўзверх сваіх захаваных хохлікаў зялёныя шпількі руні.

Барадой мядзяна-злотнай кучараваліся мільённакопныя шчоткі жытніх каласоў, тырчэлі, як дрот-шчаціна на чорным карку аграмадзістага япрука. Да ярка-сонечнага полымя ў блакітнай вышцы, як ніткі-змейкі, цягнуліся каласы, упарта імкнуліся да чорных бульбінкаў-жаўранкаў, якія сыпалі з неба ў нізіны зыкі-пералівы, булькалі жвірова-жоўтай рачулкай.



Калісьці на гэтых зачарованых гонях шуткавалі дзяўчаткі-калінкі лясныя, прыгонніцы панскія, шуткавалі зазубленымі сярпамі-палумесяцамі. Сярпы жорстка глымзалі жытнія гоні, прагна глыталі каласы, сноп за снопам, мэндлік за мэндлікам.

Хай гікае панскі прыганяты, хай ляскае раменны гадзюка-бізун,— красуні маладыя перакідваліся вясёлымі жартамі.

Грэх не жартаваць, калі жар-сонейка грае, калі птушкі, званочкі двухкрылыя, звіняць, калі вакол хмялеюць шкляныя далечы і мітусяцца палосы зялёна-кудзерных гайкоў.

Грэх не жартаваць, калі ў далі-дальняй шэрыя купінкі хатак вясковых у самыя воблакі лезуць, калі з гладышкоў-комінаў коціцца дымок ружова-сівюсенькі і верціцца рухліва-бурштынавымі клубочкамі-яблыкамі...

А познімі змрокамі ідуць маладыя жнейкі дахаты, ідуць грамадкай цеснай, босыя. Чырванеюць кветкі-вышыўкі на белі востракантовых хвартушкоў. Бялеюць хусткі на ільняна-русых полымях валасоў.

Ці не лябёдкі гэта перакінуліся раптам у залачонавалосых дзяўчатак?

Ці не чарадзейніцтва рэй вядзе на вытаптанай сцяжынцы-каруне?

На спінах камень-боль вісіць. На тысячы міль цягнуўся летні дзень. Ад цямна да цямна працавалі — пан скардзіцца не павінен.

Пелі яны хорам, усе разам. Шчыры смутак, як мёд ліповы, кадзіліў змрочнасць. Волі жадалася:

Дайце вы мне вольку —
Я ў зязюльках апынуся;
Дайце вы мне крылкі —
Я да пташак прылучуся...

«Вольку!» — адгалошвала мутна-цёмная шыр сваімі чатырма старонамі.

«Вольку!» — вышываў нехта любавабнае слова на небе чырвонымі пчолкамі.

*

Гарачы кісель льецца з высотаў уніз. Сонечна-варны дзень. Зачараваныя гоні во-во растопяцца ад гарачыні, як сала на патэльні. Пад трыма хвоямі гудзіць цёмнае вобла-ка куслівых аваднёў. Зярняткамі-лятункамі носяцца яны ў паветры на адным месцы.

— Ой, ратуйце, людзюхны добрыя... ра-туй-це...— жаласліва-жудасна вохкала глеба.

— Ра-туй-це!

Стогн дзікі, працяглы, як асенняя ноч, вырываўся з-пад тройцы хваёвай, з-пад трох дрэваў нямых. Пад дрэвамі быў курганок-муравельнік. Вялікім ахапкам сіўца здаваўся ён хвойкам. У ім і па ім ёрзалі рудыя, зухаватыя мурашкі. З муравельніка тырчэла гола-меднае цела мужыка. За рукі ён быў моцна прывязаны вяроўкамі да яловага пня — так моцна, ажно рукі трэскаліся і вываравчваліся з суставаў. Па жывым карчы чалавечага цела капашыліся соткі мурашак...

Хадыром хадзілі сукі-рэбры, «чорныя» мужыцкія косці пад скурай бруднай не хадзілі, а скакалі... Валасы ў мужыка былі скалмачаныя, потныя ды абсыпаны чорнай мукою-пяском. І твар скрыўлены быў, аблеплены зямлёй: не даваўся мужык, не хацеў лезці голы ў муравельнік...

— Ра-туй-це-е...

Разявіўся моцна мужык. Чорнай трубой глядзіць скрыўлены рот. На языку таксама пясок. На носе — таксама. Упарты, відаць, быў мужык, не даваўся. Яго галавой, як сахою, аралі людзі па зачараваных гонях. Вунь і след ёсць на пругкай зямлі. Якраз баразна.

Яго цягнулі за ногі галавой уніз.

— Іначай нельга было,— казалі панскія найміты: — брыкаўся, шэльма!

— Рат...

Тут хрыплы голас абарваўся. Нібы бочка трэснула... Толькі вочы вылезлі на лоб, мужыцкія вочы — шчырыя,

жаласліва-страшныя і нямыя. Слёзы кап-кап, і мокрыя сцежачкі расціраліся па зямлістым твары мужыка.

— Хліп-хліп! Хліп-хліп!

Ціхі плач рваўся з валасатых грудзей.

Да самага вечару прыйдзецца галышком пасядзець у муравельніку. Злоўчынак быў вялікі — прыгоннік украў булку хлеба з панскай пякарні... Надта ўжо дзеці есці хацелі — жаласць прабірала...

*

Чорнай дзяругай вісіць асенняя ноч над зямлёй. Ні зоркі аднэй зверху, ні іскрачкі знізу. Вые вецер асенні, вые, як галодная звярына. Рыскае вільготны гад пад буйным дажджом і кідае з гнілой пазухі жмуты страхоццяў ва ўсе бакі. Стогне пустое поле. А дождж плюхае аб жорсткае іржаннё, якое тырчыць на зачараваных гонях няголенай барадой старога дзеда. Войкаюць тры хвойкі, ківаюцца ва ўсе бакі і крэхчуць.

Жуць і няпрытул спацыруюць па цёмных абшарынах. Золкасць коціцца атрутным макам над зямлёй. Доўгая-доўгая асенняя ноч. Канца ёй няма.

Упірайся вухам у цемру і пільна прыслухайся: шэпт, чалавечы шэпт пад трыма хвоямі хаваецца. Трывожнае, жудка-злоснае «шу-шу-шу» гойдаецца адтуль...

Кінь моцна вокам у цемру і рупна паўзірайся: цені, тры чалавечыя цені шавеляцца пад трыма хвоямі.

Хто іх клікаў сюды а поўначы глухой? — Лёс, нядоля мужыцкая!

Дзікі, прадсмертны крык нырнуў з-пад хвоек; такі крык, ажно ўся зямля закародзілася. Рэзалі чалавека, мучылі яго ў глушы.

Цішыня...

Рыдлёўка глуха совалася ў зямлю, шоргалася, дзынкала аб каменні. Доўга шапталіся тры цені, а потым утанулі, расплыліся ў чорнай вільготнай воўне асенняй ночы.

Назаўтра трывога пайшла гуляць па ўсёй ваколіцы:

— Пан прапаў... пан прапаў...

*

— Сам антыхрыст засеў у ім! — гаварыў поп пра сына Макара Канцавога.

Высокі і худы быў Міхась, Макараў сын. Вочы ў яго былі глыбокія, задумёныя і цёмна-сінія з аганьком,— зда-

валася, што зараз бухнуць яны полымем і запаляць усіх. Як глянуць на чалавека — наскрозь яго бачаць. Такія ўжо чароўныя вочы: гнеўныя, гнеўныя. Але затое як скажа слова дзяцюк, дык чырвонцам кіне — добрае, добрае было слова яго. А простае, а разам з гэтым мудрае — мужыкі слухалі і наслухацца не маглі.

— Ну, з кніжкі чытае, дый годзе!

Міхась служыў на фабрыцы ў горадзе. Час ад часу прыязджаў у родную вёску. Прывозіў кніжачкі. Але непісьменныя сяляне любілі лепей яго жывую гутарку.

Аб чым ён гаварыў?

Аб усім гаварыў ён. З яго гутарак гарапашнікі даведаліся, скуль ліха на свеце. Так добра даведаліся, што задумалі сагнуць гэта ліха ў тры пагібелі, як асілак падкову конскую. Задумалі бунтавацца проціў цара і паноў.

— У гарэтыка-Міхася рогі на лбу і хвост ззаду,— гаварыў поп:— нячыстая сіла ў ім гняздзіцца. Ён — антыхрыст.

Ківалі галовамі мужыкі і грозна маўчалі. Рукі сціскаліся ў кулакі. Вочы гарэлі. Во-во кінуцца людзі на папа... во-во юху яму спусцяць... Во-во ад яго толькі мокрае месца застанецца...

Стрымліваліся мужыкі.

Пад бокамураднік сядзеў. Вусы ў ураднiка тырчэлі, як у ката. Твар быў круглы, як качан капусты. Нос чырвоны, як бурак,— ураднік часта сівуху пробаваў. А вочы ў яго былі, вочы! Шкляныя і гідкія. Як два слізкія казённыя арлістыя гузікі, блішчэлі яго вочы. Як брудная кіпучая вада ў гаршку, бурлілася з яго глоткі хрыплап'яная непрыстойная лаянка.

— Закатую да смерці с-с-сукіных дзяцей,— бурчэў ён.— Закую ў ланцугі ды ў Сібір адпраўлю!

Уцёк Міхась. А «бунтарскія» кніжачкі з горада сяляне закапалі, як нябожчыкаў, на зачараваных гонях пад хвоямі.

*

Панскі маёнтак стаяў воддаль ад зачараваных гоняў, на паляне. Дахам бляшаным ён рос угару, а вокнамі-вачамі волата зіркаў навакол.

Вокны бачылі ўсю ваколіцу. Ад іх не ўтоішся. Сяляне, праходзячы воддаль, заўжды шапкі рвалі з галавы і комкалі іх у каравых пальцах, як надакучлівых шчанят.

У адну раніцу...

Зарагаталі вокны крывавым смехам. Задыміліся страшна.

Нібы ў панскіх пакоях стаяў нехта вялікі ды з вялікай люлькі піпкаў — дым пушчаў праз вокны.

Закашляў панскі дом, і чырвоныя языкі пачалі высоўвацца з усіх яго шчылін,— з дзвярэй і акон. Загулялі языкі, пачалі лізаць сцены. З сцен раслі ўверх велічэзнымі кветкамі!

Бу-у-ух! бу-у-ух!

Сцены зарыпелі, заскрыпелі. Уверх падымалася чырвоная гара; расла, бухала аграмадным велікодным яйцом; сыпала-брызгала з сябе крывавых пеўняў, залатых змеяў; пускала пукі зорак угару і рагатала.

Жудасна рабілася хвойкам на зачарованых гонях, жудасна і цікава:

— Якое ж гэта свята ў маёнтку? Ці ж званы званілі?

А святаў шмат — у календары не змесціш: то царскі дзень, то божы дзень, то панскі дзень, то так сабе дзень. Лічы — і заблытаешся.

На папялішчы панскага маёнтка людзі рэпу сеялі. Добрая рэпа расла — у цівунскую галаву. Дзівіліся людзі і надзівіцца не маглі. Хоць вязі ў горад на паказ!



На зачарованых гонях.

Зноў сонечны летні дзянёк. Зноў жнейкі жнуць. Толькі не для пана — для сябе. Ніхто над каркам не стаіць. Вясёлая песня рвецца з грудзей і раскідваецца на абшарах гукамі-клічамі.

> Адвеку мы спалі,
> I нас разбудзілі...

«Разбудзілі» — варочае ім водгаласамі прамяністая сонечная шыр.

— Разбудзілі!

## ВОЎК

Марозлівае паветра пахла ап'яняючай свежасцю. Было надзвычайна прыемна і лёгка ў грудзях. Ноч, асвечаная сняжыстымі далямі абшырных лагчын, прыслухоўвалася да лёгкага шастання палазоў, да глухога тупання капыт

па пушыстым гасцінцы. Кацярынінскія прысады, абрызганыя сівой шэранню, стаялі абапал тракту, як два шэрагі мармуровых багінь, і чым шыбчэй фурман гнаў каня, тым шыбчэй прысады нясліся нам насустрач.

Мне трэба было ехаць вёрст восемдзесят побач з беларуска-польскай граніцай, якую агібаў гасцінец няправільнай, ломанай лініяй. Фурманка здарылася мне выпадковая з адным пагранічным жыхаром, які ехаў дамоў. Ён ахвотна ўзяў мяне з Мінска. Мала гэтага — даў мне на дарогу вялізарную дарагую футру, а ногі сам укруціў мне ў новае дамскае каракулевае паліто, зараней абсыпаўшы яго снегам, каб выглядала, як старая вопратка.

Я спачатку здзівіўся яго далікатнасці, але хутка зразумеў, у чым тут справа: гэтыя футры яму трэба было адправіць за граніцу. У валёнкі ён мне напакаваў некалькі стопак залатых манет, гладка абверчаных паперкамі. Сам ён быў напакованы і абкручаны футрамі яшчэ болей грузна, чым я.

Гэта быў чалавек гадоў пад трыццаць. Вёрткі, энергічны і рупны. Нягледзячы на тое, што вечна недасыпаў, ездзіў па начах, ён быў поўны і ружовы — толькі вочы былі як бы трохі прыпухшыя і чырвоныя, у іх ззяў аганёк надзвычайнай прагнасці. Спачатку мы ехалі моўчкі, ціха пазіраючы фурману ў шырокія плечы, абцягнутыя жоўтым свежапахучым кажухом. Мой сусед час ад часу пільна ўглядаўся па баках, ці не едзе пагранічны пост. Часам загадваў фурману зварачаць у бок ад дарогі і ехаць хутчэй. Наогул, ён увесь час трымаў вуха востра.

Яго трывога як бы праз электрычны ток перадавалася і мне. Ад непрывычкі я трывожыўся яшчэ болей за яго і пачаў па-ягонаму падазрона ўглядацца ўдаль і пільна прыслухоўвацца.

— Што, боязна? — запытаўся ён у мяне ціха.— Адразу відаць, што чалавек не прывык. А я — дык прайшоў добрую школу.

— Я і прывыкаць не хачу. Люблю спакойнае жыццё.

— Хэ-хэ-хэ, спакойнае жыццё. Спакойна жывуць толькі хатнія жывёлы. Вы можаце так хоць дваццаць гадоў быць савецкім служачым, жыць спакойна і перабівацца з піва на квас. Хэ-хэ-хэ!

У яго кароткім хрыпаватым смяшку я пачуў едкую кпінку па майму адрасу, гордасць і веданне сабе цаны.

— Жыць на свеце трэба ўмець заўсёды, тым болей у

апошнія гады,— пачаў мой сусед спакойным тонам практычнага настаўніка.

Яго голас, прафільтраваны праз два цёплыя пушыстыя каўняры, якія пакрывалі яму і ніжнюю часць твару, выходзіў трохі прыдушаным, замагільным. Здавалася, што гэта строгая Сібілла кажа адвечныя словы праўды.

— Так. Жыць на свеце трэба ўмець. Трэба быць сільным і смела змагацца за сваё існаванне. За гэтае існаванне змагаюцца народы, змагаюцца класы. У працэсе змагання падаюць, як мухі, мільёны людзей. Зямля абліваецца патокамі чалавечай крыві, сушыцца пажарамі.

Мой сусед адхіліў свае пушыстыя каўняры, і яго голас прыняў металічны водгук. Словы, здаецца, застывалі ў марозлівым паветры, ударaліся, як шрот, аб шырокія плечы фурмана, аб круглы крыж высокага каня.

Я ціха прыслухоўваўся да яго гутаркі.

— Жыць, бaценька, кожнаму хочацца. Кожны шукае крыніцу жыцця па-свойму. Дзе схавана, па-вашаму, крыніца жыцця, дзе?

Ён выставіў на мяне пару вуглёвых воўчых вачэй, якія смагла ўпіліся ў мае вочы.

Мне зрабілася жудасна ад яго ўспалёных зрэнак.

— Крыніца жыцця, як зачараваная царэўна, захавана ў жоўтым метале — у золаце. За золата купіш сябе ўсе прыемнасці ў жыцці — і гонар, і пашану, і пекных кабет, і, нават, найлепшыя чалавечыя ідэі. «Усё дастанеш за золата»,— казаў ён, урачыста адчаканьваючы кожнае слова.

Я выставіў на яго здзіўленыя вочы. Ён гэта прымеціў.

— Дзівіцца тут няма чаго. Дзівяцца толькі дзеці і дарослыя людзі, падобныя да дзяцей. Золата — гэта ўсё. За золата я магу ўвесь свет купіць.

Мой сусед зняў рукавіцы, пачаў размахваць рукамі і горача гаварыць.

— Як герой, як рыцар, я змагаўся за здабыванне золата ад малых гадоў. Да нічога іншага ў мяне не было столькі замілавання і пашаны, як да золата. Усе думкі мае былі заняты толькі адной ідэяй; узбагацець.

— Высокая ідэя,— сказаў я з іроніяй.

— Смейся, паяц,— буркнуў ён злосна.— А што такое ўсе ідэі, як не паляпшэнне чалавечага дабрабыту? А паляпшэнне дабрабыту можа быць толькі праз золата. Вось вам і зачараваны круг.

— Не праз золата, а праз разумную працу. Калі не будзе працы, дык чалавек спухне з голаду, маючы перад

сабою горы золата. Савецкая ўлада і дамагаецца знішчыць каштоўнасць золата, знішчыць эксплуатататараў.

— Хэ-хэ-хэ, і за гэта аддае свае сілы, каб некалі ўнукам добра жылося. А я хачу жыць не для ўнукаў, а для сябе. Жыццё нашае кароткае, а на будучыню мне напляваць.

І мой сусед сапраўды плюнуў убок звонка і шчыра.

— Каб заўсёды людзі так плявалі на будучыню, дык мы б усе і па сягонняшні дзень дзікарамі засталіся, у звярынай шэрсці,— сказаў я.

— Ну і засталіся б. А што, мы цяпер не дзікары? Мы жывём тымі самымі інстынктамі, як першабытныя людзі; чуць што, дык літаральна зубамі грызём адзін аднаго. Я так і гляджу на сябе, як на звера, як на ваўка, напрыклад. Во, грыз бы ўсіх, хто папаўся б мне між клыкоў. Закон жыцця, баценька!

Ён так на мяне зірнуў, ажно мне здалося, што побач са мною сядзіць воўк, які перакінуўся ў чалавечы вобраз.

Мы ўехалі ў лес. Сосны стаялі моўчкі, як зачараваныя. Здалёку пачулася жудасна-смутнае выццё галодных ваўкоў.

— Лёгкія на ўспамін,— засмяяўся мой сусед.— Толькі не бойцеся іх. Яны мне не першыня.

Конь вастрыў вушамі і нёсся з усёй сілы, кідаючы ў санкі снег капытамі, як лапатамі ўсё роўна. Бухнуў выстрал, які пошчакам аддаваўся з усіх бакоў. Дзесьці ў блізкім хутары забрахалі сабакі.

Мой сусед пачаў спыненую гутарку:

— Трэба сказаць, што я свайму богу-золату служыў і верай і праўдай. Раней, з пачатку вайны, я вазіў гарэлку на фронт цэлымі вазамі. Потым, пры розных акупацыях, купляў крадзеныя рэчы і вось сваёй гэтай рукой забіваў людзей, якія стаялі мне на дарозе.

Я ўздрыгануўся і скоса зірнуў на свайго суседаваўка.

— Нічога ў гэтым страшнага няма. Я змагаўся за сваю ідэю. Два гады таму назад я перапраўляў з Савецкай Беларусі ў Польшчу крадзеных коней цэлымі табунамі. Можа, памятаеце, як тады сярод белага дня ў сялян коней на дарозе адбіралі. Гэта мае агенты працавалі.

— Не гаварыце мне нічога, не расказвайце! — узмаліўся я.

— Хэ-хэ-хэ! Я вас не баюся. Вы мне нічога не зробіце. Можаце тысячу разоў перадаваць аб гэтым уладзе — яна са мною нічога не зробіць.

Чалавек гаварыў з такой пэўнасцю і так жудасна-мяк-ка, што ў мяне ад яго шчырасці язык анямеў.

— А цяпер, бацэнька, я ўжо два гады займаюся кантрабандай. Займаюся тэй прафесіяй, якую так ганіць Савецкая ўлада, за якую вельмі строга карае, за якую і вы глядзіце на мяне, як на праўдзівага ваўка. Хэ-хэ-хэ! Каб вы мелі столькі багацця, сколькі пераплыло праз мае рукі, вы б глядзелі на справы так, як я. Вы самі жадаеце мець гэтае багацце. Нашто? Ну, каб павандраваць па свеце, пажыць лепей, выкарыстаць сваё кароткае жыццё для сябе, а не для іншых, як вы нібыта робіце. Вось, каб багацце вам пасыпалася з неба гатовенькае, вы б падставілі рукі, а як самому здабываць, дык у вас ні спрыту, ні адвагі на гэта няма. Вось у чым уся розніца паміж вамі і мною. Я, бацэнька, проста дабіваюся сваіх мэт, а вы ідзіцё вакольнымі пуцявінкамі і дарожкамі.

Пры гэтым ён моцна пахлопаў мяне рукой па плячах і дружна абняў аднэй рукой.

Праз дзве футры я пачуў яго руку на сваіх плячах, нібы гідкая змяя датыркнулася да мяне.

Я сцяў зубы і маўчаў, думаючы, як вызваліцца ад яго дарагіх футраў, ад яго жмутаў золата, якія ляжалі ў маіх валёнках, і ад яго самога. Вось і паквапіўся на дармовую фурманку. Цяпер хоць кінь усё ды пехатой уцякай. Удзень я б гэта зрабіў, але ў глухую ноч, на марозе...

І я адчуваў сябе як бы ў палоне гэтага чалавека-ваўка. Прытым воля мая раптам пачала слабець. Я пачаў паддавацца яго чарам. Я пачаў яму зайздросціць, што ў яго такі добры конь і столькі багацця, што ён можа рабіць тое, што ўздумае.

Як бы ў адказ на мае думкі ён пачаў мне гаварыць далей:

— Цяпер я маю за граніцай, у Вільні, дзве камяніцы, тут наладзіў вялікі паравы млын, маю магазін у Мінску і думаю хутка ладзіць фабрыку ў Маскве. Гэта ад тых драбніц, якія ў мяне засталіся. Рэшту ўсю — у дзесяць разоў болей — у мяне адбіралі пагранічныя пасты. На Мінск мне дарога зачынена, але я іншым шляхам выпраўляю кантрабанду на Маскву і Ленінград. Я сам за гэты час выездзіў усю Расію, пабываў у лепшых тэатрах. Дзяўчатам у гасцініцах плаціў па сто, па дзвесце рублёў золатам за ноч. Нават пявесту купіў сабе за золата — вучыцца ў Маскоўскім універсітэце.

Тут ён звонка прыцмокнуў языком.

Пры гэтай гутарцы мы не прымецілі, як збоку, з зямлянкі ля дарогі, выскачылі тры чырвонаармейцы з вінтоўкамі.

— Стой! — крыкнуў адзін з іх.

Фурман моцна пагнаў каня, але насустрач паказаліся яшчэ два чырвонаармейцы. Адзін з іх выстраліў, і фурман прыпыніў каня.

Воўк папаўся ў пастку. Прапала ўся яго адвага. Чырвонаармейцы былі непадкупнымі.

Пакуль нас абшукалі, агледзелі з усіх бакоў, настала раніца. Чырвонаармейцы доўга мацалі вопраткі майго суседа і знаходзілі зашытымі шмат дарагіх каменняў.

Хоць я разумеў, што сам буду мець шмат непрыемнасцей, пакуль выясніцца справа, але лёгка мне зрабілася на душы.

Ярка-чырвоны ўсход афарбаваў аснежаныя абшары і бела-пушыстыя гаёчкі ў квола-ружовы колер. Мы ехалі пад канвоем назад у Мінск. Мой сусед сядзеў ціха і толькі зубамі скрыгатаў, як прыстрэленая звярына.

Мы ехалі праз вёскі, і людзі нас сустракалі з кпінкамі ды з крыкамі:

«Цю-га-а-а! Цю-га-а-а!»

## НА БАЛОЦЕ

— Няхай спухну, калі гэта мана, няхай спухну! — хрыплым голасам гаварыў, засопшыся, хлапчук без шапкі, са скалмачанымі, успацелыміваласамі.

Хлапчук біў закарузлым цёмна-бурым кулачком па парванай світцы ў худыя грудзі, хлёпаў па гразі босымі парэзанымі нагамі і ўсё паўтараў:

— Няхай спухну!

— У чым справа? Што такое? Гавары хутчэй!

— Няхай спухну, калі няпраўда!

У вачах хлопчыка ззяла радасць: ён выканаў сакрэтны абавязак. Ён глытаў словы, і здавалася, што ён шчыра жадаў раней спухнуць, каб лягчэй было потым апавядаць нешта вельмі цікавае і страшнае.

Яго абступіла грамада старых сялян, кабет і дзяцей. Кожны нецярпліва глядзеў хлопчыку ў рот і чакаў.

Хлопчык пазіраў ва ўсе бакі лесу і балотных абшараў, углядаўся падазрона ў цёмныя кусты і цяжка дыхаў.

— Скажы скарэй! Спухні, каб цябе чэрці, і кажы! — злосна крыкнуў адзін стары дзед, высокі і худы, са зморшчаным тварам, з жоўта-сівай бародкай. Дзед пры гэтым моцна ўеўся скручанымі пальцамі ў плечы хлопчыка і пачаў яго тармашыць на ўсе бакі.

Хлапчук нібы гэтага толькі чакаў. Ён адразу загаварыў:

— Легіянеры даведаліся, дзе мы хаваемся. Ім сказаў зладзюк Бавэлчык.

— А падліза панскі! — заскрыпеў дзед зубамі і моцна вылаяўся.— Яшчэ што даведаўся?

— Легіянеры сюды зараз прыйдуць і забяруць нашых коней і кароў. Бавэлчык іх сюды вядзе зімнікам. Яй-права, не маню!

— Вось шэльма! Вось гад! Хіба ўцячэ ён адгэтуль разам з панскімі псамі, а то дам яму ў рукі яго шальмецкую галаву — хай цацкаецца з ёю, як з гарбузом.

На балоце пачалася трывога. Мужчыны, жанчыны і дзеці замітусіліся, разышліся ва ўсе бакі — збіраць коней і кароў.

— У барок трэба ехаць праз Ціменку! Туды агіднікі не прабяруцца. І не гуртам ідзіце, а ў адзіночку,— закамандаваў дзед,— і галасу вялікага не падымаць!

Быў летні поўдзень. Забалочаная паляна, акружаная з усіх бакоў цёмнай сцяною лесу, млела ад гарачыні. Высокая па пояс зялёная шчотка травы была скалмачана людзьмі і жывёлінамі. Дзе-нідзе паміж травы ірдзелася мутна-меднага колеру балотная рудаўка, якая пазірала ўверх, нібы аграмаднае, мёртвае вока. Дзе-нідзе тырчэлі сухія, леташнія стажарні. І стажарні паказвалі ворагу, дзе хаваюць сяляне коней і кароў.

Клопатна кружыліся нізка над травою балотныя птушкі. Яны займаліся сваёй звычайнай, штодзённай працай: лавілі мух, мушак, глыталі чарвячкоў і гучна чырлікалі на розныя лады. Дзе-нідзе спакойна спацыравалі буслы.

На ўстрывожаных людзей зварочвалі ўвагу толькі коні і каровы, якіх адарвалі ад яды. Людзі ў адзіночку ціха вялі коней, гналі кароў да рэчкі. Шурхатала трава затоеным шэптам:

— Ш-ш-ш... с-с-с...

Хлюпала балота і гойдалася пад нагамі зыбка-зыбухай.

Хлю-ю-п, хлю-ю-п, хлю-ю-п!

Во людзі і жывёла праб'юць пухкі, верхні слой балота, аброслы высокай драцяной травой, праб'юць, як стары кажух, і праваляцца наскрозь, і следу ад іх не застанецца... Уздзівяцца маўклівыя буслы, зашастаюць моцнымі вахлярамі-крыллямі, падымуцца над балотам і, купаючыся ў растопленым золаце сонца, панясуць у празрыстыя далі нямую казку аб тым, як балота глынула людзей і жывёлін...

Людзі ціха цягнуліся да рэчкі жывым ланцугом, уброд перапраўляліся і знікалі разам са сваімі жывёлінамі на другім баку рэчкі ў блізкай пушчы. Апошнім прабраўся сівы, высокі дзед.

Здалёк чуваць было кулямётнае стракатанне:

«Тра-та-та, тра-та-та».

Нібы хтосьці рассыпаў боб па сухім гліняным таку.

— Гэта нашы партызаны б'юцца са шляхтай,— падумаў дзед.

Усмешка з'явілася на яго худым твары. Ён прыпомніў, як калісьці і ён з туркам біўся. Тады і войны былі інакшыя, і ўсё жыццё было інакшае. Тады гвалтам цар гнаў людзей на бітву з невядомым ворагам, а цяпер людзі самі ідуць. Усе маладыя хлопцы з вакольных вёсак пайшлі на пана, ды не толькі маладыя, а барадатыя мужыкі пайшлі.

— Як не пойдзеш, калі шляхтуны катуюць мужыкоў, зневажаюць баб, да смерці замучваюць дзяўчат, паляць вёскі. Тут мусіш пайсці... Эх, каб я быў маладзейшы!..

Дзед глыбока ўздыхнуў.

— Але што ж! Калі не я, дык двое маіх сыноў б'юцца цяпер з ворагам.

Дзед апошнім схаваўся ў пушчы. Там ён далучыўся да ўсёй грамады, якая трохі асмялела і гойкала ў лесе на жывёлін.

Праз густыя галіны высокіх дрэў сонца рэдка дзе пранікала. У пушчы стаяў вечны змрок. Пахла вільгаццю, грыбамі. Дзе-нідзе тырчэлі вялізныя карчы-вываратні, падобныя да невядомых звяроў, да фантастычных жывёлін. Мох у гэтых мясцінах рос пухкімі падушкамі, папаратнік буяў вялізнымі кустамі. Хмяліў пах багуна і пераспелых ягад. Месцамі агалялася зямля. Яна была чорная, тарфяная, тлустая, бы масла. Стаялі тут яміны з вадою, нібы хтосьці выкапаў студні. Вада была пакрыта перламутравым блескам. Навакол па мяккай зямлі былі

адціснуты чотка сляды ваўкоў, буслаў і дробных птушак. Гэта было адно з тых месц, пра якія калісьці народ расказваў страхотныя казкі — з разбойнікамі, з лесунамі, з русалкамі.

Грамада людзей была занята. Кожны пільна глядзеў за тым, каб жывёла не заблукалася ў лесе.

Людзі прабраліся і праз гэты лес і дашлі да Ціменкі — да балоцістага лугу, які доўгай і вузкай паласою цягнуўся паміж хвойнікам, сціснуты густым лесам з абодвух бакоў. Праз Ціменку яны дабраліся да сухога барка, што стаяў на невялікім узгорку цвёрдай, калючай барадой велікана.

Барок быў акружаны балотамі і лесам на некалькі вёрст вакол. Белапольскім бандам прабрацца сюды было немагчыма. Грукат страляніны даходзіў да барка глухімі, далёкімі водгаласкамі, якія ледзь трывожылі людзей. Сваіх гаспадарак яны былі пазбаўлены колькі дзён таму назад, калі паны пусцілі ў вёску чырвонага пеўня.

— Партызаны дадуць сабе раду, яны маюць шмат кулямётаў і стрэльбаў, і, пэўна, да іх ужо і бальшавікі падышлі!

Сонца апускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Надышоў вечар, і людзі, адарваныя ад свайго звычайнага ладу жыцця, ад усяго свету, зусім перайначыліся. Гора застыла ў грудзях камяністым комам. Рукі і ногі былі змучаны. Твары — загарэлыя і брудныя. Губы запякліся ад смагі, а вочы пачырванелі ад бяссонніцы.

Старыя людзі бурчэлі сабе нешта пад нос. Дзеці не сумавалі. Ім усё гэта было цікава: нічога лепшага не трэба, як хавацца па лясах днямі і начамі.

— Тут бы пастаянна жыць...— думалі дзеці.— Адно кепска, што вялікія не дазваляюць ім шуму рабіць. Гэтыя вялікія — народ дзіўны: пачалі добрую справу з вандроўкай па лясах і не давялі да канца — не даюць галёкаць па лесе, не дазваляюць свістаць, смяяцца; глядзі на матак і маўчы немаведама дзеля чаго...

Грамада людзей сабралася ў адну кучу. Дзед падазваў падлетка, які прынёс ім раней вестку аб тым, што польскія салдаты даведаліся ад Бавэлчыка, дзе яны хаваюцца.

— Сцяпанка, ведаеш што? Варта было б зноў пабегчы паглядзець, што там у вёсцы робіцца. Толькі асцярожна, каб цябе не прымецілі.

— Няхай спухну, калі мяне прымецяць! — горача сказаў узрадаваны хлапчук.

— Ідзі і не марудзь там. Варочайся адразу назад. Толькі не заблудзіся па дарозе.

Хлапчук шуснуў у лес.

Жанчыны пачалі даіць кароў у вялікія жбаны. Старыя сяляне курылі люлькі, нічога не гаворачы між сабою. А дзеці ціхенька, крадучыся, забаўляліся.

Надыходзіў змрок. Гулі і неміласэрдна кусаліся камары. Яны кружыліся цэлымі тучамі. Людзі згуртаваліся ў адну кучу і елі вячэру — хлеб з малаком. Толькі некалькі мужчын засталіся вартаваць стада, якое таксама стаяла або ляжала цесным гуртам.

Вогнішча не разлажылі. Баяліся, каб іх не прыкмецілі. Бабы ўхуталі дзяцей у світкі і кажухі і палажылі спаць. Дарослым не спалася.

Нудна і непрытульна было ў лесе без вогнішча. Вільгаць пранізвала косці.

Прайшло паўгадзіны, гадзіна. Над зямлёй стаяў яркі двурогі месяц, а сотні зорак былі рассыпаны ў сінім бяздонні неба, як залаты гарох.

Дзесьці блізка рагатала сава; маладыя ваўчаняты жаласліва вылі.

— І накруціла мяне пасláць зноў падшывальца,— сказаў высокі дзед.— Яшчэ заблудзіцца ў лесе.

— Сцяпанка не заблудзіцца,— супакойвалі жанчыны.— Ён ведае лес і балота, як свой падворак.

У барку навокал шурхатала і шастала. Людзі пільна прыслухоўваліся. Нарэшце зблізку затрашчэла за дрэвамі. Пачуўся людскі гоман.

Усе ўскочылі з сваіх месц. Ішло сюды некалькі чалавек. Іх вёў хлапчук.

— Няўжо ж легіянеры? — устрывожыліся людзі: — У легіянерскіх шынелях, з бліскучымі брылямі на шапках...

— Вось дзе канец нашым конікам і кароўкам...

Легіянеры падышлі блізка. З імі разам ішоў моўчкі сусед-здраднік Бавэлчык, які па-заліхвацку трымаў рукі заложанымі назад — мабыць, з вялікай гордасці. Пры гэтым хлапчук круціўся між легіянераў, як уюн, і весела хіхікаў.

«Няўжо ж ён іх наўмысне сюды прывёў?» — падумаў дзед. І лаянка, ядраная і моцная, сарвалася з яго вуснаў.

— Добры вечар, браткі! — сказалі легіянеры.

— Гэта ж нашы хлопцы! — закрычала весела грамада людзей.

— Нашы хлопцы прыйшлі!

— Легіянераў мы ўжо выгналі адгэтуль,— сказалі партызаны.

— У нас цяпер чырвоныя — нашы. Легіянеры, уцякаючы, пакінулі свой абоз, дык мы прыбраліся ў іхнія вопраткі. А вось гасця Бавэлчыка мы вам сюды прывялі. Хутчэй распаліце вогнішча і гляньце на суседа нашага!

У адзін момант сабралі кучу сухіх сукоў, і хутка запалала вялікае вогнішча. Пышна-чырвонымі языкамі шугаў уверх агонь.

Маладыя партызаны ў легіянерскіх вопратках са стрэльбамі ў руках падвялі Бавэлчыка бліжэй да вогнішча. Рукі ў яго былі звязаны за плячамі. Гэта быў мужык гадоў пад пяцьдзесят. Кароткі, прысадзісты, шыракаплечы. На круглым твары цаглянага колеру тырчэлі сіваватыя тоўстыя вусы. Маленькія чорныя вочкі скоса пазіралі на людзей, пазіралі драпежна і пужліва.

Бавэлчык служыў палясоўшчыкам у блізкага пана Бараноўскага, дзеля чаго і самога сябе напалавіну панам лічыў і быў у легіянераў шпікам: падказваў, дзе сяляне коней хаваюць і дзе знаходзяцца партызаны.

— Чаму, Бавэлчык, прыйшоў да нас без сваіх паноў? — запытаўся дзед.

Бавэлчык апусціў галаву.

— Чаму не ўцёк з панам Пілсудскім?

Бавэлчык маўчаў.

— Кажы! — злосна закрычаў дзед і таргануў Бавэлчыка за звязаныя рукі.

— Мы яго захапілі пры польскім абозе, калі ён краў салдацкія вопраткі,— сказаў адзін з партызан.

— Шэльма ты! Зладзюга! — злаваўся дзед. Строга зірнуў на Бавэлчыка і плюнуў яму ў твар.

Бавэлчык уздрыгануў з ног да галавы і заскрыгатаў зубамі.

— Досыць! — сказаў адзін з партызан.— Вы пабудзьце пры агні, а мы з Бавэлчыкам пойдзем на гулянку. Марш, Бавэлчык!

Бавэлчык задрыжэў. Зубы ў яго забарабанілі. Ён прыдушаным голасам замармытаў:

— Злітуйцеся, браткі!..

— Ідзі, шэльма!..

Бавэлчык не хацеў ісці, але прыклады партызан падалі ахвоты.

Ніхто Бавэлчыка не бараніў. Усе маўчалі.

Паўстанцы разам з Бавэлчыкам зніклі паміж дрэў. Вогнішча весела гарэла. Прабудзіліся дзеці і пачалі забаўляцца пры агні. Ніхто з дзяцей ужо больш не баяўся шумець і забаўляцца: старшыя ім не забаранялі.

Праз колькі хвілін барок уздрыгануўся ад грымотнага стрэлу.

З усіх старон каціліся адгалоскі. Усе паўскочылі са сваіх месц. Старыя жанчыны хрысціліся. Дзеці спалохаліся, і некаторыя з іх пачалі плакаць.

— Бавэлчык атрымаў па заслугах,— глуха прагаварыў дзед і спакойна задыміў люлькай.

## ДЭЛЕГАТКА

Пара вачэй пільна ўглядалася ў печ. Гаспадыня зухавалася.

Вочы Аўгіні (так звалі гаспадыню) былі завяўшыся, з павуцінай зморшчынак вакол. Пламень з печы адбіваўся ў іх мутнаватым блескам, нібы ў затуманеным люстэрку.

Муць у вачах і павуціна вакол іх гаварылі, што Аўгіня ўжо доўгія-доўгія годы пазірае вось у гэту печ, стаіць так абаранкам скручаная і глядзіць-глядзіць на агонь, нібы бачыць у ім таямніцу жыцця свайго. Малінавыя кудзерцы агню расчэсваюцца залацістымі пальцамі, смяюцца пылаючыя вочы, з печы на Аўгіню гледзячы, і нібы кажуць без слоў:

— Навекі ты, Аўгіня, прыкута да нас, навекі.

Пуўх-пуўх-пуўх! — трашчыць загнет на гарачым гліняным подзе і смяецца-рагоча, абдаючы гаспадыню дымным жарам.

Варушыць Аўгіня вілачнікам гаршкі, чапялой патэльню совае да вуголляў і клапоціцца. Яна сур'ёзная, як той камандзір, які войска перакідвае з месца на месца, з фронту на фронт.

Твар гаспадыні асвечваецца агнём, зморшчыны на шчоках глыбеюць. І ўсё яе аблічча выглядае глінянай пасудзінай.

Кожны рух старой гаспадыні — руплівасць. Кожны яе паварот — заклапочанасць. Кожны ўзмах рукі — кемнасць, захапленне.

Пакаштуе Аўгіня страву з гаршка, па-майстэрску губы зморшчыць, і ўсе рухі яе на хвіліну застываюць — яна робіцца як бы з каменя.

Гэта яна ўважліва і крытычна прыслухоўваецца да смаку. Крутне галавой — значыць, яшчэ не ўсё ў парадку. Як той аптэкар, асцярожненька пусціць пару абцугоў — закарэлых пальцаў — у круглую бярэсціну, шчыпне некалькі драбінак солі і трусіць у страву. Так акуратненька сыпле, што ні пылінка солі на бок не страсянецца.

Гэта яшчэ не ўсё. Гаспадыня выцягвае губы трубкай, бровы накасурыць на гаршчок і кемным вухам прыслухоўваецца да булькання вады ў гаршку. Нібы ў гаршку знаходзіцца ўсё яе жыццё, якое варыцца і кіпяціцца. Як нейкую музыку, гаспадыня любіць бульканне вады, прыслухоўваецца да малейшых перабояў і переразвонаў у гаршку і, паводлуг гутаркі стравы, угадае, у якую хвіліну яда будзе гатова.

Гаршкі — работа паміж іншым. У параўнанні з галоўнай работай гэта нават не работа, а так сабе — глупства.

Галоўнае — бліны.

Тут Аўгіня чуецца, як тая рыба ў вадзе.

Пякчы бліны Аўгіні надта прыемна, бо гэта рэч нялёгкая. А чым цяжэй, тым прыямней. Тут ад пачатку да канца патрабуецца вялікі спрыт, кемнасць і надзвычайная ўважлівасць, што выпрацоўваецца практыкай многіх гадоў. Гэту работу трэба ўмець. Аўгіня ўмее.

На шырокім жаўтаватым, патрэсканым тапчане ў начоўцы, нібы мёд ліпавы, залаціцца рошчына, ахопленая сеткай бурбалак-пузыркоў.

Аўгіня кідае на патэльню шматок сала, белага, як снег, з празрыста-ружовым адценкам колеру неба на захадзе сонца. Так падсмажыць, што і сала многа не выходзіць і блін не прыстае да патэльні. Сала распусціцца з лёгкім сквіргатаннем па дне патэльні, пакрые яе глянцам, нібы наваксаваны бот у франта. Пасля чабухне з вялікай дрыўлянай лыжкі рошчыны ў патэльню, пакруціць, паверне рукою патэльню ва ўсе бакі і — ж-жжух: расплываецца рошчына жоўтай паводкай, роўным круглым слоем.

Ад патэльні разыходзіцца густымі хвалямі смачны пах, які апетытна казытае ў носе, прыемна гладзіць горла і раскудзельваецца невідочным туманам па ўсіх кутках і шчылінах убогай хаткі.

Паставіць Аўгіня патэльню на под гарачы, воддаль ад агню, каб не прыпёкся блін, пакруціць да агню ўсімі краямі, потым спрытна пераверне блін на другі бок: блін робіцца пульхным, прымае ружовы колер, нібы круглы твар маладой дзяўчынкі.

У Аўгіні нават і першы блін комам не выходзіць.

Расце стопка бліноў на белым абрусе, засланым на зэдліку, падымаецца ўгору, як той стог на балоце. Совaецца ўверх бліновая байка, сытная казка смачнай яды.

Па блінах Аўгіня як бы чытае кнігу аднастайнага жыцця свайго, чытае моўчкі, нічога нікому не кажучы.

Усе дні тыдня Аўгіня з нецярплівасцю чакае нядзелі, каб займацца сваёй улюбёнай работай — пякчы бліны.

Дзяцей у Аўгіні няма — і першы пачастунак ад бліноў маюць кот і певень. Яны галоўныя ацэншчыкі яе таленту. Бярэ яна блін, рве папалам, і дзве палавінкі выходзяць роўненькія, нібы дно ад дайніцы, папалам разламанае. Кідае гаспадыня гэтыя палавінкі сваім гадунцам — кату і пеўню.

Кот есць спакойна, аблізваючыся, а певень хутка дзяўбе блін і робіць яго на рэшата. Аўгіня расчульваецца і... падлівае ім распушанага сала.

Глядзіць Аўгіня, як яны смакуюць бліны, і на яе твары ледзьве прыметна ўспыхвае ўсмешка. Не такая ўсмешка, як у большасці людзей, прыскаючая аганёчкамі і вабячая вясёлымі іскрамі — не.

Дзіўная ўсмешка ў Аўгіні — падобная да плачу. Твар нібы памылкова задумаў усцешыцца, але зараз жа папраўляецца, і ўсмешка пераходзіць у грымасу плачу, нават вочы туманяцца слязамі, толькі гукаў плачу не чуваць.

Твар Аўгіні мае на гэта пэўную прычыну: ён прывык штодня моршчыцца ад плачу, і іншы выгляд ён ужо прыняць не можа.

Прыйдзе Яўхім (муж Аўгіні) п'яны і зараз жа бярэцца біць жонку.

За што? Чаму?

Вось нешта скрабе сэрца, чэшуцца рукі — біцца самі лезуць. А як на чужых наступіш, дык яны,— дзіўная рэч,— як тая качарга, зараз жа назад на лоб Яўхіма наскочаць. Ён, хоць п'яны ўдрызг, а гэтага не любіць.

А жонку бі колькі ўлезе — ні словам не супярэчыць, бо такі закон сам поп ёй на лбе напісаў, каб слухалася мужа.

Аўгіня — маўклівая, пакорлівая істота — ні словам не

супярэчыць. Яго рукі за жонку, каб пабіць, а яе рукі за хвартух, каб выціраць ціханька слёзы...

Гэтак адбываецца бадай штодня. Абодва да гэтага прывыклі. Гэта як бы запаўняе ўсё іх жыццё. Без гэтага — нудна.

Рэвалюцыя нібы абмінула іхнюю хатку. Вакол нешта шумела-мітусілася, а яны — як жылі, так і жывуць. Не надта што ўцяміш у тым, што робіцца вакол, калі Яўхіму трэба гойсаць па хутарах і засценках — самагонкі шукаць. Яго жонка ведае толькі хату, поле сваё і той блакітны блін неба, які вісіць над яе галавой. На парадкі ў хаце, на ўвесь нудны аднастайны быт жыцця свайго Аўгіня мае адзін адказ:

— Так трэба!

Жыццё Аўгіні было роўнымі шалямі, якія заўсёды стаялі на адным месцы і не зыбаліся ў бакі.

А вакол жыццё новае біла свежай крыніцай. Постаці людзей выпрасталіся. Вочы новым блескам гарэлі. У голасе адчувалася цвёрдасць, пэўнасць. У кожным руху відаць было, што ранейшы лапатнік адчувае сябе гаспадаром над сабою і над усім акружаючым. Кожны разумее вартасць, сэнс і радасць жыцця ў нейкім надзвычайным імпэце працы — працы не паасобку, дзе адзін на аднаго глядзяць, як на ваўка, а працы агульнай, дзе кожны з'яўляецца адным з вялікай кроўнай сям'і-грамады.

Нават акружаючае: хаты, поле і лес у сваім старым выглядзе набылі новы змест, тварылі новыя настроі. Вялікі бунтар-грамада сарвала с прыроды луску папоўскай і вядзьмарскай забабоннасці і страху. Усё апранулася ў сонечны блеск новых песень, новых разважанняў і новых учынкаў. Прастор вабіў зусім іншымі казкамі — герaічнымі казкамі барацьбы за лепшы лёс для людзей.

Па-іншаму шарэлі імшалыя скрыні вясковых будынкаў, па-іншаму звінела птушкамі даль палёў, па-іншамуківаў цёмна-зялёным шаломам лес, бо людзі іншымі вачамі на ўсё пазіралі, палаючымі сэрцамі атулялі-спавівалі ўсё навакол.

Сяляне збіраліся на сходы, абгаворвалі розныя свае справы: гарачыліся, злаваліся, разважалі, сумавалі, радаваліся.

Новыя словы нейкімі невядомымі птушкамі мітусіліся вакол: арганізацыя, кааперацыя, выбары, узаемадапа-

мога, трохполка, камсамол, хаты-чытальні, ліквідацыя непісьменнасці і г. д., і г. д.

Аўгіня чула гэтыя словы не на сходзе, дзе іх ясна тлумачылі, а з трэціх або чацвёртых вуснаў, дзе кожны пасвойму перарабляў гэтыя словы, калечыў іх, перакручваў — і словы ў вушах Аўгіні аддаваліся дзівоснымі незразумелымі водгаласкамі. Яны звінелі, як невідочны, але буйны град. Яны, словы гэтыя, блуталіся, як маток нітак. Кожнае з гэтых слоў Аўгіня прадстаўляла нейкай жывой істотай, надзвычайнай, невідочнай да гэтага часу. Аўгіня адчувала нават як бы асаблівы пах гэтых слоў: пах кажуха з махоркай, змешанае з потам. Гэтыя словы складваліся часам і ў рыфму, як «гарнізацыя» (арганізацыя), «капірацыя»; «лікадацыя» (ліквідацыя) і г. д. Гэтым яны яшчэ больш цікавы былі, набывалі таемную сілу, вабілі да сябе, як каляровыя пацеркі.

Вось як прабівалася рэвалюцыя ў сэрца Аўгіні праз той невідочны паркан, якім яна агарадзілася ад новага жыцця.

Але аднаго разу здарылася нешта такое, што ўзварухнула раўнавагу жыцця Аўгіні. Гэта было ў нядзелю, у дзень Аўгініных бліноў.

Яўхім быў учора на сялянскім сходзе мо ў першы раз за ўсе годы. Надзвычайны быў гэты сход: сяляне пастанавілі выдаць савецкай уладзе ўсіх самагоншчыкаў свайго сельсавета. Яўхіма гэта, што называецца, за жывое калупнула. Сягоння раніцай ён абегаў усю ваколіцу і ніводнай пляшкі сівухі не дастаў — баяліся даць.

Па скрыпе дзвярэй, па адрывістым шлёпанні лапцей па строга-адчайнаму выразу вачэй Яўхіма Аўгіня зразумела, што сягоння з яе мужыком нешта надзвычайнае чыніцца.

Жудасна ёй зрабілася ад таго, што Яўхім сягоння ўвайшоў у хату без п'яненькіх частушак-песень, без шорхання-хістання і гусінага перавальвання з боку на бок.

Нейк нязвычна...

Спачатку Яўхім сеў на лаву і дзікім зрокам уткнуўся ў падлогу. Потым ён падняўся, паблядне і давай, як воўк, бліскаць вачамі, намацваць імі ўсе куткі, нібы адчуваючы там нейкага страшнага ворага, схаванага пад старымі бэбахамі.

Потым Яўхім утаропіў вочы ў жонку, якая задрыжэла ад страху, як асінавы ліст.

У вачах і рухах селяніна было нешта такое пэўнае,

рашучае і халодна-рэзкае, нібы раптам знайшоў таго, чаго ўсё жыццё сваё шукаў, нібы знайшоў свайго заядлага ворага, якога во зараз знішчыць...

Твар Яўхіма крывёй паліўся, на лбе, шыі выступілі жылы, нібы пляцёнкі кошыка: Яўхім пачаў біць вокны, пасуду, гаршкі, перавярнуў начоўкі з рошчынай і рабіў страшны садом у хаце.

Яўхім накінуўся на сваю жонку...

Аўгіня не рухалася з месца, разявіла рот, як бы паветра ёй не хапае, і вытарашчыла вочы...

Як на тлустага селядца, пасля ёмкай выпіўкі, Яўхім накінуўся на сваю жонку... Пачаў яе біць...

Біў яе як ніколі да гэтага часу. Валачыў па падлозе, ірваў за валасы, комкаў яе цела кулакамі з нейкім надзвычайным смакам, ажно пена выступіла на яго губах.

Гэты смак чуўся ў яго «г-г-ээ!», якое вырывалася хрыпла з яго грудзей пры кожным удары, нібы ў дрывасека, які рупна сякерай працуе.

Першы мо раз у сваім жыцці Аўгіня не вытрымала — падняла громкае галошанне-выццё.

Яўхім здзівіўся — ён не прывык да такога адказу на свае пастаянныя бойкі, і спыніўся раптам. Размяк і асеў.

У страшным выглядзе жонка вырвалася, выскачыла з хаты.

За ёю, як звыкла, пабеглі кот і певень, якія ніколі не разлучаліся з ёю.

З прычытаннямі і плачам ішла яна па вуліцы, ішла перавальваючыся з нагі на нагу, пакалечаная, вымазаная, у брудзе, у парваных вопратках.

Не заўважала, як на яе суседзі здзіўлена пазглядалі, ківалі галовамі; не чула людскіх запытанняў: што? як? куды?

Сэрца Аўгіні кіпела, нібы вар у гаршку. Думкі разгортваліся, мо першы раз у жыцці, так моцна, так шырака, нібы тоўстая трубка кужалю, якая доўгімі гадамі ляжала на самым дне кубла, ляжала не выбеленая, вось толькі цяпер яе раскручваюць-раскладваюць на гумне пад сонцам.

Так Аўгіня ў думках сваіх разгортвала цяпер усё сваё жыццё. І першы раз ёй так крыўдна зрабілася на мужа, на сваю вечную пакорлівасць, на сваю цемнату...

Першы раз у жыцці яе вечнае «так трэба» змянілася на «так не трэба».

Аўгіня ішла ўсё шпарчэй і шпарчэй. У хаце за ўсе

сваe гады яна адвыкла думаць, была як нейкая нежывая рэч, прыстасаваная да печы, як вілачнік ці качарга, а тут, пры хадзьбе ў надзвычайным настроі, адчуваючы боль ва ўсім целе, думкі яе рваліся, нібы новы рой пчол з старога вулля, які шукае сабе новага месца.

Тут Аўгіня прыпомніла тыя незразумелыя словы, якія чула за апошнія гады рэвалюцыі.

Гэтыя словы мігнулі ёй цяпер, як раптоўныя праменні ў вочы. Словы гэтыя, таемныя і вабныя, нібы цапамі малацілі па яе сэрцы. Яна аж вочы зажмурыла і давай машынальна шаптаць гэтыя словы і пільна прыслухоўвацца да іх.

Аўгіня накіравалася раптам у тое страшнае месца, скуль рассейваліся гэтыя словы, «дзе чорту душу прадаюць», як гаварыў часта поп,— у хату-чытальню...

У гэтай вёсцы хата-чытальня была тым месцам, дзе збіраліся людзі на сходы, дзе чыталіся газеты, дзе «валаводзіў» камсамол, куды прыязджалі аратары з горада, якія (як Аўгіні казалі суседкі) гаварылі баечна-пекна аб розных простых сялянскіх справах. Словам, хата-чытальня была тым месцам, дзе можна гаварыць аб усім, нават аб сваіх крыўдах...

Крыўд у сэрцы Аўгіні было шмат, перапоўнілі яе грудзі, як той званец, які збожжа глушыць на полі: першым чынам, крыўда на «бога», які даў ёй такі горкі лёс (так тады думала Аўгіня); потым крыўда на мужа, што вечна здзекваўся над ёю; пасля на самае сябе, што дагэтуль маўчала; у канцы — на «ўвесь свет» (вёска і ваколіца) за тое, што не бараніў яе, што адносіўся да яе нібыта няўважліва.

Вострым крэменем гэта крыўда драпала яе горла, гарачай жыжай па жылах расцякалася, замыкала вусны жалезным замком, выціскала мутную расу з вачэй...

Вочы Аўгіні нібы дымам закурыліся. Яна была ў нейкім сне наяве. Кожнае сваё пачуццё, думку Аўгіня павінна была бачыць, ашчупваць — іначай гэта ёй было няясна. Такім чынам бачыла яна гэту крыўду...

Аб крыўдзе Аўгіня шмат цікавых старасвецкіх песень ведала, у якіх крыўда адмалёвана, як жывая, з галавы да ног...

Во, цяпер яна, крыўда, скаліць зубы вострыя з-пад гнілога, абросшага слізкімі губкамі, плота. Во, сіняй, касцістай рукою кліча Аўгіню. Во, урэпілася за яе лапці і не дае ісці. Во, хрыпла гавора да Аўгіні:

— А чаму ж ты гэтага часу са мною не ваявала? Я ж заўсёды была з табою — пры блінах у хаце, пры жніве на полі. Чаму не ваявала?

— Бо была сляпая і дурная! — адказвае Аўгіня на свае ўласныя думкі.

Аўгіня пры гэтым першы раз у жыцці сціскае рукі ў кулакі і з пагрозай махае імі перад сабою.

— А цяпер чуеш мяне?

— Чую, чую ў болі сваім,— адказвае Аўгіня зноў на свае думкі. Чую, што тут (яна ўжо падышла да хаты-чытальні) знімуць луску цемнаты з маіх вачэй.

Аўгіня адчыніла дзверы і бокам усунулася ў хату-чытальню.

— Людцы добрыя, ратуйце! — крыкнула Аўгіня.

Шмат моладзі было ў пакоі. Перад Аўгіняй замітусіліся маладыя твары, гарачыя вочы.

Усе з дзіўленнем кінуліся да яе.

— Якое няшчасце? Што здарылася?..

Розныя думкі, якія нядаўна жывымі ластаўкамі кружыліся ў галаве няшчаснай кабеты, цяпер заблыталіся, і яна не магла звязна апавядаць пра сваё гора.

Але людзі добра зразумелі, уцямілі, у чым рэч.

Галоўным чынам супакоілі цётку Аўгіню камсамолкі. Так лагодна з ёй гаварылі, так шчыра-ласкава на яе глядзелі, пранікаліся яе горам, ажно яе абдало нейкім надзвычайна-прыемным цяплом, і ўвесь боль яе сціх, прытаіўся...

*

Нібы ў казцы цудоўнай, перад Аўгіняй разгарнулася новае цікавае жыццё.

Па-першае, яе муж Яўхім пачаў менш піць і зусім перастаў біць яе, узяўся за наладжанне сваёй гаспадаркі. Па-другое, Аўгіня, як ні дзіўна, пачала вучыцца пісаць і чытаць.

Пальцы яе былі пакрыўлены, як сукі, у мазалях, пасмаленыя ў печы, патрэсканыя ад працы. Аўгініпае жыццё можна было чытаць па яе руках — найлепшы жыццёпіс працоўных людзей. У руках відаць была ўся душа вясковай гаротнай кабеціны.

Гэтыя рукі болей усяго вызначаліся, калі ў школе граматы для дарослых яны месца сабе не знаходзілі на белай, як снег, паперы. Дрыжэлі рукі ад шастання паперы

маленькімі дрыгаткамі і як бы саромеліся, лезлі часта пад стол, каб іх папера не бачыла.

Гэтыя рукі, якія так спрытна ўвіваліся пры самай цяжкай сялянскай працы, тут страцілі сваю пэўнасць і сілу. Пальцы не складваліся добра, каб ручку трымаць; ручка здавалася Аўгініным пальцам стопудовай булавою.

Здавалася Аўгіні, што нічога на свеце няма мудрэйшага, як выводзіць атрамантам просценькія палачкі на паперы — вось такія рысачкі, як на аўсяным коласе... (Гэта здавалася тэй кабеціне, якая, апрача майстравання бліноў, яшчэ ўмела ткаць найпякнейшыя паяскі, з самымі хітра-мудрымі ўзорамі: з грабелькамі, падкоўкамі, васількамі. Яна славілася гэтым на ўсю ваколіцу.) Ёй здавалася, што малюнкі вывадзіць куды лягчэй і жывей, чым простыя палачкі ставіць. Вось яна малюнкамі цэлую кнігу напісала б...

Аўгіня пацела над літарамі. Аркуш паперы здаваўся ёй велізарным жытнім полем, якога яна не здолее зжаць. Але гэта было толькі першымі днямі. Пасля яна звыклася і навучылася так-сяк пісаць і чытаць.

У хату-чытальню Аўгіня прыходзіла штодня. Наслухалася шмат цікавых рэчаў. Выступала на сходах з гутаркамі-прамовамі, і зусім іншым чалавекам зрабілася.

Думкі яе выходзілі наўзверх яскравымі, ядранымі словамі, як тая рунь, што відавочна ў цяплыні вылазіць на свет з чорных грудзей тлустай глебы. Ранейшая маўклівасць павялічвала запас яе думак і слоў. Яе талент да бліноў і паяскоў і наогул да сялянскай працы пераліўся цяпер у яе новую грамадзянскую працу. А разам з гэтым яна не менш, чым раней, працавала і ў хаце.

Аўгіня набыла да сябе павагі не толькі ў роднай вёсцы, але ва ўсім сельсавеце. Калі хто з бяднячак была чым пакрыўджана — ішла за парадай да Аўгіні. Дзе ладзяцца чырвоныя хрэсьбіны ці вяселле — там Аўгіня рэй вядзе. Трэба сказаць, што набожнай яна ніколі не была. Ніводнай папоўскай малітвы не ведала. Аўгіня выкрывала самагоншчыкаў — іх лічыла сваімі заядлымі ворагамі, знахароў лаяла і будзіла цёмных, як яна раней, сялянак да лепшага жыцця.

Аўгіня як бы нанова на свет нарадзілася, яе заўсёды выбіралі дэлегаткай на з'езды кабет-працаўніц. На з'ездах яна вельмі трапна ўмела гаварыць аб гаротным жыцці сялянак на вёсцы.

Сотні вясковых хустак мітусіліся перад яе вачамі, лавілі кожнае яе слова, і сэрцы ўсіх дэлегатак біліся ў тахт з яе сэрцам. Паводлуг яе прамоў, заўсёды вынасіліся практычныя рэзалюцыі аб арганізацыі і працы кабет на вёсцы.

Шмат такіх Аўгінь бывала на з'ездах, і Аўгіня там бачыла сваю праўдзівую сям'ю.

У ваколіцы ўсе звалі Аўгіню «дэлегаткай» і шмат аб ёй гаварылі, калі ў часопісу пабачылі яе партрэт.

Яе новае жыццё, цікавая праца знялі з яе твару вечны выраз плачу: вочы былі спакойныя, задумлёныя і смелыя, зморшчыны згладзіліся. Відаць было, што Аўгіня добра разумее, што яна адна з тых тысяч і мільёнаў, якія будуюць новае светлае жыццё для ўсіх працоўных.

## НА ВАРЦЕ

Неба спявае соткамі жаўранкаў, якія кідаюць уніз, на рунь, срэбныя кроплі.

Хутар Грыбок мігаціць на горцы недалёка ад беларуска-польскай граніцы. Пад залацістай паводкай вясновага сонца будынкі невялічкага хутару выглядаюць кучай вялізных мухамораў.

Сонечны пыл рассыпан у паветры над палямі, хмызнякамі і балотам. Даль на польскай старане пераліваецца яскрава-каляровым абрусам, які склейвае здалёк неба з зямлёй сіняватым кволым дымком...

Недалёка ад хутара стаіць чырвонаармеец са стрэльбай на плячах.

Тут трэба вартаваць і днём, бо хутар лічыцца як бы этапным пунктам кантрабанды.

Адгэтуль розныя тавары з польскага боку перадаюцца далей у глыб вёсак, скуль ідуць на Барысаў і на Мінск. Дзікая барацьба за багацце вядзецца тут, на граніцы, усе апошнія гады. Нічога не памагае — і страх смерці. Людзі агойталіся, ідуць за кантрабандай пад кулі, часам гінуць, а часам удаецца.

Цяга да багацця іх пераіначыла, загартавала, перакруціла думкі і пачуцці, ахмяліла...

Чырвонаармеец пільна прыглядаецца, прыслухоўваецца да ўсяго, што робіцца вакол.

Заўсёды трохі перашкаджае яго назору кузня, якая звініць цэлымі днямі. Цёнгле тут круціцца народ. Гэта глушыць яго ўважлівасць, перашкаджае. Шмат разоў начальства гаварыла, што трэба забраць адгэтуль кузню, але чамусьці адкладваюць.

Сёння каля кузні ціха.

Чырвонаармеец дзівіцца.

Не гучыць кавадла прывычным мерным жалезным голасам. Не чуваць смеху людзей, хаця завіхаюцца вунь каля хаты людскія постаці, моўчкі аглядаючыся ва ўсе бакі.

Чырвонаармеец прыслухоўваецца.

З працяглай задумённай цішы як бы пачалі раптам вырывацца заглушаныя войканні. Не то выццё звера, не то чалавека...

Як бы нехта выціскае з хаты на чыстае поле балючыя стогны.

Нешта тарганула за сэрца чырвонаармейца, нешта знаёмае, роднае.

Ён успомніў, што так яго родная маці плакала тры гады таму назад, калі даведалася, што яе сын, яго родны старшы брат, загінуў на Украіне ў часы грамадзянскай вайны...

Ён выцягнуўся, настаражыўся.

Войканне перайшло ў плач — у звычайны чалавечы плач — з галошаннем, з прычытваннем...

Чулася некалькі галасоў. Цэлы хор плачу.

З гэтага хору паасобку вырываецца яркі кабечы голас — цененькі, працяглы, піскліві, жаласлівы...

Помалу разлягаецца плач ва ўсе бакі, адбіваецца аб цёмную сцяну лесу, коціцца-паўзе ў далі лугоў і дробіцца-рассыпаецца на кавалачкі, атуляючы ўвесь абшар сваім нязвычным сумам-тугой, нібы звонкай павуцінай...

Чырвонаармеец паддаецца гэтаму настрою. Прыкрым яму здаецца і радасць сонца ў такі час, і спевы жаўранкаў, і ўся зялёна-веснавая радасць, якая хмеліць зямлю.

Атрутай льецца поўнымі каўшамі журба людскога галошання і клубіцца па абшары.

Да яго вушэй крадзецца галашэнне-спеў кабеты:

«А ты ж, радзіцелька,
А ты ж, матухна родная.
Устань! пагутары з намі!..
Пакінула ж ты мяне сіроткаю...
Разгарні свае ручанькі белыя...
Расчыні свае вочанькі ясныя...

Ні адзінага слованька не кажаш».

Гэта каваліха пявучым голасам гаворыць, расплюшчвае кожнае слова і заходзіцца ў горкім плачы.

Далёка чуваць галашэнне кабеты. Кожнае слова, нібы жалезнае верацяно, лезе ў глыб сэрца, рыдлем у грудзях варушыцца...

Надзвычайна блізкай робіцца яму маладая каваліха, у якой памерла старая маці. Шкода прыгожай маладухі, якая вочкі псуе.

У гэты час мяняецца варта.

Чырвонаармеец вызваляецца і ідзе на хутар. Яго цягне туды — да людскога гора... На фронце быў ён не здолен да слёз, а тут расчуліўся, успомнілася родная Магілёўшчына, вёска, старая маці...

На хутары людзі заняты векавечным чалавечым горам-бядою. Труна белая, сасновая, свежая ляжыць ужо на простым сялянскім возе. Конік стаіць панура, і мяккія губы яго як бы іранічна моршчацца, чакаючы, што далей будзе.

Угледзеўшы чырвонаармейца, кабета яшчэ болей пачала галасіць каля труны. Слёзы без канца ліліся. Яна ламала рукі і цэлы паток галашэнняў, з рознымі прымоўкамі, з жаласлівымі слоўцамі, ліўся-плыў з яе запекшыхся вуснаў.

Мужчыны, чалавек пяць, ціха выціралі слёзы і неспакойна шапталіся між сабою.

Чырвонаармейцу здавалася, што ўвесь гэты невялічкі гурток людзей кідае на яго спадлобу непрыязныя ўзрокі.

Конік таргануўся. Наперадзе ішоў чалавек з невялікім белым крыжам у руках.

Чалавек з крыжам, селянін гадоў пад пяцьдзесят, часта азглядаўся назад, спыняўся і перашкаджаў каню ісці роўным і спорным крокам. Конь дзеля гэтага спыняў свой ход і ледзьве не наступаў чалавеку з крыжам на ногі. Але другі селянін, які вёў каня за аброць, часта штурхаў у плечы крыжаносца і гэткім чынам ажыўляў чалавека, якога агарнула роспач.

З прыходам чырвонаармейца каваліха таксама збілася з тону. Яе галашэнне страціла ранейшую плаўнасць, роўнасць і стройнасць.

Уся жалобная працэсія як бы выбілася з раўнавагі, збілася ў цесную кучку і аб чымсьці ціха перашэптвалася, разважала.

Чырвонаармеец адчуваў, што ён, бязбожнік, тут, мабыць, лішні чалавек.

Ён трохі збавіў кроку і застаўся ззаду. Сама далікатнасць вымагала, каб ён так зрабіў.

Непрыемна яму стала спачатку, бо нібы пачуў лёгкае хіхіканне мужчын. Ці хіба яму гэта здавалася? Пэўна, здавалася, бо мужчыны пачалі ў гэтую ж хвіліну куламі выціраць вочы, а каваліха зноў зацягнула ад усяго сэрца плач-выццё ў перамежку з хаўтурнай песняй.

Расстроеная жалобная музыка зноў настроілася.

Чырвонаармеец ішоў назад да хутара і толькі час ад часу адварочваўся ў бок дарогі, якая вяла да тракта, куды валачыўся конік з трупой на возе.

Воз пакідаў за сабою лёгкі белаваты пыл, які хутка разыходзіўся па баках мутным туманам.

Пыл напомніў яму, што па гэтай самай дарозе месяц таму назад пракаціўся вясельны карнавал. Маладыя былі багата ўбраны. Радасць ззяла на іх тварах. Гармонік граў вясёлыя частушкі, і вясельныя песні сыпаліся вакол, як шрот.

Такі ж самы пыл і тады віўся. Таксама і тады з вазоў на яго скоса пазіралі...

І ён такі ж самы чалавек: са шчырасцю цягнецца да людскога шчасця, са шчырасцю спачувае чалавечаму гору...

Так думаў чырвонаармеец — і з яго добрых вачэй свяцілася крыўда.

Тым часам галошанне сціхала, замірала ўдалі і хутка пакідала ў сэрцы чырвонаармейца лёгкі водгалас успаміну. Ён толькі трохі здзівіўся, што грукат калёс яшчэ добра чуваць, а галашэнне сціхла.

— Што за аказія?

І як бы калёсы хутчэй затрымчалі па няроўнай дарозе...

Учора старая бабуля, матка кавалiхі, была яшчэ зусім здаровая, а сягоння ўжо хаваюць яе.

Ён добра знаў гэтую высокую сухарлявую бабулю з маршчыністым тварам, з вечна гнеўнымі падазронымі вачамі. Заўсёды заклапочаная па гаспадарцы, яна часта сустракала яго з непрыязным тварам, нешта мармочачы сабе пад абросшы валасамі абвісшы нос-глюгу.

Нейкая затаёная хітрасць свяцілася з яе мутнаватых вачэй.

Па ўсёй ваколіцы яна славілася як шаптуха — замаўляла ад усякіх хвароб. Людзі насілі ёй гасцінцы. Яна іх «лячыла» сваімі зёлкамі.

На яго бабуля злавалася, бо ён смяяўся з яе шэптаў

і адбіваў людзей. Як ні старалася яна задабрываць яго рознымі пачастункамі, гарачымі блінамі, малаком — ён не паддаваўся.

Тады яна «пракляла» яго сваім загаворам:

Трасца табе ў бок!
Трасца табе ў бок!!
Трасца табе ў бок!!!

Так прамовіла яна тры разы хрыплым голасам з дзікім, злосным захапленнем.

Пасля гэтага болей з ім не гаварыла.

— Памерла, значыць, раптоўна гэта ведзьма,— падумаў чырвонаармеец.— Чаго добрага, людзі ўб'юць у яе магілу асінавы кол, бо будуць баяцца, каб пасля смерці яна ім не паказалася. Яны ж вераць у гэты забабон!

Чырвонаармеец ціха засмяяўся. Ён не агледзеўся, як апынуўся каля кузні.

Куры капаліся ў пяску. Яны раптам пачалі крычаць ад перапалоху і адскочылі ўбок, бо навязаны конь кінуўся ў пясок і давай качацца.

Чырвонаармеец пачаў азірацца ва ўсе бакі. Глянуў здалёку на шыбы новай кавалёвай хаты.

Нешта ў акне замітусілася. Ён наблядзеў. У сэрцы млосна стала.

Ці гэта сон? Ці ён звар'яцеў?

Старая бабуля глядзела на яго праз акно...

— Не можа быць...

Чырвонаармеец у адну хвіліну пакрыўся халодным потам. Пасля пачырванеў, зазлаваўся на самога сябе, хутка адвязаў каня, ускочыў на яго і пусціўся даганяць фурманку з труною...

Ён ехаў нацянькі, дратаваў рунь, пакуль угледзеў здалёку жалобную працэсію. Выстраліў раз у паветра. Воз прыастанавіўся. Людзі разбегліся ў блізкі лес.

Чырвонаармеец падскочыў да труны, расчыніў яе. Яна была набіта шоўкам і сукном...

— Гэта ж я нядаўна прапусціў тут жа вяселле такое самае, як цяперашнія хаўтуры. Тыя ж самыя людзі...

Чырвонаармеец голасна вылаяўся на цёмны бор і давай аглядацца па баках, нібы нешта згубіў.

# ТРЫ КРЫЖЫКІ

Гэта былі не звычайныя крыжы, якія мы бачым на могілках, або ў царкве, ці на абразах.

Гэта былі тры маленькія, нязграбныя крыжыкі, пісаныя на паперы мазолістай, каравай рукой Янкі Гарбача.

Тры палачкі ўдоўж і тры ўпапярок.

Янка Гарбач так заўсёды падпісваецца.

Тры крыжыкі складаюць усю яго пісьменнасць і навуку.

Такія яго крыжыкі добра ведала даўнейшая воласць.

Такія крыжыкі ставіць ён на паперах і ў цяперашнім сельсавеце.

І, здаецца, крыжыкі гэткія самыя, як і ў іншых непісьменных сялян, але Янка іх заўсёды пазнае хоць паміж сотні такіх жа, напісаных не яго рукой.

Ён іх пазнае так, як пазнае сваю касу, пугу ці свой воз паміж іншымі такімі ж прыладамі гаспадаркі.

Ён іх пазнае так, як чалавек пазнае сваю авечку ў вялікім стадзе чужых авечак, альбо бабу сваю на кірмашы сярод вялікай грамады баб у такіх жа, як у яго жонкі, хустках.

А на першы погляд здаецца, што ніякай розніцы няма паміж крыжыкамі Янкі Гарбача і такімі ж грамзоламі іншых непісьменных сялян.

Гэта толькі здаецца.

Янка Гарбач ведае свае крыжыкі, як сваё імя. Шмат поту яны яму каштуюць кожны раз, як прыходзіцца яму падпісвацца.

Ён сапе ў бараду, вочы пільна наставіць у паперу, цэліцца доўга-доўга і пачынае выводзіць крыжыкі, нібы будыніну будуе.

Як сахою па раллі, водзіць ён пяром па паперы. Доўга майструе, пакуль стануць крыжыкі ў радочку — адзін за адным, як жывюханькія. Нібы тры камарыкі, адзін меншы за другога.

Янка ўкладае ў гэту пісаніну ўсю сваю кемнасць, усю істоту, усе думкі і настроі, якімі ён перапоўнены ў той час.

Праўда, кожны раз крыжыкі выходзяць у яго па-інакшаму, у залежнасці ад яго настрою, але ён іх ведае. Таўшчыня і даўжыня палачак гэтых крыжыкаў заўсёды напамінаюць яму аб тым, пры якіх варунках ён іх пісаў, калі пісаў, што тады думаў, ці ён быў тады вясёлы, ці смутны.

Гэта ўсё Янка пазнае па крыжыках паводлуг іх ліній, паводлуг таемных прыкмет, вядомых толькі яму.

Пісьменныя людзі ставяць пры гэтых крыжыках яго імя і прозвішча. Так даецца тлумачэнне да іх, каб у канцыляры ведалі, што гэтыя крыжыкі азначаюць «Янка Гарбач».

Янка вельмі гардзіцца тлумачэннем пісьменных: жартачкі — ён так мудра піша, што тлумачэнне патрабуецца. У Янкі тады з'яўляецца на твары выраз надзвычайна вучонага чалавека...

Янка Гарбач бывае на ўсіх сходах, усюды выступае з прамовамі і на ўсіх рэзалюцыях — аб кааператыве, аб школе, аб пераходзе на шматполле — мітусяцца яго тры крыжыкі.

Ставіць свой подпіс крыжыкамі для яго хоць і цяжкая праца, але ён гэта вельмі любіць. Вугалем на сцяне іх крэмзае, зімой па снезе кійком малюе. А калі часам задумаецца, дык пальцам перад сабой у паветры іх пачынае выводзіць, нібы па ўспацеўшай шыбіне.

*

— Кінь, нарэшце, свой магільнік! — казаў аднаго разу настаўнік іхняй вёскі Янку Гарбачу.

— Які магільнік?! — здзівіўся Янка і выставіў на настаўніка пару вострых, як цвікі, вачэй.

— Свае тры крыжыкі,— лёгка ўсміхнуўшыся, мяккім голасам вытлумачыў настаўнік.

— Як тры крыжыкі?! Мой подпіс?!

Янка так аслупянеў, нібы настаўнік казаў яму, каб ён нажом адрэзаў свой нос і кінуў сабакам.

Пры гэтым ён у паветры напісаў пальцам тры крыжыкі.

— Цяпер усе павінны ўмець пісаць і чытаць,— вёў далей сваю гутарку настаўнік выразна і цвёрда.

— Ты вось кожны раз прыходзіш ка мне, каб я табе зачытаў розныя павесткі, розныя паведамленні, газету, законы аб зямлі і іншыя патрэбныя справы.

Настаўнік доўга гаварыў яму аб патрэбе ўмець пісаць і чытаць.

Янка Гарбач маўчаў.

Ён апусціў голаў, апусціў цяжка, нібы бязмен, узвешаны ўніз галоўкай. Кучма рыжаватых, паджарыстых валасоў, настаўленых супроць твару настаўніка, былі нямым доказам Янкі. Здавалася, што ён за такое прыставанне хо-

ча бадаць настаўніка ў грудзі сваёй успацеўшай лабацінай з невідочнымі рагамі.

Выразу твару Янкі не відаць было, але па ўсім целе яго як бы прабегла знутры думка, тарганула яго ўсяго, скалатнула, нібы вецер яблыню — і зноў захавалася глыбока ўнутры...

Шкада зрабілася Янку сваіх крыжыкаў... Ён так да іх прывык за ўсё жыццё...

Так прывыкае чалавек да сцен турмы, у якой прыходзіцца яму сядзець часам доўгі час. Пры вызваленні з няволі ён пачынае сумаваць па сваёй каморцы з жалезнымі кратамі.

Настаўнік назіраў за Янкам і чакаў, што далей будзе.

Настаўнік быў адзеты ў вопратку «зашчытнага» колеру ў вытрыманым стылі. Жаўтавата-брудныя бацінкі-амерыканкі на нагах, скруткі да кален, парваныя нагавіцы. Усё гэта напамінала пядаўны час вайсковага камунізма. Выгляд настаўніка, вырваны з эпохі грамадзянскай вайны, нібы клінам урэзаўся ў наш час мірнага будаўніцтва. Тры гады ён жыве вось у гэтай глушы. Увесь свой час змагаецца з вясковай цемрай. Ад пастаяннага змагання з яго маршчыністага твару не зыходзіць выраз неспакою, напружанасці і натхнёнай жывасці.

Вочы ў яго вострыя, пранікаючыя, бародка — клінам, увесь ён тонкі і худы. Нібы верацяпом вострым, гатоў ён у любую хвіліну пранізваць думкі вясковых людзей, каб асвятляць іх, каб рассейваць павуціну старых забабонаў.

З добрай усмешкай паглядае настаўнік на Янку Гарбача і чакае.

А ў Янкі думкі скачуць з месца на месца, лётаюць, як перапалоханыя авадні. Мітусяцца ў яго галаве крыжыкі, якія ў штодзённым жыцці, у практычнай працы, у адносінах з людзьмі звязвалі яго, злучалі з тысячагоддзем.

Да гэтага часу Янка бачыў толькі карысць ад сваіх крыжыкаў. Толькі вось у гэту хвіліну ён павярнуў аглоблі ў другі бок — і давай у думках шукаць усе нявыгады крыжыкаў, усю несуразнасць сваёй цемнаты.

— Сапраўды магільнік нейкі! — падумаў Янка. Колькі ён папер падпісваў такімі крыжыкамі, не ведаючы, што напісана ў гэтых паперах, а потым прыходзілася церабіць патыліцу, ваяваць, судзіцца і новыя глупоты чыніць. А ўсё дзеля таго, што ён чалавек непісьменны.

— Жыць далей з крыжыкамі нельга! — цвёрда падумаў Янка.

— Трэба над крыжыкамі паставіць крыж! — прагаварыў ён голасна.

— Во, во! — падхапіў гэтыя словы, як самае каштоўнае і дарагое, настаўнік.

Вочы настаўніка засвяціліся радасцю: новая перамога!

— Значыць, будзеш у мяне вучыцца?

— Буду! — цвёрда адказаў Янка і падняў галаву. Ён ажно ў твары змяніўся ад сваёй рашучасці і ў знак згоды з настаўнікам, каб замацаваць гэту справу раз назаўсёды, Янка схваціў левай рукой правую руку настаўніка і са смакам хлопнуў па далоні настаўніка другой рукой сваёй. Ажно водгалаcкі расплёскаліся вакол.

Так Янка заўсёды рабіў пры самых важных момантах свайго жыцця, калі цялё прадасць або калі каня памяняе.

Янка аддаў цяпер свае тры крыжыкі за пісьменнасць.

Развітаўшыся з настаўнікам, Янка пайшоў дахаты адналёным, новым чалавекам.

Ён адчуваў сябе як бы пад акном цікавых палацаў, дзе чорныя літары на белай паперы аблягчаюць чалавечае жыццё.

Ідучы дахаты, Янка не заўважаў, што робіцца вакол. Яго нешта падымала ўгару, несла, як пярынку. Праз колькі часу ён сам будзе газеты чытаць, кніжкі, будзе падпісвацца словамі «Янка Гарбач».

Тут ён прыпомніў свае крыжыкі і давай пальцамі ў паветры зноў вывадзіць іх па старай прывычцы. Але зараз жа ўсхапіўся:

— К ліху крыжыкі!

## ІСЛАМ-БЕЙ

Ні гуку, ні шолаху навокал.

Над морам навісаюць бура-зялёным акамянелым стадам высачэзныя горы. І мора, і горы абліты ружовым, як віно, заходам сонца. З недалёкай цясніны, што рассунула магутны граніт у многакіламетровы карыдор, нясе халадком. Непрыкметны ветрык раздзьмухвае па моры сцежкі, якія часта мяняюць колеры — ад бледна-чырвонага да зеленаватага блеску льду. Лёгкія зморшчыны то паказваюцца, то знікаюць на гэтых ледзь прыкметных дарожках. Гладзь мора нагадвае тонкі пераліўчаты шоўк. На вечна

аснежанай неприступнай вяршыні гуляе мяцеліца. Лета і зіма тут не перашкаджаюць адно аднаму.

Я сяджу на каменным моле побач са сваім сябрам Іслам-беем. Калі-нікалі перакідваемся словамі. Абодва любуемся морам.

Іслам-бей — паганяты буйвалаў. Ён служыць у санаторыі. На цярплівых жывёлах возіць дровы з гор. Тут, у Гаграх, я першы раз у жыцці пабачыў буйвалаў. Разнастайныя колеры неба адлюстроўваюцца ў іхніх нерухомых светла-вішнёвых вачах. Выразістасць і жвавасць надаюць буйвалам крутыя вялізныя рогі, якія вольна і горда пастаўлены па абодвух баках шырокага лба ў два касцяныя пытальнікі.

Іслам-бей пільна глядзіць на мора. То ён задуменны і нерухомы, нібы каменны, і яго вочы атулены вялікім смуткам, то ён поўны жыцця і рухавасці, і яго вочы сыплюць іскры. Ціха, пад нос, Іслам-бей напявае песню. Калі б я ні сустракаў яго, ён усё спявае.

Аднаго разу я запытаўся ў яго, чаму ён вечна спявае. Іслам-бей зірнуў на мяне з добрай усмешкай і ахвотна растлумачыў:

— Іслам-бей усё бачыць ды аб усім спявае. Бо нашто вочы ў Іслам-бея, нашто вушы, навошта сэрца? Спявае чайка на моры, горны ручай спявае серабрыстым голасам — чаму не спяваць Іслам-бею?

Ён шырока размахвае рукамі.

— Спявае вецер між пальмавых галін, спявае мора, спявае пад ветрам кукуруза на полі — чаму не спяваць Іслам-бею?

Ён пытаецца ў самога сябе:

— Колькі часу, як Іслам-бей спявае?

І сам адказвае:

— З тых часоў, як Іслам-бей сам сябе памятае. Дванаццаць усходаў месяца лічы на кожны палец. Цяпер пляснi далонямі шэсць разоў. Вось гэтулькі год спявае Іслам-бей. Увесь род мой спяваў — і бацька, і дзед, і прадзед. Мы вытаптвалі сцежкі ў гарах, хадзілі з аула ў аул ды спявалі. Вялікую сілу мае песня. Часам яна мацней за каменную сцяну, вастрэй за кінжал раніць сэрца, цяплей за сонца грэе грудзі, больш пяшчотна за маці песціць малютак. Наш род быў бедны на хлеб, але затое багаты на песні. Мы, сумныя, весялілі народ песнямі.

Іслам-бей усхопліваецца з месца.

— Аб чым спяваю, пытаешся? Увесь свет прапускаю

праз сваю песню, нібы праз сонечныя прамені. Атара барашак пасвіцца на схіле гары — спяваю. Сівы вадапад падае ў рэчку са скалы — спяваю. Коннік імчыцца, нібы вецер — спяваю. Чарнавокая красуня на вяршыні стаіць, як малюнак,— спяваю. Даўней спяваў пра гора і смутак чалавека, пра яго крыўду і гнеў да князёў. Цяпер спяваю пра гордасць і радасць чалавека, пра яго шчасце.

Ён стукае сябе ў грудзі кулаком:

— Мне песня тое самае, што табе паветра. Іслам-бей каб не спяваў, дык не жыў бы...

Іслам-бей заўсёды ходзіць у чорнай бурцы і ў сівым башлыку на галаве — абарона ад сцюжы і гарачыні.

Больш за ўсё зварочваюць на сябе ўвагу бровы і вочы Іслам-бея. Бровы, чорныя і густыя, зрасліся над вачамі ў адну аксамітную істужку. Вочы — смаляніста-чорныя. Яны то патухаюць і нагадваюць поўнач, то ўспыхваюць яркай раніцай. Часта мяняецца выраз твару Іслам-бея. То ён выглядае старым, слабым, а то — юнаком, бадзёрым, жвавым. Адно вока ў яго крыху апушчана, грозна прыжмурана. Другое вока шырока расплюшчана, лагоднае. Таму заўсёды здаецца, што адным вокам ён лашчыць і песціць, а другім злуецца і пагражае.

Калі ён аб чым-небудзь разважае, трэба яму заўсёды падтакваць, бо, калі маўчыш, яму здаецца, што не верыш яму, і ён таропіць у цябе такія бліскучыя вочы-сонцы, ажно ты прымушаны апускаць свае. У тую хвіліну становіцца непрыемна, нібы пакрыўдзіў Іслам-бея...

Горы дыхаюць водарам кветак і халадком захаду. Іх абрысы вызначаюцца, нібы гравюры, а на аддаленых вяршынях серабрацца воблакі. Яны згортваюцца ў вялізныя скруткі і перасоўваюцца з месца на месца. Ля падножжа гор разлягліся сіняватыя цені, а некаторыя вяршыні гараць у апошніх праменнях сонца. Вялізныя пасы агню мяняюць фарбы ад жоўта-мядовых да ярка-фіялкавых.

Навокал чыніцца цуд.

Музыка колераў разлівае лагоднасць на сэрцы. Думаць не хочацца ні аб чым. Расце адно жаданне; піць навакольную красу і быць шчаслівым у злучэнні з дзіўнай прыродай. Мне здаецца, што я даўно жыву тут — ад часоў сфармавання гэтых гор. Супакой ахоплівае мяне.

Мы з Іслам-беем выйшлі на гладка ўтрамбаваную шашу. Горы пагаслі. Апошні сонечны блік утапіўся ў моры. Цені пацямнелі.

— Памёр дзень,— кажа Іслам-бей з шкадаваннем.— Заўтрашні дзень ужо не будзе падобны да сённяшняга.

Усхапіўся вецер. Прачнуўся прыбой. Яго голас рос з кожнай хвілінай. Спачатку прыбой мурлыкаў, потым пачаў са злосцю наскакваць на прыбярэжныя каменні. Урэшце зароў, завыў, засвістаў на розныя галасы. Пагрознай фалангай наступаў на бераг, кідаўся злосна ўгару, лізаў пакорліва тысячу языкамі прыбярэжжа і вызначаўся ў змроку вечара сівым стадам гнеўных мядзведзяў.

Мы спыніліся ля голай скалы і селі на выступе граніта.

Іслам-бей глыбока зірнуў мне ў вочы і запытаўся:

— Падабаецца табе наш край?

Гордасць зablішчэла ў яго вачах.

— Вось чытай замест сваіх кніг!

Іслам-бей зрабіў такі шырокі жэст рукой на горы і мора, нібы паказвае мне вялізныя паліцы з кнігамі ў аграмаднай бібліятэцы.

— Тут нашы народы і плямёны крывёй пісалі аб сваім жыцці. Бедныя супроць багатых выступалі. І скінулі бедныя буйвалава ярмо са свайго карку, навекі скінулі! І я доўга гнуўся пад гэтым ярмом. Каб ты ведаў мяне маладым! Людзі стараліся гнуць мяне ў буйвалавы рог, але ці можна мяне гнуць? Хіба толькі зламаць можна...

Іслам-бей змоўк, апусціў галаву і зацягнуў сумную песню. Мелодыя была манатонная. Яна перасякалася доўгімі стогнамі і прыпевам, падобным да галашэння. У песні часта паўтаралася адно слова:

Арджбая.

Што гэта азначае «Арджбая»? — думаў я.— Каханая дзяўчына? Нядоля? Смерць? Ці, можа, старадаўняя казачная істота?

Пры слове «Арджбая» кожны раз слёзы чуліся ў голасе Іслам-бея. Як ён скончыць песню, тады запытаюся. Ён мне заўсёды тлумачыць змест сваіх песень.

Ноч надышла хутка. Нібы хтосьці насунуў раптоўна на ўвесь абшар сіні парасон. Здалёку, з вокнаў санаторыя, свяціліся агні. З неба глядзелі здзіўленыя зоркі — буйныя, нібы яблыкі, каўказскія зоркі. Яны так ярка блішчэлі, ажно адкідвалі ад сябе праменні ў выглядзе тонкіх і доўгіх ярка-зялёных кінжалаў...

Іслам-бей скончыў песню. Я прасіў, каб ён мне пераказаў змест песні.

— Эх, дружа! — сказаў ён.— Нічога мяне і зламаць не

магло, апрача майго брата. Я цяпер паламаны. Брат мяне зламаў...

Ён прагаварыў гэта з вялікім хваляваннем і кулаком пачаў выціраць слёзы з вачэй.

— Гэта я пра брата спяваў... Яго імя — Арджбая.

Голас Іслам-бея перайшоў у шэпт — у буйны шэпт. Так пад моцным ветрам шапоча лісцямі гордая піхта на вяршыні гары.

— А любіў жа я роднага брата Арджбая, як сына... Адзін ён у мяне быў родны на цэлым свеце — адзін, як сэрца ў грудзях, як дыямент у пярсцёнку, як месяц ясны ў небе. Цяпер ніводнага брата не маю. Ён быў самы малодшы ў нашай сям'і. Усе загінулі ў часе вайны. Асталіся толькі мы ўдвух. Я выгадаваў яго. Быў яму і бацькам, і маткай, і братам, сястрой. Жылося нам вельмі цяжка. Ні кануры, ні кавалка зямлі, ні авечкі, ні каня. І восьналяцеў віхор і адкінуў нас адзін ад аднаго на шмат міль, нібы лёгкія кізілавыя лісцінкі. Гэта здарылася колькі год таму назад, як тут была меншавіцкая ўлада. Мой брат Арджбая пайшоў да тых, хто век-вечна здзекваўся з нашага брата бедняка. Арджбая пайшоў на службу да князёў, да багатых. Са мною не параіўся. Мне аб гэтым ні слова не сказаў. А чым яны яго завабілі? — добрым канём! Я ж з самага пачатку быў за народ. Па ўсёй нашай ваколіцы трубілі ў дзесяць рагоў, што Арджбая прадаўся князям... Так мы з ім разлучыліся... Сэрца маё рвалася на кавалкі ад сораму і болю, але мы разлучыліся навекі, як страшныя, лютыя ворагі. Між намі, нібы глыбокая бездань, вырасла смяртэльная нянавісць. Я прысягаў народу ў нашым ауле, што сваёй рукой пакончу з Арджбая і змыю ганьбу з нашага чэснага роду. У нашым родзе не было ніводнага здрадніка... Эх, Арджбая, Арджбая... Што ты нарабіў, нешчаслівы брат мой па крыві і чужы-чужы па ўчынках... Эх, Арджбая, Арджбая...

У поцемках вочы Іслам-бея блішчэлі дзвюма зоркамі.

— Я ведаю горы ваколіцы як свае пальцы. І вось я пачаў вандраваць па гарах, сочачы за варожымі атрадамі. Я меў пры сабе двух абаронцаў — кінжал і стрэльбу. Я нямала дапамагаў тады чырвоным. Быў адным з найлепшых разведчыкаў. Мне было да болю крыўдна на брата, і я ніяк яго зразумець не мог. Гэта ж з самага пачатку рэвалюцыі ён заклікаў нашу беднату да змагання супроць багатых. Ён так хораша ўмеў гаварыць, што з сэрцаў людзей выбіваў іскры, нібы крэсівам з крэмня. Нават жанчыны,

слухаючы яго, запальваліся гневам і браліся за зброю нараўне з мужчынамі. Значыць, ён умеў хлусіць і прыстаўляцца, нібы ён шчыра гаворыць? Значыць, ён быў агіднай савою ў пер'ях шызай галубкі? Навошта яму гэта запатрэбілася? Няхай бы адразу, не крадучы па-зладзейску даверлівасць беднякоў нашых гор, адкрыта, не саромячыся, пайшоў да князёў... Гэта было б куды больш прыстойна... Ад гневу на брата мне аж у вачах пацямнела. Яркі дзень ноччу цёмнай здаваўся. Я не мог дачакацца шчаслівай хвіліны, каб пакончыць з ім, чэсна і прыстойна пакончыць, паводле строгіх законаў нашых гор.

Іслам-бей цяжка задыхаў.

— Я пачаў успамінаць усё наша жыццё — ад таго часу, калі Арджбая быў малы, як чайная ружа, да таго часу, калі вырас у пальму. Можа, калі-небудзь багаты чалавек яму чым-кольвечы дапамагаў, запрашаў у свой замак пагрэцца ці ў вінаграднік хавацца ў цяньку ад спёкі ў поўдзень? А можа, яго суседні князь карміў пры голадзе, добра плаціў за цяжкую працу, спагаднае словы пры бядзе гаварыў?

Голас Іслам-бея зрабіўся суровым.

— Не! Не! Ніводнага такога выпадку я ўспомніць не мог. Ды гэтага быць не магло, як не можа быць таго, каб горы ў мора ўпалі. Апрача таго, Арджбая заўсёды ненавідзеў багатых, праклінаў іх з глыбінь сэрца самымі страшнымі праклёнамі, злыя песні спяваў пра князёў... Можа, ён быў малочным братам нейкаму князю? Не! Не! Наша маці сваім малаком ніколі не карміла малютак багатых людзей. Яна была гордай арліхай.

Іслам-бей горка ўсміхнуўся.

— А можа, Арджбая пакрыўдзіла наша горная беднata? Таксама не! Усе нашыя бедныя горцы любілі Арджбая за шчырасць, за песні, за дружбу, за адвагу і гордасць, якімі ён палоніў іх сэрцы пры частых гутарках. Арджбая не меў за што гневацца на нашых бедных чабаноў і гаротных парабкаў. У яго словах яны бачылі саміх сябе, нібы арол, што бачыць сябе ў люстэрку чыстага возера.

Стары ашуг да хрусту пальцы ламае.

— Хто ж украў добрае братняе сэрца і ўсадзіў у яго грудзі чужое, змяінае? Хто? Хто? Ні людзі, ні горы, ні мора, ні паўночныя зоркі мне на гэта адказу не давалі. У вялікай пакуце я галаву аб камень біў, плакаў, бы малое дзіцё, месца сабе не знаходзіў. Для мяне мой брат, мой самы блізкі чалавек памёр. А замест яго жыў агідны, злы

вораг мне і ўсяму беднаму роду. Я тады складаў песню аб тым, што памёр мой апошні брат, а замест яго ў мяне ёсць шмат братоў, шмат бедных людзей, такіх, як я, з такім сэрцам, з такімі думкамі. Я больш, чым раней, узненавідзеў багатых. А па брату я ўсё ж часта сумаваў. Не мог я патушыць у сэрцы жаль.

Іслам-бей сказаў гэта такім надломным голасам, ажно я занепакоіўся, каб ён не заплакаў.

— Аднаго разу,— апавядае далей Іслам-бей,— у пахмурны поўдзень я ішоў па вузкай тропцы над самым краем высокага страшнага абрыву. Раптам я пачуў конскі тупат. Я прытаіўся. Зняў на ўсялякі выпадак стрэльбу з плеч. З павароту гары мне насустрач паказаўся коннік. Я давай прыглядацца... Ці ж вочы мяне абманваюць? Гэта ж Арджбая, мой былы брат, першы здраднік у нашай сям'і... Мне і горача, і холадна зрабілася. Дыханне стрымалася. Брат хутка заўважыў мяне. Пазнаў. Сардэчна ўсміхнуўся. Спыніў каня. Я цэліўся ў яго... Ён здзівіўся і крыкнуў: «Пачакай, Іслам-бей!» Ад яго голасу, голасу роднага брата, рука мая ўздрыганулася — і я папаў не ў Арджбая, а ў яго буланага каня. Рэха пакацілася па гарах. Конь з братам паляцелі з стромкага абрыву ўніз, у бездань... Я — чалавек гарачы і просты. Ніякай жаласці ў мяне ў той час да брата не было. Я толькі на хвіліну заплюшчыў вочы і патрымаўся рукой за сэрца. Спакойна пайшоў я крутымі дарожкамі ўніз, каб аддаць зямлі труп Арджбая... Усё ж такі адна маці нас спарадзіла. Усё ж ткі я выгадаваў яго. Усё ж ткі я...

Іслам-бей схапіў мяне за руку з такім відам, нібы ратаваўся ад пагібелі. Яго пальцы дрыжэлі. Вочы свяціліся фасфарычным святлом. Ён цяжка дыхаў. На яго лбе зафасфарычным... хадзілі хадыром глыбокія, як барозны, зморшчыны. Ён увесь калаціўся, нібы ў ліхаманцы, і пакутліва прастагнаў:

— Арджбая... Арджбая...

Неба засланілася хмарамі. Заімжыў дожджык. Аднак цяплынь плыла вакол нас, нібы подых разгарачаных жывёлін. Пачулася прыкрае выццё шакалаў. Спачатку завыў адзін, за ім — другі. Потым яны пачалі перакліквацца з усіх бакоў. Выццё нагадвала жаночае галашэнне. Водгаласкі перакідваліся ад гары да гары, запаўнялі цясніны, плылі ўгару і пранізвалі слых такой прыкрай песняй, што хоць ты ў мора кідайся.

— Дык вось,— сказаў Іслам-бей,— я спускаўся з абры-

ву ўніз, аб кусты і вострыя каменні падраў вопратку, падрапаў рукі і твар да крыві, нібы мяне пакусалі сабакі. Але я не зварочваў ўвагі. Нарэшце я ўгледзеў брата. Арджбая ляжаў на вострых каменнях акрываўлены, пакалечаны, з зачыненымі вачамі. Побач ляжаў яго буланы конь. У першы міг я нават абрадаваўся — усё пакончана. Змыў ганьбу... Але зараз жа балючая жаласць да роднага брата, нібы зладзейка, пачала павольна і асцярожна красціся ў маё нутро. Я змагаўся з гэтай жаласцю, як з лютым ворагам. Я лаяў сябе за гэту жаласць самымі ганебнымі словамі. А яна, паганая жаласць, як тая пятля, усё цясней і цясней сціскала мне горла. А яна, шальмецкая жаласць, усё больш і больш пякла мяне на сямі агнях...

Іслам-бей сціснуў зубамі ніжнюю губу. Нечалавечая роспач свяцілася ў яго вачах.

— Арджбая...— пачаў я будзіць брата.— Арджбая...

Брат адчыніў вочы. «Што ты зрабіў? — прашаптаў ён слабым голасам.— Гэта ж я таксама, як і ты, з народам... Ты не ведаў... Часу не было цябе паведаміць... Я наўмысна прасіў, каб пра мяне былі пушчаны такія чуткі. Каб ніхто з ворагаў савецкай улады не пранюхаў... Я...» Брат не скончыў. Ён глядзеў на мяне не са злосцю, а з дакорам. Кроў хлынула ў яго з горла, носа і вушэй. Ён тут жа і сканаў з расчыненымі дакорлівымі вачамі. Я хацеў пацалаваць забітага брата, але не адважыўся і пацалаваў у морду яго буланага каня. Як на хвілінку задумаюся, дык і цяпер бачу шырока расплюшчаныя мёртвыя вочы Арджбая.

Іслам-бей па-дзіцячаму ўсхліпнуў і да болю сціснуў маю руку.

— Само сабою, з маіх грудзей вырываліся словы: «Слухайце, горы! Слухай, неба і зямля! Слухай, сіняе мора! Іслам-бей — братазабойца. Ён забіў чэснага і чыстага, як горная крыніца, Арджбая. Вечныя праклёны Іслам-бею! Вечная ганьба яго імені!» Потым пярсцёнкі зялёныя і сінія замітусіліся перада мною, і я непрытомны паваліўся на мёртвыя грудзі Арджбая... Мне тады здавалася, што вакол мяне выюць шакалы. Гэтае выццё рвалася з маіх грудзей. Я крычаў: «Я не вінаваты! Я не ведаў, што Арджбая не здраднік!» Потым я змоўк і так праляжаў некалькі дзён. Прачнуўся я тады, калі на нас напала стада крыважэрнага варання. Я падняў на іх крык. Прыбеглі пастухі. Яны тут жа выкапалі для брата магілу. Я быў да таго слабы, што не мог стаяць на нагах. Я шчыра пра-

сіў, каб мяне кінулі жыўцом у братнюю магілу. Аж цэлы месяц я хварэў па гарачку. Бадай, штоноч я ва сне бачыў Арджбая. Прыходзіць ён, глядзіць на мяне з дакорам і маўчыць... «Гневайся на мяне, Арджбая, кажу, тады мне стане лягчэй. Гневайся на мяне, Арджбая, вялікім гневам». А ён маўчыць. А вочы яго — добрыя, добрыя... Мяне, душагуба, шкадуе. Я плачу і малю: «Арджбая, Арджбая...» Абняць яго хачу. Ён адсоўваецца. Я прачынаюся ад свайго ўласнага крыку. Затуманенымі, непрытомнымі вачамі яшчэ бачу, як цень брата адыходзіць ад мяне і знікае... Доктар мне гаварыў, што брат ка мне не прыходзіць, што бачу перад сабою люстэрка сваіх уласных думак. І доктар загадаў мне больш пра Арджбая не думаць. І я не выканаў гэтага загаду. Ці ж магу не думаць? Думкі аб ім ніколі, ніколі не пакідаюць мяне, нібы мой уласны цень. Гляджу на зоркі ў небе, і мне здаецца, што гэта залатымі літарамі напісана на сіняй паперы «Арджбая». Гляджу на захад сонца ў моры, і мне здаецца, што гэта фарбуе хвалі кроў Арджбая. Калі на прыбярэжным пяску бачу сляды ног, мне здаецца, што тут нядаўна праходзіў Арджбая. Калі на моры ўзнімаецца бура, мне здаецца, што гэта скача-імчыцца па моры на буланым кані Арджбая. Кожны дзень я складаю новую песню пра Арджбая...

Іслам-бей апусціў галаву. Цела яго размякла, рукі віселі, як чужыя.

— Брат мяне зламаў. Цяпер я нікуды ўжо не гаджуся.

Нічым не мог я супакоіць Іслам-бея. Толькі моўчкі абняў яго. А ён з вялікай жальбай у голасе шаптаў:

— Арджбая... Арджбая...

Прыбой шумеў і нібы паўтараў за Іслам-беем:

— Арджбая... Арджбая...

## МАЦІ

Бягуць, галопам імчаць коні. Імчацца ўдаль па чарзе ў пераменку — то ярка-белыя, то бліскуча-чорныя.

Дні і ночы.

Дні — сонечныя, цёплыя.

Ночы — сінія, зорачныя.

Дні і ночы пахнуць дымам і чалавечым потам.

Увесь дзень дым вісіць воблакам над лесам, часам над дарогай.

Уночы ў клубах чорнага дыму зіхацяць агнёвыя птушкі, чырвоныя плямы мітусяцца ў далячынях, мігацяць спалоханымі вачамі дзівосных нязнаных асілкаў.

Мерны тупат ног. Скрыгаты і скрыгаты калёс. Грукатанне павозак. Крыкі людзей. Грозныя хрыплыя лаянкі. Калі-нікалі страляніна.

Усё гэта зліта ў адну дзікую музыку. Усё гэта змешана ў напружаным, бы сталёвая спружына, такце.

Ужо трэція суткі як чырвонаармеец Сяргей Панасюк не спіць.

Яго вайсковы атрад спяшыць уздагонку за польскімі легіянерамі, імчыць па пясчаных, пыльных прасёлачных дарогах, праходзіць праз напалоханыя, разбураныя вёскі.

— Вось нядаўна легіёны пагналі нашых коней разам з мужыкамі ў абоз,— кажуць у адной вёсцы.

— Толькі што былі палякі,— гавораць у другой.

Кожная вёска падносіць чырвонаармейскаму атраду свае страшныя навіны.

Дымяцца хаты, гумны. Гараць лясы.

Легіянеры асвятляюць свае сляды яркімі пажарышчамі.

— Наперад! Уздагон!

Ато — увесь край знішчаць.

Стаянкі робяць кароткія. Адпачнуць трохі, падсілкуюцца з паходнай кухні і — далей... далей...

Сяргей Панасюк, нягледзячы на зморанасць, не адчувае цяжкасці вінтоўкі. Яму з кожным крокам робіцца ўсё лягчэй. Нават таварышы, што ідуць побач з ім, адчуваюць яго зухаватасць.

— Чэрці цябе носяць, Панасюк!

— Не спяшы так!

Сяргей Панасюк не звяртае ўвагі.

Гарачым вокам аглядае ваколіцу.

...Вунь жоўтая, камяністая Лысагорка. А далей — у зялёнай лагчыне стромкі бярэзнік. Ніжэй уецца рачулка, вузенькая, нібы выкапаны равок. Вось яна агібае срэбнай падковай сямейку прысадзістых хвоек.

А быў тут Панасюк пяць гадоў таму назад... Яшчэ тры вярсты — і яго родная вёска, калі паны не спалілі, кіўне саламянымі стрэхамі на пыльную дарогу.

Пяць гадоў як Панасюк пакінуў старую матку ў ма-

ленькай хатцы ля выгану ў самым канцы вёскі Малінаўкі.

— Ці матка пазнае мяне цяпер? Апошні ліст атрымаў год таму назад.

У Панасюка ўсплывае жыва ў памяці малюнак развітання з маткай. Яна галасіла, як па нябожчыку.

— На каго ты мяне, старую, пакідаеш?

У Панасюка тады сэрца акамянела.

Толькі ў чужым горадзе жаласлівасць да маткі з'явілася. Каб не саромеўся, дык нават паплакаў бы. У вялікай завірусе 1917 года Панасюк ледзь зусім не забыў пра матку.

— Вось калі падышоў час пабачыцца... Абавязкова адлучуся хоць на паўгадзіны, на некалькі хвілін. Потым даганю таварышоў...

Панасюку здаецца, што чырвонаармейцы пасоўваюцца наперад вельмі марудна. Яму не церпіцца. Каб можна было, ён бягом наперад пусціўся б.

Ён жыва цяпер уяўляе сабе выгляд маткі, яе твар, голас, вопратку. Хутка пабачыць старую...

Яму здаецца, што маці сустрэне яго цяпер у такім самым выглядзе, тымі ж словамі, як пяць гадоў таму назад.

— На каго ж ты мяне пакінуў? — запытаецца яна, пачне зноў плакаць, толькі не з гора, а з радасці.

Усе свае пачуцці, ці смутныя, ці радасныя, старая матка Панасюка выяўляе праз слёзы. У яе такая звычка...

Сяргей Панасюк як бы бачыць яе твар, зморшчыны, зямліста-шэрага колеру, нарыхтаваны кожную хвіліну да плачу і слёз, нібы скрыпка да ігры...

Калі чырвонаармейскі атрад узышоў на ўзгорак і параўняўся з старым крыжам, што яшчэ і цяпер тырчэў на дарозе нямым вартаўнікоМ, у Панасюка радасна забілася сэрца.

Родная вёска Малінаўка ляжала перад ім, як на далоні.

Паны не паспелі спаліць.

«Зараз... зараз»...

Абапал дарогі на мяжы былі раскіданы бліскучыя бляшанкі ад кансерваў, разбітыя бутэлькі, паперкі. Нядаўна легіянеры тут елі абед. Бляшанкі і шклоblішчэлі на сонцы. Вільгаць тлустасці на бляшках мігацела пад сонцам, рассейвала тоненькія праменьчыкі. Куры крычалі спалоханымі галасамі. Мабыць, толькі што гналіся за імі легія-

неры... Некалькі курыных галовак ляжаць расціснутыя ў калюгах.

Насустрач атраду бяжыць чалавек — без шапкі, у расхрыстанай зрэбнай кашулі. Валасы прыліплі да потнага бурага твару. Вочы мутныя і чырвоныя, нібы ў п'янага... Крычыць ахрыплым голасам.

— Таварышы... таварышы! Вунь там...

Збянтэжаны селянін ткне пальцам наперад — удаль, у рэдкі ельнічак.

— Вунь там...

Панасюк чуе голас чалавека.

— Паны брата забілі.. Падпалілі хату... Ратуйце... Чалавек гаворыць адрывіста, нібы дэпешу дыктуе.

Панасюк па голасу пазнае старога Сымона з вёскі Гладышоў.

— Ратуйце! Ратуйце!

Атрад спяшыць...

«Зараз... зараз»,— думае Панасюк.

Вось першыя хаты роднай вёскі.

Нічога не змянілася. Толькі мох на стрэхах пышнейшым стаў, гусцейшым аксамітам сцелецца па шэра-бруднай саломе. Платы раскіданы, павалены. Каля хаты дзядзькі Сапрона ляжыць плазам дубовая старая брама. Шулы вывернуты з чорным свежым мясам зямлі, а вароты тут жа расціснуты, як маленькі парom.

Атрад ідзе шпарка наперад... Мігацяць маленькія шыбіны акон. Дзе-нідзе мільгае ў акне ільняная дзіцячая галоўка, расплюсне нос аб шкло — і зноў знікне спрытнай мышкай.

Вось і выган...

Родная хатка Панасюка...

Грамада людзей стаіць ля дарогі.

Мужчыны, кабеты, дзеці...

Перад Панасюком мільганулі вочы знаёмых. Устрывожаныя твары. На хаду ён рупна шукае вачамі сярод жанчын, сярод хустак...

— Дзе яна? Дзе?..

У грудзях Панасюка горача і пуста. Толькі во — затухкала сэрца, забілася моцна...

...Вунь стаіць згорбленая, нібы корч, зморшчаная ў сухі грыб старэнькая бабулька.

...Гэта яна — маці...

Шпарка імчыць наперад атрад.

Вінтоўкі нарыхтаваны. Вораг блізка...

Чуваць крыкі роспачы з вёскі Гладышоў. Працяглыя жаночыя войкапні рэжуць паветра:

— У-у-у-у-уй... А-а-а-ай...

Праз рэдкі ельнік жудасць рвецца сюды — застыглая, вар'яцкая.

Яшчэ шыбчэйшы крок.

У вачах чырвонаармейцаў — пажар...

Толькі адну хвіліначку ўпіўся Панасюк гарачымі вачамі ў зморшчаны твар роднай маткі — можа, толькі дробную часцінку хвіліны, міг адзін: ногі імчалі яго далей:

— Наперад... наперад...

Але Панасюку здалося, што доўга-доўга ўглядаецца ён у любы, родны твар, доўга-доўга пазірае ў згорбленую постаць старэнькай маці...

— Наперад... наперад...

І заўважыў Панасюк у гэты мігатлівы адрэзак хвіліны ўсе ледзь прыкметныя, самыя дробненькія зморшчыны на твары роднай маткі. У яго памяці адбіўся, нібы на хвілёвым фотаздымку, выгляд старой: яе вопратка, залатаны фартух, шэры кавалак палатна на галаве, босыя ногі — бурыя, патрэсканыя, з пакрыўленымі, нібы вывернутымі ў суставах, пальцамі. У руках яна трымала вандзэлак.

Падслепаватыя вочы старой праплылі па чырвонаармейцах: вочы нібы намацвалі сына сярод таварышоў.

Так яму здалося. Яна зусім не ведае, што ён тут.

Панасюк хацеў пяшчотна паклікаць:

— Матулька... Матулька... Матулька...

Хацеў крыкнуць на ўвесь голас:

— Маці! Маці!! Маці!!!

Сорамна перад таварышамі...

Спяшыў атрад.

Суха зрабілася ў горле. Хтосьці жарсцвяком пашараваў там, выцер сліну.

— Наперад! Наперад!

Ногі ішлі самі сабою. Вочы ў Панасюка запылалі. Ва ўсім целе ён адчуваў холад. Сціснуў зубы, каб не барабанілі.. Злосць народа... Сашчапіў вінтоўку так моцна, ажно хруст пальцаў адчуў на гладкай сталі.

Панасюк пачуў голас чырвонаармейца, які ішоў побач:

— Бабулька, бабулька, куды ты? Адыдзі!

— Сяргейка... сыночак... родненькі...

Ледзь вінтоўка не выпала з аслабленых пальцаў Панасюка.

Варкатлівы, пяшчотны, слабы, дрыжачы голас роднай

маткі пранік у яго істоту, запоўніў яго вушы меладыйным, ціхім звонам, ахмяліў яго кроў жаласлівай радасцю, аслабіў напорнасць цела. Гарачыя вусны шапталі:

— Маманька... маманька...

— Наперад!.. Наперад!..

Старая лавіла рукамі паветра, шукала апоры. Вандзэлак выпаў з рук.

Папасюк чужым, далёкім голасам прагаварыў:

— Пасля, маці... Пасля... Цяпер няма калі...

Зноў акрэп.

Рукі мацней сціснулі вінтоўку.

З вёскі Гладышоў набліжаліся енкі:

— А-а-ай... а-а-ай...

...Во зараз...

Папасюк цэліўся ў ворага.

## ПА АБОДВУХ БЕРАГАХ РЭЧКІ

Вёска Чаромха на адным баку рэчкі, а вёска Баравікі — на другім.

Заўсёды на рэчцы чуваць быў людскі гоман — звінелі дзіцячыя галасы з абодвух вёсак. Дзеці прыбягалі сюды коўзацца: хто да лапцей прывязваў драўляныя палазочкі, хто прымайстроўваў канькі з жалезных абручоў, а хто слізгаўся на лапціках. Усё роўна — было добра і весела. Па лёдзе былі пратораны шкляныя дарожкі, якія блішчэлі дзіўнымі люстэркамі. У зімовыя сонечныя дні дзеці слізгаліся па лёдзе, мільгалі маленькім атрадам ад затокі да затокі, ад лукі да лукі і звон дзіцячага смеху разлягаўся навакол; блішчэлі радасныя вочы, палалі дзіцячыя твары.

У гэтых гульнях дзеці вёскі Чаромхі мелі свайго атамана Сцёпку, а хлопчыкі вёскі Баравікі — свайго правадыра Япку.

Часам пад камандай сваіх «начальнікаў» дзеці гулялі ў вайну: закідвалі адны адных снежкамі, гналіся адны за аднымі на шліфаваным лёдзе.

Па абодвух берагах рэчкі па гладкім, пухкім снезе было пратоптана і дарослымі і малымі шмат сцежак, быў пратоптаны не адзін «зімнік» — санныя дарогі, па

якіх палазы вясковых санак гралі снежныя бадзёрыя песні.

А ўлетку па абодвух баках рэчкі разгортваліся сенажаці гаспадароў вёсак Чаромхі і Баравікоў. На чаўнах часта сустракаліся на рэчцы Сцёпка з Янкам. Яны памагалі сваім бацькам рыбу лавіць.

Цяпер гэта рэчка пагранічная: на адным баку бальшавіцкая варта, на другім — белапанская.

Вёска Чаромха засталася ў палякаў. Баравікі — у нас.

Лёд, як стане на рэчцы, дык усю зіму ніякая чалавечая нага па ім не ступіць, нібы ў рэчцы пад лёдам падведзены страхотныя міны. Дзіцячы смех не звініць на лёдзе, а сялянскія калматыя конікі не праводзяць па снежных абшарах прыбярэжжа ранейшых «зімнікаў».

Не можна, не дазволена.

Граніца.

*

А ўлетку, у часы сенакосу па абодвух баках рэчкі звіняць косы — касяць баравічане і чарамшане. Хоць блізка ім, суседзям, бачаць праз рэчку адны адных, пазнаюць старых сяброў, але гаварыць між сабою нельга.

Граніца.

Падыдзе касец да рэчкі, набярэ збан вады, зірне на другі бок, пільна глядзіць у твар суседа або сваяка на «тым» баку — і маўчыць.

Граніца.

Толькі птушкі вольна пералятаюць праз граніцу.

Калі глянеш уздоўж рэчкі, дык імжыцца даль лугоў і хмызнякоў. Спачатку даль перарэзваецца срэбным поясам рэчкі, а ў далёкай адлегласці яна зліваецца ў адно і граніца затушоўваецца, тоне ў дымчатай каламутнасці вокагляду.

*

У часе сенакосу часта бачылі адзін аднаго ранейшыя таварышы: Сцёпка і Янка.

— Эх, каб кінуцца ў рэчку ды пераплысці да Сцёпкі! — думае Янка.

— Здаецца, пераскочыў бы гэтую рачулку, каб з Янкам пагаварыць,— думае Сцёпка.

Граніца.

З аднаго і другога боку ходзяць пагранічнікі, сочаць за касцамі.

— Не можна нават гукнуць адзін аднаму...

Сцёпка і Янка ўжо дарослыя дзецюкі — добрыя касцы. Адно і тое самае сонца грае на іхніх косах, раскідвае белыя іскравінкі. Косы як бы перамагаюцца між сабою. Янка глядзіць здалёку на Сцёпку, Сцёпка міргне Янку левым вокам, але гукнуць адзін аднаму нельга.

— Граніца...

Маўчаць касцы...

Кладзецца ціха пракос за пракосам: без жартаў, без гутарак, без песень. Не можна тут голасу падняць.

— Граніца...

*

Сцёпка не ведае, што Янка ўжо на рабфаку.

Янка добра і старанна вучыцца. Янка будуе новае жыццё. Ён камсамолец. У вёсцы Баравіках ёсць школа, хата-чытальня.

Янка пільна сочыць за газетнымі весткамі. Яго вельмі цікавіць, што «там» робіцца...

Аднаго разу ў газетах прамільгнула вестка:

«Новы працэс Беларускай Грамады»...

Пад такім загалоўкам сярод іншых арыштаваных і катаваных у польскай турме ёсць і яго таварышы дзіцячых гульняў — Сцёпка Краўчук з вёскі Чаромхі.

...Пяць гадоў катаргі...

У сэрцы Янкі нешта кальнула. Ён успомніў гульні на рэчцы, коўзанне па гладкім, люстраным лёдзе. Спачатку ў яго вачах бліснулі слёзы...

— Не выпадае так рабфакаўцу, камсамольцу... Разнюніўся, як баба ўсё роўна...

Янка да скрыгату сціскае зубы. Вочы высахлі, гарачыя, злосныя. Смелыя думкі тояцца ў яго сэрцы...

## ДЗЕД АРЦЁМ

Вецер скубаў цёмна-бурыя саламяныя стрэхі. Ён гойдаўся над калматай вёскай, скачучы па комінах, па старых азяродах і па стромкіх жоравах студняў кронамі асілка-велікана. Абсыпаны залатою шчацінаю вясновага сон-

ца, вецер прыблытаўся сюды з прасторных пустых палёў, каб патрывожыць абросшае мохам згорбленае стада хатак.

На абшырным пустым гумне стаяў стары дзед Арцём. Замаслены кажуронак тырчэў на ім, як бляшаны. З-пад старой кучмы віселі жмуткі жоўта-сівых валасоў. Яго рэдзенькая празрыстая бародка выглядала, як прыклееены пук кудзелі, якую невідочныя пальцы тармошаць цяпер ва ўсе бакі.

Дзед жмурыў маленькія мышыныя вочкі, сагнуўся, упіраўся рукамі ў вострыя калені і пільна прыслухоўваўся. Дзед як бы прымацаваўся да месца, каб вецер яго не папхнуў, і выглядаў адзінокім абвугленым карчом.

Шурчыць вецер на стрэхах — ш-ш-ш-ш-ш,— нібы сала пражэцца на патэльні. Галёкае і войкае па пустых комінах жудасным хрыпам. А во скавыча ў недалёкім гушчары, як парсюк, якога на каляды колюць. А па суседнім гумне гэты самы вецер-дуронік хрусціць у кучы леташніх сухіх бярозавых лістоў, перасылае іх з месца на месца, падкідвае ўгару, падымае высока і кружыць, кружыць штораз мацней. Здаецца, што гэта носяцца вераб'і ў шалёным карагодзе.

Стары Арцём любіць разнастайную музыку ветру, ведае, скуль прыплывае на яго крыллях кожны гук, кожны звон, кожны гоман. Дзед ведае гэтыя вольныя спевы, нібы гэта ён сам наігрывае на аграмадным невідочным музычным інструменце. Ён прыслухоўваецца доўга са смакам вялікага знаўцы. Раптам здзіўленне мільгае на яго твары. Ён настаўляе вушы болей пільна, нахіляе галаву набок і доўга слухае.

Дзед мармоча сабе пад нос лаянку і, устрывожаны і зацікаўлены, выпростоўваецца: ён неспадзявана пачуў фальшывы тон у сваім інструменце. Лёгка ўзбіраецца ён на жоўты курганчык — на высокі канец, на якім захавана ў восені бульба на насенне, і прымае ранейшую позу.

Дзеда ўздзівілі ў ігры ветру новыя гукі, якія ён чуе ўпершыню. Гэтыя гукі падобны да звону цымбалавых струн, калі музыка падымае палачкі і струны самі дрыжаць у працяглым апошнім адгалоску.

Селянін казерыць вочы ад дзіва, высоўвае з кажуронка галаву, якая ходырам ходзіць на худой жылістай шыі, і па-звярынаму нюхае паветра праз меру завостраным носам. Тонкія ружаватыя ноздры то сплюшчваюцца ў лісткі, то круглеюць у падвойную свісцёлку. Незнаёмы звон-свіст коціцца з боку папоўскага двара, дзе цяпер хата-чытальня.

Дзед прыкладае левую далонь, як трубку, да левага вуха, а пальцы правай рукі ставіць кружком да правага вока, як бінокль. Так стаіць ён некалькі хвілін. Раптам ён зрываецца з месца, нібы хто яго шылам у бок пырнуў, стукае сабе пальцам у лоб, кажа мнагазначнае «г-гэ!» і ад усяго сэрца плюе тры разы ў тры розныя бакі.

— Цьфу! Каб вы ачмурэлі! Каб вы скіслі! Каб вас ліханька закапусціла! — смачна лаецца дзед з паўзамі, ядрана і выразна, пасля чаго выцірае зашмальцаваным цвёрдым рукавом сліну на пажоўклых вусах.

Дзед успомніў, што каля хаты-чытальні нядаўна ўбівалі ў зямлю высокія жэрдкі і над дахам нацягнулі некалькі столак дроту. У гэтай рабоце галоўнымі канаводамі былі яго ўнукі «кусамольцы». Шалахвосты, як чэрці, лазілі па даху і зацягвалі дрот. Вось гэты самы дрот і пяе цяпер на розныя лады, звоніць і грае.

«Каб у іх вантробы гралі, дай божанька! — вылаяўся стары ў думках сваіх.— Гэта ж прыдумалі чарнакніжнікі такую забаўку — цацку! А ўсё ж гэта ад погані, ад нячыстай сілы бязбожніцкай»,— развsituations дзед далей. Аб гэтым ён ведае даўно, у царкве поп не раз гаварыў. Дзед давай класці рукамі крыжы ў паветры ва ўсе бакі і злосны пайшоў у хату, каб не слухаць болей гэтых «чартоўскіх цымбалаў».

*

Некалькі дзён «чартоўскія цымбалы» дзеду Арцёму супакою не давалі. Аб іх усе гаварылі. Не маглі дачакацца той хвіліны, калі дрот чалавечым голасам загаворa.

Дзед майстраваў на дзядзінцы бярозавае тапарышча. Ён увайшоў у гэту працу ўсёй істотай, аддаў ёй кемнасць і спрыт многіх гадоў. Можа, дваццаць пален launched ператрымаў, пераважыў стары ў сваіх руках, пакуль вымеркаваў якраз патрэбнае паводле сухасці і трываласці дрэва. Нібы скульптар, які ў мармуравай глыбе бачыць зграбныя формы будучага закончанага твора, таксама бачыў стары Арцём у кавалку дрэва прыгожае, гладзенькае, беленькае, як снег, як малако, тапарышча...

Арцём жмурыў вочы, з замілаваннем стругаў палена, апарошаны ўвесь стругавіннем, нібы белымі матылькамі.

Каля дзеда капаліся ў сметніку куры: фарсісты гапаровы певень з вялікім збянтэжаным гарэмам розпакаляровых жонак.

Певень, зацікаўлены талентам дзеда, спрабаваў клюнуць раз-другі маленькае стругавінне, але, не адчуваючы ў ім смаку, зірнуў на дзеда кплівым вокам і з сумненнем кіўнуў галавою.

У гэты час у вёсцы пачалася нейкая суматоха, беганіна. Дзед у захапленні мастака не заўважыў гэта спачатку. Падняў ён калматую галаву ад работы толькі тады, калі гоман людзей вырас у грымучы паток.

«Няйначай, пажар»,— падумаў стары і пабег на гэты шум, які данасіўся з хаты-чытальні, «з боку чартоўскіх цымбалаў». Там сабралася ўся вёска — і старыя і малыя.

Нешта ёкнула у сэрцы старога, вялікі страх напаў на яго ад «чартоўскіх цымбалаў», але, нягледзячы на гэты страх, няведамая сіла цягнула Арцёма да тлуму людскога. Грамада людзей стаяла зацікаўленая, разгарачаная і гудзела, як вялікі рой пчол. Усе галасы зліліся ў адну хвалю гукаў, з якіх стары ўлавіў толькі адно слова:

«Радыё, радыё, радыё».

Гэтае слова ператварылася ў разуменні дзеда ў слова «радасць».

— Якая радасць напала на іх? Каб іх ліха узяло! Каб іх зямля не насіла! Каб іх...

Дзед не дакончыў лаянкі, бо раптам зрабілася так ціха, ажно пасля ранейшага шуму гэтая цішыня глушыла вушы і прыкра стала на душы Арцёма. Апошнія словы яго старчай лаянкі клінам урэзаліся ў цішыню.

Стары зусім з панталыку збіўся. На адчыненым акне хаты-чытальні стаяла нейкая штучка з шырокай трубою. Вакол яе круціліся яго ўнукі «кусамольцы» і махалі рукамі, каб было ціха.

Раптам труба загаварыла. Голас быў з хрыпоткай, але вельмі выразны, чуваць было далёка вакол. Гаварылася аб сельскай гаспадарцы, аб працы селяніна на полі вясной.

Сяляне пачалі прыслухоўвацца, як на сходзе, пачалі сыпаць рэплікамі:

— Ведаем!

— Брашы, брашы, труба!

Некалькі чалавек пусціліся ў хату глядзець, хто ў трубу гаворыць.

— Няйначай, там нейкі крыксун схаваўся! — крычалі яны.

Шчыры рогат Арцёмавых унукаў уторыў лекцыі невідочнага чалавека.

Людзі шукалі чалавека пад сталом, пад лавамі.

Дзед стаяў нерухомы, трымаючы тапарышча ў руцэ ў такой позе, нібы рыхтаваўся даць па лбе невідочнаму ворагу. Ён глядзеў на «кусамольцаў» такімі вачамі, нібы бачыў на іх рогі і хвасты «нячысціка».

Труба гаварыла хвілін пятнаццаць.

— Правільна! Правільна! — крычалі барадачы ў захапленні.

Вяскоўцы падыходзілі да трубы, мацалі яе асцярожна рукамі, углядаліся ў яе пустое нутро, шукаючы захаванага сакрэту.

Стары вытарашчыў вочы і стаяў як зачараваны.

— Канцэрт артыстаў беларускага тэатра! — прагрымела труба. Зноў стала ціха. Людзі ў разнастайных урачыстых позах нарыхтавалі вушы.

Дзед мала зразумеў з гэтых слоў, але таксама наваструў слых.

Паліліся гукі «Лявоніхі», спачатку ціхія і павольныя, як журчанне ручая, але з кожным разам гукі крапчэлі і сыпаліся шыбчэй.

Вясёлыя шчакатлівыя зыкі піяніна перапляліся з стройным пяваннем хору. Гучны спеў запоўніў вуліцу, усю вёску, адбіваўся ў гарачым блеску людскіх вачэй. Песня невідочным дажджом палілася ў кроў, у нервы.

Людзі пачалі пад песню і музыку выбіваць такт нагамі, пляскаць у далоні. Нарэшце некаторыя маладыя не вытрымалі — пусціліся у скокі на шырокім дзядзінцы.

Нешта ўстрывожыла старога Арцёма. Ён успомніў маладыя гады — ён быў калісьці вялікім гулякам. Закружылася галава, як ад самагону. Невядомая сіла ўцягнула і яго ў вір гульбішча.

Дзед круціўся на месцы з тапарышчам у руках, тупаў нагамі і спяваў:

«Гэй, Лявоніха, Лявоніха мая!»

Ён ачнуўся ад шалу толькі тады, як труба сціхла і людскі рогат шкляным гарохам пасыпаўся ў яго бок.

— Ой, спакусіла нячыстая сіла...— мармытаў спалоханы дзед і пачаў выціраць пот з твару. Тапарышча выпала з рук.

Дзед кідаў злоснымі вачамі ў людскую грамаду і трос на іх, нібы гірамі, дзвюма фігамі, скручанымі наспех з закарузлых жылістых пальцаў.

# РУНЬ

Праз ваўнянае неба позняй восені працэджваецца сонца. Прамені спачатку цягнуцца ўніз вузкімі румянымі істужкамі. Потым вызваленае сонца выходзіць з-за хмар вымытае, яснае, кідаецца на абшар, аблівае яго мядовым колерам.

Яно падае на рунь аграмадным агнёвым сокалам з распластанымі крыллямі. На кволых траўках густой зялёнай руні мігацяцца слёзы нядаўняга дажджу.

Куды ні кінеш вокам — усюды рунь. Яна асенняй расцю ахапляе вялікі абшар зямлі. Цягнецца шоўкавым дыванам ушыркі і ўздоўж па грудзях маткі-глебы. Рунь даплыла да бярэзніку, перакінулася праз тры невысокія ўзгоркі. Вось зараз пераскочыць праз рэчку, як дзівосны зялёны вандроўнік, і ахопіць усё поле вакольных шэрых вёсак...

Каля самага бярэзніку стаіць селянін.

Ён выглядае шэрай кропкай на фоне неахопнага поля жытняй руні.

Утаропіў вочы ў асенняе свята зямлі.

Любуецца.

Ужо тры гады, як ён у калгасе «Кастрычнік». Ужо тры гады, як яго вузкія палоскі ўтапіліся ў вялізным калгасным полі.

Вельмі часта ў дні адпачынку калгаснікі ходзяць грамадою аглядаць рунь. Але гэты селянін любіць часамі адзін пастаяць тут і думае свае затоеныя думы.

Старая прывычка.

Калісьці ён так аглядаў увосень свае вузенькія палоскі. Не раз акрапляў іх «святою вадзічкаю», якую купляў у папа, «на добры ўраджай».

Цяпер не можа пазнаць, дзе былі яго межы. Трактар як прагуляўся па гэтым полі, дык сарваў усе межы, згладзіў іх на векі вечныя.

Селянін глядзіць на ўзгорак.

...А вось тут я многія гады гнуў карак над сахой... Балела спіна. Конік заўсёды быў худы, недакормлены...

...Мае палоскі...

Селянін націскае на слова «мае».

...Ад бацькі, ад дзеда, ад прадзеда гэтае «мае».

...Слова «мае» пералівалася ў балючыя мазалі, у кроў, цягнулася ручайком аж у сівыя незапамятныя часы.

...Слова «мае» зрабілася як бы яго галоўнай мэтай існавання, чулася ў кожным стукаце яго сэрца...

І селянін выклікае з захаваных успамінаў жывыя абразкі. Яны вельмі блізкі паводле ліку гадоў і аддалёныя на стагоддзі Кастрычнікам.

...Тады слова «мае» было вечным гнётам. Раз пайшоў па «свае» палоскі руні, ажно суседскія свінні і авечкі топчуць яго крывавую працу. Ён каменем забіў парсюка, а яму за гэта ў бойцы сусед два пальцы на правай руцэ выкруціў.

У другі раз, калі ён задаўжыўся ў багатага Марціна, дык той абсеяў яго палоскі, а ён без хлеба застаўся на ўвесь год.

А колькі гадоў з панам Яваpоўскім судзіўся за гэтыя палоскі. На шчасце надышла рэвалюцыя, а то пан напэўна выйграў бы суд.

Патрохі за апошнія гады, калі ён ўвайшоў у калгас, слова «маё» перайшло ў новае слова — «наша».

Скончаны сваркі, суды, трывогі, лішнія клопаты.

Спачатку слова «наша» ішло неяк паміма яго думак, адскоквала ад сялянскага сэрца, як гарох ад сцяны — нешта нязвычнае, новае...

— Ды «як жа гэта — наша».

Але як у грамадзе лягчэй зажылося, калі яго сям'я забылася пра вечную галадоўку, калі скончыліся сваркі,— слова «наша» стала родным і замілаваным.

Селянін сам не заўважыў, як «маё» перарабілася на «наша».

«...Як гэта я жыў раней? — пытае ён у самога сябе.— Неяк нудна было...»

Раней, калі цяперашнія калгаснікі жылі ў вёсцы, дык ваўкамі глядзелі адзін на аднаго. Кожны чужой бядзе радаваўся. А цяпер — адна вялікая сям'я. Для ўсіх — адно аграмаднае поле зялёнай руні. Цяпер тое, што баліць аднаму, трывожыць усіх, а што радуе грамаду — цешыць і аднаго.

Селянін пазірае на вялізны абшар руні.

— Схадзі, Лаўрук, паглядзі нашу рунь! — загадалі яму таварышы.

«...Наша рунь»,— радуецца селянін.

«...Фабрыка хлеба»,— думае ён.

Часта чуе гэтае новае, ніколі раней нечуванае слова.

...Фабрыка хлеба...

Слова «фабрыка» яму даўно вядома. Калісьці Юрка,

хлапец з суседняй вёскі, працаваў на фабрыцы ў Маскве. Аднаго разу лістоўкі прывёз на вёску, за што яго ўраднік арыштаваў. Юрку на доўгі час закапалі ў турму.

Цяпер фабрыкі карыстаюцца вялікай пашанай. І недарма называюць калгас «Кастрычнік» фабрыкай хлеба...

Часта сюды на новую фабрыку з гораду прыязджаюць паглядзець. З вакольных вёсак людзі прыходзяць.

Рунь пераліваецца пад сонцам у розныя колеры.

## ДЗВЕ НОЧЫ

### БАГАМОЛЬНІК

Тысяча дзевяцьсот трыццаты год.

Удзень кованыя жалезам палазы дарогу глянцуюць.

Звіняць санкі па шкляных рэйках ружова-сонечнага снегу, шліфуюцца, плывуць у іскравую, белую далячынь. Коні растрасаюць снегавыя пер'і, кідаюць снежную муку ў санкі, у твар, у вочы.

...Наперад!

Абапал дарогі — канавы. Улетку спусцілі сюды з забалочаных лугоў глыбокія рудаўкі. А мароз тоўстую кару льду вырасціў на канавах. І ўдзень дзеці доўгія мілі мераюць туды і сюды па льду, слізгаюцца на драўляных каньках-самаробках. Дзіцячыя галасы — вясёласць і імкненне. Дзіцячыя вочы — блакітныя, зялёныя і чорныя аганькі.

...Гэ-э-эй!

*

Цяпер ноч дрэмле каля сцен на пухкіх сівых аўчынках. А вецер — лютаўскі, асрэбраны — не спіць, зачэсвае заімшэлыя стрэхі. Драпяне салому, зашастае ў мяккіх лапцях па страсе і крыкне ў застылае поле — у адзіноту марозлівай шэрані. Забомкае вецер асвірам па студні і паімчыцца.

...Дзе ён? Дзе ён?

Мігацяцца акенцы. Палоскі святла цягнуцца ад вачэй ратайскіх хатак на вясковую вуліцу. У ружовасці снегу адцяпяюцца водціскі конскіх падкоў.

Не спіць Сымон Канцавы. Пасля сходу сон не бярэ.

...Як яно будзе? Што яно будзе?

Трывожнымі вачамі ён упёрся ў аганёк лямпы — і думае, думае.

...Шмат ворагаў у ваколіцы, у гэтай жа вёсцы...

Удзень, перад тым як пайсці на сход, ён пагаліўся адломкам касы, адвостраным у каваля на тачыле. Галіўся і парэзаў твар. Яшчэ цяпер не можа кроў стрымаць... Ён рваў газету і прыкладваў да парапеных месц кавалкі паперы. Людзі жартавалі з яго. А болей за ўсіх — краснабай Антон з хутара.

— Глядзіце, суседзі! — гаварыў Антон.— Сымон прыкладвае да твара пластыры з газеты. Вось чытайце:

«Раску-лач-ва-ем».

— Раскуд-раскуд-раскудравая мая,— спяваў ён пры гэтым.

Голасам гадзюкі Антон засыкаў Сымону на вуха:

— Яшчэ не тое станецца, калі будзеш падбухторваць на калгас. Парэжам цябе на кавалкі і сабакам кінем.

Сымон хацеў крыкнуць з ходу, але стрымаўся: усё роўна Антона не баіцца. Потым скажа: што Антон шэльма.

Гарачы быў сход. Ажно цяпер горача Сымону.

Дзеці спяць. А жонка ляжыць на ложку і плача, лае яго, Сымона. Праз некалькі дзён трэба будзе аддаць адну з дзвюх кароў у агульны хлеў.

Жонка пайшла карову даіць. Яна доўга бавілася ў хлеве. Сымон выскачыў паглядзець, што яна там робіць, ажно стаіць каля каровы, заве маткай роднай, міленькай, бедненькай.

Нешта засмактала ў грудзях Сымона. Ён зазлаваўся на самога сябе, абазваў жонку «дурной бабай». Ледзь адарваў яе ад каровы і павёў у хату.

— Хто за ёю там глядзець будзе, за нашай Рабулькай? А я ўжо болей не гаспадыня.

Не можа супакоіцца Сымоніха.

Калі троху высахнуць вочы, яна падымаецца з ложка, кідаецца з кулакамі на мужа і не сваім голасам крычыць:

— Выпішыся з калгаса! Не дам каровы! Я выгадавала яе! Не дам!

Сымон падыходзіць блізка да жонкі. Глядзіць ёй у вочы і маўчыць. Двух маленькіх Сымончыкаў бачыць ён у яе павялічаных цёмных зрэнках. Сымончыкі драбней гарошынак.

— Што ты вылупіў на мяне бельмы? — дзівіцца Сымо-

ніха. Яе голас робіцца лагаднейшым. Расцягнута выгаварвае яна словы:

— А я думала гадаваць цялушку ад Рабулькі. Наста падрасце — пасаг трэба рыхтаваць. Калгас пасагу Насці не дасць.

— Маўчы! — крычыць Сымон ахрыплым голасам. Пасля сходу ён заўсёды голас траціць.— Маўчы! Цябе Антон напужаў? Ты яму паверыла, што вясною паны прыйдуць, што пан Замашынскі вернецца? Глупства ўсё гэта. Антон — сволач. Кажуць, раней бандытам быў, прыехаў сюды немаведама адкуль. А пасагу Насці не трэба. Яна ўмее працаваць. Вучыцца будзе — вось табе і пасаг!

Зноў кроў паказалася на парэзаным твары Сымона. Жонка ціха ўсхліпвае.

Шэры кот сядзіць на стале. Натапоршчыў рэдкія вусы і дзівіцца на гаспадароў.

— Прапала жызня мая! — лямантуе гаспадыня.

На яе вачах водблеск лямпы. Сымону здаецца, што гэта не жончыны вочы, а чужыя, незнаёмыя, неспагадлівыя.

— Антон разумнейшы за цябе,— кажа жонка прымірэнчым тонам.— Ён не запісаўся. А за табою, бач, многія ў калектыў пайшлі. Яшчэ паб'юць цябе.

Замяўкаў кот. Саскочыў са стала і кінуўся на печ.

Ноч была цёмна-сіняя. Такога ж колеру вокны Сымонавай хаты блішчэлі — успацелыя, люстраныя.

Сымон падышоў да акна. Пабачыў у шкле свой твар, як у люстэрку.

На вуліцы пачуліся крокі.

...Хто ж гэта ходзіць паначы?

У Сымона трохі сэрца ёкнула. Ён зірнуў у кут. Там тырчэла ў шчыліне сцяны новая сякера.

Нехта цёмным ценем падышоў да акна. Ціха забарабаніў у шыбу. Сымон угледзеў бледную руку, адпарахнуўся ад акна і не сваім голасам крыкнуў:

— Хто ідзе?

Дзеці прачнуліся.

Падышла спалоханая жонка.

За акном ціхі голас.

— Пусціце пагрэцца. Не бойцеся.

— Хто ты? — запытаўся Сымон і зноў зірнуў на сякеру.

— Падарожнік, збіўся з дарогі. Мне на Мінск.

Сымон прыціснуўся лбом да халоднай шыбы, затуліўся рукамі ад святла лямпы і ўгледзеў чалавека з чорнай барадой. Вочы падарожніка былі ў цені, але іхні чорны бляск як бы пранізваў акно.

— Пусці, хаджаін, пагрэцца,— прасіў незнаёмы літаслівым жабрацкім голасам.

— Не пускай! — сказала Сымоніха.— Ліха яго знае, што за чалавек.

— Што? Чалавека ў хату не пусціш? Якая ты дабрасэрдная да кароўкі і благая да людзей... Што ён мне зробіць? і ў мяне рукі, ды не абы-якія.

Чалавек занёс у душную хату свежасць марозлівай ночы. Ён быў абветраны, абтрушаны снегам, нібы мукою. Хукаў на рукі. Грэўся каля печы.

Потым доўга маліўся на пусты кут, на тое незакуранае на сцяне месца, дзе раней віселі абразы. Пільна прыглядаўся да пустога кута, нібы нешта надзвычайна цікавае бачыў там, чаго хатнія ўгледзець не маглі. Сум малітвы свяціўся ў яго цёмных вачах. Міжвольна і Сымон зацікаўлена зірнуў на кут, нібы ў першы раз. Са шчыліны высоўваліся на святло клапы. Яны поўзалі па сцяне, як жывое льняное семя.

— Чаго ты молішся клапам? — не вытрымаў Сымон.

Чалавек не зводзіў з кута набожных вачэй і мармытнуў у сваю чорную бараду:

— Тут некалькі дзесяткаў год святы абраз Хрыстазбавіцеля вісеў. Гэта месца святое.

— Га-га-га! — зарагатаў Сымон здаровым смехам. Замест вачэй у яго блішчэлі вузенькія шчылінкі ў густых зморшчынах.

Чалавек яшчэ з большым захапленнем стаў на калені і яшчэ шчырэй пачаў шаптаць. Смага чулася ў яго шэптах, нібы ў гарачы дзень на сенакосе халодную ваду піў. Але ў яго руках была нейкая няпэўнасць, нязвыкласць да малітваў і як бы схаваная палахлівасць.

Сымон глядзеў на яго з недавер'ем і кінуў адным вокам на сякеру:

— Доўга моліцца чалавек. Якія грахі адмольвае?

А той вочы ўгару закаціў — пэўна, не бачыць ні кута, ні клапоў, а толькі закураную столь... Яго набожныя вочы, мабыць, і столі не бачаць, а яркае, сонечнае, блакітнае неба, з якога сам «святы дух» да яго спускаецца на воблачных пухоўках...

У гэты час Сымоніха ціха і хутка, каб «святы» чалавек

не заўважыў, апранулася і, як зачараваная, не зводзіла з яго вачэй.

Цень малельніка застыў разам з ім на подлозе нерухомай, невідочнай жывёлінай. Здаецца, даўно тут чалавек моліцца і так ён будзе стаяць да апошніх хвілін свайго жыцця.

Перад Сымоніхай гэта быў не чалавек, а бог, перакінуты ў чалавека.

Падарожнік зняў трубку з плеч і сеў на лаву. Часта гладзіў доўгую чорную бараду. З робленай павагай ківаў галавою.

— Хто ты і адкуль ідзеш? — запытаўся Сымон.

— Можа, есці хочаш, святы чалавек? Пэўна, галодны?

У словах Сымоніхі было спачуванне і замілаванне.

— Я іду здалёк. Я — манах. Як пайшоў з Кіеўскага манастыра, дык так па людзях і валакуся. Дзе днюю, там не начую. Вячэраў у суседняй вёсцы. Есці не хачу. Дзякуй.

Голас яго расслаблены — голас пакрыўджанага, нешчаслівага чалавека.

Кот цёрся каля яго ног і ціха мурлыкаў. Ён нагнуўся і пагладзіў ката.

Сымоніха падкруціла ўверх кнот лямпы.

— Мне вочы баляць ад такога святла,— сказаў падарожнік, зажмурыў вочы і па-гаспадарску спусціў кнот у лямпе.

Сымон угледзеў у яго вачах хітры бляск.

...Што гэта за чалавек?

— Чаму гэта ты, гаспадар, святыя абразы зняў са сцяны?

— Навошта яны мне, калі ў бога не верую!

— Чаму не верыш?

— Бо ніколі яго не бачыў. Яго няма!

— А ў камуну верыш?

— Веру.

— Бачыў яе?

— Бачу, як яна робіцца. Разам з іншымі будую. Веру ў сілу сваіх рук.

— А чаму па тутэйшых вёсках сабакі такія адкормленыя? Валочацца па дарозе тлустыя, аж брыдка на іх глядзець.

— Гэта багачы кароў сваіх рэжуць, каб у калектывы не забіралі. І коней скуралупам прадаюць.

— Яны з гора ды з бяды так робяць. А там у калектывах каровы і коні не патрэбны — на ўсё машыны будуць. Машыны даіць будуць, на машынах араць будуць і ездзіць.

Злы смяшок чуўся ў голасе падарожніка.

— Кінь аб гэтым гаварыць і няма чаго смяяцца,— залаваўся Сымон.— Навошта табе, божаму чалавеку, у такія справы ўмешвацца?

— У паншчыну вас заганяюць! Вось што я скажу,— загарачыўся падарожнік.

Сымон недаверліва на яго зірнуў.

— Ты, божы чалавек, лепш дакументы свае пакажы,— зазлаваўся Сымон.— Чорт цябе ведае, з якога ты манастыра!

— Дакументы? — хрыплым голасам прагаварыў падарожнік.— Такім, як ты, вось якія дакументы паказваю! Вось!

Падарожнік тыцнуў Сымону ў самыя вочы дзве фігі і зарагатаў. Ад рогату ходырам захадзіла яго барада. Блішчэлі белыя конскія зубы. Нахабным позіркам ён аглядаў Сымона з ног да галавы.

Збянтэжыўся Сымон. Пачырванеў.

— Ах ты! — крыкнуў Сымон.— Гэта мне ў маёй хаце фігі тыцкаеш?! — і моцнымі рукамі схапіў «багамольніка» за грудзі.

Пачалася валтузня, лаянка. Прачнуліся дзеці, заплакалі. Залямантавала Сымоніха, выскачыла на двор і падняла гвалт.

Сымон і «багамольнік» качаліся па падлозе.

— Пусці! — закрактаў «багамольнік».— Пусці... — узмаліўся ён.

У хату прыбеглі ўстрывожаныя суседзі.

Ноч лютаўская прачнулася каля сцен на снежных аўчынах.

Вецер зачосвае заімшэлыя стрэхі.

## БАНДЫЦКІ АБРЭЗ

«Багамольніка» злавілі, павялі ў горад. Гэта быў вядомы бандыт Панкрат, які шмат год хаваўся па лясах і хутарах і вандраваў па розных мясцах у выглядзе «багамольніка».

Новы сябра Панкрата, Антон, у якога ў апошнія дні хаваўся «багамольнік» скрыгатаў зубамі ад злосці.

— Калі нам няма жыцця, дык няхай і гэтаму гаду Сымону не будзе. Не пабачыць ён камунію. Калі Панкрат пажартаваў, дык ён гэта ўсур'ёз прыняў? Няхай будзе сур'ёз за сур'ёз!

Выбраў Антон цёмную ночку — без месяца і зор. Вецер скуголіў над вёскай, прыйшоў грэцца з халоднага бору. Над полем пытляваўся дробны, як пылок, снег.

У гэту ноч Антон, тулячыся каля сцен, пайшоў на сваё Балагумно. З-пад страхі выцягнуў бандыцкі абрэз часоў Балаховіча. Абрэз быў вычышчаны, агледжаны, вымазаны алеем яшчэ некалькі дзён таму назад.

...А мо спатрэбіцца...

Гладкі халодны «струмент» моцна трымаў у руках. Не дрыжэлі Антонавы рукі. Толькі зубы сцяў ён так моцна, ажно долатам сталёвым іх не расшчэпіш. А ў вачах — жаўтаватыя воўчыя аганькі. Яны свідравалі начную цемень і злосныя бліскі кідалі ў бок хаткі Сымона Канцавога — аматара калгаснага, гаваруна нялюбага.

... Эх!

*

І ўспомніў Антон.

Жуда гуляла па мястэчку. Дваццаць чалавек конна. Акяніцы былі зачынены ў светлы сонечны дзень. На вуліцах ніводнага чалавека. Спачатку прабівалі кулямі акяніцы. Потым падпалілі мястэчка. А пасля — крыкі людзей, ад чаго нешта расло ў грудзях дзікае і радаснае.

— За што ты мяне б'еш?

Стары яўрэй з акрываўленай галавою глядзеў на яго зусім неспалохана. У яго выцвілых вачах свяцілася запытанне.

Калола Антона гэтае запытанне, нібы накаленая да чырвані шпілька.

— Бо ты — яўрэй, а сын твой камуніст.

— Няма ў мяне сыноў.

— Брат твой.

— Няма ў мяне братоў.

— Унук твой.

— Няма ў мяне ўну...

Стары не скончыў. Лоўкі быў абрэз...

*

Краўся па чужых загуменнях Антон. Ішоў так ціха, што нават самога сябе не адчуваў. Вось нібы ён соваецца ў сне і вецер носіць яго, як снежную пылінку.

Ішоў асцярожна, павольна. Кожны крок — вялікае вандраванне. Сам ён — цень, нячутны, лёгкі. На Сымонавым гумне запахла свежым сенам.

А хаты вясковыя, хлявы і гумны — небяспечныя. За кожным вуглом, можа, хто цікуе. Можа, хто сцеражэ...

Вочы ў Антона вострыя, як у каршуна. Калі што, дык здалёк угледзіць. Абрэз у руках не спудлуе. У выпадку чаго, дык... і заўсёды адным махам у грудзі або ў лоб. Ого, ён стралок першага гатунку! Ён — майстар!

*

Святлютка свецяць маленькія акенцы Сымонавай хаты. Мітусяцца за шклом людскія постаці.

Антону сам бог-гасподзь памагае. Нікога не сустрэў. Сіні снег не скрыпіць пад нагамі на Сымонавым агародзе. Супроць акна — кусты.

Тут і сеў Антон.

Наставіў кароткую рульку абрэза ў акно. Доўга цэліўся. Жмурыў левае вока: браў Сымона на мушку, хацеў трапіць у лоб. Няхай людзі не скажуць, што няўдалы быў стралок.

А ў гэты час:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— ...адно вам скажу, таварыш Сысоеў, што калгас у нас будзе адзін з лепшых.

Голас Сымона ўпэўнены. Хрыпоткі няма. На стале дыміцца яечня. Жбан малака стаіць. На белым абрусе ляжаць тоўстыя лусты хлеба.

— Ешце, таварыш Сысоеў! — гасцінна просіць Сымоніха. Яе вочы такія родныя, свойскія.

— Маладзец, баба! — хваліць яе Сымон.— Вось так! Таварыш Сысоеў дапаможа нам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І злосць брала Антона, што Сымон ні на хвілінку спакойна не ўсядзіць. Круць-верць галавою ва ўсе бакі.

Гутаркі праз акно не чуваць. І непрыемна Антону:

... Вось чалавек адчыняе і зачыняе рот, моршчыць лоб,

бліскае вачамі, махае рукамі, а слоў яго не разбярэш. Чалавек рухаецца ўсім целам, гаворыць, здаецца, усім целам. А слоў не чуеш... Праз акно толькі працэджваецца заглушаны гуд чалавечых галасоў:

— Гум-гум-гум-гум.

Зусім не страшна Антону. Сталь абрэза нагрэлася ў яго руцэ. Сымон у хаце ля акна здаецца яму вельмі далёкім ад гэтых кустоў. На некалькі міль. Зусім не страшна.

Антон павольна прытуліў гарачы лоб да тонкай галінкі. Пылінкі снегу пасыпаліся яму на расніцы — халодненькія і драбнюткія, нібы вішнёвы цвет. Прыемна...

... Не! Цяпер няма як, бо разам з Сымонам прыстрэліш і яго маленькую дачушку, што села яму на калені. Антон «чэсны», малая не вінавата...

А ў гэты час:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— ... Агатка! Як будзе называцца калгас?

Так пытаецца ў дзяўчынкі таварыш Сысоеў.

— Чыйвоны Каст'ічнік!

— Маладзец! На цукерку!

Дзяўчынка бярэ цукерку і разам з паперкай кладзе ў рот.

— Кажы «дзякуй» дзядзю! — сварыцца на малую матка.

Малая вымае з рота цукерку і кідае на маму.

— Кажы «дзякуй».

— Не хачу!

Злуецца мама. Злуецца і Агатка.

Сымон рагоча:

— У каго ж гэта ўдалася яна такая ўпартая? Га-га-га!

— Распусціў ты яе, Сымон,— злуецца Сымоніха.

У таварыша Сысоева бліскучыя акуляры на носе.

— Дзядзя, дай! — просіць Агатка.

«Дзядзя» здымае з носа акуляры і насоўвае на носік Агаткі.

Тут ужо і Сымоніха рагоча.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З нецярплівасцю чакае Антон. Дачакацца не можа. Яны ўсе разам.

— Усіх разам і заб'ю! Чаго там! Можа, нават адным стрэлам...

І Антон вырашыў забіць усіх: і Сымона, і яго жонку, і маленькую Агатку, і незнаёмага чалавека.

— Чаго там... Усіх!

Драпежніцкія вочы бандыта гарэлі, як вугаллі.

— Праз колькі хвілін збяжыцца сюды ўся вёска... Я ўцяку полем. Паеду куды-небудзь. Тут усё роўна жыццця няма...

Думкі коляць мазгі Антона, нібы іголкі.

А ў гэты час:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Спі, Агатачка... спі, дачушка... Дзядзя табе прывязе з горада Леніна.

— Маенечкага, маенечкага...— просіць Агатка.

— Як жа! Маленечкага! — супакойвае матка. Напявае без слоў.

— А-а, а-а, а-а-а!

— А-а, а-а-а!

Усе ў адзін рад стаяць ля калыскі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Вось цяпер можна ўсіх адным стрэлам! — радуецца Антон.

Стрэл грукнуў хрыпла.

У той жа міг па ўсёй вёсцы забрахалі сабакі.

Куля трапіла якраз у шырокую прызбу Сымонавай хаты, бо нехта моцна таргануў Антона. Абрэз выпаў з яго рук.

— А-а-а! Гэта ты, Антон? А я сабе стаю і думаю: хто гэта пад кустом ля чужой хаты засеў, як той цецярук? Ну, добра, што я трапіў, а не ты! Ды не спяшайся так, суседзе! Ты ж тут, мабыць, змёрз. Хадзем у хату!

Антон не мог вырвацца з моцных рук.

Над полем пытляваўся дробны снежны пылок.

## У ТЫЯ ДНІ

Маладая з сівымі валасамі.

У сельскагаспадарчай камуне Новы Быт яна сакратар ячэйкі. На полі працуе нароўні з мужчынамі. У маёй бытнасці ў мінулым годзе ў памянёнай камуне я зацікавіўся гэтай сялянкай — Альжбетай Вараўкай.

Ёй пад трыццаць год. Вакол блакітна-шэрых вачэй ледзь прыкметныя зморшчыны. Дзве тонкія рыскі вакол

губ. Бліскучыя белыя зубы. Калі яна ўсміхаецца, яе вочы ззяюць надзвычайнай ласкай і па вачах ёй тады васемнаццаць гадоў. Калі яна задумваецца, тады вочы яе — строгія, цямнеюць і ёй можна даць сорак гадоў. Паводле сівых стрыжаных валасоў ёй гадоў шэсцьдзесят. Тая самая розніца ўзросту заўважаецца ў яе руках: то — адрывістыя, шпаркія, нібы не ведае, дзе дзець сваю энергію, а то — лагодныя, лянівыя, быццам яна вельмі стомлена жыццём.

У часе абеду ў агульнай сталоўцы камуны Альжбета Вараўка праглядала «Праўду».

Мяне надзвычай зацікавілі маладыя вочы і старая галава тав. Альжбеты.

На маё нясціпнае запытанне аб гэтым яна махнула адрывіста рукою.

— Старая гісторыя, памятка з часоў уцёку белапалякаў з Беларусі.

— Калі маеце час і настрой, калі ласка, раскажыце.

— Ахвотна.

Вочы тав. Альжбеты пахмурнелі, зрабіліся строгімі. Зморшчыны на твары паглыбелі.

Я выняў з кішэні дарожны блакнот.

Тав. Альжбета замахала рукамі.

— Толькі не запісвайце.

— Чаму?

— Не хачу, каб аба мне пісалі. Такіх гісторый тады было многа ў нас.

Быў лагодны летні поўдзень. Цень у садзе насупраць веранды былога панскага дома, дзе цяпер сталоўка і клуб камунараў, быў самы кароткі. Спявалі жаўранкі.

— Дык вось,— пачала тав. Альжбета,— я тады насіла партызанам нашай вёскі яду ў лес. Там былі мае два браты і муж. Многа было людзей з нашай і вакольных вёсак — чалавек шэсцьдзесят. Была раніца. Я толькі што вярнулася з лесу. Паўзла між жыта, каб суседзі мяне не ўгледзілі. Трэба было асцерагацца. Дабралася да гумна. Стала ля сцяны і давай прыслухоўвацца. Дык вось. Было ціха. Ні малейшага ветрыка. Ні малейшага шуму. Толькі дзе-нідзе скрыпнуць вароты. Стаяла так некалькі хвілін.

Тав. Альжбета апавядала ціхім голасам, аднатонным, часта паўтараючы «дык вось», але эпічны тон і простыя словы прымушалі прыслухоўвацца, заінтрыгоўвалі.

— Дык вось раптам пачуліся з боку тракта далёкія водгаласкі. За той час партызаншчыны, калі ўночы прыходзілася часта насіць есці ў лес за дзесяць-пятнаццаць

вёрст, я здарова навастрыла вушы... Дык вось гэтыя водгаласкі здаліся мне падазронымі. Яны раслі з кожнай хвілінай. Не то шум лесу, не то дрыгат зямлі. Я ўжо не пайшла на двор. Стаю за вуглом. Пачуліся калі-нікалі стрэлы. Тады я толькі здагадалася, што гэта ідзе войска. Яшчэ праз некалькі часу я пачула грукат вайсковых калёс і тупат ног. Вяскоўцы высыпалі з хат на двары, на вуліцу. Дык вось пачалася суматоха. Павыганялі кароў, свіней, хавалі дабро. Я ўсё глядзела з-за вугла. Хацела пабегчы да бацькоў на дапамогу, але не, думаю, можа, прыйдзецца наказаць партызанам. Я проста не ведала, што мне рабіць, у які бок кінуцца. Легіянеры хутка паказаліся. Былі конныя, пешыя і абоз. У сэрцы пуста стала — ці спакойна пройдуць яны праз вёску?

Тав. Альжбета змоўкла на хвіліну.

— Суматоха на вёсцы павялічылася. Як пад'ехалі легіянеры да самай вёскі, я заўважыла сярод абоза і сялянскія фурманкі. На вазах сядзелі мужычкі, панурыя, шэрыя. Як бы хто скамячыў маё сэрца ў маленькі клубок. Я сцяла зубы, сціснула кулакі і маўчала. Вачэй не магла адарваць ад бліскучай зброі жаўнераў. Легіянеры рассыпаліся па вясковых дварах. Пачуліся хутка крыкі і ляманты. Заігралі па спінах сялянскіх панскія бізуны. Я акамянела ад гэтай жудасці і не магла крануцца з месца — ні туды ні сюды...

— Усё злілося ў нейкае дзікае войканне. Я думала тады, што свет канчаецца. Як раз'юшаныя звяры, гойсалі па дварах панскія жаўнеры, дзікія, злосныя, з нагайкамі ў руках. Жаночыя ляманты «ратуйце» з польскай лаянкай перамешваліся, плылі з хат, з гумён. Дык вось толькі тады, калі я пачула гэтыя жаночыя крыкі, я стала прытомнай і ў маёй галаве прамільгнула думка: «як найхутчэй паведаміць нашых партызан».

— Я ціхенька дапаўзла да жыта, а праз жыта хутка дабралася да лесу, які стаяў блізка ад вёскі. Партызаны знаходзіліся за вёрст сем адгэтуль каля грэблі, па якой павінна было праходзіць панскае войска. Дык вось трэба будзе ім наладзіць там урачыстае спатканне...

Пры гэтых словах тав. Альжбеты яе голас звінеў металавымі гукамі і ў вачах заблішчалі цёмныя аганькі.

— У лесе я трохі адсаплася. Як пусцілася бягом далей, дык яшчэ чуваць былі крыкі з вёскі і пах дыму. Відаць, падпалілі вёску,— падумала я. Нават не стамілася, дабегла да грэблі раней войска. Нашыя хлопцы выбралі

грэблю, бо яна з абодвух бакоў была акружана балотам і густым лісцяным лесам. У нашых было два кулямёты, стрэльбы і рэвальверы. Яны ляжалі напагатове ў высокай балотнай траве блізка ад грэблі так непрыкметна, што я іх ледзь заўважыла. Я расказала ім, што робяць у нашай вёсцы легіянеры...

Зморшчыны на твары тав. Альжбеты ўглыбіліся, і ў гэту хвіліну яе твар пастарэў на многа гадоў і гарманаваў з сівымі валасамі на галаве...

— Вочы нашага атамана пры гэтых маіх словах так загарэліся, ажно я думала, што ад злосці ён на мяне зараз накінецца. Ён хваляваўся, сціснуў мае рукі так моцна, ажно я ад болю слаба крыкнула. Ён аслабаніў мае рукі і пачаў перада мною апраўдвацца: «Мы не маглі наладзіць засаду ў вёсцы, бо сілы няроўныя. Тут іншая справа. Балота і лес нас выратуюць. Таксама адгэтуль далёка да суседняй вёскі».

— Дык вось і мне далі стрэльбу ў рукі. Паказалі, як трэба цэліцца і як страляць. Паказалася на дарозе войска. У мяне і дыханне спынілася. Трэба было спакойна ляжаць... Мы пачалі дзейнічаць толькі тады, калі легіёны апынуліся на грэблі насупроць нас.

Памаладзелі пры гэтых словах вочы тав. Альжбеты. Твар і голас яе не гарманавалі з сівымі валасамі на галаве.

— Не спадзяваліся такой сустрэчы паны. Яны так спалохаліся ад неспадзеўкі, што нават мала адстрэльваліся. Яны на грэблі наўцёкі, а нашыя кулямёты стракочуць, а стралкі ў нас адчаяныя! Людзі і коні змяшаліся ў кучу. Гарачую мы ім наладзілі лазню. На грэблі засталося некалькі павозак з нарабаваным сялянскім дабром, паходная кухня з гарачым снеданнем і дваццаць тры легіянеры. З нашага боку было трое забітых і адзін паранены.

— Мы адышлі побач з грэбляй назад, бліжэй да нашай вёскі, каб сустрэць новых. Паказалася яшчэ толькі пяць легіянераў, якія, відаць, «запрацаваліся» ў вёсцы і адсталі ад сваіх — двое пешых і трое конных. Іх мы забралі жыўцом.

Тав. Альжбета трохі спынілася. У яе вачах свяціўся сум.

— Пасля гэтага мы паслалі разведку ў вёску. Праз пару гадзін, як мы даведаліся, што гэта апошняе панскае войска прайшло, мы ўсе бягом туды. Вёска ўжо дагарэла. Мой стары бацька ляжаў закатаваны насмерць каля студ-

ні. Маці над ім войкала і прычытвала. Тое самае было і на іншых згарэлых дварах... Не паспела я адарваць матку ад трупа бацькі ды супакоіць яе, як гучнае «ўра» загрымела на вясковым папялішчы. Гэта прыйшлі чырвонаармейцы і нашы партызаны сустракалі іх... Нас усіх агарнула радасць. На момант было забыта гора і няшчасце, учыненыя нам панскімі легіёнамі. Дык вось цяпер...

Апавяданне тав. Альжбеты раптам спынілі хрыплыя зыкі званка.

— Ну, бывайце,— сказала яна будзённым голасам.— Трэба ісці на поле працаваць.

Не паспеў я агледзецца, як тав. Альжбета ўскочыла з веранды і апынулася між камунараў, што пайшлі цвёрдай хадой за вялізнае гумно ў поле.

Здалёк за аграмадным полем цямнеў лес. За рэчкай гудзеў трактар.

## НІКЕЛЕВАЯ КАЛЯСАЧКА

Яго звалі Отто Мейль. Яго бацька, Карл Мейль, быў беспрацоўным шаўцом. Отто Мейль яшчэ ў маленстве любіў калясачкі. З драўлянай скрынкі ён сам змайстраваў аднаго разу калясачку і вазіў у ёй сваю двухгадовую сінявокую сястрычку Рыту. Яна смяялася ад шчасця. Яе тварык паружавеў. Отто вазіў яе, а яна ўсё прасіла:

— Яшчэ... Яшчэ...— І голас яе быў гучны, як срэбраны званок.

У той час Отто вельмі зайздросціў свайму равесніку з суседняй багатай фермы — Бертольду Ліндэ — сыну Гюнтэра Ліндэ. Той меў для катання такую прыгожую маляваную калясачку, такую зграбную і лёганькую, што ў Отто вочы разбягаліся. Яму здавалася, што нічога прыгажэйшага і лепшага не можа быць ва ўсім свеце. Отто выконваў усе просьбы і загады багатага равесніка Бертольда, аддана слухаўся яго, шчыра і старанна прыслугоўваў, каб той хоць дазволіў рукамі дакрануцца, памацаць і пагладзіць калясачку. Отто пры гэтым млеў ад асалоды, забываў голад, бацькоў, сінявокую сястрычку Рыту...

— Ох, якая слаўная калясачка... Якая цудоўная калясачка... Якая прыгожая калясачка...

У яго голасе было гэтулькі захаплення, пяшчоты і просьбы, што Бертольд расчуліўся, зрабіўся добрым і дазволіў Отто карыстацца калясачкай. Дабрата і чуллівасць Бертольда была вось якая: ён дазволіў Отто вазіць сябе, Бертольда, па шасе. Аб тым, каб самому пакатацца, Отто не адважваўся і думаць. Ён і без гэтага меў вялікую ласку ад Бертольда, бо ва ўладара калясачкі быў яшчэ сапраўдны жывы маленькі рыжы конік, якога Бертольд запрагаў у свой маленькі фаэтончык.

Отто замяняў коніка і вазіў на калясцы Бертольда.

Гледзячы на гэта, бацька Бертольда, стары Гюнтэр, хваліў сына:

— Вось так, мой сын! Будзеш добрым гаспадаром! Ты ўжо запрагаеш людзей у сваю каляску...

Калі Отто было пятнаццаць год, ён зноў меў сутычку з калясачкай. Але між першай калясачкай і другой была вялікая розніца. У першы раз Отто прымацаваўся да калясачкі з шчырым бескарысным захапленнем і нават сам за гэта прыплачваў добраахвотнымі паслугамі. А ў другі раз гэта ўжо было цяжкім абавязкам, за які яму, Отто, плацілі. Яго, Отто, купілі, як жывую рухаючую сілу.

Справа была вось якая. У бацькі Бертольда, Гюнтэра Ліндэ, аднялася раптам левая частка цела. Ён, канешна, меў магчымасць ляжаць на пярыне і спакойна дажываць свой сыты век у багатым каменным доме. Але не такі чалавек быў Гюнтэр Ліндэ. Ён быў драпежны, як звер, і любіў гаспадарыць і камандаваць. Яго вечная прагнасць да гаспадарання была большая за яго ферму. Без гаспадарання ён не мог бы жыць. Яму было б куды цяжэй, чым без хлеба... Запрагаць аднаго са сваіх коней у звычайную каляску багаты фермер не хацеў. На гэта была важная прычына. Па-першае, гэта каштавала б дорага, а ён быў вельмі скупы. Па-другое, ён сам не мог бы ўправіцца з канём адной рукой. Ён жа не мог нават з месца крануцца. Значыць, чалавек для паслуг яму ўсё роўна быў патрэбны. Па-трэцяе, па вузенькіх сцяжынках поля нельга ж ездзіць на кані — сапсуеш пасевы, стопчаш гародніну, збожжа і кармавыя травы.

У той час беспрацоўныя бацькі Отто Мейля цярпелі голад. Бедны хлапец Отто быў горды. Не хацеў ён быць замест каня ў багача — нізашто не хацеў. Бацькі са слязамі на вачах яго ледзь угаварылі. Ды і то не ўгаварылі б, але ён зірнуў на маленькую сінявокую і белавалосую сястрычку Рыту. Яго пранізала такая жаласлівасць да гэтай

слабенькай дзяўчынкі, што дзеля яе гатоў быў пайсці і на больш цяжкую і на больш ганебную працу...

І Отто наняўся вазіць спаралізаванага Гюнтэра Ліндэ ў лёгкай зграбнай нікелевай калясцы, зробленай паводле спецыяльнага заказу старога фермера.

Спачатку здароваму і спрытнаму хлопцу такая праца здавалася забаўкай:

— Падумаеш — калясачку вазіць!

Так ён думаў у першыя спробныя хвіліны язды па гладкай роўнай дарожцы ў цяністым садзе. Але пану Гюнтэру Ліндэ трэба было аб'ездзіць усе трыццаць гектараў свайго ўладарства ўдоўж і ўпоперак, трэба было перарысоўваць тонкімі веласіпеднымі калёсамі зграбнай каляскі ўсе клеткі і шахматныя квадраты разнастайных пасеваў поля і гарода. Апрача таго, спаралізаванаму гаспадару хацелася кожны дзень паглядзець, як пасвіцца стада, і пабываць у суседнім хвойніку.

Калі мець на ўвазе, што Отто вазіў гаспадара ад цямна да цямна, дык можна быць упэўненым за дабраякаснасць і стаdon гэтага двуногага каня. Як сапраўдны добры конь, ён рабіў дзень у дзень некалькі дзесяткаў кіламетраў.

Каляска мела нікелевыя аглабелькі з папярочнікам, абверчаным гумай. Отто знаходзіўся між аглабелькамі, нібы конь, і трымаўся рукамі за папярочнік. А калі прыходзілася ўзбірацца на ўзгорак, ён упіраўся ў папярочнік грудзьмі. У першыя дні, пакуль Отто яшчэ цалкам не ўваходзіў у ролю двуногага каня, ззаду падпіхваў каляску яго равеснік, сын гаспадара — Бертольд. Гэта рабілася яшчэ таму, каб даводзіць Отто, што гэтай конскай працай не ганьбуе і сын самога гаспадара.

Нягледзячы на дапамогу, Отто абліваўся потам. Нэ далонях выступалі і часта лопаліся балючыя крывавыя валдыры. Нылі пальцы рук і ног, і ён адчуваў несупынную ламату ў каленях і паясніцы. Няйначай — здрадлівы сын фермера Бертольд фальшывіў, а не памагаў. Зусім магчыма, што Бертольд нават падвешваўся ззаду да каляскі, каб самому пакарыстацца маленькім жывым маторам — сілай наймітa-падлетка. Бо калі Отто перастаў карыстацца «дапамогай» Бертольда, вазіць зрабілася куды лягчэй.

Потым Отто заўважыў яшчэ адно цікавае з'явішча: як толькі сябар малых год Бертольд падыходзіў да яго, пані Ліндэ кожны раз адзывала яго ды нешта яму гаварыла. Аднаго разу ён нават выпадкова падслухаў:

— Сорам табе, сынок, сябраваць са сваім наймітам.

Праз некалькі часу Бертольд так удаліўся ад яго, што пры сустрэчах адварачваўся ад Отто, як незнаёмы...

Отто быў гэтым вельмі пакрыўджаны.

Малюсенькая хатка-будачка бацькоў Отто стаяла побач з фермай сям'і Ліндэ. Калі Отто падвозіў часам Гюнтэра Ліндэ да самай мяжы фермы — да хаткі сям'і Мейль, ён ніколі не бачыў ні бацькоў сваіх, ні маленькай сінявокай сястрычкі Рыты. Затое, калі ён бываў на некалькі гадзін ад роднай хацінкі, бацькі стаялі на двары і здалёк за ім назіралі. Часта ён заўважаў вострым позіркам, як яго маці кончыкамі хусткі выцірае вочы. Яму тады рабілася не па сабе, і ён злаваўся на матку.

Отто харчаваўся ў фермера, а начаваў дома. Ён выходзіў з дому пры ўсходзе сонца, а варочаўся дамоў пасля вячэры — позна ўвечары.

— Наш хлебадаўца прыйшоў,— прабаваў жартаваць бацька Карл Мейль, дымячы сваёй вечнай люлькай.

— Перастань жартаваць,— прасіла маці.

Отто ніколі не скардзіўся бацькам, што цяжка вазіць нікелевую каляску, што яму ўсё цела баліць. Ён нават рукі хаваў, каб бацькі не бачылі, якія яны ў яго пакалечаныя. Ён адразу клаўся спаць. Ён быў кожны раз змочаны, хістаўся на нагах. А калі маці ў яго пыталася, чаму гэта ён так хістаецца, Отто адказваў, што пасля вячэры пані Ліндэ яго пачаставала моцным віном і ён ахмялеў...

— Няўжо ж пані Ліндэ такая далікатная?! — дзівілася маці і падазрона ківала галавой.

Часам уночы ля ложка Отто стаяла маці. Ён прытвараўся, што моцна спіць. Маці стагнала, пяшчотна гладзіла на ім коўдру і ціха-ціха шаптала. Гэты шэпт здаваўся яму ледзь прыкметным подыхам ветру па лісцях:

— Мой бедны сынок... Мой няшчасны сынок...

Сэрца Отто сціскалася тады ад страшнага болю. І ён не раз да крыві пакусаў сабе губы. Ён стрымліваўся, каб не разрыдацца.

Сваю любімую сястрычку, сінявокую Рыту, Отто бачыў толькі спячай. Так раненька-рана пры выхадзе з дому. Так позненька-позна пры прыходзе дамоў. Яму здавалася, што з сястрычкай ён навекі разлучыўся. Яму здавалася, што яна вечна-вечна спіць, нібы зачараваная прынцэса з бабульчынай казкі. Часам удавалася яму прыносіць ёй пару яблыкаў з саду Гюнтэра або кавалачак торту з

кухні Гюнтэра. Гэта яму падсоўвала старэнькая бабуля-кухарка. Яна кожны раз шаптала:

— Для Рыты.

Часам Рыта не спала, чакала яго, але ўсё роўна забаўляцца з ёю яму мала прыходзілася. Яго галава хілілася да падушкі, і ён паўтараў сваю выдумку аб тым, што яго на ферме пачаставалі віном і ён моцна ахмялеў...

— Бач,— жартаваў бацька.— Яшчэ выпівакай станеш...

Жонка старога фермера, пані Ліндэ, далікатным літаслівым голасам і літаслівымі вачамі ўпрашвала парабкаў фермы і Отто, каб дагаджалі старому хвораму пану, каб выконвалі ўсё, што б ён ні загадваў. «А то,— тлумачыла яна з жахам у вачах,— ён можа памерці ад апаплексіі. Так гавораць дактары».

За строгае паслухмянства мужу пані Ліндэ абяцала кожнаму з наймітаў спецыяльныя ўзнагароды, апрача ўмоўленай платы. Больш за ўсіх яна аб гэтым прасіла падлетка Отто, бо яму ж цэлы дзень прыходзілася вазіць гаспадара і цярпець усе яго капрызы.

— За ім жа прыходзіцца глядзець, як за паўгадавым дзіцем,— старалася пані Ліндэ выклікаць жаласлівасць у Отто да Гюнтэра Ліндэ.— Яго ж трэба не толькі вазіць, яму ж трэба не толькі падаваць ежу, але дапамагаць ва ўсім іншым, што патрабуецца бездапаможнаму нешчасліваму чалавеку.

У першыя дні ў добрага Отто сапраўды з'явілася пачуццё жаласці да спаралізаванага фермера.

На ферме Ліндэ панаваў суровы лад жыцця. У кожным кутку адчувалася несупынная турботнасць і акуратнасць. І ў доме, і на двары, і на полі ўсё ў пару даглядалася, чысцілася, убіралася, палолася. Кожны дзень парсюкоў мылі цёплай вадой і мылам. Коней і кароў шаравалі скрабніцамі і шчоткамі. У строгай чыстаце знаходзіўся птушнік. На дарожках не знойдзеш каменьчыка, галінкі, пёрышка. У лесе нават шышкі хваёвыя ўбіраюцца на падпал. Усё мае сваё месца і прызначэнне. Не прападае дарам ні лісток, ні пясчынка.

— Парадак!

— Акуратнасць!

— Ашчаднасць!

Такую аднаслоўную каманду дае фермер сваім маўклівым і паслухмяным наймітам у хаце, на двары і на полі.

Седзячы ў калясцы, спаралізаваны багач думае ўслых. Сваё дабро ён перакідвае ў лічбы, лічбы — у новае дабро. Ён змаўкае, задумваецца, пазірае ўгару ў летняе неба такімі прагнымі вачамі, нібы і яно належыць выключна яму. І сонечнае цяпло ён таксама на лічбы перакідвае. І паветра заганяе ў рубрыку прыбытку.

Ад цямна да цямна Отто цягне нікелевую каляску.

Яму няма калі палюбавацца навакольным харастом. Яму гэта і ў галаву не лезе.

Над яго галавою спяваюць птушкі. Здалёку серабрыцца рэчка. Па вадзе туды і сюды імчацца параходы і чаўны розных формаў і розных колераў. Прыбярэжныя кручы, узгоркі і лагчыны купаюцца ў сонцы, нібы ў мёдзе. Кудысьці ўдаль рассцілаецца жаўтаваты пас гладкай, нібы ток, дарогі. Яна роўная, як струна, і абсаджана абапал дагледжанымі яблынямі.

А падлетак Отто нібы жалезнымі ланцугамі прыкуты да нікелевай каляскі. Ніводны конь так доўга не знаходзіцца ў хамуце.

Гюнтэр Ліндэ любуецца з нікелевай каляскі харастом квітнеючай зямлі і сонечнага неба, а падлетак Отто напружваецца з усіх сіл і цягне прыгожую каляску, на нікелі якой праменні сонца слепяць вочы.

Паволі пачуццё жаласці да бездапаможнага Гюнтэра Ліндэ вытыхаецца з сэрца Отто.

Пахне канюшынай, бабовым цветам і тымі разнастайнымі пахамі поля, што насычаюць паветра хмялістым віном. Отто абліваецца сёмым потам. Пот цурком льецца па твары, кашуля прыліпае да спіны, рукі і ногі дрыжаць ад цяжкай натугі... І вось новаспечаная, неспадзяваная бяда — гаспадар хвалюецца. У чым справа? — Отто грубы і недалікатны чалавек. Ад яго аддае непрыемным пахам поту... Пан Гюнтэр моршчыць губы, крывіць нос і строга загадвае Отто за яго ўласны кошт, з мізэрнай пенсіі, купіць адэкалон. Назаўтра Отто ўжо часта выціраецца адэкалонам, і настрой фермера ўваходзіць у сваю раўнавагу. Гюнтэр Ліндэ нават жартуе:

— Ты павінен мяне дарэмна вазіць, бо вучу цябе. Пад маю каманду станеш далікатным хлапцом...

Адчуваючы, што пан Ліндэ ў добрым гуморы, Отто набіраецца смеласці і лёгкадумнай нядбайнасці. Новаспечаны баварскі рыкша з флаконам адэкалону ў кішэні робіць свае крокі больш маруднымі і павольнымі. Як закелзаны конь, ён адварачвае ўбок галаву і адным вокам па-

зірае на гаспадара. Гюнтэр Ліндэ несціць здаровай рукой пышныя вусы, і яго азызлыя шчокі дрыжаць ад кожнага руху каляскі ўзбухлым цестам. Алавяныя вочы з чырвонымі жылкамі наліваюцца фіялкавай вадкасцю.

— Ты ўжо загультаіўся... На гэты раз дарую табе такі ганебны злоўчынак. Гультайства — вялікі злоўчынак перад бацькаўшчынай.

Тон гаспадара становіцца надзіва сардэчным:

— Давай зробім перапынак. Адпачнем. Не шкодзіць крыху падсілкавацца. Як гаварыў адзін мудрэц: есці, есці ды яшчэ раз есці. Я добра ведаю, што не я прымушаю цябе вазіць мяне... Я ж чалавек неблагі, хе-хе-хе. Цябе заганяе ў нікелевыя аглабелькі тваё шляхетнае пачуццё — твой уласны голад, дык давай прыдушым, уціхамірым гэты вечны біч чалавецтва, хе-хе-хе... Жывое прымушана чым-кольвечы жывіцца. Гэта вечны неаправяргальны закон на зямлі. Дастань, Отто, ля маіх ног сакваяжык, хе-хе-хе...

Чамусьці ад гюнтэрскага «хе-хе-хе» заўсёды агідна робіцца Отто. Можа, таму, што пры гэтым кожны раз Гюнтэр Ліндэ паказвае поўны рот залатых заслюненых зубоў? Отто не ведае. Можа, таму, што ў гэтым «хе-хе-хе» адчуваецца няшчырасць, кпіны, здзек? Отто не ведае.

Сакваяж — падарожны буфет пана Ліндэ — заўсёды знаходзіцца ў нікелевай калясцы. У ім разнастайныя халодныя закускі, тэрмас з гарачым кофе, бутля халоднага піва, кампот, масла, сыр. Калі на ферме Отто есць на кухні, дык тут ён мае гонар есці разам з гаспадаром. Пры гэтым кожны раз гаспадар надакучліва вучыць свайго «каня», як прыстойна есці, якімі пальцамі трымаць ежу, як стаяць, як сядзець, як глядзець, як глытаць, ды яшчэ шмат-шмат «як». Заўсёды строгі гаспадар адносіцца цяпер «велікадушна» да свайго «каня». Яны як бы становяцца роўнымі ў хвіліны самай вялікай няроўнасці. Гэта «роўнасць» выклікаецца рознымі прычынамі. Па-першае, «конь» павінен у адну хвіліну, нібы па чараўнічаму загаду, ператварыцца ў служку, бо Гюнтэр Ліндэ можа карыстацца толькі адной рукой. Для такой пачэснай і ўрачыстай паслугі пану Отто павінен апранацца ў чыстую жакетачку з бліскучымі гузікамі (жакетачка заўсёды ляжыць напагатове ў калясцы), павінен прычасацца, а на рукі з непрыгожымі мазалямі ад прыгожай калясачкі насунуць белыя пальчаткі. Апрача таго, ён, Отто,

прымушаны пры ядзе быць маўклівым слухачом разнастайных заўваг і разваг надакучлівага фермера.

Пан Ліндэ кожны раз гаворыць аб адным: уголас паўтарае цэны на закускі, што вымаюцца з сакваяжа, перакідвае лічбы кошту прадуктаў з дробнай колькасці на большую, з большай — на вялізную, з кавалачка рыбы, шынкі ці каўбасы на сотні кіло. Лічбы вырастаюць ледзь не ў дзяржаўныя бюджэты. Яны, лічбы, вылятаюць з яго спаралізаванага сінягубага і залатазубага рота мірыядамі камароў, якія да крыві кусаюць Отто.

Кожны дробны кавалачак ежы здаецца хлопцу-каню аграмадзінай. Нічога ў горла не лезе. Ён давіцца і адчувае сябе так, нібы грызе самога Гюнтэра Ліндэ, агіднага, хітрага і злога, а той галосіць з болю. А каб захоўваць свой чалавечы гонар і паказаць сябе не такім ужо згаладалым, Отто жуе ежу марудна, павольна, з доўгімі перапынкамі. У першыя дні Отто не з'ядаў усіх крошак хлеба і кідаў у ваду (яны заўсёды спыняліся ля рэчкі) не зусім чыста абсмактаныя косткі ад рыбы.

Гюнтэр Ліндэ папракаў:

— Так нельга. Бач, як дабром раскідваецца... Ашчада патрэбна. Каб не ашчада, наша дзяржава не была б дзяржавай. Каб усе нашыя так раскідвалі ежу, дык у працягу аднаго толькі дня ад крошак хлеба і кавалкаў рыбы па ўсёй краіне вырасла б гара глуму. Хе-хе-хе...

Гюнтэр Ліндэ жмурыць вочы, і яны выглядаюць, нібы вострыя льдзяныя шчылінкі. Ён пачынае падлічваць, колькі часу насельніцтва павінна было б так неашчадна есці, каб зглумленыя прадукты выраслі ў своеасаблівыя Альпы. Ён пры гэтым таропіць у неба фіялкавыя вочы з чырвонымі жылкамі і мармыча лікі на мільёны і мільярды.

Заварожанаму галаваломнымі астранамічнымі лічбамі Отто здаецца, што ён, Отто, страшны грызун. На яго вачах выступаюць крыўдлівыя слёзы. Ён есць з вялікай пакутлівасцю, злізвае з пальцаў крошкі. Ён гатоў лізаць зямлю, калі б заўважыў на ёй драбінкі хлеба.

Гаспадар не зводзіць з яго пільных вачэй. Ён доўга пазірае, як Отто старанна есць, і кажа:

— З цябе выйдзе нешта нейкае, хе-хе-хе... Ты даволі кемлівы хлапчук, хе-хе-хе... Ты правільна ясі. Ні адной крошкі не ідзе ў глум. Ты — малайчына, хе-хе-хе!

Гэтае «хе-хе-хе» зноў вымаўляецца так, што Отто не разумее — жартуе з яго гаспадар ці кажа ўсур'ёз. Отто

вельмі важна гэта ведаць, каб у адпаведнасці з тонам гутаркі выразіць на сваім твары адлюстраванне гюнтэраўскіх разважанняў. Бо Гюнтэр увесь час не зводзіць з яго вачэй і правярае, ці хаця Отто ўважліва слухае.

Отто слухае ўважліва, і кожны кавалачак ежы здаецца яму кручком з калючага дроту. Затое гаспадар есць з незвычайнай прагнасцю. «Чым больш ясі, тым больш жыць будзеш»,— гаворыць ён. Гюнтэр кожны раз апаражнівае саквояж, а на закуску грызе свайго «каня» прагавіта, зусім неашчадна. Нукае, як на сапраўднага каня, калі Отто не так спяшаецца пасля такога «салодкага адпачынку». Гюнтэр Ліндэ не раз балюча тыркае ў худыя плечы Отто вострым канцом стэка, які заўсёды тырчыць напагатове ў яго правай руцэ, нібы знак улады.

Ад Отто цяпер залежыць дабрабыт бацькоў і сінявокай Рыты — таму ён церпіць маўкліва і пакорліва. Але ў яго, нібы лічбы ў гаспадара, расце нянавісць да сям'і багатага фермера. Гаспадар сыцее з кожным днём, і везціць яго становіцца ўсё цяжэй.

Отто пахруствае зубамі, як закелзаны ў жалезныя цуглі, натужваецца з усіх сіл, ад напружання выпучвае вочы, і на яго лбе набухаюць жылы. Тонкія калёсы робяць сотні і тысячы абаротаў па чыстых межах фермы. Межы вельмі вузкія. Патрэбна нямала спрыту, каб не пападаць калёсамі ўбок — на гародніну ці збожжа.

— Ужо куды лягчэй быць канём у выглядзе каня, чымся канём у выглядзе чалавека,— не раз думаў Отто.

Возячы ў нікелевай калясцы Гюнтэра Ліндэ, ён не раз успамінае бабульчыны казкі аб тым, як злы чараўнік ператвае людзей у жывёл, птушак і звяроў — у асла, карову, каня, сабаку, гуся, арла або ваўка. Шмат пакут церпяць ахвяры злых чар. Многа год носяць яны на сабе чужы воблік, і часта ім пагражаюць страшныя небяспекі. З іх здзекуюцца, б'юць, іх зневажаюць. Яны церпяць голад, смагу, сцюжу ночы, спёку гарачага сонца. А ўрэшце яны зноў ператвараюцца ў людзей. Пакуты скончаны. Аднак ці прыйдзе калі-небудзь вызваленне яму, Отто, каню ў чалавечым выглядзе, з чалавечым розумам?

Отто натужваецца, цягне цяжкую нікелевую каляску, і яго апаноўваюць небывалыя, дзівосныя мары.

Няхай бы знайшоўся такі чараўнік, які перакінуў бы яго, Отто, у моцнага лёгканогага ваўка. Ён задушыў бы тады ненавіснага Гюнтэра Ліндэ ды ўцёк бы ў лес, у

глуш цёмнай пушчы. Выкапаў бы сабе глыбокае логава, у якім хаваўся б удзень. А ўначы ён выйшаў бы на паляванне: душыць курэй, гусей, парасят і авечак у багатых фермераў. Усё гэта панёс бы бацькам і сінявокай сястрычцы Рыце... Ён сказаў бы ім:

— Ешце і піце. Я не воўк. Я — Отто. Я шкадую вас і люблю, толькі не магу быць канём у агіднага, скупога, дурнога і злоснага Гюнтэра Ліндэ. Мне брыдка. Смерць мілей за такое жыццё...

А яшчэ лепш, каб чараўнік перакінуў яго ў легкакрылага арла. Вострымі кіпцямі ён бы выдзер крывяжэрныя вочы Гюнтэра Ліндэ і ўзняўся б у неабсяжную сіне-сонечную вышыню, разгарнуў бы ўшыр магутныя крыллі і ўзвіўся б вышэй за перламутравыя воблакі. Гняздо сабе змайстраваў бы на высачэзнай недаступнай велічнай гары, а ўночы апускаўся б уніз, на гарады і сёлы, ды ў злых багатых людзей браў бы гвалтам самую смачную ежу і насіў бы галодным бацькам і сінявокай сястрычцы Рыце... Ён сказаў бы ім:

— Ешце і піце. Я не арол. Я — Отто. Я шкадую вас і люблю, толькі не магу быць канём у агіднага, скупога, дурнога і злоснага Гюнтэра Ліндэ. Мне брыдка. Смерць мілей за такое жыццё...

Часта ўночы сніць ён сны: то ён казачны воўк, то — лёгкі арол. Ён бачыць цудоўныя лясы, фантастычныя, непраходныя, дзіва-прыгожыя. Ён бачыць высачэзныя горы з чаруючай зелянінай унізе і суровымі вечнымі снягамі ўверсе. Ён радасны, радасны. Яму добра, добра. Ён ужо не конь у Гюнтэра Ліндэ. Нікілевая каляска ляжыць паламаная, паіржавелая, а тлустае тулава самога Гюнтэра Ліндэ плыве ў рацэ, як човен. Калі тапелец прыстае к берагу людзі адпіхваюць яго назад у стромкую плынь ды весела спяваюць:

— Так народ патопіць усю погань. Так народ патопіць усё гніццё.

Отто часта думае:

— Раз назаўсёды адмоўлюся ад такой агіднай і цяжкай працы каня!

Але тут жа ён жыва ўяўляе спалох бацькоў, галодныя сумныя вочы сястрычкі і кожны дзень рана-рана прыходзіць на работу. Ён чысціць нікелевую калясачку. Парабкі садзяць у каляску Гюнтэра Ліндэ, і Отто вязе яго на поле.

З кожным днём Гюнтэр Ліндэ ўсё больш слабее.

З кожным днём ён становіцца ўсё больш прыдзірлівым і злым.

Далёка на ўзгорку, аброслым хмызняком і падобным да кабана з рэдкай шчэццю, стаіць піваварня з высачэзным комінам з жалезным шпілем наверсе. Комін відаць на многа кіламетраў навокал. Акурат — строгі палец велікана, што паказвае пігмеям на вечнае неба. На заходзе сонца, калі ўсюды па лагчынах расплываюцца сінія цені, на шпілі коміна ўспыхвае агнёвай палоскай апошні блік сонца. Калі дзень пагасае на шпілі, пан Ліндэ загадвае:

— Дамоў!

Кожны дзень з нецярплівасцю і надзеяй Отто паглядае адвячоркам на гэты светавы сігнал «дамоў!».

У апошні час Гюнтэр Ліндэ ўсё часцей нукае на хлапца, здзекуецца з яго, трывожыць злымі словамі і ганебнымі кпінамі. Так гаспадар праводзіць час кожны раз пасля апаражнення сакваяжа. Настрой тады бывае ў яго лепш, чым добры, і ён сам з сабою пачынае разважаць:

— Што мне з таго, што не магу крануцца з месца? Глупства! Я маю дзесяткі рук, дзесяткі ног, дзесяткі вачэй. Вялікае шчасце, вялікі гонар парабкам працаваць на маім полі. Поле дагледжана, жывёла дагледжана — услужлівымі рукамі. Мне трэба толькі слова сказаць — і работа кіпіць. Хе-хе-хе. Кіўнуў пальцам — і людзі ў агонь і ваду кідаюцца, выконваюць усе мае загады. Хе-хе-хе... Я сяджу ў калясцы спаралізаваны, а магутны, як асілак, як велікан. Сіла людскіх рук і ног належыць мне — спаралізаванаму Гюнтэру Ліндэ. Розум людскі належыць мне — спаралізаванаму Гюнтэру Ліндэ. Зраблю злоснае вока — і парабкі мае дрыжаць ад страху перад спаралізаваным Гюнтэрам Ліндэ. Хе-хе-хе...

Гюнтэр Ліндэ спявае гімн самому сабе, і яго губы слюнявяцца ад вялікай, страшнай, драпежніцкай асалоды.

— Слухай, ослік мой. Навастры вушы! Загадваю слухаць уважліва, прыстойна! Так! Вось такія спалоханыя і пакорлівыя вочы, як у цябе на гэты раз, мне падабаюцца. Я ж не гвалтам заганяю людзей на сваю ферму. Вольнаму воля. Якая сіла іх гоніць да мяне? — Голад! Людскі голад — мая сытасць. Так! Голад пугай лупцуе па іх, і яны, галодныя, моляць і просяць, каб я ім дазволіў гнуцца перада мною ў тры пагібелі. А для маёй уцехі яны вочы адзін аднаму выдзіраюць. Хе-хе-хе... Нізкая парода, хе-хе-хе... Мае рабы... хе-хе-хе... Мае найлепшыя лекары ад паралiча, хе-хе-хе...

Блішчаць залатыя зубы Гюнтэра Ліндэ. Вочы задаволена і хітра прыжмураны.

Отто страшна. Ад агіды і гневу ён хоча плюнуць у азызлую, спаралізаваную, голеную да сінявасці морду. Ён хоча ўрэпіцца ў пышныя закручаныя і надушаныя вусы гаспадара. Ён хоча вывернуць з каляскі гэту кучу гнілога мяса. Ён хоча выць, лямантаваць ад нечалавечай зняваrі. Яму здаецца, што ён не падлетак, а стары-стары. У яго руках шмат працы. У яго сэрцы шмат нянавісці. У яго галаве шмат мудрасці. Аднак, гаспадар гаворыць праўду — неміласэрдную праўду. Ад гэтай няўхільнай праўды Отто яшчэ страшней. Голад і яму, Отто, скаваў рукі і ногі. І ён, Отто, пакорлівае ягнё... Голад бацькоў, сінявокай сястрычкі Рыты паралізуе яго, Отто, куды мацней, чымся панская хвароба Гюнтэра Ліндэ.

Гюнтэр Ліндэ не зводзіць з Отто вачэй. Отто збянтэжана адварачваецца. Фермер кажа з хрыпоткай у горле:

— Загадваю, аслік, каб ты глядзеў мне вока ў вока! Маўчы сабе. Я ўсё роўна бачу твае думкі. Яны лезуць з тваіх вачэй, як іголкі. Хе-хе-хе... Ты — мой смяртэльны вораг, хе-хе-хе... Кожная кропля твайго гневу дае мне вялікую радасць. Саломінка ненавідзіць магутны дуб. Отто ненавідзіць Гюнтэра Ліндэ. Смешна, хе-хе-хе... Ты б хоць падлічваў, колькі разоў на дзень ты хустачку шоўкавую ўслужліва падстаўляеш пад мае пляўкі...

Гюнтэр Ліндэ смачна і доўга рагоча.

— Толькі ворага прымушаю выконваць такія абавязкі. Правільна раблю? Правільна! Захачу — і ты, жук, хрушч бездапаможны, зараз аглабелькі нікелевыя цалаваць пачнеш. Яны ж цябе, гультая, кормяць...

Раптам Гюнтэр Ліндэ з дзівам і апаскай пачынае таропіць вочы ў Отто. Ён крычыць пагрозна:

— Хопіць! Годзе! Што за шальмоўскія, разбойніцкія вочы! Даволі глядзець, як звер, на свайго гаспадара... На свайго карміцеля... Чуеш, агіднік? Не хачу! Глядзі прыстойна, з пашанай... Чуеш?

Гюнтэр праліcыўся.

Отто бляднее, чырванее. Абурэнне, якое цяпер гарыць у яго грудзях, мацней за голад. Яно мацней за яго ўласны голад, яно мацней за голад яго нешчаслівых бацькоў, за голад сінявокай сястрычкі Рыты.

Гюнтэр пралічыўся. Ён праз меру нацягнуў струны.

— Вочы чалавечыя зрабі! — крычыць ён Отто на ўвесь голас.

— Калі пану мае вочы не падабаюцца, пан можа не глядзець мне ў вочы. Пан можа аслепнуць...

— Ах, вось як! — дзівіцца Ліндэ.

— Пан Ліндэ забывае, што я ўсё ж такі не конь, хоць выконваю абавязкі каня. З жывёлы і то не здзекуюцца.

Гаспадар устрапянуўся, захрыпеў:

— Сюды! Да мяне!

Отто зрабіў крок да яго.

— Ага! Слухаешся, лайдак!

Гюнтэр Ліндэ кінуў у яго стэкам, але не папаў у вёрткага Отто.

— Сюды! — крыкнуў ён.

Яго фіялкавыя вочы паліліся крывёю. Твар зрабіўся багровы, грудзі ходырам захадзілі.

— Сю-ды...

— Біцца, пан, не будзеш?!

— Бу-у-ду бі-і-іць...

Уздутая галава хрыпела на ўздутым тулаве:

— Бі-і-іць...

Отто з самага пачатку, калі ў першы дзень упрогся ў нікелевую каляску, ведаў, што гэтым скончыцца. Інакш і быць не магло. Ён чакаў гэтай хвіліны, як шчасця вызвалення, як хвіліны, што застаецца ў памяці да канца жыцця. Ён ужо больш не конь Гюнтэра Ліндэ. Ён — чалавек, горды, прыстойны чалавек. Отто зірнуў на гаспадара, як на гадзюку, і спакойна сказаў:

— Гад! Гнілая калода!

— Стой! Стой! Стой! — залямантаваў Гюнтэр Ліндэ.

Отто імпэтна гнаў нікелевую каляску да самага краю высокага абрыва над рэчкай. Каляска з гаспадаром паляцела ўніз і гучна плюхнулася ў ваду. Адразу стала ціха. Отто пазіраў на кругі, што разыходзіліся па вадзе. Гаспадар і каляска ляжалі на глыбокім дне.

Отто пабег куды вочы глядзяць.

## ПІКЕТ

Вастраносы хлапчук з буйнымі кроплямі рабаціння на твары стаяў ля самага лесу. Бэрка — зваўся гэты хлапчук. Сын удавы Соры.

Ён стаяў пры дарозе, прытулены да шурпатай тоўстай

бярозы. Шчуплы, тонкі і шустры пятнаццацігадовы хлапчук ледзь адсунуўся тварам ад дрэва і пільна ўзіраўся ўдаль.

Па абодвух баках жоўтага тракта роўнымі радамі стаялі старыя бярозавыя прысады. Яны канчаліся ля самага мястэчка. Местачковыя хаты былі як бы выпадкова расстаўлены на досыць вялікім абшары. Сярод іх вызначаліся адзіночкі: шпілясты белы касцёл, цыбулістая жоўтая царква, комін мураванага бровара і сіні дах дома станавага прыстава.

Бэрка не зводзіў вачэй з тракта.

У абыймах старых прысад шырокі тракт звужаўся ў даляглядзе, і здавалася, што ў самым канцы яго чалавек не праціснецца паміж прысад. Аднак калі-нікалі з боку мястэчка прабіваліся малюсенькія кропкі. Яны раслі з кожнай хвілінай, і з іх нараджаліся людскія постаці і фурманкі.

Спачатку лёгкая трывога падкрадвалася да Бэркі:

— Ці не стражнікі?

— Не. Тыя ў чорных шынелях...

Свежае лісце на старых бярозах ледзь шалясцела. Веснавы вецер прабіраў іх, нібы грэбнем. Чуўся стрыманы шолах. Бэрку здавалася, што хтосьці перагортвае лісты тоўстай кнігі. У сонечным паветры чылікалі птушкі.

Бэрка жаваў клейкі бярозавы лісток і радаваўся сонечнай пагодзе.

— Якраз на Першае Мая... А ўчора так непакоіўся Шолам.

Высокі чарнявы Шолам працаваў разам з Бэркам у шавецкай майстэрні Пінхуса Гінзбурга. Гаспадар быў настолькі багаты, што да яго імя абавязкова дадавалі і прозвішча — Гінзбург... Усе кірмашы ваколіцы былі запоўнены вырабамі Гінзбурга.

Увесь учарашні дзень Шолам непакоіўся.

— Якая заўтра будзе пагода?

Найлепшым майстрам у Пінхуса Гінзбурга быў Шолам. Гаспадар шанаваў Шолама, хоць не любіў за тое, што той праз меру добра адносіўся да хлопчукоў — Бэркі і Макара. Шолам не дазваляў крычаць на іх, не тое што біць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бэрка вачэй не зводзіць з тракта. Калі хто-небудзь

праязджае ці праходзіць, ён непрыкметна адсоўваецца ў хмызняк і цікуе адтуль за дарогай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Па вечарах калі-нікалі Шолам збіраў сваіх таварышоў у старой хацінцы Бэркавай маткі. Хатка стаяла за млынам у другім канцы мястэчка. Таварышы Шолама збіраліся па адным, употайку. У хатцы бывалі і хлопцы і дзяўчаты. Яны і сур'ёзныя, а разам з тым і вясёлыя. Часам паціхонечку спявалі песні. Самым галоўным паміж іх быў Шолам. Ён умеў вельмі хораша гаварыць. Бэрка лавіў кожнае яго слова. Гаварыў Шолам нешта падобнае да таго, што было надрукавана ў лістоўках, якія хаваў Бэрка пад страхою старой хаткі. Не зусім добра кумекаў Бэрка надрукаванае ў лістоўках, затое добра разумеў гутаркі Шолама.

Ведаў Бэрка, што ўсе гэтыя хлапцы і дзяўчаты, якія адзін аднаго называюць таварышамі, сацыялісты. Ведаў Бэрка, што ў сацыялістаў ёсць свая мова: «пралетарыят», «капітал», «камуна», «клас», «маніфест», «эксплуатацыя», «інтэрнацыянал», «арганізацыя» і г. д.

Вучыўся Бэрка гэтай мове ў Шолама. Той гаварыў аб фабрыках і заводах, аб бедным сялянстве, аб парабках. Ён так проста гаварыў, што Бэрка ўсё разумеў... Бэрка ахвотна вучыўся «мове сацыялістаў»... Уяўляў Бэрка сябе пралетарыем, а Пінхуса Гінзбурга — эксплуататарам. Ненавідзеў Бэрка капітал. Шолам навучыў яго ненавідзець багатых і лічыць бедных сваімі сябрамі, бліжэйшымі за самых блізкіх і крэўных.

За тры гады, з 1905 года, «мова сацыялістаў» увайшла ў жыццё Бэркі, у яго разуменне, як слова «хлеб».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прысады купаюцца ў першамайскім сонцы. На краі неба плыве маленькая хмарка. Пільна ўглядаецца Бэрка ў даль тракта. Едзе павольна адна фурманка. Здалёк відаць белая лысіна каня.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вельмі хацелася сёння Бэрку быць у глыбіні лесу разам з усімі на маёўцы. Якраз учора прыехаў нейкі таварыш Іван — невысокага росту, прысадзісты, бялявы чалавек з русай бародкай, у шэрай касаваротцы. Тварам падобны да тутэйшага доктара. Шолам прывёў яго да Бэркавай маці начаваць. Таварыш Іван усміхаўся Бэркавай маці па-свойску, як стары знаёмы. Пры гэтым праменіліся яго сінія вочы і блішчэлі роўныя белыя зубы. Маці Бэркі

заслала яму пасцель на шырокім тапчане супроць маленькага акенца ў бок местачковага выгана.

— Вы не доктар? — запыталася ў яго маці.— Вы вельмі падобны да нашага доктара.

Таварыш Іван адказаў:

— Можа, я і доктар. А што вам баліць?

Пры гэтым ён усміхнуўся па-роднаму.

Маці здагадалася, што ён з сацыялістаў. Яна сказала:

— Можа, вы доктар ад кепскага жыцця?

Ён яшчэ шырэй усміхнуўся.

— Дай божанька! Дай божанька! — сказала маці і ківала галавой.

— Не божанька, а мы самі,— адказаў таварыш Іван.

— Можа, і так,— згадзілася маці не то з сумам, не то з глыбокай развагай.

Перад сном таварыш Іван аб нечым доўга шаптаўся з Шоламам. Яны часта паўтаралі: канспірацыя, канспірацыя.

Ведаў Бэрка і гэтае слова з мовы сацыялістаў і ганарыўся. Ён ведае шмат чаго: ён толькі цяпер пакутуе, а тады — калі пралетарыят возьме ў свае рукі ўсё — пачнецца зусім іншае.

Трэба змагацца за гэтае «тады» — за будучыню. І Бэрка вучыўся змагацца за будучыню працоўных людзей...

Употайку ад усіх Бэрка часам браў з-пад страхі брашуркі (так Шолам называў сацыялістычныя кніжачкі). Браўся чытаць і разумеў у брашурках пятае праз дзесятае. Яму ўрэзаліся ў памяць такія словы:

«Пралетарыям няма чаго траціць, апрача сваіх ланцугоў. Набудуць жа яны цэлы свет».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На тракце нічога падазронага. Бэрка трохі стаміўся. Адвярнуўся ў бок лесу. Так вабіць цень у прамежку з залацістымі плямамі сонца. Воддаль між кустоў стаіць на варце другі «пікетнік» — Макарка. Мігаціць між дрэў яго дробны, як жменька, твар. Шустры гэты Макарка. У выпадку небяспекі — ён, Бэрка, павінен свіснуць да Макаркі. А той далей — да трэцяга пікетніка, і так аж да самай маёўкі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Як хочацца паслухаць, што цяпер у лесе старэйшыя таварышы гавораць... Шолам з Іванам учора нешта пісалі алоўкам. Яны гэта называлі «тэзісамі» да Першага Мая.

Што такое «тэзісы» — Бэрка яшчэ не ведае. Няручна было тады ў Шолама пытацца...

Багатая мова ў сацыялістаў... Бэрка ніколі раней такіх слоў не чуў.

Ды не адны словы:

— Тры гады таму назад, у 1905 годзе, местачковыя рабочыя баставалі: не працавалі ў сваіх гаспадароў. Навокал мястэчка па маёнтках забаставалі і парабкі. У іх гэта выйшла разам, у адзін час... Нібы згаварыліся...

І цікавая рэч — спалохаўся тады забастовак местачковы прыстаў. Ён выклікаў казакаў.

Так хлопчыкам тады Шолам тлумачыў: «выклікалі казакаў, бо спалохаліся».

А багатыя местачкоўцы злаваліся тады на «сіцылістаў».

— Рабочыя цара скінуць уздумалі. Бога скінуць уздумалі. Прыстава скінуць уздумалі. Рабіна скінуць уздумалі. Пачакайце, раней самі галовы скруціце.

Так гаварыў у сінагозе рэб Шмэра, гаспадар бровара, і часта хадзіў да прыстава на парады...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шалясцелі дрэвы.

Па тракце калі-нікалі праходзяць людзі. З комінаў маленькага пасёлка цягнецца ўгару тоненькі дымок, нібы з папяроскі.

Бэрку апрыкрыла стаяць на адным месцы. Хочацца туды — у лес, на маёўку...

На тракце нічога падазронага. Белявая хмарка заблудзілася пасярод неба і не ведае, дзе дзецца. Сонца так прыгрэла, што Бэрка пачаў пацець. Ён хацеў зняць з сябе пінжачок. Але... Нехта схапіў яго моцнай рукой за каўнер і шапярнуў:

— Маўчы...

Бэрка здзівіўся.

Перад ім стаяў селянін у лапцях, з белявымі доўгімі вусамі. Бэрка пазнаў у ім аднаго з местачковых стражнікаў.

Стражнік утаропіў у яго злосныя, налітыя крывёю вочы.

— Маўчы...— сыкнуў на яго стражнік у другі раз.

Бэрка ўспомніў свой абавязак і свіснуў. На яго свіст адказаў тым жа пікетнік Макарка.

— Схаваюцца ў лесе,— падумаў Бэрка.— Нікога не зловяць. А я не скажу, хто быў на маёўцы, хоць бы...

Не паспеў ён дадумаць. Моцны кулак стражніка, нібы камень, стукнуў яго па галаве.

Перад вачамі Бэркі пачало апускацца на зямлю неба разам з сонцам, разам з бялявай хмаркай. Прысады адарваліся ад сваіх месц і паплылі да хутароў у бок ад тракта...

Бэрка павольна ўпаў на зямлю.

Усе, хто быў на маёўцы, паўцякалі, схаваліся.

Бэрка іх выратаваў ад царскіх стражнікаў.

## ШРАМ

Я прыглядаюся да старшага брыгадзіра Уладзіка. Ён малады. Невысокага росту. Шырокі ў плячах. Затоеная ўсмешка не зыходзіць з яго дабрадушнага акруглага твару, з прыжмураных вясёлых вачэй. Здаецца, што зараз ён скажа жарт, ад якога ўсе смяяцца пачнуць.

Яго лоб засланяе густа чорны чуб. Валасы пагляпцаваны дажджом. Кроплі расплываюцца па твары. Лезуць у рот. Ён, брыгадзір Уладзік, спакойна хавае свой чуб пад мокрую шапку і выцірае лоб шырокай далонню.

На высокім ілбе, загарэлым ад сонца і ветру, глыбокі шрам мядзянага колеру. Шрам выглядае павялічанай коскай з круглай галоўкаю зверху, з завостранай закруткай знізу.

Шрам, захаваны раней густым чорным чубам, мільгнуў перада мною цікавай загадкай.

Адкуль такі шрам?

А дождж тысячамі пугаў лупцуе па топкай глебе, па калгасным абшары ранняй сяўбы. Дзе-ндзе на кволых усходах стаяць лужыны. Брыгада капае канавы для стоку вады. Чакавек дваццаць дзяўчат і падлеткаў жвава працуюць рыдлёўкамі.

Шпарка з-пад рук паказваюцца абрысы канаў. Яны адразу напаўняюцца вадою.

Калгаснікі ратуюць авёс.

Старшы брыгадзір, Уладзік, сам намеціў лініі для канаў.

Час ад часу ён бярэ рыдлёўку і паказвае, як капаць.

Лупцуе дождж.

У некаторых на галовах мяшкі замест башлыкоў.



Калгас называецца «Чырвоная варта». Ён ля самай мяжы з Польшчай. Калі глянеш з пагорка, дык той бок мяжы відаць, як на далоні.

Вунь маёнтак пана Тукайлы з белым палацам, з садам, з комінам ад бровара. А на самай мяжы адлюстроўвае ў сабе колер неба вялізная сажалка. Маёнтак дае пану Тукайлу мала прыбытку. І вось, жывучы каля самай мяжы з намі, ён задумаў таксама займацца «будаўніцтвам». Яго парабкі выкапалі сажалку. І пан Тукайла пусціў туды на гадоўлю «залатых рыбак».

З боку «залатых рыбак» часта ў лагоднае надвор'е чуваць касцёльны звон. Плыве ён прыглушанымі гукамі, нібы з аддаленасці сівых вякоў. Калгаснікі плююцца.

Усмешка зыходзіць з твару старшага брыгадзіра Уладзіка. Ён пачынае намацваць пальцамі свой глыбокі шрам на лбе.

Калі трактары працуюць блізка ад мяжы, шмат хто з боку «залатых рыбак» глядзіць сюды, як на дзіва.

Доўга яны стаяць на адным месцы і вачэй не зводзяць з нашых трактароў. Жандармы з нагайкамі заганяюць людзей у хаты.

А нядаўна з боку сажалкі з «залатымі рыбкамі» пачулася галашэнне. Вартаўнік пана Тукайлы ўкінуў хлапчука ў глыбокую сажалку. Хлапчук рыбу вудзіў.

— Плыві да залатых рыбак, пся косць!

Хлапчук утапіўся.

Матчына галашэнне чуваць было некалькі дзён.

...А мой ты Макарок...

...А саколік мой любанькі...

...І ножкі твае не ходзяць...

...І вочкі твае не бачаць...

Усё чуваць было ў нас, слова ў слова. З боку касцёльных званоў і «залатых рыбак» плылі да нас матчыны скаргі. Яны каламуцілі нашу калгасную радасць.

Жаласлівыя калгасніцы выціралі вочы кончыкамі хустак. А брыгадзір Уладзік у гэты час быў сур'ёзны і задуменны і часта мацаў пальцамі свой шрам на лбе.



А вось пра гэты самы шрам. У вольныя хвіліны Уладзік апавядаў.

Уладзіку было тады дзесяць год. Гарачы летні дзень.

Лес пана Тукайлы густы і вялікі. Але Уладзік ведае яго не горш, чым панскія леснікі. Яму сцяжынкі не патрэбны. Ён нясе бацьку хлеб у торбе. З апаскай азіраецца па баках, прыслухоўваецца да кожнага шолаху.

— Мо хто сочыць за ім?

Праз непраходнае балота Уладзік спрытна ступае з купінкі на купінку. Данёс. Узрадаваўся бацька, аброслы, загарэлы, з вінтоўкай за плячамі.

Абрадаваліся з бацькам яшчэ многія — такія ж аброслыя і загарэлыя, з бліскучымі вачамі, са стрэльбамі.

— Малайчына, сынку! — пахваліў Уладзіка бацька.— Што там у нас?

— Шмат людзей заперлі ў панскія стайні. Там дзед Паўлюк. Там крывы Сапрон. Там...— і хлопчык пералічвае ўсіх, нібы чытае з паперы.

Бацька пагладзіў Уладзіка.

— Ідзі, сынку, дамоў. Толькі, як з лесу выйдзеш, шугай асцярожна. Ідзі жытам. Калі што якое — у жыце, сынку, хавайся. Хавайся ў жыце.

У бацькавых вачах аганькі гордасці. Кожная зморшчынка на яго ілбе радуецца і гардзіцца.

— Малайчына, Уладзік! Хлеба прынёс. А мы галодныя...

І па-сяброўску кажа хлопчыку:

— Сягоння ўночы вызвалім нашых з панскай стайні.

Твар бацькі робіцца строгім:

— Ты, сынку, аб гэтым ні слова!

— Ні слова!

Ідзе Уладзік дамоў з пустой торбай. Ён рад: самае цяжкае зроблена. Галодным партызанам хлеба падаў.

А навокал — купкі з чырвонымі буйнымі суніцамі. Пахне маліннікам і грыбамі. Так цягне да ягад. Хлопчык нагінаецца, зрывае некалькі суніц і кладзе ў рот.

А дзяцел на дрэве стук-стук.

— Асцерагайся, Уладзік...

Ён дабраўся да жыта. Аглядаецца, ці не відаць дзе легіянераў. Ідзе сцяжынкаю між высокага жыта. «Цірліцірлі-цірлі»,— пяе птушка над яго галавою:

— Асцерагайся, Уладзік...

Неба сіняе-сіняе. За дробным хмызняком прытулілася вёска. Адтуль чутны ўрывістыя галасы, сабачы брэх:

— Асцерагайся, Уладзік...

Сіні матылёк кружыцца над ім, мільгае перад яго тварам, дражніцца:

— Асцерагайся, Уладзік...

Забыўся Уладзік пра пустую торбу, што трымае ў руцэ, азіраецца па баках ды ідзе бліжэй да вёскі. У полі такая лагода, што хоць аставайся тут на мяжы, прыляж, маўчы ды глядзі навокал.

Галасы з вёскі плывуць яму насустрач. Галасы — не такія, як заўсёды. Холадна стала Уладзіку ад гэтых галасоў. Ён навастрыў вушы і слухае, утаропіў вочы і глядзіць. Выцірае торбай успацелы лоб.

Крыкі з вёскі чуваць больш выразна. Крыкі страху і роспачы. Устрывожыўся Уладзік.

— Што там такое? Што здарылася?

Уладзік бягом бяжыць у вёску...

— Сто-о-ой!

Легіянер у чатырохкантовай шапцы, з бліскучым брылікам, падняўся з жыта і схапіў Уладзіка за руку.

*

Уладзік ашаломлены. Маўчыць. Моцна трымае пустую торбу. Яму здаецца, што туман засланіў яснае сонца, а з туману вызначаецца жылісты злосны твар легіянера. Рэжа слых злосны голас:

— Ты ідзеш ад бацькі? Ты насіў яму есці? Вось і торба ад харчоў. Дзе бацька?

Легіянер вырваў торбу з рук Уладзіка. Уладзік не даваў. Нібы ў торбе быў увесь паратунак і ўся бяда для яго. Ён кусаўся.

Легіянер прывёў Уладзіка ў вёску. У хаце яго бацькі сядзеў малады паніч Тукайла, апрануты па-вайсковаму.

— Пане паручык,— звярнуўся да паніча легіянер.— Вось птушку злавіў. Бацьку, атаману іхняй бандыцкай зграі, насіў есці ён у гэтай торбе.

Легіянер палажыў на стол торбу.

Паніч з кволым, як у дзяўчыны, тварам узяў торбу грэбліва двума тонкімі ружовымі пальцамі і давай вытрахваць з яе на стол хлебныя крошкі.

— Гэта ён у поле хадзіў. Я паслала яго карову паглядзець. Я ж вам ужо казала,— пачуў Уладзік устрывожаны голас маткі.

Толькі цяпер ён заўважыў яе ў кутку. Яна сядзела згорбленая на ложку. Яе твар быў белы, як палатно. А вочы строгія, строгія. Адной рукой яна трымалася за бок. Вопратка на ёй была парваная.

— Дзе ты быў? — запытаўся паніч у Уладзіка лагодным голасам.

— У полі.

— Праўду кажы!

— Дальбог, у полі...

Уладзік зірнуў на пабітую матку і заплакаў.

— Нічога ні табе, ні бацьку не будзе. Толькі праўду кажы,— зноў лагодна прагаварыў паніч. Ён дастаў з кішэні шакаладку і падсунуў хлапцу.

— На, еш, не бойся.

Уладзік локцем адсунуў ад сябе шакаладку.

— Гыш ты, шчанё! — буркнуў паніч, і рукі яго задрыжэлі ад злосці.— Гавары, дзе бацька!

Паніч замахнуўся бізуном. Спіна хлапца пад лёгкай кашуляй апалілася агнём.

— Не бі яго,— грозна ўскрыкнула маці, падскочыла і засланіла сабою сына.

Як град, пасыпалася на матку лупцоўка. Паніч Тукайла біў яе па твары, па руках, па плячах.

— Я скажу, паніч, я ўсё скажу. Толькі матку не чапай,— прасіў, маліў Уладзік.

— Кажы!

Перад уяўленнем Уладзіка мільгануў лес, бацька са стрэльбай ды ўсе іншыя аброслыя, загарэлыя суседзі. У гэтую ноч яны павінны вызваляць усіх арыштаваных, што сядзяць запёртыя ў панскай стайні.

Але над акрываўленай маткай вісіць бізун маладога Тукайлы...

— Я панічу ўсю праўду скажу...

Перад хлопчыкам замітусіліся сцэны хаткі. Перад ім не адзін раз'юшаны паніч, а многа. Перад ім не адна акрываўленая маці, а многа. Хата ідзе ходырам, кружыцца, і сярод гэтага кругу ён пачуў загад маці:

— Маўчы!

Перад ім засвяціліся матчыны вочы — любыя, пакутлівыя і грозныя.

— Маўчы!

Уладзік маўчаў.

— Дзе бацька?

Голас паніча Уладзік не чуў. Ён толькі бачыў яго ўспенены рот і белыя зубы.

— Дзе бацька?

Паніч замахнуўся, і бізун з усяе сілы свіснуў над Уладзікам.

Калі Уладзік ачнуўся, галава яго была забінтавана. Горкі дым лез у вочы. Праз дым ён угледзеў сіняе неба і заклапочаны аброслы твар бацькі.

— Я, сынок...

— Тата! — здзівіўся Уладзік.— Ты?

— Я, сынок...

— А дзе маці?

— Спіць, сынку, спіць...

Бацька адвярнуўся ад пільнага, дапытлівага позірку сына.

Ад вёскі засталіся толькі печы і галавешкі. Дарогай ішлі атрады чырвонаармейцаў.

— А дзе маці?

— Легіянераў, сынку, мы выгналі адгэтуль. Бачыш, яны вёску спалілі. З панскай стайні вызвалілі арыштаваных. Маладога паніча застрэлілі. Стары Тукайла ўцёк.

— А дзе маці?

*

Гэта было ў ліпені тысяча дзевяцьсот дваццатага года. Маці Уладзіка пахавана ў гэтай вёсцы разам з іншымі, якіх замучылі панскія каты... Вунь за новымі калгаснымі будынкамі курган з вялікім помнікам.

У Уладзіка застаўся на лбе глыбокі шрам...

## ВІХОР

Вогнішча прыпала да зямлі, патухала і дыміла. Па чорных галавешках замітусіліся агнёвыя мурашкі, заёрзалі і зніклі. Пацямнела. Пахла дымам і прэлай зямлёй, дзёгцем і печанай бульбай. Конюхі спалі, атуліўшы галовы і спіны тоўстымі кажухамі, вольна раскінуўшы запрацаваныя ногі ў тлуста вымазаных ботах.

Над людзьмі строга шапацеў стагодні дуб. Нібы подых ночы, даносіліся шолахі з блізкага бору.

Коней вартуе цяпер нізенькі дзядок Арцём. У кароткім кажушку, са стрэльбай за плячамі, ён абыходзіць калгасны табун, што пасвіцца на свежаскошанай канюшыне. Адзіным відушчым вокам дзед упіваецца ў глухамань ночы. Некалькі дзесяткаў коней прагна ўткнуліся мордамі ў росную траву. Роўнае хрумстанне надае дзеду супа-

кой. Ён папраўляе стрэльбу за плячамі, ледзь хіліць галаву набок і кагосьці сквапным вокам шукае між цёмных конскіх сілуэтаў. Пісклівым старчым голасам, пяшчотна, як да ўнука, ён кажа:

— Віхо-о-ор...

На гэты кліч, павольна і ляніва пераступаючы нагамі, падыходзіць да яго зграбны, даўгагрывы, з лебядзінай шыяй жарабец і тропіць у старога свойскія, ледзь не дзіцячыя, зацікаўленыя вочы. Ён абнюхвае рукі дзеда, пнецца губамі ў дзедаў твар і ціханька, ледзь чутна, іржэ, нібы просіць гасцінца.

— Ах ты-ы-ы... баламут! І-ха-ха.

Дзед хіхікае тоненька і дробна, нібы звоніць шкляным званком. У яго голасе адчуваецца вялікая пяшчота. Дзед ўдумліва і доўга гладзіць свайго гадунца па круглай аксамітнай шыі. Жарабец стаіць нерухома, толькі выцягвае шыю і з асалодай прыслухоўваецца да дзедавых пяшчот.

Урэшце дзед дастае з кішэні кавалак хлеба.

— Еш, Віхор... На-а-а... На!

Жарабец бярэ губамі хлеб і павольна жуе.

Пабалаваўшы свайго гадунца, дзед вяртаецца назад да патухшага вогнішча. Жарабец ідзе за ім яшчэ некалькі крокаў і спыняецца. Дзед нагінаецца і пачынае з попелу выгортваць печаную бульбу. Перакідвае яе з далоні на далонь некалькі разоў, разламвае на дзве часткі, нюхае, ахкае ад прыемнага паху, здзьмухвае попел і кладзе ў рот разам з кажурою.

Пад смак печанай бульбы, нібы пад гукі песні, дзед Арцём любіць думаць і думаць. Апошняй яго думкай — Віхор. Калгаснікі пастанавілі здаць яго сёлета Чырвонай Арміі. Учора раніцой дзед выкупаў Віхора ў возеры. Сівы, у яблыках, зграбны жарабец забаўляўся ў вадзе, як хлапчук: тупаў нагамі, фыркаў, плаваў, бурбалкі носам пускаў, доўгім хвастом па вадзе кругі рабіў і гарэзна і весела касіў вочы на дзеда. Стары прыгінаўся, упіраўся далонямі ў свае вострыя калені і тоненька, доўга да слёз смяяўся.

— Ах ты-ы-ы... баламут...

Віхор, танцуючы, выйшаў з возера на залацісты пясок, пырскаў ноздрамі, атрахваўся ад вады і паглядаў навокал гарачымі і смяшлівымі вачамі. Дзед чысціў яго цвёрдай шчоткай спрытна і жвава, як юнак. Віхор ззяў — аксамітны, бліскучы, гладкі. З лебядзінай шыі і круглых шліфаваных бакоў цяклі тоненькія струменьчыкі чыстай вады.

Калі нізенькі дзядок дабіраўся шчоткай да яго шаўкавістага з раўком пасярэдзіне крыжа, Віхор прыгінаўся, каб дзеду было лягчэй даставаць, і прыслухоўваўся да шурхатання шчоткі. Ад прыемнасці Віхор не рухаўся з месца, апускаў галаву і жмурыў, нібы кот, фіялкавыя вочы.

Дзед пры гэтым гаварыў да яго:

— Мілы мой Віхор... родны мой Віхор! — І адзінае дзедаўскае вока маладзела і радавалася.

— Не конь, а малюнак...— любаваўся дзед і давай клапатліва аглядаць і абмацваць кончыкамі пальцаў яго круглыя, як талеркі, зграбныя, нібы адлітыя з бронзы, капыты.

— Разумны, як чалавек,— часта хваліцца дзед перад суседзямі сваім гадунцом.— Мне ён здаецца, як тое ягнё, цюцькай за мною ходзіць. А папробуй яго гладзіць хто чужы — о-го-го! Нізашто не даецца! Ніякімі ласункамі яго не возьмеш! Як загневаецца, як захмыліцца, як застрыжэ вушамі, дык лепш не падступайся! Пярэднюю нагу падніме — і тыц у чалавека, як рукой. А такія гордыя вочы ўтаропіць у чужака, хоць ты шапку знімі ды пакланіся! Прызнаю свой грэх, часам лішнюю мерку аўса ўсыплю яму. Гэта і не грэх. Для Чырвонай Арміі гадуем...

Сілкуецца дзед Арцём печанай бульбай і пры гэтым думы розныя думае пра цяперашняе жыццё, пра даўнейшае. Цягнуцца дзедавыя думкі тоненькай доўгай ніткай.

...Калісьці ўраднік пры вобыску, пры шуканні бунтарскіх паперак, што сын знекуль прывёз, сцёбаў яго, бацьку, нагайкай...

Ад зорак да роснай травы цягнецца зялёнае павуцінне. Чорнай сцяной высіцца ўводдалі хвойнік. Шчыпле траву калгасны табун, і гэтыя гукі родзяць у вушах старога Арцёма нечуваны звон. Цэлая паводка хмар насунулася на неба. Зоркі патанулі ў іх, нырнулі, схаваліся. Цёмна-цямнютка навокал.

...Эх, каб месяц ядраны, яркі і круглы, закрасаваў цяпер у нябесным полі макавым цветам!

І думкі дзеда вандруюць у далечыню мінулага — у сваю маладосць. Ён адсунуўся назад на трыццаць год. Страшна яму такая маладосць... Над ім, замест яснага месяца, свеціцца звярыная морда ўradніка...

Не голас чалавечы чуе дзед, а нейкае рыканне:

— Дзе бунтарскія паперкі сына?

Маўчыць дзед Арцём, сцяўшы зубы. Пячэ агнём урад-

ніцкая нагайка. Хацеў Арцём войкнуць ад болю — ледзь стрымаўся...

У хвойніку нешта шалахнулася. Ці то галінка трэснула, ці то птушка спрасонку крыллем устрапянула...

— Не спі, дзед... Сцеражы калгасны табун.

Трыццаць год таму назад крыкнуў дзед. Ураднік выбіў яму нагайкай правае вока.

Ці то дзед і цяпер крыкнуў, ці то Віхор трывожна заіржаў, але стары ўсхапіўся. А заснуў ён толькі што, стоячы. Устрапянуўся, выцер левае — відушчае — вока і давай пранізваць ноч вострым, як шыла, позіркам. І сплыла хмара, і зоркі зноў вынырнулі з нябеснай паводкі, як залатыя рыбкі. І зноў зялёнае павуцінне цягнецца ад зорак да зямлі. І між небам і зямлёй вырастае трое коннікаў. Яны шпарка імчацца па полі ў старану лесу.

Першы коннік сядзіць на яго Віхоры...

Хтосьці сэрца вырваў з дзедавых грудзей. Пуста і сцюдзёна ўнутры. А вось і горача стала. І думкі сцёбалі, як трыццаць год таму назад урадніцкая нагайка.

— Што мне на гэта скажа сын, стары будзёнавец? Дзе мне вока схаваць ад унука-снайпера? У каго сумленне пазычу, каб у родны калгас вярнуцца?

Задаўшы самому сабе такія запытанні, дзед схапіў стрэльбу і пальнуў у самае неба. Зямля адклікнулася на стрэл з усіх бакоў. Прачнуліся конюхі, ускочылі на ногі. Трывога.

— Га? Што? — запыталіся яны.

А ў дзеда голас адняўся. Ён выстраліў яшчэ раз і ледзь прамовіў:

— Зладзеі... Віхор...

Стрэлы ўзнялі трывогу ў калгасе. Замітусіліся людзі. Засвяціліся вокны. Бягуць калгаснікі на поле да коней — і старыя, і малыя.

— Віхор! Ві-хо-ор! — заве асіпацелы дзед.

Родным далёкім іржаннем адклікаецца Віхор з цемры хвойніку.

Дзед уголас праклінае самога сябе:

— Хай бы лепш зямля сырая мяне глынула! Хай бы лепш...— Ён спыняецца і шукае для сябе самы страшны праклён, але патрэбных слоў не знаходзіць. Тады пачынае крыўдзіцца на Віхора:

— Каб яго ліханька не ўзяла! Каб яго маланка не спаліла! І даўся ж баламут у рукі чужому чалавеку! Ай-яй-яй...

Не ведае дзед, што Віхор ані не вінаваты. Як пачуў жарабец каля сябе нейчыя крокі, дык адразу падняў трывожна галаву. Яму раптоўна накінулі на шыю аркан. Так моцна зацягнулі пятлю, ажно ў вачах зялёныя абручы закруціліся. Вочы вылезлі на лоб, затуманіліся слязамі. На жарабца напала млявасць. Ногі так задрыжэлі, што Віхор ледзь не ўпаў. Ён нават не чуў, як на яго надзелі вуздэчку. Стаяў ён увесь мокры ад поту і ціхі, як цялё... Калі знялі аркан, хрыплае бульканне вырвалася з горла дзедавага гадунца. Калі ён ледзь адсопся, яго сцебанулі па нагах нечым цвёрдым і балючым. Віхор паімчаўся, куды вочы глядзяць. Ён у тую хвіліну нават не пачуў на сабе чалавека і думаў, што ўцякае ад ворага. Трапіў якраз на блізкую дарогу.

— Віхо-о-ор!..

Голас дзеда вярнуў яму прытомнасць. Віхор застрыг вушамі, даў дубка, падняў угару пярэднія ногі і рашуча крутануў галавой на голас дзеда. Але жалезныя цуглі бязлітасна адвярнулі галаву ў другі бок і да крыві парэзалі губы... Ён выгнуў лебядзіную шыю, захроп і з ноздраў сыпнуў дым... Ніяк не можа скінуць з сябе касьці чужога, агіднага, злога, ненавіснага. Той прырос да яго спіны драпежнай расамахай. Віхор падскочыў угару заднімі нагамі, ледзь не перакуліўся, а ганебны чалавек хоць бы што...

Чалавек сцёбае яго нечым балючым між вушэй, па вачах. То страшэнна лаецца і пагражае забіць на месцы, то ласкавымі словамі ўпрашвае, час ад часу коліць цвёрдымі і вострымі абцасамі па мяккіх баках. Жарабец верціцца ўюном на адным месцы. Не хоча паддацца.

Ні Віхор, ні чалавек не заўважылі, што месяц, яркі і круглы, абліў хвойнік расплаўленым серабром. Наўкос усяго хвойніку рассцілаюцца па ўтульным моху зялёныя абрусы. Непрытомным ад злосці стаў чалавек. Вочы яго сыпалі іскры. Ён заскрыгатаў зубамі, драпежна прыгнуўся тварам да шыі каня і моцнымі вострымі зубамі ўеўся ў гарачую мякаць каля грывы...

Віхор спалохаўся. Воўчыя клыкі чалавека збянтэжылі яго да таго, што ён зноў паддаўся сіле жалезных цугляў. Чалавек у радасці перамогі пачаў выць і раўці па-звярынаму.

А дзесяткі людскіх галасоў захлёствалі чалавека і каня.

— Віхор! Віхо-о-ор! — зноў пачуў жарабец знаёмы голас старога Арцёма.

— Віхор! — разлягаліся водгаласкі ў месячным хвойніку.— Віхо-о-ор!

Даўно зніклі першыя два коннікі на пакрадзеных конях. Калгаснікі даганяюць Віхора.

Не па сабе стала зладзею. Спрабаваў саскочыць з Віхора, каб схавацца ў лесе, але пры гэтым бразнуўся лбом аб хвою і назад адваліўся, урэпіўшыся пальцамі ў гарачую густую грыву Віхора.

Жарабец адчуў волю. Цяпер ужо не чалавек на яго спіне, а як бы мяшок з сенам. Віхрам імчаўся Віхор на знаёмыя, родныя галасы... Ярка свеціць месяц. Побач з канём імчыцца па роснай зямлі яго цень, падобны да вярблюда.

Спыніўся Віхор ля варот новай, асветленай электрычнымі лямпачкамі, канюшні. З яго спіны знялі аглушанага чалавека, аблілі вадой. Чалавек расплюшчыў вочы: стары знаёмы. За падпал калгаснай пуні ён год таму назад сядзеў у турме. Уцёк адтуль і хаваўся па тутэйшых лясах.

Віхор стрыг вушамі, і яго фіялкавыя вочы сыпалі маланкі ад злосці. Ён не падпускаў да сябе нават дзеда Арцёма...

Аднавокі дзед збянтэжыўся, як вандроўца Гулівер пры сустрэчы з гаспадаром казачнай зямлі, дзе гаспадарылі коні, а людзі іх вазілі.

## НАВАГОДНЯЯ ЁЛКА

Лес быў пасярэбраны сівізной марозаў, зямля была цвёрдая і гучная. У лагчынах блішчэлі ахопленыя ледзяной карою лужыны і лапікі снегу.

Чарнавокая настаўніца Ганна Тарасаўна, жвавая жанчына трыццаці год, гуляе ў лесе з вясёлай грамадой школьнікаў. На фурманцы ехаў хлапчук Мішка. Ён быў на гэты раз вельмі горды — у яго за поясам тырчэла блískучая невялікая сякерка. Лес быў за два кіламетры ад новага вялізнага будынка школы. Гоман дзяцей поўніў паветра. Яны выбіралі ялінку на Новы год. Дзеці калгаснікаў, якія ўлетку, у вольныя часы, гулялі па наваколь-

ных палях і лясах, не так цікавіліся ёлкай, як тымі дзівоснымі садавінамі, што на ёй будуць расці ў школьным зале. Гэтых садавін-падарункаў Ганна Тарасаўна прывезла з Мінска вялікую скрыню.

Выбар ёлак быў багаты. Вочы дзяцей разбягаліся ва ўсе бакі. Нарэшце ім спадабалася адна стромкая, тоненькая ялінка, што стаяла на паляне, недалёка ад дарогі, каля высокай тоўстай ёлкі, нібы дзіця каля роднай маці.

— Гэту яліначку і возьмем! — крыкнуў Міша, падскочыў да яе і дастаў з-за пояса сякерку.

— Гэту! Гэту! — узрадаваліся дзеці.

— Сячы! — загадала Ганна Тарасаўна і махнула рукой, нібы дала каманду.

Мішка ўзмахнуў сякерай, крыкнуў «гэ-э-э», але настаўніца раптам затрымала яго руку:

— Не чапай, Міша!

Смутак і радасць чаргаваліся ў вачах настаўніцы. Яе гладкі лоб на адну кароткую хвіліну спахмурнеў. Яна зірнула з хваляваннем на высачэзную ёлку і на яе «дзіцё».

Вучні здзівіліся:

— Такой харошай ялінцы месца толькі ў школе.

— Чаму не чапаць?

— У чым справа?

— А я вам раскажу.

— Раскажыце, Ганна Тарасаўна.

Дзеці ўзрадаваліся.

— Раскажыце! Раскажыце!

Ганна Тарасаўна на хвіліну задумалася, нібы нешта ўспамінала. Дзеці абступілі яе цясней. Яна пачала ціхім голасам, нібы саромелася. З кожным словам яе голас мацнеў.

— Гадавалася я круглай сіратой — ні бацькоў, ні братоў, ні сясцёр і ніякіх родных. Як я сябе памятаю, жыла па чужых людзях. У сем год я ўжо свіней пасвіла ў аднаго тутэйшага кулака. Білі мяне больш, чым кармілі. Не было каму паскардзіцца. Калі сынок гаспадароў маіх год у чым-небудзь правініцца — каралі мяне. «Яму на страх»,— гаварыла гаспадыня. З майго твару ніколі не зыходзілі сінякі. Я так звыклася, што нават не асабліва пакутавала ад біцця. Горш было з маёй вечнай галадухай. А яшчэ горш — адзіноцтва. Хацелася ад каго-небудзь пачуць добрае, спагадлівае слова, да каго-небудзь прытуліцца, каб хто мяне пашкадаваў, каб хто пабедаваў над маёй сірочай доляй. Апрача дрэў у лесе, нікога ў мяне не

было. Гэтая тоўстая ёлка тады была тоненькая і такая адзінокая на паляне, як я сярод людзей.

Аднаго разу, калі гаспадар адсцёбаў мяне пугай, я, акрываўленая, уцякала ад яго куды вочы глядзяць. Прыбегла сюды, на паляну, да адзінокай ёлкі, абняла яе і, плачучы, апавядала сваю крыўду. Было гэта пасля дажджу. З лапак капалі на мяне кроплі, і мне здавалася, што дрэўца плача ад жалю да мяне.

У часы белапольскай акупацыі мне было чатырнаццаць год. Я служыла ў фальварку аднаго панка, дзе цяпер стаіць наша новая школа. Тры гады таму назад разбурылі стары панскі будынак з пакоямі і пакойчыкамі.

— Памятаем! Памятаем! — сказалі дзеці.

— Дык вось я там працавала на кухні. Я не раз апавядала вам, дзеці, як белапалякі ў нас тады гаспадарылі і як нашы слаўныя партызаны змагаліся за савецкую ўладу. Я тады была ўжо не зусім адзінокая — служыў у пана пастушком дзесяцігадовы хлапчук. Я кожны дзень што-небудзь крала для яго з панскай кухні і совала яму ў торбачку, і гэта мяне вельмі радавала. Дзіўны быў хлапчук, сінявокі, паслухмяны, маўклівы. Вечна іграў на жалейцы: на полі, на двары, у парабкоўскай хаце. Ён так жаласліва і так хараша іграў, што я наслухацца не магла.

Аднаго разу, у веснавую ноч, нашы партызаны спалілі мост на рацэ Пціч, дзе праходзіць палатно чыгункі, зрабілі напад на станцыю, дзе знаходзіўся жандарскі аддзел, перастралялі жандараў, узнялі над будынкам станцыі чырвоны сцяг і зніклі. У тую ж ноч уцёк з фальварка і пастушок. Кулакі разнюхалі, дзе знаходзяцца партызаны. Падказалі. Праз некалькі дзён арыштавалі шэсць партызан. Атрад конных жандараў прывёў іх, звязаных, у гэты самы фальварак, дзе я працавала наймічкай і дзе знаходзіўся другі жандарскі засценак. Пан загадаў мне прыслужваць жандарам. Пад панскім домам, як вы памятаеце, быў вялізны склеп. Туды і кінулі шэсць арыштаваных, збітых, акрываўленых людзей. Кожную ноч іх выводзілі наверх, на допыт да жандараў.

Не буду вам апавядаць пра тыя страшныя здзекі, што жандары ўчынялі над імі. Жандары дапытваліся: «Хто вашы таварышы? Хто яшчэ прымаў удзел?» Я затыкала вушы, каб не чуць ляскату бізуноў і шомпалаў, стогнаў скатаваных і брыдкіх лаянак жандараў. Партызаны былі знаёмыя мне, бацькі, браты і родныя нашых цяперашніх

калгаснікаў. Найвялікшай для мяне пакутай было кожны раз пасля такіх допытаў мыць аблітую бядняцкай крывёю падлогу. У мяне дрыжэлі рукі, кружылася галава. Я плакала. Мне, дзяўчынцы, было так страшна... Я спаць не магла. Стогны з падвала рэзалі нажом мае грудзі. Нават калі было ціха — звінелі ў маіх вушах крыкі і плач.

Дзень у дзень выведвалі ў партызан адно і тое самае: «Хто прымаў удзел з вёскі Мязэрычы?» — гэта дзе наш калгас «Чырвоны сцяг» цяпер. Ніякія катаванні ім не дапамагалі. Партызаны маўчалі. Мне прыходзілася цягаць жандарам вёдры з вадою, каб прыводзіць у прытомнасць збітых людзей.

У тыя дні я не магла есці ад страху, каб хаця хто з партызан не прагаварыўся. Хацела ўцячы, як той пастушок; але нешта стрымлівала мяне, прыкоўвала да жандарскіх пакояў. Я думала: а можа, чым-небудзь дапамагу арыштаваным. Праз колькі дзён я крыху пасмялела і давай прыслухоўвацца праз тонкія сценкі да допытаў. Адзін з партызан звар'яцеў, калі... але не буду вам гаварыць, аб тым, як яго мучылі. Ён выў немым голасам. Пачаў трызніць і выгаварваць прозвішчы ды імёны сваіх таварышоў — нашых старэйшых калгаснікаў, вашых бацькоў, дзядзькоў і братоў...

Кожнае прозвішча лезла вострай іголкай у маё сэрца. Праз шчыліны дзвярэй я ўбачыла, як жандар упісвае ў кніжку прозвішчы ды імёны знаёмых і блізкіх людзей. Я рвала на сабе валасы. Мне стала горача і холадна. Праз чорны ход кінулася на двор, растрапаная, без хусткі, босая. Хоць я была зусім адзінокая, але адчувала, што гэтыя людзі былі мне крэўныя ў горы і бядзе.

Была веснавая ноч. Я бегла ў Мязэрычы і ног пад сабою не чула. Нібы нехта на крыллях мяне нёс. Мне насустрач ляцелі хмызнякі, лес і далёкія аганькі чыгункі. Каб хаця паспець, а то ўся вёска загіне. Часта аглядалася назад. Дыханне стрымлівалася. Дабегла да першай хаты. Усё расказала. Паўцякалі ў лес не толькі партызаны, але шмат хто з дзядоў, жанок і дзяцей. Я парашыла бегчы назад у фальварак — можа, чым-небудзь дапамагу скатаваным.

Зноў бягу праз лес, прыслухоўваюся. Чую тупат коней па лясной дарозе. Зусім блізка. (Вось там, дзе дарога паварочвае ўлева, на гэтай самай паляне.) Ці паспею схавацца? — думаю. А гэта самая ёлка як бы чакае мяне. Я бягом да ёлкі і прырасла да яе. Нібы да матулі. Ма-

быць, і ўдзень не ўгледзелі б мяне з дарогі. Зусім блізка праехаў атрад жандараў. Я чула, як мяне лаялі. Яны здагадваліся, што я пабегла ў вёску. Значыць, мне ў фальварку ўжо не месца.

Я мела тады першае вялікае шчасце ў сваім жыцці — выратавала некалькі дзесяткаў партызан. Калі праехаў жандарскі атрад, мне насустрач выйшаў з лесу пастушок з фальварка. З радасці, што сустрэў мяне, ён ледзь не зайграў у сваю жалейку. Я абняла матулю-ёлку, што схавала мяне ад жандараў. Пастушок павёў мяне да партызан. Я была разам з імі аж да прыходу сюды Чырвонай Арміі. Што было далей, дзеці, я вам не раз апавядала пры нашых гутарках пра грамадзянскую вайну.

Дык вось, каля маёй замілаванай ёлкі вырасла яліначка. Яна не памятае тых часоў, як і вы. Няхай сабе расце. Не будзем яе чапаць.

Смутак і радасць чаргаваліся ў вачах настаўніцы. Такі самы выраз вачэй быў і ў школьнікаў. З ранейшых апавяданняў Ганны Тарасаўны яны ведаюць, што многія з партызан былі расстрэлены, што белапалякі спалілі вёску, катавалі старых і малых, а з прыходам Чырвонай Арміі пачалося новае жыццё.

На пятнаццатую гадавіну вызвалення Беларусі ад белапалякаў сюды, у калгас, прыехала на свята шмат дарагіх гасцей з розных гарадоў Вялікага Саюза — настаўнікі, прафесары, рабочыя, лётчыкі, інжынеры, ваенныя камандзіры. Усе яны — былыя тутэйшыя батракі і беднякі — партызаны і дзеці партызан.

Адзін з гасцей хораша іграў на скрыпцы. Гэта быў той самы, які калісьці пастушком іграў на жалейцы і павёў Ганну Тарасаўну да партызан у лес.

*

Школьнікі знайшлі ёлку ў другім месцы. У вялікім школьным зале на ёй, нібы дзівосныя садавіны, віселі розныя падарункі для дзяцей.

## ЖАЛЕЙКА

Гэта было пасля Новага года. Малады кампазітар Сяргей Міронавіч Румейка запрасіў мяне паслухаць сваю новую сімфонію.

— «Жалейкай» завецца,— сказаў ён.

Мяне зацікавіла назва. Добра ведаю старадаўнюю драўляную свісцёлку на шэсць-сем галасоў. Калі я ў маленстве слухаў ігру пастушка на жалейцы, мне здавалася, што гэта спяваюць жаўранкі або журчыць ручаёк.

Сяргей Міронавіч перагортвае ноты. Яны дзе-нідзе пярэсцяць ад папраўак каляровым алоўкам. У маладога кампазітара энергічны твар, высокі белы лоб і натхнёныя сінія вочы. Ён прабуе інструмент моцнымі і чулымі пальцамі. Адным вухам нібы прыслухоўваецца да гукаў. Пры першым акордзе вочы яго становяцца цёмнымі і мройнымі. Па яго губах расплываецца дзіцячая ўсмешка.

Электрычная лямпачка асвятляе толькі раяль. У прасторным пакоі паўзмрок. Зімовы вечар налівае шыбы акон сінім чарнілам. І мне здаецца, што мелодыя даносіцца сюды з двара, з-за вокнаў. Яна плыве з-пад пальцаў музыканта тонкімі струменямі, пакрысе набліжаецца, нарастае. Кволыя і баязлівыя тоны мацнеюць, напаўняюцца бадзёрасцю. Мелодыя акрыляецца, мяняе тэмп, паўтараецца на розныя лады. Надзіва спрытныя пальцы ткуць тонкія ўзоры гукаў. Тканіна мелодыі разгортваецца, хвалюе, выклікае гнеў, жаласлівасць.

У моры гукаў улаўліваю шэпт лесу. Пералівы ветру пераходзяць у буру, у гнеўныя галасы, у ляманты. Роспач ператвараецца ў пагрозу. Дзіцячы плач і галашэнне маткі заліваюцца грымотным рокатам.

У маім зрокавым уяўленні паўстаюць жывапісныя ілюстрацыі да мелодыі. Фантастычны лес, нібы тэатральная дэкарацыя да казкі. Мірны лірычны пейзаж: лужок, старыя дубы, бярозы, рачулка. І зноў нешта страхотнае: шугае полымя па саламяных стрэхах, губы людзей, разяўленыя ад крыку. Спалоханыя, вылупленыя вочы. Карціны мяняюцца, нібы ў сне.

Кволыя гукі жалейкі ператвараюцца ў пераможны кліч бадзёрага гімна. Я ўзняты нібы на хвалях. Блізкі подых бітвы. Знік пакой. Няма Сяргея Міронавіча з яго чарадзейнымі пальцамі. Мяне кудысьці імчыць, як лісцінку. У жыццё? У нябыт? Мне ў гэту хвіліну ўсё роўна. І раптам — вялікая радасць агортвае мяне. Радасць перамогі.

Прыпеў ранейшай жалейкі. Яе гукі лунаюць над вялізным полем жыта, азалочанага сонцам. Апошні акорд як бы рассыпаецца ў аддаленні ледзь чутнымі кроплямі.

У паўзмрочным пакоі цішыня. Праз шыбы акон плыве сінь зімовай ночы. Сяргей Міронавіч моўчкі выцірае ўспацелы лоб.

Я пытаюся:

— Эпізод з часоў грамадзянскай вайны?

— Так.

Сяргей Міронавіч задаволены ўсміхаецца.

— Гэта толькі клавір, а як мая сімфонія будзе выконвацца аркестрам, тады і дзіцё зразумее.

— Жалейка пранізвае вашу сімфонію лірычнымі праменнямі. Ёсць хвіліна ў вашай сімфоніі, калі і памерці не страшна за народ.

Сяргей Міронавіч задумваецца. Дзве глыбокія зморшчыны перасякаюць яго высокі лоб.

— Жалейка,— кажа ён,— адзін з самых яркіх успамінаў маіх дзіцячых год. Праз жалейку я заўсёды выказваў свае пакуты і радасці. Памятаю сябе заўсёды з жалейкай. Першую жалейку змайстраваў мне мой родны дзед, калі мне было чатыры гады. У сем год я іграў так віртуозна, што людзі заслухваліся. Я сам выдумляў мелодыі. Родам я з Гродзенскай губерні. Бацькоўскую хату і бацькоў памятаю нібы праз сон. Добра памятаю восеньскую размытую дарогу з Гродзеншчыны на Мінск. Мае бацькі ўцякалі разам з тысячамі бежанцаў з лініі фронту імперыялістычнай вайны. Я сядзеў на возе ды ўсё іграў на жалейцы. Спачатку па дарозе памёр бацька. Хутка памерла і маці. Ніколі не забуду яе вачэй. Яна так і памерла, таропячы ў мяне вочы і шэпчучы: «Сірацінка... сірацінка... сіра...»

Бацькоў пахавалі на мяжы ля дарогі ў глiністай мокрай зямлі, ледзь не ў гразі, якая прыкра чвакала пад лапатай. Ад жудасці я акамянеў, нават не плакаў.

Хутка паў і конь, апошняя спадчына ад маіх бацькоў. Адна сердабольная жанчына з бежанцаў падняла мяне на рукі, прыціснула да грудзей і загаласіла спеўным голасам:

— А хто цябе дагляд́аць будзе? А хто цябе прычэсваць будзе? А хто цябе карміць будзе? А дзе ты галоўку прытуліш? І птушка мае гняздо. І рыбка мае куток. І мурашка мае сваю норачку-ямінку... Чаму маўчыш? Паплач над сірочай доляй сваёй... Паплач, ягадка, і табе лягчэй стане... Сэрца адпусціцца...

Я маўчаў. Жанчына з дакорамківала галавой. Яна змяніла тон. Запыталася ў мяне будзённым голасам:

— Бачыш, вунь коміны?

— Бачу...— шапнуў я.

Асцярожна, нібы я быў са шкла, яна паставіла мяне на зямлю і сказала строгім голасам:

— Ідзі туды, вунь той сцяжынкай. Зайдзі ў першую новую хату. Такога малога не праганяць.

Яна перахрысціла мяне.

Я пайшоў незнаёмай сцежкай адзін-адным з жалейкай у руках. Мяне, пяцігадовага хлапчука, прыняў тады ў сваю новую хату багаты рыжабароды мужык з вёскі Ларчукі. Ад першага дня я зарабляў у яго свой хлеб: нянькай быў зімой, гусей пасвіў улетку. Касавокая тоўстая гаспадыня давала мне есці на кухні ў адзін час з сабакамі. І ніводнай ласкі я не меў ад людзей у гэтай хаце. Заўсёды былі мною нездаволены. Вечна калолі мяне, як цвікамі, злоснымі вачыма.

Памятаю сцюдзёныя восеньскія ночы на начлезе.

Над цёмнай сцяною бору вісіць маладзік. Ён выглядае сярпом колеру крыві. На паплавах пасуцца коні. Вакол патухшага вогнішча спяць начлежнікі. Не спіцца толькі мне. Хацеў бы іграць на жалейцы, але ж трэба даць спаць напрацаваным людзям. Я хутаюся ў старую світку гаспадара і ніяк сагрэцца не магу. Не маю дзе падзець босых ног. Яны дробныя, патрэсканыя да крыві і празяблыя. Іх пранізвае вялікі холад. Я скурчваюся ў камок. Дрыжу ад холаду. Зуб аб зуб не пападае. Я ўсоўваю ногі ў цёплы прысак ад вогнішча, і мне здаецца, што нехта балюча ўкусіў мяне за пальцы. Гэта я трапіў у гарачае вуголле. Я ўскокваю, соваю нагу ў халодную расу. Баліць так — хоць ты гвалту крычы.

І вельмі страшна мне, малому, уначы... Гаспадар загадаў мне пільна сачыць за коньмі. Я сяджу. Азіраюся. Прыслухоўваюся. Боль апаленай нагі і страх ночы аднялі ў мяне жаданне спаць. Я сяджу. Коні ўводдалі выглядаюць, як цені. Чутна, як яны старанна скубуць травіцу. Чуцен бразг ланцужкоў — гэта «мае» коні ў жалезных путах. «Мае» коні самыя лепшыя... Няхай што з імі здарыцца, тады мой рыжабароды кат залупцуе мяне насмерць.

Зводдалі даносіцца выццё ваўчанят. Я іх ведаю. Па выццю пазнаю. Відаць, старыя ваўкі выйшлі на паляванне. Я тараплю вочы ў высокія смуглыя стагі. І дзівіць мяне — нізка над самай зямлёй мільгаюць зоркі. Яны мітусяцца

і парамі рухаюцца туды і сюды. Коні храпуць. Узнімаюць галовы ад травы, збіваюцца ў гурт ды ўсё таропяцца на гэтыя дзівосныя зоркі. Я здагадваюся, у чым справа, і буджу начлежнікаў:

— Ваўкі! Ваўкі!

Мне страшней, чым тады, калі хавалі маіх бацькоў у гразнай зямлі.

— Ваўкі! Ваўкі! — крычу я непрытомным голасам.

Калі вяртаўся з начлегу «дамоў», мне так хацелася спаць, што, здаецца, аддаў бы жыццё, каб толькі заснуць на некалькі хвілін, хаця б у сабачай будцы разам з Мурзай... Прытуліўся б да яго калматай шэрсці. А спаць няма калі: трэба гушкаць калыску. Я ж і нянька. А дзіцё, як наўмысна, дражніцца са мною — плача, румзае і нагадвае сваім голасам ваўчанё. А спечаная, як бульба, нага баліць, баліць...

Рыпіць зыбка драўляным крэктам, рыпіць ды стогне. Вочы мае заплываюць туманом. Галава такая цяжкая, нібы сто пудоў важыць. А я спяваю:

— А-а... а-а.... а-а-а...

І песня не выратоўвае мяне ад сну: векі апускаюцца. Чорнай хваляй надыходзіць цяжкі, як гара, сон. Я апускаюся ў сон, як у глыбокі вір. І забыта цёмная начлежная ноч. І забыта балючая нага. І забыты ўвесь свет... Але, надзіва, зусім не сплю...

Я вандрую па восеньскай, вільготнай, непрытульнай зямлі. Я іду дарогай да магілы маці. Нехта так хораша грае там на жалейцы... А жалейка залатая — блішчыць, зіхаціцца... Гэта грае мая маці... Яна стаіць на магіле ў месячным адзенні з расчосанымі валасамі — маладая, прыгожая, ды грае, грае... Жаласліва... жаласліва... Аж слёзы цякуць з маіх вачэй. А жалейка чалавечым голасам гаворыць:

— Сірацінка мая... Сірацінка... Сірацінка...

І раптам мяне акружаюць ваўкі. Маці знікае. Ваўкі выюць і скаголяць. Вочы ў іх блішчаць аганькамі... А я не баюся. Толькі б тут, на матчынай магіле, спаць... спаць... Няхай сабе выюць ваўкі.

Я прачынаюся. Гэта плача дзіцё ў калысцы.

Я прывязваю вяровачку адным канцом ды зыбкі, а другім канцом да сваёй нагі, кладуся пад калыскай на падлозе і зноў спяваю:

— А-а... а-а... а-а-а...

Гукі «а-а-а» я апранаю ў разнастайныя мелодыі, прыдуманыя мною.

І зноў сніцца мне сон. Я сплю ў густым крапіўніку пры магіле бацькі ля самай дарогі. Так добра мне. Толькі раптам апёк босую нагу аб крапіву. Баліць нага — ледзь вытрымаць. І вось нападае на мяне воўк — страшны, страшны... Я прачынаюся, крычу:

— Ратуйце! Воўк!

Гэта касавокая гаспадыня штурхала мяне нагой у бок ды прыгаварвала:

— Уставай! А каб цябе... Дрыхне вечна, такі ды сякі... Абібок... Гультай... Дармаед... Я табе дам спаць пад калыскай! Уставай, а то аплюхаю халоднай вадой! Трэба бульбу выбіраць. Наспішся яшчэ...

У часы белапольскай акупацыі мне было дзесяць год. Я ўжо працаваў на полі ледзь не нараўне з дарослымі. Мой гаспадар жыў крыху ўводдалі ад вёскі. Легіянеры часта рабілі налёты на сялянскія хаты, дзе займаліся рабаўніцтвам і катаваннем старых і малых. Адтуль часта даляталі да майго слыху галашэнні жанчын, крыкі і просьбы сялян, брыдкія лаянкі жаўнераў. Мне было страшна. Я затыкаў вушы. Гаспадар смяяўся.

— Не бойся,— гаварыў ён.— Ты мне ўсё роўна што сын. Цябе ніхто не зачэпіць. Толькі не хадзі да вясковых. Яны табе не кумпанія.

Ён строга пагразіў пальцам.

Мне прыходзілася весці «кумпанію» толькі са сваёй жалейкай.

У той час многія з сялян пайшлі ў лясы, каб адтуль нападаць на паноў. І вось аднаго разу, калі я на полі пры каровах іграў на жалейцы, да мяне падышоў незнаёмы чалавек — нізкі, шыракаплечы і худы. Ён быў у шэрай світцы, аброс густой чорнай барадой. Вялікія сінія вочы лагодна, па-бацькоўску, усміхаліся.

— Лоўка іграеш! — пахваліў ён і пранізаў мяне вачыма.— А добрыя ў цябе бацькі?

Мне вельмі спадабаўся яго голас, цёплы такі, прыемны. Нібы ён не гаварыў, а спяваў.

— Я — сірата,— сказаў я.— А гаспадары мне і есці шкадуюць. Злыя яны, як ваўкі. Забаранілі нават з людзьмі гаварыць.

Я доўга расказваў незнаёмаму пра свае крыўды. Ён уважліва слухаў ды гладзіў мяне шырокай далонню па

галаве. Каб не саромеўся, прытуліўся б да яго і бацькам назваў бы...

— А хочаш бедным людзям дапамагаць чым-небудзь? — запытаўся ён і глыбока зірнуў мне ў вочы.— Скажы, сынок...

— Чым? — здзівіўся я.

— Хоць бы сваёй жалейкай.

— Жалейкай?!

Ён пяшчотна пагладзіў мяне па шчаце.

— Пабачыш дзе-небудзь у ваколіцы легіянераў, засвіснеш у сваю свісцёлку. Я падыду да трох дубоў, што стаяць недалёка ад вёскі. Ты падгоніш туды сваіх кароў і раскажаш мне, колькі легіянераў, дзе яны і што яны робяць.

— Гэта ж вельмі лёгка! — узрадаваўся я.

Барадаты чалавек зажмурыў вочы і засмяяўся грудным прыемным голасам:

— Лёгка-то лёгка, а трэба асцярожненька. А вось якую песню ты будзеш тады граць на сваёй дудачцы! Песню пра волю.

Незнаёмы задумаўся, нешта ўспамінаў. Вочы ў яго зрабіліся мройнымі, ледзь вільготнымі, прыжмуранымі. Галаву ён нахіліў набок, паглядзеў на мяне з добрай усмешкай і ўпаўголаса заспяваў:

За гарой пагасла сонейка.
Воля, дзе ты ходзіш, дзе?
Воля ходзіць па сасонніку,
Бедным стрэльбы раздае.

Паны — злосныя разлучнікі —
Разлучылі вас са мной.
У кайданах ножкі, ручанькі,
А бізун над галавой.

Воля ў ясную заранaчку
Пташкай-салаўём пяе.
На лясную на паляначку
Заняволеных заве.

Гэй, ка мне, усе пакутныя!
Хто жыць хоча — я заву.
Біце пана ў сэрца лютае!
Біце пана ў галаву!

Ён так хораша і так жаласліва спяваў, што я ледзь не заплакаў. У яго быў дасканалы тэнар. Я адразу сыграў на жалейцы мелодыю.

Незнаёмы пахлопаў мяне па спіне:

— Кемны ты хлапчук! Толькі нікому ні мур-мур.

— Нікому...

Незнаёмы паглядзеў на мяне цёплымі, бацькоўскімі вачыма, прытуліў да грудзей і шэптам сказаў:

— Усе мы цяпер такія сіроты, як ты, сынок. Нам трэба бараніцца ад злых паноў і ад такіх гаспадароў, як твой.

Праз слёзы я пазіраў, як незнаёмы пайшоў у кусты і знік. Мне здавалася, што гэта мой бацька з магілы ўстаў. Я думаў, што гэта сон. З таго разу я стараўся пасвіць ля самай дарогі. Пільным вокам сачыў я за тым, што робіцца ў вёсцы і ваколіцы. І даволі часта мая жалейка іграла «Волю». Кожны раз пасля «Волі» я сустракаўся з незнаёмым каля трох дубоў, якія цяпер сталі мне сябрамі. Іхні шэпт здаваўся мне матчынымі словамі ласкі і пяшчоты.

Мая «Воля» чыніла цуды: партызаны палявалі на атрады легіянераў, нападалі на іх. Адбывалася страляніна. Партызаны выскаквалі раптоўна з густога жыта, што расло пры дарозе, з кустоў — адусюль. Сігналы для гэтага ім давала мая жалейка, на якой я па-майстэрску, з вялікім пачуццём высвістваў «Волю». Мая «Воля» нагнала на паноў вялікі страх. Некалькі дзён яны сюды не паказвалі і носа.

Я радаваўся, што мая доля звязалася з доляй усіх бедных і пакрыўджаных людзей. Яшчэ больш палюбіў я сваю ледзь не казачную жалейку, паводле загаду якой бітвы адбываюцца ў чыстым полі. Я гардзіўся сваёй жалейкай. Яна была мне тое самае, што стрэльба...

Была тады такая гарачыня, што на камень не ступіш босай нагой. Гаспадар быў у апошнія дні нечым устрывожаны. Я выпадкова даведаўся прычыну яго трывогі. Ён сказаў раніцай жонцы, што белапалякі ўцякаюць. У поўдзень у вёску нахлынуў вялікі атрад пазнанцаў. Я толькі што прыгнаў кароў з поля. Я вельмі занепакоіўся. Што мне рабіць? Пайсці адгэтуль у поле без стада і зайграць «Волю»? Гаспадар круціцца каля мяне на падворку ды з вачэй не спускае. З нецярплівасці я прыціснуў да голых грудзей пад кашуляй сваю замілаваную жалейку. Ледзь гаспадар адвярнуўся, я шуснуў за вугал і ўлез у жыта.

— Сяргей, дзе ты? Сяр-ге-е-ей! — клікаў мяне гаспадар.

Але ў жыце я, дробны хлопчык, быў як у густым лесе. Вылезшы з жыта ў другім канцы поля, пабег між кустоў

з усіх сіл. Я зайграў на жалейцы «Волю» і накіраваўся да трох дубоў, адкуль вёскі не відаць было.

З'явіўся мой бацька. Так я называў незнаёмага. Я расказаў яму пра панскае войска.

— Хадзем са мною! — сказаў ён.— Чырвоная Армія гоніць адгэтуль пілсудчыкаў, як зайцоў.

Мы кінуліся бягом. З вёскі раптам пачуліся крыкі, лямант. Галошанне плыло па палях і рэзала сэрца, як намом. Загрукаталі стрэлы. Паказаўся дым. З лесу беглі тужом. Загрукаталі стрэлы... 

Над будынкамі клубіўся дым. Па саламяных стрэхах гуляў агонь. Пазнанцы ўцякалі хто куды, хаваліся ў кустах, у жыце. Па прасёлачных дарогах, па сцежках валяліся іх трупы. У вёсцы ўжо былі партызаны і чырвоная конніца. Нямала забітых і раненых сялян валялася на вуліцы. Сярод іх былі і малыя дзеці. Раз'юшаныя «рыцары» пана Пілсудскага касілі іх з кулямёта. Каб не паспеў паратунак — ні аднаго жывога не асталося б у вёсцы.

Сяргей Міронавіч спыніў сваё апавяданне.

— А што цяпер у гэтай вёсцы? — запытаўся я.

— Калгас «Чырвоная зорка». Там багатыя ўраджаі і на хлеб, і на людзей: адтуль выйшла некалькі дзесяткаў настаўнікаў, дактароў, камбайнераў, камандзіраў Чырвонай Арміі і шмат іншых. Адна даярка з гэтага калгаса — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

— І адзін кампазітар,— дадаю я.

Сяргей Міронавіч усміхнуўся.

— Хутка паеду туды. Хачу пазнаёміць старых прыяцеляў з маёй сімфоніяй, якую я назваў «Жалейкай».

## ФРОСЯ

Хоць гаротная, але задзёрыстая была Фрося, гордая. Яе дробная, як гняздо, хатка была старэнькая — на падпорках трымалася. Калі міма праходзіла стада, Фрося пільнавала, каб вялізны буры бугай багатага суседа не пацёрся аб вугал хаты, бо яна пры гэтым ходарам хадзіла і магла разбурыцца. Будкі графскіх сабак былі палацамі побач з Фросінай хатай.

Муж Фросі хадзіў вечна на адработкі да кулакоў. Рэдка калі ён што прыносіў дамоў — трэба было адрабляць за пазычаныя зімою харчы: пудок жыта на зацірку, асьміну бульбы. Браў ён зімой жменькі дабра ў розных людзей, а летам адрабляў на цэлыя горы. Ён хадзіў дзень у дзень ад гаспадара да гаспадара выплачваць даўгі сваім потам. Ціхі ён быў чалавек, не пярэчыў ды адрабляў у кулакоў за даўгі ў дзесяцікратным размеры. «Які з цябе работнік,— гаварылі гаспадары.— Вецер свісне, дык упадзеш. Слабун ты! Твае тры дні лічым за адзін». Ціхім ён быў і ў хаце, калі жонка Фрося часам крычала на яго за тое, што ён дамоў ніколі нічога не прыносіць — хоць бы гэтулькі, колькі сарока на хвасце прынесці можа. Крычала на яго Фрося ды супакойвалася.

— А што ж беднаму рабіць? — меркавала яна.— Няхай толькі цяпер заартачыцца, тады зімой ніхто і меркі бульбы не пазычыць. Яшчэ горш стане.

Яна часта пакідала малых дзяцей ды сама хадзіла на падзённую работу.

Улетку ў Фросінай хацінцы бывала горш, чым зімой. Ледзь дачакалася лета, калі бог-гасподзь накорміць яе сямейку посным шчаўем ці маладой крапівой, грыбам, ягадкай. Але і гэта дабро бог-гасподзь расціў на графскай зямлі.

І бывалі дні, калі крапіва здавалася дзецям Фросі і яе падсвінку райскім пачастункам, больш смачнай ежай, чым смажаныя курапаткі на графскіх бальных сталах. І гневалася Фрося на госпада бога, на графа, на ўсіх багатых людзей.

— Хоць ты на печы сей гэтую крапіву! — скардзілася яна.

Замест ежы Фрося апавядала дзецям байку аб тым, як вырасце куст крапівы ў яе хаце, дарасце да столі. Праб'е столь і вырасце да даху. Праб'е дах і вырасце да яснага неба. Праб'е неба і ўрасце пану богу ў самую бараду. Ад барады ўрасце пану богу ў самыя вочы. І пан бог, які заўсёды глядзіць, каб багатым добра жылося ды каб бедны чалавек вечна гараваў на паноў,— аслепне. Тады бедныя людзі будуць жаць з аграмаднага крапіўнага дрэва маладыя галінкі крапівы, будуць гатаваць гэту крапіву з вадою, прыправяць, прысоляць — ды есці, есці...

Фрося не ўяўляла сабе большага шчасця, як есці ўволю крапіву.

У Фросіных дзяцей разам з ростам казачнага куста кра-

півы зусім не казачна, а па-сапраўднаму рос апетыт. Яны глыталі сліну. Тут жа хрукаў галодны падсвінак. І ён на сваёй мове прасіў крапівы... Крапіва стала для сямейкі найвялікшым шчасцем...

І такая жаласлівасць напала на Фросю, што ёй бяскон-ца плакаць хацелася. Яна душылася слязамі, нібы востр рай косткай ад рыбы. Закусвала губы.

— Мама, у цябе кроў з ніжняй губы цячэ! — сказаў маленькі хлопчык.

Дзеці спалохаліся:

— Кроў... кроў...

І высахлі адразу Фросіны слёзы. Загарэліся вочы двума чырвонымі вуголлямі. Сціснуліся рукі ў кулакі. Фрося пачала праклінаць бога, графа ды ўсіх багатых на свеце людзей такімі страшнымі словамі, ажно дзеці спалохаліся.

— Мама, не злуйся... Нам страшна... Есці не хочам... Мы і так сытыя...

Малыя трымаліся за яе зрэбную спадніцу. Тут жа хрукаў падсвінак і выкапаў лычком ямку ў хаце. Падлогі ж не было. А іншага месца, дзе лычком пакапацца ў зямлі, падсвінак не меў. Квадрацік зямлі на шэсць аршын у хаце быў усёй Фросінай зямельнай гаспадаркай.

І сама гэта хатка нялёгка ёй дасталася. Ого! Колькі яны нагараваліся тры гады таму назад...

Фросіна сям'я жыла раней у адным з маёнткаў графа Слаўскага, за трыццаць вёрст адгэтуль. Муж служыў парабкам. І вось аднаго разу муж яе цягаў у графскі свіран вялізныя мяшкі збожжа. Муж падарваўся, ляжаў хворы доўгі час. Такі парабак графу ўжо не быў патрэбны.

Парабкаўскую сям'ю выгналі ў чыстае поле. Прыйшлося начаваць на дарозе. Фрося прыкрывала сабою маленькіх дзетак, як птушка птушанят. У адным багатым хутары, калі Фрося пайшла да студні набраць вады, злы гаспадар зацкаваў яе сабакамі, абазваў валацугай, зладзейкай. У яго прапала курыца, і гаспадар вінаваціў Фросю, нібы яна ўкрала. Сабакі хутараніна парвалі на ёй вопратку, пакусалі яе. З рук і ног лілася кроў. Усё ж такі яна прынесла дзецям жбанок вады. Яны ж усю ноч прасілі птушынымі галаскамі:

— Мама, піць... піць... піць...

Фрося не звярнула ўвагі на боль ад сабачых укусаў. Толькі праз некалькі дзён, калі Фрося наняла гэту хатку

ў аднаго селяніна за пяць рублёў на год і начавала з сям'ёю ў «сваёй» хаце, яна ўспомніла і хутараніна і яго сабак.

Ён стаяў чырвоны і рыжавусы на высокім ганку і цкаваў сабакамі:

— На-цю-на! На-цю-на! Кусайце зладзейку, кусайце! Няхай больш курэй не крадзе. А-цю-на! А-цю-на!

Ён пасвістваў, клекатаў гучна языком, і тры рыжыя вялізныя, як ваўкі, сабакі забрахалі на розныя галасы, прыбеглі з-за хлявоў і накінуліся на Фросю. Яна спынілася і трымала жбан вады абедзвюма рукамі, каб не праліць... «Піць, мама, піць...» — нібы чула яна жаласлівыя галаскі родных дзетак-птушанятак. Сабакі рвалі на ёй вопратку і пакусалі ногі. Яна не магла бараніцца. У гэты час жбан вады быў ёй даражэй за сваё жыццё...

Хутаранін спакойна назіраў. Сабакі хутка ачухаліся. Перасталі яе чапаць. Яна ўтаропіла ў іх строгія застылыя вочы.

— Цюцькі... Цюцькі...— прагаварыла яна з дакорам.— Як вам, цюцькі, не сорамна...

Сабакі завілялі хвастамі, супакоіліся і, крадучыся, нібы ім сапраўды сорамна стала за свой ганебны ўчынак, уцякалі за хлявы.

— Больш сюды не паказвайся,— прамармытаў гаспадар,— а то галаву расшчаплю!

Яшчэ і цяпер Фрося сніць уночы гэтых сабак і хутараніна, горшага за сваіх сабак.

Гаспадар Фросі, у каго яна наняла хатку за пяць рублёў на год, заворвае барозны вакол хаткі да самых сцен. Няма дзе і цыбулю пасадзіць. Ды што там цыбуля! Каб хаця крапіва была...

І блішчаць Фросіны вочы як ніколі...

— Мама, не злуйся...— шэпчуць дзеці і трымаюцца за яе спадніцу.

Фрося адштурхнула ад сябе дзяцей, схапіла серп, дзіравы мяшок і пабегла з хаты. Здавалася ёй, што яна лёгкая, нібы верабей. Ногі імчалі яе да забароненага шчасця — да «чужога» графскага пустыра, дзе расце маладая смачная крапіва...

— Фрося, куды ты бяжыш? — пыталіся людзі.

Яна не адказвала.

Здавалася ёй, што яна вельмі моцная. Захоча — і графскі палац перакуліць дахам уніз. Здавалася ёй, што яна вельмі адважная. Захоча — і плюне ў твар самому

вяльможнаму графу Слаўскаму. Урэпіцца ў графскія вусы да вырве ў яго права на жменьку крапівы...

— Фрося! Панскі ляснік круціцца на пустыры. Са стрэльбай. Забіць можа...— папярэджвала суседка.

Фрося не слухала.

Нажала крапівы. Напхала поўны мяшок — ледзь падняць. У той час над ёй грымнулі словы пагрозы:

— Ах ты-ы-ы! Пся косць!

Гэта крычаў графскі ляснік. Ён наступаў на Фросю, узброены стрэльбай, грозны, злосны, з закручанымі паграфску вусамі. Ён быў высокі і тонкі, як жэрдка. Яго вочы сыпалі маланкі, губы пеніліся, вусы тапоршчыліся, а вушы тырчком тырчэлі — ружовыя, празрыстыя і смешныя. Стрэльбай ён размахваў, нібы кіем, над Фросінай галавой.

— Ах ты-ы-ы! Папалася... Во! Нарэшце папалася...

Фрося спакойна чакала. Моўчкі зірнула яна на яго ўгару, як на высокую тычку, і паставіла мяшок ззаду сябе, нібы маці, якая бароніць роднае дзіцё ад лютага звера.

Тое, што Фрося літасці не прасіла, не называла яго «панам лесніком» ды нават віду не паказвала, што спалохалася, яго яшчэ горш узлавала. Ляснік закрычаў з усяе сілы тым грозным басам, які ўрэшце пераходзіў у піск і хрып:

— Хустку сарву! Мяшок забяру! Шкадую, што сабак не ўзяў з сабою, шчыра шкадую! А то зацкаваў бы цябе...

Фрося ціха адказала:

— Не баюся тваіх сабак. Я ўжо цкаваная...

Гэта «не баюся» давяло лесніка да самай вышэйшай ступені нечалавечага гневу. Ён затупаў нагамі на адным месцы, аж яміну вытаптаў, твар яго наліўся крывёю, і ён закрычаў на ўвесь голас, ад якога пайшло рэха з усіх бакоў:

— Права не маеш травінку крануць на зямлі яго светласці! Эх ты-ы-ы!

Фрося зірнула яму глыбока ў вочы, і ляснік заўважыў у яе сініх вачах смехатлівыя іскры.

І па-ранейшаму спакойна яна адказала:

— Каб на галаве яго светласці куст крапівы вырас!

— Што? Што? — запытаўся ляснік. Яму здалося, што недачуў. Ён падставіў далонь да вуха.— Што ты брэхнула?

Фрося засмяялася:

— Я не брэхнула, а сказала: каб на га-ла-ве я-го светласці куст кра-пі-вы вы-рас! Во што я сказала!

Ляснік спалохана адкінуў галаву назад, нібы Фрося плюнула яму ў самы твар, набожна перахрысціўся, потым вылаяўся брыдкім словам і пачаў рваць хустку з галавы Фросі.

Жанчына лёгка падскочыла, урэпілася пальцамі, як абцугамі, у яго вушы і павісла на іх. Ляснік прыгнуўся, прысеў ад болю. Яна пачала ногцямі драпаць лесніковы твар, рваць яго за доўгія вусы.

— Пусці, чорт! Пусці...— пыхцеў, хрыпеў і выў графскі ляснік.

Ледзь вырваўся з яе рук.

— Ах ты-ы-ы! Псяюха! — роў ён немым голасам і давай палохаць яе стрэльбай.

У Фросі з'явілася вялікая сіла, успыхнуў страшны гнеў. Вырвала яна стрэльбу з рук лесніка і кінула вобземлю. Потым кінула вобземлю і самога лесніка і давай таптаць па ім нагамі. Пры гэтым яна гулліва пыталася:

— Як табе мае скокі падабаюцца?

Графскі ляснік ляжаў млявы, як на полцы ў лазні пад венікам. Ён прасіў і маліў:

— Фросенька... Міленькая...

— Што, падабаецца?

— Залаценькая... Даражэнькая...

— Бач, які далікатны зрабіўся.

Злосць у Фросі крыху адышла. Яна адпусціла лесніка, памагла яму ўзняцца на ногі. Узваліла на свае плечы мяшок крапівы, узяла леснікову стрэльбу ў рукі, каб ляснік, чаго добрага, не стрэльнуў шротам ёй у спіну,— ды пайшла сабе дамоў...

Доўгі час хварэў ляснік. А як ачуняў, ледзь упрасіў Фросю, каб стрэльбу аддала. За гэта самае ўсё лета ляснік уначы, каб ніхто не бачыў, насіў ёй шчаўе з графскага агарода, агуркі, дазваляў ягады і грыбы збіраць у пушчы. Ды не толькі ёй, а ўсім жанчынам і дзяўчатам з ваколіцы.

Такую ўмову паставіла Фрося за сваё маўчанне.

Ляснік зрабіўся добрым і мяккім, хоць ты яго да скулы прыкладвай, а ўсё за тое, каб хаця Фрося нікому не гаварыла пра здарэнне на панскім пустыры. Яму сорамна было, што жанчына яго адолела.

Графу Слаўскаму ляснік гаварыў, што ў лесе на яго

напаў мядзведзь. Ён падрабязна апавядаў, як мядзведзь у яго вырваў стрэльбу з рук, як ён, ляснік, усунуў мядзведзю руку ў ляпу, схапіў за язык і цягнуў з усіх сіл. Мядзведзь вырваўся з яго рук і ўцёк так хутка, што ён, ляснік, ледзь паспеў падняцца на ногі, схапіць стрэльбу і выстраліць. Але стрэльба, як наўмысна, дала асечку, і мядзведзь уцёк.

Усё гэта графскі ляснік падмацоўваў «шчырымі» вачыма, «імем божым» і «словам гонару».

Граф Слаўскі жмурыў вочы, слухаў, круціў вусы, паглядаў мнагазначна на свой бронзавы бюст, што стаяў побач на падстаўцы з чорнага дубу мастацкай разьбы, паддазрона гмыкаў і ківаў галавой. Ён нічога не сказаў, але відаць было, што крыху сумняваецца ва ўсёй гэтай цікаўнай гісторыі з мядзведзем. І ён пацягнуў лесніка за язык, як той — мядзведзя:

— Цікава паглядзець хоць мядзведжыя сляды...

Ляснік збянтэжыўся, але адразу знайшоў адказ:

— Ад яго слядоў і следу не засталося, ваша светласць. Каровы стапталі мядзведжыя сляды, ваша светласць...

Граф зноў кіўнуў галавой ды ўсміхнуўся. Леснікова казка яму спадабалася. Ён сам займаўся паляваннем і быў аматар на такія выдумкі. Ён узвёў лесніка ў героі, праславіў перад іншымі панамі:

— Жартачкі, мой ляснік, панове, ад мядзведзя голымі рукамі абараніўся... У мяне людзі — ого-го! — І кожны раз апавядаў доўгую захапляючую гісторыю аб тым, як яго ляснік бараніўся ад мядзведзя голымі рукамі, як мядзведзь пакусаў лесніка, а ляснік вырваў мядзведзю язык. «У мяне ж людзі — ого-го!»

Фросіны дзеці зажылі ў тое лета «па графску» — не адных толькі грыбоў і ягад удоваль мелі. Калі-некалі ім пападаліся і яблычкі з графскага саду. Бо, пасля таго як графскі ляснік увайшоў у вялікую славу за тое, што голымі рукамі абараніўся ад мядзведзя, яму гэта слава была вельмі дарага і прыемна. А слава леснікова, як тая валасінка, знаходзілася ў Фросіных руках. Дзьмухне Фрося губамі — і слава леснікова прападзе, як дым. Вось і прыходзілася часта лесніку змякчаць чым-кольвечы Фросіна сэрца.

І ляснік і Фрося былі задаволены.

Фросіны дзеці дзіву даваліся:

— Адкуль, мама, усё гэта бярэцца?

Фрося смяялася:

— Усё гэта, дзеткі мае, бяру на крапіўным кусце, які вырас ад зямлі да самага неба.

— А дзе ж ён, гэты крапіўны куст?

— Я не бачу яго.

— І я не бачу.

Фрося пагладзіла дзяцей па галоўках і сур'ёзна сказала:

— Як станеце вялікімі, тады, дзеткі, угледзеце гэты самы крапіўны куст. А пакуль што — во!

Яна дала кожнаму па яблыку.

# КАМЕНТАРЫІ

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Зб. «Абразкі», 1913 — Змітрок Бядуля. Абразкі.— Пецярбург: Беларускае выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца», 1913.—40 с.

Зб. «На зачарованых гонях», 1923 — Змітрок Бядуля. На зачарованых гонях: Апавяданні.— Мн.: Белкаапвыдавецкае таварыства «Савецкая Беларусь», 1923.—142 с.

Зб. «На зачарованых гонях», 1929 — Змітрок Бядуля. На зачарованых гонях: Апавяданні.— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1929.— 209 с.

Зб. «Дэлегатка», 1928 — Змітрок Бядуля. Дэлегатка: Апавяданні.— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1928.— 109 с.

Зб. «Тры пальцы», 1930 — Змітрок Бядуля. Тры пальцы: Апавяданні:— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1930.— 87 с.

Зб. «Незвычайныя гісторыі», 1931 — Змітрок Бядуля. Незвычайныя гісторыі: Апавяданні.— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1931.— 132 с.

«Творы», 1934,— Змітрок Бядуля. Творы. Т. III.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1934.— 360 с.

Зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940 — Змітрок Бядуля. Па пройдзеных сцежках: Апавяданні.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва пры СНК БССР, 1940.— 235 с.

Нн — газета «Наша ніва».

Змітрок Бядуля — першы беларускі пісьменнік, які ў дакастрычніцкі час пачаў літаратурную дзейнасць з прозы. Першым яго апублікаваным мастацкім творам стала невялікая празаічная мініяцюра «Пяюць начлежнікі». Менавіта той факт, што малады пісьменнік пачынаў з прозы, сведчыў аб тым, што беларуская літаратура пачатку XX ст., паступова набіраючы ўнутрана эстэтычнай сілы, уступае ў працэс выразнага жанравага размежавання, дасягае такога агульнага мастацкага ўзроўню, калі схільнасць да таго ці іншага жанру ў творчасці пісьменніка становіцца зусім пэўнай і вызначальнай.

Новай асаблівасцю беларускай прозы ў творчасці З. Бядулі была моцная лірычная стыхія. Амаль усе празаічныя творы, якія з'яўляліся да гэтага часу ў беларускай літаратуры, мелі пераважна падзейны, апісальна-бытавы характар. Нават у тым выпадку, калі паказваўся лірычны стан душы чалавека, гэты стан раскрываўся не знутры, не праз пачуцці, а звонку, праз знешняе выяўленне, праз учынак. З. Бядуля першым увёў у беларускую літаратуру жанр лірычнай мініяцюры ў прозе, якая па форме часта ўяўляе сабой унутраны маналог чалавека, звернуты да самога сябе, а не да каго іншага, бо іншыя людзі, як правіла, не разумеюць узнёслага, уражліва-тонкага настрою яго душы. Лірычныя мініяцюры З. Бядулі — гэта непасрэднае, поўнае, нястрымна бурнае выказванне ўнутраных перажыванняў героя ў іх «стыхійнай» плыні і развіцці. Яны зараджаюцца як быццам беспрычынна ў глыбінях душы героя, не маюць выразнай залежнасці ад пэўных жыццёва-бытавых сітуацый, але ўзнікаюць усё ж і наплываюць пад уздзеяннем агульнага пачуцця незадаволенасці існуючым жыццём — пад уздзеяннем тыпова рамантычнага пачуцця. Беларуская проза яшчэ не ведала да гэтага часу героя падобнага ўнутранага складу, раскрытага ў жывых праявах эмацыянальна-псіхалагічнай актыўнасці, духоўна самакаштоўнай, мала звязанай з грубым і нізкім побытам.

Увага да ўнутранага свету чалавека ва ўсіх літаратурах гістарычна звязана з узнікненнем і фармаваннем рамантычнага метаду. Рамантычныя рысы выразна праглядваюцца як у характары героя, так і ў стылёвым абліччы лірычных мініяцюр З. Бядулі.

## ВЕРШЫ Ў ПРОЗЕ
## ЛІРЫЧНЫЯ ІМПРЭСІІ

Большасць лірычных мініяцюр, ці вершаў у прозе, З. Бядулі апублікавана ў зборніку «Абразкі» (1913). Па невядомых прычынах у зборнік не ўвайшлі лірычная замалёўка «Пяюць начлежнікі», апублікаваная ў газеце «Наша ніва» за 1910 г., і замалёўкі «У часе змяркання», «Ля кросен», «Не пячы гэтак, сонейка», «Стары пастыр» і «Здалося мне, што струны нейкія рваліся», аб'яднаныя пад агульнай назвай «Мініяцюры» і апублікаваныя ў «Нашай ніве» за 1912 г. Магчыма, што змест зборніка «Абразкі» склалі толькі новыя творы, якія яшчэ не друкаваліся.

Альманах «Маладая Беларусь» у 1913 г. надрукаваў усе творы, якія ўваходзяць у зборнік «Абразкі». Можна выказаць меркаванне, што публікацыі на старонках альманаха рыхтаваліся да друку адначасова ці амаль адначасова са зборнікам «Абразкі». Калі ж гэта не так, то выходзіць, што альманах «Маладая Беларусь», не баючыся паўтарэння, зрабіў перадрук лірычных мініяцюр з «Абразкоў», надаючы ім асаблівае значэнне ў літаратурным жыцці Беларусі таго часу.

«Пяюць начлежнікі» — першы друкаваны мастацкі твор пісьменніка. Ён апублікаваны ў 39-м нумары газеты «Наша ніва» за 1910 г. Першым жа выступленнем у друку З. Бядулі з'яўляецца допіс з роднай вёскі Пасадзец, апублікаваны ў 32-м нумары газеты «Наша ніва» за той жа год.

У асобных артыкулах аб творчым і жыццёвым шляху З. Бядулі сцвярджалася, што замалёўка «Пяюць начлежнікі» з'яўляецца ўсяго толькі першым друкаваным творам на беларускай мове, г. зн. мелася на ўвазе, што раней гэтай публікацыі З. Бядуля друкаваў творы ў нейкіх іншых перыядычных выданнях на рускай ці яўрэйскай мовах. Аднак фактычных пацверджанняў гэтага дапушчэння не знойдзена. Першы друкаваны верш З. Бядулі на рускай мове «Облита лунным светом круглая поляна» адносіцца да 1911 г. Арыгінальныя публікацыі мастацкіх ці іншых твораў З. Бядулі на яўрэйскай мове наогул невядомыя.

Такім чынам, З. Бядуля выступіў у друку адразу як беларускі пісьменнік.

«Мініяцюры», як і «Пяюць начлежнікі», хоць яны і не ўвайшлі ў зборнік «Абразкі», па накіраванасці зместу і стылёва-вобразнай структуры не адрозніваюцца ад «Абразкоў».

Па тым, што ў зборніку «Абразкі» на вокладцы і тытульным лісце пастаўлены розны год выдання (адпаведна 1913 і 1914), можна меркаваць, што кніга павінна была выйсці з друку ў 1913 г., аднак, мабыць, з-за таго, што падрыхтоўка да друку зацягнулася,

яна фактычна ўбачыла свет у 1914 г. Відаць, з-за недахопу сродкаў выдаўцы не здолелі перадрукаваць вокладку.

Зборнік «Абразкі» быў з энтузіязмам сустрэты аматарамі беларускай літаратуры. Вядомая беларуская паэтэса К. Буйло ўспамінае ў сваёй аўтабіяграфіі: «Прыгадваецца такі выпадак. Я. Купала і З. Бядуля працавалі ў рэдакцыі над рукапісамі, калі я прыйшла туды з кніжкай «Абразкі», якая мне вельмі спадабалася. З. Бядуля адарваўся ад рукапісу і пачаў чытаць урыўкі са сваіх імпрэсій. «Не бяжы за кветкай сіненькай, што на дрыгве расце...» — пранікнёна дэкламаваў ён. Іскрыстыя, маркотныя вобразы, надзвычай паэтычная мова ў надзвычай майстэрскай чытцы З. Бядулі ўсхвалявалі мяне да слёз». *(Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1963, с. 76.)*

Творы зборніка «Абразкі» захаплялі чытачоў арыгінальнай формай, незвычайным зместам, прываблівалі эмацыянальнай насычанасцю, рамантычнай прыўзнятасцю, чаравалі плаўнай, гнуткай рытмікай.

Змест «Абразкоў» — наватарскі. Гэта глыбокія, з сумнай афарбоўкай, перажыванні ад немагчымасці адчуць душэўную гармонію і еднасць з навакольным светам, ад безнадзейнасці знайсці ўзаемапаразуменне з каханай. У некаторых абразках праслаўляецца праца («Ля вапеннай гары», «За тканінай»).

У абразку «Араты» вобраз кветкі пераклікаецца сваім зместам з вобразам сіняй кветкі ў рамане нямецкага рамантыка Наваліса «Генрых фон Афтэрдзінген», а «Далёкія аганькі» — з апавяданнем рамантычнага плана У. Г. Караленкі «Аганькі».

Твор «Без споведзі», змешчаны ў зборніку «Абразкі», мала чым нагадвае абразок па тэме, па праблематыцы. Ён ужо мае разгорнуты сюжэт і па форме блізкі да апавядання.

Творы З. Бядулі дакастрычніцкага часу тыпу абразкоў з іх няўрымслівым рамантычным героем і рытмізаваным стылем аказалі значны ўплыў на беларускую савецкую прозу 20-х гадоў, асабліва на творчасць пісьменнікаў, якія ўваходзілі ў літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». Традыцыі лірычнай прозы З. Бядулі моцна адчуваюцца таксама ў сучаснай беларускай літаратуры.

## АПАВЯДАННІ

Своеасаблівасць апавяданняў З. Бядулі на фоне дакастрычніцкай беларускай прозы — перш за ўсё ў іх моцнай лірычнай праніклівасці, у натуральным, высокамастацкім спалучэнні падзейнасці з пачуццёва багатым і абвостраным унутраным светам чалавека. Хоць у параўнанні з лірычным героем «Абразкоў» персанажы апавяданняў пісьменніка не заўсёды ўяўляюць сабой тыпова раман-

тычныя фігуры, аднак і яны вельмі часта нагадваюць некаторымі рысамі свайго характару рамантыка з яго неўсвядомленым, стыхійным бунтам супраць застойнай жыццёвай будзённасці, супраць звыклых побытавых і маральных устанаўленняў. Выключнасць унутранага складу натуры такога героя адрывае яго ад роднага асяроддзя, асуджае на адзіноцтва і адчай, робіць чужым сярод сваіх.

У характарыстыцы нуднага, аднастайнага побытавага жыцця, у якім вымушаны пакутаваць не падобны на іншых людзей герой, пісьменнік часта згушчае змрочныя фарбы, даводзіць канфлікт паміж страшнымі ўмовамі сацыяльна-побытавага існавання і лепшымі парываннямі душы чалавека да трагічнага сутыкнення. Але З. Бядуля верыць у здаровыя сілы народнай масы, у здольнасць селяніна выстаяць, маральна прасвятліцца і зрабіць рашучы крок насустрач новаму жыццю. Праўда, як рэаліст З. Бядуля паказвае, што не кожны чалавек вытрымлівае страшны націск бесчалавечнасці, не кожнаму стае ўнутранай стойкасці. Часта здараецца так, што жорсткі, бесчалавечны лад жыцця калечыць чалавечыя душы, скажае імкненні, забівае лепшыя пачуцці.

«Малітва малога Габрусіка» — першае апавяданне пісьменніка. Пасля таго як яно было надрукавана ў газеце «Наша ніва», З. Бядуля быў запрошаны на пастаянную працу ў беларускія культурныя арганізацыі горада Вільні. Відаць, многія з тых, хто прачытаў гэтае апавяданне пераканаліся, што малады пісьменнік мае бясспрэчны талент і падае вялікія надзеі стаць значнай фігурай у літаратурным жыцці Беларусі. Так яно і сталася ў сапраўднасці.

З апавядання «Малітва малога Габрусіка» ў дакастрычніцкай прозе З. Бядулі пачынаецца галерэя герояў, якія выраслі ў патрыярхальных умовах вёскі, успрынялі ад прыроды прынцыпы натуральнага жыццёвага існавання і таму рэзка не прымаюць ніякіх фальшывых умоўнасцей, прыўнесеных ва ўзаемаадносіны паміж людзьмі капіталістычнымі парадкамі. Звычайна героі гэтыя таленавітыя («Велікодныя яйкі», «Тата»), іхняе жыццё цяжкае і нясе ў сабе трагедыю.

Апавяданне «Тулягі» тэматычна і праблемна прымыкае да групы твораў, у якіх паказваецца момант унутранага прасвятлення чалавека пасля працяглага цёмнага, безадказнага, дзікага існавання. Прычым гэтае прасвятленне настае звычайна пасля таго, як здарылася нешта страшнае, трагічнае ў асабістым жыцці героя («Злосць», «Сцёпка»).

«Сон Анупрэя», як і апавяданне «Панас на небе», уяўляе сабой твор, дзе ў фантастычнай сітуацыі, блізкай да казачнай, паказваецца прыродная кемлівасць селяніна, яго здатнасць, калі гэта спатрэбіцца, адкінуць устарэлыя звычкі і ўяўленні.

У апавяданні «Пяць лыжак зацiркі» раскрываюцца душэўная абмежаванасць і скажонасць унутраных парыванняў селяніна — рысы, якія параджаюцца страшэннай беднасцю і бесчалавечнымі ўмовамі жыцця. Некаторыя з апавяданняў гэтага плана («Ашчаслівіла») падвяргаліся крытыцы і не ўключаліся ў зборнікі твораў пісьменніка на той падставе, што ў іх быццам бы натуралістычна паказваецца дэфармацыя і разлажэнне чалавечай асобы. Такія адносіны крытыкі да зместу гэтых твораў былі па сутнасці не чым іншым, як адмаўленнем права пісьменніка на вымысел і абагульненне, на рамантычнае перабольшанне мастацкага вобраза.

Аднак апавяданні гэтага цыкла, хоць у аснову іх сюжэта пакладзены выключныя сітуацыі, глыбока праўдзівыя па агульных адносінах да рэчаіснасці, па ідэйнай сутнасці вобразнага малюнку.

«Злодзей» разам з апавяданнем «Умарыўся» адносіцца да жыццесцвярджальных, аптымістычных па зместу твораў пісьменніка, у якіх выяўляюцца светлыя, высакародныя асновы душы селяніна, здольнай да разумення іншых людзей, да спагады, шкадавання і дабрыні.

Апавяданне «Малыя дрывасекі» напісана на распаўсюджаную ў беларускай дакастрычніцкай літаратуры тэму аб трагедыі маленства ў эксплуататарскім грамадстве. Твор нясе ў сабе моцную асуджальную сілу, праводзячы думку аб тым, што грамадства, якое раўнадушна глядзіць на гібель дзяцей, пазбаўлена будучыні, бо дзеці — будучыня народа.

«На каляды к сыну» — адзінае апавяданне З. Бядулі дакастрычніцкага часу, прысвечанае праблеме ўзаемаадносін інтэлігенцыі і народа. Пісьменнік асуджае раўнадушша да лёсу роднага краю часткі беларускай інтэлігенцыі, яе здраду жыццёвым інтарэсам сялянскага класа, з якога яна выйшла, але, атрымаўшы адукацыю, стала паслухмяна і аддана служыць багацеям, па-мяшчанску дбаючы толькі пра сваю матэрыяльную выгаду. Твор у падтэксце прасякнуты ідэяй нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа.

«Буслы» — адзіны твор З. Бядулі дакастрычніцкага часу пра людзей сялянскага паходжання, якія ўжо знаходзяцца ў пралетарызаваным становішчы. У апавяданні праводзіцца думка аб яднанні ўсіх людзей працы, ёсць заклік да асэнсаванага і мэтанакіраванага жыцця лепшых людзей з народа. Яно вызначаецца светлым, аптымістычным настроем.

Апавяданне «Бондар» напісана і надрукавана ў 1920 г. у Мінску, дзе жыў у той час пісьменнік. Яго зместу ўласціва рэзкае асуджэнне пануючага класа багацеяў, які эксплуатуе і разам з тым прыгнятае талент народа, сцвярджаецца ідэя гістарычнай асуджанасці гэ-

тага класа. Апавяданне па тэме і праблематыцы нагадвае апавяданне Гофмана «Майстра Марцін-бондар».

Апавяданне «Лявоніха і Сымоніха» ў якасці раздзела ўвайшло ў аповесць «Салавей».

Змест апавядання «Воўк» з'яўляецца раннім подступам да асэнсавання тэмы і праблематыкі рамана «Язэп Крушынскі». Галоўны герой рамана — тоїі жа «воўк».

Апавяданням «Па абодвух берагах рэчкі», «Рунь», «Дзве ночы», «У тыя дні», «Нікелевая калясачка», «Шрам», «Пікет», «Навагодняя ёлка», «Жалейка», «Фрося», якія напісаны ў 30-я гады, уласцівы асобныя элементы сацыялагічнай і мастацкай спрошчанасці. Аднак у многіх мастацкіх малюнках і эпізодах з гэтых апавяданняў праўдзіва перадаюцца жыццё і настроі савецкіх людзей таго часу, гістарычная праўда рэвалюцыйнага дзеяння народных мас.

*В. Каваленка.*

У дадзены том уваходзяць вершы ў прозе, лірычныя імпрэсіі (першы раздзел) і апавяданні (другі раздзел), якія З. Бядуля напісаў на працягу 1910—1941 гг.

Творы, змешчаныя ў зборніку «Абразкі», складаюць адзінае мастацкае цэлае. З мэтай захавання цэласнасці створанага пісьменнікам тэматычнага цыкла ў дадзеным томе цыкл «Абразкі» падаецца ў вызначаным аўтарам складзе і паслядоўнасці.

Усе астатнія творы размеркаваны ў кожным раздзеле ў хрэналагічным парадку паводле часу іх напісання, што дае пэўнае ўяўленне аб творчай эвалюцыі пісьменніка, яго пошуках.

Значная частка твораў у Зборы твораў (Творы.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1934, т. III; Зб. тв.: У 4-х т.— Мн.: ДВБ, 1951—1953, т. 1) не ўключалася: «Нуда мая», «Вечарам», «Як пам-ру...», «Не бяжы за кветкай...», «А можа, і праўда?..», «Захаваю нуду сваю...», «Маці», «З апошнімі праменнямі», «Далёкія аганькі», «Кветка», «Нібы рупны араты...», «Снілася мне казка»», «Араты», «Восенню», «Як мурашкі...», «Не пазірай на мяне...», «Аб ёй», «Жальба», «На прашчанні», «Чырвоная казка», «Даль», « Пяюць начлежнікі...», «Мініяцюры», «Шаптаў чарот», «Раллля», «Ратай», «Толькі што бярозка пукацца пачала...», «Зямля», «Акорды мора», «Акорды», «Малітва малога Габрусіка», «Тата», «Гармонік плакаў», «Сон Анупрэя», «Вялікі пост», «Ліст», «Сцёпка», «Ашчаслівіла», «Спатканне», «Чараўнік», «На стаянцы», «Буслы», «На сёмуху», «З дарогі», «Як у Бібліі», «Воўк», «Іслам-бей», «Дзед Арцём».

Для дадзенага тома тэксты твораў упершыню зверапы па ўсіх наяўных прыжыццёвых друкаваных крыніцах (рукапісныя загі-

нулі ў час Вялікай Айчыннай вайны), вывучаны і выкарыстаны іншыя матэрыялы, якія маюць тую ці іншую значнасць пры ўстанаўленні асноўнага тэксту кожнага твора асобна, даты і гісторыі яго напісання.

У выніку праведзенай аналітычнай зверкі тэкстаў выпраўлены памылкі, скажэнні і недакладнасці, якія мелі месца ў ранейшых публікацыях асобных твораў.

Першая публікацыя, крыніца асноўнага тэксту і дата напісання ўказваюцца ў каментарыях да кожнага твора.

Крыніцамі для ўстанаўлення дакладнага аўтарскага тэксту і датавання твораў з'яўляюцца:

1. Прыжыццёвыя выданні асобных зборнікаў З. Бядулі. Зборнікі: а) «Абразкі».— Пецярбург: Беларускае выдавецтва таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца», 1913; б) «На зачарованых гонях»: Апавяданні.— Мн.: Белкаапвыдавецкае таварыства «Савецкая Беларусь», 1923; в) «На зачарованых гонях»: Апавяданні.— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1929; г) «Апавяданні.— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1926; д) «Выбраныя апавяданні».— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1926; е) «Дэлегатка»: Апавяданні.— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1928; ж) «Тры пальцы»: Апавяданні.— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1930; з) «Незвычайныя гісторыі»: Апавяданні.— Мн.: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1931; і) «Творы». Т. III, Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1934; к) «Выбраныя творы»: Апавяданні.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1934; л) «Па пройдзеных сцежках»: Апавяданні.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва пры СНК БССР (Рэдакцыя дзіцячай літаратуры), 1940.

2. Перыядычныя выданні: а) штотыднёвая беларуская газета «Наша ніва», Вільня, 1910—1915; б) альманахі: «Велікодная пісанка», [1904]—1914; «Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1913 год, Вільня; «Маладая Беларусь», 1913, серыя 1, сшытак 3; в) зб. «Калядная пісанка», 1913; г) часоп. «Лучынка», кн. III, VI, 1914; д) газ. «Беларус», Вільня, 1914, 24 верас.; е) газ. «Беларусь», Мінск, 1920, № 78, 79; № 24, 25 сак.; № 27, 29 чэрв.; ж) газ. «Сав. Беларусь», 1922, 10 лістап., 26 лістап.; 1925, № 122, 124; з) часоп. «Беларус. работніца і сялянка», 1925, № 4; і) часоп. «Полымя», 1927, № 2; к) часоп. «Чырв. сейбіт», 1928, № 9; л) газ. «Звязда», 1928, № 298; 1929, № 255; 1938, 11 ліп.; м) часоп. «Узвышша», 1930, № 1; н) часоп. «Чырв. Беларусь», 1932, № 15; о) газ. «Літ. і мастацтва», 1933, № 13, 20; 1935, 23 кастр., 1936, № 73; 1937, 10 лют.; п) часоп. «Іскры Ільіча», 1939, № 3.

## ВЕРШЫ Ў ПРОЗЕ, ЛІРЫЧНЫЯ ІМПРЭСІІ

*Пяюць пачлежнікі...* (с. 5)

Друкуецца па Нн, 1910, 23 верас., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

Першы друкаваны мастацкі твор З. Бядулі. Падпісаны сапраўдным прозвішчам пісьменніка — С. Плаўнік.

*Беспатольны* — тут — няўцешны.

*Мініяцюры* (с. 5)

Друкуецца па Нн. 1912, 30(12) жн., дзе змешчаны ўпершыню.

Датуюцца годам апублікавання.

Пяць лірычных імпрэсій аўтар аб'яднаў адзінай назвай «Мініяцюры»: «У часе змяркання», «Ля кросен», «Не пячы гэтак, сонейка!», «Стары пастыр», «Здалося мне, што струны нейкія рваліся...».

*Чалеснік* — вугал каля печы, дзе ставяцца вілкі.

*Азярод* — прыстасаванне з слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны, травы і падобнае.

*Шаптаў чарот* (с. 9)

Друкуецца па Нн, 1912, № 51, дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Ралля* (с. 10)

Друкуецца па Нн, 1913, 10 студз., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Ратай* (с. 10)

Друкуецца па Нн, 1913, 31 кастр., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Мультатулі* (ад лац. multatuli — я многа перажыў; сапр. Дэкер Эдуард Даўэс; 1820—1887) — галандскі пісьменнік.

*Толькі што бярозка пукацца пачала...* (с. 12)

Друкуецца па альм. «Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1913 г.», дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Абразкі* (с. 13)

Вершы ў прозе, аб'яднаныя агульнай назвай «Абразкі», былі выдадзены ў 1913 г. у Пецярбурзе беларускім выдавецкім таварыствам «Загляне сонца і ў наша аконца» па беларускай мове (лацінскімі літарамі). На тытульным лісце год выдання — 1913 г., на вокладцы кнігі — 1914 г.

Гэта першы зборнік пісьменніка. З. Бядуля думаў назваць кнігу «Плач пралескаў». Ёсць меркаванні, што новую назву зборніка падказаў аўтару Я. Купала, які быў тады ў Пецярбурзе.

Зб. «Абразкі» складаецца з 39 вершаў у прозе. У альманаху «Маладая Беларусь», 1913, серыя 1, сшытак 3 (з адзнакай «вершы ў прозе») таксама былі надрукаваны ўсе гэтыя творы. Мяркуючы па часу публікацыі цыкла абразкоў на старонках альманаха, можна думаць, што яны рыхтаваліся да друку ў альманаху прыблізна ў той жа час, як і ў зб. «Абразкі».

Пры жыцці пісьменніка цыкл вершаў у прозе пасля дзвюх названых публікацый не перадрукоўваўся.

Наступныя вершы ў прозе друкуюцца і датуюцца па зб. «Абразкі», 1913: «Плач пралескаў», «Прытуліся ка мне», «Нуда мая», «Вечарам», «Як памру...», «Пастушка», «Не бяжы за кветкай...», «Бяссоннасць», «А можа, і праўда?..», «Захаваю нуду сваю...», «Маці», «Ці я вінават?..», «Над сажалкай», «З апошнімі праменнямі», «Далёкія аганькі», «Загадка», «Ля ваненнай гары», «Кветка», «Нібы рунны араты...», «Снілася мне казка...», «Араты», «У досвітку», «Восенню», «Нашто мне...», «Як мурашкі...», «Не пазірай на мяне...», «Аб ёй», «У заваражаных казках», «На гай высокі...», «Не шумі...», «Спатканне», «Шчасце не ў золаце», «Яе душа», «Жальба», «За тканінай», «На пращчанні», «Чырвоная казка», «Даль», «Без споведзі».

*Зямля* (с. 41)

Друкуецца па газ. «Беларус», 1914, 24 верас., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Акорды мора* (с. 42)

Друкуецца па Нн, 1914, 13 лістап., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Акорды* (с. 45)

Друкуецца па альм. «Велікодная пісанка», [1904]—1914, дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання (1914).

## АПАВЯДАННІ

Першая кніга апавяданняў З. Бядулі — зборнік «На зачарованых гонях» — упершыню ўбачыла свет у 1923 г.

Складаецца з 28 апавяданняў. Усе яны спачатку былі надрукаваны ў перыядычным друку. Зборнік вытрымаў яшчэ тры выданні: 1927, 1929, 1930 гг. Для трэцяга выдання (1929 г.) аўтар перапрацаваў і дапоўніў зборнік двума апавяданнямі («Граф» і «Тата»).

Зборнік «Апавяданні» выйшаў у 1926 г. Змяшчае 8 апавяданняў, якія пазней увайшлі ў зборнік «Дэлегатка».

Зборнік «Танзілія» ўбачыў свет у 1927 г. Складаецца з пяці новых твораў, якія ў папярэднія зборнікі не ўваходзілі і ў перыядычным друку не з'яўляліся.

Для зборніка «Дэлегатка» (1928 г.) аўтар перагледзеў апавяданні і дапоўніў зборнік трыма новымі творамі («Белы певень», «Дзед Арцём», «Маці»).

Зборнік «Тры пальцы» выйшаў у 1930 г. Складаецца з пяці твораў, прысвечаных паказу жыцця працоўных Заходняй Беларусі, якая знаходзілася тады пад прыгнётам панскай Польшчы.

Зборнік «Незвычайныя гісторыі» ўбачыў свет у 1931 г. Складаецца з шасці твораў, пяць з якіх у папярэднія зборнікі не ўваходзілі.

Зборнік «Па пройдзеных сцежках» — апошні прыжыццёвы зборнік апавяданняў З. Бядулі — выйшаў у 1940 г. Змяшчае аўтабіяграфічную аповесць «У дрымучых лясах» і 24 апавяданні. Сярод іх як новыя, так і перагледжаныя з папярэдніх зборнікаў.

*Малітва малога Габрусіка* (с. 48)

Друкуецца па Нн, 1912, 1(13) сак., дзе змешчана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Імша* — каталіцкая абедня.

*Тата* (с. 50)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1912 г. і памета: Пасадзец.

Упершыню — Нн, 1912, 15(28) сак., пад назвай «Шалёны».

*Тулягі* (с. 52)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1912 г. і памета: Пасадзец.

Упершыню — Нн, 1912, 24(6) мая.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага стылістычнымі і лексічнымі зменамі.

*Гармонік плакаў* (с. 55)

Друкуецца па Нн, 1912, 7 чэрв., дзе змешчана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Сон Анупрэя* (с. 57)

Друкуецца па Нн, 1912, 5(18) ліп., дзе змешчана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Залатоўка* — дарэвалюцыйная назва манеты ў 15 капеек.

*Серчыкі* — запалкі.

*Пяць лыжак заціркі* (с. 60)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1912 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1912, 26(8) ліп.

Ва ўсіх выданнях зб. «На зачараваных гонях» пасля загалоўка памета: тэма запазычапа. Тэма запазычана З. Бядулем, відаць, з навелы яўрэйскага пісьменніка А. Рэйзіна (1876—1953) «Драма аб пяці бульбінах».

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага зменамі выключна стылістычнага характару.

Заменены асобныя словы і фразы, даны больш дакладныя вызначэнні, перастаўлены парадак асобных слоў.

Варыянты першадруку

і зб. «На зачараваных гонях», 1929:

С. 60, радок 18, *замест:* цягнуць // шчыпаць

радок 23, *замест:* скіслі! // падохлі!

С. 61, радок 17, *замест:* Антось вылупіў вочы і моўчкі давіўся гарачай заціркай. // Антось маўчаў, толькі вылупіў вочы, быццам канаць сабраўся.

радок 22, *замест:* есці... // сёрбаць...

радок 36, *замест:* хацеў сказаць Антось і ледзь стрымаўся. // чуць не злаяў Антось, але стрымаўся, толькі давай старацца.

*Гора ўдавы Сымоніхі* (с. 62)

Друкуецца па зб. «На зачараваных гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1912 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1912, 16(29) жн.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага стылістычнымі і лексічнымі зменамі.

*Злодзей* (с. 64)

Друкуецца па зб. «На зачараваных гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1912 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1912, 6(19) верас.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага шматлікімі стылістычнымі і лексічнымі розначытаннямі. Яны ў асноўным зводзяцца да выключэння або замены асобных слоў і некаторых сказаў.

Варыянты першадруку:

С. 64, радок 21, *пасля:* мэндлікаў. // так што трэба было ноччу папілнаваць іх у полі.

С. 66, радок 18, *замест:* любаваўся ўласным голасам: // як поп на амбоні:

радок 24, *замест:* Павесіў рукі і стаяў нязграбна, як страшыдла, // Павесіўшы рукі свае, быццам страшыдла на панскім гародзе...

С. 67, радок 22, *замест:* — А, братачка, не зловіш, як бы то... буду асцярожна красці! // — А, братачка, не зловіш, як бы то...— прасіўся быццам Лікапор і зачырванеў са стыду, прыпамінаючы, што яго злавілі, і другі раз адказаў смялей: — А, братачка, не зловіш — буду асцярожна красці!

*Вялікі пост* (с. 68)

Друкуецца па Нн, 1912, № 18(31) кастр., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Ашчаслівіла* (с. 71)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1912 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1913, 12 ліп.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага стылістычнымі і лексічнымі зменамі.

*Вярыгі* — тут — жалезныя ланцугі, аковы, якія насілі на целе рэлігійныя фанатыкі.

*Малыя дрывасекі* (с. 75)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1912 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1914, 7 сак.

Разначытанні паміж першадрукаваным і канчатковым тэкстамі не выходзяць за межы стылістычных і лексічных правак.

*Праснак* — плоскае печыва з прэснага, незаквашанага цеста.

Варыянты першадруку:

С. 75, радкі 9-12, *замест:* Бор атулены ў белую пушыстую світку. Ён стаіць задуменны, як сівы дзед.

Грукат дрывасекаў разлягаецца водгаласкамі па ваколіцы. // Пад белай покрывай снегу, як задумлёны старац, стаіць сасновы бор.

Ціха, пуста. Толькі грук дрывасекаў нясецца па ваколіцы.

радок 21, *замест:* узняўся працяглы стогн... // панёсся расцяглы стогн...

радок 36, *замест:* Быццам белыя коні, уздыбіліся гурбы... // Быццам белае мора, быццам белыя коні, насіліся цэлыя гурбы... Страшна было ў бары.

С. 76, радок 23, *замест:* усцішылася // паціхэла

*Сцёпка* (с. 76)

Друкуецца па Нн, 1913, 12 крас., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Ліст* (с. 80)

Друкуецца па Нн, 1913, 3 мая, дзе змешчана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Злосць* (с. 85)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1913 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1913, 19 верас., пад назвай «Сымон».

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага нязначнымі і нешматлікімі розначытаннямі пераважна лексічнага і пунктуацыйнага характару. Выключэнне складае апошні сказ апавядання. *«І нешта нажом урэзалася ў яго грудзі, і нехта балюча таргануў яго сэрца...»* аўтар замяніў на *«Чаму агарнула мяне такая злосць? У яго вачах застыгла балючае пытанне».* Новая канцоўка прыдала апавяданню больш акрэсленае грамадскае гучанне. Відаць, у сувязі з гэтым зменена і назва апавядання.

*На каляды к сыну* (с. 88)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1913 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Калядная пісанка, 1913.

Розначытанні паміж наступнымі публікацыямі апавядання пасля яго першадруку (зб. «На зачарованых гонях», 1923 і зб. «На зачарованых гонях», 1929) носяць стылістычны і лексічны характар.

*Велікодныя яйкі* (с. 93)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1913 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Беларусь, 1920, 15, 16 крас.

Розначытанні паміж наступнымі публікацыямі апавядання пасля яго першадруку (зб. «На зачарованых гонях», 1923 і зб. «На зачарованых гонях», 1929) выявіліся ў нешматлікіх стылістычных праўках і даволі значным скарачэнні тэксту.

*Умарыўся* (с. 100)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1913 г. і памета: Вільна.

Упершыню — Лучынка, 1914, кн. VI.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага значнымі і шматлікімі стылістычна-лексічнымі зменамі.

Варыянты першадруку
і зб. «На зачарованых гонях», 1929:

С. 100, радок 14, *замест:* павольныя рухі; // чуць жывыя рухі;

радок 27, *замест:* валаводы валаводзіць... // богу грашыць...

С. 100, радкі 35-36, *замест:* — І жалеза іржа з'ядае. І камень не вечны. Адчуваю, што сілы мяне пакідаюць. // — Але ці я каменны? Ці жалезны? Ламаецца мая сілачка... Чую, што слабею...

С. 101, радок 9, *замест:* — гнуў карак, рукі мазоліў... // — працаваў ды працаваў...

С. 102, радкі 32-34, *замест:* як адзін паварот каляса: спіца знізу ўзнімаецца ўгару і зноў апускаецца ўніз. І квіта, дзядзька Мікіта. Было — і няма... // як тое вялікае кола малатарні: бок вобада, які быў на самым нізе, падымаецца ўсё ўверх ды ўверх, але хутка зноў пачынае апушчацца ніжэй і даходзіць да таго самага ніжэйшага месца...

радок 40, *замест:* лішняга. // непатрэбнага дармаеда.

*Спатканне* (с. 104)

Друкуецца па Нн, 1914, 25 снеж.

Упершыню — Маладая Беларусь, 1913, серыя 1, сшытак 3.

Датуецца годам апублікавання.

*Чараўнік* (с. 105)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1913 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1914, 12, 18 снеж.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага нязначнымі стылістычна-лексічнымі зменамі і невялікім скарачэннем тэксту.

*Санкі-кары* — санкі для перавозкі бярвення.

*Летапісцы* (с. 111)

Друкуецца па зб. «На пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1914 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1914, 25 верас., 2 кастр.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага шматлікай праўкай пераважна стылістычнага і лексічнага характару.

Варыянты першадруку
і зб. «На зачарованых гонях», 1929:

С. 111, радок 11, *замест:* думае // абдумывае

радок 23. *замест:* вады ў рот набраўшы // сала зласаваўшы.

радок 24, *замест:* чынам // парадкам

радкі 25-26, *замест:* вароты і не рыпнулі. Два змоўнікі выйшлі на падворак.//вароты і не завялі сваёй, як заўсёды, скрыпучай музыкі, і два згаворшчыкі выйшлі на дзядзінец.

*На стаянцы* (с. 118)

Друкуецца па Нп, 1914, 16 кастр., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Трысцёнак* — трысцен — прыбудоўка да хаты: тры сцяны, прыстаўленыя да гатовай чацвёртай.

*Дзе канец свету?* (с. 123)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1914 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Рунь, 1920, № 9, 10, пад назвай «Дзе канец зямлі?».

У розных выданнях аўтар датаваў твор па-рознаму. Так, ва ўсіх выданнях зб. «На зачараваных гонях» апавяданне друкуецца з датай: 1917 г. і паметай: Пасадзец.

Мяркуючы па датаванню апавядання ў апошняй прыжыццёвай публікацыі (зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940), трэба лічыць найбольш дакладнай дату напісання: 1914 г.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад тэксту папярэдняй публікацыі (зб. «На зачараваных гонях», 1929) стылістычнымі і лексічнымі разначытаннямі, невялікімі скарачэннямі. Акрамя гэтага, канец апавядання значна перароблены.

Так, тэкст: *«І тут толькі Янка ўгледзіў, што стаіць на старым могільніку, сярод лесу высокіх заімшалых крыжоў... Шмат страшных казак аб мерцах і ваўкалаках ведае ён з гэтага месца...*

*— Ці тут канец зямлі?»* заменены на: *«Сівы туман узнімаецца над рэчкай. Паказаліся зоркі ў небе, заміргалі агенькі на зямлі.*

*— Дзе канец свету?*

*— Пэўна ў кнігах аб гэтым напісана,— падумаў Янка.— Увосені ў школу пайду, вучыцца буду і аб усім, аб усім даведаюся».*

Істотна змененая ў канчатковым тэксце канцоўка апавядання набыла новы, процілеглы ранейшаму ідэйны сэнс. У папярэдняй публікацыі апавядання (зб. «На зачараваных гонях», 1929) у аснове заключных радкоў ляжаў змрочны матыў журботнага сумнення ў магчымасці чалавека пазнаць таямніцу жыцця прыроды і чалавека, пранікнуць у іх схаваны сэнс.

У канчатковым, апошнім, варыянце канцоўкі апавядання яскрава гучыць упэўненасць у магчымасці пазнання жыцця, зразумення яго таямніц. І гэта цалкам адпавядае дзіцячаму светаўспрыманню летуценніка-рамантыка хлопчыка Янкі.

Новая канцоўка надала большую цэласнасць і жыццёвую праўдзівасць усяму апавяданню і яго галоўнаму герою.

Варыянты

зб. «На зачараваных гонях», 1929:

С. 124, радок 42, *пасля:* у плач. // Ен тады злаваўся і тупаў нагамі.

С. 125, радок 3, *замест:* адчувае несупынны // бачыць вялікі

радок 6, *замест:* з'явамі. // шчыр-таемнасцямі.

радок 7, *замест:* гарачую // добрую

радок 31, *замест:* сэрцы. // душы.

С. 126, радок 27, *замест:* запаліла неба... // задзівіла неба...

*Капец* — куча бульбы або агароднiны ў выглядзе конуса, прыкрытая саломай і зямлёй на зіму.

*Буслы* (с. 127)

Друкуецца па час. «Лучынка», 1914, кн. III, дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Мядзведзь* (с. 131)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1914 г. і памета: Вільна.

Крыніца і дата першай публікацыі не ўстаноўлены.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад тэксту яго папярэдняй публікацыі (зб. «На зачараваных гонях», 1929) значнымі рознапытаннямі пераважна стылістычнага і лексічнага характару.

Варыянты

зб. «На зачараваных гонях», 1929:

С. 132, радок 9, *замест:* хвоя аб хвою. // сасна аб сасну.

радок 13, *замест:* пільней // болей

С. 133, радок 10, *замест:* абмерла. // затрапяталася, замёрла.

радок 20, *замест:* Сапенне наблізілася. // Палёхканне раздавалася ўсё бліжэй.

радок 24, *замест:* напіўся // насёрбаўся

радок 35, *замест:* націснуў на курок. // выпаліў.

радок 40, *замест:* гнеўным мармытаннем // ціхім рэвам

*Панас на небе* (с. 135)

Друкуецца па зб. «На зачараваных гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1914 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Беларусь, 1919, 11 снеж.

Ва ўсіх выданнях зб. «На зачараваных гонях» пасля загалоўка памета: Паводле народнай казкі.

Рыхтуючы апавяданне да перавыдання (зб. «На зачараваных

гонях», 1929) у тэкст папярэдняй публікацыі (зб. «На зачарованых гонях», 1927) аўтар не ўнёс амаль ніякіх змен.

*Дудар* (с. 140)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1915 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Нн, 1915, 16 студз.

Рыхтуючы апавяданне да перавыдання (зб. «На зачарованых гонях», 1929), у тэкст яго папярэдняй публікацыі (зб. «На зачарованых гонях», 1927) аўтар не ўнёс амаль ніякіх змен.

*Храпка* — звычка.

*Туга старога Міхайлы* (с. 144)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1915 г. і памета: Вільна.

Упершыню — першая рэдакцыя — Нн, 1915, 24 крас.; другая рэдакцыя — зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940.

Параўнальны аналіз канчатковага тэксту і тэксту папярэдняй публікацыі апавядання («На зачарованых гонях», 1929) сведчыць, што аўтар значна перапрацаваў яго.

Акрамя значнай стылістычнай і лексічнай праўкі, аўтар дапісаў некаторыя сцэны, якія надаюць апавяданню сацыяльную завостранасць. У іх выказваецца пратэст супраць першай імперыялістычнай вайны, падкрэсліваецца яе класавы характар.

Напрыклад, нанава напісана сцэна пратэсту старога Міхайлы супроць цара, які сіроціць старых бацькоў, пасылаючы на вайну іх сыноў. Нанава напісаны таксама «трэці сон» Міхайлы, у якім стары бацька бачыць сваіх сыноў жывымі і здаровымі. Ідуць яны ў вялікай грамадзе народа са стрэльбамі і гарматамі, гнеўныя і вясёлыя. Яныклічуць Міхайлу пайсці разам з імі біць царскіх прыслужнікаў, даць свабоду добрым людзям, таму што цара скінулі і народ здабыў волю.

Канец апавядання значна перароблены. Калі ў папярэдняй публікацыі (зб. «На зачарованых гонях», 1929) апавяданне заканчваецца «другім сном» старога Міхайлы, які так і не даведаўся, дзе яго сыны, і сэрца яго не вытрымлівае ў грудзях такой балючай тугі, то ў канчатковай рэдакцыі апавяданне заканчваецца «трэцім сном» старога Міхайлы, які бачыць сваіх сыноў рэвалюцыянерамі, і сэрца яго не вытрымлівае гэткай радасці. Ён паміраве ў царскім астрозе на турэмным сенніку, а «на яго твары застыў выраз вялікага шчасця». Аналіз тэкстаў зб. «На зачарованых гонях», 1929 і зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940 сведчыць, што змены, унесеныя аўтарам у тэкст зб. «На зачарованых гонях», 1929, выходзяць за межы лексічных і стылістычных правак.

Гэта акалічнасць дае падставы лічыць тэкст зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940 самастойнай, другой рэдакцыяй апавядання. Аўтарскія праўкі істотна змянілі ідэйны змест апавядання, удасканалілі слоўна-вобразную фактуру, стыль твора ў вузкім значэнні гэтага тэрміну. Сюжэт апавядання ў другой рэдакцыі некалькі зменены, хаця кампазіцыя яго не зазнала змен. Дата напісання першай рэдакцыі апавядання — 1915 г. У гэты час пісьменнік хаця і бачыў антынародную сутнасць, злачыннасць імперыялістычнай вайны, ён яшчэ не змог разгледзець нарастаючай актыўнасці тых рэвалюцыйных сіл, якім суджана было пакласці канец імперыялістычнай вайне і знішчыць эксплуататарскі лад у нашай краіне. Таму ў першай рэдакцыі апавядання пераважалі ноты расчаравання, няўпэўненасці, адчаю.

Другая рэдакцыя апавядання, якая значна змяніла ідэю твора, з'явілася пазней, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Упершыню перапрацаваны тэкст апавядання, яго другую рэдакцыю, аўтар змясціў у зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940.

Ніжэй прыводзіцца першая рэдакцыя апавядання, якая мае вялікую значнасць для высвятлення гісторыі тэксту твора:

Шэпты... Лясныя шэпты, чаму вас не чутна! Чаму вы анямелі?

Вочы пазіраюць вакол, шукаюць удалі, мо дзе цёмнай істужкай уецца, цямнее густы бор, мо дзе ў зелені туліцца бярэзнік...

Пуста, сумна...

Маўклівыя даліны пакрыты жылістымі карчамі... Там, дзе былі бары, жаўцее жвіровы пясок. Рэчка высахла...

Ціха, жудасна...

Шэпты... Лясныя шэпты, дзе вы?

Ці не шчаслівы сон моладасці гэта быў?..

Калісьці жылі ў гэтай ваколіцы лясныя шэпты. Як здані, зніклі лясы, зніштожаны бязжаласна людскімі рукамі да апошняга пня... Як лысая галава старога дзеда, выглядаюць даліны, вёскі, гасцінцы, і вока доўга блудзіць па нудным абшары, шукае дробнага гайку на пагорку, гаварлівага альхоўніку ў мокрай даліне, але дарэмна. Муціцца вока ад слёз і бачыць удалі: неба зліваецца з зямлёю, зямля туліцца да неба, шарэюць хаткі ўбогай вёскі...

*

Праз аконца беднай хацінкі пазірае стары Міхайла, углядаецца слепаватымі вачыма. Старанна прыслухоўваецца да якіхсьці таемных зыкаў, як бы чуе каля сябе дух быўшага тут лесу. Жальба агартае старое сэрца... Воклічы лясных шэптаў ажываюць у яго душы. Стары Міхайла доўга моўчкі сядзіць, як акамянелы... Шкада яму гэтага лесу, як роднага сына, бо Міхайла з дзіцячых гадоў зжыўся з ім, аддаў яму вялікую частку сваёй душы.

*

Гоманы... Людскія гоманы, чаму вас пячутна? Чаму вы анямелі? Дзе вясёлыя дзецюкі? Дзе рупныя, працавітыя гаспадары?..

Па вёсках ціха і сумна. Вечарынак, гульняў няма... Пакінулі сыны бацькоў старых, пакінулі бацькі дзяцей малых,— усе здаровыя і здатныя пайшлі туды... А калі вернуцца — невядома... І замарнела жыццё людское, застыгла, спалохалася...

Часам па гасцінцы да воласці можна прымеціць некалькі згорбленых фігур. Памалу кратаюцца яны наперад. Паміж імі і стары Міхайла. Усе яны ідуць у воласць даведацца, што чуваць з вайны, мо ёсць вестка якая ад сына, ад мужа ці ад бацькі... У воласці чытаюць некаторым лісты ад сваіх. Хто піша з пазіцыі, хто з лякарні, ранены, а хто з палону. Аб некаторых ёсць весткі, што яны ўжо доўга жыць загадалі сваім родным, а самі памёрлі «смертью героев» на полі бітвы...

Хто плача пры гэтых навінах, а ў каго слёзы ў сэрцы застыглі...

Амаль не ўсе даведаліся аб сваіх, толькі стары Міхайла нічагусенькі даведацца не можа... Пайшлі ад яго ўсе тры сыны, пайшлі, і ніякай вестачкі ад іх няма...

*

І чакае стары Міхайла вестак ад сыноў... Не есць, не п'е: усё чакае. Спаць перастаў, праца з рук валіцца, і, анямелы, пазірае ён апухлымі вачыма на шырокі гасцінец.

...Сыноў віхор панёс, мора глынула... І чакае стары Міхайла хоць ад аднаго з іх навінкі якой — высах, як шкілет, толькі цень ад яго астаўся... Што з сынамі здарылася б — ці жывуць, ці не жывуць,— а ўсё ж бы лягчэй было б на душы, каб праўду даведаўся...

Ні слыху ні дыху...

І часта цягаецца стары Міхайла ў воласць і надакучае прыставаннямі да кожнага ўстрэчнага-папярэчнага: мо хто ведае, ды казаць не хоча... Просіцца-моліцца на каленях, енчыць, зямлю цалуе, каб яму ўсю праўдачку выказалі — ці сыноў яго ўжо маці-зямліца забрала, ці не...

А вестак як не было, так і няма.

І скруціўся стары Міхайла ў тры пагібелі адзін-адзінюсенькі ў хатцы. Ваўкі пад вокнамі выюць... Мяцеліцы круцяць. Віхор страху знёс з хаткі. Гурбы снегу навярнула на дзядзінцы, і няма нат, як дабрацца да дзеда. І тужыць стары Міхайла адзінока, доўга тужыць па родных сынах... Ажно рукі і ногі млеюць, галава ходырам ходзіць...

І сніць стары Міхайла благія сны. І знакі благія бачыць на кожным кроку: то курыца запяе, то люлька з губоў выпадае, то зайчык дарогу пераскочыць, то з пустымі вёдрамі жанчына спаткае... І жыццё яму прыкрым робіцца...

— Напэўна, груганы даўно расцягалі костачкі сыноў маіх па чыстым полі... Бадай, і крыжа па іх не паставілі, не памаліліся над нябожчыкамі...

*

Перастаў нарэшце стары Міхайла ў воласць хадзіць, у суседзяў не дапытваецца... І не хоча нат у вёсцы з людзьмі бачыцца: рэдка калі з хаты выходзіў.

Суседзі, маючы кожны сваю ўласную больку, зусім забыліся аб ім. Як бы на свеце не было Міхайлы.

І ён тым часам жыве сваім асобным жыццём, сваім горам вялікім. Ён тужыць моўчкі па лесе, што згінуў увакруг, стогне па родных сынах, што весткі аб сабе не даюць.

Лесу ўжо ён не ўбачыць болей на роднай зямельцы, а кроў сыноў недзе сыціць-корміць чужую глебу...

І старога Міхайлу апаноўваюць неадчэпныя думкі:

— Толькі дзеля гэтай тугі мне і жыць трэба. Бо ў маім сэрцы сплялося цэлае гняздо мінуўшчыны. Мне трэба плакаць-галасіць аб тым, што ўжо ніколі не вернецца. Я павінен быць вечнай сведкай немінучага гора...

*

І сніцца старому Міхайле адзін дзіўнюсенькі сон.

Сонечны летні дзень. Перад яго вачыма пасекі, як заварожаныя, нікнуць, а на іх месцы па лагчынах паказваюцца сталетнія пні, з якіх цячэ свежы смалісты сок. Раптам пні, як прабуджаныя волаты, падымаюцца з моху і становяцца кожны на сваё ранейшае месца. Галіны ў адзін міг адрастаюць. Расісты папаратнік блішчыць ля ручая. Пад стромкімі бярозкамі мухаморы растуць цэлымі сямейкамі... Жаўранкі пяюць. Зайчык скача з адной купіны на другую. А лес гэткі харошы, гэткі прыгожы, што проста цягам цягне да сябе старога Міхайлу. Ідзе Міхайла да лесу, выстаўляючы рукі наперад, хоча забрацца ў цянёк-халадок, ды сіл не хапае. Ідзе ён з пацехай у душы і... раптам прачынаецца.

*

І сніцца старому Міхайле другі дзіўнюсенькі сон.

Перад яго вачыма зялёны луг. Дзень кірмашовы. Ён стаіць ля рэчкі на грэблі зыбкай і чакае сыноў сваіх з кірмашу. Вось чуе званок Антонавай жаробкі, знаёмую песню Цыпрука Рабога «Як паехаў сын Данілы...» Вось шнурам, фурманка за фурманкай, едуць суседзі. Усе ў святочных світках. Бабы ў новых каптурах з белымі карункамі, дзяўчаты ў чырвоных хустках з макавымі кветкамі, дзецюкі ў саматканых кашулях навыпуск. Дзіва! Колькі панакуплялі абаранкаў, пірагоў, пасудзіны рознай! Дзеці дзьмуць у па-

ліўныя копікі, дзюрачкі пальчыкамі перабіраюць. Усе яму кажуць: «Дзень добры, дзядзька Міхайла!» — і едуць далей.

І дзівіць яго, чаму гэтак шмат народу едзе, а сыноў яшчэ няма... Пачынае калаціцца яго сэрца. Каго б аб сынах ні пытаўся — ніхто не ведае...

— Што гэта ёсць? — кажа стары Міхайла...

Вочы яго туманяцца, углядаючыся ў абшар балотных лугоў.

— Што гэта можа быць?

І трывога яго расце, у грудзях цесна робіцца, ажно дух захоплівае... І туга яго робіцца гэткай вялікай і балючай, ажно сэрца ў грудзях не вытрымлівае: разрываецца...

— Сыны мае!..— шэпча ён запёкшыміся вуснамі ў апошні раз.

*На сёмуху* (с. 148)

Друкуецца па Нн, 1915, 7 мая, дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*З дарогі* (с. 150)

Друкуецца па Нн, 1915, 2 ліп., дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

*Як у Бібліі* (с. 155)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1915 г. і памета: Вільня.

Упершыню — Беларусь, 1920, 23 чэрв.

*Юлька* (с. 158)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1917 г. і памета: Пасадзец.

Упершыню — Беларускае жыццё, 1920, № 6.

Розначытанні паміж наступнымі публікацыямі апавядання пасля яго першадруку (зб. «На зачарованых гонях», 1923 і зб. «На зачарованых гонях», 1929) нешматлікія і нязначныя.

*Бондар* (с. 164)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1920 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Беларусь, 1920, 24, 25 сак.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад тэксту яго папярэдняй публікацыі (зб. «На зачарованых гонях», 1929) значнымі і шматлікімі стылістычнымі і лексічнымі зменамі.

Варыянты

зб. «На зачарованых гонях», 1929:

С. 165, радок 39, *замест:* Іранічна глядзеў бондар на суседзей. // Іранічна глядзеў бондар на людзей і на ўвесь свет.

радок 41, *замест:* хавае // трымае

С. 166, радкі 40-41, *замест:* Трэба так працаваць, каб рук і плеч не чуць, каб сэрца млела, каб пот цурком ліўся. // Трэба ахмялець ад гэтых думак; цела павінна гарэць, як у агні. Тады толькі пачаць работу і так працаваць, каб рук і плеч не чуць, каб галава кружылася, каб сэрца млела, каб пот цурком ліўся і каб не ведаць гэтага. Трэба забывацца аб усім на свеце і толькі адчуваць і бачыць усёй істотай адно шчасце, што азарае чалавека залатымі праменнямі. Гэта — найвялікшая нагарода за працу.

Бондар гэта добра разумее, але выказаць словамі не можа...

С. 167, радкі 12-15, *замест:* Яна сапе, уздыхае, кашляе. Дым лезе ў вочы, у горла, але яна маўчыць. Яна захоплена жаданнямі Данілы. Пры сваім нецікавым абавязку яна пазірае на мужа і дзівіцца на «залатыя рукі». // Яна як вялікая жрыца агню пры служэнні імшы ўсемагутнаму богу Даніле. Ёй гэтыя клопаты з лучынамі — досыць працы. Яна сапе, уздыхае, кашляе, дым лезе ў вочы, у горла, але яна маўчыць: захоплена жаданнямі Данілы. Пры сваім нецікавым абавязку яна пазірае на мужа, загіпнатызаваная яго работай, і дзівіцца на «залатыя рукі», як на нейкую надзвычайную сілу.

С. 170, радкі 30-31, *замест:* На валаску паміж жыццём і смерцю знаходзіцца тое, за што ты ўвесь свой век гараваў... // Гэткія хвіліны ў жыцці рэдка здараюцца, хвіліны, калі ставіцца на страшны суд святая святых душы, калі вось думаеш: альбо папаў у рай, альбо ў пекла, калі на валаску паміж жыццём і смерцю знаходзіцца тое, да чаго ты ўвесь свой век хацеў дайсці, за што ты пакутваў...

радкі 41-42, *замест:* І пані вырасла ў яго думках вельмі высока. Яна надзене на яго чало вянок славы. // І пані вырасла ў яго думках волатам-заканадаўцам, якая адчыніць яму дзверы ў мармуровыя палацы муз, якая надзене на яго чало лаўровы вянок славы, якая напоіць яго амброзіяй бяссмерця.

*Лявоніха і Сымоніха* (с. 172)

Друкуецца па зб. «На зачараваных гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1920 г. і памета: Менск.

Упершыню — Беларусь, 1920, 27, 29 чэрв.

Рыхтуючы апавяданне да перавыдання (зб. «На зачараваных гонях», 1929), у тэкст яго папярэдняй публікацыі (зб. «На зачараваных гонях», 1927) аўтар унёс нязначныя стылістычныя змены і, акрамя таго, скараціў адзін абзац, а менавіта: дадзенае выданне, с. 173, радок 13, *пасля:* Лявоніха. // Аднастайнае, нуднае вясковае жыццё выгадавала ў іх душах гэту цягу і вырасціла яе ў вялікія размеры.

Зацікаўленасць, наогул, мае вялікае значэнне ў стварэнні і развіцці людской культуры і дапамагае шчасцю на зямлі, а што

тычыцца шчасця ў Лявоніхі і Сымоніхі ад гэтай зацікаўленасці, дык хто іх ведае — гэта зрабілася ў іх проста штодзённай патрэбай, як хлеб духоўны. У гэты бок яны, гэтыя дзве суседкі, пакіравалі ўсе сілы свайго духу, усю энергію сваіх пачуццяў.

Але зацікаўленасць іхняя таксама не любіць абібоцтва, а шукае разнастайнасці, руху.

*Дванаццацігоднікі* (с. 177)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1921 г. і памета: Менск.

Упершыню — Вольны сцяг, 1921, № 2.

Рыхтуючы апавяданне да перавыдання (зб. «На зачарованых гонях», 1929), у тэкст яго папярэдняй публікацыі (зб. «На зачарованых гонях», 1927) аўтар унёс нязначныя і нешматлікія стылістычна-лексічныя змены.

*Сорам* (с. 188)

Друкуецца па зб. «На зачарованых гонях», 1929.

Упершыню — Вольны сцяг, 1921, № 3, пад назвай «Сярод ночы». Пад гэтай жа назвай друкавалася ў зб. «На зачарованых гонях», 1923, 1927. Датуецца годам апублікавання.

Рыхтуючы апавяданне да перавыдання (зб. «На зачарованых гонях», 1929), у тэкст папярэдняй публікацыі (зб. «На зачарованых гонях», 1927) аўтар унёс нязначныя стылістычна-лексічныя праўкі і, таксама, змяніў назву твора. Першапачатковая назва апавядання («Сярод ночы») дакладна вызначала час, у які разгортваліся апісаныя ў творы падзеі і з'яўлялася, па сутнасці, нейтральнай да зместу апавядання. Новая, канчатковая назва («Сорам») больш трапна вызначала асноўны псіхалагічны стрыжань твора. Акрамя стылістычна-лексічных правак і змены назвы аўтар перарабіў канец апавядання. Калі ў першых двух выданнях зб. «На зачарованых гонях» (1923, 1927) апавяданне заканчвалася тым, што Ігналя валок да хаты мех з сенам і «вялікі гнеў панаваў у яго душы на самога сябе», то ў канчатковым варыянце канцоўкі апавядання Ігналя «кінуў раптам мех з сенам у лужыну, прытаптаў нагою і пайшоў паволі дахаты з пустымі рукамі». Змяніўшы канцоўку апавядання, аўтар ні ў якай меры не парушыў ідэйна-мастацкую канцэпцыю твора, а толькі надаў яму большую псіхалагічную і сюжэтную завершанасць.

*Панскі дух* (с. 200)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1922 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Сав. Беларусь, 1922, 10 лістап.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад тэксту яго папярэдняй публікацыі (зб. «На зачараваных гонях», 1929) стылістычна-лексічнымі зменамі, некаторымі скарачэннямі тэксту.

Варыянты

зб. «На зачараваных гонях», 1929:

С. 200, радок 37, *пасля:* вёскі. // Такім чынам, вёска і маёнтак былі як бы адным целам, адной істотай або спарышамі, якія розніліся між сабой па выгляду і тым, што напоўнена ў іх.

С. 201, радок 11, *замест:* знімаць шапку // шапкаваць

С. 202, радок 41, *замест:* папаў // прыйшоў

С. 203, радок 5, *замест:* перашкодзілі // затрымалі

радок 8, *замест:* Ліпавыя прысады і цяпер растуць. // Ліпавыя прысады і цяпер злучаюць у адно маёнтак з вёскай, але цяпер гэтая крэўнасць складаецца не з нянавісці, а з шчырай любасці, бо малазямельныя зырачанскія сяляне залажылі ў маёнтку камуну.

*На зачараваных гонях* (с. 203)

Друкуецца па зб. «На зачараваных гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1922 г. і памета: Менск.

Упершыню — Сав. Беларусь, 1922, 26 лістап.

Рыхтуючы апавяданне да перавыдання (зб. «На зачараваных гонях», 1929), у тэкст яго папярэдняй публікацыі (зб. «На зачараваных гонях», 1927) аўтар не ўнёс амаль ніякіх змен.

*Воўк* (с. 208)

Друкуецца па зб. «На зачараваных гонях», 1929. Пад тэкстам дата: 1923 г. і памета: Менск.

Упершыню — зб. «На зачараваных гонях», 1923.

Канчатковы тэкст адрозніваецца ад першадрукаванага толькі некалькімі стылістычна-лексічнымі папраўкамі.

*Сібіллы* (Сівіллы) — легендарныя прадказальніцы, якія ўпаміналіся антычнымі аўтарамі; налічвалася каля 12 Сівілл.

*На балоце* (с. 213)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1923 г. і памета: Мінск.

Упершыню — зб. «На зачараваных гонях», 1923.

Параўнальны аналіз канчатковага тэксту і тэксту яго папярэдняй публікацыі сведчыць, што змены, якія аўтар унёс у тэкст, носяць стылістычны і лексічны характар.

Варыянты

зб. «На зачараваных гонях», 1929:

С. 213, радок 36, *замест:* страшнае. // бязмерна жудаснае.

С. 214, радок 2, *замест:* цяжка дыхаў. // моцна сапеў.

С. 216, радок 29, *замест:* Ім усё гэта было цікава: // Ім уся гэта штука была надзвычайна цікава:

С. 217, радкі 7-8, *замест:* Надыходзіў змрок. Гулі і неміласэрдна кусаліся камары. Яны кружыліся цэлымі тучамі. // Змрокі пачалі надыходзіць цёмна-шэрымі хвалямі. Над галовамі людзей закружыліся камары і не давалі ім супакою.

радок 16, *замест:* прапізвала косці. // падымалася з зямлі і пранікала ў косці.

радок 20, *замест:* рагатала сава; // плакала, заліваючыся, сава;

С. 218, радок 9, *замест:* Пышна-чырвонымі языкамі шугаў уверх агонь. // Шыбаў агонь уверх пышна-чырвонымі языкамі, шыпеў і трашчэў на розныя лады.

*Дэлегатка* (с. 219)

Друкуецца па зб. «Дэлегатка», 1928, дзе змешчана з датай: 1925 г.

Упершыню — Беларус. работніца і сялянка, 1925, № 4.

Розначытанні паміж наступнымі публікацыямі апавядання пасля яго першадруку (зб. «Апавяданні», 1926 і зб. «Дэлегатка», 1928) адсутнічаюць.

*На варце* (с. 228)

Друкуецца па зб. «Дэлегатка», 1928, дзе змешчана з датай. 1925 г.

Упершыню — Сав. Беларусь, 1925, 3 чэрв.

Розначытанні паміж наступнымі публікацыямі апавядання пасля яго першадруку (зб. «Апавяданні», 1926 і зб. «Дэлегатка», 1928) адсутнічаюць.

*Тры крыжыкі* (с. 233)

Друкуецца па зб. «Незвычайныя гісторыі», 1931. Пад тэкстам дата: 1925 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Сав. Беларусь, 1925, 5 чэрв., пад назвай «Янка Гарбач».

Розначытанні паміж наступнымі публікацыямі апавядання пасля яго першадруку (зб. «Апавяданні», 1926, зб. «Дэлегатка», 1928 і зб. «Незвычайныя гісторыі», 1931) нешматлікія і неістотныя.

*Іслам-бей* (с. 236)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1926 г. і памета: Гагры.

Упершыню — Полымя, 1927, № 2.

Параўнальны аналіз першадруку і канчатковага тэксту сведчыць, што ў першапачатковы тэкст аўтар унёс шматлікія і значныя стылістычныя і лексічныя змены, істотна скараціў тэкст.

Так, знята размова апавядальніка з Іслам-беем у карчме, іх спрэчка аб значнасці кніг.

Варыянты першадруку:

С. 236, радок 32, *замест:* І мора, і горы абліты ружовым, як віно, заходам сонца. // І мора, і горы былі абліты перадвячэрнім ружовым вінам.

С. 237, радок 3, *замест:* Я сяджу на каменным моле побач са сваім сябрам Іслам-беем. // Я сядзеў на каменным моле і з нецярплівасцю чакаў свайго сябру — Іслам-бея.

С. 238, радок 23, *замест:* Калі ён аб чым-небудзь разважае, трэба яму заўсёды надтакваць, бо калі маўчыш, яму здаецца, што не верыш яму, і ён таропіць у цябе такія бліскучыя вочы-сонца, ажно ты прымушаны апускаць свае. У тую хвіліну становіцца неапрыемна, нібы пакрыўдзіў Іслам-бея... // А калі часам яму здаецца, што я не веру яму, дык утаропіць у мяне пару такіх бліскучых вуголляў, што я мушу апускаць свае вочы. У тую хвіліну мне робіцца не па сабе і здаецца, што нешта ўкраў у Іслам-бея...

*Крэсіва* — жалезная або стальная прылада для высякання агню з крэменю.

*Маці* (с. 244)

Друкуецца па зб. «Творы», 1934. Пад тэкстам дата: 1928 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Чырв. сейбіт, 1928, № 9.

Розначытанні паміж канчатковым тэкстам апавядання і папярэдняй яго публікацыяй (зб. Дэлегатка, 1928) нязначныя і нешматлікія.

*Па абодвух берагах рэчкі* (с. 249)

Друкуецца па зб. «Творы», 1934. Пад тэкстам дата: 1928 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Звязда, 1928, 27 снеж.

Розначытанні паміж канчатковым тэкстам апавядання і папярэдняй яго публікацыяй (зб. «Тры пальцы», 1930) адсутнічаюць.

*Дзед Арцём* (с. 251)

Друкуецца па зб. «Дэлегатка», 1928, дзе змешчана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*Рунь* (с. 256)

Друкуецца па зб. «Творы», 1934. Пад тэкстам дата: 1929 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Звязда, 1929, 6—7 лістап.

Розначытанні паміж наступнымі публікацыямі апавядання

пасля яго першадруку (зб. «Незвычайныя гісторыі», 1931, «Творы», 1934) адсутнічаюць.

*Дзве ночы* (с. 258)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1930 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Узвышша, 1930, № 1, пад назвай «Незвычайныя гісторыі». Пад гэтай жа назвай апавяданне друкавалася ў зб. «Незвычайныя гісторыі», 1931.

Тэксталагічны аналіз канчатковага тэксту апавядання і тэксту яго папярэдняй публікацыі сведчыць, што, акрамя даволі шматлікіх стылістычных і лексічных паправак, аўтар унёс некаторыя змены ў сюжэт апавядання.

Так, у тэксце зб. «Творы», 1934 у калгаснага аматара Сымона страляе не сам кулак-хутаранін (тут ён носіць імя Рыгор), а яго малодшы брат — Антон. У канчатковым варыянце Сымона спрабуе забіць сам кулак-хутаранін, былы бандыт (імя Рыгор зменена на Антон).

Варыянты

зб. «Незвычайныя гісторыі», 1931 і «Творы», 1934:

С. 258, радок 15, *замест:* Коні растрасаюць снегавыя пер'і... // Коні пярыны снегавых пер'яў растрасаюць...

радок 22, *замест:* дзіцячыя // зычныя

С. 259, радок 28, *замест:* стаіць каля каровы... // абдымае карову, цалуе ў вільготную морду...

С. 262, радок 2, *пасля:* вачэй. // Слёзы цяклі па яе твары. Гэта былі не ранейшыя слёзы злосці і крыўды на Сымона, а надзвычайнай гуллівасці, спакоры і нейкай дзівоснай сумнай радасці.

С. 266-267, радкі 38-2, *замест:* Дачакацца ~ вугаллі. //

...А-а-а-а-ж нарэшце! Сымон адзін пры стале. Незнаёмы спацыруе па хаце. Агатка пайшла спаць. Сымон нібы глядзіць Антону ў самыя вочы. Наставіў лоб пад прыцэл, як бы гаворыць: «на, страляй!»

...Ды ён не бачыць мяне з акна. Во зараз Сымон схваціцца рукою за лоб і павольна апусціцца на падлогу... Во зараз Сымоніха загалосіць дзікім голасам, завые на ўсю ваколіцу...

*У тыя дні* (с. 267)

Друкуецца па зб. «Творы», 1934. Пад тэкстам дата: 1930 г. і памета: Мінск.

Упершыню — зб. «Незвычайныя гісторыі», 1931.

Канчатковы тэкст апавядання адрозніваецца ад першадрукаванага нязначнымі і нешматлікімі стылістычнымі зменамі.

*Нікелевая калясачка* (с. 271)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940, дзе змешчана ўпершыню. Пад тэкстам дата: 1932 г. і памета: Мінск.

*Пікет* (с. 283)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1934 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1933, 1 ліп.

Мяркуючы па году першай публікацыі апавядання, найбольш дакладнай трэба лічыць дату яго напісання — 1933 г.

*Шрам* (с. 288)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1935 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1933, № 20.

Мяркуючы па году першай публікацыі апавядання, найбольш дакладнай трэба лічыць дату яго напісання — 1933 г.

*Віхор* (с. 293)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1935 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1935, 23 кастр.

*Навагодняя ёлка* (с. 298)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1937 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1936, 31 снеж.

Мяркуючы па году першай публікацыі апавядання, найбольш дакладнай трэба лічыць дату яго напісання — 1936 г.

*Жалейка* (с. 303)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1938 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Звязда, 1938, 11 ліп.

*Фрося* (с. 310)

Друкуецца па зб. «Па пройдзеных сцежках», 1940. Пад тэкстам дата: 1938 г. і памета: Мінск.

Упершыню — Іскры Ільіча, 1939, № 3.

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК

# ЗМЕСТ

## АПАВЯДАННІ

**Бядуля З.**

Б 99 Збор твораў. У 5 т. Т. 2. Вершы ў прозе. Лірычныя імпрэсіі. Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1986 г.— 351 с., 1 л. партр.

У другі том уваходзяць вершы ў прозе, імпрэсіі і апавяданні, якія З. Бядуля напісаў на працягу 1910—1941 гг. З мэтай захавання цэласнасці створанага пісьменнікам тэматычнага цыкла ў дадзеным томе цыкл «Абразкі» падаецца ў вызначаным аўтарам складзе і паслядоўнасці. Усе астатнія творы размеркаваны ў кожным раздзеле ў храналагічным парадку паводле часу іх напісання.

ББК 84Бел7

Б $\frac{4702120200-051}{М302(05)-86}$ 109—85

**Змитрок Бядуля**

*(Самуил Ефимович Плавник)*

---

*СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ПЯТИ ТОМАХ*

**Том 2**

*Стихи в прозе*
*Лирические импрессии*
*Рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар С. Р. Прыгодзіч. Мастак У. А. Бойка. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 1927

Здадзена ў набор 02.07.85. Падп. да друку 07.02.86. АТ 00025. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,48+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 18,80. Ул.-выд. арк. 20,23. Тыраж 5000 экз. Зак. 1632. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

